# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## У ШАСЦІ ТАМАХ

МІНСК
"СОВРЕМЕННАЯ ШКОЛА"
"ЭКОПЕРСПЕКТИВА"
2007

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## ТОМ ТРЭЦІ

## БЕЛАРУСЬ У ЧАСЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

*(XVII–XVIII стст.)*

МІНСК
"СОВРЕМЕННАЯ ШКОЛА"
"ЭКОПЕРСПЕКТИВА"
2007

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Бен)
Г51

**Рэдакцыйная калегія:**
М.Касцюк (галоўны рэдактар), У. Навіцкі (намеснік галоўнага рэдактара),
Ю.Бохан, Г.Галенчанка, П.Лойка, М.Чарняўскі, Г.Штыхаў, В.Яноўская

**Рэдактары тома:**
Ю. Бохан, П. Лойка

**Аўтары:**
Ю.Бохан, В.Голубеў, У.Емельянчык, Л.Іванова, І.Кітурка, С.Кузняева, П.Лойка,
С.Марозава, Г.Сагановіч, Л.Собалева, У.Сосна, У.Пашкевіч

Г51 Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII–XVIIIстст.)/Ю.Бохан, В.Голубеў, У.Емельянчык і інш.; Рэдкал.: М.Касцюк (гал.рэд.) і інш. – Мінск : Экаперспектыва, 2007. – 344 с.; іл.

ISBN 978-985-513-102-2 (Т 3) "Современная школа"
ISBN 978-985-513-105-3

ISBN 978-985-469-203-6 (Т 3) "Экоперспектива"
ISBN 978-985-469-204-3

У трэцім томе разглядаецца мінулае нашай Бацькаўшчыны ў перыяд знаходжання беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай. Адлюстраваны важнейшыя пытанні ўнутранага і знешнепалітычнага жыцця дзяржавы "двух народаў", якія тычыліся беларускіх зямель, асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі.

Разлічана на навукоўцаў, аспірантаў, студэнтаў, выкладчыкаў гісторыі, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Беи)

ISBN 978-985-513-102-2 (Т 3) "Современная школа"
ISBN 978-985-513-105-3

ISBN 978-985-469-203-6 (Т 3) "Экоперспектива"
ISBN 978-985-469-204-3

© Афармленне. «Экоперспектива», 2007

# УВОДЗІНЫ

Трэці том "Гісторыі Беларусі" прысвечаны перыяду знаходжання беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай. Гэты этап быў адным з самых складаных у гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Шматлікія войны, якія спусташальнай віхурай праносіліся па тэрыторыі Беларусі, прывялі да зруйнавання беларускіх гарадоў і вёсак, надоўга спынілі паступальнае развіццё эканомікі, сталі прычынай зацяжных крызісаў, якія ўдалося пераадолець толькі ў канцы дадзенага перыяду. У выніку знішчэння насельніцтва гарадоў адбылося змяненне іх этнічнага аблічча за кошт змяншэння мяшчан-беларусаў. Гэты працэс разам з апалячваннем вышэйшага, пануючага саслоўя – шляхты – прывёў у той час да паступовага ператварэння беларусаў у сялянскую нацыю, а таксама да аслаблення ўплыву беларускіх фактараў на фарміраванне "высокай культуры".

Перыяд XVII–XVIII стст. характарызуецца глабальнымі змяненнямі ў гісторыі не толькі Беларусі, але і ўсёй Усходняй Еўропы. Яны дазваляюць лічыць азначаны час якасна новым этапам у развіцці рэгіёна. Гэты этап характарызаваўся, акрамя таго, пераразмеркаваннем у расстаноўцы асноўных сіл на міжнароднай арэне. Працэс па палітычнаму збліжэнню дзвюх дзяржаў – Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, які, пачынаючы з Крэўскай уніі 1385 г., то аслабеваў, то зноў набіраў моц, прывёў у рэшце рэшт да ўтварэння Рэчы Паспалітай "двух народаў", хоць дзяржава аб'яднала землі не менш чатырох этнасаў – беларусаў, палякаў, літоўцаў, украінцаў. Пад "двума народамі" ў тыя часы разумеліся палітычныя прадстаўнікі двух суб'ектаў федэрацыі – шляхта Вялікага княства Літоўскага і шляхта Кароны Польскай.

Імкненне да адметнага месца ў Рэчы Паспалітай і памяць пра "залатыя часы" незалежнасці Вялікага Княства, а таксама палітычныя амбіцыі некаторых магнацкіх родаў спрыялі пашырэнню з'явы, трактуемай часам як "літвінскі сепаратызм". Тым не менш працэс па сціранню выразнай мяжы паміж шляхтай Вялікага княства Літоўскага і Польшчы набываў незваротны характар і праходзіў у напрамку фарміравання адзінага палітычнага народа-шляхты, польскага паводле мовы, культуры, каталіцкага веравызнання. Значная рэлігійная і культурная талерантнасць, якая мела месца ў Вялікім княстве Літоўскім у "залатым" XVI ст., знікла ў працэсе разгортвання контррэфармацыі і паланізацыі. Прадстаўнікі пануючага саслоўя, якія стаялі на шляху гэтых працэсаў, трапілі ў разрад "дысідэнтаў", незадаволеных і непаўнапраўных, але яны ўскосна паспрыялі знікненню гэтай дзяржавы з палітычнай карты Еўропы.

Знешнепалітычная спадчына, якая дасталася дзяржавам Усходняй Еўропы з часоў Сярэднявечча, была да XVII ст. у значнай ступені пераадо-

лена. Канчатковы разгром Тэўтонскага і ліквідацыя Лівонскага ордэнаў, большая частка тэрыторыі якіх трапіла ў залежнасць ад Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, паставілі кропку ў працяглым супрацьстаянні краін усходнееўрапейскага рэгіёна крыжовай агрэсіі. Далучэнне большасці татарскіх ханстваў – "асколкаў" Залатой Арды – да Маскоўскага царства фактычна зняло для яго пытанне небяспекі з усходу. Пачынаючы з гэтага часу знешнепалітычнае аблічча рэгіёна вызначала супрацьстаянне дзвюх асноўных сіл – Рэчы Паспалітай і Расіі, якое адбывалася з улікам інтарэсаў іншых дзяржаў, галоўным чынам Швецыі і Турцыі, што надавала канфлікту агульнаеўрапейскі кантэкст.

Аб'яднанне ў складзе адной дзяржавы – Рэчы Паспалітай – адных з найбольш магутных у ваенным плане краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы прывяло да ўзрастання палітычных амбіцый яе кіраўніцтва. У пачатку XVII ст. яно прад'явіла прэтэнзіі на абсалютнае дамінаванне ў рэгіёне і ўвязалася ў канфлікты практычна з усімі суседзямі на поўначы, усходзе і поўдні. Каласальныя намаганні дзяржавы, якія прынеслі пэўныя станоўчыя вынікі толькі спачатку, прывялі ў далейшым да спусташэння і зацяжных крызісаў, перманентнага ўнутранага бязладдзя і ў рэшце рэшт страты Рэччу Паспалітай статуса вядучай знешнепалітычнай сілы ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне, а ў далейшым і ўвогуле да яе залежнасці ад суседніх краін. Падзелы Рэчы Паспалітай падвялі рысу пад існаваннем гэтай дзяржавы, поўнай надзей у пачатку і такой бездапаможнай у канцы свайго існавання, пахаванай пад руінамі славутых шляхецкіх "залатых вольнасцей".

У гісторыі Беларусі часоў Рэчы Паспалітай можна выдзеліць некалькі выразна акрэсленых перыядаў, якія і абумовілі структуру тома. Ён складаецца з трох частак, у кожнай з якіх аўтары паспрабавалі адлюстраваць важнейшыя пытанні знешне- і ўнутрыпалітычнага жыцця дзяржавы "двух народаў", якія тычыліся беларускіх зямель, а таксама асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця.

Першая частка тома прысвечана гісторыі Беларусі з пачатку і да сярэдзіны XVII ст. Неабходна адзначыць, што гэты адрэзак часу ў значнай ступені з'явіўся лагічным працягам папярэдняга перыяду. Многія працэсы, якія распачаліся ў XVI ст., знайшлі сваё адлюстраванне і ў першай палове наступнага стагоддзя. Сюды можна аднесці эканамічны ўздым, што выявіўся ў вялікай аграрнай рэформе і росквіце гарадоў, актывізацыю знешнепалітычнай дзейнасці Рэчы Паспалітай, змены ў рэлігійнай палітыцы кіраўніцтва дзяржавы, якое перайшло ад цярпімага стаўлення да прадстаўнікоў розных канфесій да курса на контррэфармацыю і актыўную падтрымку каталіцтва і г. д.

У сувязі з гэтым ніжняя храналагічная мяжа азначанага перыяду з'яўляецца ў пэўнай ступені ўмоўнай. Да таго ж шэраг сюжэтаў, адлюстраваных у другім томе дадзенага выдання і характэрных для ўсяго ранняга этапу існавання Рэчы Паспалітай (1569 г. – першая палова XVII ст.), якія былі ў многіх адносінах спрыяльны для гэтай дзяржавы, не знайшоў адлюстравання ў першай частцы трэцяга тома. Гэта тлумачыцца свядомым імкненнем аўтараў пазбегнуць паўтораў. Разам з тым выбар мяжы XVI і XVII стст. у якасці пачатку для разгляду гісторыі Беларусі часоў Рэчы Паспалітай тлумачыцца тым, што сам акт Люблінскай уніі 1569 г. яшчэ не падвёў канчатковую рысу пад папярэднім перыядам і не ва ўсіх сферах азначаў пачатак працэсаў, што сталі знамянальнымі ў далейшай беларускай гісторыі. У якасці такой падзеі можна вызначыць Берасцейскі царкоўны сабор 1596 г., які дапоўніў палітычную унію царкоўнай уніяй і канчаткова акрэсліў напрамкі, у якіх развівалася гісторыя Беларусі ажно да падзелаў Рэчы Паспалітай.

Другая частка дадзенага тома прысвечана гісторыі Беларусі сярэдзіны XVII – першай паловы XVIII ст. Гэты перыяд прайшоў пад знакам глабальных войнаў, якія траслі Еўрапейскі кантынент. Уцягнутая ў гэтыя войны на піку сваёй знешнепалітычнай актыўнасці і ў арэоле сваёй магутнасці, Рэч Паспалітая не здолела захаваць лідэрства ў цэнтральна-ўсходнееўрапейскім рэгіёне і ўжо з сярэдзіны XVII ст. была ўцягнута ў паласу зацяжных крызісаў, якія ахапілі ўсе бакі грамадскага жыцця. Для беларускага народа гэты перыяд стаў адной з найбольшых катастроф, якая характарызавалася не толькі небывалымі ні раней, ні пазней дэмаграфічнымі стратамі, але і разбурэннем усіх сфер жыцця краіны. Менавіта ў гэты час знешнепалітычная пагроза стала абумоўлівацца не толькі раскладам сіл на міжнароднай арэне, але і ўнутрыпалітычнай сітуацыяй, якая вызначалася барацьбой магнацкіх груповак за ўладу ў дзяржаве. Усё часцей яна пачала выкарыстоўвацца суседзямі Рэчы Паспалітай для ўмяшальніцтва ў яе ўнутраныя справы.

Разам з тым глыбокія эканамічныя крызісы суправаджаліся мерапрыемствамі ўлад Рэчы Паспалітай і асобных землеўладальнікаў, накіраваных на іх пераадоленне. Найбольш яскрава гэта выявілася ў другой палове XVIII ст., калі дадзеныя мерапрыемствы пачалі прыносіць адчувальныя вынікі. Перыяду стабілізацыі эканомікі Рэчы Паспалітай і спроб рэарганізацыі грамадскага ладу краіны прысвечана трэцяя частка тома. Рэформы, якія найбольш актыўна разгарнуліся падчас праўлення апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, маглі скасаваць негатыўную спадчыну папярэдніх часоў, аднак яны сутыкнуліся з супраціўленнем кансерватыўнай часткі шляхецкага грамадства і драпежніцкімі інтарэсамі суседніх краін, што прывяло да знікнення дзяржавы “двух народаў” з палітычнай карты Еўропы. Гэта падзея азначала для беларускіх зямель змяненне ўмоў існавання і заклала асновы тых з’яў, якія абумовілі развіццё беларускага этнасу ў далейшым.

Падчас працы над томам яго рэдактары імкнуліся максімальна захаваць аўтарскую канцэпцыю, але некаторыя высновы яны не падзяляюць.

## Гістарыяграфія

**Гістарыяграфія гісторыі Беларусі перыяду знаходжання беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай.** Гісторыя Беларусі XVII–XVIII стст. звязана з росквітам і заняпадам Рэчы Паспалітай, канец існавання якой быў пакладзены падзеламі 1772, 1793 і 1795 гг. Гэты час выклікаў і працягвае выклікаць пільную ўвагу гісторыкаў, найперш польскіх, расійскіх, беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх. Упершыню да разгляду пытанняў палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і царкоўна-рэлігійнай гісторыі Рэчы Паспалітай XVII–XVIII стст. звярнуліся польскія даследчыкі другой паловы XVIII–XIX ст. – А.Нарушэвіч, Я.Лялевель, В.Калінка, К.Барташэвіч, Т.Корзан і інш. Іх працы вызначаліся польскацэнтрычным падыходам, у якім была адлюстравана кіруючая, асветніцкая і цывілізатарская роля Польшчы ў эканамічным, дзяржаўна-прававым і культурным развіцці зямель, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Гісторыі ўласна беларускіх зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага як часткі “дзяржавы двух народаў” надавалася мала ўвагі.

Важнае месца ў даследаванні мінулага Рэчы Паспалітай належыць прафесару Віленскага універсітэта Я.Лялевелю, які ў выкладанні гісторыі адводзіў асноўную ролю гісторыі дзяржаў і сацыяльных адносін.

У другой палове XVIII ст. гісторыя Рэчы Паспалітай пачынае прыцягваць увагу і расійскіх гісторыкаў, з якіх адным з найбольш аўтарытэтных

з'яўляўся В.Таціщчаў. У працівагу польскім гісторыкам, якія абсалютызавалі цывілізатарскую ролю Польшчы на землях Вялікага княства Літоўскага, расійскія даследчыкі выступалі з вялікадзяржаўных пазіцый, заснаваных на палажэннях тэорыі афіцыйнай народнасці, сфарміраванай у XIX ст., і на прызнанні "спрадвечных" правоў Расіі на беларускія і ўкраінскія землі. Адным з найбольш паслядоўных прапагандыстаў гэтага кірунку быў М.Устралаў, які даваў надзвычай негатыўную ацэнку ўтварэнню Рэчы Паспалітай і ролі гэтай дзяржавы ў гісторыі Усходняй Еўропы.

Асобныя пытанні гісторыі беларускіх зямель, галоўным чынам звязаныя з войнамі паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, закранаді ў сярэдзіне XIX ст. С.Салаўёў, В.Ключэўскі, М.Кастамараў. Больш увагі мінуламу ўласна Беларусі надаваў А.Турчыновіч, які выдаў у 1857 г. працу "Агляд гісторыі Беларусі са старажытнейшых часоў". Ён прыйшоў да высновы, што на працягу сваёй гісторыі Беларусь была цесна звязана з гісторыяй іншых народаў, а яе тэрыторыя выступала толькі як арэна сутыкнення інтарэсаў больш магутных суседзяў, што прыводзіла да яе аслаблення. У рэчышчы супрацьстаяння "дзвюх галоўных сіл – рускай і польскай" разглядаў гісторыю Беларусі, Украіны і Літвы М.Каяловіч.

Паралельна з велікапольскай і велікарускай гістарыяграфічнымі канцэпцыямі, якія адмаўлялі самастойнасць беларускага этнасу і разглядалі землі Беларусі толькі ў якасці часткі Польшчы або Расіі, адбывалася станаўленне ўласна беларускай гістарыяграфічнай канцэпцыі. Пачатак гэтага працэсу звязаны з дзейнасцю ў 1810–1820-я гг. групы прафесараў славістыкі, гісторыі і права Віленскага універсітэта – М.Баброўскага, І.Даніловіча, Т.Нарбута, Я.Ярашэвіча, якія разглядалі гісторыю Вялікага княства Літоўскага з пазіцый беларускага і літоўскага народаў. Вялікая ўвага, якая надавалася гісторыі і народнай культуры Беларусі шэрагам даследчыкаў – Я.Чачотам, З.Даленга-Хадакоўскім, А.Кіркорам, П.Баброўскім і іншымі, спрыяла ўзрастанню ў сярэдзіне XIX ст. цікавасці да беларускага народа, які разглядаўся тады пакуль яшчэ ў цеснай сувязі з літоўскім народам.

У канцы XIX – пачатку XX ст. уяўленне аб беларусах як аб асобным этнасе са сваёй уласнай гісторыяй выходзіць на якасна новы ўзровень. Выдатная роля ў наданні гістарыяграфіі Беларусі выразнай нацыянальнай афарбоўкі належыць М.Доўнар-Запольскаму, у сферу навуковых інтарэсаў якога ўваходзіла і вывучэнне айчыннай гісторыі ў складзе Рэчы Паспалітай. Значнай з'явай у станаўленні нацыянальнай гістарыяграфіі стала "Кароткая гісторыя Беларусі" В.Ластоўскага, якая пубікавалася на старонках газеты "Наша ніва", а ў 1910 г. выйшла ў Вільні асобным выданнем.

Новая хваля ўвагі да гісторыі Беларусі была звязана з абвяшчэннем БНР і БССР. Сярод прац па гісторыі Беларусі абагульняючага характару неабходна назваць "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" У.Ігнатоўскага, які ў 20-я гг. з'яўляўся падручнікам па айчыннай гісторыі ў школах.

Марксісцка-ленінская метадалогія, якая лягла ў аснову беларускай гістарычнай навукі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, абумовіла тое, што найбольшы прыярытэт у савецкія часы аддаваўся вывучэнню праблем сацыяльна-эканамічнай гісторыі беларускіх зямель. Прычым перыяд XVII – XVIII стст. цікавіў даследчыкаў значна менш, чым папярэднія. Пытанні палітычнай гісторыі калі і закраналіся, то з мэтай падкрэсліць прыгнечанае становішча беларускага народа ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Пас-

палітай і спрадвечнае імкненне беларусаў да ўз'яднання з Расіяй. Падобная трактоўка знайшла адлюстраванне, між іншым, у "Тэзісах аб асноўных пытаннях гісторыі БССР", выдадзеных у 1948 г., дзе перыяд знаходжання Беларусі пад уладай Літвы і Польшчы называўся "найбольш змрочным... у яе гістарычным развіцці".

Для беларускай гістарыяграфіі гэтага часу характэрна спалучэнне марксісцкага падыходу пры разглядзе пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця з велікарускай традыцыяй дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіі. У адпаведнасці са згаданымі "Тэзісамі" беларуская гісторыя зводзілася да "імкнення народных мас Беларусі да Маскоўскай дзяржавы". Гэты падыход знайшоў таксама адлюстраванне ў першым томе "Истории Белорусской ССР" (1954), перавыдадзеным у дапоўненым выглядзе ў 1961 г., а таксама ў першым томе пяцітомнай "Гісторыі Беларускай ССР" (1972–1975). Адначасова класавы падыход да выбару тэматыкі гістарычных даследаванняў абмяжоўваў вывучэнне гісторыі дзяржавы і права, шляхецкага саслоўя, рэлігіі і царквы.

Пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця з'яўляліся прыярытэтнымі ў беларускай гістарыяграфіі пры даследаванні гісторыі Беларусі XVII–XVIII стст. да канца 80-х гг. XX ст. У далейшым рэзка ўзрасла ўвага да праблем палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Павысілася цікавасць да пытанняў, звязаных з рэлігійным і культурным развіццём беларускіх зямель, у тым ліку і ў складзе Рэчы Паспалітай. Важным момантам, характэрным для беларускай гістарыяграфіі апошняй чвэрці XX ст., стала ўзрастанне ўвагі даследчыкаў да археалагічных крыніц, якія раней пры вывучэнні гісторыі Беларусі XV–XVIII стст. практычна не выкарыстоўваліся.

Аслабленне ўплыву ідэалагічных догмаў, якія панавалі ў савецкай гістарыяграфіі, назапашванне і ўвядзенне ў навуковы ўжытак вялікай колькасці матэрыялу, правядзенне навуковых даследаванняў па праблемах, слаба вывучаных ці не вывучаных наогул, зрабіла магчымым стварэнне новых абагульняючых прац па гісторыі Беларусі, у якіх перыяд XVII–XVIII стст. быў бы асветлены на ўзроўні сучасных дасягненняў гістарычнай навукі. Адным з першых крокаў у гэтым кірунку стала напісанне адпаведных раздзелаў у першай частцы "Нарысаў гісторыі Беларусі" (1994), пасля выдання якіх пабачыў свет шэраг абагульняючых прац па айчыннай гісторыі.

**Палітычная гісторыя**. Праблемы палітычнай гісторыі беларускіх зямель у XVII–XVIII стст. да нядаўняга часу не з'яўляліся прадметам спецыяльнага разгляду. Прадстаўнікі як расійскай, так і польскай гістарыяграфіі вывучалі яе ў межах палітычнай гісторыі Рэчы Паспалітай і супрацьстаяння гэтай дзяржавы з суседнімі краінамі, найперш Расіяй. Асабліва гэта тычыцца пытанняў унутрыпалітычнага развіцця, што тлумачыцца стварэннем у выніку Люблінскай уніі 1569 г. агульнай палітычнай прасторы на абшарах Рэчы Паспалітай і цесным палітычным збліжэннем шляхты Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай. Варта дадаць, што такія польскія даследчыкі, як Я.Тазбір, Я.Мацішэўскі, В.Крэгзайзэн, Э.Апалінскі, В.Чаплінскі, Х.Альшэўскі і іншыя, пры аналізе палітычнага развіцця Рэчы Паспалітай у асноўным акцэнтуюць увагу на польскіх землях[1]. Да ліку польскіх даслед-

[1] *Czapliński W.* Rola magnaterii i szlachty w pierwszych latach wojny szwedzkiej // Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655–1660: W 2 t. Warszawa, 1957. T.1; *Olszewski H.* Ustrój polityczny Rzeczypospolitej // Polska XVII wieku: Państwo. Społeczeństwo. Kultura. Warszawa, 1969; *Tazbir J.* Kultura szlachecka w Polsce. Rozkwit – upadek – relikty. Warszawa, 1979; *Maciszewski J.* Szlachta Polska i jej państwo. Warszawa, 1986; *Kriegseisen W.* Sejmiki Rzeczypospolitej szlacheckiej w XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1991; *Opaliński E.* Kultura polityczna szlachty Polskiej w latach 1587–1652. Warszawa, 1995.

чыкаў, якія звяртаюцца да ўнутрыпалітычнага становішча зямель Вялікага княства Літоўскага, можна аднесці Ю.Бардаха, Х.Візнера, А.Закшэўскага, А.Рахубу, Х.Люлевіча і інш.[1] Дэталёва распрацаваны ў польскай гістарыяграфіі пытанні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай у XVII–XVIII стст., гісторыі войнаў і вайсковай арганізацыі.

Расійскіх гісторыкаў цікавілі найперш пытанні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай, асабліва яе ўзаемаадносіны з Расійскай дзяржавай. У сувязі з гэтым у расійскай гістарыяграфіі існуе значная колькасць прац, у якіх дэталёва разгледжаны падзеі "Смутнага часу", войны сярэдзіны XVII ст., Паўночная вайна і падзелы Рэчы Паспалітай[2].

Да нядаўняга часу айчынная гістарыяграфія разглядала Рэч Паспалітую як дзяржаўнае ўтварэнне, варожае інтарэсам беларускага народа, таму ў ёй праблемы палітычнай гісторыі беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай зводзіліся да імкнення насельніцтва Беларусі да ўз'яднання з Расіяй. Менавіта такі кантэкст прасочваецца ў працах Л.Абецэдарскага, А.Ігнаценкі і шэрагу іншых аўтараў, якія не маглі цалкам абысці ўвагай палітычнае развіццё Рэчы Паспалітай, прынамсі пры стварэнні абагульняючых прац[3].

Зварот беларускіх даследчыкаў да пытанняў палітычнай гісторыі беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай актывізаваўся ў 80-х гг. XX ст. Першымі ўвагу айчынных гісторыкаў прыцягнулі праблемы знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай, асабліва вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1654 – 1667 гг. і падзелы Рэчы Паспалітай. Да асвятлення трагічных для беларускага народа падзей сярэдзіны XVII ст. звярнуўся Г.Сагановіч. Яго даследаванне "Невядомая вайна: 1654–1667" можа разглядацца як адзін з найбольш яскравых прыкладаў змянення акцэнтаў пры разглядзе палітычнай гісторыі Рэчы Паспалітай і ўвасаблення "канцэпцыі нацыянальнай гісторыі Беларусі". Аспрэчваючы фундаментальны тэзіс расійскай і савецкай гістарыяграфій аб шматвяковым імкненні беларусаў да ўз'яднання з Расіяй і рэальным увасабленні гэтага імкнення ў падтрымцы царскіх войскаў у вайне 1654–1667 гг., аўтар акцэнтуе асноўную ўвагу на цяжкіх умовах, у якіх апынулася насельніцтва Беларусі з пачаткам вайны, і разгорт-

---

[1] *Bardach J.* Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII w. Warszawa, 1970; *Wisnier H.* Sejmiki litewskie i kwestie wyznaniowe. 1611–1648 // Odrodzenie i reformacja w Polsce. 1978. R.XXIII; *Ен жа.* Naprawa państwa w uchwalach sejmikyw Wielkiego Księstwa Litewskiego w pierwszej połowie XVII w. // Studia polsko-litewsko-białoruskie. Warszawa, 1986; *Ен жа.* Unia: Sceny z przeszlosci Polski i Litwy. Warszawa, 1988; *Zakrzewski A.B.* Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego (połowa XVI – koniec XVIII w.) // Parlamentaryzm w Polsce we współczesnej historiografii. Warszawa, 1995; *Zakrzewski A.B.* Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI–XVIII w. Usóryj i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000.

[2] *Костомаров Н.* Последние годы Речи Посполитой. СПб., 1870; *Соловьев С.* История падения Польши. М., 1863; *Любавский М.К.* Русская история XVII и первой половины XVIII в. М., 1913; *Кафегнауз Б.Б.* Северная война и Ништадский мир (1700–1721). М.: Л., 1944; *Королюк В.Д.* Из истории польско-русских отношений в эпоху Петра Первого (1697–1704) // Известия АН СССР. Сер. ист. и филос. 1949. Т.6, № 3; *Ён жа.* Русская дипломатия и подготовка вступления Речи Посполитой в Северную войну // Ученые записки Института славяноведения АН СССР. М., 1953. Т.7; *Галактионов И.В.* Из истории русско-польского сближения в 50–60 годах XVII в. Саратов, 1960; *Мальцев А.Н.* Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974; *Артамонов В.А.* Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709–1714). М., 1990.

[3] *Анішэвіч Л.* Казацтва на Беларусі // Полымя. 1927, № 1; *П'янкоў А.П.* Паўстанне Дзяніса Мурашкі // Весці АН БССР. 1949. № 1; *Игнатенко А.П.* Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая пол. XVII–XVIII в.). Мн., 1974; *Абецедарский Л.С.* Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI–XVII в. Мн., 1978.

ванні антымаскоўскага руху на беларускіх землях. Даследчык паказвае катастрафічныя вынікі вайны для Беларусі і ацэньвае яе як самую трагічную старонку беларускай гісторыі[1]. У апошні час Г.Сагановіч пашырыў кола сваіх навуковых інтарэсаў і на пытанні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай першай паловы XVII ст.

Падзеі 1654–1667 гг. асвятлялі таксама В.Мялешка і М.Ткачоў[2]. Для В.Мялешкі характэрны больш стрыманы падыход да ацэнкі ўдзелу насельніцтва Беларусі ў вайне. Ён выдзеляе некалькі этапаў, на працягу якіх мянялася стаўленне беларусаў да расійскіх войскаў – ад прамаскоўскіх ілюзій і падтрымкі царскіх войскаў да паступовага расчаравання, расколу грамадства на прыхільнікаў і праціўнікаў расійскага пратэктарату, грамадзянскай вайны і нарэшце да ўсенароднага антымаскоўскага руху на беларускіх землях. М.Ткачоў як даследчык вайсковасці Вялікага княства Літоўскага больш увагі акцэнтаваў на ходзе баявых дзеянняў на працягу вайны. Разам з тым для ўсіх гэтых гісторыкаў характэрна адлюстраванне страшэнных спусташэнняў беларускіх зямель, прычым пры ацэнцы людскіх страт яны ў значнай ступені абапіраюцца на працы айчынных і замежных аўтараў, якія пабачылі свет яшчэ ў 1960-х гг.[3] Праблемы, звязаныя з палітычным і сацыяльна-эканамічным становішчам беларускіх зямель у часы Паўночнай вайны, у тым ліку і яе негатыўныя вынікі для эканомікі Беларусі, вывучае У.Пашкевіч.

Значную ўвагу беларускіх даследчыкаў прыцягвае палітычнае становішча Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. Пытаннямі, звязанымі з падзеламі Рэчы Паспалітай і ўваходжаннем беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі, плённа займаецца Я.Анішчанка[4]. На праблемы, звязаныя з палітычнай сітуацыяй у Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст., звяртаў увагу У.Емельянчык. Асабліва значныя яго працы, прысвечаныя паўстанню 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі[5].

1990-я гг. азнаменаваліся таксама ўзрастаннем цікавасці айчынных гісторыкаў да ўнутрыпалітычнага жыцця беларускіх зямель XVII–XVIII стст. Адной з першых прац, у якіх грунтоўна аналізаваўся дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай менавіта ў кантэксце гісторыі дзяржавы і права Беларусі, стала праца Я.Юхо[6]. Барацьба магнацкіх груповак у Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVII ст. стала прадметам спецыяльнага даследавання Г.Прыбыткі[7]. Палітычнай дзейнасцю шляхты беларускіх зямель у XVI– XVII стст. займаецца П.Лойка. У кірунку даследавання мясцовых прадстаўнічых органаў Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XVI – пачатку XVII ст.

---

1 *Сагановіч Г.М.* Невядомая вайна: 1654–1667. Мн., 1995.

2 *Мялешка В.І.* Войны сярэдзіны XVII ст. // Нарысы гісторыі Беларусі. Ч.1. Мн., 1994; *Ткачоў М.А.* Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т. 2.

3 *Morzy J.* Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w drugiej połowie XVII wieku. Poznań, 1965; *Карпачев А.М., Козловский П.Г.* Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. // Тез. докл. и сообщ. по аграрной истории Восточной Европы. М., 1968.

4 *Анішчанка Я.К.* Беларусь у часы Кацярыны II. Мн., 1998.

5 *Емельянчык У.П.* Паланез для касінераў. З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі на Беларусі. Мн., 1994; *Юхо Я.А., Емельянчык У.П.* Нарадзіўся я літвінам. Мн., 1994.

6 *Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

7 *Прыбытка Г.В.* Барацьба магнацкіх груповак у Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVII ст. (1655–1668 гг.): Аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук. Мн., 2000.

працуе А.Радаман. Такім чынам, амаль поўнае ігнараванне беларускай савецкай гістарыяграфіяй пытанняў палітычнага развіцця беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай дзякуючы намаганням гісторыкаў Беларусі ў апошні час пачынае пераадольвацца.

Спецыфічнае месца, ускосна звязанае з пытаннямі ўнутры- і знешнепалітычнага развіцця беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай, займае разгляд гісторыі войска Вялікага княства Літоўскага ў XVII–XVIII стст. Даследаванні, прысвечаныя гэтай тэматыцы, у айчыннай гістарыяграфіі з'яўляюцца выключнай рэдкасцю. У гэтым кірунку больш-менш мэтанакіравана спрабавалі працаваць толькі М.Ткачоў і Г.Сагановіч[1]. Заслугоўвае ўвагі і спроба асвятліць развіццё войска Вялікага княства Літоўскага на працягу XVIII ст., зробленая М.Грыгор'евым[2].

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё**. Пэўныя звесткі аб эканамічным развіцці беларускіх зямель XVII–XVIII стст. утрымліваліся яшчэ ў працах прадстаўнікоў расійскай і польскай гістарыяграфіі XIX ст. На мяжы XIX і XX стст. пачалося фундаментальнае вывучэнне беларускіх гарадоў і рамяства эпохі феадалізму. Сярод прац, прысвечаных гэтым тэмам, варта адзначыць даследаванні В.Стукаліча "Беларусь і Літва. Нарысы з гісторыі гарадоў Беларусі" (Віцебск, 1894), Ф.Кліменкі "Заходне-рускія цэхі XVI–XVIII стст." (Кіеў, 1914).

Вывучэнне эканамічнай гісторыі Беларусі ў XVII–XVIII стст. праводзілася гісторыкамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта амаль з моманту яго стварэння. На стан панскай і сялянскай гаспадарак звяртаў увагу Т.Забела ў артыкуле "Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII ст." (1928). Характарыстыцы фальварковай і сельскай гаспадарак у дзяржаўных уладаннях на беларускіх землях у другой палове XVIII ст. былі прысвечаны працы К.Кернажыцкага[3].

У пасляваенны перыяд выйшлі грунтоўныя працы ўкраінскага даследчыка Д.Пахілевіча, у якіх разглядаліся аграрныя адносіны і гісторыя беларускага сялянства ў часы Рэчы Паспалітай[4]. Што тычыцца айчыннай гістарыяграфіі, то ў вывучэнні пытанняў сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі прыярытэт аддаваўся гарадской тэматыцы. Прычым калі ў 1950–1960-я гг. найбольшая ўвага звярталася на эканамічнае развіццё гарадоў, то ў 1970–1980 гг. узрасла цікавасць беларускіх даследчыкаў да іх сацыяльна-палітычнага становішча. У далейшым у вывучэнні сацыяльна-эканамічнага становішча беларускіх зямель у XVII–XVIII стст. большае месца пачало адводзіцца аграрнай тэматыцы. Пытанні разлажэння феадальна-прыгонніцкага ладу і зараджэння капіталістычных адносін у Беларусі (канец XVII – першая палова XVIII ст.) закраналі А.П'янкоў, Е.Карнейчык і М.Фрыдман[5]. Даследаваннем рамесніцкай вытворчасці ў гарадах Беларусі XVII–XVIII стст. займаўся А.Ігнаценка, які прысвяціў гэтай тэме

[1] *Ткачоў М.А.* "Зброя" гарадскіх жыхароў Беларусі ў часы сярэдневякоўя // Из истории науки и техники Белоруссии. Мн., 1988; *Ён жа.* Замкі і людзі. Мн., 1991; *Сагановіч Г.М.* Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. Мн., 1994.

[2] *Грыгор'еў М.* Войска ВКЛ ад Сасаў да Касцюшкі. Мн., 1994.

[3] *Кернажыцкі К.І.* Гаспадарка староставаў на Беларусі і эканамічны стан іх насельніцтва ў другой палове XVIII ст. // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук: У 3 кн. Працы клясы гісторыі. Мн., 1928. Т.2; *Ён жа.* Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст. (да праблемы разлажэння феадалізму ў Беларусі). Мн., 1935.

[4] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; *Ён жа.* Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

[5] *Пьянков А.П., Корнейчик Е.И., Фридман М.Б.* Белоруссия в период разложения феодально-крепостнического строя и зарождения капиталистических отношений (конец XVIII – первая половина XIX в.) // Ученые записки БГУ. Сер. истории. Мн., 1954. Вып. 17.

спецыяльную працу, выдадзеную ў 1963 г.[1] Плённа працаваў у галіне вывучэння эканамічнага і сацыяльна-палітычнага развіцця гарадоў Беларусі XVI – першай паловы XVII ст. З.Капыскі[2]. Класічнымі ў плане вывучэння гарадской тэматыкі можна лічыць таксама працы А.Грыцкевіча. Найбольш значнымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца яго работы, прысвечаныя сацыяльнай барацьбе гараджан Беларусі і прыватнаўласніцкім беларускім гарадам XVI–XVIII стст.[3] Вывучэнню Магілёва прысвечана адна з манаграфій В.Мялешкі[4]. Даследаваннем беларускіх гарадоў надзвычай складанага перыяду другой паловы XVII–XVIII ст. займаўся Е.Карпачоў[5]. Сацыяльна-эканамічнае развіццё гарадоў і генезіс капіталізму ў прамысловасці Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. разглядаў А.Люты[6]. У выніку на працягу 1960–1980-х гг. гарадская тэматыка стала адной з найбольш даследаваных у айчыннай гістарыяграфіі па перыяду XVII–XVIII стст. У 1990-х гг. да праблемы беларускіх мястэчак XV–XVIII стст. звяртаўся Ю.Бохан[7]. Пытанні арганізацыі гарадскога самакіравання разглядаліся С.Стрэнкоўскім[8].

Адначасова з беларускімі даследчыкамі да пытанняў урбаністычнага развіцця беларускіх зямель у перыяд феадалізму звярталіся замежныя гісторыкі. Сярод іх варта асобна вылучыць працы польскага навукоўца С.Александровіча, які займаўся вывучэннем мястэчак Беларусі і Літвы ў XVI – першай палове XVII ст. Яго працы, прысвечаныя генезісу і развіццю мястэчак, іх засяленню, местачковаму рамяству, гандлю і іншым аспектам гісторыі дробных гарадскіх пасяленняў, паспелі стаць класічнымі[9].

У 1970–1980-я гг. актывізавалася вывучэнне аграрнай гісторыі Беларусі. У гэты час былі выдадзены грунтоўныя працы В.Мялешкі, З.Капыскага, П.Казлоўскага, для якіх характэрна грунтоўная крыніцазнаўчая база,

---

[1] *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII–XVIII вв. Мн., 1963.

[2] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI – XVII вв.). Мн., 1966; *Ён жа.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975.

[3] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975; *Ён жа.* Социальная борьба горожан Белоруссии XVI–XVIII вв. Мн., 1979.

[4] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. Мн., 1988.

[5] *Карпачев А.М.* Мануфактура с принудительным трудом и ее значение в развитии капитализма // Вопросы истории. 1962. № 8; *Ён жа.* Феодальные юридики в королевских городах Белоруссии XVII–XVIII вв. // Советское славяноведение. 1968. № 9; *Ён жа.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII – XVIII в.: Дис. ... д-ра ист. наук. Мн., 1969.

[6] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1987; *Ён жа.* Генезис капитализма в промышленности Белоруссии (вторая половина XVIII – первая половина XIX вв.). Мн., 1991.

[7] *Бохан Ю.М.* Аб месцы мястэчка ў структуры гарадскіх пасяленняў XV–XVIII стст. (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Памяці Міхася Ткачова. Мн., 1993. Ч.1; *Ён жа.* Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV– XVIII стст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах): Аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук. Мн., 1994.

[8] *Стрэнкоўскі С.П.* Гарадское самакіраванне ў вялікакняжацкіх уладаннях заходняй часткі ВКЛ у XV – XVIII стагоддзях: Аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук. Мн., 1999.

[9] *Alexandrowicz St.* Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w 1 połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. I. Białystok, 1961; *Ён жа.* Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) // Zeszyty Naukowe Uniwersitetu im. A.Mickiewicza. Historia – Zeszyt 6. Poznań, 1964; *Ён жа.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku // Rocznik dziejów spolecznych i gospodarczych. Poznań, 1965. T.XXVII; *Ён жа.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Akta Baltico-Slawica. Białystok, 1970. T.III.

што дазволіла паспяхова выкарыстаць статыстычны метад даследавання і дасягнуць высокай аргументаванасці высноў і палажэнняў. Некаторыя з іх абвяргалі стэрэатыпы, якія трывала замацаваліся ў літаратуры папярэдняга часу. Так, у манаграфіі "Нарысы аграрнай гісторыі Усходняй Беларусі" В.Мялешка аспрэчыў тэзіс аб паступлальным заняпадзе эканомікі Беларусі на працягу XVII–XVIII стст. Ён адзначыў тэндэнцыю па стабілізацыі і аднаўленню беларускай гаспадаркі ў 20–70-я гг. XVIII ст. Гэтыя палажэнні знайшлі працяг і ў шэрагу іншых прац аўтара[1].

Комплексная характарыстыка магнацкай гаспадаркі Беларусі (цэнтральнай і заходняй яе частак) у другой палове XVIII ст. прыведзена ў манаграфіі П.Казлоўскага "Магнацкая гаспадарка Беларусі ў другой палове XVIII ст."[2] Аўтар разгледзеў усе галіны гаспадарання – земляробства, жывёлагадоўлю, птушкаводства, агародніцтва, садаводства, пчалярства, рыбалоўства, промыслы, будаўніцтва, вотчынную прамысловасць і адзначыў пэўную ролю магнацкіх гаспадарак у развіцці сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці Беларусі.

Пытанням аграрнай гісторыі Беларусі прысвечана таксама манаграфія П.Казлоўскага "Землеўладанне і землекарыстанне ў Беларусі ў XVIII – першай палове XIX стагоддзя"[3]. Структура даследавання дазваляе прасачыць эвалюцыю феадальнага землеўладання і сялянскага землекарыстання на працягу перыяду разлажэння прыгонніцкай сістэмы і фарміравання капіталістычнага ўкладу.

У 1978 г. выдадзена праца З.Капыскага "Крыніцазнаўства аграрнай гісторыі Беларусі"[4]. У даследаванні разглядаюцца дакументы двух фондаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (694 і КМФ-5), у якіх адлюстравана становішча беларускага сялянства ў XVI – першай палове XVII ст. Кніга стала першай у беларускай гістарыяграфіі сур'ёзнай крыніцазнаўчай працай па аграрнай тэматыцы.

Калі для 60–70-х гг. XX ст. быў характэрны вузкагеаграфічны падыход у вывучэнні аграрнай тэматыкі, бо яна абмяжоўвалася пэўнымі катэгорыямі ўладанняў, то ў 80-я гг. разгарнулася даследаванне пытанняў гаспадарчага развіцця вёскі ў рамках усёй тэрыторыі Беларусі. Да аналізу сацыяльна-эканамічнага становішча беларускага сялянства ў канцы XVI – першай палове XVII ст. звяртаўся З.Капыскі. Праблеме эвалюцыі феадальнай рэнты ў прыватнаўласніцкіх маёнтках у другой палове XVI–XVIII ст. прысвечана манаграфія П.Лойкі[5]. Спецыфічныя пытанні сацыяльнага пратэсту сялянства разгледзеў В.Мялешка ў кнізе "Класавая барацьба ў беларускай вёсцы ў другой палове палове XVII–XVIII ст." (Мн.,

---

[1] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII – XVIII ст.). Мн., 1975; *Ён жа.* К вопросу о состоянии экономики Белоруссии и Литвы в конце XVIII в. // Советское славяноведение. 1961. № 2; *Mieleszko W.* Handel i stosunki handlowe Białorusi wshodniej z miastami nadbaltyckimi w końcu XVII i w XVIII wieku // Zapiski Historyczne. Toruń, 1968. T.XXXIII. Zeszyt 4.

[2] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974.

[3] *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. Мн., 1982.

[4] *Копысский З.Ю.* Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978.

[5] *Лойка П.А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI – XVIII ст. Мн., 1991.

1982). У.Сосна даследаваў фарміраванне саслоўя дзяржаўных сялян у канцы XVIII – першай палове XIX ст.[1] Землеўладанне і землекарыстанне сялян усіх відаў уладанняў і ўсіх рэгіёнаў Беларусі ў другой палове XVI – XVIII ст. вывучаў В.Голубеў[2]. На зямельныя адносіны на ўсходзе Беларусі ў другой палове XVIII – пачатку XIX ст. звяртаў увагу Я.Анішчанка[3].

Шматгадовыя напрацоўкі айчыннай гістарыяграфіі па пытаннях аграрнай гісторыі Беларусі, у тым ліку XVII – XVIII стст., знайшлі адлюстраванне ў першым томе калектыўнай працы "Гісторыя беларускага сялянства"[4]. Перыяд знаходжання беларускіх зямель асвятляецца ў главах 2 і 3 другога раздзела, якія адпаведна маюць назвы "Сяляне Беларусі ў канцы XVI – першай палове XVII ст" і "Антыфеадальны рух у канцы XVI – сярэдзіне XVII ст.", а таксама ў раздзелах 3 ("Сялянства ў другой палове XVII – першай трэці XVIII ст.") і 4 ("Сялянства ў другой трэці – канцы XVIII ст). Аўтары грунтоўна разглядаюць сялянскую гаспадарку, землеўладанне і землекарыстанне, павіннасці і падаткі сялян, асобныя напрамкі іх дзейнасці, формы і праявы сацыяльнага пратэсту і г.д.

**Царкоўныя і этнаканфесійныя адносіны**. Праблема царкоўных і этнаканфесійных адносін на беларускіх землях у складзе Рэчы Паспалітай належыць да шэрагу найбольш вострых у айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Найбольш вострыя дыскусіі выклікаюць тэмы, звязаныя з уніяй і ўзаемадачыненнем праваслаўнай і каталіцкай канфесій. Яны сягаюць сваімі каранямі ў канец XVI – першую палову XVII ст., калі літаратура па рэлігійным пытанні разглядалася як сродак міжканфесійнай барацьбы. Прыхільнікі уніі перыяду да канца XVIII ст. (І.Пацей, І.Руцкі, Л.Крэўза, Я.Суша, Л.Кішка, Ц.Жахоўскі, І.Кульчынскі і інш.) разглядалі яе як дзейсны крок у кірунку выхаду праваслаўя з крызісу, які, паводле іх меркаванняў, стаў вынікам адступніцтва ўсходняй царквы ад рымскага касцёла. Праціўнікі рашэнняў Берасцейскага сабору 1596 г. (А.Вішэнскі, К.Астрожскі, З.Капысценскі, Х.Філалет, М.Сматрыцкі, А.Філіповіч, Г.Каніскі і інш.) абвінавачвалі уніятаў у адступленні ад веры і традыцый продкаў, а прычыны заключэння уніі бачылі ў імкненні лідэраў да набыцця месцаў у сенаце Рэчы Паспалітай.

Чарговы ўсплеск цікавасці да міжканфесійных праблем прыпадае на канец XVIII ст., калі змена знешнепалітычнай сітуацыі ў рэгіёне і падзелы Рэчы Паспалітай востра паставілі пытанне аб пошуку ідэалагічнага абгрунтавання ліквідацыі гэтай дзяржавы. У расійскай гістарыяграфіі зацікаўленасць рэлігійнай гісторыяй Рэчы Паспалітай найперш выявілася ў вострай крытыцы уніі і каталіцызму. Адным з першых, хто звярнуўся да гэтага пытання, быў М.Бантыш-Каменскі, праца якога мусіла паказаць прыгнечанае становішча рускага праваслаўнага насельніцтва дзяржавы "двух народаў" пад каталіцка-уніяцкім ярмом і адпаведна апраўдаць выратавальніцкую ролю царскага ўрада па вызваленню сваіх аднаверцаў[5].

---

[1] *Сосна У.А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Мн., 2000.

[2] *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI – XVIII ст ст. Мн., 1990.

[3] *Аніщчанка Я.К.* Генеральнае межаванне на Беларусі. Мн., 1996.

[4] Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 1. Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861г. Мн., 1997.

[5] *Бантыш-Каменский Н.Н.* Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших, в продолжении оной через два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униатов на благочестивых тамошних жителей гонении. М., 1805.

Адваротнага разумення уніі прытрымліваліся прафесары Віленскага універсітэта М.Бабpоўскі, І.Даніловіч, І.Анацэвіч, П.Сасноўскі, Я.Ярашэвіч і Т.Нарбут[1]. У іх працах, напісаных ужо ў першай палове XIX ст., знайшла адлюстраванне трактоўка уніі як рэлігіі, што спрыяла захаванню беларускім народам рыс самабытнасці ў параўнанні з Польшчай і Расіяй. Блізкія пазіцыі па пытанню разумення значэння уніі для ніжэйшых слаёў беларускага і ўкраінскага народаў займаў З.Даленга-Хадакоўскі[2].

Два падыходы ў трактоўцы рэлігійнага становішча ў Рэчы Паспалітай былі ўласцівы і для гістарыяграфіі сярэдзіны XIX – пачатку XX ст., для якой падобная тэматыка робіцца звыклай. Антыкаталіцкая і антыуніяцкая скіраванасць выразна прасочваецца ў працах І.Чыстовіча, Г.Кіпрыяновіча, П.Ізвекава, мітрапаліта Макарыя, хоць сачыненне апошняга выгадна вылучаецца грунтоўнасцю і імкненнем да аб'ектыўнага аналізу прычын аслаблення праваслаўнай царквы на землях Беларусі і Украіны[3]. Адмоўна ацэньвалі ролю для Заходняй Русі каталіцтва і уніі, якія прыўносілі сюды элементы заходняй культуры, славянафілы І.Кірыеўскі, С.Салаўёў, прадстаўнікі "заходнерусізма" М.Каяловіч, К.Гаворскі, А.Шчарбіцкі, прадстаўнікі гістарычнай навукі Ю.Крачкоўскі, П.Жуковіч, І.Малышэўскі, А.Сапуноў і інш.[4]

Сваё бачанне ролі каталіцтва і уніі ў гістарычным лёсе Рэчы Паспалітай выкладалі польскія гісторыкі другой паловы XIX – пачатку XX ст. Э.Лікоўскі, М.Бабжыньскі, В.Калінка, А.Прахаска[5]. Для іх прац характэрна неадназначная трактоўка пазіцый каталіцкага епіскапата, урада Рэчы Паспалітай і вярхушкі "рускай" царквы гэтай дзяржавы ў працэсе рэалізацыі рашэнняў Берасцейскага сабору 1596 г., якія ў рэшце рэшт прывялі да расколу грамадства па канфесійнай прыкмеце і аслаблення краіны.

З пачаткам станаўлення беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі да пытанняў царкоўных і этнаканфесійных адносін звярталіся М.Доўнар-Запольскі, В.Ластоўскі, А.Станкевіч, А.Цвікевіч, У.Ігнатоўскі і інш. Для іх ха-

[1] *Бобровский П.О.* Михаил Кириллович Бобровский (1785–1848), ученый, славист-ориенталист. СПб, 1889; *Jaroszewicz J.* Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji, od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Wilno, 1844 – 1845. Cz.I – III; *Narbutt T.* Dzieje starozytne narodu Litewskiego. T.9: Panowanie Zygmuntęw. Wilno, 1841.

[2] *Аксамітаў А.С., Малаш Л.А.* З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоўскага. Мн., 1991.

[3] *Чистович И.* Очерк истории западнорусской церкви. СПб., 1882. Ч.1–2; *Киприянович Г.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего и до настоящего времени. Вильна, 1899; *Извеков П.Д.* Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839 – 1889 г. М., 1899; Макарий. История русской церкви. СПб., 1881. Т.10. Кн.1: Период самостоятельности русской церкви. Патриаршество в России. 1589–1654.

[4] *Коялович М.О.* Литовская церковная уния: Исследования. СПб., 1859–1861. Т.1–2 і інш.; *Ён жа.* История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; *Ён жа.* История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. СПб., 1884; *Крачковский Ю.Ф.* Очерки униатской церкви // Оттиск из "Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете". М., 1871; *Щербицкий О.* Судьбы православия и русской народности в бывшем Литовском государстве, и в частности в г.Вильне. Вильна, 1892; *Ён жа.* Русский язык и православная вера в бывшем Литовском государстве. Вильна, 1906; *Малышевский И.И.* Западная Русь в борьбе за веру и народность. СПб., 1897 – 1899. Ч.1–2; *Сапунов А.* Исторические судьбы Полоцкой епархии с древнейших времен до половины XIX в. // Извлеч. из 5 т. "Витебской старины". Витебск, 1889; *Жукович П.Н.* Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (до 1609 г.). СПб., 1901; *Ён жа.* Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (с 1609 г.): В 6 вып. СПб., 1903–1912.

[5] *Бобржинский М.* Очерк истории Польши. СПб., 1891; *Kalinka W.* Schizma i unia. Dwie konferencje powiedziane w kosciele P.Maryi w Krakowie 16 i 17 marca 1883 r. Lwów, 1883; *Prochaska A.* Z dziejów Unii Brzeskiej // Kwartalnik Historyczny. Lwów, 1896. T.X.

рактэрна разуменне трансфармацыі уніі ад спробы акаталічвання праваслаўнага насельніцтва да інстытута, які спрыяў захаванню самабытнасці беларускага народа. Даволі супярэчлівае стаўленне да уніяцкай царквы прысутнічае ў працах У.Пічэты, М.Нікольскага, Д.Даўгялы[1].

У савецкі час вывучэнне пытанняў царкоўных і этнаканфесійных адносін не належала да шэрагу прыярытэтных у айчыннай гістарыяграфіі. Рэлігійная сітуацыя на беларускіх землях у складзе Рэчы Паспалітай разглядалася праз прызму агульнага тэзіса аб "польска-каталіцкай агрэсіі" супраць беларускага народа, які бачыў сваё выратаванне ад яе ва ўз'яднанні з рускім народам. Менавіта такую антыкаталіцкую афарбоўку носяць прысвечаныя рэлігійнай тэматыцы працы Я.Мараша, што знайшло адлюстраванне нават у іх назвах[2]. Антыпапская скіраванасць відавочна прасочваецца ў работах А.Ігнаценкі, Л.Абецэдарскага і інш.[3]

Значная роля ў вывучэнні праблем царкоўнай гісторыі на беларускіх землях Рэчы Паспалітай належыць польскім даследчыкам. Да пытанняў узаемадачыненняў розных хрысціянскіх канфесій у Рэчы Паспалітай звярталіся А.Халецкі, Ф.Канечны, Э.Старчэўскі, В.Піятровіч, К.Хадыніцкі і інш.

Змены ў грамадстве, якія мелі месца ў 80-х гг. XX ст., абумовілі актывізацыю ў вывучэнні царкоўных і этнаканфесійных адносін беларускімі даследчыкамі, прычым большасць даследчыкаў імкнецца ў той ці іншай ступені пазбегнуць ідэалагічнай афарбоўкі і да ўзважанага падыходу ў ацэнцы асобных канфесій. Большая ўвага звяртаецца і на культурна-асветніцкую ролю розных хрысціянскіх цэркваў. Дзейнасці каталіцкага ордэна езуітаў прысвечана праца Т.Бліновай, у якой, нягледзячы на не вельмі станоўчую ў цэлым ацэнку ордэна, адзначаюцца некаторыя яго дасягненні, у прыватнасці ў галіне адукацыі[4]. Грамадска-палітычныя і філасофскія погляды дзеячаў Рэфармацыі прыцягвалі ўвагу С.Падокшына[5]. Шэрагам аспектаў функцыяніравання рэфармацыйных цэнтраў на беларускіх землях у XVI – першай палове XVII ст. займаецца Л.Іванова. Гісторыі рускай праваслаўнай царквы прысвечаны працы М.Корзуна[6]. Гісторыя уніяцкай царквы ў этнакультурным развіцці Беларусі грунтоўна распрацоўваецца С.Марозавай[7]. Спецыфічную тэматыку, прысвечаную гісторыі старaабрадніцтва на беларускіх

---

[1] *Даўгяла З.* Урадавыя адносіны да уніятаў на Меншчыне ў часы Паўла I // Гісторычна-археологічны зборнік. Мн., 1927. № 1; *Станкевіч А.Г.* Хрысьціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. Вільня, 1940; *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; *Ён жа.* Белорусский язык как фактор национально-культурный. Мн., 1991; *Никольский Н.М.* История русской церкви. Мн., 1990; *Ластоўскі В.* Выбраныя творы. Мн., 1997.

[2] *Мараш Я.Н.* Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. Мн., 1969; *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Мн., 1971; *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974 і інш.

[3] *Абецэдарскі Л.С.* У святле неабвержных фактаў. Мн., 1969; *Ён жа.* Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI–XVII в. Мн., 1978; *Игнатенко А.П.* Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая пол. XVII –XVIII в.). Мн., 1974.

[4] *Блинова Т.Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.

[5] *Падокшин С.А.* Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.). Мн., 1970.

[6] *Корзун М.С.* Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. X век – 1917 год. Мн., 1984.

[7] *Марозава С.* Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596–1839). Гродна, 1996; *Яна ж.* Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады). Гродна, 2001.

землях, даследуе А.Гарбацкі[1]. Пытанні, звязаныя з рэлігійнай сітуацыяй на землях Беларусі ў XVII–XVIII стст., закранаді ў той ці іншай ступені і іншыя даследчыкі. З нагоды 400-гадовага юбілею Берасцейскай царкоўнай уніі ў 1996 г. была праведзена канферэнцыя і выдадзены зборнік артыкулаў "З гісторыі уніяцтва ў Беларусі"[2].

У апошні час у айчыннай гістарыяграфіі ўзрастае ўвага і да гісторыі нехрысціянскіх канфесій. У прыватнасці пытаннямі, звязанымі з гісторыяй мусульманства на беларускіх землях у складзе Рэчы Паспалітай, займаюцца С.Думін і І.Канапацкі[3].

**Культура**. Ідэалагічныя догмы, якія ў савецкія часы абмяжоўвалі даследаванне шэрагу праблем гісторыі беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай, у меншай ступені здолелі стрымаць вывучэнне беларускай культуры XVII – XVIII стст. Разам з тым меў месца падзел культуры гэтага часу на ўласна "беларускую", г.зн. сялянска-мяшчанскую, праваслаўную, што супрацьпастаўлялася культуры "панскай", "польскай", якую звязвалі з так званай "каталіцкай экспансіяй". Тым не менш на сённяшні дзень існуе вялікая колькасць прац айчынных даследчыкаў, прысвечаных матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў у XVII–XVIII стст.У значнай ступені гэта абумоўлена тым, што яна з'яўляецца аб'ектам даследавання шэрагу галін навук – гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, мастацтвазнаўства, тэатразнаўства, музыказнаўства, літаратуразнаўства, мовазнаўства, гісторыі педагогікі, краязнаўства і інш.

Інтарэс да культурных помнікаў беларускіх зямель перыяду Рэчы Паспалітай характэрны яшчэ для прац краязнаўцаў XIX ст., якія апісвалі славутасці роднай зямлі, для этнографаў, даследчыкаў беларускага фальклору. Гісторыя культуры Беларусі цесна звязвалася з гісторыяй самога беларускага этнасу, цікавасць да яе не знікала ніколі, нягледзячы на змены ўлад і кіруючых курсаў. Асабліва хуткімі тэмпамі адбываецца вывучэнне культуры Беларусі ў апошнія тры дзесяцігоддзі. Толькі абагульняючыя працы па гісторыі беларускай культуры складаюць даволі ўнушальны спіс[4].

Пачынаючы з 70-х гг. XX ст. рэзка ўзрастае цікавасць да матэрыяльнай культуры беларускіх зямель XIV–XVIII стст. з боку беларускіх археолагаў, якія раней практычна абмяжоўвалі храналогію сваіх даследаванняў XIII ст. У выніку з'явілася значная колькасць грунтоўных прац, у якіх разглядаецца матэрыяльная культура перыяду Рэчы Паспалітай асобных населеных пунктаў ці рэгіёнаў або якія прысвечаны асобным напрамкам чалавечай дзейнасці ў галіне матэрыяльнай культуры (будаўніцтва і архітэктура, ганчарства, металаапрацоўка і інш.). Найбольш поўна дасягненні айчыннай археалогіі ў плане даследавання матэрыяльнай культуры беларускіх зямель XVII– XVIII стст. адлюстраваны ў заключным томе чатырохтомнай "Археалогіі Беларусі" (2002).

Па-ранейшаму значную ўвагу беларускіх даследчыкаў прыцягвае архітэктура XVII–XVIII стст. Шмат зроблена для вывучэння абарончага

---

[1] *Гарбацкі А.А.* Стараабраднііцтва на Беларусі ў канцы XVII – пачатку XX ст. Брэст, 1999.

[2] З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996.

[3] *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

[4] *Малчанава Л.А.* Матэрыяльная культура беларусаў. Мн., 1968; Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1984 – 1988. Т.1 – 7; Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1986. Т.1.; Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1987. Т.2; Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1990; Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993; *Шчакаціхін М.* Нарысы гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1993; *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996.

дойлідства Беларусі М.Ткачовым[1]. Важнае значэнне для даследавання будаўніцтва і архітэктуры перыяду Рэчы Паспалітай маюць працы А.Трусава[2]. Да разгляду гісторыі архітэктуры, планіроўкі і горадабудаўніцтва Беларусі ў XVII–XVIII стст. звярталіся Т.Габрусь, Б.Лазука, Ю.Якімовіч, У.Чантурыя, А.Лакотка і інш.[3]

Значныя напрацоўкі айчынных навукоўцаў маюцца ў галіне вывучэння выяўленчага мастацтва. Найбольшы прыярытэт аддаваўся даследаванню жывапісу, аднак не засталіся па-за ўвагай даследчыкаў скульптура і афармленне кнігі[4]. Павелічэнне колькасці матэрыялаў па дэкаратыўна-прыкладному мастацтву, у тым ліку і здабытых на працягу апошніх дзесяцігоддзяў падчас археалагічных раскопак, абумовіла з'яўленне новых прац, прысвечаных гэтай галіне мастацкай культуры[5]. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва вывучалася таксама ў працах археолагаў, у якіх разглядаліся асобныя катэгорыі археалагічных знаходак. Даследаваннем беларускай кафлі, у тым ліку мастацкай, займаліся А.Трусаў, Л.Панічава, Ю.Заяц, В.Ляўко, керамікі – І.Ганецкая, Н.Здановіч і У.Угрыновіч. Кавальствам на беларускіх землях цікавіўся Г.Сагановіч і інш.

Знайшлі адлюстраванне ў працах айчынных даследчыкаў праблемы, звязаныя з развіццём на беларускіх землях XVII–XVIII стст. музычнай культуры, тэатра, літаратуры, філасофіі, адукацыі, народнай культуры і інш.[6] Варта падкрэсліць, што даследаванне многіх аспектаў беларускай культуры адбываецца ў рамках сумежных з гісторыяй навуковых дысцыплін.

Такім чынам, у айчыннай гістарыяграфіі, прысвечанай знаходжанню беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай, назіраецца пэўны дысбаланс, які выявіўся ў найбольшай распрацаванасці пытанняў сацыяльна-эканамічнага развіцця і культуры. Менш пашанцавала тэматыцы, прысвечанай пытанням палітычнага развіцця і рэлігійнаму жыццю. Да нядаўняга часу больш-менш сур'ёзныя напрацоўкі па гэтых праблемах выходзілі з-пад пяра або польскіх, або расійскіх гісторыкаў, і толькі на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў беларускія навукоўцы спрабуюць запоўніць прагал, створаны ў

---

[1] *Ткачоў М.А.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII – XVIII стст. Мн., 1978; *Ён жа.* Замки Белоруссии. Мн., 1987; *Ткачоў М.А.* Замкі і людзі. Мн., 1991.

[2] *Трусов О.Ф.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI – XVII вв. Мн., 1988.

[3] *Чантурия В.А.* История архитектуры Белоруссии: В 2 т. Мн., 1985. Т.1; *Якимович Ю.А.* Зодчество Белоруссии XVI – середины XVII в. Мн., 1991; *Лазука Б.А.* Гісторыя мастацтваў: Вучэбны дапаможнік. Мн., 1996; *Лакотка А.І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999; *Габрусь Т.В.* Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001.

[4] *Кацар М.С.* Выяўленчае мастацтва дакастрычніцкага перыяду. Мн., 1969; *Цераўчатава В.В.* Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI – XVIII стст. Мн., 1986; *Лявонава А.К.* Старажытнабеларуская скульптура. Мн., 1991; Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў (аўтар тэксту і склад. альбома Н.Ф.Высоцкая). Мн., 1992; *Хадыка А.Ю., Хадыка Ю.В.* Непаўторныя рысы. Мн., 1992; *Нікалаеў М.* Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X – XVIII стагоддзях. Мн., 1993 і інш.

[5] *Кацар М.С.* Народна-прыкладное мастацтва Беларусі (Ад першабытнага грамадства да 1917 г.). Мн., 1972; *Яніцкая М.М.* Беларускае мастацкае шкло (XVI – XVIII стст.). Мн., 1977; *Милюченков С.А.* Белорусское народное гончарство. Мн., 1984 і інш.

[6] Нарысы гісторыі філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі (да 1917). Мн., 1973; *Костюковец Л.Ф.* Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; *Конан В.* От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978; *Назина И.Д.* Белорусские народные музыкальные инструменты. Мн., 1979; *Няфёд У.І.* Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1982; Гісторыя беларускага театра. Т.1. Мн., 1983; *Цвірка К.А.* Беларуская фальклорыстыка (эпоха феадалізму). Мн., 1989; *Падокшын С.А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990.

выніку існавання ў гістарычнай навуцы ідэалагічных "табу". Адсутнасць грунтоўных напрацовак і традыцый у вывучэнні пытанняў канфесійнай і палітычнай гісторыі, а таксама пэўная грамадская і ідэалагічная запатрабаванасць гэтай тэматыкі абумовілі пакуль што меншую глыбіню распрацовак і не такі ўзважаны падыход, як пры даследаванні сацыяльна-эканамічнай гісторыі. Зварот да нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі беларускай мінуўшчыны дазволіў значнай колькасці айчынных навукоўцаў істотна пашырыць тэматыку даследаванняў і акцэнтаваць увагу на суб'ектнай ролі насельніцтва Беларусі ва ўласнай гісторыі.

Разам з тым абмежаванне даследаванняў геаграфічнымі граніцамі сучаснай Рэспублікі Беларусь у шэрагу выпадкаў абумоўлівае неадэкватную ацэнку ролі беларускіх зямель у гісторыі цэнтральна-ўсходнееўрапейскага рэгіёна. Шэраг сюжэтаў, надзвычай важных для гістарычнага лёсу Вялікага княства Літоўскага, але не звязаных непасрэдна з тэрыторыяй Беларусі, застаюцца практычна па-за ўвагай айчынных даследчыкаў. Гэта з'ява прыводзіць фактычна да размежавання гісторыі Беларусі, з аднаго боку, і гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай – з другога, што аб'ектыўна надае айчыннай гістарыяграфіі налёт рэгіянальнасці, правінцыйнасці. Такім чынам, для сучаснай беларускай гістарычнай навукі застаецца вельмі надзённым стварэнне работ, прысвечаных комплекснаму даследаванню мінулага беларускіх зямель як часткі гісторыі дзяржаўных утварэнняў, у склад якіх яны ўваходзілі ў розныя часы. Гэта дапаможа больш поўна даследаваць гісторыю Беларусі ў еўрапейскім кантэксце і месца нашай Бацькаўшчыны ў працэсах, што адбываліся ў Еўропе ў XVII–XVIII стст.

## Крыніцы

Гістарычныя крыніцы па перыяду знаходжання беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай маюць у параўнанні з папярэднімі часамі сваю спецыфіку. Перш за ўсё яны робяцца больш разнастайнымі па відах, больш інфарматыўнымі і рэпрэзентацыйнымі. Узрастае значэнне статыстычных матэрыялаў, дакументаў гаспадарча-эканамічнага характару і бягучага справаводства. У той жа час змяншаецца значэнне такога віду наратыўных крыніц, як летапісы і хронікі. У межах гэтага жанру таксама адбыліся пэўныя змены ў кірунку яго дэмакратызацыі. На змену агульнадзяржаўным хронікам прыходзяць фамільныя хронікі (мемуары), дыярыушы (дзённікі), мясцовыя летапісы, а таксама хранографы, у якіх перапляталіся мінулае славянскіх народаў і сусветная, у тым ліку старажытная гісторыя[1].

Сярод узораў мясцовага летапісання неабходна ўзгадаць Баркулабаўскую хроніку (летапіс), створаную ў пачатку XVII ст.[2] У ёй падрабязна выкладаецца матэрыял па палітычнай гісторыі да пачатку разглядаемага перыяду, гісторыі культуры і царквы, утрымліваюцца звесткі пра гістарычных асоб. У хроніцы спалучаюцца рысы дакументальнай і гісторыка-мемуарнай літаратуры.

Цікавымі ўзорамі гарадскога летапісання з'яўляюцца Магілёўская і Віцебская хронікі. Віцебскі летапіс (dzieje miasta Witebska), складзены ў

---

[1] *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско–литовского летописания. М., 1985.

[2] Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.

1768 г. на аснове летапісу М.Панцырнага, запісаў Чарноўскіх і Г.Аверкі, а таксама матэрыялаў, сабраных аўтарам, мясцовым жыхаром С.Аверкам, утрымлівае звесткі па гісторыі Віцебска, беларускіх і іншых зямель. Найбольш цікавымі з'яўляюцца апісанні падзей канца XVII – пачатку XVIII ст. Летапіс дапоўнены цікавымі гісторыка-дакументальнымі матэрыяламі, у прыватнасці спісам віцебскіх ваявод за 1516–1753 гг.[1]

Магілёўская хроніка створана на працягу XVII–XVIII стст. Яна з'яўляецца апошнім беларускім летапісным зводам. У помніку сабраны цікавыя звесткі пра эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае жыццё горада, а таксама матэрыял па гісторыі беларускіх, літоўскіх, украінскіх, польскіх, расійскіх зямель. Пры складанні хронікі былі выкарыстаны летапісныя запісы, успаміны сучаснікаў і назіранні аўтараў, матэрыялы магілёўскага архіва, творы А.Гваньіні і М.Стрыйкоўскага[2].

Да ўзораў беларускага гарадскога летапісання належаць таксама "Запіскі ігумена Арэста", якія разам з Магілёўскай хронікай з'яўляюцца адным з найбольш позніх твораў такога тыпу. Яна змяшчае звесткі па гісторыі горада з XIV да сярэдзіны XIX ст.[3] Аўтар "Запісак" (ігумен Магілёўскага брацкага манастыра) шырока выкарыстоўваў звесткі Магілёўскай хронікі, дакументы, сабраныя І.Грыгаровічам і М.Бантыш-Каменскім, архіўныя матэрыялы і ўласныя назіранні. У "Запісках" утрымліваюцца цікавыя паведамленні, не адлюстраваныя ў іншых крыніцах, у прыватнасці апісанне асобных падзей вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг.

Магілёўскую хроніку і "Запіскі ігумена Арэста" дапаўняе Магілёўская хроніка Спаскага манастыра, складзеная каля 1755 г. невядомым аўтарам, які выкарыстаў звесткі каралеўскіх прывілеяў гораду і яго духавенству, актавыя дакументы. У ёй выкладаецца пераважна рэлігійная гісторыя Магілёва з 1526 па 1754 г., прычым большасць інфармацыі тычыцца перыяду, які мала прадстаўлены ў іншых хроніках[4].

Да летапісных твораў XVII–XVIII стст. набліжаюцца папулярныя ў акрэслены час мемуары і дыярыушы, або дзённікі, – творы гісторыка-мемуарнага жанру, якія характарызаваліся індывідуальнай афарбоўкай, узрастаннем увагі да асобы і яе запатрабаванняў. Розніца паміж дыярыушамі і мемуарамі заключаецца ў тым, што ў дзённіках падзеі занатоўваліся аўтарамі адразу ж пасля апісання падзей, тады як мемуары пісаліся праз некаторы час, пасля пэўнага пераасэнсавання з'яў мінулага. Да летапісаў і хронік папярэдняга часу яны набліжаліся толькі па форме падачы матэрыялу ў выглядзе пагадовых запісаў. У той жа час мемуарная літаратура адлюстроўвала яшчэ ў большай ступені, чым мясцовыя летапісы, не афіцыйны погляд на пададзе-

[1] Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32; Сборник летописей, относящихся к истории Южной и Западной Руси. Киев, 1888.

[2] Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35; *Чамярыцкі В.А.* Мясцовае летапісанне Беларусі XVII – XVIII стст. (Магілёўская хроніка) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1979. № 4.

[3] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 2.

[4] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1871. Т. 5.

ныя падзеі, а іх суб'ектыўнае ўспрыманне аўтарам. Гэта нейкім чынам ускладняе высвятленне гістарычнай дакладнасці фактаў з мемуарнай літаратуры[1].

Першым творам такога тыпу ў Беларусі сталі "Гістарычныя запіскі" наўгародскага падсудка Ф.Еўлашоўскага, аднак у іх апісваюцца падзеі пераважна XVI ст. Цікавая інфармацыя пра падзеі рэлігійнага жыцця беларускіх зямель утрымліваецца ў творах А.Філіповіча, напісаных у жанры, блізкім да дыярыуша. Важнае месца для вывучэння палітычнай гісторыі беларускіх зямель займаюць дыярыушы С.Маскевіча, які падрабязна апісаў падзеі вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй у 1609–1618 гг., у тым ліку аблогу Смаленска, а таксама яго сына Б.Маскевіча. Апошняму належалі два дыярыушы. Першы з іх ахоплівае падзеі 1643–1649 гг. і апісвае баявыя дзеянні войскаў Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай супраць казакаў Б.Хмяльніцкага. Другі дыярыуш прысвечаны падзеям вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй у сярэдзіне XVII ст. – паходу маскоўскага ваяводы І.Хаванскага і яго разгрому войскамі П.Сапегі і С.Чарнецкага пад Палонкай 28 чэрвеня 1660 г.[2]

Значнае месца сярод гістарычнай і мемуарнай літаратуры XVII ст. займаюць творы прадстаўнікоў славутай фаміліі Радзівілаў. Альбрыхту Станіславу Радзівілу належаць лацінамоўны "Кароткі выклад падзей у польскім каралеўстве ў час панавання Жыгімонта III, Уладзіслава IV і Яна Казіміра", а таксама "Дзённік" за 1632–1656 гг., які з'яўляецца каштоўнай крыніцай па ўнутранай і знешняй палітыцы Рэчы Паспалітай[3]. Цікавым узорам мемуарнай літаратуры можа лічыцца аўтабіяграфія Багуслава Радзівіла, у якой утрымліваюцца не толькі звесткі пра палітычныя і ваенныя падзеі сярэдзіны XVII ст., але і каларытнае апісанне авантурных прыгод самога аўтара[4]. Мемуарная літаратура XVII ст. на беларускіх землях прадстаўлена творамі П.Бжастоўскага, І.Будзілы, А.Каменскага-Длужыка, С.Незабітоўскага, Я.Пачобут-Адляніцкага, Я.Сапегі, Я.Храпавіцкага, Я.Цадроўскага і інш., мемуарыстыка XVIII ст. – працамі Т.Агінскага, К.Завішы, М.Залескага, М.Матушэвіча, Ю.Нямцэвіча, У.Лапацінскага, М.Радзівіла, Ф.Шырмы і інш. Асаблівую ўвагу прыцягваюць штодзённыя запісы М.Радзівіла Рыбанькі, якія складаюць восем тамоў. У мемуарах XVIII ст. утрымліваецца каштоўны матэрыял па гісторыі тэатра, музыкі, выяўленчага мастацтва на беларускіх землях, бо іх аўтарамі маглі з'яўляцца

---

[1] Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983; *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982; *Свяжынскі У.М.* Дзённікі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1996. Т. 3; *Ён жа.* Мемуары XVII ст. як крыніцы па гісторыі Беларусі // Гістарычныя крыніцы: праблемы класіфікацыі, вывучэння і выкладання. Матэрыялы да Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння У.І.Пічэты. Мінск, 23–24 красавіка 1998 г. Мн., 1998. С. 178; *Ён жа.* Мемуары XVII ст. як крыніцы па ваеннай гісторыі Беларусі // Гісторыя Беларусі: новае ў даследаванні і выкладанні: Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, Мінск, 27 сакавіка 1999 г.: У 2 ч. Мн., 1999. Ч. 1. С. 62–65.

[2] Pamiętniki Samuela i Bogusława Kazimierza Mackiewiczów/ Wrocław, 1961.

[3] *Radziwiłł A.S.* Rys panowania Zygmunta III // Atheneum. 1848. T. 3. Z. 4; *Ён жа.* Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 1–3. Warszawa, 1980.

[4] *Padziwiłł B.* Autobiografia. Warszawa, 1979.

дзеячы культуры. У шэрагу твораў XVIII ст., азаглаўленых як "дзённікі", маюцца заўвагі аб стане эканомікі Рэчы Паспалітай[1].

Цікавыя звесткі, галоўным чынам пра падзеі палітычнай гісторыі, утрымліваюцца ў гістарычных календарах, каментарыях і апісаннях канкрэтных гістарычных падзей і асоб[2]. Сярод такіх крыніц асобна вылучаюцца творы ў гонар славутых бітваў і ваенных кампаній, часам напісаныя неўзабаве пасля разглядаемых падзей[3].

Інфармацыю па пытаннях палітычнага, рэлігійнага і культурнага развіцця беларускіх зямель у часы Рэчы Паспалітай утрымліваюць літаратурныя творы, у тым ліку палітычнага характару, памфлеты і публіцыстыка, публічныя прамовы і інш. У асвятленні канфесійнай тэматыкі важнае роля належыць творам рэлігійнай палемікі, якая найбольш актыўна разгарнулася на землях Рэчы Паспалітай па пытаннях уніі. Сярод віднейшых палемістаў XVII ст. – З.Капысценскі, П.Магіла, І.Марахоўскі, А.Мужылоўскі, І.Пацей, І.Руцкі, К.Саковіч, П.Скарга, М.Сматрыцкі, А.Сялява і інш. Пры даследаванні культурнага развіцця беларускіх зямель у XVII–XVIII стст. першачарговае значэнне маюць захаваныя да нашых дзён помнікі кнігапісання і кнігадрукавання, архітэктуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісу, скульптуры, фальклору, музычныя і літаратурныя творы, праграмы тэатральных пастановак і лібрэта, перыядычныя выданні, календары, навуковыя трактаты і інш.

Па праблемах адукацыі на беларускіх землях утрымліваецца неабходная інфармацыя ў адпаведных заканадаўчых актах і пастановах органаў дзяржаўнага кіравання, праектах удасканалення сістэмы навучання, інструкцыях для школ, статутах навучальных устаноў, падручніках, тэкстах лекцый, слоўніках, экзаменацыйнай дакументацыі, спісах вучняў і інш.

Важныя звесткі, якія тычацца ваенных і палітычных падзей на беларускіх землях у XVII ст., апісваюцца ў дзённіках і мемуарах замежных аўтараў, у першую чаргу польскіх – гетмана польнага кароннага С.Жалкеўскага, Я.Пасака і інш.[4] Звесткі пра беларускія землі ўтрымліваюцца ў дзённікавых запісах замежных падарожнікаў і паслоў: У.Кокса, І.Бернулі, Ж.Жылібера, Г.Форстара, І.Франка, К.Гейкінга, А.Сегюра, П.Талстога,

---

[1] "Dziennik handlowy" zawierający w sobie wszystkie okoliczności czyli ogniwa caiego lancuch handlu Polskiego, zaczęty w Warszawie 1786. Warszawa, 1786; "Dziennik handlowy" zawierający w sobie wszystkie okoliczności, pisma, uwagi i myśli patryotyczne do handlu scigaiące. Warszawa, 1787; "Dziennik handlowy y ekonomiczny", zawierający w sobie wszystkie okoliczności, pisma, uwagi i myśli patryotyczne do handlu fabryk i ekonomiki scigaiąca sik. Warszawa, 1788.

[2] Commentarius rerum in M.D.Lith. per tempus rebellionis russicae gestarum. Regiomonti, 1653; *Gleditsch J.* Curieuser Geschichts–Calender, darinnen die merkwürdigsten des Königreichs Polen und Grossherzogthum Lithuuen von Anno 1500 bis 1697. Leipzig, 1696; *Kojaiowicz A.* De rebus anno 1648 et 1649 contra zaporovias cosacos. Vilnae, 1651; *Malkot F.* Tureckich y inflanckich woien o sławney pamięci K.Chodkiewiczu, hrabi na Skłowie, Bychowie i Myszy..., W. X. Lit. Wielkim hetmanie... głos ofiarowany. Wilno, 1622 і інш.

[3] Aufóhrliche Relation der Victoria, welche Czarnecki zwischen Sionchec und Myczow gegen Moskoviter erhalten. /S.L./, 1660; *Bojer L.* Carlomacia, to jest dwu Karłów bitwa i szczęśliwe zwyciecstwo Corola Chodkiewicza nad Carolem Sudermacskim, otzymane pod Kirchholmem; o szczęściu króla... Zygmunta III i przeważnym męstwie rycerstwa Korony Polskiej i W. X. Lit. 27/IX 1605. Wilno, 1606; Expressya Batalii wygraney nad rzeką Pronią pod Leszem pana Serafimowicza, mil dwie od Propoyska 9/X 1708. /S. 1./, 1709; Passya ąoinieryw oboyga narodów w stolicy Moskiewskiey, to iest wytrzymanie nieznośnych stosunków w oblkżenie ciężkim krótko opisane. /S. L./, 1613 і інш.

[4] *Pasek J.Ch.* Pamiętniki. Wrocław etc., 1990; Рукопись Жолкевского, [Начало и успех Московской войны в царствование Е.В.Короля Сигизмунда III го]. М., 1835.

К.Феерабенда, Р.Пінкертона, К.Джонстана і інш.[1] Падзеі апошніх гадоў існавання Рэчы Паспалітай знайшлі адлюстраванне ў дзённіках расійскіх генералаў П.Крачэтнікава, М.Крачэтнікава, І.Безбародкі, капітана Маскоўскага грэнадзёрскага палка Гразева і інш.

Розныя аспекты сацыяльна-эканамічнага, палітычнага, канфесійнага і культурнага развіцця беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай адлюстраваны ў творах эпісталярнага характару. Важнае месца сярод крыніц па гісторыі Беларусі XVII–XVIII стст. займае знешнепалітычная дакументацыя – разведвальныя даныя, данясенні дыпламатаў сваім урадам, дыпламатычная перапіска, уставы і інш. Першачарговае значэнне для асвятлення пытанняў знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай маюць таксама міжнародныя пагадненні і дамовы прадстаўнікоў розных груповак пануючага саслоўя і кіраўніцтва дзяржавы з іншаземнымі дварамі, акты дэмаркацыі межаў, ратыфікацыі, універсалы, ноты, пратэстацыі, маніфестацыі, інструкцыі караля і вялікага князя, кіраўнікоў войска і шляхецкіх канфедэрацый.

Каштоўная інфармацыя па самых розных аспектах развіцця беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай утрымліваецца ў заканадаўчых матэрыялах, галоўным чынам у Статуце ВКЛ 1588 г., які ў разглядаемы перыяд з'яўляўся галоўным своеасаблівым заканадаўчым кодэксам, што дзейнічаў на беларускіх землях[2]. Асноўныя прынцыпы прававой сістэмы "дзяржавы двух народаў" удакладняў прыняты ў 1768 г. закон "Кардынальныя правы". Важным сведчаннем заканадаўчай творчасці ў Рэчы Паспалітай у канцы яе існавання служыць Канстытуцыя 3 мая 1791 г., а таксама Канстытуцыя 1793 г., якія тым не менш не паспелі ўвайсці ў сілу ў выніку другога і трэцяга падзелаў дзяржавы[3].

Важнае месца ў асвятленні механізма ўдзелу шляхты беларускіх зямель у заканадаўчай дзейнасці ў Рэчы Паспалітай належыць рашэнням павятовых (гаспадарчых, дэпутацкіх, пасольскіх, рэляцыйных) і вальных (агульнадзяржаўных) сеймаў, інструкцыям дэпутатам, а таксама каралеўскім перадсеймавым лістам, якія распаўсюджваліся па рэгіёнах перад сеймавымі пасяджэннямі і адлюстроўвалі пазіцыю гаспадара па пэўных пытаннях. Асобае месца сярод падобных дакументаў займаюць сеймавыя канстытуцыі, якія падсумоўвалі рашэнні вальных сеймаў, рыхтаваліся канцылярыяй Рэчы Паспалітай і спецыяльнымі камісіямі з улікам пажаданняў і заўваг паслоў[4]. Пасля прыняцця пасольскай "ізбой" і сенатам канстытуцыі даводзіліся да ведама мясцовай шляхты на павятовых сейміках. Лёсавызначальнае значэнне для Рэчы Паспалітай мелі звязаныя з першым падзелам

---

[1] *Грыцкевіч В.П., Мальдзіс А.І.* Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; *Кордт В.* Чужоземні подорожні по Східній Европі до 1700 р. Київ, 1926; *Maliszewski E.* Bibliografja pamiętników polskich i Polski dotyczących. Warszawa, 1928 і інш.

[2] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989; *Юхо І.* Крыніцы беларускалітоўскага права. Мн., 1991; *Kutrzeba S.* Historia źródzieł dawnego prawa polskiego. Lwów etc., 1926. Т. 2.

[3] Найбольш поўна заканадаўчыя акты, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Польшчы і Правабярэжнай Украіны з 1347 па 1795 г., прадстаўлены ў шматтомным зборы законаў, сеймавых пастаноў, прывілеяў і інш., вядомым як Volumina Legum альбо "Prawa, konstytucje i przywileie Królestwa Polskiego, i Wielkiego Księstwa Litewskiego, i wszystkich prowincyi naleźących na walnych seymach koronnych od seymu Wislickiego roku panskiego 1347 az do ostatniego seymu uchwalone". Акрамя таго, яны публікаваліся ў шэрагу іншых выданняў, такіх, як АВАК (т. 2–4 і 8), ИЮМ (т. 10) і інш.

[4] *Trembicki A.* Prawo polityczne i cywilne Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego, to jest Nowy zbor praw oboyga narodów od roku 1347 az do teraznieyszych czasów. Warszawa, 1789–1791. Т. 1–2.

дзяржавы дакументы вальных сеймаў 1773–1775 гг., а таксама пастановы Чатырохгадовага сейма 1788–1792 гг. і Гарадзенскага сейма 1793 г. Для даследавання вайсковай сістэмы Рэчы Паспалітай неацэннае значэнне маюць сеймавыя пастановы аб арганізацыі і ўтрыманні войска, вайсковыя ўставы альбо "артыкулы", попісы (рэестры), судовая дакументацыя, звязаная з дзейнасцю жаўнераў, і інш.[1] Уяўленне аб узроўні ваеннага майстэрства і ведаў у Рэчы Паспалітай даюць спецыяльныя трактаты, прысвечаныя фартыфікацыі, артылерыйскай справе, замежнаму мілітарнаму вопыту і іншым аспектам, неабходным для падрыхтоўкі прафесійных вайскоўцаў[2]. Аб рэфарматарскіх намаганнях у галіне вайсковай справы ў другой палове XVIII ст. сведчаць шматлікія пастановы, распараджэнні і праекты паляпшэння боегатоўнасці войска Рэчы Паспалітай.

Шматлікая інфармацыя па праблемах эвалюцыі саслоўна-класавай структуры, становішча розных слаёў насельніцтва, сацыяльна-эканамічных, палітычных і іншых пытаннях гісторыі беларускіх зямель у Рэчы Паспалітай утрымліваюцца ў матэрыялах актавых кніг. Акты і бягучыя матэрыялы гродскіх, земскіх, камісарскіх, каптуровых, магдэбургскіх, падкаморскіх і іншых судоў утрымліваюць справы, скаргі і пратэсты, рэгулююць дзейнасць афіцыйных асоб і ўстаноў, акрэсліваюць эканамічнае і юрыдычна-прававое становішча пэўных населеных пунктаў. Для вывучэння урбаністычных працэсаў важнае значэнне маюць уставы гарадам, прывілеі на атрыманне магдэбургскага права, на кірмашы, на вызваленне ад падаткаў, на "слабоды" і іншыя ільготы, якія з'яўляліся важнай часткай палітыкі вярхоўнай улады і асобных магнатаў па гаспадарчаму ўмацаванню гарадоў, у тым ліку беларускіх, у першай палове XVII ст. і пераадоленню эканамічнага крызісу ў другой палове XVII–XVIII ст.

У дачыненні гісторыі беларускіх зямель перыяду XVII–XVIII стст. захавалася велізарная колькасць дакументаў гаспадарча-ўліковага характару. Галоўнымі з іх з'яўляюцца інвентары, інфармацыйная насычанасць якіх у параўнанні з папярэднім перыядам рэзка павысілася, асабліва ў XVIII ст. У шэрагу выпадкаў вялікая колькасць падобных дакументаў, аддзеленых

---

[1] Polskie ustawy i artykuły wojskowe od XV do XVIII w. / Wyd. S.Kutrzeba. Kraków, 1937.

[2] Спіс падобных прац, вельмі папулярных у XVII – XVIII стст., даволі значны. У 1603 г. была выдадзена ілюстраваная вядомым гравёрам Т.Макоўскім праца К.Дарагастайскага "Hippika, to jest o koniach księgi", перавыдадзеная ў далейшым у 1620, 1647, каля 1700 і каля 1730 гг. Да пытання аб баявых конях у Рэчы Паспалітай звяртаўся таксама Ш.Старавольскі ў сваёй кнізе "Eques Polonus", выдадзенай у 1628 г. у Венецыі. Дрэўкавай зброі прысвячаліся трактаты Я.Кампенхаўзена і П.Аігнера, азаглаўленыя адпаведна "Chwała i apologia kopij i pik" (Kalisz, 1737) і "Krótka nauka o pikach i kosach" (Warszawa, 1794). Сярод прац, якія ў той ці іншай ступені былі звязаны з развіццём артылерыі ў Рэчы Паспалітай, можна назваць трактат іспанца Д.Уфіна "Archelia albo artilleria, to jest fundamentalna i doskonala informacja o strzelbe i rzeczach do niej należących", перакладзены на польскую мову і выдадзены ў Лешне ў 1643 г., трохтомнік "Nauka artylerii", напісаны ў другой палове XVIII ст. Ю.Якубоўскім, але найбольш вядомай з'яўляецца праца К.Семяновіча, упершыню выдадзеная ў 1650 г. у Амстэрдаме пад назвай "Artis magnae artilleriae pars prima". Аб фартыфікацыйных збудаваннях пісаў Й.Бакаловіч (Zdanie o pożytku i potrzebie fortec w królestwie Polskim i państwach jego... Warszawa, 1777). Сярод прац, прысвечаных тактыцы войска, варта ўзгадаць "Piechotne żwiczenia albo wojennosc piesza, którą lacinnicy pedestram militiam nazywają" Б.Ліпоўскага (Kraków, 1660), праца А.М.Фрэдры "Nowe uważanie porządku wojennego" (Kraków, 1670) і "Potrzebne consideratiae około porządku wojennego i pospolitego ruszenia" (Słuck, 1675), настаўленні "Regulamen musztry dla regimentów pieszych Koronnych i W. X. Lit." (Warszawa, 1777), "Regulamen exercerunku dla regimentów konnych gwardyi Koronnej W.X. Lit. Wydany" (Warszawa, 1786) і "Regulamem służby obozowej y garnizonowey dla całego woyska oboyga narodów" (Warszawa, 1786). У 1771 г. у Вільні выйшла перакладзеная на польскую мову К.Нарбутам "Nauka żołnierska króla pruskiego dla jego generalow dana..." і г.д.

адзін ад другога нязначным прамежкам часу, дае выдатную магчымасць прасачыць дынаміку гаспадарчага жыцця, а таксама ўтрымлівае каштоўныя звесткі аб сацыяльным і этнаканфесійным складзе насельніцтва, колькасці жыхароў і планіровачнай эвалюцыі тых ці іншых населеных пунктаў. Інвентары адлюстроўвалі вынікі ваенных разбурэнняў, стыхійных і прыродных катаклізмаў, палітыку дзяржавы і феадалаў па рэгуляванню эканомікі, эвалюцыю рэнты, функцыянiраванне сялянскай грамады і інш.

Да інвентароў далучаюцца люстрацыі, якія складаліся падчас рэвізій дзяржаўных маёнткаў. Да выйграшных рыс падобных дакументаў належыць іх аднамомантнасць, што дазваляе параўноўваць эканамічную сітуацыю ў староствах і дзяржавах у адзін і той жа час і прасочваць яе дынаміку па ўсёй краіне. Шмат карыснай інфармацыі па розных, часам нават нечаканых аспектах жыцця тагачаснага грамадства беларускіх зямель маюць рэестры (падымныя, асобных зямельных угоддзяў, цяглавай жывёлы, рухомасці і інш.), якія маглі з'яўляцца часткай інвентароў, а маглі выступаць самастойна, але мелі менш комплексны, чым інвентары, характар. Варта вылучыць некаторыя спецыфічныя віды рэестраў, такія, як рэестры рахункаў (прыходна-расходны), якія дазваляюць скласці больш-менш поўнае ўяўленне аб функцыянiраванні і рэнтабельнасці асобных гаспадарак, або рэестры шкоды, наносімай пастоямі і пераходамі войска[1].

Важнейшай крыніцай для вывучэння сацыяльна-эканамічных, геаграфічных, дэмаграфічных, генеалагічных і іншых пытанняў з'яўляюцца рэестры падымнага падатку ("тарыфы"), якія складаліся пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. Яны фіксавалі зямельныя ўладанні, гарадскія населеныя пункты з указаннем колькасці дымоў (двароў) і памеры падаткаў. На аснове павятовых рэестраў у 1790 г. быў складзены абагульнены тарыф ВКЛ. Па меры далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі яны ахопліваліся адпаведнымі мерапрыемствамі царскай адміністрацыі – 5-й рэвізіяй і асабліва Генеральным межаваннем, распачатым адміністрацыяй Кацярыны II у 1765 г.[2]

Каштоўная інфармацыя па сацыяльна-эканамічных пытаннях гісторыі Беларусі XVII–XVIII стст. утрымліваецца ў кантрактах на арэнду маёнткаў, у якіх агаворваліся абавязкі, што ўскладаліся на арандатараў, а таксама апісвалася эканамічная сітуацыя ў маёнтках на момант заключэння кантракта, эканамічных інструкцыях, уставах трымальнікам і адміністратарам маёнткаў, гандлёвых прывілеях, тастаментах, супліках (скаргах), каралеўскіх прывілеях на так званай ардынацыі, скарбовых, цэхавых,

[1]Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв.: Владение Сморгонь. Мн., 1977; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв.: Владение Тимковичи. Мн., 1982; *Козловский П.Г., Чепко В.В.* Инвентари и хозяйственные документы магнатских владений Белоруссии XVI–XVIII вв. и инвентари помещичьих имений первой половины XIX в. как исторический источник // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1962. Мн., 1964; *Копысский З.Ю.* Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978; *Мелешко В.И.* Источники по социально–экономическому положению крестьян Белоруссии во второй половине XVII–XVIII вв. // Acta Baltico-Slavica. T. 12. Wrócław etc., 1979; Rachunki podskarbstwa litewskiego 1648–1652. Wilno, 1855.

[2]*Анішчанка Я.К.* Генеральнае межаванне на Беларусі; *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в.; *Королева Е.Г.* Численность и структура сельского населения Белоруссии в конце XVIII– первой половине XIX в. // Сельское хозяйство и крестьянство Белоруссии. Мн., 1991; *Lulewicz H., Sienkiewicz W.* Rejestry podatkowe Wielkiego Księstwa Litewskiego z lat 1637–1717 // Przegląd Historyszny. 1981. Z. 1; Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wojewodztwo Wileńskie 1960 r. / Oprac A.Rachuba. Warszawa, 1989; Wykaz podatku podymnego powiatu Wołkowyskiego z r. 1690 / Wyd. S.Krakowski. Wilno, 1690.

магістрацкіх кнігах і інш. Важнай крыніцай для асвятлення змянення стану эканомікі беларускіх зямель і пераадолення зацяжнога крызісу ў другой палове XVIII ст. з'яўляюцца мытныя кнігі. З XVII ст. распаўсюдзіліся друкаваныя апісанні дваровай гаспадаркі, рамёстваў і промыслаў[1].

Значную цікавасць для вывучэння гісторыі беларускіх зямель у часы Рэчы Паспалітай уяўляюць гістарычныя карты, найбольш вядомай з якіх з'яўляецца карта Т.Макоўскага, выкананая на мяжы XVI і XVII стст. па замове М.К.Радзівіла Сіроткі і на якой упершыню фіксуецца шэраг населеных пунктаў[2]. Сярод картаграфічных прац XVII–XVIII стст. траплялiся ўзоры, прысвечаныя асобным беларускім рэгіёнам, а таксама вельмі спецыфічныя карты (палескіх балот, каналаў і г.д.)[3]. Варта адзначыць таксама расійскія карты XVIII ст. і актывізацыю картаграфічнай дзейнасці ў канцы гэтага ж стагоддзя, звязаную з ажыццяўленнем на беларускіх землях Генеральнага межавання. Неацэннай крыніцай для вывучэння архітэктурна-планіровачных тэндэнцый і шэрагу аспектаў гаспадарчага жыцця з'яўляюцца планы асобных населеных пунктаў і ўладанняў.

Аднак, нягледзячы на апублікаванне значнай колькасці крыніц па гісторыі Беларусі ў часы Рэчы Паспалітай, асноўная маса дакументаў даступная толькі ў зборах архіваў Мінска, Гродна, Вільні, Варшавы, Масквы, Санкт-Пецярбурга і інш.[4] Спецыяльнай працы патрабуе пошук і выяўленне новых матэрыялаў у архівах краін далёкага замежжа, якія, як уяўляецца, могуць быць асабліва карыснымі для вывучэння знешнепалітычнага становішча "дзяржавы двух народаў" у XVII–XVIII стст.

---

[1] *Korycki M.* Dirae in vulcanum, qui in lonis illustrissimi atque exellentissimi domini Joachimi in Szczorse, Zembin et Wiszniew comitis Litawor Chreptowicz procencellarii M.D.Lith., prafecti castris Orzensis officinam ad conficiendum ferrum magnus impensis magnisque utilitatibus constructam in cineres redigit. Varsovia, 1780; *Mehlik K.* Opisanie wybornego gospodarstwa w dobrach Szczorse Chreptowicza // Pamiętnik polityczny i historyczny. 1785, maj; Opisanie gospodarstwa pszczołowego na Szczorsach sporzędzone roku 1785. Warszawa, 1785; *Rundstein J.* Cztery księgi bartne nowogrodzkie z XVII-go i XVIII-go wieku. Warszawa, 1928; *Osiński J.* Opisanie polskich żelaza fabryk. Warszawa, 1782; Wzmianki o manufakturach radziwiłłowskich // Dziennik handlowy. 1786. Cz. 11/12.

[2] *Alexandrowicz St.* Mapa Wielkiegi Księstwa Litewskiega Tomasza Makowskiego z 1613 r. Tzw. Radziwiłłowska, jako żródło do dziejów Litwy i Białorusi // Studia Żródłoznawcze. Warszawa; Poznań, 1965. T.X.

[3] *Blaevius W.* Le grand athlas au Cosmographie. T. 1–9. Amsterdam, 1663; Karta geograficzna kanałów Muchowieckiego, Telechacskiego... // Pamiętnik historyczno-polityczny. 1791; Sanson d'abbeville. Partie de Lithuanie ou est le palatinat de Novogrodeck Litevski, le palatinat de Bresscie en Polesie, duches de Nesvies et Slusck... Paris, 1666; *Ён жа.* Patrie de Lithuanie ou sont les palatinats de Poloczk, Vitępsk, Msciasiav et partie Minsk, avec le duche de Smolensko. Paris, 1665; *Ён жа.* Tabula nova totius regni Poloniae in quo sunt ducatus et provinciae: Ducatus Lithuaniae... Amstelodami,: Vischer, 1680; *Todt A.* Karta odgraniczjęca miasto Grodno z wygodami od majktności Stanisiawowa i Augustowa. /S. 1./, 1797; *Folino B.* Carte generale et nouvelle de toute la Pologne, du Grand duche de Lithuanie et des pays limitrophes. Varsovie, 1770; *Zwicker D.* Nova te nuno primum paludum Polesiae tabula... Gedani, 1650 і інш.

[4] Крыніцы па гісторыі Беларусі, апублікаваныя ўжо ў XVII–XVIII стст., прадстаўлены ў выданнях: Белоруссия в печати XVII столетия: Библиогр. указ. на иностр. яз. / Составитель М.А.Василевская. Мн., 1985; Белоруссия в печати XVIII столетия: Библиогр. указ. на иностр. яз. / Составитель М.А.Василевская. Мн., 1985.

РАЗДЗЕЛ 1

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

ГЛАВА 1

## ЭКАНАМІЧНАЕ І ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

### 1. Эканамічны ўздым

**Сельская гаспадарка і вясковыя промыслы.** Эканамічнае жыццё краіны ў канцы XVI – першай палове XVII ст. праходзіла пад уплывам дзвюх важнейшых падзей, якімі былі завяршэнне ў 1583 г. разбуральнай Лівонскай вайны з Маскоўскай дзяржавай і прыняцце ў 1588 г. асноўнага закона дзяржавы – Трэцяга Статута ВКЛ. Ён адмяняў нявыгадныя для Княства палажэнні Люблінскай уніі і ўсталёўваў адзіныя на тэрыторыі ВКЛ і дакладна вызначаныя правілы дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Зразумела, што гэта станоўча паўплывала на стабілізацыю і рост эканомікі дзяржавы, у першую чаргу яе галоўнай галіны – сельскай гаспадаркі.

У гэты час сельская гаспадарка, якая заставалася асновай эканомікі краіны, перажывала пэўны ўздым, абумоўлены як пашырэннем сферы таварна-грашовых адносін, ростам попыту на сельскагаспадарчую прадукцыю на ўнутраным і знешнім рынках, так і завяршэннем у асноўным аграрнай рэформы, распачатай яшчэ ў папярэднім стагоддзі. Фальваркі, створаныя на захадзе і ў цэнтры, пачалі даваць прыбытак. Так, даход Кобрынскай эканоміі ў 1597 г. складаў 11 тыс. злотых, а ў 30-я гг. XVII ст. – ужо 47 тыс. злотых[1]. Такое ж становішча назіралася і ў многіх іншых маёнтках.

На ўсходзе Беларусі якраз у гэты час пачалося больш актыўнае правядзенне аграрных пераўтварэнняў, у тым ліку і перамер зямлі. Раней гэта не рабілася, бо ішла вайна з Маскоўскай дзяржавай і некаторыя землі былі заняты яе войскамі, а для іншых зямель такая пагроза існавала. Трэба адзначыць, што аграрныя пераўтварэнні на ўсходзе мелі свае асаблівасці. Хаця і тут, як на захадзе і ў цэнтры, у многіх уладаннях ствараліся фальваркі, але фальваркова-паншчынная сістэма не стала пераважаючай. Як у дзяржаўных уладаннях, так і ў некаторых прыватных і царкоўных маёнтках асноўнай павіннасцю сялян сталі грашовая рэнта (чынш) і розныя віды даніны[2]. Феадалы выбіралі кожны раз і ў кожным асобным выпадку лепшы для іх спосаб гаспадарання, які б прыносіў найбольшы прыбытак. Менавіта гэта, а не паўсюднае стварэнне фальваркаў і перавод сялян на паншчыну, было асноўнай мэтай рэформы. Акрамя таго, што была ўведзена стандартная адзінка вымярэння зямлі і абкладання павіннасцямі – валока (на ўсходзе блізкая па памерах да валокі служба), былі таксама вызначаны і замаца-

---

[1] *Пичета В.И.* Аграрные реформы в восточных областях Литовско-Русского государства во второй половине XVI и в начале XVII в.//Белоруссия и Литва XV – XVI вв. М., 1961. С.124.

[2] *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XV – XVIII стст. Мн., 1992. С.56, 67, 77–78, 85–87.






Геаграфічная шкала для складання карты мясцовасці.
З рукапіснай кнігі XVI ст.

ваны асноўныя напрамкі эканамічнага развіцця ў пэўных рэгіёнах ці нават асобных уладаннях. К сярэдзіне XVII ст. усталяваліся дзве асноўныя формы гаспадарання на зямлі: заснаванне фальваркаў і ўвядзенне паншчыны ў якасці асноўнай павіннасці за карыстанне надзелам, а таксама перавод сялян на грашовую рэнту. Гэтыя тэндэнцыі адзначаліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Разам з тым нельга не адзначыць важную ролю фальварка ў арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці ў разглядаемы час ва ўсіх відах феадальных уладанняў, асабліва на захадзе і ў цэнтры Беларусі. Вынікам аграрнай рэформы былі ўдасканаленне арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, павышэнне прадукцыйнасці працы. Першая палова XVII ст. стала часам далейшага павелічэння плошчы ворных зямель, росту вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі[1].

---

[1] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI – XVIII вв. С.27.




Вёска Бранчыцы. З плана 1682 г.

З развіццём таварна-грашовых адносін адбывалася пашырэнне неземляробчых заняткаў у сельскай мясцовасці і ў першую чаргу рамесніцкай дзейнасці. Першапачатковая разавая рамесніцкая праца "на сябе" ці тэрытарыяльна абмежаваная вытворчасць – на сваю вёску паступова перарастала ў пастаянны занятак, які станавіўся галоўным у дзейнасці сельскага жыхара і прыносіў яму асноўны даход. Наяўнасць рамеснікаў пэўных спецыяльнасцей адзначаюць практычна ўсе інвентары вёсак і феадальных маёнткаў. Дакументы ўліку грашовых сродкаў князёў Радзівілаў зафіксавалі ў розныя гады першай паловы XVII ст. больш за 100 рамесніцкіх прафесій, якія абслугоўвалі феадальныя маёнткі[1].

**Рост і ўзбуйненне гарадоў.** Становішча і роля гарадоў у дзяржаве і іх уплыў на палітычную і эканамічную сітуацыю заўсёды з'яўляліся паказчыкам агульнага эканамічнага стану. Менавіта гарады канцэнтравалі ў сабе рамяство і гандаль, аказвалі дзейсны ўплыў на развіццё культуры.

Першая палова XVII ст. з'явілася ў Беларусі часам хуткага развіцця гарадоў, якія сталі сапраўднымі цэнтрамі вытворчасці і гандлю, аказвалі рашаючы ўплыў на ўсе бакі жыцця грамадства.

У сярэдзіне XVII ст. на тэрыторыі Беларусі налічвалася не менш як 462 гарадскія паселішчы (у другой палове XVI ст. – 382)[2]. Яны адрозніваліся паміж сабой як па размяшчэнні, так і па велічыні і асноўных занятках насельніцтва. Сярод гарадскіх паселішчаў вылучаліся гарады і мястэчкі. Апошнія звычайна мелі невялікую колькасць насельніцтва (не больш за 300 дамоў) і з'яўляліся лакальнымі цэнтрамі невялікіх сельскагаспадарчых акруг. У колькасных адносінах мястэчкі пераважалі над гарадамі.

У разглядаемы перыяд гарады Беларусі выконвалі некалькі функцый: гаспадарчую, адміністрацыйную, культурную, ваенную. Акрамя таго, што кожнае гарадское паселішча з'яўлялася гандлёва-прамысловым цэнтрам рознай велічыні і значэння, некаторыя з іх мелі свае, адметныя ад іншых віды гаспадарчай дзейнасці. Так, Віцебск, Полацк, Слуцк, Пінск, Бабруйск і некаторыя іншыя былі буйнымі партовымі гарадамі, Нясвіж, Наваградак,

---

[1] *Копысский З.Ю.* Источниковедение аграрной истории Белоруссии. С. 64.

[2] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. С.9.

Орша, Шклоў, Капыль – цэнтрамі кірмашовага гандлю і г.д.[1] Гарады з'яўляліся адміністрацыйнымі цэнтрамі розных тэрытарыяльных адзінак – ад ваяводстваў да самых невялікіх войтаўстваў ці асобных уладанняў.

Некаторыя гарады мелі важнае ваеннае значэнне як памежныя крэпасці. Асабліва многа такіх гарадоў было ў месцах найбольшай небяспекі – на ўсходзе краіны. Гэта Полацк, Віцебск, Орша, Мсціслаў, Магілёў, Быхаў. Важнае месца ў абароне дзяржавы мелі Гомель, Бабруйск, Жлобін, Крычаў. Умацаванымі былі і іншыя гарады, напрыклад Мір, Нясвіж, Гародня, Пінск.

У першай палове XVII ст. не толькі з'явілася 80 новых беларускіх гарадоў, але павялічвалася колькасць жыхароў і ў асобных паселішчах. Насельніцтва гарадоў мела як натуральны прырост, так і павялічвалася за кошт прыезджых. Часта ў гарады і мястэчкі перасяляліся вясковыя рамеснікі, якія маглі на новым месцы больш зарабіць і хутчэй прадаць свае вырабы. Пастаяннай крыніцай павелічэння насельніцтва гарадоў было таксама перасяленне туды феадаламі сялян-рамеснікаў[2]. Вядомы і шматлікія факты ўцёкаў у гарады сялян ад сваіх уласнікаў. У 30–40-я гг. XVII ст. сярод судовых рашэнняў вышэйшага апеляцыйнага суда ВКЛ справы аб невыдаванні беларускімі гарадамі прыгонных сялян, якія ўцяклі туды, займаюць прыкметнае месца. За такія дзеянні да суда прыцягваліся Магілёў і Полацк (па 4 разы), а таксама Кобрын, Берасце, Дзісна, Орша, Мсціслаў, Чэрыкаў і інш.[3] Зразумела, што выпадкаў такіх уцёкаў было значна больш.

**Рамесніцкая вытворчасць і яе спецыялізацыя. Цэхі.** Першая палова XVII ст. характарызавалася хуткім развіццём гарадскога рамяства. У выніку падзелу працы і рамесніцкай спецыялізацыі ўзнікалі новыя прафесіі. Напрыклад, у Магілёве ў другой палове XVII ст. існавала 80 рамесніцкіх прафесій[4], у Берасце – да 68, Менску – 50, Полацку – 43, Клецку – 43, Копысі – 22. Часцей за ўсё ў буйных гарадах Беларусі налічвалася 50–80 рамесніцкіх спецыяльнасцей, а самі рамеснікі складалі не менш паловы жыхароў. У дробных гарадах і мястэчках, больш цесна звязаных з сельскай гаспадаркай, было менш як рамесніцкіх прафесій, так і саміх рамеснікаў.

Найбольш распаўсюджанымі былі традыцыйныя і самыя неабходныя ў жыцці асноўнай часткі насельніцтва прафесіі каваля, ганчара, краўца, шаўца, цесляра, бондара і інш. Пры гэтым разам з эканамічным уздымам узнікала неабходнасць у іншых прафесіях, нават па вырабу прадметаў раскошы, у тым ліку ювелірных упрыгожанняў.

Для абароны сваіх інтарэсаў гарадскія рамеснікі яшчэ з XVI ст. пачалі аб'ядноўвацца ў своеасаблівыя прафесійныя арганізацыі ці карпарацыі – цэхі. Захаваліся сведчанні аб існаванні 112 цэхаў у 16 гарадах Беларусі. Так, у сярэдзіне XVII ст. у Берасці існавалі 14 цэхаў, якія аб'ядноўвалі рамеснікаў 48 прафесій, у Віцебску – 8 цэхаў і столькі ж прафесій, у Гародні – 6 цэхаў і 25 прафесій, у Менску – 9 і 32, у Магілёве 21 і 62, у Полацку 7 і 19, у Слуцку 17 і 27 цэхаў і прафесій[5].

Для таго каб стварыць цэх, патрэбна была пэўная колькасць рамеснікаў. Калі людзей было мала, то часта ствараліся аб'яднаныя цэхі, напрыклад ка-

---

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. С. 11–12.

[2] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. Мн., 1988. С. 23.

[3] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI – XVII вв.). Мн., 1996. С. 39.

[4] Там жа. С. 30.

[5] Там жа. С. 89.

валёў і ліцейшчыкаў, саладоўнікаў і піваvараў і г.д. Кожны цэх меў свой статут, які звычайна зацвярджаўся магістратам. Адным з самых галоўных прынцыпаў беларускіх цэхаў было прымусовае членства. Тых рамеснікаў, якія не ўваходзілі ў склад цэха, а працавалі падпольна, называлі "партачамі" і, калі выяўлялі, то каралі штрафам і канфіскацыяй выробленых рэчаў. Цэхі змагаліся за кантроль не толькі над вырабам прадукцыі, але над яе збытам, не дапускаючы на ўнутрыгарадскі рынак прадукцыю, выробленую па-за межамі горада. Такім чынам, цэхі з'яўляліся арганізацыямі, якія, з аднаго боку, гарантавалі якасць прадукцыі і адказнасць за яе, а з другога – станавіліся тормазам у развіцці рыначных адносін.

**Роля гарадоў ва ўнутраным гандлі.** Развіццё гарадскога рамяства суправаджалася пашырэннем гандлёвых адносін унутры краіны. У гарадах узрастала колькасць купцоў. Кожны горад меў свой рынак, дзе гандаль адбываўся штодзень. Кожнае мястэчка, кожны горад з'яўляўся цэнтрам сваёй, хоць часта і невялікай гандлёвай акругі. Буйныя гарады звычайна мелі моцныя эканамічныя сувязі паміж сабой. Так, магілёўскія купцы вялі гандаль з Віцебскам, Менскам, Полацкам, Гародняй, Берасцем, Слуцкам, Слонімам, Наваградкам, Оршай, Ігуменам і іншымі (усяго 32 беларускімі гарадамі), але асабліва з гарадамі і мястэчкамі, размешчанымі ў радыусе 10 міль ад Магілёва, у якіх магілёўскія купцы вызваляліся ад гандлёвых пошлін[1].

У XVII ст. усё больш актыўна выходзіць на гарадскі рынак беларускі селянін. І не толькі таму, што ў шэрагу выпадкаў ён не мог абысціся без тавараў, якія меў магчымасць набыць толькі на рынку. Селянін часта выступаў на рынку ў якасці прадаўца, каб здабыць грошы для сябе і для выплаты чыншу. Акрамя таго, вядомы выпадкі, калі феадалы, зацікаўленыя ў своечасовым атрыманні чыншу, не толькі падтрымлівалі гандлёвую ініцыятыву сваіх падданых, але нават і загадвалі ім прадаваць сваю прадукцыю на рынках. Так, уладальнік маёнтка Ражанка Лідскага павета аб'явіў аўторак воль-




Клецк. Гравюра пачатку XVII ст.

[1] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. С. 94.

ным ад усіх работ, таму што гэта "дзень гандлёвы". Стрэшынская ўстава 1618 г. забараняла сялянам тайны гандаль па-за рынкам, але патрабавала ў Стрэшын "на торгі ў прызначаныя дні ... адпраўляцца"[1].

У першай палове XVII ст. разам з актыўным развіццём рамесніцкай вытворчасці і гандлю ішоў і працэс фарміравання мясцовых і агульнадзяржаўнага рынкаў. Спрыяла гэтаму існаванне агульнадзяржаўнай грашовай сістэмы, агульнага заканадаўства. Стрымліваючым фактарам была пэўная феадальная адасобленасць, а ў некаторых выпадках нават забарона гандляваць не ў сваім горадзе.

**Знешні гандаль.** Найбольш актыўныя гандлёвыя адносіны беларускае купецтва мела з суседнімі краінамі – Польшчай, Маскоўскай дзяржавай, балтыйскімі гарадамі. Найбольш поўнай крыніцай, якая дае адказ на пытанне, якімі таварамі і з кім гандлявалі беларускія гарады ў замежжы, з'яўляюцца мытныя кнігі[2]. Гродзенскія мытныя кнігі за 1600 і 1605 гг., Полацкая за 1616 г., Брэсцкая за 1605 г., Віленская за 1616 г. адлюстроўваюць гандлёвыя сувязі беларускіх гарадоў Менска, Берасця, Гародні, Полацка, Віцебска і іншых з польскімі гарадамі Люблінам, Познанню, Гнезна, Торунем, Варшавай і іншымі, а таксама з балтыйскімі гарадамі Круляўцом і Рыгай[3]. Беларускія купцы дастаўлялі ў Польшчу ў асноўным фрукты, скуры і вырабы з іх, а прывозілі адтуль тканіну, метал і металічныя вырабы. У Прыбалтыку вывозілі зерне, пяньку, лён, паташ, а прывозілі скуры, соль, селядцы, сукно. Найбольш актыўна гандаль з прыбалтыйскімі гарадамі праводзіўся па Нёману і Дзвіне[4].

Усходнія гарады Беларусі больш цесны гандаль вялі з гарадамі суседняй Маскоўскай дзяржавы[5].

Такім чынам, у кароткі перыяд, які Вялікае княства Літоўскае змагло пражыць без войнаў, адбыўся значны эканамічны рост ва ўсіх галінах гаспадаркі.

## 2. Беларусь у інтэрвенцыйнай вайне Рэчы Паспалітай 1604–1618 гг.

**З'яўленне самазванца і планы караля.** У 1604 г. пры двары князёў Вішнявецкіх на Украіне з'явіўся Грышка Атрэп'еў, які разам са сваімі прыхільнікамі пачаў распаўсюджваць чуткі, што ён – малодшы сын маскоўскага цара Івана IV, цудам ацалелы Дзмітрый. У Вялікім княстве Літоўскім спачатку не надавалі гэтаму ўвагі, але, калі самазванец заняўся вярбоўкай войска, шляхта Рэчы Паспалітай занепакоілася. Ніхто з сенатараў не наладжваў з ім кантакты, ніхто, відаць, і не ўспрымаў сур'ёзна версію аб яго царскім паходжанні. Вялікі канцлер каронны Ян Замойскі раіў каралю прыбраць фальшывага Дзмітрыя з памежжа, схаваць яго дзе-небудзь,

---

[1] *Копысский Б.З.* Рыночные связи крестьянского хозяйства в конце XVI – первой половине XVII в.// Сельское хозяйство: история, современный опыт и перестройка. Мн., 1988. С. 32–33.

[2] *Мелешко В.И.* Новые белорусские таможенные книги первой половины XVII в.// Исторический архив. 1960. № 4. С. 202–203.

[3] Там жа. С. 203.

[4] *Мелешко В.И.* К вопросу о состоянии экономики Белоруссии и Литвы в конце XVIII в.// Советское славяноведение. 1969. № 2. С. 73; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 313-328.

[5] *Мелешко В.И.* Новые белорусские таможенные книги первой половины XVII в.// Исторический архив. 1960. № 4. С. 203.



"Дзмітрый", Марына і ваявода сандамірскі Мнішак. Паводле гравюры А.Аляшчынскага

каб не дайшло да канфлікту з Масквой. Аднак Жыгімонт Ваза звязаў са з'яўленнем самазванца свае палітычныя планы.

У тыя гады польскі кароль Жыгімонт III вёў барацьбу за страчаную карону Швецыі. Пры адчувальным недахопе сіл і саюзнікаў ён ваяваў у Лівоніі, саюзнікаў не меў, нават Данія і ганзейскія гарады ўхіліліся ад гэтага. Яшчэ больш ускладняла сітуацыю збліжэнне Швецыі з Маскоўскім царствам. Урад цара Барыса Гадунова не прыняў прапанову аб заключэнні саюза з Рэччу Паспалітай. Менавіта ў самазванцы як альтэрнатыве Гадунову кароль бачыў патэнцыяльнага саюзніка. З'явіўся план каранаваць Дзмітрыя ў Маскве з умовай, што пасля гэтага той пачне вайну разам з Расіяй супраць Швецыі. Трэцім членам альянсу меўся быць брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых, якому Жыгімонт III паабяцаў прускі лен. Кароль задумаў аб'яднаць Рэч Паспалітую і Швецыю ў руках аднаго законнага і сапраўднага ўладара, якім лічыў сябе. Так на самым пачатку гісторыі з самазванцамі вырашальным фактарам сталі ўласныя інтарэсы манарха, яго непамерныя амбіцыі.

Найперш кароль вырашыў высветліць, які настрой у шляхты. У 1604 г. ён выказаў думку аб тым, што як саюзнік самазванец мог бы прынесці карысць Рэчы Паспалітай, дапамог бы адваяваць землі ў Лівоніі. Аднак у падтрымку актыўнай маскоўскай палітыкі не прагучала ніводнага голасу. У 1604 г. ні ў Кароне, ні ў Княстве ніхто не падтрымаў ідэю экспансіі. Наадварот, супраць яе выступілі як сенатары, так і шляхта. Галоўны з'езд шляхты ВКЛ у Дзевяткавічах пастанавіў ва ўсім захоўваць мір з Масквой[1]. Нягледзячы на гэта, манарх вясной 1604 г. запрасіў самазванага цара на аўдыенцыю ў Кракаў. Там з Атрэп'евым, які таемна прыняў каталіцтва, размаўляў і папскі нунцый Рангоні. З таго моманту ва ўсёй "дзмітрыядзе" прасочваюцца закулісныя інспірацыі езуітаў.

У кастрычніку 1604 г. Дзмітрый I з войскам увайшоў з Украіны на тэрыторыю Маскоўскага царства. Перад гэтым украінскі магнат Януш Астрожскі пагражаў сілай спыніць рух самазванца, сабраў каля Дняпра войска, аднак пабаяўся праліваць кроў, бо ў абозе самазванца быў сенатар Юрый Мнішак. Ні каронная армія, ні войска ВКЛ у пачынаннях Дзмітрыя I не ўдзельнічалі. Пры дапамозе Мнішка і пад апекай караля той навербаваў каля 2 тыс. найміту, сярод якіх апынуўся і нязначны аддзел шляхты з Беларусі. У цэлым задума была чыста прыватнай справай асоб, набліжаных да двара. Яе не прымалі ў шырэйшых дзяржаўных колах. У студзені 1605 г. на варшаўскім сейме сенатары яс а выказаліся за мір з Масквой. Асабліва рэз-

[1] *Maciszewski J.* Polska a Moskwa: 1603–1618. Warszawa, 1968. S.63.

ка крытыкаваў караля каронны канцлер Ян Замойскі. Яго падтрымаў і Леў Сапега, які папракаў Мнішка і гаварыў, што не верыць у паходжанне Атрэп'ева[1], а князь Януш Астрожскі ўжо тады патрабаваў, каб сейм пакараў вінаватых.

**Пазіцыі беларускай шляхты.** Тым часам беларуска-літоўская шляхта баялася нападу з Масквы. Уварванне з усходу магло быць адказам на ўдзел ахвотнікаў у авантуры Дзмітрыя I. Не выключана таксама, што ў Вялікім Княстве стала вядома пра планы цара Гадунова, які ў жніўні 1604 г. праз аўстрыйскага пасла перадаў у Вену грамату з праектам супольнай барацьбы Маскоўскай дзяржавы, Габсбургаў, Малдавіі і Сямігароддзя супраць Рэчы Паспалітай[2]. Планавалася разам пасадзіць у Варшаве эксгерцага Максімільяна, які меў намер потым ажаніцца з дачкой Гадунова, а ВКЛ інкарпараваць у склад Маскоўскага царства. Увосень 1604 г. пры двары Гадунова актыўна рыхтаваліся да вайны: ісці ў "літоўскі паход" было прапанавана нагайскім татарам, супольныя ваенныя дзеянні абмяркоўваліся з Крымам, а ў Еўропе маскоўскі дыпламат ужо тлумачыў, што цар не вінаваты ў парушэнні мірнай дамовы, што адказнасць за вайну кладзецца на Жыгімонта Вазу.

Адчуванне небяспекі ў ВКЛ было настолькі значным, што ў 1605 г. Крыштаф Радзівіл заклікаў хутчэй сабраць паспалітае рушанне: маўляў, непрыяцель не будзе такі смелы, "калі пачуе пра гатоўнасць нашу". Шляхта паспела прыняць ужо і ўхвалу аб мабілізацыі, але збіраць войска не спатрэбілася: пасля смерці Гадунова Дзмітрый I увайшоў у Маскву і стаў царом. Наступіла пэўнае супакаенне, спадзяванне на стабілізацыю ўсходняй мяжы. Пасля ад ВКЛ і Кароны ў лютым 1606 г. павезлі да новага маскоўскага цара праект "вечнага злучэння" Расіі і Рэчы Паспалітай, усе асноўныя ўмовы якога былі запазычаны з вядомага праекта 1600 г., з якім ездзіў у Маскву Леў Сапега.

На вальным сейме ў Варшаве ў 1606 г. ніводзін павет не выказаў анексійных пастулатаў, ідэя саюзу з Масквой не выклікала сумнення. Леў Сапега, дарэчы, гаварыў пра магчымую небяспеку і з боку Маскоўскага царства, а не толькі ад Швецыі. Аднак ніякіх планаў заваявання ці хоць бы экспансіі ў шырокіх колах шляхты не існавала. Праблему самазванца зноў абвастрыла майскае паўстанне ў Маскве ў 1606 г., у час якога цар Дзмітрый і сотні яго наймітаў загінулі, многа палякаў трапіла ў палон. У Рэчы Паспалітай гэта падштурхнула да актыўнасці і прыхільнікаў палітыкі караля, якія загаварылі пра знешнюю пагрозу для Польшчы, і апазіцыю, што крытыкавала ўлады за ўдзел у авантуры. Кароль жа са снежня 1606 г. адкрыта выступаў з антымаскоўскай агітацыяй, хоць і не знаходзіў падтрымкі з боку шляхты.

**Ад агітацыі да інтэрвенцыі.** Да сур'ёзных зрухаў у настроях шляхты дайшло ў 1607 г., калі каралю Жыгімонту III удалося разграміць галоўны лагер апазіцыі – рокаш Зебжыдоўскага. Пасля прайгранай ракашанамі бітвы пад Гузавам у Рэчы Паспалітай засталося мноства груп неаплачаных, непадпарадкаваных дзяржаве жаўнераў. Амаль усе сеймікі ў 1607–1608 гг. ставілі праблему "свавольнага жаўнера", што звалiўся на галовы шляхты. Узброеных і галодных людзей трэба было кудысьці ўладкаваць. І тут выправа бачылася выйсцем. Пэўную ролю адыграў таксама распрапагандаваны дваром лозунг прэвентыўнай вайны. Прыхільнікі караля (рэгалісты) спадзяваліся

[1] *Strzelecki A.* Sejm z roku 1605. Kraków, 1921. S.19 і далей.

[2] *Leitsch W.* Moskau und die Politik des Kaiserhofs im XVII. Jahrhundert. Bd.1. 1604–1654. Graz-Köln, 1960. S. 26–27.



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт III Ваза

эфектыўнай вайной кансалідаваць расколатую шляхту вакол Жыгімонта Вазы. Да таго ж у 1606–1607 гг. у Рэч Паспалітую пачалі прыходзіць звесткі, што частка маскоўскіх баяр жадае ўзвесці на царскі трон прадстаўніка польскай каралеўскай сям'і[1]. У прыватнасці, Іван Безабразаў яшчэ ў студзені 1606 г. перадаў у Кракаве, што баяры прагнуць, каб на пасад сеў каралевіч Уладзіслаў.

На вальным сейме 1607 г. частка сенатараў ужо прыняла план вайны, але з найвышэйшых ураднікаў ВКЛ яго падтрымаў бадай адзін маршалак Крыштаф Дарагастайскі. З іншага боку, прынятая канстытуцыя ВКЛ абавязвала ваявод, стараст і ўсю шляхту не дапускаць ваенных выпраў свавольных людзей на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы, пагражаючы суровай карай арганізатарам такіх акцый[2]. Тады і актуалізавалася справа Самазванца II, новага "цудам уратаванага" цара Дзмітрыя, які перайшоў мяжу і з'явіўся ў Старадубе ў чэрвені 1607 г. У Маскоўскай дзяржаве яшчэ палыхала сялянская вайна Балотнікава. Пасля паражэння пад Масквой паўстанцы ўсё больш спадзяваліся на дапамогу Рэчы Паспалітай. Нават пасла да караля накіравалі, каб разам выступіць супраць урада цара Васіля Шуйскага.

Не атрымаўшы дапамогі афіцыйна, яны шукалі яе прыватным чынам. Асабліва настойліва запрашалі шляхту з Беларусі. З канца 1606 г. да восені 1607 г. ад імя цара Дзмітрыя з просьбай прысылаць "людзей рыцарскіх" праціўнікі Шуйскага звярнуліся да ўлад Мсціслава, Оршы, Крычава, Менска і іншых беларускіх гарадоў. Абяцалася высокая плата – "великое жалованье, чего у вас и на разуме нет". Дзмітрый II таксама рассылаў лісты "да ротмістраў зямлі літоўскай і таварышаў іх", абяцаючы ў тры разы большую плату, чым у ВКЛ і Кароне. Да лета 1608 г. у яго сабралася 5 тыс. жаўнераў і намнога большая колькасць казакаў. Але наймітаў у лагеры Дзмітрыя II, які знаходзіўся ў Тушына каля Масквы, было значна менш, чым самой "масквы"[3]. Шляхта не выяўляла асаблівага жадання ваяваць. Так, Ян Пётр Сапега, які прывёў да самазванца свой аддзел, пісаў, што ў Беларусі вярбоўка ахвотнікаў давалася цяжка, а на Берасцейшчыне яму наогул перашкаджалі. Лідэр дысідэнтаў Януш Радзівіл выказваўся, што з ракашанаў наўрад ці хто пайшоў да самазванца. Паказальнымі да тагачаснага ўспрыняцця ўсёй выправы на Маскву можна лічыць словы беларускага летапісца, які адзначыў, што да самазванца збіраецца "люд гулящий, люд свовольный..., то и молодцы: якийсь наймит з Мстиславля до него пришол"[4].

[1] *Флоря Б.Н.* Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI – начале XVII в. М., 1978. С. 273–274.

[2] Volumina Legum. Т.4. S.1629–1630.

[3] *Скрынников Р.Г.* Смута в России в начале XVII в. Л., 1988. С. 208.

[4] Баркулабовская летопись//ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 192.

У канцы 1608 г., падчас сеймікавай кампаніі, кароль імкнуўся дамагчыся калі не прыхільнасці шляхты да планаў экспансіі, дык хоць бы яе нейтральнасці. У разасланай інструкцыі ён абяцаў, што без згоды сейма не распачне ніякіх дзеянняў. Але з наказаў, атрыманых на сейміках пасламі, вынікала, што яго ідэі ўспрыняла нязначная частка шляхты, і то пераважна ў Кароне. У ВКЛ большасць выказалася супраць. З уплывовых асоб прапагандыстам вайны стаў бадай адзін віленскі біскуп Бенядзікт Война. Таму Жыгімонт Ваза не адважыўся вынесці сваю задуму на вальны сейм 1609 г. Справа была вырашана на тайнай нарадзе сената. Леў Сапега потым трапна адзначыў, што менавіта "ціхія каморныя нарады ... нарадзілі гэтую вайну".

**Першы паход і вяртанне Смаленска**. Ваенныя зборы адразу сутыкнуліся з крытыкай самой праграмы інтэрвенцыі. Істотна, што з крытыкай выступалі прадстаўнікі розных палітычных лагераў – Станіслаў Жулкеўскі, Ян Хадкевіч, Януш Радзівіл. Але, не спяшаючыся, быццам яшчэ ўзважваючы, Жыгімонт Ваза ў жніўні 1609 г. з войскам перайшоў маскоўскую мяжу. Пры гэтым ён дэклараваў, што ідзе дзеля таго, каб прадухіліць "небяспеку ад Масквы і Швецыі, між сабою звязаных". Ці гэта нешта значыла, ці было простай дэмагогіяй дзеля апраўдання інтэрвенцыі? Яшчэ ў сакавіку 1609 г. цар Васіль Шуйскі падпісаў у Выбаргу трактат аб вечным міры з Карлам IX, у якім фармулявалася праграма ваеннага саюзу супраць Рэчы Паспалітай. Шуйскі ўжыў тады тытул князя Полацкага, выявіўшы план барацьбы за землі, якія па Ям-Запольскаму міру адышлі да ВКЛ. Швецыя паабяцала ва-




Аблога Смаленска. Гравюра Г.Келера. 1610 г.

енную дапамогу – 5 тыс. жаўнераў. Выглядае, што кароль фармальна меў падставу гаварыць пра небяспеку для Рэчы Паспалітай.

Без належнай падрыхтоўкі, без дастатковых сіл (бо пад Смаленск прыйшоў з 15 тыс.), без яснай стратэгіі дзеянняў (праграмы не меў, праўдападобна – проста імкнуўсяператварыць варожую дзяржаву ў патэнцыяльнага саюзніка), у парушэнне законаў сваёй дзяржавы, каралём была развязана афіцыйная (раней яна мела прыватны характар) вайна Рэчы Паспалітай з Маскоўскім царствам. Калі войска Жыгімонта Вазы падышло да Смаленска і аблажыла яго, узнікла супрацьстаянне паміж абозам караля і тушынскім лагерам самазванца. Доўга вяліся напружаныя перагаворы. Дзмітрый II прасіў не зрываць "жніва" тушынцам, помніць пра маладых шляхціцаў і іх старых бацькоў, якія "сядзяць на адным загоне" і чакаюць высланых да Масквы дзяцей, спадзеючыся хоць неяк паправіць сваё эканамічнае становішча[1].

Аблога Смаленска моцна зацягнулася, і калі нават кароль і гетман засумняваліся ў поспеху, з Масквы на іх рушыла 35-тысячная армія Дзмітрыя Шуйскага. Але дзівосная перамога Жулкеўскага пад Клушынам радыкальна змяніла сітуацыю. Як прыхільнік уніі, а не анексіі, каронны гетман знайшоў разуменне з баярскай думай і пад Царовам паміж імі была падпісана дамова. Баяры самі дамагліся, каб Жулкеўскі ўвёў у Маскву свой гарнізон і ліквідаваў тушынскі лагер. У жніўні 1610 г. баярскі ўрад, дваранскае войска і маскоўскі пасад падпісалі з Жулкеўскім другое папярэдняе пагадненне аб злучэнні дзяржаў[2]. Дзякуючы яго ваенным і дыпламатычным поспехам каралевіч Уладзіслаў быў абраны на маскоўскі трон[3]. Гетман заклікаў караля і сенат адмовіцца ад праграмы анексіі і не здабываць сілай Смаленск, аднак Жыгімонт III застаўся пры сваіх планах. Таму, калі ў Маскве ўспыхнула паўстанне, Жулкеўскі адмовіўся ісці туды па загаду караля і пакінуў смаленскі лагер.



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV Ваза

У чэрвені 1611 г. пасля амаль двухгадовай аблогі Смаленск быў узяты штурмам. На хвалі трыумфу манарх патрабаваў ад станаў Рэчы Паспалітай новых сродкаў, каб скончыць вайну пераможна. Але з усіх сеймікаў ВКЛ толькі віленскі захапіўся поспехам караля. Астатнія ў інструкцыях паслам выказвалі вострыя перасцярогі і заўвагі. У дні трыумфатарскага сейма 1611 г. у пасольскай "ізбе" паслы амаль усіх сеймікаў выказалі занепакоенасць тым, што вайна была распачата без згоды станаў (хоць пры гэтым і дзя-

---

[1] *Maciszewski J.* Polska a Moskwa 1603–1618. S. 192–197.

[2] *Prochaska A.* Hetmana Zólkiewskiego traktat pod Moskwą 1610 r.// Kwartalnik Historyczny. T.13 (1911). S.153–166, 285–300

[3] *Zólkiewski S.* Początek i progres wojny moskiewskiej. Oprac. J. Maciszewski. Warszawa, 1966. S.141 і далей.

кавалі каралю за тэрытарыяльны набытак). Ухвалу (пастанову) аб падатках паставілі на галасаванне ў момант, калі ў пасольскай "ізбе" не было і паловы дэпутатаў, – і яна прайшла. У выніку былі ўхвалены два паборы на працяг вайны, хоць пры гэтым адзначалася, што прыярытэтным спосабам дзеянняў павінны быць перагаворы[1].

Аднак ухваліць падаткі яшчэ не значыла іх сабраць. Да 1643 г. 11 паветаў з тэрыторыі сучаснай Беларусі так і не выплацілі спецыяльнага пабору.

У канцы 1611 г. у Варшаве з'явіліся паслы з Масквы, якія прасілі выдаць ім каралевіча Уладзіслава, у выніку чаго магла быць скончана вайна і акупацыя, але кароль не прыняў прапановы, бо хацеў сам заняць маскоўскі пасад. Праз год пад Смаленскам упаўнаважаныя баярскай думы выставілі ўжо непрымальныя для Рэчы Паспалітай умовы. Цяпер каралевіч Уладзіслаў павінен быў прыняць праваслаўе, а Маскоўскае царства мусіла захаваць тэрытарыяльную цэласнасць, г.зн. застацца са Смаленскам і Севершчынай.

**Другі паход і страта ініцыятывы.** Польскі гарнізон у Маскве неўзабаве апынуўся ў аблозе і цярпеў страшэнны голад[2]. Сенатары пачалі гаварыць каралю, што адзіны выхад з гэтай сітуацыі – выдаць Маскве каралевіча. Толькі тады Жыгімонт III прыняў гэты план і летам 1612 г. на чале двух палкоў разам з сынам Уладзіславам рушыў у другі паход да Масквы. Леў Сапега на гэты конт адзначыў: "Не ведаю, дзеля чаго... Цяпер трэба больш рупіцца, як Польшчу захаваць, а не як Маскву здабываць". Па дарозе пасольствы многіх расійскіх гарадоў прысягалі Уладзіславу як абранаму цару. Аднак да сталіцы кароль дайсці не паспеў – 6 лістапада 1612 г. крамлёўскі гарнізон капітуляваў. Частка жаўнераў трапіла ў вязніцы, частка пайшла ў Рэч Паспалітую, прыхапіўшы маскоўскія скарбы. Павярнула назад і каралеўскае войска, якое яшчэ даганялі пасланцы маскоўскай апазіцыі. Яны прасілі каралевіча Уладзіслава хутчэй вяртацца і задаволіць толькі дзве ўмовы – перайсці ў праваслаўе і пакінуць непарушнымі межы царства. Але кароль і каралевіч, адчуваючы паражэнне, праз Беларусь вярталіся ў Польшчу.

Тым часам край запаланілі каманды неаплачаных жаўнераў, якія стваралі канфедэрацыі, каб сілай вымагаць грошы ў дзяржавы ці адбіраць іх у насельніцтва. Асабліва цяжкім для Беларусі быў 1613 г. Пра настроі канфедэратаў сведчыць такі выпадак: аднойчы, пабачыўшы маляваную выяву караля, раззлаваныя жаўнеры прастрэлілі яму вочы. Сеймавыя кампаніі праходзілі пад дыктат канфедэратаў. Іх было чатыры групоўкі: "сталічныя" (полк Збароўскага), "сапежынцы" з войска Яна Сапегі, ад якіх і цярпела галоўным чынам Беларусь, "смаленскія" і былая лівонская дывізія Хадкевіча, якая знаходзілася пад Менскам і пагражала паходам на Вільню. У лютым 1613 г. на вальным сейме, крытыкуючы палітыку ўлад, усе паслы ад ВКЛ патрабавалі выкрыць прозвішчы арганізатараў вайны і прыцягнуць іх да адказнасці. Аднак не адобрыць новых падаткаў было нельга, бо дайшло б да грамадзянскай вайны і поўнага хаосу. Большасць сеймікаў ВКЛ прыняла меншую колькасць пабораў, чым патрабавалі рэгалісты (прыхільнікі караля). Паслы ад ВКЛ дамагаліся ўмацавання замкаў Беларусі, найперш Полацка, які знаходзіўся ў асаблівай небяспецы, але адказ быў адмоўны. Ка-

---

[1] *Byliński J.* Sejm z roku 1611. Wrocław, 1970. S.142 і далей.

[2] *Budziłło J.* Wojna moskiewska wzniecona i prowadzona z okazji fałszywych Dymitrów od 1603 do 1612 r. Oprac. J.Byliński i J.Długosz. Wrocław, 1995. S.144–146 і далей.



Гусары з картэжу Жыгімонта III Вазы. Выява 1606 г.

ронны падканцлер Фелікс Крыцкі тлумачыў, што ў такой цяжкай сітуацыі для дзяржавы "лепш няхай загіне адзін павет, чым маем загінуць усе"[1].

Становішча Рэчы Паспалітай было сапраўды настолькі цяжкім, што нават прызначаныя падаткі немагчыма было сабраць, бо рэквізіцыяй займаліся каманды свавольных жаўнераў. Хутка стала зразумела, што трэба рабіць новыя паборы. Спецыяльна дзеля гэтага, каб вывесці краіну з тупіка, у снежні 1613 г. у Варшаве быў скліканы першы ў гісторыі Рэчы Паспалітай надзвычайны сейм, які займаўся толькі пытаннямі фінансаў.

"Русь панесла страты, якіх не ведала ўжо 200 гадоў", – было адзначана на гэтым сейме[2]. Тым часам асабліва цярпелі ўсходнія землі ВКЛ. Атрады казакаў, што ўрываліся на тэрыторыю Беларусі, колькасна дасягалі 20 тыс. Смаленск быў атакаваны маскоўскім войскам, і яго гарнізон мусіў абараняцца без належных сіл і зусім без правіянту. У край прыйшло яшчэ 4 тыс. галодных і прагных канфедэратаў, якія рабавалі ўсё, што бачылі. У пачатку 1614 г. у Паўночную Беларусь уварвалася войска новаабранага маскоўскага цара. Шляхта патрабавала склікаць у Вільні з'езд (канвакацыю), каб ладзіць абарону і самастойна шукаць нейкага паратунку. Асабліва характэрны па настроі ліст шляхты Аршанскага павета, падпісаны 30 асобамі, сярод якіх Ян, Геранім і Аляксандр Хадкевічы, Аляксандр Сапега, Мікалай Глябовіч і іншыя вядомыя асобы. Яны сцвярджалі, што пад уладай Жыгімонта III Вялікае княства Літоўскае было цалкам разбурана, і нават невядома, ці можна разлічваць на дапамогу і абарону манарха. Аршанскія шляхціцы спраўна плацілі падаткі на абарону межаў дзяржавы са сваіх уладанняў, але гэта не гарантавала іх бяспекі. Прычынай усіх бед трэба лічыць паход караля на Маскоўскае царства – адзначалася ў іх пасланні, бо межы дзяржавы адкрытыя і "вораг можа беспакарана паліць вёскі і гарады, забіваць і вывозіць у палон

[1] *Byliński J.* Dwa sejmy z roku 1613. Wrocław, 1984. S. 76.

[2] Там жа. S. 202.

людзей". У гэтым незвычайным пасланні аршанская шляхта апелявала да абавязкаў манарха ў дачыненні да сваіх падданых і патрабавала арганізаваць абарону. Яна таксама папракала польскую шляхту, якая, маўляў, трымае рыцарства ВКЛ "не за братоў, а за нейкіх даннікаў" і нават не думае прыйсці на дапамогу[1].

Падобнымі настроямі была прасякнута ўся публічная карэспандэнцыя 1614 г. Іншым выразным акцэнтам грамадскай думкі тых гадоў стала апеляцыя да закона: патрабаванне спыніць незаконна распачатую вайну і пакараць яе арганізатараў. У лістах шляхта прасіла караля, каб той хутчэй скончыў вайну і ўмацаваў усходнюю мяжу.

**Апошні паход дзеля замірэння.** На 1615 г. урад склікаў чарговы сейм, які мусіў вырашыць пытанні з заканчэннем вайны, аднак ён быў сарваны. У перадсеймавай кампаніі сеймікі яшчэ вастрэй заклікалі пакараць арганізатараў інтэрвенцыі. Толькі ў 1616 г. удалося атрымаць згоду станаў на падаткі з мэтай выправы каралевіча Уладзіслава на Маскву. Але такая згода азначала зусім не падтрымку палітыкі караля: шляхта пайшла на гэта, каб скончыць вайну. Больш таго, як вынікае з дакументаў, шляхта Беларусі і Літвы так і не пагадзілася фінансаваць паход – на яго прызначаліся толькі грошы Кароны[2]. Характэрны прыклад: Януш Радзівіл даў сваіх 200 лепшых воінаў, але з абавязковай умовай, што яны не будуць выкарыстаны ў дзеяннях супраць Масквы.

Вясной 1617 г. галоўны з'езд шляхты ВКЛ ухваліў падаткі для Уладзіслава, але адзначыў пры гэтым, што "ўжо далей ВКЛ такога цяжару вайны Маскоўскай цярпець не зможа". Гэта быў трэці і апошні паход. Да выправы каралевіча Уладзіслава і гетмана Яна Хадкевіча далучыўся гетман Сагайдачны з 20 тыс. запарожскіх казакаў, а таксама полк "лісоўчыкаў" (лёгкая конніца, арганізаваная Аляксандрам Лісоўскім (1575–1616)). Увосень 1618 г. яшчэ была спроба штурмаваць Маскву, але дарэмна. Дэманстрацыя сілы падштурхнула царскі ўрад да замірэння. Масква не пажадала прымаць каралевіча Уладзіслава на трон, але на мір пайшла. У студзені 1619 г. гэта было зафіксавана Дэвулінскім пагадненнем, якое прадугледжвала замірэнне да 1633 г.



Вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч

Трэба яшчэ раз падкрэсліць, што інтэрвенцыя ў Маскоўскую дзяржаву ад пачатку была авантурай вузкага кола асоб каралеўскага двара, а найперш самога Жыгімонта III і ваяводы Мнішка. Яна ніколі не прымалася абсалютнай большасцю шляхты і магнатаў Вялікага Княст-

[1] Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Archiwum Radziwiłłów. Dz. II. Nr.607.

[2] *Filipczak-Kocur A.* Skarb litewski za pierwszych dwu Wazów, 1587–1648. Wrocław, 1994. S.72.

ва. У пастанове многіх шляхецкіх сеймікаў беларускіх паветаў у 1618 г. гаварылася, што яна "нам і айчыне нашай усялякае зло прынесла, з дастаткаў яго злупіла і да чужых народаў у ганьбу ўправіла"[1].

У цэлым супраць вайны быў палітычны народ усёй Рэчы Паспалітай. У XVII ст. гэта дзяржава не мела ніякіх намераў экспансіі на ўсход, а хутчэй дамагалася захаваць статус-кво. Нават кароль Жыгімонт III Ваза як галоўны ініцыятар інтэрвенцыі не выношваў планаў ліквідацыі Маскоўскага царства як дзяржавы. Распачатая ім вайна нарадзіла новыя глабальныя праблемы Рэчы Паспалітай: свавольнага жаўнера, дэцэнтралістычныя тэндэнцыі (стварэнне ваяводскіх скарбаў і павятовага войска), глыбокі недавер шляхты да цэнтральных улад і яе супраціўленне ўсялякім спробам рэфармаваць дзяржаўны лад[2].

# ГЛАВА 2
# РЭЛІГІЙНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

## 1. Рэфармацыя і контррэфармацыя

**Асаблівасці контррэфармацыі ў ВКЛ.** Палітычная дактрына контррэфармацыі ў Рэчы Паспалітай прадугледжвала ўзмацненне каралеўскай улады, што, несумненна, абмежавала б шляхецкія правы і вольнасці. Галоўны ідэолаг контррэфармацыі Пётр Скарга ў саюзе моцнай каралеўскай улады з каталіцкай царквой бачыў асноўны сродак умацавання Рэчы Паспалітай. На яго погляд, "ерэтык і каталік па-рознаму аб Рэчы Паспалітай думаюць". Аднак шляхта розных веравызнанняў успрымала мадэль абсалютысцкай дзяржавы як тып тыраніі, пагрозу сваёй вольнасці. Працэс кансалідацыі шляхты ў пачатку XVII ст. насіў пераважна станавы, а не веравызнаўчы характар. Шляхецкія правы былі абаронены старадаўнімі прывілеямі, замацаванымі заканадаўчымі актамі і Люблінскай уніяй 1569 г. Артыкулы Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г., уключаныя ў Статут ВКЛ 1588 г., нягледзячы на пэўную прававую недапрацаванасць, гарантавалі "розным у веры" роўныя правы, таму дыскрымінацыя пратэстанцкай шляхты расцэньвалася як замах на правы ўсяго стану. Гэта адзначаў і каталік Томаш Замойскі на сейме 1631 г.:"Няма асобнага права для каталіка, асобнага для некаталіка..."[3]

Гэтыя асаблівасці грамадска-палітычнага ладу абумовілі адносна кампрамісны характар контррэфармацыі ў ВКЛ у адрозненне ад іншых дзяржаў тагачаснай Еўропы. Ордэн езуітаў у сваёй дзейнасці быў вымушаны ўлічваць мясцовыя ўмовы – шматканфесійны склад насельніцтва, даўнія традыцыі рэлігійнай талерантнасці, шляхецкія прывілеі, якія забяспечвалі асабістую і маёмасную недатыкальнасць.

З 1603 г. у Кракаве пачаў выходзіць польскі індэкс кніг, забароненых у Рэчы Паспалітай (дагэтуль каталіцкія цэнзары карысталіся рымскім індэксам, першае выданне якога з'явілася ў 1559 г.). З агульнай колькасці забаро-

---

[1] *Maciszewski J.* Polska a Moskwa: 1603–1618. S. 305.

[2] *Ochman S.* Sejmy z lat 1615–1616. Wrocław, 1970. S. 212–213.

[3] Цыт. па: *Wisner H.* Walka o realizację konfederacji warszawskiej za panowania Zygmynta III Wazy// Odrodzenie i reformacja w Polsce. T. XIX. 1974. S. 131.

неных у 1603–1617 гг. кніг 30 % належала творам, надрукаваным на тэрыторыі ВКЛ. Індэкс уключаў імёны перакладчыкаў Берасцейскай Біблії 1563 г., творы Сымона Буднага, Андрэя Волана, Андрэя Фрыча Маджэўскага, Рыгора з Жарнаўца, Марціна Чаховіца, Мікалая Рэя, Яна Ліцынія Намыслоўскага, ананімную сатырычна-палемічную літаратуру. Характэрна пры гэтым, што творы забароненых аўтараў без перашкод друкаваліся ў ВКЛ і захоўваліся не толькі ў каталіцкіх манастырах з надпісам "ерэтыцкая кніга", але і ў тагачасных чытачоў[1].

Пэўныя карэктывы ў палітычную праграму езуітаў унеслі падзеі, звязаныя з рокашам (мецяжом) Зебжыдоўскага 1606–1607 гг., калі дайшло да ўзброенага канфлікту паміж шляхецка-магнацкай апазіцыяй, незадаволенай некаторымі аспектамі ўнутранай і знешняй палітыкі караля, і вярхоўнай уладай. На чале апазіцыі стаялі кракаўскі ваявода каталік Мікалай Зебжыдоўскі і падчашы ВКЛ кальвініст Януш Радзівіл. Большасць беларускай і літоўскай шляхты не прыняла актыўнага ўдзелу ў рокашы, падкрэсліваючы тым самым сваю дзяржаўную адасобленасць ад Польшчы:"Бо без нас пра нас нічога Вашы міласці вырашаць не павінны". Апазіцыя выступала пад лозунгам абароны "залатой вольнасці" перад пагрозай абсалютысцкіх тэндэнцый каралеўскай улады.

Прапанаваны на сейме ў сакавіку 1606 г. праект канстытуцыі, які прадугледжваў суровае пакаранне (нават смерцю) за ўдзел у рэлігійных пагромах, аднаўленне рэфармацыйных збораў і нават скасаванне Берасцейскай уніі пад уплывам каталіцкай іерархіі і прыдворных езуітаў, быў адхілены каралём. Гэты канфлікт справакаваў выступленне шляхты супраць вярхоўнай улады. Артыкулы, якія апазіцыя прад'явіла каралю, уключалі між іншым патрабаванні неадкладнага ўстаранення езуітаў з каралеўскага двара, а езуітаў-іншаземцаў – з Польшчы і ВКЛ. Ім дазвалялася застацца ў гарадах, дзе былі іх калегіі (Нясвіжы, Вільні і інш.)[2]. У асяроддзі ракашан (мяцежнікаў) нават выказваліся думкі аб адхіленні ад трона Жыгімонта III. Бакі не змаглі прыйсці да кампрамісу і 6 ліпеня 1607 г. пад Гузавам апазіцыя пацярпела цяжкае паражэнне ад каралеўскага войска. У хуткім часе ўдзельнікі рокашу былі амнісціраваны.



Жыгімонт III Ваза. Партрэт Я.Лаўруса

Пагроза братазабойчай вайны, вынікі якой можна было назіраць у іншых еўрапейскіх краінах (Францыі, Германіі, Нідэрландах), паскорыла працэс кансалідацыі шляхецкага стану і прывяла да ўмацавання каталіцтва. Езуіты ж пераканаліся,

---

[1] *Topolska M.B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984. S. 183.

[2] *Wisner H.* Rokosz Zebrzydowskiego. Kraków, 1989. S. 28.

што часам іх мэты і метады дзейнасці разыходзяцца з поглядамі і імкненнямі шляхты і былі вымушаны адмовіцца ад афіцыйнай падтрымкі праекта ўзмацнення каралеўскай улады[1]. Яны абвясцілі сябе абаронцамі шляхецкіх вольнасцей. Нават Пётр Скарга адзначаў у сваіх "Сеймавых казаннях": "Не такую манархію мы хвалім, якая ёсць у туркаў, татар і Маскве і якая не лічыцца з правамі. Але такую, якая абапіраецца на справядлівыя правы і мудрую раду..."[2]

Асноўную ўвагу езуіты скіравалі на місіянерскую і культурна-асветніцкую дзейнасць. У першай палове XVII ст. дзейнасць ордэна ахапіла ўсю Рэч Паспалітую. У 1608 г. польская правінцыя была падзелена на польскую і літоўскую (уключала ВКЛ і частку Польшчы, у тым ліку Мазовію з Варшавай). Першым яе правінцыялам стаў ураджэнец Слуцка Павел Бокша (у 1599–1602 гг. быў рэктарам Віленскай акадэміі), які шмат зрабіў для арганізацыі школьнай справы ў новаствораной правінцыі. Езуіты надавалі вялікае значэнне сваім калегіям як сродку фарміравання каталіцкага светапогляду. У XVII ст. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі езуіцкія школы і калегіі ў Полацку, Нясвіжы, Оршы, Берасці, Гародні, Віцебску, Наваградку, Менску, Бабруйску, Магілёве. У езуіцкіх навучальных установах выкладанне ў значнай ступені было падначалена тэалагічным патрэбнасцям, яно ў асноўным абапіралася на сярэдневяковую схаластыку. Тым не менш там выкарыстоўваліся здабыткі рэнесанснай педагогікі, праяўляліся новыя павевы: курсы арыстоцелеўскай філасофіі ўключалі не толькі логіку і філасофію, але і асновы прыродазнаўчых навук – фізікі, астраноміі. У некаторых езуіцкіх навучальных установах нават знаёмілі вучняў з геліяцэнтрычнай сістэмай Мікалая Каперніка. Езуіты таксама акцэнтавалі ўвагу на выкладанні тых прадметаў, якія патрабаваліся шляхце для палітычнай кар'еры, – латыні, права, рыторыцы.

Езуіты імкнуліся ўсталявацца ў тых рэгіёнах, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва. Таму яны надавалі асаблівую ўвагу калегіям у Полацку і Оршы. Як пісаў езуіт Растоўскі, калі ў 1581 г. адчыніліся два першыя класы полацкай школы, там было не больш пяці навучэнцаў, езуіты нават называлі Полаччыну "другой Індыяй". Аднак папулярнасць калегіі ўзрастала, і праз некалькі гадоў там вучыліся дзеці з сямей розных веравызнанняў. У 20-я гг. XVII ст. у полацкай калегіі выкладаў паэтыку і рыторыку вядомы паэт і філосаф Мацей Казімір Сарбеўскі.

У 1606 г. езуіты наведалі Оршу для "замацавання ў веры" мясцовых католікаў, сярод якіх распаўсюджваліся "ерэтычныя кнігі". Езуіты канфіскавалі кнігі і арганізавалі дыспут з казнадзеем мясцовай кальвініскай абшчыны. Па ініцыятыве Льва Сапегі, які выкупіў у аршанскіх кальвіністаў пляц, Жыгімонт III выдаў прывілей аб будаўніцтве ў Оршы езуіцкага калегіума і касцёла[3].

Галоўным цэнтрам каталіцкай адукацыі ў ВКЛ з'яўлялася Віленская езуіцкая акадэмія. Яна была арганізавана на ўзор рэфармiраваных заходнееўрапейскіх універсітэтаў. Праграма навучання ўключала гуманітарныя навукі, філасофію і тэалогію. Сярод навучальных устаноў ВКЛ толькі ў Віленскай акадэміі выкладаўся поўны курс тэалогіі. Для палемікі з іншаверцамі вялікая ўвага надавалася вывучэнню спрэчных тэалагічных пытанняў. Акадэмія мела высокаадукаваных выкладчыкаў – як запрошаных з Захаду,

---

[1] *Obirek St.* Jezuici w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w latach 1564–1668. Kraków, 1996. S. 286.

[2] *Skarga Piotr.* Kazania sejmowe. Oprac. J. Tazbir, M.Korolko. Wrocław, etc., 1995. S. 125.

[3] *Митрошенко И.А.* Иезуиты в восточной части Белоруссии с 1579 г. по 1772 г. // Полоцко-Витебская старина. Вып. II. Витебск, 1912. С. 56, 59.

так і мясцовых. Творы віленскіх прафесараў Марціна Сміглецкага, Ст. Гродзіцкага, Аарона Алізароўскага і асабліва Мацея Казіміра Сарбеўскага вывучаліся ў заходнееўрапейскіх універсітэтах. Дзейнасць Віленскай акадэміі адыграла важную ролю ў развіцці школьнай справы ВКЛ – яна забяспечвала адукаванымі педагагічнымі кадрамі сярэднія школы і калегіі, што дазваляла ім утрымліваць высокі ўзровень навучання.

Акадэмія атрымлівала багатыя ахвяраванні. Асабліва вызначаліся ў гэтым Сапегі – Леў і яго сын Казімір Лявон. На сродкі апошняга ў 40-я гг. XVII ст. былі арганізаваны медыцынскі і юрыдычны (з кафедрамі кананічнага і грамадзянскага права) факультэты. У сярэдзіне XVII ст. акадэмія мела найбольшую бібліятэку ў ВКЛ, ёй ахвяравалі свае кнігазборы Сапегі, біскуп Еўстафій Валовіч, кардынал Бенядзікт Война. Друкарня акадэміі была найбольш буйной у Вільні. Тут друкаваліся рэлігійна-палемічныя выданні, навучальныя трактаты, літургічная, вучэбная і навукова-вучэбная літаратура, панегірыкі.



Аптэка пры езуіцкім кляштары ў Гародні XVII ст.
Сучасны выгляд

Ахвяраванні каталіцкай магнатэрыі і шляхты забяспечвалі езуіцкім навучальным установам бясплатнае навучанне, уладкаваныя школьныя будынкі, падручнікі, бібліятэкі. Усё гэта разам з высокім узроўнем выкладання і агульным узростам прэстыжнасці каталіцтва ў грамадстве прываблівала да іх моладзь розных веравызнанняў.

Для прыцягнення вернікаў езуіты выкарыстоўвалі таксама місіянерскую дзейнасць сярод розных сацыяльных слаёў (асабліва ў магнацка-шляхецкім асяроддзі), публічныя казанні і дыспуты, рэлігійную палеміку, школьны тэатр, паратэатральныя відовішчы.

У ВКЛ ордэн езуітаў не выкарыстоўваў інквізіцыйных метадаў барацьбы, абмяжоўваўся ідэалагічнай прапагандай, аднак яго дзейнасць пры падтрымцы каралеўскай улады садзейнічала перамозе контррэфармацыйных тэндэнцый у канцы XVI – пачатку XVII ст. Умацаванне структуры каталіцкай царквы і пазіцый каталіцкай іерархіі ў ВКЛ праяўлялася ў пераважнай падтрымцы каталіцкай царквы з боку намінантаў на каралеўскі і велікакняжацкі трон, у прыналежнасці да каталіцтва абраных манархаў. Прысяга на вернасць каталіцызму стала адным з традыцыйных пунктаў па-

гадненняў ("пакта канвента") шляхты Рэчы Паспалітай з прэтэндэнтамі на прастол. Змена палітычна-рэлігійнай сітуацыі яскрава адбілася ў масавым пераходзе знаці ВКЛ у каталіцтва на працягу ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў. Ужо ў 1610 г. Мялецій Сматрыцкі ў сваім творы "Трэнас" ("Плач") аплакваў прадстаўнікоў знакамітых "рускіх" родаў, якія адракліся ад спадчынных рэлігійных і культурных традыцый свайго народа і сталі католікамі.

**Контррэфармацыя і Берасцейская царкоўная унія.** Мэтай контррэфармацыі ў ВКЛ было не толькі ўмацаванне каталіцкага касцёла і барацьба з рэфармацыйным рухам, але і далучэнне да каталіцтва праз унію шматлікага праваслаўнага насельніцтва. Галоўнымі ініцыятарамі і прапагандыстамі уніі паміж "усходняй" і "заходняй" царквой былі езуіты. Царкоўная унія як сродак пашырэння каталіцтва на Усход адпавядала інтарэсам Апостальскай сталіцы. Вярхоўная ўлада, асабліва на пачатковым этапе, разглядала унію як сродак унутранай кансалідацыі шматканфесійнага насельніцтва Рэчы Паспалітай, шлях далучэння яго да каталіцтва і спадзявалася такім чынам узмацніць свае пазіцыі. Частка праваслаўнай іерархіі, якая непасрэдна выступіла з прапановай уніі, разлічвала на больш выразную інтэграцыю новай царквы ў грамадска-палітычныя структуры Рэчы Паспалітай, незалежнасць яе ад патрыярхату і пашырэнне сувязей з Захадам. Унію падтрымлівалі (у тым ліку і матэрыяльна) некаторыя ўплывовыя магнаты-католікі – канцлер ВКЛ Леў Сапега (фундацыйныя запісы на базыльянскі манастыр у Чарэі, манастыр Св.Тройцы ў Вільні, манастыр у Жыровіцах; за свой кошт выдаваў у віленскай друкарні Мамонічаў літургічныя кнігі для уніятаў), віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Сіротка (у тэстаменце (завяшчанні) ад 21 сакавіка 1612 г. наказваў сваім сынам апекаваць над уніяцкімі цэрквамі).

Афіцыйнае прызнанне уніяцкай царквы як асноўнай пераемніцы старажытных грэка-славянскіх традыцый, скасаванне праваслаўнай іерархіі і экспрапрыяцыя шмат якіх уладанняў і рухомай маёмасці праваслаўнай царквы сур'ёзна ўскладнілі грамадска-палітычную і рэлігійную сітуацыю ў краіне. Уніяцкая царква была прызнана вярхоўнымі ўладамі адзінай афіцыйнай у ВКЛ "рускай" царквой. Пераважная колькасць праваслаўнага насельніцтва не прызнавала уніі і захоўвала вернасць сваёй канфесіі. Гвалтоўныя метады, якімі часам уводзілася унія, негатыўна адбіваліся на ўспрыняцці яе грамадствам.

Апошнім уплывовым пратэктарам праваслаўнай веры заставаўся кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі. У маі 1599 г. у Вільні ў палацы Астрожскага адбыўся сумесны з'езд праваслаўных і пратэстантаў Рэчы Паспалітай. Свецкія ўдзельнікі з'езда выпрацавалі тэкст канфедэрацыі аб узаемнай дапамозе на выпадак пагрозы з боку каталіцкага асяроддзя і дыскрымінацыйнай палітыкі вярхоўнай улады. З канца XVI ст. праваслаўныя нярэдка выступалі разам з пратэстантамі ў абарону сваіх правоў. У час мецяжу 1606 г. інтарэсы Астрожскага і праваслаўя прадстаўляў парнаўскі каштэлян, кальвініст Петр Стаброўскі. Артыкулы мяцежнікаў прапаноўвалі аднаўленне правоў праваслаўнай царквы, пазбаўленне пасад уніяцкіх іерархаў.

Дзейнасць брацтваў, выступленні праваслаўнага мяшчанства, сеймавая барацьба, а таксама абвастрэнне знешнепалітычных абставін абумовілі прыняцце канстытуцый "Аб грэчаскай рэлігіі" (1607, 1609, 1618), якія часткова пацвярджалі правы і прывілеі праваслаўных. Пагроза з боку Швецыі, Расіі, Турцыі, боязь казацкіх хваляванняў вымусіла Жыгімонта III у 1620 г. пайсці на неафіцыйнае аднаўленне праваслаўнай іерархіі (да 30-х гг. так і не прызнанай вярхоўнай уладай).

Нягледзячы на тое што праваслаўная царква ў пэўнай ступені ўзмацніла свае пазіцыі, вярхоўная ўлада праводзіла непаслядоўную палітыку, нярэдка ігнаруючы свае абавязацельствы. Насуперак сеймавым канстытуцыям у 1608–1609 гг. уніяцкае духавенства атрымала каралеўскія дэкрэты, якія замацавалі яго статус у Вільні – у праваслаўных былі адабраны Святатроіцкі манастыр і амаль усе цэрквы ў горадзе. Гвалтоўныя метады, якімі ўводзілася унія, негатыўна адбіваліся на ўспрыняцці яе грамадствам і часам правакавалі праваслаўных на адпаведныя формы супраціўлення.

У 1609 г. быў зроблены замах на жыццё уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея. У 1623 г. у час узброенага бунту віцебскіх гараджан быў забіты уніяцкі архіепіскап Іасафат Кунцэвіч, які спрабаваў насільна зацвердзіць унію ў Полацкай епархіі. Трэба адзначыць, што Полацкая зямля мела спецыфічныя асаблівасці царкоўна-рэлігійнай сітуацыі, абумоўленай абсалютнай перавагай беларускага этнасу з даўняй і ўстойлівай канфесійнай традыцыяй і самабытнай культурай (што, дарэчы, адзначалі і полацкія езуіты ў сваіх справаздачах аб дзейнасці Полацкай калегіі). У гэтым рэгіёне больш адчувальна, чым у іншых, праявіліся супярэчнасці царкоўна-рэлігійных адносін і іх дэфармацыя пад уздзеяннем унутрыпалітычных змен.

Калі ў 1619 г. Кунцэвіч вырашыў закрыць усе праваслаўныя цэрквы ў Полацкай епархіі, гэта выклікала рэакцыю не толькі сярод простага люду. Полацкі шляхціц Іван Стаброўскі ў 1621 г. перадаў дом свайго брата Юрыя ў Полацку для размяшчэння там часовай праваслаўнай царквы "з нагоды адабрання ўсіх полацкіх цэркваў на унію".

Адказ Льва Сапегі на скаргу Кунцэвіча аб супраціўленні уніі праваслаўных Полацкай епархіі – характэрны погляд рэальна мыслячага палітыка на рэлігійны ўціск. Канцлер пісаў, што ён і сам клапаціўся аб уніі, аднак не думаў, што яе будуць уводзіць такімі жорсткімі метадамі: "Каго вы набылі такой суровасцю вашай, строгасцю, запячатваннем і замыканнем цэркваў? ... у самім Полацку вы страцілі і тых, якія дагэтуль былі вам паслухмяны. ... Замест радасці праслаўтая ваша унія нарабіла нам толькі клопату, разладу і так нам абрыдла, што жадалі б лепш застацца без яе; ... яна набыла вядомасць толькі смутамі і звадкамі, якія прынесла народу і цэламу краю".


Полацкі уніяцкі архіепіскап Іасафат Кунцэвіч

Для ўмацавання уніі ў 1617 г. быў рэарганізаваны на ўзор езуіцкага (цэнтралізаваная структура, актыўная місійная дзейнасць, грунтоўная адукаванасць) ордэн базыльянаў. Уніяцкі мітрапаліт Вельямін Руцкі адыграў асноўную ролю ў распрацоўцы рэгламенту новага ордэна, сур'ёзную падтрымку і дапамогу ў яго арганізацыі аказалі езуіты. Базыльяне атрымлівалі адукацыю ў езуіцкіх калегіях, Віленскай Акадэміі. Аднак уніяты імкнуліся адмежавацца ад езуітаў, якія ў пэўнай ступені выступалі як іх канкурэнты – у выпадку рэлігійных канверсій, праваслаўных больш прываблівала каталіцтва, чым унія. Можна пагадзіцца з польскім даследчыкам Ст. Літакам, што

уніяцкая царква ў Рэчы Паспалітай толькі тэарэтычна была раўнапраўнай з каталіцкім касцёлам, у рэчаіснасці яна трактавалася як другарадная. А паколькі далучыўся да уніі ў асноўным люд просты (таму што шляхта паланізавалася і прымала каталіцтва), то яе пагардліва называлі "хлопскай" царквой[1]. Часам і уніяты прымалі каталіцкую веру. Калі ў Вільні была заснавана уніяцкая семінарыя, езуіты нават не былі запрошаны туды на працу, а ў 1632 г. Руцкі наогул перанёс яе ў Менск, дзе яшчэ не было езуіцкай школы. Уніяцкі мітрапаліт звяртаўся са скаргамі на езуітаў у Рым[2]. У 1624 г. папа рымскі Урбан VIII выдаў дэкрэт, які забараняў базыльянскім манахам пераходзіць з уніі ў каталіцтва.

У 20–40-я гг. XVII ст. мелі месца неаднаразовыя спробы вышэйшых уніяцкіх, а потым і праваслаўных іерархаў стварыць новую, так званую "універсальную унію" – паміж уніятамі і праваслаўнымі пад уладай аднаго патрыярха. Рымская курыя такім чынам спадзявалася падпарадкаваць праваслаўнае насельніцтва праз ужо існуючую уніяцкую царкоўную арганізацыю. Пры гэтым боязь, што аб'яднаная царква выйдзе з-пад кантролю папы рымскага, вымушала Апостальскую сталіцу пазней у сваіх інструкцыях нунцыям праціўіцца ідэі універсальнай уніі[3].

У сувязі са смерцю 30 красавіка 1632 г. Жыгімонта III Вазы і ўзыходжаннем на трон яго сына – каралевіча Уладзіслава, вядомага сваёй рэлігійнай талерантнасцю, прадстаўнікі розных канфесій спадзяваліся на паляпшэнне свайго становішча і вырашэнне рэлігійнага пытання, якое падзяліла грамадства. Адмоўныя адносіны да уніі выказвалі некаторыя каталіцкія іерархіі Рэчы Паспалітай і нават пэўныя колы ў Рыме.

На канвакацыйным сейме праваслаўныя і пратэстанты выступілі з сумеснымі патрабаваннямі вяртання даўніх правоў і вольнасцей. Для іх разгляду былі створаны дзве камісіі: асобна для праваслаўных і для пратэстантаў. Уладзіслаў узначаліў камісію, якой было даручана "заспакаенне грэчаскай рэлігіі". Камісія прадставіла праект пагаднення паміж уніятамі і праваслаўнымі, які сустрэў моцную апазіцыю з боку уніятаў і католікаў. Але знешнепалітычная сітуацыя (маскоўскае войска парушыла межы Рэчы Паспалітай і рухалася ў глыб краіны), пагроза казакаў захапіць уладанні уніятаў у выпадку невыканання "пастулатаў" праваслаўных вымусілі каталіцка-уніяцкую апазіцыю згадзіцца падтрымаць праект пры ўмове, што ён набудзе юрыдычную сілу толькі тады, калі будзе ўхвалены папам рымскім. Аднак на згоду Апостальскай сталіцы нельга было спадзявацца. Кангрэгацыя прапаганды веры, створаная ў 1622 г. для каардынацыі місіянерскай дзейнасці курыі, выдала інструкцыю, якая наказвала нунцыю процідзейнічаць уключэнню "пунктаў заспакаення" ў канстытуцыю. Папа Урбан VIII накіраваў асабістае пасланне Уладзіславу, каб той узяў пад апеку уніятаў[4].

Каб пазбегнуць канфлікту з Рымам, Уладзіслаў дасылаў лісты да папы, у якіх адзначаў небяспечнасць ігнаравання абавязацельстваў перад праваслаўнымі: пагроза зрыву каранацыйнага сейма, паражэнне ў вайне з Масквой, напружаная сітуацыя ўнутры Рэчы Паспалітай, якая можа прывесці на-

---

[1] *Litak. St.* Kościoł unicki obrządku greckiego na styku dwóch kultur w XVI–XVIII wieku// Belarus. Lithuania. Poland. Ukraine. Lublin, 1994. S. 264.

[2] *Ks. L.Piechnik.* Roskwit Akademii Wileńskiej w latach 1600–1655. Rzym, 1983. S. 235–236.

[3] *Плохий С.Н.* Борьба украинского народа с католической экспансией (XVI–XVII вв.). Днепропетровск, 1987. С. 13.

[4] *Dzięgielewski J.* O tolerancję dla zdominowanych. Polityka wyznaniowa Rzeczypospolitej w latach panowania Władysława IY. Warszawa, 1986. S. 61.

ват да ліквідацыі уніі. Ён пераконваў рымскую курыю, што ўступкі праваслаўным пойдуць на карысць справе уніі[1].


Каралевіч Уладзіслаў у сармацкім касцюме. Гравюра XVII ст.

Хаця Уладзіслаў не атрымаў згоды Рыма, для захавання рэлігійнага спакою ў краіне ён пайшоў на афіцыйнае аднаўленне праваслаўнай іерархіі. У 1633 г. ён зацвердзіў на мітрапаліцкую кафедру кандыдатуру праваслаўных – Пятра Магілу, высокаадукаванага царкоўнага і палітычнага дзеяча. Уладзіслаў выдаў таксама некалькі прывілеяў, якія пацвярджалі правы праваслаўных брацтваў, перадаў ім некаторыя з уніяцкіх цэркваў, зацвердзіў фундушы на новыя цэрквы і манастыры. На сейме 1635 г. былі пацверджаны каралеўскія прывілеі, якія забяспечвалі абедзвюм "рускім цэрквам" свабоду культу і раўнапраўе рэлігіі. Права на кіеўскую мітраполію было падзелена паміж праваслаўнымі і уніятамі. Акрамя таго, праваслаўныя атрымалі чатыры епархіі (Львоўскую, Луцкую, Перамышльскую і новаўтвораную Мсціслаўскую), уніяты – пяць епархій (Уладзімірскую, Холмскую, Пінскую, Смаленскую і Полацкае архіепіскапства). Асабліва падкрэслівалася, што ў "Віцебску, Полацку, Наваградку неуніяты не павінны мець ні адной царквы"[2]. Вяртанне праваслаўнай царкве даўніх правоў і часткова маёмасці стала фактам.

Асноўнай праблемай адносін паміж уніятамі і праваслаўнымі пасля прыняцця Канстытуцыі 1635 г. стаў падзел манастыроў і цэркваў з іх уладаннямі і даходамі. Бясконцыя ўзаемныя скаргі, апеляцыі, судовыя працэсы, звязаныя з падзелам маёмасці, прымусілі караля аднавіць свае прапановы наконт "новай уніі" паміж праваслаўнымі і уніятамі. Меркавалася стварэнне агульнага патрыярхату ў Кіеве (кандыдатам на патрыяршы сан быў П.Магіла), фактычна залежнага ад папы. Аднак негатыўныя адносіны Рыма, канфлікты паміж уніятамі і праваслаўнымі пахавалі гэтыя пачынанні.

Аднаўленне правоў праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай зменшыла рэлігійныя канфлікты, але не прывяло да поўнага рэлігійнага прымірэння. Гэтаму перашкаджалі супярэчнасці, паглыбленыя падзелам царкоўнай маёмасці, непаслядоўная рэлігійная палітыка самой вярхоўнай улады. Толькі з другой паловы XVII ст. уніяцкая царква ў Беларусі паступова пачала пераважаць у рэгіёнах са старадаўнімі праваслаўнымі традыцыямі. Аднак яна так і не змагла замацаваць сваіх палітычных пазіцый – да канца XVIII ст. уніяцкія іерархі не былі дапушчаны да сената. Унія не апраўдала спадзяванняў ніводнага з інстытутаў, якія падтрымлівалі яе арганізацыю, – вярхоўнай улады, ордэна езуітаў, Апостальскай сталіцы. Нявырашаныя рэлігійныя супярэчнасці значна паўплывалі на тыя сацыяльныя і грамадска-палітычныя

---

[1] *Dzikgielewski J.* O tolerancję dla zdominowanych. Polityka wyznaniowa Rzeczypospolitej w latach panowania Władysława IY. Warszawa, 1986. S. 71.

[2] *Макарий.* История русской церкви. М.. 1996. Т. 6. С. 508–510.

канфлікты, якія былі звязаны з сялянска-казацкімі бунтамі сярэдзіны XVII ст., а таксама на знешнепалітычныя адносіны Рэчы Паспалітай.

**Рэфармацыя.** К канцу XVI ст. Рэфармацыя мінула пік свайго ўздыму. Перамога контррэфармацыйных тэндэнцый, ідэалагічная слабасць і ўнутраны раскол падарвалі пазіцыі рэфармацыйнага руху. У палітычным жыцці ВКЛ ён ужо не адыгравауў той ролі, што ў 1560–1580-я гг.: калі ў сенаце 1596 г. з 24 сенатараў ВКЛ было 10 пратэстантаў, то ў 1632 г., пад канец праўлення Жыгімонта III – ніводнага[1]. Гэта было вынікам не толькі намінацыйнай палітыкі караля, але і змен у рэлігійна-палітычнай сітуацыі, якія садзейнічалі рэлігійным канверсіям. Арганізацыйна і дактрынальна ўмацаваны ў працэсе барацьбы з Рэфармацыяй, падтрыманы вярхоўнай уладай, рэфармаваны каталіцкі касцёл адпавядаў палітычным і ідэйна-культурным інтарэсам магнатэрыі і шляхты. У касцёл вярталіся не толькі былыя каталікі. Прадстаўнікі некаторых праваслаўных родаў, нядаўнія пратэстанты (Валовічы, Збаражскія, Хадкевічы, Сапегі і інш.) таксама прынялі каталіцтва. З магутных пратэктараў Рэфармацыі ў ВКЛ засталіся толькі біржанскія Радзівілы.

Разам з тым трэба адзначыць, што ў ВКЛ пачатку XVII ст. пазіцыі Рэфармацыі былі больш моцнымі, чым у Кароне. Рэлігійныя правы шляхты былі замацаваны Статутам ВКЛ 1588 г.

У першай палове XVII ст. кальвінісцкая царква захоўвала пэўную стабільнасць унутранага жыцця. У 1614 г. Віленскім сінодам была пацверджана тэрытарыяльная структура Літоўскай кальвінісцкай правінцыі з падзелам на дыстрыкты (Віленскі, Завілейскі, Наваградскі, Рускі, Жмудскі, Берасцейскі), якая амаль не мянялася да сярэдзіны XVIII ст. Дыстрыкты ўзначальваліся суперінтэндантамі. Унутраная арганізацыя кальвінісцкай царквы фарміравалася паводле пастаноў, агульных для пратэстантаў усёй Рэчы Паспалітай генеральных сінодаў (кракаўскага 1573 г., петракоўскага 1578 г., уладзіслаўскага 1583 г., торуньскага 1595 г.), якія вызначылі абавязкі духавенства, свецкіх "сеньёраў" (шляхты, гараджан), парадак правядзення сінодаў (дыстрыктовых, правінцыяльных, генеральных), пытанні ўнутрыцаркоўнай дысцыпліны, школьнай справы.

У пратэстанцкай царкве адсутнічала пасада найвышэйшага духоўнага іерарха. Арганізацыйным і кіруючым цэнтрам Літоўскай правінцыі быў Віленскі сінод, на які штогод з'язджаліся прадстаўнікі ўсіх евангелічных абшчын ВКЛ. На сінодах старшынствавалі духоўныя і свецкія "дырэктары", пасля 1618 г. – толькі свецкія. У справах збораў прымалі ўдзел свецкія "сеньёры".

Віленскі сінод імкнуўся прыстасавацца да мясцовых умоў. Большасць збораў (пратэстанцкіх храмаў) размяшчалася ў заходніх і цэнтральных паветах Беларусі, дзе існавалі буйныя прыватнаўласніцкія маёнткі. Адносна разнародны этна-рэлігійны склад насельніцтва гэтага рэгіёна ў параўнанні з усходняй часткай Беларусі, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва, абумовіў і большую распаўсюджанасць Рэфармацыі. Унутранае жыццё збораў на ўсходніх землях Беларусі адрознівалася некаторымі своеасаблівымі рысамі. У 1620 г. сінод дазволіў зборам, якія размяшчаліся на ўсход ад р.Бярэзіны (Полацкага, Віцебскага, Галоўчынскага, Копыскага і

[1] *Lulewicz H.* Skład wyznaniowy senatorów świeckich Wielkiego Księstwa Litewskiego za panowania Wazów // Przegląd historyczny. 1977. T. LXVIII. Zesz. 3. S. 427.

інш.), улічваючы іх адлегласць ад Вільні, прыязджаць на сіноды кожны другі год[1].

Культурныя асаблівасці праваслаўнага асяроддзя таксама ўплывалі на рэлігійнае жыццё збораў. У 1614 г. сінод пастанавіў, каб усе евангелічныя абшчыны прынялі новы, грыгарыянскі каляндар. Праз два гады, улічваючы традыцыі збораў "у краі Рускім" (у Рускім дыстрыкце), ім было дазволена адзначаць царкоўныя святы па абодвух календарах. У 1644 г. сінод прыняў спецыяльную пастанову, каб "рускія зборы" – полацкі, віцебскі і копыскі, якія да гэтага часу карысталіся юліянскім календаром, перайшлі на грыгарыянскі[2].

Змена канфесіі часам па-свойму адбівалася на ментальнасці мясцовай шляхты, асабліва ў змешаных шлюбах. Так, удава браслаўскага земскага суддзі Рыгора Іванавіча Масальскага, Кацярына з Копцяў у тэстаменце прасіла пахаваць яе "... *в зборе* на Друи подле небощика малжонка моего, а обход маеть быть при погребе отправован в церкви Св. Спаса на Друи *через попы руские*"[3].

Амаль усе даследчыкі адзначаюць, што з канца XVI ст. Рэфармацыя ў ВКЛ перайшла ад наступлення да абароны сваіх пазіцый. Спробы стварэння палітычнага саюза з праваслаўнымі ў 1599 г. не прынеслі чаканага выніку. Прыняты на сумесным з'ездзе ў Вільні акт канфедэрацыі застаўся толькі пракламацыяй, хаця на яго яшчэ доўга спасылаліся (у прыватнасці на генеральным сінодзе 1718 г. у Гданьску). Кальвінісцкая царква вымушана была ахоўваць свае пазіцыі не толькі ад каталіцкага ўплыву, але і ад праваслаўя. У 1614 г. Віленскі сінод забараніў карыстацца паслугамі настаўнікаў (прэцэптараў) іншай веры – "арыянскай, рускай і папежскай", у 1615 г. прыняў пастанову, якая не дазваляла будаваць і аднаўляць праваслаўныя храмы ў маёнтках кальвінісцкай шляхты.

Асаблівая нецярпімасць праяўлялася ў адносінах да арыян, якіх у XVII ст. называлі сацыніянамі. Сфармуляваная ў канцы XVI ст. італьянцам Фаўстам Соцыным арыянская дактрына адлюстроўвала працэс паглыблення рацыяналістычных ідэй, аднак была пазбаўлена сацыяльнага радыкалізму. Галоўным цэнтрам арыянства ў Рэчы Паспалітай з'яўлялася абшчына ў Ракаве (Сандомірскае ваяводства). Пасля смерці ў 1592 г. Яна Кішкі арыянскі рух у ВКЛ ужо не меў уплывовых пратэктараў, быў нешматлікім. Аднак арыяне вызначаліся надзвычай энергічнай прапагандай свайго веравучэння. У пачатку XVII ст. Пётр Скарга адзначаў распаўсюджанасць арыянскіх ідэй у ВКЛ, асабліва на Навагрудчыне.

Суперінтэндант навагрудскага дыстрыкту Ян Зыгровіус выказваў занепакоенасць пранікненнем у кальвінісцкае асяроддзе "сацыніянскіх памылак". У 1614 г. сінод пастанавіў, каб кальвіністы асцерагаліся арыянскіх "спакуснікаў" – не падтрымлівалі з імі сувязей, не прысутнічалі на іх пропаведзях, не заключалі з імі ніякіх пагадненняў. У 1618 г. сінод адмовіў паслам з ракаўскай абшчыны ў іх просьбе дазволіць арыянам адпраўленне набажэнства ў маёнтках кальвінісцкай шляхты. Дактрынальныя супярэчнасці паміж кальвіністамі і арыянамі не перашкаджалі магнатам, напрыклад тым жа Радзівілам, пры сваім двары карыстацца паслугамі арыянскай інтэліген-

---

[1] Akta synodów prowicjonalnych Jednoty Litewskiej 1611–1625. Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanica. Seria IV. Z. 2. Wilno, 1915. S. 58.

[2] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (АР БАН Літвы), ф. 40, спр. 1136, арк. 73.

[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ), ф. 1747, воп. 1, спр. 1, арк. 235 адв.

цыі[1]. Але арыянам у такіх выпадках забаранялася ажыццяўляць рэлігійную дзейнасць.

У 1617 г. пры садзейнічанні езуітаў арыянскія абшчыны ў Навагрудку і Любчы былі ліквідаваны. Аднак непадалёку ад Навагрудка ў маёнтку вучня Яна Ліцынія Намыслоўскага шляхціца Рафала Коса абшчына нейкі час яшчэ існавала.

Пэўную адасобленасць захоўвала лютэранская царква так званага аугсбургскага веравызнання – яе вернікамі ў асноўным былі іншаземцы мяшчанскага саслоўя. Галоўным цэнтрам лютэранскай царквы ў ВКЛ была Вільня, дзе існавалі дзве абшчыны – нямецкая і польская. У Беларусі лютэранства не атрымала значнага пашырэння. У 30-я гг. быў заснаваны лютэранскі збор у Гайцюнішках – уладанні аршанскага старосты Пятра Нонхарта. У 1653 г. Багуслаў Радзівіл выдаў фундуш на будаўніцтва лютэранскага збору ў Слуцку.

Новыя тэндэнцыі адбіліся на асветніцкай дзейнасці Рэфармацыі. У 1625 г. Віленскі сінод, занепакоены агульным станам адукацыі і тым, што дзеці з пратэстанцкіх сямей наведваюць езуіцкія школы, прыняў пастанову заснаваць кальвініскія гімназіі з разнастайнай праграмай навучання ў Слуцку і Кейданах (Літва). Для прыцягнення праваслаўнай моладзі фундуш польнага гетмана ВКЛ Крыштафа Радзівіла прадугледжваў запрашэнне на пасаду памочніка рэктара слуцкай школы – чалавека, дасведчанага ў "старажытнай грэчаскай рэлігіі"[2]. У наступныя гады фундушы былі павялічаны, для патрэб гімназіі наданы маёнткі Меляшковічы, Болхавічы, Прошчыцы.

У 1628 г. у Любчанскай друкарні быў выдадзены Статут слуцкай гімназіі. Сярод яго аўтараў быў А.Рэйнгольд, педагог і рэфармацыйны дзеяч ВКЛ, адзін з першых рэктараў гімназіі. Асноўная ўвага ў Слуцкай школе надавалася гуманітарным навукам, вывучэнню класікі, авалоданню лацінскай і грэчаскай мовамі, логікай і рыторыкай. У статуце падкрэслівалася, што галоўная задача настаўніка – выхаваць добрых грамадзян, незалежна ад іх веравызнання і сацыяльнага становішча. Гэты дакумент сведчыў аб пранікненні гуманістычных тэндэнцый у рэфармацыйную педагогіку.



Багуслаў Радзівіл. Гравюра XVII ст.

Адным з галоўных асветніцкіх і літаратурна-выдавецкіх цэнтраў першай паловы XVII ст. было радзівілаўскае мястэчка Любча. Тут пры зборы з 1612 па 1655 г. дзейнічала буйнейшая ў Беларусі рэфармацыйная друкарня, дзе было надрукавана больш за 100 выданняў у асноўным свецкага зместу: антычныя і гістарычныя творы ("Гісторыя Іудзейскай вайны" Іосіфа Флавія,

---

[1] *Tazbir J.* Bracia polscy w służbie Radziwiłłów w XVII wieku // Miscellania historico-archvistica. Radziwiłłowie XVI–XVIII wieku: w kręgu polityki i kultury. T. 3. Warszawa; Łódź, 1989. S. 141–158.

[2] АР БАН Літвы, ф. 40. спр. 363, арк. 4-адв.

1617; "Генеалогія, або Кароткае апісанне гістарычных дзеянняў вялікіх князёў літоўскіх" М.Стрыйкоўскага ў вольнай апрацоўцы Самуіла Доўгірда, 1626), кнігі па геаграфіі, медыцыне, ветэрынарыі, паэтычныя зборнікі, рэфармацыйна-рэлігійныя выданні, панегірыкі. Тут пабачылі свет творы Саламона Рысінскага, у тым ліку вядомы зборнік "Польскія прыказкі" (1618), які неаднаразова перавыдаваўся, збор маральных і філасофскіх сентэнцый антычных філосафаў (у першую чаргу Плутарха) "Апафегматы" (1614) у аўтарскай апрацоўцы Беняша Буднага. Гэты твор быў аднoй з найбольш папулярных і чытаемых кніг у Рэчы Паспалітай, неаднаразова перавыдаваўся ў Вільні, Кракаве, на рускай мове ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. У любчанскай друкарні былі выдадзены кнігі, прызначаныя для Слуцкай гімназіі, "Каляндар" Стэфана Фурмана. У выданнях выкарыстоўваліся новыя віды афармлення, гравюры на медзі. Пераважная колькасць выданняў выйшла на польскай мове, што адлюстроўвала агульную тэндэнцыю рэфармацыйнага кнігадрукавання[1].

Хаця ад пачатку свайго развіцця Рэфармацыя ў ВКЛ была цесна звязана з Польшчай і рашэнні генеральных сінодаў былі асновай для многіх пастаноў Віленскага сінода, у Літоўскай правінцыі існавала пэўная тэндэнцыя да аўтаноміі. У XVII ст. Віленскі правінцыяльны сінод часам называў сябе генеральным. На працягу першай паловы XVII ст. рабіліся уніфікацыі набажэнства і арганізацыйнай структуры пратэстанцкай царквы ўсёй Рэчы Паспалітай. Але нават пасля сумеснага выдання "Канцыяналу" (1636) і "Агенды" (1637) кальвінісцкая царква ВКЛ захавала свае традыцыі і звычаі. Выданне Гданьскай Бібліі 1632 г. таксама не мела вялікага распаўсюджання сярод кальвіністаў ВКЛ, якія працягвалі карыстацца Берасцейскай Бібліяй 1563 г. Аслабленне рэлігійна-арганізацыйных сувязей паміж пратэстантамі ВКЛ і Польшчы было звязана з агульным рэгрэсам рэфармацыйнага руху, узмацненнем пазіцый каталіцкай царквы і сведчыла аб даволі глыбокай дэзінтэграцыі ўнутры самой рэфармацыйнай царквы[2].

Паколькі пратэстанцкая шляхта ў ВКЛ знаходзілася пад абаронай Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г., яна без асобых перашкод утрымлівала, закладвала новыя і аднаўляла старыя зборы ў сваіх уладаннях. "Вольнасць шляхецкая замацавана правам распараджацца сваёй маёмасцю паводле свайго меркавання," – адзначаў у фундацыйным запісе на збор у Сервечы Леў Рагоза. Новы велічны мураваны будынак збору быў узведзены ў Смаргоні (захаваўся да нашага часу) берасцейскім ваяводам Крыштафам Зяновічам. Як згадвае яго фундуш 1612 г., пры зборы была пабудавана званіца з трыма званамі і мураваная вежа з гадзіннікам – спецыяльна для бібліятэкі, каб святары і настаўнікі "не гультайнічалі, а чыталі і вучыліся"[3]. У Койданаве новы мураваны будынак збору паўстаў, згодна з фундушам 1614 г. Януша Радзівіла, падчашага ВКЛ, на Гаштольдавай гары, паміж панскім дваром і мястэчкам. Пры зборы меліся школа і шпіталь. Спачатку збор быў кафедральным, потым парафіяльным з філіямі-капліцамі ў Чэрнікаўшчыне і Эйнаравічах. Дарэчы, у Эйнаравічах знаходзіўся маёнтак кальвінісцкай сям'і Цадроўскіх, да якой належаў вядомы мемуа-

---

[1] Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5: Wielkie Księstwo Litewskie. Oprac. A.Kawecka-Gryczowa, K.Korotajowa, W.Krajewski.

[2] *Tworek S.* Starania o ujednolicenie obrządku kalwińskiego w Polsce XVII wieku.// Odrodzenie i Reformacja w Posce (OiRwP). T. 16. 1971. S. 117–138.

[3] Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Літвы імя М.Мажвідаса, ф. 93, спр. 1288, арк. 1-адв.

рыст сярэдзіны XVII ст. Ян Цадроўскі. Эйнаравічы не раз згадваюцца ў яго "Успамінах".

У 1617 г. Януш Радзівіл заснаваў збор у Слуцку, які быў адным з галоўных цэнтраў кальвінізму ў Беларусі. Паводле крыніц, у горадзе было два зборы – вялікі і малы, якія стаялі "... у Новым горадзе над ставам р.Случы", шпіталь і пачатковая школа.

У тэстаментах пратэстанты звярталіся да сваіх нашчадкаў, каб яны не пакідалі "веры евангеліцкай" і не аддавалі зборы "папістам". Крыштаф Зяновіч нават патрабаваў вынесці яго цела са збору, калі нашчадкі аддадуць яго каталікам. Аднак патомкі многіх пратэстанцкіх родаў рознымі шляхамі прыходзілі да каталіцтва. У 1611–1640 гг. з кальвінізмам былі яшчэ звязаны 155 шляхецкіх сямей ВКЛ, у тым ліку 81 – буйной і сярэдняй, у 1641–1655 гг. ужо толькі 48 сямей буйной і сярэдняй шляхты[1].

У XVII ст. фундатары збораў часам перадавалі сіноду свае правы ўласнасці і абароны збораў. Існаванне збораў у такім выпадку не залежала ад перамены веравызнання патрона ці яго нашчадкаў. Так, пасля смерці пана Рафала Рошчыца, фундатара збору ў Ляцку, збор перайшоў пад юрысдыкцыю Віленскага сінода[2].

Аднак часцей у выніку рэлігійных канверсій зборы перадаваліся каталікам – так здарылася са зборамі ў Смаргоні, Глыбокім, Заслаўі, Іўі, іншых месцах.

Больш складанымі былі ўмовы дзейнасці збораў у каралеўскіх гарадах (адсутнасць пастаянных багатых апекуноў, канфлікты з мясцовымі ўладамі і насельніцтвам, каталіцкімі ўстановамі). У 1601 г. менскі магістрат, мяшчане і "ўсё паспольства" выказвалі незадаволенасць тым, што кальвінісцкая абшчына "невядома па якому праву" заняла некалькі пляцаў на рагу рынку, збудавала там збор і пасяліла "розных рамеснікаў", аднак не хацела несці з гэтай маёмасці ніякіх павіннасцей "да скарбу нашага"[3]. Казнадзей менскага збору ў 1648 г. скардзіўся на мяшчан, якія нападалі на збор, збівалі людзей, забіралі хатнюю жывёліну.

Падобныя сутычкі назіраліся і ў іншых гарадах – Полацку, Наваградку і асабліва ў Вільні. У ліпені 1611 г. натоўп гараджан і студэнтаў-езуітаў спалiў віленскі збор. У час пагрому былі пабіты людзі, якія знаходзіліся пры зборы, знішчаны бібліятэка і архіў (загінулі каштоўныя дакументы па гісторыі Рэфармацыі ў ВКЛ). Яшчэ больш драматычнымі для віленскага збору былі падзеі 1639–1640 гг. Яны былі справакаваны выстраламі з луку па касцёлу Св.Міхаіла і манастыру бернардзінак з боку евангеліцкага збору. Каталікі ўнеслі ў слонімскі гродскі суд скаргу на віленскіх кальвіністаў, якія, паводле іх слоў, нападалі на жаночы манастыр, стралялі па касцёлу, апаганілі абразы. Звярнуцца ў слонімскі суд іх вымусіла тая акалічнасць, што ў Вільні, не без уплыву віленскага ваяводы, кальвініста Крыштафа Радзівіла, адмовіліся разглядаць гэту справу[4]. Вынікам гэтых падзей стала пастанова сейма аб выгнанні збору за межы горада. Была таксама закрыта зборовая школа. Пагром 1682 г. будынкаў збораў у прадмесці вымусіў Віленскі сінод у мэтах бяспекі перанесці свае пасяджэнні ў прыватныя ўладанні – Кейданы, Заблудаў, Беліцу і інш.

---

[1] *Tworek S.* Z zagadnień liczebności zborów kalwińskich na Litwie // OiRwP. T. XVII. 1972. S. 209.

[2] АР БАН Літвы, ф. 40, спр. 512.

[3] Там жа, спр. 232, арк. 14.

[4] НГАБ, ф. 1737, воп. 1. спр. 23, арк. 738.

Асабліва цяжкі лёс, абумоўлены іх прыгранічным становішчам, быў у полацкага і віцебскага збораў. Полацкі збор у час вайны з Маскоўскай дзяржавай (1632) быў спалены, набажэнства часова праходзіла ў дзісненскім замку. Адноўлены ў 1636 г., у час войнаў сярэдзіны XVII ст. быў канчаткова спустошаны і разбураны, а некалькі чалавек забіта. Аднак не толькі войны, рэлігійныя канверсіі і пагромы прывялі многія зборы да заняпаду. Яшчэ ў 1611 г. у лісце (ад 25 студзеня) да Віленскага сінода Януш Радзівіл адзначаў, што шкоду Рэфармацыі прыносяць абыякавасць і нязгода як паміж свецкімі, так і духоўнымі асобамі. Падобную думку выказвалі ў 30-я гг. члены віцебскага і полацкага збораў: не толькі ваенныя дзеянні давялі зборы да бядотнага становішча, але і "абыякавасць і нядбайнасць" патронаў.

Усяго на працягу XVII ст. на тэрыторыі Беларусі існавала больш за 70 збораў, некаторыя з іх дзейнічалі кароткачасова. Пасля спусташальных войнаў сярэдзіны XVII ст. большая іх частка прыйшла ў заняпад. У сярэдзіне XVIII ст. на тэрыторыі ўсяго ВКЛ існавала каля 40 збораў.

Манапалізацыя каталіцкай царквой духоўнага жыцця шматканфесійнага грамадства, працэс нарастання анархіі ва ўнутрыпалітычным жыцці ўзмацнілі тэндэнцыі рэлігійнай нецярпімасці, асабліва пасля польска-шведскай вайны, калі іншаверцаў абвінавацілі ў здрадзе, супрацоўніцтве са шведамі. У 1658 г. сейм прыняў рашэнне аб выгнанні арыян з Рэчы Паспалітай. Яны маглі застацца ў краіне пры ўмове пераходу ў каталіцтва ці, на крайні выпадак, у кальвінізм. У 1668 г. было прынята рашэнне аб забароне адступніцтва ад каталіцкай веры.

З другой паловы XVII ст. рэфармацыйная царква адыгрывала нязначную ролю ў духоўным і грамадска-палітычным жыцці ВКЛ. Перамога контррэфармацыі, унутраныя супярэчнасці ў асяроддзі пануючага саслоўя, адсутнасць шырокай этнасацыяльнай асновы, раскол сярод пратэстантаў выклікалі крызіс рэфармацыйнага руху.

## 2. Царкоўна-рэлігійная палеміка

**Асноўныя рысы і напрамкі палемікі.** У XVII ст. працягвалася так званая "вайна пер'яў". Калі ў XVI ст. яна адлюстроўвала ідэалагічныя спрэчкі ў асноўным паміж католікамі, кальвіністамі і арыянамі, то пасля заключэння Берасцейскай уніі 1596 г. да царкоўна-рэлігійнай палемікі актыўна далучыліся праваслаўныя і уніяты. Пётр Скарга ў пачатку XVII ст. выказваў шкадаванне, што ў Вільні, акрамя ўжо вядомых ерэтыкоў (лютэран, кальвіністаў, арыян), з'явіліся ерэтыкі-схізматыкі, якія вядуць бурную рэлігійную палеміку.

Каталіцкія і уніяцкія палемісты (Пётр Скарга, Іпацій Пацей, Вельямін Руцкі, Антоній Сялява і інш.) адстойвалі тэзіс аб старадаўнім канфесійным адзінстве славянскіх народаў з Рымам, а ўзнікненне "схізмы" (адшчапенства) праваслаўнай царквы тлумачылі адыходам грэка-візантыйскага свету ад "сапраўднай" веры, заняпадам яе культурна-гістарычных і рэлігійных традыцый пад уплывам Атаманскай Порты і мусульманства. Яны распаўсюджвалі тэзіс аб тым, што канстанцінопальскі патрыярх пасля захопу ў 1453 г. Канстанцінопаля туркамі-асманамі з'яўляецца падданым турэцкага султана і адстойвае яго інтарэсы.

Варта адзначыць, што каталіцка-уніяцкая публіцыстыка рэальна ацэньвала ўстойлівасць праваслаўнай рэлігійнай традыцыі і пастаянна заклікала "рускіх" далучыцца да уніі і ўзнавіць старадаўняе адзінства славянскіх і

іншых еўрапейскіх народаў, згадвала аб Фларэнтыйскай уніі 1439 г. Амаль усе галоўныя творы царкоўна-рэлігійнай публіцыстыкі канца XVI – першай паловы XVII ст. заканчваюцца зваротам да "рускага" народа Рэчы Паспалітай.

У часы ажыўлення рэлігійнай палемікі адной з асноўных мэт яе ўдзельнікаў было як мага хутчэй надрукаваць свой твор з прапагандай свайго веравызнання і крытыкай іншых канфесій. Таму разам з грунтоўнымі палемічнымі творамі выходзілі невялікія брашуры для масавага чытача, якія маглі прадавацца нават на кірмашах. Характэрнымі рысамі палемікі былі бескампраміснасць, заангажаванасць аўтараў, часам – імкненне збянтэжыць, асмяяць праціўніка. Гэта вяло да пэўнай абмежаванасці доказаў і аргументаў. Асноўнымі пытаннямі царкоўнай дагматыкі ў рэлігійнай палеміцы былі прымат папы рымскага, чысцец і зыходжанне Св. Духа (лац. Filioque – і ад сына; грэка-візантыйская царква прызнавала пастулат аб зыходжанні Св. Духа толькі ад Бога-Айца, што з'явілася адной з прычын расколу хрысціянскай царквы ў 1054 г.). Пратэстанты выступалі з вострай крытыкай інстытута папства (бачылі ў папе рымскім антыхрыста), адстойвалі ідэю рэлігійнай талерантнасці. Дарэчы, тэзіс аб папе-антыхрысце ўспрынялі і некаторыя праваслаўныя палемісты (І.Вішанскі, С.Зізаній). У каталіцка-уніяцкіх творах праваслаўных папракалі сувязямі з пратэстантамі, пратэстантаў абвінавачвалі ў парушэнні грамадскага спакою, у падабенстве іх дактрыны (на думку апанентаў) да іудаізму і ісламу. Праваслаўная брацкая публіцыстыка нярэдка выкарыстоўвала ідэі "рускага" і славянскага адзінства ў інтарэсах пашырэння беларуска-ўкраінскай апазіцыі, якая дабівалася забеспячэння прававой і рэальнай роўнасці праваслаўнага насельніцтва ва ўсіх сферах яго дзейнасці і для ўсіх станаў (шляхта, мяшчанства, сялянства).

Як адзначаў даследчык культуры Польшчы і ВКЛ А.Брукнер[1], палеміка пратэстантаў была спаборніцтвам некалькіх правадыроў без войска, яна парушала спакой нешматлікіх суполак, у той час як у спрэчках аб уніі бралі ўдзел натоўпы, да іх далучыліся казакі і мяшчане. Рэлігійная палеміка спалучалася з нацыянальнымі і грамадскімі пытаннямі.

Кальвіністы, лютэране і праваслаўныя вялі палеміку з каталікамі і арыянамі, апошнія праводзілі тэалагічныя дыскусіі з кальвіністамі і каталікамі. Альянс каталікаў і уніятаў выступаў супраць усіх. Трэба адзначыць, што прадстаўнікі праваслаўя амаль ніколі не згаджаліся ўдзельнічаць у публічных дыспутах, нягледзячы на неаднаразовыя запрашэнні апанентаў. Можна меркаваць, што яны адчувалі сваю пэўную непадрыхтаванасць да падобных акцый у адрозненне ад пратэстантаў і каталікаў, якія набылі багаты палемічны вопыт у другой палове XVI ст. Адсутнасцю спецыяльнай падрыхтоўкі і агульнымі недахопамі праваслаўнай адукацыі можна растлумачыць выкарыстоўванне праваслаўнымі метадаў і форм, уласцівых палеміцы каталікаў і пратэстантаў. Разам з тым трэба адзначыць высокі ўзровень літаратурнай палемікі праваслаўных, бліскучымі прадстаўнікамі якіх былі Мялецій Сматрыцкі, Стэфан Зізаній, Зіновій Капысценскі, Іван Вішэнскі і інш. У пэўнай ступені Берасцейская царкоўная унія садзейнічала развіццю палемічнага жанру ў праваслаўным асяроддзі.

Большасць палемічных твораў былі ананімнымі ці імя аўтара хавалася пад псеўданімам. Такім чынам аўтары не толькі імкнуліся пазбегнуць праследаванняў, але і падкрэсліць значнасць і аб'ектыўнасць сваіх аргументаў. Большасць палемічных твораў напісана па-польску, аднак для распаўсюдж-

---

[1] *Brückner A.* Spory o unię w dawnej literaturze // Kwartalnik Historyczny. Rocz. X.Zesz. III. Lwow, 1896. S. 582.

вання сярод шырокіх слаёў насельніцтва найбольш важныя з іх выдаваліся адначасова на польскай і "рускай" мовах.

**Праблема Берасцейскай царкоўнай уніі ў палеміцы.** Берасцейская унія выклікала бурную палеміку паміж католікамі і праваслаўнымі. Адзін з актыўных ініцыятараў і прыхільнікаў уніі, ідэолаг контррэфармацыі Пётр Скарга прысвяціў праблеме уніі некалькі твораў. У 1577 г. у віленскай друкарні Мікалая Радзівіла Сіроткі выйшла кніга П.Скаргі "Аб адзінстве царквы Божай пад адным пастарам..."[1], у якой аўтар прапанаваў гістарычнае і дактрынальнае абгрунтаванне ідэі царкоўна-рэлігійнай уніі і стварэнне адзінай царквы – "не цвінгліянскай, не лютэрскай, не новахрышчэнскай, не рускай, не грэчаскай, – а рымскай". Згадваючы аб гісторыі расколу ў хрысціянскай царкве, Скарга віну ўскладаў на праваслаўных: "руская царква паўстала ў выніку адшчапенства" і адзначаў, што выдаць кнігу яго вымусіла спачуванне "да братоў нашых, суседствам і мовай, і адзінай Рэччу Паспалітай з намі з'яднанага рускага народа..."

Ён называў тры асноўныя прычыны, з-за якіх, на яго погляд, праваслаўныя ніколі не дасягнуць сапраўднай духоўнай навукі, – гэта шлюб святароў, залежнасць духоўных асоб ад свецкіх і выкарыстанне царкоўнаславянскай мовы. "Са славянскай мовай вашай, – адзначаў ён, – ніхто ніколі не стане вучоным. Яе і зараз ўжо амаль ніхто не разумее. ...Таму папы вашы, калі хочуць што-небудзь у мове славянскай зразумець, – да польскай звяртаюцца за перакладам і іншай школы, акрамя як для чытання, не маюць. Адсюль уся цемната і памылкі вынікаюць..." На яго погляд, толькі каталіцкая царква захавала сапраўдную веру ў Хрыста. У з'яднанні цэркваў Скарга бачыў шлях духоўнага выратавання "схізматыкаў", іх далучэння праз каталіцтва да еўрапейскай культуры.

Ён папракаў праваслаўных ВКЛ тым, што яны аглядваюцца на "маскоўскія цэрквы і на маскоўскага князя, на людзей той мовы і набажэнства", бачыў у гэтым перашкоду уніі. Кніга "Аб адзінстве..." была прызначана для распаўсюджвання ў Беларусі, Літве, Украіне. Яна выклікала абурэнне ў праваслаўным асяроддзі. Паводле слоў аўтара, першае выданне кнігі было выкуплена "багатай Руссю" і знішчана. Наступныя выданні выйшлі ў 1590 і 1610 гг. Асноўныя тэзісы гэтай працы П.Скаргі былі выкарыстаны ў пазнейшых творах каталіцка-уніяцкай палемічнай літаратуры.



Іпацій Пацей

Найбольш таленавітым уніяцкім палемістам быў Іпацій (Адам) Пацей (1541–1613), з 1593 г. – уладзіміра-берасцейскі праваслаўны епіскап, з 1599 г. – уніяцкі мітрапаліт. Ён па-

---

[1] *Skarga P.* O iedności Kościoła Bożego pod iednym pasterzem. Y o Greckim od tey iedności odstępieniu. Z przestrogą y upominaniem do narodow Ruskich, przy Grekach stoiących // Русская историческая библиотека (далее – РИБ). Т. 7.

ходзіў са шляхецкай праваслаўнай сям'і, некаторы час вызнаваў кальвінізм, у 1574 г. вярнуўся ў праваслаўе. Пацей быў прыхільнікам рэформаў у праваслаўнай царкве, выйсце з рэлігійнага і культурнага крызісу ён бачыў у уніі, стаў адным з актыўных яе арганізатараў. У 1595 г. у Рыме разам з Кірылам Тарлецкім Пацей падпісаў акт уніі. Незадоўга да Берасцейскага сабора ён выступіў у абарону уніі з творам "Унія, альбо Выклад преднейших артыкулов ку зъодноченью греков с костелом рымским належащых" (выйшаў ананімна ў Вільні ў 1595 г.), напісаным па-беларуску, з элементамі жывой народнай мовы. Аўтар імкнуўся паказаць чытачам, "людям простым и неведомым", якія "книг в Руском языку о том писаных у собе не мают", што разыходжанні паміж каталіцкім і праваслаўным веравызнаннямі зводзяцца да пяці традыцыйных "артикулов" (1) зыходжанне Св.Духа; 2) чысцец; 3) "зверхность" папы; 4) каляндар; 5) тэзіс аб антыхрысце), а ў астатніх – "пакой і згода".

І.Пацей падкрэсліваў, што цяжкае становішча праваслаўнай царквы, занядбанне духавенствам сваіх пастырскіх абавязкаў вымусілі вернікаў шукаць праўдзівай веры ў Лютэра, Кальвіна, Арыя: "Некоторые мовят, иж волимо до арыянов, до новокрещенцев удатися, анижли быти под властию папежскою и згодитисе с папежниками"[1]. Ён перасцерагаў праваслаўных ад згоды з пратэстантамі, якія пагардліва называюць іх "нямым быдлам" і хочуць да свайго "хлява" загнаць: "Але ты, бедный простаку, не толко противника обличить, але и сам себе оборонити не можеш, кгды тебе простаком Руским, быдлом глупым, неуком пошывают"[2].

Разам з тым Пацей наракаў на перайманне праваслаўнымі пратэстанцкіх ерасей, у прыватнасці тэзіса аб папе-антыхрысце. Нават патрыярхі Усходняй царквы сцвярджаць гэта не смелі, "а нашы смеют то невстыдливе на писме выдавати, наследуючы в том не своих старших, але геретыков явных, которые о том розно пишучы и сами з собою не згоджаются"[3]. Асаблівае абурэнне І.Пацея як прадстаўніка шляхецкага стану выклікала тое, што супраць уніі актыўна выступаў "...люд посполитый, простый, ремесный, который, покинувшы ремесло свое (дратву, ножницы и шило) а привлащивши собе врад пастырский, писмом Божым ширмуют, ницуют, выворачают и на свое блюзнерские и хвалшивые потвары оборочают, пастырей своих власных соромотят, безчестят и потваряют"[4].

З канца XVI ст. Віленскае Святатроіцкае (пазней – Святадухаўскае) праваслаўнае брацтва стала адным з галоўных цэнтраў супраціўлення уніі. У 1593 г. братчыкі запрасілі да сябе з Львова Стэфана Зізанія "на поратунак, як чоловека навчонаго". У Вільні С.Зізаній узначаліў дзейнасць брацкай друкарні, выконваў абавязкі настаўніка ("дыдаскала") віленскай брацкай школы і прапаведніка. Палемічныя выступленні С.Зізанія ("Книжица на Римский костел" (1595) не захавалася; "Казанне св.Кирилла патриархи иерусалимского. О антихристе и знаках его з розширением науки против ересей розных" (1596, Вільня))[5] выклікалі вострую рэакцыю як з боку ўлад і каталіцкіх колаў, так і праваслаўнай іерархіі. Яго творы змяшчалі не толькі крытыку уніяцтва і каталіцтва, але і выявілі разыходжанні аўтара з ка-

[1] РИБ. Т. 7. Стлб. 117.

[2] Там жа. Стлб. 147.

[3] Там жа. Стлб. 119.

[4] Там жа. Стлб. 116–117.

[5] Памятки полемичного письменства кінця XVI і поч. XVII в. Видав Др. Кирило Студинський. Львів, 1906. Т. 1. С. 41–200.

нанічнай праваслаўнай дагматыкай. У "Казанні", прысвечаным князю К.Астрожскаму і надрукаваным на польскай і "мове беларускай" (так напісаў Зізаній у прадмове да польскага тэксту), аўтар не спыняецца на пытаннях царкоўнай дагматыкі, ён закранае праблемы ўзаемаадносін духоўнага і свецкага станаў, рэлігійнай верацярпімасці, дзейнасці брацтваў, выказвае ерэтычную на той час думку, што "чловечая натура з бозкою ровно ест". Зізаній называе прыметы ("знакі"), якія сведчаць аб прышэсці антыхрыста, атаясамленага ім з папай рымскім, і звязвае іх з сучаснымі яму гістарычнымі падзеямі – расколам усяленскай царквы: "папеж римский все соборы зрушил"; ерасямі, міжусобіцамі і войнамі, удзелам духавенства ў палітычнай барацьбе.

Наваградскі сабор 1596 г., адзначыўшы, што Зізаній у сваёй святарскай і кнігавыдавецкай дзейнасці "запусціўся ў вялікае ерэтыцтва", асудзіў і пазбавіў яго духоўнага сану. З водпаведдзю на кнігі Зізанія выступіў езуіт Шчасны Жаброўскі (адзін з псеўданімаў Марціна Лашча). У сваіх палемічных брашурах "Куколь, які рассявае Стэфан Зізаній у рускіх цэрквах у Вільні" і "Пустазелле Стэфана Зізанія, ерэтыка з царквы рускай выклятага"[1] Жаброўскі абвінаваціў Зізанія ў ерэтычных памылках (10 памылак, ці "куколяў"), выступленнях супраць уніі, айцоў царквы і папы рымскага: "З небам і з зямлёй ваюеш, ані Богу, ані людзям не спускаеш. Святых з неба выштурхіваеш. Д'яблаў у пекла не пушчаеш... Караля, пана нашага, ганебна ў казаннях сваіх згадваеш, мітрапалітаў лаеш, лаціннікаў праклінаеш. Русь да бунтаў і нязгоды падпальваеш, займаеш уладу д'ябла на зямлі"[2]. У вершы, падпісаным псеўданімам Якуб Пшаніца (Зізаній у перакладзе з грэчаскай мовы – куколь), езуіт, згадваючы аб пастанове наваградскага сабора, называе Зізанія хлопам, які імкнецца прапаведаваць. Аднак папулярнасць Зізанія сярод праваслаўных прызнае нават Іпацій Пацей: "... новы тэолаг, а стары баламут Стэфан Зізаній ... так сваю Русь адурманіў, што яго кніжкам баламутным лепей, ніж Евангеллю, вераць"[3]. М.Сматрыцкі ў сваёй уніяцкай "Апалогіі" назваў Зізанія невукам, які "ў ерась упаў і нас аб'ерэтычыў".

Пасля Берасцейскага сабора 1596 г., абвясціўшага царкоўную унію, літаратурная палеміка ўспыхнула з новай сілай. Фактычна ў Берасці адбыліся два саборы – праваслаўны і уніяцкі. Непасрэдна гэтым саборам прысвечаны творы П.Скаргі – "Берасцейскі сінод" і "Абарона сіноду Берасцейскага" (яны выйшлі адной брашурай у Кракаве ў 1597 г.), І.Пацея "Справедливое описанье поступку и справы сынодовое" (1597), а таксама "Ектэзіс" ананімнага праваслаўнага аўтара. Апошні твор уяўляе сабой дакладнае апісанне падзей на праваслаўным саборы, змяшчае пералік духоўных асоб, паслоў ад шляхецкага і мяшчанскага станаў, брацтваў. Аўтар, які, верагодна, быў відавочцам, сведчыць, што на гэты сабор запрашаліся і уніяты, аднак яны адмовіліся прыйсці. Сход праходзіў у прыватным доме, яго ўдзельнікі пацвердзілі сваю адданасць Усходняй царкве і абвясцілі аб пазбаўленні духоўнага стану "апостатов" (адступнікаў) – мітрапаліта і епіскапаў, якія прынялі унію[4].

Супрацьлеглы бок асвятляе ход падзей на уніяцкім саборы, сцвярджае яго легітымнасць і адмаўляецца прызнаць правы гэтай супрацьуладавай

---

[1] Żebrowski Szczęsny. Kąkol, który rozsiewa Stephanek Zizania w cerkwiach ruskich w Wilnie. Przytem wspomnienie krótkie do Unii Kościoła ruskiego z lacinskim. Wilno, 1595.

[2] Памятники полемичного письменства кінца XVI і поч. XVII в. Видав Др. Кирило Студинський. Львів, 1906. Т. 1. С. 29.

[3] РИБ. Т. 7. Стлб. 181.

[4] EKTHESIS, abo krótkie zebranie spraw, które się działy na partykularnym, to jest pomiastnym synodzie w Brześciu Litewskim // РИБ. Т. 19. Стлб. 329–376.

"схажкі", "гератыцкага сейміка" – сабора праваслаўных, на якім прысутнічала шмат свецкіх людзей, а "межи паны шляхтою мало не болшая часть розных геретиков, арыянов, новокрещенцов, а также и колька чужоземцов". Каб паказаць, якую шкоду прыносіць праваслаўным пагадненне з пратэстантамі, П.Скарга ўжыў відавочнае перабольшанне, адзначыўшы, што ў Наваградскім ваяводстве пратэстанты больш за 650 цэркваў "і службу Божую ў іх спустошылі", а з 600 праваслаўных шляхецкіх сямей ледзьве 16 засталося, якія пазбеглі "гератыцкай нова- крашчэнскай заразы"[1]. У 1597 г. "Берасцейскі сабор і яго абарона" П.Скаргі выйшаў у Вільні ў перакладзе І.Пацея на "рускую" мову[2].

У адказ на выступленне П.Скаргі быў выдадзены ананімны твор на польскай мове – "Апокрысіс" (Вільня, 1597)[3]. Аўтар (як мяркуюць, пратэстант Марцін Бранеўскі) падпісаўся псеўданімам Хрыстафор Філалет (Праўдалюбец). На думку А.Брукнера, "Апокрысіс" – гэта для праваслаўных найбольш карысны вынік іх сувязей з пратэстантамі. У адрозненне ад іншых праваслаўных палемістаў, якія выказвалі свае негатыўныя адносіны да "гератыкоў", Філалет ускосным чынам бараніў і іх, згадваючы аб Варшаўскай канфедэрацыі і пагроме Віленскага евангелічнага збору. Аўтар абвяргае абвінавачванні П.Скаргі аб выступленні праваслаўнага сабора супраць вярхоўнай улады, адзначае неправамоцтва прэтэнзій каталіцкай царквы на ролю духоўнага правадыра ў Беларусі і Літве (дзе, паводле яго слоў, больш праваслаўных, чым католікаў), карысталюбства каталіцкай іерархіі, нераўнапраўнае палітычнае становішча праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай – "каб уладыка грэчаскай рэлігіі ў сенаце места меў, таго ў Польшчы, падобна, ніколі не дачакаешся". Ён перасцерагае ад гвалтоўнага ўвядзення уніі: "... У веры нікому не трэба гвалту чыніць", бо гэта можа прывесці да кровапралітнай унутранай вайны; а "... такая война над иные внутрние войны як ядовитшая быти, так и должей трвати мусит", і звяртаецца да шляхецкага стану з заклікам сцерагчы свае правы.

"Апокрысіс" напісаны яркай і вобразнай мовай з выкарыстаннем вялікай колькасці літаратуры і дакументальных матэрыялаў; для яго характэрны энцыклапедызм, спалучэнне мастацкіх якасцей і высокага навуковага ўзроўню. Каля 1599 г. "Апокрысіс" быў выдадзены ў Астрогу кірыліцай.

Выдатным помнікам палемічнай літаратуры канца XVI ст. з'яўляецца уніяцкі твор "Антырызыс"[4], напісаны І.Пацеем як водпаведзь Філалету. "Антырызыс", як і іншыя творы І.Пацея, вызначаецца лексічным і фразеалагічным багаццем, дасціпнымі выразамі, іранічнымі параўнаннямі, выкарыстоўваннем прыказак і прымавак. Пацей з'едліва называе Філалета Філаплётам, Філапсеўдам, ерэтыком, які прыкрываецца "рускай верай" – "будучи геретиком, за Русина удаешъся". "Филялет не Русин, бо не знает ключа пасхального". Ён адзначае, што распаўсюджанне Рэфармацыі яшчэ больш аслабіла пазіцыі праваслаўнай царквы пры патуранні грамадства: "Хто на сеймах або на сеймиках о тое мовил, коли церкви од геретыков, апостатов на шопы, на стайни оборочано? Хто за владыки и за духовенство, за попы бедныя слово намнейшее промовил..." На думку Пацея, залежнасць

---

[1] РИБ. Т. 7. Стлб. 951.

[2] Там жа. Стлб. 183–328.

[3] Там жа. Стлб. 1003–1820.

[4] РИБ. Т. 19. Антиризис, или Апологіа против Христофора Филалета. Стлб. 477–982; Лист Ипатіа Потея к князю Острожскому. Стлб. 983–1040; Ответ Ипатіа Потея клирику Острожскому. Стлб. 1041–1122.

праваслаўных святароў ад свецкіх паноў прывяла іх да амаль халопскага існавання: "хочете, абы што поп, то просты хлоп был у вас". Аўтар "Антырызыса" імкнецца паказаць, што выйсце з цяжкага становішча для праваслаўных можа быць толькі ў далучэнні да уніі, а не ў саюзе з пратэстантамі: "Але то нагоршая: иж нашы православникове лепей верять геретиком, а ниж католиком, и волять ся з неприятельми веры и церымоней своих явными згажати, а ниж с тыми, которые и самых себе, и веры своее и Руское од геретиков боронят, и заставуются за них; а они небожата того не видят, але ослеп в пропасть лезут...".

Трэба адзначыць, што традыцыйнае для каталіцка-уніяцкіх аўтараў абвінавачванне праваслаўных у схільнасці да "ерасі" не мела дастатковых падстаў. Згода праваслаўных з пратэстантамі насіла не царкоўна-рэлігійны, а палітычны характар і была выклікана неабходнасцю сумеснай абароны сваіх правоў. Пацей меў рацыю, калі адзначаў у "Антырызысе": "... где бы до власное и правоверное Руси геретикове не примешивалися и оных не зводили, и на Рымлян не подбуряли, давно бы тая светлая згода конец свой взела".

Да выдання "Антырызыса" былі далучаны ліст І.Пацея да князя Канстанціна Астрожскага ад 3 чэрвеня 1598 г. і адказ І.Пацея клірыку Астрожскаму. У лісце да Канстанціна Астрожскага Пацей згадвае аб Фларэнтыйскай уніі, якая не была рэалізавана "недбалостью старших церковных", і заклікае князя далучыцца да справы хрысціянскага яднання. Аднак у І.Пацея і К.Астрожскага розныя погляды на шляхі да гэтай згоды. І.Пацей лічыць ілюзорнымі планы ажыццявіць унію разам з Маскоўскай дзяржавай: "Бо и хто ж не ведает, яко великое грубиянство, упор и забобоны суть в народе Московском?" Не хавае І.Пацей сваіх негатыўных адносін і да грэка-візантыйскай царквы, якая, на яго погляд, пад турэцкай уладай страціла сваю былую годнасць: "О бедная Греция! Оная краса и светлость твоя первая вся исчезла! Первей была еси Греция, ныне же Турция зватися мусиш!".

У каталіцка-уніяцкай палеміцы канца XVI – пачатку XVII ст. шмат увагі надавалася пытанню гістарычнай пераемнасці Берасцейскай уніі ад Фларэнтыйскай. Аўтары твораў, прысвечаных гісторыі Фларэнтыйскай уніі (І.Пацей (?) "Абарона сабора Фларэнтыйскага, 1603, 1604 г.; Л.Крэўза "Абарона царкоўнай еднасці", 1617 г.) імкнуліся даказаць, што ідэя уніі здаўна падтрымлівалася вярхамі праваслаўнага духавенства і свецкіх колаў. Выданне І.Пацеем у 1605 г. на "рускай" і польскай мовах знойдзенага, паводле яго слоў, у Крэўскай царкве паслання кіеўскага мітрапаліта Місаіла, падпісанага свецкай і духоўнай знаццю, да папы рымскага – "Пасольства да рымскага папы Сікста IV ад духавенства, паноў і князёў рускіх з Вільні року 1476" – павінна было пацвердзіць існаванне старадаўняй уніяцкай традыцыі сярод праваслаўнай знаці ВКЛ. Да выдання быў далучаны выпіс з кніг віленскага магістрата, які сведчыць, што бурмістры і радцы "рымскай і рускай лавіц"азнаёміліся з гэтай старажытнай кнігай, напісанай пісьмом "рускім", але мовай "словенскай"[1].

У пазнейшым творы І.Пацея "Гармония, альбо согласие веры..."[2] пра-

---

[1] *Голенченко Г.Я.* Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XV – середине XV вв. Мн., 1989. С. 185.

[2] *Потей И.* Гармония, альбо согласие веры, сакраментов и церемонией светое Восточное церкви с костелом Римским. Вильня, 1608, // РИБ. Т. 7. Стлб. 169–222.

водзіцца ідэя блізкасці, “гармоніі” прасваслаўнай і каталіцкай цэркваў: “Изали (хіба) вера Латинская не таяж, што и Греческая, которая вызнаваеть Бога во Тройцы единого”. Асуджаючы кантакты праваслаўных з пратэстантамі “у вере и набоженстве”, ён дапускае іх магчымасць “в политыце, которая незаборонна”.

У апошніх творах, якія прыпісваюцца І.Пацею, – “Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва” (1608) і “Рэляцыя і некаторыя ўчынкі каля рускіх віленскіх цэркваў” (1609) аўтар абвінавачвае Віленскае праваслаўнае святадухоўнае брацтва ў падбухторванні да бунтаў, замаху на жыццё мітрапаліта (самога Пацея), брацтва і братчыкі мянуюцца “налівайкаўскімі”.

З адказам на “Гармонію” і “Ерасі” ў віленскай брацкай друкарні выйшаў ананімны твор “Антыграфі”[1] (1608), які прыпісваюць Мялецію Сматрыцкаму. Выданне было прысвечана сыну Канстанціна Астрожскага – Яну, які прыняў каталіцтва, “каб яго пад абаронай знатнага імені як пад прыкрыццём шчыта на свет выпусціць можна было”. Аўтар не прымае абвінавачванні уніятаў супраць праваслаўнага духавенства і брацтваў і адзначае, што іх дзейнасць не супярэчыць законам “вольнай” Рэчы Паспалітай, якія заўсёды дазвалялі “бітаму плакаць, пакрыўджанаму скардзіцца, абвінавачанаму апраўдвацца”.

З першых твораў Мялецій (Максім) Сматрыцкі заявіў аб сабе як таленавітым, высокаадукаваным публіцысце. Ён атрымаў пачатковую адукацыю ў Астрожскай школе, дзе яго настаўнікамі былі бацька – вядомы пісьменнік-палеміст Герасім Сматрыцкі і грэк Кірыл Лукарыс, будучы канстанцінопальскі патрыярх. Пасля заканчэння Віленскай езуіцкай акадэміі М.Сматрыцкі ў якасці настаўніка маладога Багдана Саламярэцкага наведваў еўрапейскія універсітэты. Як сведчыў сам Сматрыцкі ў “Апалогіі”, ён правёў “свае маладыя гады ў Лейпцыгскім і Вітэнбергскім універсітэтах, дзе вучыўся навукам, можна сказаць, пры грабніцы Лютэра”. Яго працы насычаны спасылкамі не толькі на багаслоўскія трактаты, але і творы пісьменнікаў і мысліцеляў-гуманістаў эпохі Адраджэння. Амаль усе творы М.Сматрыцкага напісаны на польскай мове.



Мялецій Сматрыцкі

Праграмным творам праваслаўных стаў “Трэнас” (“Плач”, “Лямент”) М.Сматрыцкага. “Трэнас” выйшаў у свет у 1610 г. пад псеўданімам Тэафіл Арталог (Багалюб Златавуст). Асноўнай часткай твора з’яўляецца знакаміты “Плач або нараканне святыя ўсходнія царквы на сваіх сыноў, якія ад яе адракліся”. У алегарычным вобразе плачучай маці-царквы аўтар імкнуўся паказаць трагічнае становішча праваслаўнай царквы. З горыччу і болем звяртаецца ён да князёў і

[1] РИБ. Т. 19. Стлб. 1149–1300.

паноў, якія пакінулі праваслаўе: "Дзе зараз той вельмі каштоўны каменьчык-карбункул, бліскучы, як свет, які я насіла ў сваёй кароне паміж іншымі перламі, як сонца паміж зорамі, – дом князёў Астрожскіх (Канстанцін Астрожскі памёр у 1608 г., а яго нашчадкі перайшлі ў каталіцтва. – *Л.І.*), які вылучаўся сярод іншых бляскам святла сваёй старажытнай веры? Дзе і іншыя дарагія і вельмі каштоўныя каменні той самай кароны, слаўныя дамы рускіх князёў, неацэнныя сапфіры, надзвычай каштоўныя дыяменты: князі Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыскія, Пронскія, Ружынскія, Саламярэцкія, Галаўчынскія, Крошынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны і іншыя многія... Дзе і другія вельмі каштоўныя мае скарбы, радавітыя, паўтараю, слаўныя, высакадумныя, моцныя і даўно па ўсяму свету праслаўленыя добрай славай, магутнасцю і мужнасцю народа рускага дамы: Хадкевічаў, Глебавічаў, Кішак, Сапег, Дарагастайскіх, Войнаў, Валовічаў, Зяновічаў, Пацаў, Халецкіх, Тышкевічаў, Корсакаў, Храбтовічаў, Трызнаў, Гарнастайскіх, Бокіх, Мышкаў, Гойскіх, Сямашак, Гулевічаў, Ярмалінскіх, Чалганскіх, Каліноўскіх, Кірдзяяў, Загароўскіх, Мялешкаў, Богавіцінаў, Паўловічаў, Сасноўскіх, Скумных, Пацеяў і іншых"[1].

Аўтар асуджае біскупаў-адступнікаў і ад імя царквы заклікае І.Пацея вярнуцца ў яе лона. Асвятляючы ў "Трэнасе" асноўныя пытанні рэлігійнай дагматыкі, М.Сматрыцкі рэзка выступіў супраць вяршэнства папы рымскага, параўнаў яго ўладу з турэцкай тыраніяй: "Турчын у свецкай палітыцы, а папеж у царкве Божай тыран. Турчын у Азіі толькі, а папеж усяго свету Кесарам над Кесарамі і Панам над Панамі быць хоча." Каталікі і уніяты ў заняволенні Грэцыі Атаманскай імперыяй бачылі "перст Божы", пакаранне Усходняй царквы за адступніцтва ад Рыма. На думку М.Сматрыцкага, зберагчы "душу вольную" лягчэй у турэцкай няволі, чым пад уладай папы. Гэты тэзіс паслужыў падставай для абвінавачванняў праваслаўных у сувязях з Турцыяй.

Дзейнасць брацкай друкарні ва ўмовах ваеннай напружанасці з Маскоўскай дзяржавай выклікала вострую занепакоенасць правячых колаў. П.Скарга ў сваім творы "Перасцярога на Трэны і Лямант Тэафіла Арталога" (1610) адзначаў: "... асабліва цяпер, калі наш богабаязненны кароль ваюе з Масквой, ... яна з-за чытання тых кніг будзе больш упартай, баючыся ўшчамлення свайго грэчаскага набажэнства". Грамата Жыгімонта III ад 7 мая 1610 г. пад пагрозай штрафу забараняла распаўсюджванне выданняў Святадухаўскай друкарні, якія змяшчалі заклікі да бунтаў. Частка кніг была канфіскавана, кіраўнік друкарні Лявонцій Карповіч пасаджаны ў турму. Друкарню братчыкі перанеслі ў мястэчка Еўе каля Вільні, маёмасць князя Багдана Агінскага.

Асаблівае ажыўленне дыскусіі назіралася пасля 1620 г., калі зноў узнікла небяспечнасць з боку Турцыі і Маскоўскай дзяржавы, а патрыярхам Феафанам была адноўлена праваслаўная іерархія, так і не прызнаная вярхоўнай уладай. М.Сматрыцкі быў абраны архіепіскапам полацкім. Узнавіліся абвінавачванні праваслаўных у іх здрадніцкіх сімпатыях да знешняга непрыяцеля. У адказ на абвінавачванні ў дзяржаўнай здрадзе, шпіянажы, адстойваючы свае рэлігійныя правы, праваслаўныя сцвярджалі, што іх дзеянні не супярэчаць царкоўнаму праву і рэлігійнай традыцыі. Аргументы,

---

[1]Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / Склаў А.Ф.Коршунаў (пераклад яго ж). Мн., 1959. С. 268–269.

якія сведчылі аб лаяльнасці праваслаўных да ўлады Рэчы Паспалітай, прыводзілі М.Сматрыцкі, З.Капысценскі.

М.Сматрыцкі выступіў з ідэяй адзінства "рускага" народа Рэчы Паспалітай на этнічнай аснове: "... бо не адракаецца ад сваёй крыві той, хто веру мяняе. ... Не вера русіна русінам, паляка палякам, літвіна літвінам робіць, а нараджэнне і кроў руская, польская, літоўская"[1].

Аўтары уніяцкага "Ліста да манахаў манастыра Св.Духа" з пагардай ставіліся да гэтай ідэі: "Як можа быць адзінай наша кроў шляхецкая з плебейскай? Якая можа быць роднасць з хлопствам?"[2] Адказваючы уніяцкім аўтарам, М.Сматрыцкі надае веравызнанню больш высокі сэнс, чым сацыяльным і этнічным адрозненням: "Мы, манахі, шляхта і плебеі – адно ў Хрысце. І варвар у нас, і скіф, і грэк, і яўрэй, былі толькі вернымі хрысціянамі"[3].

Уніяты лічылі праваслаўную веру "хлопскай", не шляхецкай. У пачатку уніяцтва яна ўспрымалася як "панская" вера. Характэрна яе ўспрыманне простым чалавекам у інтэрмедыі XVII ст.: "... бо што лях, або уніят, то панок, а што схізматык, то мужык лядашчы". Нярэдка абыгрывалася ў творах уніяцкіх палемістаў і прыхільнасць простага люду да "старыны". "А люд паспаліты ... як авечкі ідзе туды, куды вядзе павадыр духоўны, ці свецкі, абы ў царкве ўсё было па-старому", – пісаў у сваім творы "Двайная віна" уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі.

У некаторых уніяцкіх творах негатыўна ацэньвалася роля казацтва ў барацьбе за правы праваслаўных. Варшаўскі пісар К.Скупеньскі ў кнізе "Русін, альбо выклад размовы двух русінаў, схізматыка з уніятам" пісаў: "Калі б кварцяное войска не пагражала б казакам і з Польшчы за імі не сачылі, тады б тыя абаронцы, вашы падданыя даўно б сталі вашымі панамі. Няшмат веры ў іх душах"[4].

З другой чвэрці XVII ст. палеміка паміж уніятамі, католікамі і праваслаўнымі страціла былую вастрыню. Пераход ва уніяцтва М.Сматрыцкага ў канцы 30-х гг. пазбавіў праваслаўных таленавітага палеміста, абаронцу іх веры. Змены ў становішчы праваслаўнай царквы (аднаўленне Уладзіславам IV іерархіі і часткова – правоў царквы), вычарпальнасць аргументаў і довадаў, абмежаваныя магчымасці выдавецкай дзейнасці праваслаўных брацтваў, пэўная адаптацыя грамадства да уніі перанеслі цэнтр цяжкасці царкоўна-рэлігійных супярэчнасцей у сферу грамадска-палітычнай барацьбы.

Аднак вядучыя беларускія і ўкраінскія брацтвы, якія ўзнікалі ў буйных гарадах ВКЛ і Польшчы, устанавілі паміж сабой пастаянныя культурныя, царкоўна-рэлігійныя і грамадска-палітычныя сувязі. Паводле сведчання уніяцкіх публіцыстаў, брацкія выданні адначасова распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі і Украіны, састаўлялі агульны фонд брацкай праваслаўнай літаратуры і пісьменнасці і карысталіся выключным прэстыжам сярод "грубага паспольства ўсёй Русі".

**Рэфармацыйная і контррэфармацыйная палеміка**. Палеміка каталіцкіх аўтараў з праваслаўнымі не перашкаджала ім выступаць супраць пратэстантаў ВКЛ. У палемічных творах закраналіся як дактрынальныя, так і палітычныя праблемы. Каталіцкія палемісты адзначалі, што адзіная вера вядзе да росквіту дзяржавы, а "ерэтыцтва" яе губіць. На іх думку, Рэ-

---

[1] Verificatia Niewinności... Wilno, 1621 // Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России (далее – АЮЗР). Киев, 1887. Т. 7 Ч. 1. С. 279–344.

[2] List do zakonników...// АЮЗР. Т. 8. Ч. 1. С. 737.

[3] Elenchus pism vszczypliwych. Wilno, 1622 // АЮЗР. СПб., 1889. Т. 8. Ч. 1. С. 606.

[4] АЮЗР. Ч. 1. Т. 7. С. 721.

фармацыя разбуральна ўздзейнічала на грамадска-палітычны лад, пазбаўляла пануючыя колы аўтарытэту. Адным з найбольш папулярных аргументаў католікаў было абвінавачванне пратэстантаў у парушэнні грамадскага парадку, падбухторванні падданых да бунтаў: "Ерэтыцкія міністры з'яўляюцца аўтарамі развалаў каралеўстваў, помсты Божай і нязгоды"[1]. Каталіцкія палемісты выступалі супраць ідэі рэлігійнай талерантнасці, якую яны атаясамлівалі з праявамі шляхецкай анархіі ў веравызнальных справах, уздымалі пытанне аб адмене акта Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г. П.Скарга ўсіх прыхільнікаў канфедэрацыі называў ерэтыкамі, лічыў, што яна супярэчыць папярэдняму заканадаўству.

У контррэфармацыйнай літаратуры XVII ст. атрымаў развіццё тэзіс аб Рэфармацыі як чужароднай з'яве на айчыннай глебе ("нямецкая вера"), падкрэслівалася роля іншаземцаў у распаўсюджванні "ерасі" на землях Рэчы Паспалітай, пратэстанты аб'яўляліся ворагамі дзяржавы. Ананімны аўтар адказваў на гэтыя абвінавачванні: "О, як многа крыві сваёй евангелікі ў Інфлянтах і Прусах разам з католікамі пралілі за 30 гадоў, застаючыся вернымі свайму каралю і Рэчы Паспалітай"[2].

Часам у палемічных творах замест аргументацыі выкарыстоўваліся плёткі пра асобных дзеячаў. Ва ўсіх смяротных грахах каталіцкія палемісты вінавацілі Лютэра і Кальвіна, нават Эразма Ратэрдамскага, які афіцыйна не далучыўся да Рэфармацыі, як і С.Буднага, змясцілі ў пекла. Асабліва абвінавачваліся пратэстанцкія святары, іх сацыяльнае і нацыянальнае паходжанне, узровень адукацыі, маральнае аблічча.

Пратэстанты не ў стане былі адказваць на кожны палемічны твор. Яны мелі абмежаваныя сродкі для выданняў, акрамя таго, у XVII ст. ужо мала засталося вядомых пратэстанцкіх публіцыстаў. Да таго ж пратэстанты былі заняты спрэчкамі паміж рознымі плынямі сваёй канфесіі[3].

Аб'ектам асабліва вострай крытыкі заставаліся арыяне. Іх веравызнанне параўноўвалі з ісламам і іудаізмам: "... верацЬ у адзінага Бога, без сына і Св. Духа". Арыян няслушна папракалі, што яны не хочуць абараняць Рэч Паспалітую, таму што іх дактрына забараняла ім удзельнічаць у войнах. Аднак гістарычныя факты сведчаць, што арыяне служылі ў войску і абаранялі межы дзяржавы.

Арыянскія тэолагі лічылі, што кальвіністы і лютэране не асабліва адышлі ад каталіцкай дагматыкі. На іх думку, вызначальную ролю ў крытыцы каталіцкай царквы адыграў Фауст Соцын: "Лютэр разабраў дах, Кальвін – сцены, аднак падмуркі – Соцын"[4]. Рэарганізаваная Ф.Соцынам арыянская супольнасць у пачатку XVII ст. актывізавала сваю прапагандысцкую дзейнасць, асабліва сярод кальвінісцкай шляхты. Аднак кальвіністы Беларусі і Літвы сцераглі сваю паству ад пранікнення "арыянскай атруты". Кальвінісцкі міністр з Ашмяны Мураванай Войцех Салінарыус у 1614 г. прадставіў Віленскаму сіноду вялікі трактат, у якім ён палемізаваў з "фальшывымі думкамі" Ф.Соцына аб Св. Тройцы, паходжанні Хрыста, рэлігійных таінствах[5].

---

[1] *Marcin z Klecka.* Proca na ministry i na wszystkie heretyki. Kraków. 1607. S. 98.

[2] Цыт. па: *Kosman M.* Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław, 1973. S. 204–205.

[3] Там жа. S. 195.

[4] *Urban W.* Epizod reformacyjny. Kraków, 1988. S. 66.

[5] *Salinarius W.* Censura albo rozsądek na confessią... Oszmiana, 1615.

У палемічных творах XVII ст. тэалагічныя пытанні займалі няшмат месца. У контррэфармацыйнай літаратуры папулярнымі былі з'едлівыя сатырычныя творы, у якіх праціўнік выглядаў недарэчным дурнем, пакараным за свае грахі. Такія сюжэты былі больш зразумелымі для асноўнай масы чытачоў, чым разважанні аб ідэалагічных праблемах веравызнання, якія патрабавалі пэўнай падрыхтаванасці. Крызіс рэфармацыйнага руху і поспехі контррэфармацыі, несумненна, адбіліся на інтэлектуальным узроўні дыскусій.

Гісторыка-канфесійныя аргументы рэлігійнай палемікі часам выкарыстоўваліся ў першай палове XVII ст. у дзейнасці вальных сеймаў Рэчы Паспалітай, а таксама ў абгрунтаванні пастулатаў праваслаўнай і пратэстанцкай апазіцыі.

## 3. Пачатак барока

**Агульныя рысы барока.** Грамадска-палітычныя, культурныя і ідэалагічныя працэсы, якія на працягу XVI ст. адбываліся ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, спрыялі ўзнікненню новага мастацкага стылю. Мастацтва барока нарадзілася ў другой палове XVI ст. у Італіі і ў пачатку свайго станаўлення было па сутнасці працягам культурных традыцый позняга Рэнесансу. Як і ў рэнесансным стылі, асноўныя элементы барока запазычаны з антычнасці, але яго вызначальнымі рысамі былі дэкаратыўная пышнасць і пампезнасць форм, складанасць і вытанчанасць ліній, дынамізм, павышаная экспрэсія, часам нават экзальтаванасць, багацце яркіх колераў, шырокае выкарыстоўванне эфекту светлацені, стварэнне ілюзорнай прасторы. У адрозненне ад поўных рэлігійнай пашаны, амаль містычных пачуццяў, якія выклікала сярэднявечнае мастацтва, барока ўздзейнічала на людскія эмоцыі і фантазіі. Эстэтычныя канцэпцыі барока адпавядалі светапогляду чалавека, які існаваў у складанай атмасферы супярэчнасці ў сацыяльным, грамадскім і царкоўна-рэлігійным жыцці, узрушэнняў, якія прыносілі шматлікія войны.

Вызначаюць наступныя перыяды развіцця барока: маньерызм, ранняе барока, сталае барока, ракако.

У часы фарміравання абсалютысцкіх дзяржаў і арганізацыі посттрыдэнцкага рэфармаванага каталіцкага касцёла мастацкія сродкі барока выкарыстоўваліся для праслаўлення манархіі і ўзвышэння каталіцкай царквы. Нездарма найбольшы росквіт мастацтва барока мы назіраем у традыцыйна каталіцкіх краінах – Італіі, Іспаніі, Польшчы. Аднак барока як агульнаеўрапейскі мастацкі стыль пранікае і ў мастацтва некаталіцкіх краін – Англіі, Германіі, Нідэрландаў, Расіі, дзе развіваецца з мясцовымі асаблівасцямі. Польскі даследчык Раман Поляк адзначае, што характэрнай рысай гэтага вельмі экспансіўнага стылю з'яўляецца надзвычайная лёгкасць асіміляцыі мясцовых, айчынных элементаў, арнаментальных матываў[1].

У адрозненне ад готыкі і рэнесанснага стылю, якія з'явіліся ў Беларусі з вялікім спазненнем і мелі даволі неакрэсленыя формы (так званы готыка-рэнесансны стыль), развіццё стылю барока ішло амаль адначасова з краінамі Заходняй Еўропы. Гэтаму працэсу садзейнічалі развіццё гарадоў, пашырэнне палітычных, эканамічных і культурных кантактаў з Захадам, падарожжы за мяжу, навучанне ў замежных універсітэтах, успрыняцце еўрапейскай культуры, адраджэнне на новай аснове мецэнацтва.

[1] *Pollak Roman.* Od Renesansu do Baroku. Warszawa, 1969. S. 18.

Асабліваю ролю ў развіцці духоўнай культуры Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ў XVI ст. адыгрывала Італія. Менавіта з Італіі прыйшло на беларускія землі барока. Кантакты і сувязі з гэтай краінай былі ў значнай ступені абмоўлены яе роллю ва ўсталяванні еўрапейскай рэнесанснай і пострэнесанснай культуры, а таксама пэўнай царкоўна-канфесійнай супольнасцю Рэчы Паспалітай з еўрапейскім каталіцкім светам. У XVI–XVII стст. гэтыя сувязі былі значна пашыраны і секулярызаваны. Італія вабіла беларускіх і літоўскіх спадарожнікаў сваім дынамічным духоўным жыццём, развітай гарадской культурай, міжнародным прэстыжам яе універсітэцкай адукацыі. Паводле падлікаў даследчыкаў, у знакамітым Падуанскім універсітэце з 1592 г. да сярэдзіны XVII ст. вучылася каля 170 "літвінаў".

На своеасаблівую творчую адаптацыю агульнаеўрапейскіх культурных тэндэнцый, безумоўна, уплывалі пэўнае палітычнае і культурнае збліжэнне з Польшчай пасля Люблінскай уніі 1569 г., умацаванне пазіцый каталіцкай царквы ва ўсім гэтым арэале, заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі 1595 г. Своеасаблівыя рысы духоўнай культуры шмат у чым вызначаліся гістарычнай спадчынай Беларусі, узроўнем гаспадарчага і палітычнага развіцця, этнаканфесійнай разнастайнасцю, эмансіпацыяй шляхецкага стану, эвалюцыяй яго канфесійных, грамадскіх і культурных прыярытэтаў. У духоўнай культуры Беларусі выразна ўвасобіўся своеасаблівы сінтэз новых заходнееўрапейскіх павеваў з візантыйскай культурнай традыцыяй, што ў сукупнасці надало творам беларускага барока непаўторнае аблічча[1].

**Барока ў архітэктуры.** Беларусь першай з усходнеславянскіх тэрыторый успрыняла новы стыль, які спачатку ўвасобіўся ў архітэктуры. Езуіцкі касцёл Божага цела, пабудаваны ў Нясвіжы ў 1584–1593 гг. (архітэктар Я.М.Бернардоні), быў першым помнікам барока ў Рэчы Паспалітай і адным з першых у Еўропе. Архітэктурнай асновай для нясвіжскага храма быў пабудаваны ў пачатку 80-х гг. XVI ст. рымскі касцёл Іль Джэзу. Знаходка так зва-



Нясвіж. Гравюра Т.Макоўскага пачатку XVII ст.

[1] *Габрусь Т.В.* Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001.

нага "Альбома Бернардоні" з чарцяжамі, сярод якіх ёсць і план нясвіжскага касцёла Божага цела, дазваляе больш поўна і дакладна асвятліць працэс станаўлення барока ў Вялікім княстве Літоўскім. Даследчыкі тлумачаць з'яўленне першага езуіцкага касцёла не на землях Кароны, а ў невялікім мястэчку Вялікага княства Літоўскага, радавым гняздзе Радзівілаў, некалькімі прычынамі. Па-першае, больш моцнымі пазіцыямі каталіцызму ў Польшчы, чым у Вялікім княстве Літоўскім, дзе значная большасць насельніцтва вызнавала праваслаўе і даволі стабільным было становішча пратэстантаў. Таму і актыўнасць ордэна езуітаў – галоўнага праваднікa ідэй контррэфармацыі – праяўлялася тут мацней. Па-другое, асабістай ініцыятывай фундатара езуіцкага касцёла і калегіума ў Нясвіжы Мікалая Радзівіла Сіроткі, які дэманстраваў адмаўленне ад палітычных і філасофска-рэлігійных поглядаў свайго бацькі – пратэстанта Мікалая Радзівіла Чорнага[1].

Спалучэнне заходнееўрапейскага барока з мясцовымі асаблівасцямі дазволіла выявіцца ў мастацкай культуры Беларусі першай паловы XVII ст. двум тыпам гэтага стылю – заходнееўрапейскаму (лацінская літаратура, касцёльная архітэктура) і ўсходнеславянскаму (драўлянае дойлідства, гравюра, арнамент). У стылі барока ўзведзены многія мураваныя збудаванні, але некаторыя яго рысы праяўляліся і ў драўляным дойлідстве. Культавая архітэктура першай паловы XVII ст., хаця і захоўвала некаторыя абарончыя рысы, неакрэсленыя стылявыя формы, з'явілася асноўнай базай для развіцця беларускага барока[2].

Базілікавы тып храма з двухвежавым галоўным фасадам становіцца найбольш характэрным для архітэктуры беларускага барока (касцёлы езуітаў у Гародні, дамініканцаў у Стоўбцах, бернардзінак і езуітаў у Мінску, дамініканцаў у Княжыцах пад Магілёвам і інш.). Барочная двухвежавасць працягвала традыцыі абарончых збудаванняў беларускай готыкі.

Пад уплывам барока фарміруецца тып самабытнага беларускага праваслаўнага храма (Багаяўленскі сабор і Мікалаеўская царква ў Магілёве, Успенскі сабор Куцеінскага манастыра). Тып апошняга храма праз беларускіх эмігрантаў паўплываў на фарміраванне цэркваў так званага "нарышкінскага барока" і сярод іх – на сусветна вядомы шэдэўр маскоўскага дойлідства – Пакроўскую царкву ў Філях[3].

Творча перапрацоўваючы дасягненні заходнееўрапейскай архітэктуры барока (у прыватнасці італьянскага), мясцовыя майстры стваралі арыгінальныя пабудовы, у якіх народныя традыцыі часцей за ўсё праяўляліся ў іх мастацкім вырашэнні, аздабленні фасадаў і інтэр'ераў. Вучнем запрошанага Радзівілам Сіроткай італьянскага архітэктара Бернардоні быў ураджэнец Менска, гарбар па прафесіі Ян Франкевіч. У 1592 г. ён уступіў у ордэн езуітаў, з 1594 г. працаваў у Нясвіжы спачатку кухарам, а потым памочнікам Бернардоні. Як самастойны архітэктар кіраваў будаўніцтвам часткі езуіцкага калегіума ў Нясвіжы, у Вільні на Ратушнай плошчы збудаваў касцёл Святога Казіміра[4].

Даследчыкі вылучаюць тры перыяды развіцця беларускага барока ў манументальнай мураванай архітэктуры: ранняе (канец XVI – першая палова

---

[1] *Gabrus T., Galenczanka G.*, G.M. Bernardoniego projekty kościołów na Białorusi // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 164.

[2] Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1988. Т. 2. С. 23.

[3] *Габрусь Т.В.* Сьведкі з XVII стагодзьдзя. // Мастацтва. 1993. № 5. С. 66.

[4] Jan Poplatek-Jerży Paszenda. Słownik jezuitów artystów. Kraków, 1972. S. 111.

XVII ст.), сталае (другая палова XVII – 1730-я гг.) і позняе (1730–1780-я гг. XVIII ст.). Позняе барока ў архітэктуры атрымала назву віленскага[1], для якога характэрны "вытанчанасць і вертыкалізм прапорцый, скульптурная пластычнасць фасадаў і інтэр'ераў, маляўнічасць сілуэта, утворанага шмат'яруснымі вежамі і фігурнымі атыкавымі франтонамі, ў стварэнні якіх дойліды гэтай школы праявілі шмат самастойнасці ў рамках агульнаеўрапейскай мастацкай канцэпцыі барока"[2]. У стылі віленскага барока пабудаваны царква ў Беразвечы пад Глыбокім, касцёл кармелітаў у Глыбокім, уніяцкі Полацкі Сафійскі сабор, Андрэеўскі касцёл у Слоніме і інш.

**Барока ў выяўленчым мастацтве.** У выяўленчым мастацтве рысы барока мы назіраем пазней, чым у архітэктуры, – з сярэдзіны XVII ст. Найбольш яскрава і самабытна тэндэнцыі стылю праявіліся ў скульптуры (інтэр'ер касцёла аўгусцінцаў у в. Міхалішкі Астравецкага раёна, скульптурны ансамбль касцёла францысканцаў ў Пінску, скульптуры евангелістаў з в. Нягневічы Навагрудскага раёна) і роспісах культавых збудаванняў.

У манументальным і станковым жывапісе назіраецца ўзаемадзеянне дзвюх мастацкіх традыцый: візантыйска-старажытнарускай (праваслаўнай) і заходнееўрапейскай (каталіцкай). Творам гэтага часу ўласцівы дынамізм, маляўнічасць, жыццёвая дакладнасць і пачуццёвасць.

Манументальны жывапіс праваслаўных храмаў (помнікі Віцебскай і Магілёўскай абласцей) адзначаны графічнасцю, выкарыстоўваннем перспектывы, укарочанымі прапорцыямі постацей, перавагай панарамных кампазіцый. Перад каталіцкім мастацтвам Беларусі XVIII ст. стаяла задача – "не проціпаставіць сябе існуючай праваслаўнай традыцыі і ў той жа час засвоіць мастацтва мінулага і свайго часу"[3].

У жывапісе евангельскія і біблейскія сюжэты набываюць жанравасць. Разам з тым у абразах захоўваецца іканапісны канон з яго высокай узнёсласцю, натхнёнасцю, кампазіцыйнай і каларыстычнай гармоніяй, асабліва ў выявах Маці Боскай... Дарэчы, у гэты час складаецца шэраг мясцовых зводаў – "Маці Боская Тупічэўская", "Каложская", "Бялыніцкая" і інш. Аднак многія мастакі, што працавалі ў Беларусі ў XVII ст., вядомы нам толькі па іх імёнах і прозвішчах[4].

З XVII ст. значна пашыраецца тэматыка свецкага выяўленчага мастацтва (партрэтны, гістарычны, батальны жывапіс, нацюрморты і інш.). Вядучым жанрам свецкага жывапісу барока быў партрэт. Захапленне шляхецкім саслоўем сваімі генеалагічнымі каранямі (сапраўднымі і міфічнымі) прывяло да распаўсюджвання так званага "сармацкага партрэта".

Хаця ў асобных творах партрэтнага мастацтва адчуваецца ўплыў іспанскага і фламандскага мастацтва, яны былі адзначаны "працаю і густам беларускіх партрэтыстаў, чыё майстэрства склалася ў выніку дынамічнага ўзаемадзеяння элементаў розных мастацкіх традыцый"[5].

---

1 Барока // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т. 1.

2 *Габрусь Т.В.* Стылістычныя аспекты архітэктуры віленскага барока // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998. С. 142.

3 *Гаршкавоз В. Дз.* Беларускі сцэнапіс XVIII ст. // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998. С. 205.

4 *Высоцкая Н.Ф.* Мастакі і малярскія цэхі ў Беларусі XVI – XVIII стст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 2.

5 *Хадыка А.Ю., Хадыка Ю.В.* Непаўторныя рысы. З гісторыі беларускага партрэта. Мн., 1992. С. 135.

**Барока ў літаратуры.** Амаль не захавалася беларускіх літаратурных твораў перыяду барока. XVII ст. увогуле называюць "векам рукапісаў" (найбольш вострыя і цікавыя творы не былі надрукаваны), векам ананімных твораў. Асобныя рысы барока сустракаюцца ў палемічных і панегірычных творах XVII ст., вершах Сімяона Полацкага. Аднак найбольш яскрава яны праявіліся ў рэлігійна-філасофскай паэзіі і школьнай драме пачатку XVIII ст.

У літаратурным жыцці шляхты, асабліва з сярэдзіны XVII ст., пераважала мастацтва жывога слова над словам напісаным – "мастацтва вымовы"[1]. У шматмоўнай літаратуры Беларусі даследчыкі вызначаюць тры ідэйныя і фармальна-стылявыя тэндэнцыі, тры барочныя "шцілі". Для "высокага", шляхецка-арыстакратычнага барока, творы якога напісаны на польскай, лацінскай ці стараславянскай мовах, характэрны рытарычная прыўзнятасць, ускладненасць формы, сімвалічнасць. Творы "сярэдняга" стылю вызначаліся сузіральнасцю, ідылічнасцю і задавальнялі эстэтычныя запатрабаванні сярэдняй і дробнай шляхты, гараджан. З гэтым стылем звязана развіццё беларускай філасофскай і інтымнай-песеннай лірыкі. "Нізкае", ці "народнае", барока было прадстаўлена парадыйнымі калядкамі, інтэрмедыямі, батлеечнымі драмамі. Паміж трыма стылямі існавала ўзаемапранікненне ідэй і мастацкіх форм[2].

Барока было сінтэтычным стылем. У ім заходнееўрапейскія тэндэнцыі ўзаемадзейнічалі з мясцовымі самабытнымі асаблівасцямі, перапляталіся з рэнесанснай і класічнай традыцыяй, ствараючы непаўторныя рысы беларускага барока.

---

[1] *Pollak R.* Od Renesansu do Baroku. S. 24.

[2] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 49–51.

РАЗДЗЕЛ 2

# БЕЛАРУСЬ У СЯРЭДЗІНЕ XVII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVIII ст.

## ГЛАВА 1

## ВОЙНЫ СЯРЭДЗІНЫ XVII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XVIII ст.

### 1. Казацка-сялянская вайна

**Развіццё казацкага руху ў Беларусі**. Калі ў маі 1648 г. на Украіне пачалося паўстанне на чале з гетманам Багданам Хмяльніцкім, перарасшае ў вялікую вызваленчую вайну, казацкі рух перакінуўся ў беларускія паветы ВКЛ. Трыумфальныя перамогі Хмяльніцкага пад Жоўтымі Водамі і Корсунем паспрыялі ўздыму народных нізоў на барацьбу супраць паноў на землях у басейне Дняпра і Прыпяці[1]. Колькасць удзельнікаў "казацкай вайны" імкліва пашыралася. Украінскі гетман і яго казацкая старшына мелі план стварэння сваёй дзяржавы, у межы якой яны хацелі ўключыць і тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Беларусі, прынамсі Падняпроўе і Палессе, таму былі асабліва зацікаўлены ў пашырэнні руху на гэтыя землі. У маі 1648 г. Багдан Хмяльніцкі пачаў засылаць на поўдзень ВКЛ сваіх людзей з універсаламі (пасланнямі), у якіх ён заклікаў мужыкоў выступаць супраць паноў. Як правіла, з гэтымі пасланнямі выпраўляліся выхадцы з Беларусі, якія добра ведалі людзей і мясцовасць. Следам гетман пасылаў і казацкія загоны, якія распачыналі ваенныя дзеянні. Сфера жаданага ўплыву Хмяльніцкага ва універсалах вызначалася "аж до Борисова и далей, до Бихова теж, Могилева и далей"[2].

Першымі ў Беларусь былі накіраваны палкоўнікі Максім Гладкі і Ілья Галота, затым – Галавацкі, Крывашапка, Нябаба, Хвеська і інш. У чэрвені 1648 г. палкоўнік Галавацкі заняў Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі і Старадуб, а 4 ліпеня ўвайшоў у Гомель. Пінск быў заняты казакамі Гладкага, а на Магілёўшчыне пачаў дзейнічаць Крывашапка.



Багдан Хмяльніцкі

[1] *Мелешко В.И.* Освободительное движение в Белоруссии 1648–1653 гг. и украинское казачество // Українське козацтво: витоки, еволюція, спадшчииа. Вып. 2. Київ, 1993. С. 3–4.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С середины XVII в. до конца XVIII в. Мн., 1960. С. 25.

З'яўленне казацкіх загонаў Галавацкага, Крывашапкі, Мікуліцкага, Гаркушы і іншых, у складзе якіх было нямала беларусаў (сярод палкоўнікаў Хмяльніцкага многія таксама мелі беларускае паходжанне, напрыклад Бутрым, Грамыка, Крычэўскі, Ждановіч, Нячай, Сакалоўскі, Хведаровіч), выклікала масавае далучэнне да іх бяднейшага сялянства і мяшчанства. Ужо летам 1648 г. на поўдні і ўсходзе Беларусі пачалася шырокая ўзброеная барацьба казацка-сялянскіх аддзелаў супраць шляхты, купцоў, магнатаў і каталіцкага духавенства. Узброеныя сяляне дзейнічалі і самастойна, грамілі галоўным чынам маёнткі паноў, рабавалі двары, знішчалі падатковыя дакументы і рэестры.

Да восені 1648 г. жыхары Гомеля, Мазыра, Лоева, Рэчыцы, Турава «ўсе паказачыліся і пакляліся адзін другому стаяць да апошняга»[1]. Казакі авалодалі таксама Брагінам, Бабруйскам, Чэрыкавам, адкуль пагражалі Слоніму і Берасцю. Як сведчыў сучаснік падзей Казімір Піліп Абуховіч, "...той агонь, праз гульцяйства ад купы Хмяльніцкага запушчаны, так далёка заняўся, што паветы Старадуб, Рэчыца, Мазыр, Пінск, Берасце і іншых замкаў нямала на Белай Русі дашчэнту знішчана"[2]. Казацкія харугвы сягалі нават да Магілёва і Оршы. Перад самым з'яўленнем іх конніцы падканцлер Казімір Леў Сапега ледзь паспеў прыслаць у Стары Быхаў жаўнераў і боезапасы, інакш і гэтая дняпроўская цвярдыня магла б апынуцца ў руках паўстанцаў. У сярэдзіне снежня 1648 г., злучыўшы свае сілы, Гаркуша з Пабадайлам заняліся аблогай і штурмамі Старога Быхава.

Акрыленае поспехамі казацкае войска паспрабавала нават заняць горад Слуцк – буйнейшую на той час фартэцыю Вялікага Княства. Аднак тут яно само было атакавана і мусіла ратавацца ўцёкамі. Згодна са сведчаннямі хронікі Натана Гановера, слуцкі гарнізон і мяшчане не толькі ашераглі яўрэяў мясцовай абшчыны, але і разграмілі казацкі аддзел, высланы на яе знішчэнне[3]. Страціўшы каля 1 тыс. чалавек[4], казакі больш не падступаліся да гэтай радзівілаўскай цвярдыні.

У ахопленых хваляваннямі раёнах асноўнай арганізацыйнай сілай узброеных фарміраванняў заставаліся казакі, хоць да іх актыўна далучаліся мясцовыя прыгонныя сяляне і бяднейшыя мяшчане, якія сімпатызавалі ім. Паколькі сацыяльныя вярхі грамадства былі ўжо фактычна апалячаныя, дык антыфеадальны рух набыў тут, як і на Украіне, выразную антыпольскую накіраванасць. Паўсюдна ў занятых казакамі раёнах бязлітасна праследаваліся жыхары каталіцкага і іудзейскага веравызнанняў. Як пісаў сведка тых падзей, вядомы мемуарыст Казімір Піліп Абуховіч, "шляхта – адны трупам ляглі, іншыя выгнанне цяжкае церпяць, па чужых краях туляючыся". Падобна як на тэрыторыі Украіны, у Гомелі, Пінску, іншых гарадах Беларусі ад казакаў палеглі тысячы яўрэяў[5].

**Арганізацыя абароны ВКЛ**. На пачатак казацкай вайны Вялікае Княства не мела ніякай пастаяннай арміі, а дзяржаўная казна была практычна пус-

---

[1] Документы об освободительной войне украинского народа. 1648–1654. Киев, 1965. С. 105.

[2] Dyaryusz Kazimierza Filipa Obuchowicza // Pamiśtniki Historyczne do wyjaśnienia spraw publicznych w Polsce XVII wieku / Wyd. M.Balinski. Wilno, 1857. S. 20.

[3] Еврейскне хроники XVII столетия (Эпоха «хмельниччины»). Исследование, перевод и комментарии С.Я.Борового. Гешарим; Москва; Иерусалим, 1997. С. 113.

[4] Opisanie buntu kozackiego i najscię na prowincji litewskie, 1648–1649 // AGAD. Archiwum Radziwiłłów. Dz. II. Nr. 1228. § 8.

[5] Еврейские хроники XVII столетия (Эпоха "хмельниччины"). Исследование, перевод и комментарии С.Я.Борового. С. 164–165, 189.

тая. Многа перапужанай шляхты ратавалася ўцёкамі ў глыбіню краіны. Палявога гетмана Януша Радзівіла, на якім ляжала тады задача абароны дзяржавы (вялікі гетман Ян Кішка самаўхіліўся ад спраў), вайна заспела ў Вільні, і ён прыступіў да стварэння войска. Аднак сабраць грошы на жаўнераў можна было толькі пасля зацвярджэння падаткаў сеймікамі і галоўным з'ездам (канвакацыяй), на што патрабаваўся немалы час. Таму з боку вярхоўнай улады Вялікага княства Літоўскага рэакцыя на паўстанне была запозненай.



Януш Радзівіл у еўрапейскім касцюме. Партрэт Б.Стробеля. 1633–1634 гг.

Віленскі з'езд, сабраны ў пачатку чэрвеня 1648 г., ухваліў каштарыс на шасцітысячнае войска (потым колькасць была зменшана да 5000), але збор войска прызначаўся толькі на пачатак верасня. Да таго ж многія паветы выраашалі не аддаваць сваіх жаўнераў у распараджэнне гетману, а пакідаць іх на варце сваіх межаў[1].

Толькі ў ліпені 1648 г. супраць казакаў на паўднёвы захад Беларусі рушылі першыя фарміраванні, нанятыя гетманам на ўласны кошт, – харугвы Уладзіслава Халецкага, харужага Яна Паца, пісара Уладзіслава Валовіча і стражніка Рыгора Мірскага. Дэманстравала мужнасць шляхта Аршанскага павета, якая мабілізавала сваё рушанне, даверыўшы камандаванне аршанскаму стольніку Друцкаму-Горскаму. Той заклікаў пад харугвы таксама мяшчан і ў жніўні распачаў дзеянні супраць казакаў каля Быхава і Стрэшына. У лістападзе яны былі выбіты з Чэрыкава, пасля чаго Горскі накіраваў частку сіл да Паповай Гары, адкуль разыходзіліся казацкія загоны па ўсім краі. Адтуль аддзел конніцы на чале з Канстанцінам Міладоўскім нечакана наляцеў на Старадуб, дзе вызваліў многа палоннай шляхты і вярнуўся ў Чэрыкаў[2].

Аднак харугвы Валовіча і Мірскага былі разгромлены казакамі: першага разбілі недалёка ад Рэчыцы, і ён адступіў да Слуцка, а другога – каля Горваля. Казацкія палкоўнікі дамагліся поспехаў і ў іншых сутычках. Так, у Кобрыне атаман Максім Гладкі разбіў драгунаў стольніка Вінцэнта Гасеўскага, а каля Чэрыкава ад Крывашапкі пацярпела харугва полацкай шляхты на чале з князем Лукомскім.

У пачатку восені 1648 г. палявы гетман Януш Радзівіл сабраў нанятае дзяржаўнае войска ў Менску, а затым перавёў яго пад Глуск. Пад яго камандай налічвалася 4 тыс. наймітаў і каля 1 тыс. павятовых жаўнераў – сілы, яўна недастатковыя для паспяховых контрдзеянняў. Тут Радзівіл выдаў "вайсковыя артыкулы", у якіх патрабаваў ад жаўнераў цярпімасці і спакою,

[1] *Wisner H.* Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła. 1648–1655 // RB. T. 13. Białystok, 1976. S. 62–63.

[2] Opisanie buntu kozackiego i najscie na prowincji litewskie, 1648–1649 // AGAD. Archiwum i Radziwillow. Dz. II. Nr. 1228. § 14.

аховы не замешаных у бунце сялян[1]. Раздзяліўшы наяўныя харугвы на дзве групы, гетман адправіў першую да Старога Быхава, абложанага Гаркушам і Пабадайлам, а другую (сваіх наймітаў) – пад Рэчыцу. У канцы кастрычніка Радзівіл пакінуў войска і паспяшаўся на элекцыйны* сейм у Варшаву, дзе затрымаўся да канца года. Сваіх наймітаў ён перадаў пад камандаванне пісару Валовічу, загадаўшы ім рухацца на Берасце.

**Абарона Пінска і першы рэйд Радзівіла.** У кастрычніку 1648 г. войска стражніка Рыгора Мірскага атакавала Пінск, жыхары якога, баючыся кары, дамовіліся з казакамі бараніцца да апошняга[2]. Спачатку ў горад уварваўся Самуль Камароўскі з некалькімі ротамі конніцы, але казакі выбілі яго агнём стрэльбаў. Тады да Пінска падцягнуліся іншыя харугвы. Пасля артылерыйскага абстрэлу драгуны Гасеўскага, рэйтары Шварцкопфа і пяхота Падалеўскага ўварваліся ў горад. Абарона была настолькі адчайнай, што ім спатрэбіліся яшчэ амаль суткі, каб канчаткова падпарадкаваць Пінск. Толькі частка казацкай конніцы, падпаліўшы горад, здолела ўцячы берагам Прыпяці.

Назаўтра настаў трагічны час для пінчукоў: горад на два дні быў аддадзены "на агонь і рабунак"[3]. "Уціхамірванне" палескай сталіцы абярнулася яе вялікай трагедыяй. Нават канцлер Альбрыхт Радзівіл наракаў на гетмана, што той дазволіў наймітам знішчыць горад і спустошыць усё Пінскае староства[4]. У крыніцах адзначаецца, што з 6000 дамоў горада згарэла 5000[5].

З Пінска войска Валовіча пайшло праз Моталь на Нобель. Аднак цяпер больш актыўнымі былі казакі, акрыленыя перамогай Хмяльніцкага пад Піляўцамі. Харугвы Валовіча неўзабаве мусілі адысці далей ад Прыпяці, ажно пад Слуцк. Януш Радзівіл пасля элекцыйнага сейма ў пачатку 1649 г. з'явіўся ў Берасці, дзе стаялі павятовыя харугвы Феліцыяна Тышкевіча. Ужо 20 студзеня чатырохтысячная дывізія трыма калонамі рушыла па мяжы з Валынню на ўсход. У Нобелі да гетмана далучылася войска стражніка Мірскага, і армія пайшла на Давыд-Гарадок і на Тураў. 5 лютага Радзівіл дайшоў да пакінутага паўстанцамі Турава, а 7 лютага ўжо быў пад Мазыром.

Мазыр абараняў казацкі палкоўнік Міхненка, засланы Хмяльніцкім. Прапанову капітуляваць ён адхіліў. Тады гетман кінуў войска на штурм. Першы прыступ быў адбіты, аднак у другім, у якім удзельнічала і спешаная кавалерыя, яго воіны захапілі шанцы, знеслі вастракол і выбілі брамы для конніцы. Харугвы ўварваліся ў горад і завязалі бой з абаронцамі, большая частка якіх палегла ў сечы. Штурм, пачаты раніцай, ледзь скончыўся ноччу[6]. На два дні ўзяты Мазыр быў аддадзены на рэквізіцыю гетману[7].

---

[1] *Wisner H.* Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła 1648–1655 // RB. T. 13. S. 67.

* Сейм па выбарах караля.

[2] Чтения в Обществе истории и древностей российских. М., 1847. Т. 5. С. 33–34.

[3] Opisanie buntu kozackiego i najscie na prowincji litewskie, 1648–1649 // AGAD. Archiwum Radziwiłłow. Dz. II. Nr. 1228. § 15.

[4] *Radziwiłł A.S.* Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 3 (1647–1655). Warszawa, 1980. S. 158.

[5] *Morzy J.* Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w drugiej połowie XVII w. Poznań, 1965.

[6] Opisanie buntu kozackiego i najscie na prowincji litewskie, 1648–1649 // AGAD. Archiwum i Radziwillow. Dz. II. Nr. 1228. § 16.

[7] Pamiętniki Samueła i Bogusława Maskiewiczów (wiek XVII). Oprac. A.Sajkowski. Wrocław, 1961. S. 263–264.

Ад Мазыра Радзівіл павярнуў на поўнач і ўжо ў канцы лютага стаяў пад Бабруйскам, у якім засеў казацкі атаман Паддубскі (Паддубіч). Аблога доўжылася некалькі тыдняў. Урэшце бабруйскія мяшчане праз сваіх парламенцёраў папрасілі прыняць іх капітуляцыю. Гетман паставіў умовы: каб усе жыхары па аднаму выйшлі за валы, здалі зброю і ключы ад брамаў, а таксама выдалі кіраўнікоў бунту і ўсіх, хто служыў пад казацкай харугвай. Бабруйчане прынялі гэтыя ўмовы і практычна здалі казакаў у рукі Радзівіла[1]. Пасля капітуляцыі Бабруйска гетман стрымаў слова і не дазволіў рабаваць горад. "Пахолка аднаго за адну хустку, якую быў узяў, ... загадаў на браме павесіць, хустку пры ім паклаўшы"[2]. Сурова пакараў падазроных: 9 чалавек былі пасаджаны на калы, 40 – пакараны смерцю, у 270 казакаў загадаў адсекчы правую руку, трымаўшую зброю, каб застрашыць іншых. За гэта Хмяльніцкі ў адказ пакляўся пакараць смерцю 4000 палонных.

Пакінуўшы Рэчыцу, казакі адступілі далей на поўдзень, і Януш Радзівіл збіраўся пераходзіць на Украіну, але паміж Хмяльніцкім і каралём Янам Казімірам было заключана перамір'е. Гэтым і завяршылася першая антыказацкая кампанія. Пакінуўшы войска на зімовых лежах на самай мяжы Вялікага Княства – пад Рэчыцай, Рагачовам і на Прыпяці, гетман ад'ехаў у Слуцк.

**Лоеўская бітва 1649 г.** Некалькі месяцаў перамір'я Хмяльніцкі выкарыстаў на мабілізацыю сіл для далейшай вайны. Украінскаму гетману, які ўзнаўляў ваенныя акцыі супраць кароннага войска, важна было затрымаць армію Вялікага Княства ў Беларусі, не дапусціць яе да супольных з палякамі дзеянняў. Таму Хмяльніцкі выстаўляў на заслону значныя сілы. Ужо ў пачатку чэрвеня 1649 г. яго казакі спрабавалі авалодаць Гомелем. Палкоўнікі Літвіненка, Паповіч і Гаркуша шматразова штурмавалі горад, аднак не здолелі зламаць абарону, актыўны ўдзел у якой бралі і мяшчане[3].

Януш Радзівіл вясной таксама энергічна рыхтаваўся да вайны. Востра не хапала грошай не толькі для найму новых харугваў, але і для аплаты жаўнераў, што знаходзіліся ў войску. Тым часам найміты ўжо пагражалі кінуць службу, калі не атрымаюць заслужанай платы. Да таго ж кароль патрабаваў ад Радзівіла прыслаць палову войска ВКЛ у Карону. Падтрыманы сваімі сенатарамі, князь адмовіўся падпарадкавацца волі манарха, паколькі прававыя нормы ВКЛ забаранялі дзяліць армію.

Да лета 1649 г. гетман сабраў каля 6 тыс. войска пад Рэчыцай. Сам ён з'явіўся ў войску ў пачатку ліпеня і пачаў рыхтаваць марш на Украіну, чаго патрабавала ад яго Карона. Прыкрываючы Украіну, каб Радзівіл "бавіўся ў сваім краі, не даючы падтрымку палякам"[4], Хмяльніцкі ў чэрвені накіраваў ў Беларусь трохтысячны загон Ільі Галоты, сілы якога павялічылі сяляне, а следам – палкоўніка Галавацкага. Галота адразу атакаваў харугвы Валовіча (1700 чалавек), што стаялі ў Загаллі. І хоць сілы казакаў намнога пераўзыходзілі загальскі абоз, дзякуючы конніцы паручніка Сарноўскага, якая падаспела, Галота пацярпеў паражэнне і сам загінуў у сечы. Таксама аддзел Галавацкага натрапіў на засаду пад Рэчыцай і сам палкоўнік быў схоплены Мірскім.

---

[1] АЮЗР. Т. 3. №. 243.

[2] Pamiętniki Samuela i Bigusława Maskiewiczów (wiek XVII). S. 265.

[3] *Gawronski Fr.* Sprawy i rzeczy ukraińskie. Lwów, 1914. S. 125–127.

[4] Pamietniki do panowania Zygmunta III, Władysława IV, Jana Kazimierza. Wyd. K.W.Wójcicki. T. 2. Warszawa, 1846. S. 102.



Кіеўскі палкоўнік Міхаіл Крычэўскі. Пасмяротная маска

Тады Хмяльніцкі, каб паправіць становішча, спешна паслаў 12 тыс. казакаў на чале з Пабадайлам для блакіравання пераправы ля ўпадзення Сажа ў Дняпро. Спаліўшы Лоеў, палкоўнік насыпаў на абодвух берагах Дняпра даўгія валы і ўмацаваўся. Тым часам Радзівіл вырашыў ісці на Кіеў і пачаў пераводзіць пад Лоеў асноўныя сілы. 18 ліпеня ён пакінуў Рэчыцу, у якой засталося толькі невялікае прыкрыццё. Ён планаваў пераправіцца праз Дняпро ніжэй Лоева, захапіўшы пераправу ўдарамі з двух бакоў. Наперад выслаў стольніка Гасеўскага, каб той заняў плацдарм на правым беразе Дняпра, ніжэй вусця Сажа. Гасеўскаму ўдалося высадзіць пяхоту на бераг і ўзвесці ноччу земляныя ўмацаванні насупраць казацкіх акопаў[1].

Тым часам украінскі гетман выслаў насустрач Радзівілу яшчэ палкоўніка Міхала Крычэўскага, у фарміраваннях якога мелася да 15 тыс. казакаў, а таксама тысячы чэлядзі і мясцовага сялянства, так што разам лічылася каля 30 тыс.[2] Князь атрымаў інфармацыю пра набліжэнне Крычэўскага 25 – 26 ліпеня і змяніў план дзеянняў: адмовіўшыся атакаваць пераправу, ён накіраваў тысячу коннікаў на чале з Адамам Паўловічам на ўмацаванне Рэчыцы і яшчэ каля тысячы з Самулем Камароўскім адправіў "на шаты", каб вызначылі дакладнае месцазнаходжанне Крычэўскага. Але Крычэўскі дзейнічаў настолькі імкліва, што 31 ліпеня нечакана з'явіўся пад Лоевам і адразу ж атакаваў войска Радзівіла.

Першая атака казацкай конніцы была адбіта пяхотай з ручной зброі, што дазволіла Радзівілу расставіць харугвы (па цэнтры – кавалерыю, па баках – пяхоту і драгунаў) і пасляць іх у контратаку. Націск гусараў і агонь пяхоты змусілі казакаў адысці да лесу, але вынік сечы вырашыў толькі тылавы ўдар конніцы Адама Паўловіча, які паспеў вярнуцца, пачуўшы розгалас бітвы. Казакі адступілі да сваіх умацаваных табараў і ўначы ўцяклі з месца бітвы, пакінуўшы цяжка параненага Крычэўскага. Перамога пяцітысячнай арміі Радзівіла над прынамсі ўтрая большымі сіламі славутага палкоўніка была поўнай: яго войска перастала існаваць, табары былі захоплены, а сам Крычэўскі памёр у абозе гетмана[3]. Гэты лоеўскі трыумф князя Радзівіла потым услаўлялі на карцінах і шпалерах, аб чым парупіўся сам Януш.

Аднак і Радзівіл не рушыў далей на Украіну, хоць гэтага зноў запатрабаваў Ян Казімір. У лоеўскай бітве зусім скончыліся боезапасы. Край вакол быў настолькі спустошаны, што жаўнеры не маглі здабыць ніякай жыўнасці. Да таго ж дайшла вестка пра тое, што Хмяльніцкі выслаў у Беларусь чарговую групоўку казакаў. Таму гетман выдаў папераджальныя універсалы да

---

[1] Opisanie buntu kozackiego i najscie na nrowincji litewskie, 1648–1649 // AGAD. Archiwum i Radziwillow. Dz. II. Nr. 1228. § 21.

[2] Z dziejów Ukrainy. Pod red. W.Lipińskiego. Kijow, 1912. S. 507.

[3] Opisanie buntu kozackiego § 23–24; *Wisner H.* Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła 1645–1655 // RB. T. 13. S. 77.

ваяводстваў і паветаў ВКЛ, а сам 5 верасня вярнуў войска да Рэчыцы, дзе заняўся ўзвядзеннем умацаванага лагера.

Аднак да новай бітвы справа не дайшла. Нечакана вайну перапыніў Зборaўскі мір: у Палессі з'явіўся пасол Хмяльніцкага Мужылоўскі, які забараніў палкоўнікам далейшыя дзеянні і даставіў у рэчыцкі лагер Радзівіла каралеўскія лісты, што знаёмілі з умовамі падпісанага пагаднення. Казакі мусілі пакінуць нават тыя замкі ВКЛ, у якіх яшчэ мелі свае гарнізоны.

**Усталяванне міру.** Увесь 1650 г. у Беларусі прайшоў без істотных ваенных сутычак. Подыхам казацкай вайны сталі летнія хваляванні сялян, але яны былі хутка ўтаймаваныя. Рыхтуючыся да наступнага этапа вайны, украінскі гетман сканцэнтраваў вясною 1651 г. у Чарнігаве і Чарнобылі каля 50 тыс. казакаў. Камандуючы гэтай групоўкі палкоўнік Марцін Нябаба мусіў узяць на сябе войска ВКЛ, не прапускаючы яго на Украіну. Як і ў 1649 г., Ян Казімір у 1651 г. зноў запатрабаваў ад Януша Радзівіла прыслаць войска ВКЛ пад камандаванне караля для дзеянняў на Украіне, але гетман чарговы раз не падпарадкаваўся каралю і рыхтаваў свой марш на Кіеў.

Ваенныя дзеянні ўзнавіліся ў маі 1651 г. наступленнем кароннай арміі на чале з Янам Казімірам. Багдан Хмяльніцкі, зноў клапоцячыся пра бяспеку паўночных межаў, выслаў супраць Радзівіла Марціна Нябабу. Сямітысячны загон казакаў на чале з Забелам рушыў на Гомель, а чатырохтысячны Шохава – на Рослаў і Крычаў.

Калі Рослаў казакам удалося хутка заняць, дык Крычаў паспяхова адбіўся. У першыя дні ліпеня чаркасы, якія трымалі ў аблозе горад, самі былі разгромлены. Палкоўнік Забела спрабаваў заняць Гомель, але неаднаразовыя штурмы, як і ў 1649 г., канчаліся нічым.

Тым часам палкоўнік Марцін Нябаба павёў галоўныя сілы на войска стражніка Мірскага пад Лоевам і атакаваў яго. Невядома, чым бы скончылася бітва, калі б не падаспеў гетман Радзівіл. 6 ліпеня фарміраванні Нябабы былі цалкам разгромлены, а сам казацкі атаман загінуў на месцы сечы[1]. Шлях на Украіну быў адкрыты, але войска ВКЛ сабралася пад Любечам і не спяшалася наступаць. Гетман спрабаваў толькі заняць Чарнігаў, але калі горад зачыніў брамы, вярнуўся чакаць да Любеча.

Толькі ў канцы ліпеня 1651 г., пасля цяжкага паражэння ўкраінскіх казакаў пад Берасцечкам, Радзівіл нарэшце рушыў на Кіеў. 3 жніўня ён стаў пад сценамі старажытнага горада, а ўжо на наступны дзень увайшоў у Кіеў без бітвы. Кіяўляне папрасілі сваіх палкоўнікаў адразу вывесці войска, каб у бітве не руйнаваць горад. Потым армія ВКЛ злучылася з польскай, рыхтуючыся да генеральнай бітвы з казакамі. Аднак абышлося без яе. Разгром арміі Хмяльніцкага пад Берасцечкам карэнным чынам змяніў сітуацыю.

У цяжкіх для Украіны ўмовах Хмяльніцкі мусіў пагадзіцца на чарговае замірэнне. Белацаркоўскі трактат аб перамір'і, падпісаны 18 верасня 1651 г., патрабаваў наогул вывесці казацкія фарміраванні з Беларусі. Рэалізацыя гэтага патрабавання абумовіла супакаенне краю.

У выніку ваенных дзеянняў абшары паўднёва-ўсходняй Беларусі былі спустошаны і выпалены. Асабліва пацярпелі Мазырскі, Пінскі, Рэчыцкі паветы, а таксама Берасцейшчына. Шляхта Старадубаўскага павета пакінула свае маёнткі і больш не вярталася ў іх. Прымаючы пад увагу цяжкі эканамічны стан гэтых зямель, сейм Рэчы Паспалітай яшчэ ў 1649 г. зменшыў падаткі або зусім адмяніў іх у шэрагу паўднёвых паветаў Беларусі.

---

[1] *Kotłubaj E.* Życie Janusza Radziwiłła. Wilno, 1859. S. 78.

Антыфеадальная па сваёй сутнасці казацка-сялянская вайна 1648–1651 гг. у Беларусі (хоць разам з рэгулярным войскам на баку гетмана Радзівіла супраць паўстанцаў вяло барацьбу і фарміраванне мяшчан і дробнай праваслаўнай шляхты) была складанай часткай вялікай вызваленчай вайны на Украіне. Але тут яна не мела такой непарыўнасці і цэльнасці, як на Украіне, і з'яўлялася хутчэй серыяй лакальных паўстанняў. У Беларусі не было мясцовага казацтва – арганізаванай ваеннай сілы як галоўнага суб'екта гэтай вайны. Беларускія паказачаныя сяляне не мелі ні каардынацыі дзеянняў, ні свайго арганізацыйнага цэнтра. Таму цяжка разглядаць гэту вайну як самастойную з'яву беларускай гісторыі. Аднак па маштабах яна была, несумненна, самай масавай у гісторыі Беларусі адкрытай узброенай барацьбой ніжэйшых слаёў грамадства супраць сацыяльна-рэлігійнага прыгнёту.

## 2. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 – 1667 гг.

**Кампанія 1654 г.** Вызваленчая вайна на Украіне ў пачатку 1650-х гг. стала перарастаць у зацяжны канфлікт, які ахапіў усю Усходнюю Еўропу. Паступова змянілася і стаўленне Масквы як да самой казацкай вайны, так і да адносін з Рэччу Паспалітай наогул. Калі ў пачатку паўстання Багдана Хмяльніцкага цар Аляксей Міхайлавіч загадваў сваім ваяводам дзейнічаць супраць казакаў, дык пасля бітвы пад Батогам, дзе казакі ў 1652 г. разбілі лепшыя польскія сілы, ён разглядаў Хмяльніцкага як саюзніка. Чым далей зацягвалася вайна ўкраінскіх казакаў з Польшчай, тым больш яна знясільвала апошнюю, ствараючы сітуацыю, вельмі зручную для ўмяшання ў канфлікт і вырашальнага ўдару па Рэчы Паспалітай.



Маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч

Ужо ў сакавіку 1653 г. Маскоўская дзяржава пачала актыўна рыхтавацца да вайны. У еўрапейскіх дзяржавах яна масава закупляла зброю, наймала афіцэраў, вяла дыпламатычную прапаганду[1]. 22 чэрвеня цар афіцыйна паведаміў Багдану Хмяльніцкаму пра згоду далучыць Украіну да сваёй дзяржавы. Пасля Пераяслаўскай Рады, якая ў прысутнасці вялікага пасольства Расіі 8 студзеня 1654 г. прыняла рашэнне пра пераход Украіны пад царскую «высокую руку», вайна Масквы з Рэччу Паспалітай стала непазбежнай.

Вясною 1654 г. цар Аляксей Міхайлавіч сканцэнтраваў на межах Вялікага княства Літоўскага стотысячную армію (з улікам Нежынскага, Старадубаўскага і Чарнігаўскага казацкіх палкоў, накіраваных Хмяльніцкім у царскае распараджэнне). У ёй мелася 4–5 тыс. гармат.

[1] *Radziwiłł A.S.* Pamiętniki dziejów w Polsce. T. 3. S. 427.

Такіх узброеных сіл не было ў ніводнай іншай дзяржавы Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

Галоўны ўдар наносіўся па Вялікаму княству Літоўскаму, г.зн. аб'ектам нападу былі землі Беларусі. У сярэдзіне мая 1654 г. тры вялікія групоўкі царскай арміі – з Вялікіх Лукаў, Вязьмы і Бранска – уварваліся ў межы Вялікага Княства. Паўночная армія ваяводы князя Шарамецьева кіравалася на Полацк і Віцебск, цэнтральная, якую вёў сам Аляксей Міхайлавіч, – на Смаленск, а паўднёва-заходняя, узначаленая ваяводам князем Аляксеем Трубяцкім, – на Мсціслаў – Барысаў. На дапамогу ім з поўдня ў Беларусь рушылі 20 тыс. украінскіх казакаў на чале з наказным гетманам Іванам Залатарэнкам, якім даручалася наступаць уздоўж Дняпра на Гомель, Рэчыцу, Рагачоў і вышэй.

Вайна заспела Вялікае Княства зусім не падрыхтаваным да абароны. Памежныя гарады і замкі на Дзвіне і Дняпры засталіся не адноўленымі, без належных боезапасаў і прадуктаў, іх залогі – не павялічанымі. Да лета 1654 г. дзяржава не мела нават вялікага гетмана, бо кароль марудзіў з прызначэннем на гэтую пасаду князя Януша Радзівіла, які меў булаву палявога гетмана. Усё войска, сабранае ўрэшце Янушам Радзівілам для абароны краю, не перавышала 10–12 тыс., з іх трэцюю частку складала мала на што здольнае паспалітае рушанне. Пры такой дыспрапорцыі сіл цяжка было спадзявацца на поспех.

Маскоўскі ўрад імкнуўся выкарыстаць у вайне канфесійную праблему і нейтралізаваць або нават схіліць на свой бок праваслаўнае насельніцтва Беларусі. З гэтай мэтай у край пасылаліся царскія граматы, якія даводзілі, што Аляксей Міхайлавіч пачынае вайну ў імя абароны «святой восточной церкви греческого закона», і заклікалі праваслаўных выступаць разам з царскім войскам супраць «проклятых ляхов». Ігумен полацкага манастыра Афінаген Крыжаноўскі запэўніваў маскоўскія ўлады, што, як толькі цар прыйдзе з арміяй, «белорусцы де, сколько их есть, все в те поры восстанут на ляхов заодно». У некаторых месцах падобная прапаганда ўсё ж дасягнула пэўнага поспеху, асабліва ў самым пачатку вайны. Але ў цэлым царызм не атрымаў ад насельніцтва Беларусі чаканай падтрымкі.

Выступіўшы насустрач галоўнай маскоўскай арміі на ўсход Беларусі, вялікі гетман Януш Радзівіл выйграў першую бітву, дадзеную 12 жніўня 1654 г. дваццацітысячнай арміі ваяводы Я.Чаркаскага пад Шкловам. Аднак потым васьмітысячны корпус гетмана быў адціснуты на Друці і разгромлены каля Шапялевіч арміяй ваяводы князя А.Трубяцкога. Яго рэшткі рассеяліся па лясах, і на нейкі час Вялікае Княства засталося без палявога войска наогул.

Летам і восенню царскія ваяводы займалі горад за горадам. Шэраг беларускіх гарадоў у пачатку вайны капітуляваў. Гэта былі Магілёў, Новы Быхаў, Шклоў, Крычаў, Невель, Чавусы, а таксама Полацк, у якім абаранялася толькі залога замка, і інш. Некаторыя здаваліся пад уплывам прапаганды Канстанціна Паклонскага – беларускага шляхціца, які перайшоў на бок цара, стварыў мясцовы казацкі полк і меў даручэнне схіляць гарады да здачы маскоўскаму войску. На рахунку Паклонскага была капітуляцыя Магілёва, Гораў, Горак, Шклова. Пэўна, вялікае значэнне мела тое, што пасля разгрому гетманскага войска ім не было на што спадзявацца. Тым не менш многія мужна адбіваліся. Нават невялічкі Чачэрск, у якім засталіся толькі «мещаны и селяны упорные мужики», казакам Залатарэнкі давялося браць «через мечь»[1]. Асабліва ўпартай была абарона Віцебска, якую больш за тры месяцы

[1] АЮЗР. СПб., 1889. Т. 14. С. 148.


Януш Радзівіл у "сармацкім" касцюме. Партрэт Д.Шульца. Каля 1652 г.

трымала ў асноўным мяшчанства, а таксама Старога Быхава, Дуброўны, Мсціслава, Гомеля, Смаленска. На смаленскіх сценах стаялі як жаўнеры, так і жыхары горада. Значная роля ў абароне гэтых гарадоў належала яўрэям. Каля чатырох тысяч абаронцаў Старога Быхава не толькі пасяхова адбіваліся, але пастаянна праводзілі вылазкі, нападалі на непрыяцеля. На прапановы капітуляваць жыхары горада адказвалі, што «лутше де им в домех своих помереть, нежели в неволю из воли самим себя отдавать»[1]. Гэта сапежынская фартэцыя так і засталася нескаронай (горад здаўся толькі ў 1657 г., у часе перамір'я, але не царскім ваяводам, а казакам палкоўніка Івана Нячая).

Каб зламаць дух супраціўлення, цар загадваў ваяводам бязлітасна караць тыя гарады, якія не паддаюцца ім адразу, – у навучанне іншым. І калі ваявода А.Трубяцкой захапіў Мсціслаў штурмам, ён пабіў ці вывеў у палон амаль усіх, хто хаваўся ў замку, а горад знішчыў[2]. Дуброўна абаранялася некалькі месяцаў, але, не маючы падмогі, мусіла капітуляваць, і тады па загаду цара ўсіх яе жыхароў забралі ў няволю, горад спалілі, нават валы зрылі[3]. Падобны лёс напаткаў Горы, Друю і некаторыя іншыя гарады.

За лета-восень 1654 г. царскія ваяводы занялі ў Беларусі землі да Дняпра на ўсходзе і да Дзвіны на поўначы, на якіх было 33 гарады. Непадпарадкаванымі заставаліся толькі Стары Быхаў на Дняпры і Вяліж на Дзвіне.

**Контрнаступленне арміі ВКЛ і яго няўдача.** Сабраўшы восенню войска нанова – каля 6 тыс.[4], Януш Радзівіл паспрабаваў вярнуць страчаныя землі. На дапамогу яму прыйшло некалькі тысяч воінаў з Польшчы. Контрнаступленне пачалося зімою 1654 г. Харугвы Вялікага Княства вызвалілі шэраг гарадоў у Падняпроўі – Оршу, Дуброўну, Галаўчын, Горкі, даставілі запасы і падмогу Старому Быхаву. Галоўнай жа мэтай паходу гетман лічыў вяртанне дняпроўскай цвярдыні – Магілёва. Пакінуўшы каля Новага Быхава, у якім заселі казакі Залатарэнкі, невялікую заслону, Радзівіл у лютым 1655 г. сабраў асноўныя сілы пад Магілёвам. На той час цар паспеў перакінуць у горад дадатковыя палкі, паспяшалася туды і некалькі тысяч казакаў Васіля Залатарэнкі, умацаванні горада былі падпраўлены. Прапанову здацца моцны гарнізон адхіліў і Радзівіл мусіў пачаць са штурмаў.

У самым пачатку аблогі на бок Вялікага Княства перайшоў палкоўнік Паклонскі, які 5 лютага ўначы выехаў за ўмацаванні і «изменил с могилев-

---

[1] АЮЗР. Т. 14. С. 446.

[2] Акты, собранные в библиотеках и архивах России. СПб., 1836. С.128; АВАК.Т.34.С.9.

[3] *Мальцев А.Н.* Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974. С.49.

[4] *Wisner H.* Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła 1648–1655 // RB. 1976. T. 13. S. 96.

скою и иных городов шляхтою, и с казаки, которые у него в полку были»[1] – агулам да Радзівіла вярнулася з ім больш за 400 чалавек. Адначасова пачаўся штурм горада, аднак абаронцы ў жорсткім баі стрымалі атаку і здолелі выправіць небяспечную сітуацыю. Аблога зацягвалася, прыкоўваючы ўсё войска ВКЛ. Радзівіл ладзіў штурмы яшчэ 12 лютага, 8 сакавіка, 9 і 13 красавіка, але ўсе яны заканчваліся нічым. Тым часам казакі Івана Залатарэнкі праводзілі рэйды ў яго тыле, знішчылі за вясну Бабруйск, Каралеўскую Слабаду, Глуск. У сярэдзіне красавіка яны сталі набліжацца да Магілёва.

Частку войска гетман Радзівіл накіраваў у рэйд па Смаленшчыне. Яго складалі галоўным чынам «валюнтарыушы» – узброеныя сяляне, якія вербаваліся добраахвотна. З'яўленне радзівілаўскага кантынгенту на Смаленшчыне выклікала рух мясцовых сялян, якія пераходзілі на бок ВКЛ. Аднак паспяховы партызанскі рэйд не выпраўляў агульнай няўдачы контрнаступлення.

У пачатку мая Радзівіл мусіў зняць аблогу Магілёва і адступіць за Бярэзіну. У Падзвінні мізэрныя сілы палкоўнікаў Лукомскага і Лісоўскага спрабавалі авалодаць адпаведна Віцебскам і Дзісной, але яны таксама не дамагліся ніякіх поспехаў.

Адразу пасля адступлення Радзівіла пачаўся другі паход царскіх ваяводаў на Вялікае Княства. Па-ранейшаму ў ім удзельнічалі тры маскоўскія арміі – паўночная, цэнтральная і паўднёва-заходняя, якім дапамагалі казацкія палкі Івана Залатарэнкі. Усю палявую армію ВКЛ Януш Радзівіл сабраў у Вільні. Таму маскоўскае войска рухалася амаль не сустракаючы сур'ёзных перашкод. 3 ліпеня 1655 г. царскія ваяводы разам з украінскімі казакамі занялі Менск і рушылі на сталіцу княства.

Вялікаму гетману так бракавала сіл, што ён нават не стаў абараняць Вільню і вырашыў адвесці войска на Жамойць. 8 жніўня амаль безабаронная сталіца дзяржавы была захоплена, абрабавана і выпалена[2]. Пасля гэтага армія Чаркаскага заняла Трокі, Коўну і Гародню. На Беларусі апрача пакінутых глыбока ў тыле Старога Быхава і Берасцейшчыны, куды царскія ваяводы яшчэ не дайшлі, свабодным заставаўся толькі радзівілаўскі Слуцк. Увосень 1655 г. пасля спусташальнага рэйду Залатарэнкі і Трубяцкога праз беларускае Панямонне ваенныя дзеянні прыпыніліся.

Цар Аляксей Міхайлавіч планаваў яшчэ павесці войска з Вільні на Варшаву, але ў Польшчу ўжо ўвайшла армія Швецыі, якая яшчэ ў чэрвені 1655 г. уступіла ў вайну супраць Рэчы Паспалітай. Высадзіўшыся 14 ліпеня ў Памор'і, трыццацітысячнае шведскае войска магло



Карл X Густаў, кароль Швецыі

---

[1] АЮЗР. Т. 14. С. 568.

[2] Памятники русской старины в Западных губерниях империи. Изд. П.М.Батюшкова. СПб., 1874. Вып.6. С.50; *Łowmiańska M.* Wilno przed najazdem Moskiewskim. Wilno, 1935. S. 71–72.

амаль беспярэшкодна рухацца да Варшавы, бо польскае паспалітае рушанне адразу ж здалося. Сутыкненне з моцнай у ваенных адносінах Швецыяй і вайна на два франты была б для Масквы непажаданай, таму цар стрымаў далейшыя дзеянні сваіх ваяводаў.

**Кейданская унія.** Яшчэ перад стратай Вільні вялікі гетман разам з Багуславам Радзівілам звязаўся са шведскім каралём і выявіў гатоўнасць прыняць пратэктарат Швецыі, прызнаючы Карла X Густава вялікім князем літоўскім. Пагадненне аб шведскай пратэкцыі было падпісана 17 жніўня 1655 г. у Кейданах, але паны і шляхта ВКЛ паставіліся да яго супярэчліва. З удзелам інфлянцкага губернатара шведскага генерала Магнуса Дэлагардзі ў Кейданах вяліся складаныя перагаворы, пакуль 20 кастрычніка не быў прыняты новы тэкст пагаднення, які дэклараваў уступленне ВКЛ у раўнапраўную унію са Швецыяй і прызнанне шведскага караля вялікім князем літоўскім[1]. Гэты акт падпісалі 1142 асобы, у асноўным прадстаўнікі шляхты і каталіцкага духавенства. Большасць, аднак, выявіла лаяльнасць каралю Яну Казіміру. Войска ВКЛ раздзялілася, а частка яго (2 тыс.), узначаленая Паўлам Сапегам, канфедэравалася і заняла адкрыта антырадзівілаўскую і антышведскую пазіцыю.

Шведы паспелі ўзяць пад свой кантроль Жамойць, а на Беларусі яны занялі Браслаў, Іказнь, Друю, але гарнізонаў не пакінулі. Яшчэ ў кастрычніку галоўныя сілы генерала Дэлагардзі пайшлі ў Прусію да Карла X Густава. На адышоўшай да Швецыі паводле кейданскага акта тэрыторыі засталося



Шведская пяхота на маршы. Медзярыт XVII ст.

[1] Akta ugody kiejdanskiej 1655 r. / Wyd. Wł.Konopczynski, K.Lepszy // Ateneum Wileńskie. 1935. T. 10; *Wisner H.* Rok 1655 na Litwie a retraktacje ze Szwecją i kwestia wyznaniowa // ORP. 1981. T. 26.

ўсяго некалькі тысяч шведскіх жаўнераў. Гэта само па сабе рабіла прынятыя ў Кейданах умовы невыканальнымі. Страціўшы большую частку арміі, гетман Януш Радзівіл закрыўся ў сваім моцным замку Тыкоцін, абложаны войскам Сапегі, і ў апошнія дні снежня 1655 г. памёр. Смерць галоўнага ініцыятара аб'яднання са Швецыяй прадвызначыла і лёс кейданскай уніі.

**Віленскае перамір'е 1656–1658 гг.** Вайна шведаў супраць Рэчы Паспалітай, вядомая ў гісторыі як Другая Паўночная, палепшыла адносіны паміж Польшчай і Маскоўскім царствам, бо ім абодвум цяпер аднолькава пагражала пратэстанцкая Швецыя. У той жа час імкненне атрымаць большую частку напаўразгромленай Рэчы Паспалітай непазбежна сутыкала Карла Х Густава з Аляксеем Міхайлавічам. Абодва з пачатку 1656 г. шукалі сабе саюзнікаў і мабілізоўвалі сілы. У маі 1656 г. цар першым распачаў ваенныя дзеянні супраць Швецыі, накіраваўшы галоўныя сілы з Полацка на Лівонію. Аднак неўзабаве яго армія мусіла адступіць ад Рыгі. З пункту гледжання асноўных мэт кампанія аказалася беспаспяховай, і Расія надоўга ўвязалася ў канфлікт з моцным сапернікам.

Царскі ўрад хвалявалі вынікі кейданскай дамовы, таму ён настойліва шукаў шляхоў збліжэння з нядаўнімі ворагамі ў самой Рэчы Паспалітай. Маскоўскія дыпламаты завязалі кантакты з праціўнікамі кейданскага пагаднення ў ВКЛ, найперш з палявым гетманам Вінцэнтам Гасеўскім – асабістым ворагам Януша Радзівіла, а таксама з польскімі праціўнікамі шведскай арыентацыі. Пасля падзення Варшавы (7 ліпеня 1656 г.) перамір'е з Масквой стала неабходным і прадстаўнікі Рэчы Паспалітай прыступілі да афіцыйных перагавораў з царскімі ўпаўнаважанымі. Сустрэчы адбываліся ў Немежы, пад Вільняй, пры пасрэдніцтве аўстрыйскіх дыпламатаў. Працэс перагавораў доўга тармазіўся тэрытарыяльнымі спрэчкамі. Маскоўскі бок спачатку дамагаўся перадачы ўсёй Беларусі і Украіны. Баючыся зрыву перагавораў, цар нарэшце дазволіў сваім паслам пайсці на кампрамісны праект, паводле якога Масква згаджалася на мяжу па Бярэзіне, калі на астатніх землях ВКЛ і Кароны будзе скасавана царкоўная унія[1].

Надзвычай цяжкае становішча абумовіла падатлівасць дыпламатаў Рэчы Паспалітай, якія з ведама караля згаджаліся на выбары цара на польскі трон і аддачу беларускіх зямель па Дзвіну[2]. З іншага боку, беларуская і літоўская шляхта, землі якой апынуліся пад акупацыяй, дэманстравала зацікаўленасць у найхутчэйшым замірэнні з Масквой і ў час перагавораў пагражала, што калі мір не будзе заключаны, то яна пяройдзе ў царскае падданства[3].

Віленскі трактат, падпісаны 3 лістапада 1656 г., прадугледжваў двухгадовае перамір'е паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай і іх супольныя дзеянні супраць Швецыі і яе саюзніка Брандэнбургіі. Пасля гэтага ваяводы Аляксея Міхайлавіча пачалі актыўней дзейнічаць супраць шведаў у Лівоніі. У Беларусі заставаліся толькі маскоўскія гарнізоны і царская ваенная адміністрацыя.

**Акупацыйная палітыка царскіх улад.** Амаль уся тэрыторыя Беларусі (за выключэннем Палесся, Берасцейшчыны і Панямоння) ужо на другі год вайны апынулася пад акупацыяй. Беларускія землі, занятыя царскім вой-

---

[1] *Gawlik M.* Projekt unii rosyjsko-polskiej w drugiej połowie XVII w. // KH. R. 23 (1909). S.93.

[2] *Wójcik Z.* Jan Kazimierz Waza. Wrocław, 1997. S.126.

[3] *Wójcik Z.* Tendencje separatystyczne w WKL w XVII w. // Belarus, Lithuania, Poland, Ukraine. The Foundation of historical and cultural Traditions in East Central Europe. Lublin, 1994. S.63.




Маскавіты. Фрагмент гравюры В.Баўэра. Каля 1640 г.

скам, адразу ж ператвараліся ў правінцыю Маскоўскай дзяржавы. У Маскве для кіравання імі спецыяльна быў створаны Прыказ Вялікага княства Літоўскага. Акупацыйную ўладу ў Беларусі ўвасаблялі ваяводы. Каб выклікаць лаяльнасць мясцовага насельніцтва, цар пакідаў гарадам магдэбургскае права, раздаваў ахоўныя граматы, якія мусілі аберагаць іх ад маскоўскіх жа ратнікаў, усяляк падтрымліваў лаяльную да яго шляхту. У канфесійнай палітыцы акупацыйныя ўлады кіраваліся прынцыпамі: «жидам в Белой Руси не быть и жития никакого не имети», «униатам не быть», «костелам не быть, а петь в домех». Каб выклікаць нянавісць да іншаверцаў, «ляхі і жыды» называліся «ворагамі праваслаўнай хрысціянскай веры». Так што поўнае права на існаванне ў падкантрольных маскоўскім уладам раёнах мела толькі праваслаўная царква. Цар усяляк імкнуўся ўмацаваць і пашырыць яе, аддаючы ёй будынкі і маёмасць уніятаў і каталікаў. Пры дэманстратыўнай апецы над праваслаўем уніяцтва было пастаўлена наогул па-за законам, а каталіцкі культ абмяжоўваўся да прыватных дамоў шляхты і мяшчанства.

Жыхары занятых раёнаў, як правіла, пераводзіліся ў праваслаўе на месцы, у Беларусі, або перахрышчваліся ў палоне, у Маскоўскай дзяржаве. Аднак нават прыналежнасць да праваслаўнай царквы не магла ўберагчы насельніцтва ад марадзёрства і гвалту з боку захопнікаў. Тыя рабавалі, забіралі ў няволю ўсіх без разбору. Здаралася, знішчалі і праваслаўныя храмы, забівалі праваслаўных папоў. Да цара з першых месяцаў вайны пайшлі шматлікія скаргі ад адзінавернага яму духавенства Беларусі, але спыніць гвалт было немагчыма нават самому Аляксею Міхайлавічу.

Хоць праваслаўная царква ў Беларусі актыўна супрацоўнічала з новымі ўладамі, царская адміністрацыя трымала яе пад пільным наглядам. Дзеля большай надзейнасці сюды прысылалі святароў з Маскоўскай дзяржавы. Урад Аляксея Міхайлавіча ставіў на мэце перападпарадкаваць праваслаўную епархію Беларусі свайму патрыярхату. Гэтай справай у гады вайны займаўся нават Прыказ тайных спраў.

Асобнай задачай акупацыйных улад быў вывад мясцовага насельніцтва ў Маскоўскую дзяржаву. Паводле сведчанняў патрыярха Нікана, Аляксей Міхайлавіч планаваў вывесці і пасяліць у сваіх землях не менш за 300 тыс. беларусаў. Паляванне на людзей і іх вывад у царства набылі характар дзяржаўнай палітыкі, а палонных дазвалялася ператвараць у сваіх прыгонных[1]. Кожны маскоўскі памешчык ці нават мешчанін мог прыехаць у Беларусь да царскага войска і купіць тут у ратнікаў патрэбную колькасць палонных за мізэрную плату – па 3–5 рублёў за чалавека. Права валодаць нявольнікам як прыватнай уласнасцю афармлялася простай рэгістрацыяй у «паланяніч-

[1] Полное собрание законов Российской империи. СПб.. 1830. Т. 1. С. 337.

най» кнізе ці ў халопскім прыказе. Яшчэ працей гэта дасягалася перахрышчваннем палоннага ў праваслаўе.

Запісы ў «паланянічных» кнігах сведчаць, што ў няволю браліся пераважна маладыя жанчыны і дзеці ва ўзросце ад 10 да 16 гадоў, а часта – цэлыя сем'і. Асобную групу палонных складалі рамеснікі, якіх вышуквалі спецыяльна. Іх пераманьвалі высокім заробкам або забіралі сілай. Калі горад бралі штурмам, рамеснікаў выводзілі ў першую чаргу. Такім шляхам на Валдаі апынуліся кафляры з Дуброўны, Мсціслава, Шклова, у Маскве – высокакваліфікаваныя кавалі, збройнікі, замочнікі і іншыя майстры з самых розных гарадоў Беларусі. Адначасова з масавым вывадам карэннага насельніцтва ў Маскоўскую дзяржаву цар спрабаваў на пастаяннае жыхарства пасяляць у беларускіх гарадах сваіх ратнікаў. У Полацку і Віцебску, напрыклад, ім адводзіліся спецыяльныя пляцы пад слабоды, а з казны выдзяляліся грошы на будаўніцтва двароў[1].

У выніку баявых дзеянняў, гаспадарання маскоўскага войска, голаду і хвароб акупіраваныя землі Беларусі былі ператвораны ў пустэчу. Праехаўшы дарогамі Панямоння, каралеўскі сакратар Стэфан Мядэкша яшчэ ў 1655 г. адзначыў у сваім дыярыушы, што там «трупаў па дарогах поўна, вёскі, мястэчкі, сядзібы папаленыя, беднай хаткі цяжка пабачыць цэлай»[2]. Сведкі пісалі пра цэлыя паветы як пра «пустыя і выпаленыя». Расстаўленыя ў Беларусі царскія войскі нават падчас замірэння наязджалі на маёнткі і вёскі, рабавалі жыхароў і паўсюдна чынілі гвалт. «Навошта столькі крыўды, крадзяжу, пакутаў і забойстваў у гарадах і вёсках, у лясах і на полі, за што ў кожным месцы чуецца плач і л'юцца слёзы ?» – адчайна пытаўся ў маскоўскіх ваяводаў праваслаўны ўладыка, епіскап полацкі і віцебскі Каліст.

Ад мноства непахаваных трупаў людзей і жывёл пачалася эпідэмія чумы. Яна суправаджалася страшным голадам, выкліканым ваеннымі спусташэннямі. Людзі елі сабак і кошак, месцамі даходзіла нават да канібалізму. Слуцкі шляхціц Ян Цадроўскі, які перажыў тыя падзеі, пісаў, што памерлыя проста ляжалі паўз дарог, іх нават не было каму пахаваць[3]. Беларусь перажывала тады ці не самыя трагічныя часы сваёй гісторыі.

**Народнае супраціўленне**. Гвалт і спусташэнні, голад і мор, масавы вывад людзей у няволю – усё гэта выклікала шырокі рух народнага супраціўлення на беларускай зямлі. Ён пачаўся адразу пасля з'яўлення маскоўскага войска ва ўсходніх паветах дзяржавы. Ужо ў ліпені 1654 г. там сталі ўтварацца сялянскія аддзелы самаабароны, якія ўзяліся ахоўваць свае вёскі і мястэчкі, перашкаджаць выводзіць у палон мясцовае насельніцтва. У дакументах царскай адміністрацыі супраціўленцаў называлі «шышамі»[4].

У пачатку вайны найбольш актыўны партызанскі рух разгортваўся на Смаленшчыне і каля Мсціслава, а таксама ў раёнах Магілёва, Віцебска, Полацка. Некаторыя лясныя фарміраванні ўяўлялі з сябе даволі значную сілу (па некалькі тысяч чалавек) і маглі весці актыўныя ваенныя дзеянні. Напрыклад, трохтысячны аддзел сялян з Калеснікаўскай воласці Мсціслаўскага павета ажыццявіў напад на армію ваяводы Трубяцкога, калі тая аб-

---

[1]Акты Московского государства (далей – АМГ) / Ред. Н.А.Попов, Д.Я.Самоквасов. СПб., 1901. Т. 3. С. 94.

[2] *Medeksza St.* Księga pamiętnicza wydarzeń zaszłych na Litwie, 1654–1668 / Wyd. W. Seredynski. Kraków, 1875. S.18.

[3] Pamiętniki historyczne do wyjaśnienia spraw publicznych w Polsce XVII wieku / Wyd. M.Baliński. Wilno, 1857. S.146.

[4]*Мальцев А.Н.* «Шиши» на Смоленщине и в Белоруссии в сер. XVII в. // Новое о прошлом нашей страны. М., 1967.




Палякі. Фрагмент гравюры В.Бауэра. Каля 1640 г.

лажыла Мсціслаў, і прычыніў ёй сур'ёзныя страты. Мужыкі Полаччыны таксама ўступілі ў адкрыты бой з рэгулярным маскоўскім войскам. Нездарма цар ужо ў жніўні 1654 г. папярэджваў сваіх ваяводаў аб небяспецы раптоўных нападаў беларускіх партызан.

Зімою 1654/55 г., падчас наступальнай кампаніі Януша Радзівіла, вызваленчы рух на ўсходзе Беларусі ўзмацніўся. Паўсталі сяляне Аршаншчыны, Віцебшчыны, Мсціслаўскага і Смаленскага паветаў[1]. Пайшоўшы ў лясы, яны рабілі засады на дарогах, нападалі на дробныя аддзелы маскоўскіх ратнікаў, бралі ў палон ваявод і перадавалі іх Радзівілу. Цэнтрам самага актыўнага партызанскага руху на Мсціслаўшчыне была Калеснікаўская, а на Смаленшчыне – Любавіцкая і Мікулінская воласці (там стаялі фарміраванні па 3 тыс. чалавек). Толькі ў Звяровічах дзейнічала 1500 партызан, у Красным – 300, на Полаччыне і каля Дуброўны налічвалася па 600 – 800 чалавек у кожным. Зброяй ім служылі галоўным чынам бердышы, косы і вілы, радзей – стрэльбы. Аснову партызанскіх сіл складалі сяляне, аднак у іх уваходзіла і шляхта. Шляхціцаў часам прысылаў вялікі гетман Радзівіл, і яны выконвалі ролю камандзіраў. Некаторымі ж фарміраваннямі кіравалі сяляне, як, напрыклад, Якім Патапавіч на Мсціслаўшчыне. Яго партызаны вялі барацьбу не толькі з маскоўскім войскам, але нападалі і на шляхту, што прысягнула цару, хадзілі ваяваць на тыя вёскі, якія перайшлі на бок Масквы.

Ужо зімою 1655 г. цар Аляксей Міхайлавіч мусіў накіраваць на партызанаў усходнебеларускіх паветаў спецыяльнае войска. Вясною з карнай экспедыцыяй на Мсціслаўшчыну хадзіў ваявода В.Шчарбатаў. Злоўленых сялян білі пугамі і вешалі, іншым – адразалі насы і вушы і адпускалі хадзіць па вёсках, каб застрашыць астатніх. Аднак рух не перапыняўся.

Вясною 1656 г. барацьба мясцовага насельніцтва супраць царскай адміністрацыі і прысяжнай шляхты зноў актывізавалася. Яна ахапіла раёны Менска і Барысава, затым перакінулася на Навааградчыну, а ў 1657 г. партызанскай вайной заняліся жыхары не толькі ўсходніх, але і паўночных зямель Беларусі. Уздыму антымаскоўскага руху ў Менскім ваяводстве і ў Падняпроўі садзейнічала прысутнасць казакаў Івана Нячая. Назваўшыся «беларускім палкоўнікам», яго сотнік Дзяніс Мурашка набраў у сваё войска мясцовых сялян і ўзначаліў сапраўдную вайну супраць прысяжнай шляхты[2]. Застрашаная ім шляхта вагалася і часам нават пераходзіла назад на бок Рэчы Паспалітай.

Узрослыя сілы дазволілі паўстанцам ужо ў 1657 г. перайсці да больш маштабных дзеянняў. Яны трымалі пад кантролем увесь Магілёўскі павет, а палкоўнік Баграві з партызанамі паспрабаваў вызваліць горад Барысаў.

[1] *Мальцев А.Н.* Россия и Белоруссия в середине XVII в. С. 210–217.

[2] *П'янкоў А.П.* Паўстанне Дзяніса Мурашкі // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. 1949. № 1.

Праз год, калі ў лясы масава пайшла мясцовая шляхта, якая раней прысягала цару, і ўзнавіліся шырокамаштабныя ваенныя дзеянні паміж арміямі Маскоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай, народна-вызваленчы рух у Беларусі дасягнуў якасна новага, вышэйшага этапа.

Ідэя вызвалення ад царскіх войскаў часова кансалідавала прадстаўнікоў розных станаў – сялян, мяшчан, шляхту. З далучэннем шляхты, якая мела ваенны вопыт, партызанскія фарміраванні пераходзілі да наступальных аперацый. Напрыклад, менская шляхта, аб'яднаўшыся з сялянамі, спрабавала авалодаць Менскам, партызаны Віцебшчыны вызвалілі Бешанковічы і Лукамль. Палкоўнік М.Валовіч, які меў сялян «тысячы дзве з косамі і бердышамі», разам з аддзелам Р.Камароўскага заняў Глыбокае. Віцебск быў цалкам заблакіраваны аддзеламі сялян і шляхты. Мяшчане Мсціслава і Крычава пры падтрымцы казакаў І.Нячая самастойна ліквідавалі ў сябе царскія залогі.

**Узнаўленне вайны. Пачатак вызвалення ВКЛ.** Пасля смерці ўкраінскага гетмана Б.Хмяльніцкага (6 жніўня 1657 г.) яго пераемнік Ян Выгоўскі аддаў перавагу прапольскай арыентацыі, чым абвастрыў адносіны з Расіяй.

Ваенныя дзеянні ў 1654—1685 гг.

Яго палітыка прывяла да падпісання 16 верасня 1658 г. польска-казацкага пагаднення, якое прадугледжвала ўзнікненне трэцяга дзяржаўнага элемента ў Рэчы Паспалітай – апрача Польшчы і Літвы меркавалася стварыць Рускае Княства, у якое ўвайшлі б Кіеўскае, Брацлаўскае і Чарнігаўскае ваяводствы. Аднак рэалізацыя гэтага праекта натыкнулася на перашкоды як на Украіне, дзе супраць выступіла частка насельніцтва, так і ў Польшчы, сенат якой не жадаў ратыфікаваць пагадненне.

Пасля Гадзяцкай дамовы 1659 г., паводле ўмоў якой гетманская Украіна аддзялялася ад Масквы і далучалася да Польшчы, раскватараваныя ў Беларускім Падняпроўі казацкія фарміраванні Івана Нячая сталі адкрыта ваяваць супраць расійскага войска. Мясцовыя жыхары з канца 1650-х гг. пачалі актыўней далучацца да харугваў рэгулярнага войска Вялікага княства Літоўскага. Менавіта сяляне складалі большую частку ў палку Гальяша Сурына і да паловы войска некаторых іншых палкоўнікаў.

Аднак у кастрычніку 1659 г. гетманам Украіны быў абраны Юрый Хмяльніцкі, які зацвердзіў тэкст новага Пераяслаўскага пагаднення, што зноў падпарадкоўвала Украіну царскай Расіі. Адзін з яго артыкулаў патрабаваў вывесці з Беларусі ўсе казацкія залогі. Каб ачысціць Беларускае Падняпроўе ад казакаў Нячая і мужыцкіх аддзелаў, цар яшчэ ў 1658 г. накіраваў туды буйныя сілы рэгулярнага войска з артылерыяй. Спецыяльная вайсковая экспедыцыя была выслана і на партызанаў Віцебшчыны. Царскія войскі цалкам спальвалі вёскі ў партызанскіх зонах і бязлітасна расправуляліся з палоннымі, аднак рух не перапыняўся. У шэрагу выпадкаў, як у баі ў Бешанковічах, партызаны дамагаліся перамогі ў адкрытых сутычках з царскай арміяй. На Дняпры летам маскоўскія ваяводы аблажылі Стары Быхаў, у якім засеў Нячай. Горад зноў так зацята адбіваўся, што толькі ў канцы 1659 г. яны здолелі захапіць яго штурмам, ды і то «праз здраду».

Зімою 1658/59 г. для выпраўлення сітуацыі ў Беларусі Аляксей Міхайлавіч накіраваў сюды вялікую армію на чале з ваяводам князем Іванам Хаванскім. На той час асноўныя сілы ВКЛ па-ранейшаму знаходзіліся па-за межамі краіны, ваявалі з палякамі супраць шведаў у Курляндыі. Толькі вялікі гетман Павел Сапега ў кастрычніку 1658 г. узяў у аблогу Гародню і трымаў яе некалькі месяцаў, пакуль маскоўскі гарнізон не здаўся. У іншых раёнах краіны дзейнічалі толькі партызаны.



Шведскі драгун. Медзярыт XVII ст.

Не сустракаючы значнага супраціўлення, ваявода Хаванскі ў снежні 1659 г. рушыў у Панямонне, дайшоў да Гародні і заняў яе, затым пасля рэйду па Беласточчыне захапіў Берасце і пачаў там умацоўвацца. Паводле сведчанняў мемуарыстаў, дзейнічаў ён надзвычай жорстка[1]. Яго ратнікі выпальвалі гарады і вёскі, забівалі або забіра-

[1] Pamiętniki Samuela i B.Kazimierza Maskiewiczów. Wiek XVII / Oprac. A. Sajkowski. Wrocław, 1961. С. 274 і інш.

лі ў палон жыхароў. Толькі ў студзені 1660 г. кароль адпусціў пісара Аляксандра Палубінскага і гетмана Паўла Сапегу з часткай войска на абарону ВКЛ. Аднак пакуль гэтыя сілы былі нязначныя.

Доўгія перагаворы ў Аліве, у якіх удзельнічалі прадстаўнікі Швецыі, Рэчы Паспалітай, Аўстрыі, Брандэнбургіі, Даніі, Галандыі, Курляндыі і Францыі, паставілі кропку на шматгадовым міжнародным канфлікце. 3 мая 1660 г. быў падпісаны трактат, які міры́ў Рэч Паспалітую са Швецыяй. Першая вяртала поўнае права на занятую шведамі польскую частку Прусіі – так званую каралеўскую, але страчвала большую частку Інфлянтаў. Праз год мір са Стакгольмам падпісала і Масква, так што шведская небяспека, якая калісьці зблізжала Польшчу з Расіяй, перастала існаваць.

Аліўскі мір дазволіў Рэчы Паспалітай засяродзіць сілы на барацьбе з Масквой, і ў Беларусь былі вернуты войскі Вялікага княства Літоўскага, а на дапамогу ім прыйшла каронная дывізія Стэфана Чарнецкага. Разам з ім армія Паўла Сапегі 28 чэрвеня 1660 г. у бітве каля Палонкі, што пад Баранавічамі, разграміла войска Хаванскага. Апошні страціў каля 2 тыс. воінаў і адступіў на Полацк. Аднак наступала пакуль толькі правае крыло войск ВКЛ. Дывізія Міхала Паца доўгі час знаходзілася на тэрыторыі этнічнай Літвы. Толькі ў верасні 1660 г. жамойцкае войска далучылася да дывізіі Паўла Сапегі і выступіла на Беларускае Падняпроўе.

Тым часам, каб выправіць сітуацыю пасля разгрому Хаванскага, цар накіраваў у Беларусь 25-тысячную групоўку князя Ю.Далгарукага. Злучыўшыся з казакамі Васіля Залатарэнкі і фарміраваннямі Хаванскага, гэтыя сілы маглі вярнуць цару страчаныя ў ВКЛ пазіцыі. Таму дывізіі Сапегі, Паца і Чарнецкага рушылі насустрач Далгарукаму. На рацэ Бася, што на ўсход ад Магілёва, у кастрычніку праціўнікі сутыкнуліся. Пасля некалькіх крывавых баёў яны ўхіліліся ад генеральнай бітвы. Але план аб'яднання і далейшага руху Далгарукага быў сарваны, а войска Хаванскага, якое спяшалася на злучэнне, моцна пацярпела ад сустрэчных удараў і ратавалася ўцёкамі назад у Полацк[1]. Увогуле 1660 г. быў надзвычай паспяховым для арміі ВКЛ.

Другой важнейшай падзеяй новага этапа вайны стала пераможная бітва, якая адбылася ў пачатку лістапада 1661 г. пад Кушлікамі, што на Дзвіне. Войска ВКЛ з кароннай дывізіяй Чарнецкага пасля ўпартага супрацьстаяння разграміла тут армію ваяводы Хаванскага[2]. Пераможцы здабылі больш за 100 баявых штандараў, усю палявую артылерыю і мноства палонных, сярод якіх быў і сын Хаванскага. Сам ваявода князь А.Хаванскі ўцёк у Полацк «с небольшими людьми».

Перамогі пад Палонкаю і Кушлікамі змянілі ход вайны і давалі магчымасць перанесці дзеянні на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы. Да гэтага ж заклікалі ваеннае кіраўніцтва Рэчы Паспалітай пасланцы крымскага хана і ўкраінскіх казакаў. Аднак войска ВКЛ утварыла канфедэрацыю і адмовілася ад паходу на Маскву.

Дух вызвалення перадаваўся і простаму насельніцтву Беларусі. Полацкія сяляне ў 1661 г. па закліку наваградскага кашталяна М.Юдзіцкага ўтварылі баявыя фарміраванні і самастойна хадзілі ваяваць на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы. Вясковы люд заўзята дабіваў рассеяныя пасля вялікіх

[1] АМГ. Т.3. С. 204.

[2] АМГ. Т.3. С.455; Pamiętnik Jana Władysława Poczobuta-Odlanickiego (1640–1684) / Oprac. A.Rachuba. Warszawa, 1987. S. 164.

бітваў рэшткі непрыяцельскага войска, помсцячы за рабункі і гвалт. Гэтак было, напрыклад, у 1661 г. пасля бітвы пад Кушлікамі на Полаччыне.

Імкненне вызваліцца ад акупацыйных улад, ахапіўшае, здавалася, ці не ўсе слаі грамадства, стала своеасаблівай формай нацыянальнай кансалідацыі. Найбольш ярка яно выявілася ў серыі антымаскоўскіх паўстанняў у беларускіх гарадах. У Магілёве мяшчане змовіліся і 1 лютага 1661 г. са зброяй у руках выступілі супраць маскоўскага гарнізона, знішчылі ўвесь яго склад (2 тыс. чалавек), а ваявод перадалі каралю. Па прыкладзе Магілёва мяшчане самастойна ліквідавалі царскія гарнізоны ў Дзісне, Мсціславе, Себежы, Шклове, Гомелі, а ў 1664 г. – і ў Старым Быхаве.

Такім чынам, калі ў пачатку вайны ў выніку шырокай прапаганды і ўдалага выкарыстання канфесійных супярэчнасцей у Рэчы Паспалітай маскоўскі ўрад здолеў шмат у якіх месцах Беларусі нейтралізаваць праваслаўнае насельніцтва ці нават схіліць на свой бок, дык для часоў акупацыі стала больш характэрнай масавая барацьба мясцовага жыхарства супраць царскіх улад. Па прычынах і формах гэты рух блізкі да антышведскага паўстання 1656 г. у Жамойці, да партызанскай вайны польскага народа супраць шведаў у 1655–1660 г. Па маштабах жа і колькасці ўдзельнікаў ён пераўзыходзіў згаданае жамойцкае паўстанне. Усталяваная сілай у Беларусі царская ўлада гэтак жа сілай і скідалася пры актыўным удзеле мясцовага насельніцтва. Як адзначыў габсбургскі дыпламат Аўгусцін Маерберг, які праязджаў тады праз Беларусь, здзекі і гвалт масквіцян так адвярнулі ад іх сэрцы гэтага народа, што ён «выгнаў іх са сваіх зямель з такой жа нянавісцю, з якім даверам іх калісьці прымаў»[1].

Урад Рэчы Паспалітай не здолеў развіць дасягнутыя ў 1660–1661 гг. поспехі і перанесці ваенныя дзеянні на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы. Прычынай гэтага стаў не столькі недахоп сіл, колькі ўнутраны разлад у дзяржаве.



Кароль і вялікі князь Ян Казімір. Паводле медзярыту В.Хондыюса

Кароль і яго двор імкнуліся рэфармаваць сейм (скасаваць прынцып абавязковасці поўнай згоды пры галасаванні) і ўвесці выбарнасць наступніка трона пры жыцці караля ("vivente rege"). Гэта было абумоўлена іх жаданнем каранаваць французскага кандыдата. Праановы ўдасканальвання палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай выносіліся на скліканыя сеймы 1660 і 1661 гг. Але двор так настроіў супраць сябе войска і шляхту, што праграма рэформаў сутыкнулася з шырокай апазіцыяй. Асабліва рашучымі праціўнікамі каралеўскіх планаў былі вайсковыя канфедэрацыі, якія катэгарычна выступалі супраць "vivente rege". Створаныя ў 1661 г. як у каронная арміі («Святы

[1]*Маейрберг А.* Путешествие в Московию (1661). М., 1874.

саюз»), так і ў войску ВКЛ (вялікая канфедэрацыя «Братэрскі саюз»), яны не толькі дамагаліся выплаты затрыманых заробкаў, але мелі свае палітычныя праграмы. У іх войска стала ўвасабляць самастойны шляхецкі рух па абароне праў і вольнасцей[1].

Не падпарадкоўваючыся вярхоўнай уладзе, канфедэрацыі блакіравалі ініцыятывы рэформаў зверху і практычна паралізавалі ўзброеныя сілы дзяржавы. Тады двор засяродзіўся толькі на праекце "vivente rege"», плануючы нават выкарыстанне сілы. На ўтаймаванне ўзбунтаванай арміі кароль збіраўся кінуць казакаў і татараў, якія стаялі тады на тэрыторыі Рэчы Паспалітай у чаканні паходу на Маскву[2]. Для схілення канфедэрацый ВКЛ на свой бок двор падкупіў вызваленага з маскоўскага палону папулярнага сярод ваяроў палявога гетмана Вінцэнта Гасеўскага. Тым часам жаўнерскі саюз сам паскорыў ліквідацыю канфедэрацый. За спробы Гасеўскага падкупіць іх кіраўніцтва ў лістападзе 1662 г. жаўнеры забілі яго разам з маршалкам Казімірам Жаромскім[3]. Гэта пазбавіла канфедэратаў шляхецкай падтрымкі і паставіла іх па-за законам. За вясну 1663 г. урадавымі сіламі была ліквідавана канфедэрацыя левага крыла, а за лета – і правага. Заставалася распусціць «Святы саюз» польскай арміі, пасля чаго кароль абвясціў даўно планаваны марш на ўсход, за Днепр.

Зімою 1663/64 г. абедзве дывізіі ВКЛ прыйшлі на злучэнне з польскай арміяй пад Глухаў, аднак да агульнага наступлення справа не дайшла. Супраць аб'яднанага войска Рэчы Паспалітай, якое не перавышала 32 тыс. чалавек, маскоўскія ваяводы паспелі сканцэнтраваць вельмі вялікія сілы. Наогул цар мог выставіць у той час больш чым 200-тысячную армію[4]. Але галоўнай праблемай Яна Казіміра стаў пачатак унутраных разборак у Кароне – рокаш эксмаршалка Е.Любамірскага, які перарос у сапраўдную ўнутраную вайну 1665–1666 гг. Хоць эліта ўлады як у Польшчы, так і ў ВКЛ заняла бок караля, большасць шляхты выразна падтрымлівала Любамірскага. Таму кароль выслаў у рэйд на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы толькі корпус Аляксандра Палубінскага, а асноўныя сілы павярнуў назад. Пасля зрыву гэтага наступлення значных аперацый не праводзілася.

Так Расія вытрымала цяжкія для яе 1660–1663 гг., а на далейшыя наступальныя дзеянні Рэч Паспалітая была няздольная. Абодва бакі, стомленыя доўгай вайной, пагадзіліся на перагаворы, якія распачаліся ў чэрвені 1664 г. у Дуравічах, на Смаленшчыне.

**Андрусаўскі мір**. Другі і апошні этап перагавораў пачаўся ў сакавіку 1666 г. у вёсцы Андрусава, што на ўсходзе Беларусі. Рэч Паспалітая, аслабленая ўнутранай вайной, з неаплачанай і дэмаралізаванай арміяй не магла займаць сілавой пазіцыі. Да таго ж у снежні 1666 г. новы казацкі гетман Пётр Дарашэнка разграміў на Украіне польскія харугвы, а з поўдня і Варшаве і Маскве ўсё больш пагражала Турцыя. Рада сенатараў 30 снежня даручыла ўпаўнаважаным Рэчы Паспалітай прымаць умовы Масквы, саступаючы землі, занятыя царскім войскам, і задавальняючыся толькі грашовай кампенсацыяй.

---

[1] *Rachuba A.* Konfederacja Kmicicowska i Związek Braterski wojska litewskiego w latach 1660–1663. Warszawa, 1989.

[2] *Wójcik Z.* Jan Kazimierz Waza. S.146.

[3] *Rachuba A.* Zabójstwo Wincentego Gosiewskiego i jego polityczne następstwa // Przegląd Historyczny. T. LXXI (1980). S. 4.

[4] *Сташевский Е.Д.* Смета военных сил Московского государства в 1663 г. Киев, 1910. С.18.

Пасля працяглых і цяжкіх спрэчак 30 студзеня 1667 г. дыпламаты Рэчы Паспалітай і паслы Маскоўскай дзяржавы падпісалі дагавор аб міры на 13 гадоў і 6 месяцаў. Згодна з умовамі пагаднення, усё Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы, а таксама Старадубскі павет і ўкраінскія землі па левы бераг Дняпра адыходзілі да Маскоўскай дзяржавы[1]. Паўночныя абшары Беларусі – Віцебшчына і Полаччына, а таксама Дзінабург, Інфлянты і Правабярэжная Украіна (Кіеў патрэбна было перадаць праз два гады, але царскі ўрад не выканаў гэтай умовы) вярталіся ў склад Рэчы Паспалітай[2]. У выніку тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага паменшылася з 370 да 312 тыс. км². Пазней, згодна з дамовай 1678 г., маскоўскі ўрад вярнуў яшчэ заселеныя пераважна беларусамі Невель, Себеж і Вяліж, і сфарміраваная такім чынам мяжа паміж Расіяй і Вялікім княствам Літоўскім заставалася нязменнай да канца XVIII ст.

Для абодвух бакоў Андрусаўскае пагадненне было своеасаблівым кампрамісам, такім патрэбным перад пагрозай асманскай агрэсіі. Некалькі артыкулаў трактата тычыліся непасрэдна ваеннага блока Масквы і Варшавы супраць Турцыі і Крымскага ханства. У 1686 г. гэтая ж патрэба ў саюзніку па антытурэцкай кааліцыі стала адной з прычын падпісання «вечнага міру» паміж Масквой і Варшавай, які быў буйным дыпламатычным паражэннем Рэчы Паспалітай, бо ўсё, што ў Андрусаве лічылася часовым, кампрамісным, у дадзеным трактаце атрымала статус канчатковага, «вечнага». У выніку слабасці Рэчы Паспалітай, выяўленай яшчэ ў Андрусаве, Расія ўзаконіла свае заваёвы, замацавала новы баланс сіл у Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

Тэкст Андрусаўскага замірэння прадугледжваў вяртанне палонных і культурных каштоўнасцей, што масава вывозіліся ў гады вайны з акупіраваных тэрыторый, найперш з Беларусі. Аднак права вярнуцца на айчыну фармальна атрымлівала толькі невялікая частка палонных – духавенства, шляхта, жаўнеры, казакі, татары і яўрэі. Асноўная ж маса выведзеных з Беларусі людзей (сяляне і мяшчане) заставалася ў Маскоўскай дзяржаве на ўсе гады замірэння. Нават шляхціцы, якім фармальна дазвалялася вярнуцца дамоў, часта не маглі выкарыстаць гэта права. Такім шляхам пасля вайны Маскоўская дзяржава пакінула сабе сотні тысяч палонных і вывезеныя каштоўнасці, у тым ліку кнігі, царкоўныя ўпрыгожанні, званы і інш.

Разасланыя па ўсім царстве беларускія шляхціцы і мяшчане неслі службу ў самых далёкіх астрогах. У некаторых гарадах, як, напрыклад, у Табольску ці Кузнецку, шляхта «літоўскага спісу» складала значную частку насельніцтва (ад 10 да 30 %)[3]. Выведзеным з Беларусі сялянам, якіх, дарэчы, у Маскоўскай дзяржаве называлі «літвой», «палякамі» «іншаземцамі» і «панамі», і ліку не вялося. Іх сялілі ў малалюдных месцах і пераводзілі ў халопства. Адзін толькі баярын Барыс Марозаў вывеў у свае вотчыны пад Маскву тысячы беларускіх мужыкоў з сем'ямі, робячы іх халопамі ўласных халопаў. У такое падвойнае халопства беларусы траплялі і ў іншых баярскіх вотчынах.

Мноства паспалітага люду з Беларусі назаўсёды засталося ў шматлікіх гарадах і манастырах Маскоўскай дзяржавы. Найбольш выхадцаў з беларускіх зямель апынулася ў самой Маскве, дзе ў 1670-х гг., паводле падлікаў

---

[1] *Wójcik Z.* Traktat andruszowski 1667 roku i jego geneza. Warszaza, 1959.

[2] Собрание государственных грамот и договоров, хранящихся в Государственной коллегии иностранных дел. М., 1828. Ч.4.

[3] *Сагановіч Г.* Невядомая вайна: 1654–1667. Мн., 1995. С. 186–187.

Л.С.Абецэдарскага, яны складалі 10 % ад усяго пасадскага насельніцтва. Гэта былі галоўным чынам высокакваліфікаваныя рамеснікі – кавалі, сярэбранікі, краўцы, скурнікі, ганчары, збройнікі, шабельнікі і інш. У адной толькі Збройнай палаце Крамля яшчэ падчас вайны, у 1660 г., працавала 68 полацкіх і віцебскіх майстроў. Менавіта выведзеныя з Беларусі кафляры аздаблялі мноства маскоўскіх храмаў, крамлёўскі палац і Каломенскую рэзідэнцыю цара Аляксея Міхайлавіча. Затое ў беларускіх гарадах рамесная вытворчасць была настолькі падарвана, што даваеннага ўзроўню яе развіцця ўжо не ўдалося дасягнуць.

Вынікі гэтай ваеннай катастрофы Беларусь мусіла пераадольваць стагоддзямі. Колькасна яе насельніцтва не магло аднавіцца праз усё XVIII ст. Страты дэмаграфічнага патэнцыялу засталіся непапраўнымі, як і прафесійны ўзровень жыхароў. Беларусы ўжо тады сталі народам з няпоўнай сацыяльнай структурай, амаль цалкам сялянскім.

## 3. Грамадзянская вайна ў Вялікім княстве Літоўскім (1696–1700 гг.)

**Пагаршэнне палітычнага становішча ВКЛ у канцы XVII ст.** Апошнія дзесяцігоддзі XVII ст. Рэч Паспалітая і яе складаная частка – Вялікае княства Літоўскае знаходзіліся ў стане ўсё больш глыбокага як знешняга, так і ўнутрыпалітычнага крызісу. Узаемаадносіны з Турцыяй і Швецыяй цяпер заставаліся галоўнымі вектарамі польска-літвінскай знешняй палітыкі. З канца XVII ст. усё больш актыўную ролю на поўдні і поўначы Еўропы, адціскаючы на задні план слабеючыя ўплывы Рэчы Паспалітай, пачынае адыгрываць Расія.

Міжнародныя пазіцыі ВКЛ нярэдка вызначаліся яго важным геапалітычным становішчам. Княства межавала са шведскімі ўладаннямі ў Прыбалтыцы і з Прусіяй, мела немалую агульную мяжу з Расіяй. Уключэнне Расіі ў еўрапейскую палітыку ў многіх было звязана з інтарэсамі і становішчам ВКЛ. У залежнасці ад характару ўзаемаадносін паміж Польскім Каралеўствам і ВКЛ, цэнтральнай каралеўскай уладай і велікакняжацкімі памкненнямі магнацкай алігархіі беларуска-літоўскіх зямель набывалі асаблівае значэнне пытанні ўмацавання ці аслаблення уніі паміж двума суб'ектамі Рэчы Паспалітай.


Танец смерці. Выява XVII ст.

Характэрна, што ўжо з другой паловы 80-х гг. XVII ст. у дачыненні да Рэчы Паспалітай замацаваўся прынцып так званай "гарантыі польскай канстытуцыі". Ён быў спачатку усталяваны ў выглядзе аўстра-шведска-брандэнбургскага пагаднення 1686 г. Паводле яго ўдзельнікі абавязаліся бараніць захаванне "вольнай

элекцыі" (выбараў караля) у Рэчы Паспалітай[1]. Падзеі грамадзянскай вайны, перарослшай у ВКЛ у Паўночную, прывялі да павелічэння ролі Расіі ва ўнутранай і знешняй палітыцы польска-літвінскай дзяржавы.

Грамадзянская вайна ў ВКЛ у канцы XVII ст. – пачатку XVIII ст. гэта, безумоўна, адна з яскравых праяў глыбокага ўнутрыпалітычнага крызісу федэратыўнай дзяржавы. Менавіта гэты крызіс звёў Рэч Паспалітую на пазіцыю амаль бяссільнага назіральніка ў змаганні паміж вядучымі дзяржавамі Поўначы.

У канцы XVII ст. Рэч Паспалітая ўяўляла дзяржаву з амаль адкрытымі межамі, якая не мела баяздольнага і арганізаванага войска, моцнай цэнтралізаванай улады. Праца адзінага цэнтраствуральнага органа краіны – вальнага сейма – была паралізавана "ліберум вета". Яго юрыдычнай асновай з'яўлялася практыка безумоўнага прытрымлівання пасламі ад паветаў на вальных сеймах інструкцый-наказаў мясцовай шляхты. Слабой і нядзейснай была каралеўская і велікакняжацкая ўлада, далёкая ад ідэалаў абсалютных манархій у суседніх дзяржавах. Канфлікт паміж магнацтвам і шляхтай у Рэчы Паспалітай не прывёў да аслаблення ўплыву магнацтва. Шляхецкай дэмакратыі ў краіне фактычна не існавала. Рашаючая палітычная роля належала, асабліва ў ВКЛ, магнатам. Абапіраючыся на валоданне вышэйшымі дзяржаўнымі пасадамі, з'яўляючыся багацейшымі землеўладальнікамі, магнаты без асаблівай цяжкасці, з дапамогай кантралюемай ці падкупленай шляхецкай кліентэлы[2] зрывалі сеймы, фактычна робячы з "залатых шляхецкіх вольнасцей" фіктыўнае прыкрыццё для рэалізацыі ўласных планаў.

Аднак дамінаванне ў ВКЛ таго ці іншага магнацкага роду не павінна тлумачыцца выключна суб'ектыўнымі, уласніцка-абагачальнымі ці вузка станавымі, прыватнымі інтарэсамі Радзівілаў, Пацаў, Сапегаў, Агінскіх і інш. Менавіта толькі ў гэтым рэчышчы часам разглядаюцца і акцыі пануючага стану ВКЛ, накіраваныя на абарону самастойнасці сваёй дзяржавы, адстойванне яе палітычных і эканамічных правоў.

**Узвышэнне Сапегаў і фарміраванне антысапегаўскай апазіцыі.** Другая палова XVII ст. прайшла пад знакам папераменнага ўзвышэння і вяршынства ў ВКЛ магнацкіх родаў Радзівілаў, Пацаў, Сапегаў. Спачатку дамінавалі Радзівілы. Вяршыняй іх уплываў у асобе вялікага гетмана Я.Радзівіла і канюшага ВКЛ Б.Радзівіла стала Кейданская (1655) унія ВКЛ са Швецыяй і разрыў уніі з Польшчай. У 60–70-я гг. XVII ст. вызначаліся сваім першынствам Пацы на чале з канцлерам Крыштафам і вялікім гетманам Міхалам. І ў першым, і ў другім выпадку неабмежаваная ўлада гэтых магнатаў грунтавалася на валоданні прадстаўнікамі роду вышэйшымі дзяржаўнымі пасадамі ВКЛ і велізарнымі зямельнымі ўладаннямі. Яны імкнуліся праводзіць і самастойную знешнюю палітыку. Імкненне магнатаў да самаўладства, іх адвечная апазіцыя манарху не была, як вядома, чымсьці выключным для феадальнай Еўропы. Спецыфікай гэтай сітуацыі ў федэратыўнай Рэчы Паспалітай двух народаў з'яўлялася сама наяўнасць ВКЛ як аднаго з дзяржаваўтваральных чыннікаў. Узаемаадносіны ВКЛ і Польскага каралеўства нельга назваць варожымі, але яны ніколі не былі бясхмарнымі, беспраблемнымі. Аб'ектыўны інтарэс захавання дзяржаўнай аўтаноміі ВКЛ у складзе агульнай Рэчы Паспалітай у залежнасці ад унутранай і знешняй сітуацыі

---

[1] *Королюк В.Д.* Избрание Августа на польский престол и русская дипломатия // Ученые записки Института славяноведения. М., 1951. Т. 4. С. 176.

[2] Шляхта, залежная ад пэўнага магната.

заўсёды мог быць персаніфікаваны прадстаўнікамі знакамітых і багацейшых родаў.



Вялікі гетман Казімір Ян Сапега

Пры Яне III Сабескім у 80-я гг. XVII ст. нечувалай магутнасці ў ВКЛ дасягнуў род Сапегаў на чале з вялікім гетманам Казімірам і вялікім падскарбіем Бенядзіктам. Спачатку Сапегі ўзвышаліся Янам III як бы ў супрацьвагу самаўладства Пацаў, але хутка самі ператварыліся для каралеўскага двара ў велізарнейшую праблему. Сапегі кантралявалі два галоўныя чыннікі дзяржаўнасці і незалежнасці ВКЛ, якія атаясамілі з уласнай незалежнасцю, – войска і фінансы. У значнай ступені гэта дазваляла ім праводзіць і самастойную знешнюю палітыку на ўзроўні напаўафіцыйных кантактаў пры дварах Дрэздэна, Парыжа, Вены, Берліна і інш.

Яскравым сведчаннем глыбіні палітычнага супрацьстаяння ў ВКЛ напярэдадні грамадзянскай вайны паміж прыхільнікамі Сапегаў і так званымі "рэспубліканцамі", якія выступалі ў абарону "залатых вольнасцей", стаў канфлікт паміж гетманам К.Сапегам і віленскім біскупам К.Бжастоўскім. Сапегі настолькі ўзвысіліся, што адчувалі сябе непадуладнымі нават каталіцкай царкве ў асобе яе першага іерарха ў ВКЛ. У сярэдзіне красавіка 1694 г. віленскі біскуп К.Бжастоўскі ў кафедральным касцёле абвясціў пракляцце гетману К.Сапегу і фактычна адлучыў яго ад касцёла разам з бліжэйшымі паплечнікамі. Непасрэдным матывам такога суровага рашэння біскупа сталі пастаянныя злоўжыванні гетманскага войска, размешчанага на пастой ва ўладаннях Віленскай дыяцэзіі[1], акты гвалту ў дачыненні да святароў, закрыццё касцёла і г.д. Пры гэтым біскуп Бжастоўскі яшчэ раней быў у непрыязных адносінах з гетманам Сапегам. Біскупа падахочвала да канфлікту каралева Марыя Казіміра, француженка, якая непрыхільна ставілася да Сапегі за яго сувязі з Венскім дваром (Францыя ў той час была ў варожых адносінах з Аўстрыяй).

Прыхільнікі Сапегі на чале з самім гетманам "занеслі пратэстацыю" ў Галоўны (Духоўны) Трыбунал на К.Бжастоўскага, абвінавачваючы яго ў пакрыўджанні гонару Сапегі, выказваючы падазрэнне ў законнасці атрымання К.Бжастоўскім Віленскага біскупства. Пры гэтым К.Сапега звяртаў асаблівую ўвагу суддзяў Галоўнага (Духоўнага) Трыбунала на крыўды, нанесеныя самім біскупам, на той факт, што біскуп пайшоў на канфлікт падчас "саюза хрысціянскіх дзяржаў і аб'яднання ўсіх сіл супраць Турцыі, як бы яўна святое адзінства і саюз дзяржаў хочучы парушыць па навучанню супраціўнай французскай партыі"[2].

[1] Дыяцэзія – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў каталіцкай царкве. Адпавядае епархіі.

[2] НГАБ, ф. 694, воп. 12, спр. 86, с. 290–291.

Вялікае княства Літоўскае ў XVII ст.

У “касцёльную вайну “ К.Сапегі і К.Бжастоўскага былі ўцягнуты кароль Ян III Сабескі, прымас Радзіеўскі (які, дарэчы, зняў праклятце з Сапегі), папскі нунцый у Варшаве. Урэшце пры пасрэдніцтве ўжо новага караля Аўгуста II і Ватыкана толькі ў 1697 г. адбылося канчатковае фармальнае прымірэнне варагуючых бакоў.

Палітыка Яна III, накіраваная на абмежаванне ўплыву аднаго магнацкага роду ў ВКЛ праз узвелічэнне іншага ў асобе Сапегаў, пацярпела крах. Тады, у канцы 80-х гг. XVII ст., не без дапамогі каралевы Марыі Казіміры было вырашана паспрабаваць абмежаваць уплывы Сапегаў – праз супрацьпастаўленне ім выступлення ўсяго шляхецкага саслоўя ў абарону “залатых шляхецкіх вольнасцей”. Каралеўскі двор быў не задаволены супраціўленнем К.Сапегі спробам заўчасна, яшчэ пры жыцці Яна III Сабескага, прызвычаіць грамадства да думкі аб тым, што пераемнікам трона стане старэйшы сын караля Якуб. Немалаважным момантам у напружаных узаемаадносінах

з Сапегамі была спрэчка з-за распараджэння і апякунства над багацейшымі ўладаннямі дачкі канюшага ВКЛ Б.Радзівіла, з якой не адбыўся запланаваны шлюб таго ж каралевіча Якуба. Вельмі незадаволены Сапегамі яшчэ на сейме 1688–1689 гг. Ян III праз сваіх прыхільнікаў узбудзіў справу супраць непадуладных "каролікаў Літвы" з абвінавачваннем у змове супраць караля, грабежніцтве літоўскага войска на пастоях, дамагаючыся суда над вялікім гетманам і абмежавання яго ўлады. Так, задоўга да прамога ўзброенага канфлікту, менавіта з Варшавы пачыналася антысапегаўская кампанія.

Канкрэтнае ўвасабленне яна знайшла ў праграме так званай "каэквацыі" – ураўнаванні правоў польскай і літвінскай шляхты. Увогуле праблема ўраўнавання ў правах, асабліва судовых і адміністрацыйных, была актуальная на працягу 60–90-х гг. XVII ст.[1] Яе сутнасць зводзілася да абмежавання вяршынства магнатаў пры заняцці вышэйшых пасад у ВКЛ і ўстанаўлення кантролю над іх выкананнем з боку шляхецкага саслоўя. Праграма прыняцця і рэалізацыі "каэквацыі правоў" стала фармальным сцягам усяго антысапегаўскага руху ў ВКЛ з 1696 по 1700 г. Яе падтрымаў пасля смерці Яна III Сабескага прэтэндэнт на трон саксонскі курфюрат Аўгуст Фрыдрых, будучы кароль і вялікі князь Аўгуст II. Менавіта для таго, каб павялічыць колькасць сваіх прыхільнікаў пры абранні, ён згадзіўся на ўключэнне гэтага патрабавання ў "пакт канвента"[2]. Праблема ўраўнавання ў правах зводзілася галоўным чынам да таго, каб, па-першае, збор падаткаў на войска ВКЛ не аддаваўся "на рукі" падскарбія (Б.Сапегі), але "згодна са звычаем польскім" кантраляваўся спецыяльна абранымі на павятовых сейміках "паборцамі" (збіральнікамі). Па-другое, антысапегаўская апазіцыя настойвала на тым, каб вялікі гетман за адпаведныя парушэнні прыцягваўся да судовай адказнасці. Па-трэцяе, шляхецкія "рэспубліканцы" выступалі за скасаванне звычаю, згодна з якім у ВКЛ ніводзін дэкрэт Галоўнага Трыбунала не выконваўся, пакуль яго не зацвердзіў сваёй пячаткай і подпісам канцлер.

Праграма ўраўнавання ў правах літвінскай і польскай шляхты, прынятая на элекцыйным сейме 19 чэрвеня 1697 г., фактычна звялася да абмежавання ўлады вялікага гетмана і падскарбія ВКЛ Казіміра і Бенядзікта Сапегаў, перадачы кантролю над войскам і скарбам "у рукі шляхты". Менавіта складанай часткай "каэквацыі" стаў пераход у вядзенні справаводства ў дзяржаўных установах ВКЛ, перш за ўсё судовых, з беларускай на польскую мову. Пры гэтым спецыяльна агаворвалася, што "каэквацыя правоў Княства Літоўскага з Каронай Польскай не зруйнавала ... усіх даўнейшых правоў Княству Літоўскаму служачых..."[3]

Прыняццю гэтага рашэння папярэднічала стварэнне 17 кастрычніка 1696 г. Берасцейскай вайсковай канфедэрацыі часткі рэгулярнага войска і антысапегаўскага шляхецкага руху на чале з Рыгорам Агінскім, харужым ВКЛ. Канфедэраты ў колькасці да 4 тыс. чалавек сканцэнтраваліся пад Берасцем. Гетман Сапега з адданымі яму войскамі, сабранымі пад Гародняй, узяў Берасце ў аблогу. Падчас яе вызначыўся актыўнымі дзеяннямі ў выглядзе частых вылазак з горада адзін з лідэраў антысапегаўскай апазіцыі падканцлер берасцейскі Людвік Пацей. Голад, а таксама пагрозы К.Сапегі апублікаваць дакументы, якія сведчылі аб подкупе Р.Агінскага каралевай-удавой Марыяй Казімірай з мэтаю распачацця канфедэрацкага руху, вымусілі праціўнікаў Сапегаў капітуляваць.

---

[1] Архив, издаваемый Виленской археографической комиссией. Вильно, 1870. Т. 4. С. 54, 56, 140.

[2] *Королюк В.Д.* Избрание Августа на польский престол и русская дипломатия // Ученые записки Института славяноведения. Т.4. С. 188.

[3] Там жа.

Абвяшчэнне Берасцейскай вайковай канфедэрацыі, вайсковыя сутычкі пад Берасцем можна лічыць пачаткам адкрытай грамадзянскай вайны на тэрыторыі ВКЛ, якая то ўспыхвала, то затухала, але ўжо фактычна не спынялася да 1704 г. Фактычна літвінская шляхта падзялілася на дзве часткі. Большая, на чале з Р.Агінскім, Л.Пацеем, М.Коцелам, а потым Радзівілам і Вішнявецкімі, згуртавалася пад сцягам абароны "залатых шляхецкіх вольнасцей", ураўнавання ў правах (каэквацыі) з польскай шляхтай. Меншая, у асноўным сапегаўская кліентэла, але пры вырашальнай падтрымцы рэгулярнага гетманскага войска ВКЛ, засталася пры Сапегах. І ў першым, і ў другім выпадку літвінская шляхта выкарыстоўвалася сапернічаючымі бакамі ў сваіх магнацкіх інтарэсах.

**Знешнепалітычныя ініцыятывы антысапегаўскай апазіцыі**. Элекцыя новага караля і вялікага князя Аўгуста II выявіла паказальную тэндэнцыю ў паводзінах як Сапегаў, так і іх апанентаў. Абодва бакі імкнуліся выкарыстаць сітуацыю для ўзмацнення сваіх пазіцый шляхам правядзення на трон "свайго" кандыдата. Сапегі спачатку падтрымлівалі кандыдатуру кіруючай французскай дынастыі – герцага дэ Канці, лідэры "рэспубліканцаў" у рэшце рэшт схіліліся да падтрымкі саксонскага электара Аўгуста Фрыдрыха. Падтрымліваючы кандыдатуру Аўгуста, літвінскія "рэспубліканцы" падчас элекцыйнага сейма (чэрвень 1697 г.) усё больш звязвалі гэта з неабходнасцю барацьбы з Сапегамі і адкрыта сімпатызавалі Расіі, якая таксама была не зацікаўлена ў перамозе французскага кандыдата. Лідэры "рэспубліканцаў" адкрыта патрабавалі ад прымаса Радзіеўскага, які быў "канцістам", абнародаваць пасланне (грамату) Масквы, з недвухсэнсоўнай пагрозаю вайны Рэчы Паспалітай, накіраваную супраць дэ Канці. У праціўным выпадку Р.Агінскі і яго бліжэйшыя паплечнікі пагражалі Радзіеўскаму пакінуць у знак пратэсту сейм. Гэта было нішто іншае як пагроза разрыву Уніі з Польшчаю (на фоне барацьбы за ўраўнаванне ў правах з польскай шляхтай), выказванне адкрытых сімпатый да маладога расійскага цара Пятра І.

Не выключана, што ў гэты час лідэры антысапегаўскай апазіцыі мелі ці шукалі кантактаў з Масквою. Цана іх была вельмі высокай для абодвух бакоў. Пра гэта сведчыць заява рускіх дыпламатаў з "вялікага пасольства" Пятра І шведскаму пасланніку ў Галандыі восенню 1697 г. пра тое, што можна "пры цяперашніх непарадках у Каралеўстве Польскім і Княстве Літоўскім без усялякай страты войскаў сваіх вялікі прыбытак сабе атрымаць і Вялікае княства Літоўскае пад сваё ўладанне прывесці"[1].

Не менш паказальнай у гэтых адносінах была і місія спецыяльнага пасланніка Аўгуста II Яна Станіслава Бакея (Бокія) у Маскву (лістапад 1697 г. – пачатак 1698 г.). Я.Бакей перад гэтым перадаў загад Пятра І баярыну М.Рамаданоўскаму выступіць на дапамогу Аўгусту II са сваім 60-тысячным корпусам. Але сітуацыя хутка змянілася: "канцісты" ў Рэчы Паспалітай пацярпелі паражэнне, герцаг дэ Канці вымушаны быў вярнуцца ў Францыю і неабходнасць у ваеннай дапамозе з боку Расіі адпала сама сабою. Разам з тым аказалася, што Я.Бакей быў не проста каралеўскім пасланнікам, а адначасова і эмісарам літвінскіх "рэспубліканцаў". Магчыма, місія Я.Бакея ў Маскву была непасрэдна звязана з канчатковым фарміраваннем у ВКЛ у канцы 1697 г. ужо не вайсковай канфедэрацыі па ўзору Берасцейскай, а шырокага шляхецкага антысапегаўскага руху. Ён, маючы дадатковыя інструкцыі, звярнуўся да царскага ўрада з просьбай накіраваць у ВКЛ асобныя вайсковыя часці ў колькасці 10 тыс. чалавек з боку Смаленска для разгрому ўладанняў Сапегаў[2]. Так узнік прэцэдэнт запрашэння войскаў Маскоўскай

---

[1] *Королюк В.Д.* Избрание Августа на польский престол и русская дипломатия // Ученые записки Института славяноведения. Т.4. С. 195.

[2] Там жа. С. 212.

дзяржавы для расправы са сваімі ворагамі з боку антысапегаўскай апазіцыі. Ён меў далёкасяжныя вынікі.

Пошукі знешняй дапамогі ў вынішчэнні сапегаўскіх уладанняў як пастаяннай базы папаўнення іх сіл паказвалі, што лідэры "рэспубліканцаў" рыхтаваліся прыступіць да захопу іх маёнткаў.



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аўгуст II Моцны

**Ашмянскі з'езд 1698 г. і пазіцыя Аўгуста II**. У пачатку 1698 г. адбыўся з'езд антысапегаўскай апазіцыі пад Ашмянамі, дзе была ўдакладнена яе палітычная праграма, прад'яўленая Аўгусту II ад імя шляхецкай канфедэрацыі ў абарону караля супраць Сапегаў і "канцістаў". Лідэры "рэспубліканцаў" лічылі дасягнутае на той час прымірэнне караля з Сапегамі тактычным крокам з боку апошніх і не верылі ў іх адмову ад сваіх амбіцый. Ашмянскі з'езд часткі літвінскай шляхты пастанавіў дабівацца рэальнага ажыццяўлення "каэквацыі правоў" ажно "да горла" і спадзяваўся ў гэтым на падтрымку караля. Акрамя "каэквацыі правоў" антысапегаўская апазіцыя настойвала на скліканні так званага "коннага сейма", імкнучыся такім чынам забяспечыць удзел у ім максімальнай колькасці сваіх узброеных прыхільнікаў. У дачыненні да ўпартых прыхільнікаў сапегаўскага дому прадугледжвалася дабіцца дазволу на ўжыванне крайняй рэпрэсіўнай меры – пазбаўлення гонару і канфіскацыі іх маёмасці ў скарб Рэчы Паспалітай. "Рэспубліканцы" таксама патрабавалі, каб Сапегі былі аддадзены пад сеймавы суд, а да яго рашэння адхілены ад камандавання войскам і распараджэння фінансамі ВКЛ[1].

Аўгуст II, не выказваючы яўнай падтрымкі ні аднаму з варагуючых бакоў, спыніўся ў гэты перыяд на тактыцы лавіравання і пасрэдніцтва паміж імі. Ён бачыў на мэце перш за ўсё рэалізацыю свайго галоўнага інтарэсу ў Рэчы Паспалітай – ператварэнне яе ў "absolutum dominium" на чале з абсалютным манархам. Ён хацеў захаваць пры сабе немалаважны "літвінскі козыр" у барацьбе за дасягненне гэтай мэты, і перш за ўсё мець нагоду ўвядзення і ўтрымання ў ВКЛ саксонскага войска. З аднаго боку – нібыта для суцішэння канфлікту, а на самай справе – для абсалютысцкага дзяржаўнага перавароту з утварэннем у ВКЛ плацдарма "absolutum dominium" і распаўсюджання яго на ўсю Рэч Паспалітую.

Прымірэнне Сапегаў з Аўгустам II пасля каранацыі сапраўды было часовым і насіла кан'юнктурны характар з абодвух бакоў. Палітычная праграма сапегаўскага дому была несумяшчальнай з планамі караля. Сапегі, а найперш Бенядзікт, падскарбій ВКЛ, фактычна ідэолаг сапегаўскага дому, нездарма празваны "літоўскім Макіявелі", разумелі, што іх вяршынства ў ВКЛ

---

[1] *Королюк В.Д.* Речь Посполитая и подготовка Северной войны // Ученые записки Института славяноведения. М., 1951. Т. 4. С. 192.

немагчымае без максімальнага дыстанцыравання ад Польшчы. Яны аб'ектыўна станавіліся прадстаўнікамі адвечнай ідэі незалежнасці ВКЛ.

Разумеючы, што без знешняй падтрымкі рэалізаваць гэту задачу будзе немагчыма, Сапегі імкнуліся заручыцца такой падтрымкай у Вене і Берліне. Заахвочаныя сеймавай Канстытуцыяй 1673 г., якая пераносіла кожны трэці сейм у Гародню, Сапегі марылі пра тое, каб і кожная трэцяя элекцыя караля і вялікага князя адбывалася з прадстаўнікоў ВКЛ. Нічога дзіўнага не было ў тым, што Сапегі, і ў першую чаргу вялікі гетман Казімір Сапега, бачылі менавіта сябе на каралеўскім і велікакняжацкім троне Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на мізэрныя шансы рэалізацыі такога варыянта, асоба К.Сапегі разглядалася яго прыхільнікамі як магчымая кандыдатура для ўзыходжання на трон пасля смерці Яна III Сабескага. Аднак рэалізацыя палітычнай праграмы Сапегаў супярэчыла планам Аўгуста II. Вельмі хутка гэта прымусіла яго канчаткова вызначыцца з падтрымкай антысапегаўскага руху ў ВКЛ.

**Актывізацыя ўзброенай барацьбы**. Пасля Ашмянскага з'езда антысапегаўскай шляхты і нерашучай пакуль што пазіцыі Аўгуста II войскі Р.Агінскага працягвалі нападаць на прыхільнікаў гетмана, рабаваць іх уладанні і нават "пагражаць самому Аўгусту II"[1]. Зацятасць змагання сапежанцаў і "рэспубліканцаў" у ВКЛ адзначыў у сваім "Дзенніку паездкі ў Маскоўскую дзяржаву Ігнація Хрыстафора Гварыента, пасла імператара Леапольда I да цара і вялікага князя Маскоўскага Пятра I у 1698 г." сакратар гэтага пасольства Іаган Георг Корб. Праязджаючы праз Барысаў у сакавіку 1698 г., ён заўважыў: "Жыхары гэтага горада жорстка пакутавалі як ад адной, так і ад другой партыі, раздзіраўшых у той час краіну. То сапегаўцы, то прыхільнікі Агінскіх бязлітасна рабавалі барысаўцаў. Справа не спынялася на рабаванні: тыя, якія не давалі грошай альбо супраціўляліся рабаўнікам, забіваліся, а шмат каго прыбівалі за языкі да сцен"[2].

Вясной 1698 г. Р.Агінскі сабраў да 6 тыс. войска і мясцовай шляхты і спрабаваў весці актыўныя баявыя дзеянні з Сапегамі ў Жамойці. Але 2 красавіка, пераправіўшыся праз р.Дубісу і рушыўшы пад Коўна, ён не здолеў перамагчы. Акружаны паміж Нёманам і Невяжай рэгулярным войскам ВКЛ пад камандаваннем стольніка Ежы Сапегі, у складзе якога былі і польскія аддзелы, прысланыя на дапамогу Сапегам каронным гетманам Ябланоўскім, Агінскі вымушаны быў распусціць амаль без бою сваё войска, пакінуць праціўніку зброю, харугвы і прыпасы[3].

У чэрвені 1698 г. жамойцкі сеймік у Расенях абраў Р.Агінскага старостам жамойцкім, што павышала статус лідэра антысапегаўскай партыі ў вачах яе прыхільнікаў. Сапегі паспрабавалі аспрэчыць перад Аўгустам II правамоцтва такога абрання пры адсутнасці адпаведных каралеўскіх універсалаў на самавольна скліканым сейміку. Гэта і ваганні Аўгуста II выклікалі надзвычай рэзкі пратэст паслоў ад Жамойцкага староства, якія з'явіліся да караля за зацвярджэннем свайго выбару. Паслы, у ліку якіх быў і Р.Агінскі, заявілі, што "калі яго каралеўская міласць аўдыенцыі ім не дасць і элекцыі іх на тое староства не пацвердзіць, то яны будуць шукаць сабе іншай пратэкцыі ... ле-

---

[1] *Королюк В.Д.* Речь Посполитая и подготовка Северной войны // Ученые записки Института славяноведения. Т.4. С. 193.

[2] Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете (октябрь–декабрь, 1866, кн. IV). М., 1866. С. 30.

[3] НГАБ, ф. 695, воп. 12, спр. 261, а. 21,21аб.

пей ім быць пад самадзяржаўным манархам, чым пад ім (гетманам Сапегам), панком сваім, братам"[1].

Такім чынам, лідэры антысапегаўскай апазіцыі ўжо другі раз на працягу 1697–1698 гг. пагражалі Аўгусту II разрывам уніі, як бы запрашаючы адначасова манарха да пераходу на свой бок. Аўгуст II паабяцаў Р.Агінскаму пацвердзіць яго абранне жамойцкім старостам і хутка, хаця і без вялікай ахвоты, сваё абяцанне выканаў.

У ліпені 1698 г. у Варшаве былі распачаты перагаворы паміж варагуючымі бакамі пры пасрэдніцтве Аўгуста II. Яны завяршыліся падпісаннем "Умовы згоды ў Вялікім княстве Літоўскім у імя Найсвяцейшай Тройцы" ад 16 ліпеня 1698 г. Сапегам прыйшлося пайсці на саступкі сваім апанентам і афіцыйна прызнаць "каэквацыю" польскіх і літоўскіх правоў. Фармальнае прымірэнне замацаваў сваім подпісам Аўгуст II, які ў адказ на паведамленне расійскага пасла ў Варшаве "всех премудро успокоил раздачею честей и порозших мест сенаторских и урядничьих обеей стороны, и тем всех удовольствовать изволил"[2]. Абодва бакі нібыта даравалі ўзаемна па-хрысціянску "свае асабістыя крыўды, раз'юшанасць, пагрозы, помсты". Паспалітае рушанне "рэспубліканцаў" супраць Сапегаў павінна было быць распушчана па дамах. Казіміру і Бенядзікту Сапегам у выпадку іх добраахвотнага адступлення ад пасад (аб чым яны, зразумела, і не думалі) прадугледжвалася выплата гадавой пенсіі ў размеры 100 тыс. злотых[3].

Аднак гэта згода была нетрывалай – інтарэсы абодвух бакоў занадта разыходзіліся. Ужо праз тыдзень пасля яе падпісання, 22 ліпеня 1698 г. Р.Агінскі зной стаў на чале сваіх жаўнераў і шляхты, быў разбіты Сапегамі ў бітве пад Юрборкам і мусіў хавацца ў Прусіі. З абодвух бакоў загінула некалькі соцень чалавек.

У жніўні 1698 г. адбылася сустрэча Аўгуста II і Пятра I у Раве Рускай. Манархі не абмежаваліся толькі абмеркаваннем будучых сумесных дзеянняў супраць Швецыі. Цалкам верагодна, што на раўскай сустрэчы ўмяшальніцтва Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай было выстаўлена саксонскім курфюрствам (менавіта толькі ў такім выглядзе мог весці Аўгуст II перагаворы) у якасці асноўнай умовы яе ўдзелу ў барацьбе са шведамі[4]. Гэта ўмяшальніцтва Расіі праявілася праз некалькі гадоў і паўплывала на заключны этап грамадзянскай вайны ў ВКЛ.



Бойка шляхты. Фрагмент так званага "Стакгольмскага рулона". XVII ст.

[1] *Королюк В.Д.* Речь Посполитая и подготовка Северной войны // Ученые записки Института славяноведения. Т.4. С. 197.

[2] Там жа.

[3] НГАБ, ф. 694, воп. 12; спр. 261, арк. 1.

[4] *Королюк В.Д.* Речь Посполитая и подготовка Северной войны // Ученые записки Института славяноведения. Т.4. С. 210.

Змаганне з Сапегамі ў ВКЛ тым часам прадоўжыў віцебскі кашталян Міхал Коцел. Згодна з Віленскай пастановай з'езда антысапегаўскай шляхты ад 14 жніўня 1698 г., "генеральным палкоўнікам" ВКЛ было абвешчана скліканнне пад Гародняй феадальнага апалчэння – паспалітага рушання для абароны сваіх правоў, свабоды і "каэквацыі" з Каронай. З 15 кастрычніка 1698 г. там, паміж Лаўна і Пузавічамі, сабралася каля 15 тыс. шляхты. Адным з галоўных патрабаванняў "рэспубліканцаў", якія прастаялі тут узброеным абозам больш за два месяцы, было безумоўнае скарачэнне войска ВКЛ, якое ўзначальваў вялікі гетман. К.Сапега абвінавачваўся ў парушэнні папярэдняй дамовы аб скарачэнні войска і неразмяшчэнні яго на пастой у шляхецкіх маёнтках. Рашучасць шляхты выяўлялася ў абвяшчэнні "паказаць пасля сябе нашчадкам нашым, як абараняем вольнасці, свабоды, правы свае..., выбіраючы хутчэй смерць пачцівую, чым згоду з непрыяцелем, які намагаецца зрабіць замах на вольнасць"[1].

Пад Гародню Аўгуст II накіраваў частку свайго саксонскага войска на чале з генералам Флемінгам. Фармальна Флемінг павінен быў не дапусціць узброенага канфлікту паміж абодвума бакамі. На самай справе ён амаль адразу ж, не без папярэдняй згоды Аўгуста II, пачынае спрыяць антысапегаўцам. К.Сапегу было заяўлена, што саксонцы не дапусцяць разгрому паспалітага рушання і будуць на баку лідэра шляхты – М.Коцела. Аўгуст II разлічваў пры гэтым дасягнуць сваіх уласных мэт: скарыстаць грамадзянскую вайну ў ВКЛ для размяшчэння там саксонскага войска і, магчыма, калі сітуацыя будзе спрыяльнай, ажыццявіць дзяржаўны пераварот, устанавіць абсалютнае панаванне спачатку ў ВКЛ, а потым і ў Польшчы. У размяшчэнні саксонскага войка ў ВКЛ была зацікаўлена антысапегаўская шляхта. Да Аўгуста II яшчэ летам 1698 г. была накіравана спецыяльная місія (К.Белазора) для вырашэння гэтага пытання.

Сітуацыя сапраўды была на мяжы выбуху. Абодва бакі неаднаразова ўступалі ва ўзброеныя сутыкненні. У рэшце рэшт К.Сапега, у якога было не больш за 8 тыс. войска, вымушаны быў улічыць перавагу аб'яднаных "рэспубліканскіх" і саксонскіх сіл, пагадзіцца на падпісанне прымірэнчай пастановы, што было здзейснена 22 снежня 1698 г. Паводле яе рэгулярнае войска ВКЛ павінна было значна скараціцца. Распушчаны былі так званыя "звышкампутовыя" харугвы, у асноўным кавалерыйскія. Пацверджана было права шляхты абараняць свае інтарэсы праз паспалітае рушанне. Прадугледжваліся пакаранні для тых, хто на яго не з'явіўся[2]. Сапегаўскім воінам, якія б падпарадкаваліся пастанове аб скарачэнні войска, абвяшчалася амністыя, за выключэннем крымінальных злачынстваў.

**Бітва пад Алькенікамі і паражэнне Сапегаў**. Згода прыхільнікаў Сапегаў на ўмовы Гародзенскай пастановы насіла кан'юнктурны характар. К.Сапега прымушаны быў сам скарыцца сіле. Тым не менш крыху пазней, 4 студзеня 1699 г. ён выказаў рашучы пратэст супраць гэтай пастановы на развітальнай аўдыенцыі з каралём у Гародні. Яшчэ больш выразна гэты пратэст прагучаў у выдадзеным 16 лютага 1699 г. "Маніфесце" супраць згаданай пастановы.

Няўдачай скончылася спроба прымірыць варагуючыя бакі на "пацыфікацыйным" сейме ў 1699 г. Тым часам антысапегаўскі фронт у ВКЛ па-

---

[1] Акты Виленской археографической комиссии (далей – АВАК). Вильна, 1870. Т. IV. С. 276.

[2] Там жа. С. 283

шыраўся. У пачатку 1700 г. да яго далучыліся браты Міхал і Януш Вішнявецкія, а таксама падканцлер ВКЛ Міхал Казімір Радзівіл.

Праціўнікі Сапегаў імкнуліся да ўзброенай расправы над імі. Для гэтага былі выкарыстаны пагроза ВКЛ з боку Швецыі і выданне Аўгустам II засцерагальных папярэджанняў аб скліканні паспалітага рушання. М.Вішнявецкі і М.Коцел імкнуліся накіраваць яго не супраць шведаў, а супраць Сапегаў. Спробы гетмана не дапусціць аб'яднання сваіх праціўнікаў поспеху не прынеслі, хаця ім былі выдадзены універсалы аб незаконнасці збору шляхты на паспалітае рушанне па паветах. У гэтых умовах К.Сапега спрабаваў склікаць "сваё" паспалітае рушанне і сваіх прыхільнікаў пад Вільню. Ваенная сутычка 14 кастрычніка 1700 г. часткі сапегаўскага войска пад камандаваннем брата гетмана Бенядзікта Сапегі з ашмянскай шляхтай, якая збіралася на рушанне, толькі на час адцягнула яго фарміраванне.

Пераломным момантам грамадзянскай вайны ў ВКЛ стала Алькеніцкая бітва, якая адбылася 18 лістапада 1700 г. У ёй з абодвух бакоў прыняло ўдзел да 10–12 тыс. чалавек. Колькасная перавага была на баку антысапегаўцаў на чале з М.Вішнявецкім і Р.Агінскім, што і вырашыла зыход бітвы. Сілы Сапегаў былі разгромлены.

Вайсковая перамога "рэспубліканцаў"была замацавана ў так званых алькеніцкіх пастановах утворанай там канфедэрацыі і падпісаных 24 лістапада 1700 г. у Алькеніках. Згодна з імі Сапегі пазбаўляліся ўсіх сваіх пасадаў, уладанняў і абвяшчаліся "ворагамі бацькаўшчыны", караліся выгнаннем за яе межы. Адначасова шляхта прызнала за лідэрамі антысапегаўскага руху Р.Агінскім і М.Коцелам права накладання на працягу двух гадоў падаткаў у ВКЛ, а таксама права распараджэння прыбыткамі з сапегаўскіх уладанняў. З іх жа была вызначана і кампенсацыя сем'ям забітых і параненых пад Алькенікамі.

На мяжы 1700–1701 гг. "рэспубліканцы" прынялі яшчэ адзін дакумент, які фактычна змяніў праграму антысапегаўскага руху. Гэтым дакументам, падпісаным усімі лідэрамі змагання з Сапегамі, стала так званая "Віленская пастанова". У ёй абвяшчалася ўвядзенне ў ВКЛ спадчыннай абсалютнай манархіі на чале з вялікім князем Аўгустам II. "Залатыя шляхецкія вольнасці", якія дасталіся літвінам "у пасаг ад палякаў", называліся "нікчэмнымі", скасоўваліся назаўжды. Тым самым рэалізоўвалася праграма Аўгуста II аб дзяржаўным перавароце ў ВКЛ і ўстанаўленні "absolutum dominium". Аднак у дзеянне гэта пастанова ўведзена так і не была , а яе аўтары (у тым ліку і Аўгуст II) вымушаны былі ад яе публічна адмовіцца. Гэта было звязана з тым, што змянілася міжнародная сітуацыя. Пасля паражэння расійскага войска пад Нарвай на першы план выйшла пагроза з боку Швецыі. Аўгуст II страціў знешнюю падтрымку, абяцаную яму Пятром І, і быў вымушаны часова адмовіцца ад сваіх абсалютысцкіх планаў.

Адметным момантам грамадзянскай вайны 1696–1700 г. на завяршальным яе этапе стала спроба Сапегаў на фоне ўсё большага адыходу шляхты ў стан іх праціўнікаў выкарыстаць у сваіх інтарэсах беларускае сялянства. Летам 1701 г. узбунтаваліся сяляне ў дубровенскіх уладаннях Сапегаў пад Віцебскам, не дапускаючы перадачы іх, згодна з алькеніцкімі пастановамі, Л.Пацею, кашталяну віцебскаму. 26 ліпеня таго ж года пад Дуброўна адбылася сапраўдная бітва з удзелам дубровенскіх сялян і мяшчан колькасцю 4 тыс. чалавек і атрадамі рэгулярнага войска пад камандаваннем Л.Пацея. Падчас гэтай бітвы, паводле некаторых звестак, загінула больш чым тысяча

мясцовых сялян[1]. Спрабавалі выкарыстаць мясцовае сялянства прыхільнікі Сапегаў і пры абароне Старога Быхава ў 1701–1702 гг.

Падзеі, звязаныя з грамадзянскай вайной у ВКЛ, не абмяжоўваюцца 1700 г. Паўночная вайна на беларуска-літоўскіх землях стала своеасаблівым працягам гэтага канфлікту, як бы другім яе этапам у 1702–1709 гг. Сапегі і іх прыхільнікі перайшлі на бок шведаў і змагаліся з імі за свае інтарэсы, а "рэспубліканцы" спачатку ў ВКЛ, а потым і ў Польскім каралеўстве імкнуліся дасягнуць сваіх мэт у саюзе з Расіяй.

## 4. Беларусь ў Паўночнай вайне і паглыбленне палітычнага крызісу ў першай палове XVIII ст.

**Перадумовы Паўночнай вайны і яе пачатак**. Пачатак XVIII ст. для Беларусі быў звязаны з падзеямі Паўночнай вайны (1700–1721 гг.). Яна вялася кааліцыяй еўрапейскіх дзяржаў – Расіяй, Саксоніяй, Даніяй (так званы Паўночны саюз) супраць Швецыі. У розныя гады ў вайне са Швецыяй прымалі ўдзел іншыя еўрапейскія краіны – Рэч Паспалітая з 1704 г., Прусія і Ганове з 1715 г. У ходзе вайны Расія імкнулася забяспечыць сабе выхад да Балтыйскага мора, прэтэндуючы на тэрыторыі Карэліі і Інгрыі. У планах Даніі было вярнуць пад свой кантроль Гальштынію. Аўгуст II разлічваў далучыць да сваіх уладанняў Эстляндыю і Ліфляндыю і тым самым умацаваць сваё становішча ў Рэчы Паспалітай, каралём якой ён быў абраны ў 1697 г.

Першымі ваенныя дзеянні пачалі Саксонія і Данія. У пачатку 1700 г. саксонскія войскі ўвайшлі ў Ліфляндыю і пачалі аблогу Рыгі. У сакавіку гэтага ж года дацкія войскі разгарнулі наступленне на тэрыторыі Гальштыніі, саюзніка Швецыі. У значнай ступені ўдзельнікі антышведскай кааліцыі разлічвалі скарыстаць фактар раптоўнасці. Пэўныя спадзяванні звязваліся з адсутнасцю ваеннага і палітычнага вопыту ў маладога шведскага караля Карла XII, якому было ўсяго 18 гадоў.

Аднак разлікі саюзнікаў не спраўдзіліся. Ужо ў чэрвені 1700 г. Карл XII высадзіў дэсант каля Капенгагена і прымусіў дацкага караля падпісаць капітуляцыю. 30 лістапада 1700 г. у бітве пад Нарваю шведы разграмілі 35-тысячную расійскую армію. Пасля гэтага Карл XII выступіў супраць Аўгуста II, якога лічыў сваім асноўным праціўнікам, і ў бітве каля Рыгі 20 ліпеня 1701 г. перамог яго. У канцы 1701 г. шведскія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Рэчы Паспалітай, у маі 1702 г. занялі Варшаву. Затым шведы перамаглі саксонцаў у бітвах каля Клішава 19 ліпеня 1702 г. і Пултуска 2 мая 1703 г., аднак дасягнуць сваёй галоўнай на той час мэты – прымусіць Аўгуста II адмовіцца ад кароны Рэчы Паспалітай – Карлу XII так і не ўдалося. Вайна пачала прымаць зацяжны характар, што было небяспечна для шведаў.

**Абвастрэнне ўнутрыпалітычнага супрацьстаяння ў ВКЛ**. З пачаткам Паўночнай вайны значна пагоршылася ўнутрыпалітычнае становішча ў Вялікім княстве Літоўскім. На гэты час прыпадае абвастрэнне барацьбы за першынство паміж магнацкімі групоўкамі. Паражэнне прыхільнікаў Сапегаў у бітве каля Алькенікаў 18 лістапада 1700 г. не спрыяла міру ў ВКЛ. Для прадаўжэння барацьбы супраць канфедэратаў Сапегі пайшлі на стварэнне казацка-сялянскіх атрадаў, аснову якіх складалі сяляне з разрабаваных і спустошаных шляхтаю маёнткаў. У той жа час Сапегі змаглі схіліць на свой

---

[1] ПСРЛ. Т. 35: Летописи белорусско-литовские. Приложение I; Могилевская хроника. С. 252; НГАБ, ф. 694. воп. 1, спр. 148, арк. 152.

бок і частку казакаў наказнога гетмана Абідоўскага, якія раней знаходзіліся на службе ў расійскага цара Пятра І. Найбольш актыўныя баявыя дзеянні супраць шляхты гэтыя атрады вялі на ўсходзе Беларусі. У міжусобную барацьбу ўнутры ВКЛ умяшаліся краіны – удзельніцы Паўночнай вайны. Швецыя аказала падтрымку Сапегам, а расійскі ўрад знайшоў паразуменне з канфедэратамі.

Уступленне шведаў на тэрыторыю Рэчы Паспалітай значна пагоршыла адносіны Аўгуста II з тымі магнатамі і шляхтаю, якія з самага пачатку былі супраць вайны са Швецыяй. Апошнія ў пачатку 1704 г. абвясцілі стварэнне Варшаўскай канфедэрацыі і ўжо ў красавіку таго ж года пазбавілі Аўгуста II кароны. Пад націскам шведаў 12 ліпеня 1704 г. новым каралём Рэчы Паспалітай быў абраны пазнанскі ваявода Станіслаў Ляшчынскі. У сваю чаргу прыхільнікі Аўгуста II у маі 1704 г. аб'ядналіся ў Сандамірскую канфедэрацыю на чале з літоўскім лоўчым Станіславам Дэнгафам. Яны абвінавацілі шведскага караля ў парушэнні канстытуцыі краіны, рашуча асудзілі ўсе дзеянні варшаўскіх канфедэратаў, абвясцілі іх здраднікамі радзімы і заклікалі да ўзброенай барацьбы супраць Швецыі. Прытрымлівацца Сандамірскай канфедэрацыі і "да страты жыцця" адстойваць годнасць караля Аўгуста II вырашыла і "ўсё рыцарства як польскіх, так і чужаземных наёмных войскаў", якія падпарадкоўваліся новаму найвышэйшаму гетману ВКЛ Міхалу Вішнявецкаму.



Станіслаў Ляшчынскі. Паводле гравюры І.Стрэнглена

30 жніўня 1704 г. каля Нарвы прадстаўнікі Сандамірскай канфедэрацыі (хелмінскі ваявода Томаш Дзялынскі, падканцлер ВКЛ Станіслаў Шчука, мазырскі харунжы Аляксандр Пшаздзецкі) падпісалі з Расіяй саюзны трактат, паводле якога Рэч Паспалітая на чале з Аўгустам II уступала ў вайну супраць Швецыі, а расійскі ўрад браў абавязак аказаць шляхецкай рэспубліцы неабходную ваенную і фінансавую дапамогу. Ужо на другі дзень Пётр І загадаў накіраваць у Беларусь расійскія войскі.

**Баявыя дзеянні ў Беларусі.** У пачатку 1706 г. каля Гародні шведы блакіравалі і ледзь не знішчылі 60-тысячную расійскую армію фельдмаршала Г.Агільві. Толькі недахоп правіянту прымусіў Карла XII зняць блакаду і адвесці войскі ад горада ў раён м.Жалудок. Асобныя шведскія атрады пераходзілі на левы бераг Нёмана і рабілі глыбокія рэйды па тылах расійскай арміі, перашкаджаючы падвозу прадуктаў харчавання да Гародні. Гарады і маёнткі прыхільнікаў Аўгуста II мэтанакіравана разбураліся і спусташаліся. Найбольш пацярпелі ўладанні канцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла і князёў Вішнявецкіх. Былі спалены Карэлічы, Нягневічы, Мір, Свержань, Клецк. Шведы разрабавалі Наваградак і канчаткова разбурылі яго замак, са Слуцка спагналі значную кантрыбуцыю. Пасля кароткіх аблог захапілі і зруйнавалі Ляхавічы і Нясвіж. У красавіку 1706 г. у бітве каля Клецка шведы разграмілі 5-тысячны расійскі атрад Няплюева.

У канцы сакавіка 1706 г. расійская армія пакінула Гародню і, не ўступаючы ў сутычкі са шведамі, пачала адыходзіць да Берасця, а потым па поўначы

Украіны да Кіева. Каб адрэзаць шляхі адыходу Агільві, шведскі кароль з асноўнымі сіламі рушыў праз Палессе ў напрамку да Пінска. Аднак, нягледзячы на фарсіраваны марш, Карл XII не змог дагнаць расійскую армію.

Не здолеўшы знішчыць расійскую армію, Карл XII усе свае сілы накіраваў супраць Аўгуста II і прымусіў яго ў верасні 1706 г. заключыць мірны дагавор (падпісаны ў замку Альтранштат, недалёка ад Лейпцыга). Паводле яго ўмоў Аўгуст II адмаўляўся ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць Ст.Ляшчынскага, разрываў саюз з Расіяй і браў абавязак выплаціць шведам значную кантрыбуцыю.

Праз год, у 1708 г., на тэрыторыі Беларусі зноў разгарнуліся актыўныя баявыя дзеянні. Сюды былі сцягнуты асноўныя сілы расійскай арміі (каля 70 тыс. чалавек). З захаду ў Беларусь увайшлі шведскія войскі (амаль 35 тыс.). Яны занялі Гародню і пачалі прасоўвацца ў напрамку Ліда – Смаргонь – Вілейка – Менск. 14 ліпеня 1708 г. каля м.Галаўчын на Магілёўшчыне адбылася бітва, у якой шведы атрымалі апошнюю значную перамогу ў вайне з Расіяй. Агульныя страты расіян склалі больш за 1,7 тыс. чалавек. Шведы захапілі 10 гармат і вялікую колькасць баявых прыпасаў. Расійская армія адышла за Днепр і сканцэнтравалася ў раёне м.Горкі. 18 ліпеня 1708 г. шведы занялі Магілёў. Тут яны затрымаліся амаль на месяц. Шведскі кароль спадзяваўся сустрэць корпус Левенгаўпта, які рухаўся з Ліфляндыі з вялікім абозам, і тым самым значна папоўніць свае сілы перад будучым наступленнем. Аднак дарэмна змарнаваўшы час, Карл XII так і не дачакаўся падмацавання. 15 жніўня 1708 г. шведская армія пераправілася праз Днепр і рушыла на ўсход.

Недалёка ад Мсціслава адбыліся дзве бітвы паміж шведамі і расійскім войскам – 10 верасня 1708 г. каля в.Добрае і 20 верасня 1708 г. каля в.Раеўка. Яны не аказалі значнага ўплыву на агульны ход ваенных падзей, таму што на



Бітва пры Лясной. Фрагмент гравюры XVIII ст.

той момант расійскае камандаванне лічыла немэтазгодным уступаць са шведамі ў рашаючую бітву і працягвала адвод сваіх войскаў. 21 верасня 1708 г. шведская армія выйшла да межаў Расіі. Аднак для паспяховага наступлення далей у Карла XII не было дастаткова сіл. Шведскі кароль заручыўся падтрымкай украінскага гетмана І.Мазепы і ў канцы верасня павярнуў на Украіну. Услед за шведамі рушыла і расійская армія пад камандаваннем фельдмаршала Б.Шарамецьева.

На злучэнне з Карлам XII летам 1708 г. з Рыгі выступіў корпус Левенгаўпта. Ён уключаў 16 тыс. чалавек, 17 гармат і абоз у 7 тыс. павозак з боепрыпасамі і харчаваннем. У канцы верасня 1708 г. корпус прайшоў Чарэю і накіраваўся да Дняпра. Расійскае камандаванне вырашыла нанесці галоўны ўдар па войсках Левенгаўпта, каб не дапусціць яго злучэння з сіламі Карла XII. Гэта задача аблягчалася няўзгодненасцю дзеянняў саміх шведаў у крытычны для іх час. Калі Левенгаўпт меў вельмі цьмянае ўяўленне аб напрамку, у якім рухаўся яго кароль, дык апошні зусім нічога не ведаў адносна месцазнаходжання корпуса Левенгаўпта. Пасля таго як Карл XII павярнуў на Украіну, абедзве часткі шведскай арміі рухаліся паралельна адна другой на адлегласці 130–150 км. У той час калі шведскі кароль пераправіўся праз р.Сож ля Крычава (29 верасня) і рушыў на поўдзень, корпус Левенгаўпта падыходзіў да Дняпра каля Шклова.

Для нанясення ўдару па Левенгаўпту быў сфарміраваны спецыяльны рухомы корпус, які ўзначаліў асабіста Пётр І. У яго склад былі ўключаны лепшыя сілы расійскай арміі, у тым ліку Сямёнаўскі і Праабражэнскі палкі, усяго 12 тыс. чалавек (7 тыс. кавалерыі і 5 тыс. пяхоты) і 30 гармат. Расійскія войскі нагналі шведаў недалёка ад Прапойска. 9 кастрычніка 1708 г. у бітве каля в.Лясная Левенгаўпт пацярпеў паражэнне, страціў абоз і артылерыю. Толькі рэшткі шведскага корпуса (каля 7 тыс. чалавек) змаглі пераправіцца праз р.Сож ніжэй Прапойска і ў сярэдзіне кастрычніка злучыцца з галоўнымі сіламі Карла XII у раёне Старадуба. Бітва пры Лясной аказала істотны ўплыў на далейшы ход вайны. У значнай ступені дзякуючы поспеху на беларускай зямлі расійская армія змагла перамагчы шведаў і ў рашаючай бітве пад Палтавай 8 ліпеня 1709 г.

Пасля Палтавы і капітуляцыі галоўных шведскіх сіл каля Пераналочны 11 ліпеня 1709 г. Паўночная вайна праходзіла пры поўнай перавазе Расіі. Ст. Ляшчынскі пакінуў краіну і ўцёк у Памеранію, куды спешна адыходзілі рэшткі шведскай арміі. Са згоды расійскага двара і пры падтрымцы саксонскіх войскаў у канцы жніўня 1709 г. у Варшаву вярнуўся Аўгуст II. З гэтага часу Рэч Паспалітая фактычна не прымала ўдзелу ў Паўночнай вайне, яе працягваў Аўгуст II сіламі адной Саксоніі.

**Бедствы насельніцтва Беларусі падчас ваеннага ліхалецця.** Чарговая вайна прынесла жыхарам беларускіх зямель велізарныя страты. З аднаго боку, як адзначалі сучаснікі тых падзей, шведы рабілі "нязносныя спусташэнні, не шкадуючы нават і храмаў божых", з другога – мясцовыя жыхары пакутавалі ад "насілля і разбою", што чынілі расійскія вайскоўцы[1]. Утрыманне шматтысячных армій Расіі і Швецыі цалкам забяспечвалася за кошт пабораў з мясцовага насельніцтва. Пры несвоечасовай выплаце накіроўваліся ўзброеныя атрады для "экзекуцыі" – прымусовага спагнання. Масавыя рабаванні з боку расійскіх войскаў цярпелі ўладанні прыхільнікаў Варшаўскай канфедэрацыі і караля Ст.Ляшчынскага. Як і 50 гадоў назад, у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг., з гарадоў Беларусі

[1] Историко-юридические материалы (далей – ИЮМ). Вып. 18. Витебск, 1888. С. 191; АВАК. Вильна, 1874. Т. 7. С. 235.

пачаўся вываз высокакваліфікаваных рамеснікаў у Расію. Паводле падлікаў, толькі ў Маскве ў 1707 г. налічвалася каля 2 тыс. чалавек, гвалтоўна вывезеных з Рэчы Паспалітай[1]. Тысячы беларускіх сялян былі прыцягнуты да будаўніцтва абарончых збудаванняў. Гэта выклікала негатыўнае стаўленне ў краіне да саюзнікаў. Нават вялікі гетман ВКЛ Міхал Вішнявецкі скардзіўся на рабаванні расійскімі войскамі сваіх маёнткаў.

Насельніцтва рабавалі не толькі замежныя арміі, але і свае войскі. Вельмі часта такім спосабам наёмныя салдаты атрымлівалі сродкі на сваё існаванне. Так, у жніўні 1706 г. жаўнеры кароннага войска на чале з ротмістрам Дзерабоўскім спустошылі маёнтак Ястрамбель Наваградскага ваяводства[2]. У верасні таго ж года каронныя войскі, якія праходзілі праз Берасцейскае ваяводства, "зрабавалі, знішчылі, а потым запалілі вёску Кусты, якая згарэла, з пабудовамі, гумном, розным збожжам, быдлам рагатым і нерагатым, зруйнавалі агнём 12 халуп"[3]. У Гарадзенскім павеце ў лістападзе 1709 г. значна пацярпелі ад драгунаў гетманскай харугвы ўладанні пінскага земскага суддзі І.Войны[4]. Летам 1710 г. харугва князя Агінскага разрабавала маёнтак Смілавічы Крыштафа Завішы[5].

У час Паўночнай вайны пачасціліся шляхецкія наезды на суседнія ўладанні. У іх амаль заўсёды прымалі ўдзел як шведскія, так і расійскія вайскоўцы. У чэрвені 1708 г. ваўкавыскі гродскі суддзя Х.Дамаслоўскі, сабраўшы "свавольных людзей са зброяй, са шведамі" разрабаваў маёнтак Рэксці Лідскага павета, забраў прадукты харчавання, фураж і коней. У Аршанскім павеце ў сакавіку 1708 г. мясцовы шляхціц разам з "маскалямі" зрабіў наезд на маёнтак Хадароўцы, прычыніўшы страту на суму 5 тыс. злотых[6]. У Мсціслаўскім ваяводстве разам з расійскімі салдатамі была разрабавана вёска Быстрычы, у наездзе на вёску Бязводзічы ўдзельнічала некалькі дзесяткаў салдат і афіцэраў аднаго з лепшых палкоў пятроўскай арміі – Сямёнаўскага[7]. У тым жа ваяводстве ў кастрычніку 1708 г. некалькі дзесяткаў чалавек "са стрэльбай агністай, мушкетамі, пісталетамі, рагаткамі, разам з "маскалямі" напалі на маёнтак Іосіфа Кміта, двор спалілі, а лепшыя рэчы пазабіралі[8]. У Наваградскім ваяводстве на працягу 1707 г. адміністрацыя графства Мыш, якім валодаў каронны гетман Адам Сяняўскі, разам з "маскалямі" спустошыла суседнія шляхецкія маёнткі. У наступным, 1708 г., адміністрацыя графства (на той час графства знаходзілася ў трыманні Яна Казіміра Сапегі) працягвала рабіць гэтую брудную справу, але ўжо сумесна са шведамі[9].

Здараліся выпадкі, калі мясцовая шляхта ажыццяўляла рабункі пад выглядам замежных вайскоўцаў. Так, ноччу 28 лістапада 1708 г. быў зроблены напад на двор мсціслаўскага шляхціца Канстанціна Асмалоўскага ў в.Гідрэвічы. Рабаўнікі жорстка збілі гаспадара і патрабавалі паказаць, дзе схавана збожжа, пры гэтым "языком маскоўскім размаўлялі паміж сабою"[10]. Як потым высветлілася, гэта былі Рамановічы, шляхціцы таго ж

---

[1] *Deruga A.* Piotr Wielki a unici i unija Kościelna 1700-1711. Wilno, 1936. S. 215.

[2] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1306, арк. 59 ад.

[3] АР РДБ, ф. 61, кард. 2, спр. 16, арк. 1 ад.

[4] АВАК. Т. 7. С. 463.

[5] НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 7, арк. 212.

[6] НГАБ, ф. 1731, воп. 1, спр. 5, арк. 34.

[7] Там жа, ф. 1727, воп. 1, спр. 11, арк. 689.

[8] Там жа, спр. 10, арк. 241–242.

[9] Там жа, ф. 694, воп. 4, спр. 1306, арк. 60–61.

[10] Там жа, ф. 1729, воп. 1, спр. 11, арк. 639.

Беларусь у гады Паўночнай вайны 1700—1721 гг.

Мсціслаўскага ваяводства. У канцы лютага 1709 г. у тым жа ваяводстве пан Маскевіч разам са сваімі сялянамі, апрануўшыся ў "камізэлі маскоўскія", са зброяй напалі на в.Мыслакоўшчына. Жорстка катавалі войта Пятра Масканенка – "агнём палілі, жар за пазуху і за плечы сыпалі", каб даведацца, дзе знаходзяцца ямы са збожжам[1].

Парушалі закон і прадстаўнікі ўлады. У 1707 г. камісары Я.Жукоўскі і А.Панятоўскі, якія ведалі зборам правіянту для расійскай арміі ў Крычаўскім старостве, сабраны правіянт прадалі ў Магілёве, а грошы забралі сабе. Пасля гэтага яны накіравалі ў староства маскоўскія войскі для паўторнага збору правіянту. У тым жа годзе войскі Гарадзенскага павета Павел Стрыенскі на падставе падробленых квітанцый і пры садзейнічанні расійскіх вайскоўцаў вымагаў грошы ў гародзенскіх яўрэяў[2]. Зборшчыкі падаткаў у Езярышчанскім старостве Віцебскага ваяводства ў 1712 г. завысілі колькасць дымоў у два разы і збіралі з іх падаткі на сваю карысць, "прычым з вялікім уціскам"[3].

[1] НГАБ, ф. 1729, воп. 1, спр. 11, арк. 319.

[2] АВАК. Т. 5. С. 283–284.

[3] ИЮМ. Вып. 20. 1890. С. 102–103.

У час Паўночнай вайны ў краіне значна ўскладніліся міжканфесійныя адносіны. Гэта было звязана з тым, што варагуючыя дзяржавы шырока выкарыстоўвалі рэлігійнае пытанне ў сваіх мэтах. Шведы-пратэстанты падтрымлівалі сваіх аднаверцаў і даволі варожа ставіліся да іншых веравызнанняў. Ад іх аднолькава цярпелі як цэрквы і манастыры, так і касцёлы і кляштары, аб чым сведчаць спаленыя і разрабаваныя шведамі храмы ў Лідзе, Вілейцы, Докшыцах, Магілёве. Усё гэта паслужыла прычынаю для прыняцця сеймам 1717 г. пастаноў, якія значна абмяжоўвалі правы пратэстантаў[1]. У гэтым жа годзе адзіны і апошні сеймавы пасол-пратэстант Пятроўскі быў сілаю выдалены з сейма ў Варшаве.

У сваю чаргу кіраўнікі Расіі – краіны, дзе панавала праваслаўная царква, выступалі ў якасці абаронцаў праваслаўных у процівагу прадстаўнікам іншых канфесій, а уніятаў нават разглядалі як здраднікаў веры. Расійскія войскі спусташалі уніяцкія базыльянскія манастыры, манахаў гвалтоўна вывозілі ў Расію, разганялі свецкае уніяцкае духавенства, а на іх месца прызначалі праваслаўных святароў. Улетку 1705 г. у Полацкім Сафійскім саборы пры непасрэдным удзеле Пятра І было забіта некалькі манахаў базыльянскага ордэна. Па загаду цара целы забітых манахаў спалілі, а попел кінулі ў Дзвіну. Полацкі базыльянскі манастыр быў закрыты, а Сафійскі сабор ператвораны ў вайсковы склад. У 1710 г. у выніку выбуху пораху гэты сабор быў амаль цалкам знішчаны. У сярэдзіне 1710 г. адбыліся напады расійскіх вайскоўцаў на уніяцкія манастыры ў Полацку (на гэты раз пацярпелі мужчынскі манастыр св.Барыса і Глеба і жаночы св.Сафіі), Беразвечы і Ушачах. Былі разрабаваны манастырскія маёнткі Чарствяты, Судзіловічы, Баркаўшчызна, Ладосна, якія належалі полацкаму манастыру св.Сафіі, маёнтак Турэц Барысаглебскай архімандрыі, вёска Залессе, уласнасць віленскага манастыра св.Тройцы. У манастырах расіяне забіралі ўсю маёмасць, нават абразы і царкоўны посуд. У Чарствятах вывезлі ўсё збожжа, у Баркаўшчызне спалілі ўсе жылыя і гаспадарчыя пабудовы, сад і 50 вулляў з пчоламі.

**Завяршэнне Паўночнай вайны і яе палітычныя вынікі.** У другой палове 1713 г. над Рэччу Паспалітай навісла пагроза турэцкай агрэсіі. Для Аўгуста ІІ гэта стала зручнай падставай для ўвядзення на тэрыторыю шляхецкай рэспублікі саксонскіх войскаў. Адначасова ён звярнуўся па дапамогу да еўрапейскіх краін, у тым ліку да Францыі, якая знаходзілася ў добрых адносінах з Асманскай імперыяй. У сваю чаргу і французскі кароль Людовік XIV, які пасля вайны за іспанскую спадчыну (1701–1713) быў заклапочаны пошукам новых саюзнікаў, павёў курс на збліжэнне з Аўгустам ІІ і жадаў прымірыць яго з Карлам XII. Разгарнуліся інтэнсіўныя перагаворы з французскім паслом у Рэчы Паспалітай Безенвалем. Ужо ў канцы 1713 г. было выпрацавана сумеснае пагадненне (у верасні 1714 г. падпісаны адпаведны трактат), паводле якога Францыя абавязвалася стрымліваць турак ад нападзення на Рэч Паспалітую і спрыяць заключэнню сепаратнага міру са Швецыяй[2]. Між тым разлічваць на дапамогу Расіі Аўгуст ІІ не мог. Пасля няўдалага Пруцкага паходу 1711 г. Расія была абцяжарана неабходнасцю выканання мірных пагадненняў, якія яна заключыла з Асманскай імперыяй на працягу 1711–1713 гг. Так, паводле Адрыянопальскага дагавора (чэрвень 1713 г.), знаходжанне расійскіх войскаў і нават самога Пятра І на тэрыторыі шляхецкай рэспублікі без дазволу Порты забаранялася. Гэта часова прыпыніла рост расійскага ўплыву на ўнутрыпалітычнае жыццё Рэчы Паспалітай.

[1] Volumina legum. Petersburg, 1860. T. 6. S. 124.

[2] *Gierowski J.* Traktat przyjazni Polski z Francja w roku 1714. Warszawa, 1965. S. 57–60.

Пасля выгнання шведаў і іх прыхільнікаў за межы шляхецкай рэспублікі і нармалізацыі адносін з Асманскай імперыяй Аўгуст II, абапіраючыся на прысутнасць у краіне саксонскіх войскаў, вырашыў скарыстаць зручны момант для ўмацавання каралеўскай улады. Ён разлічваў калі не на падтрымку, дык хоць на маўклівую згоду з боку свайго саюзніка па Паўночнай вайне – Пятра І. Аднак перад пагрозай абсалютызму паўстала шляхта, якой былі створаны Тарнагрудская канфедэрацыя ў Кароне (1715) і Віленская ў ВКЛ (1716).

Палітыка Аўгуста II, накіраваная на ўзмацненне каралеўскай улады, выклікала незадаволенасць і расійскага ўрада. Палтаўская перамога 1709 г. паклала пачатак расійскаму вялікадзяржаўю і прадвызначыла праграму падтрымкі шляхецкіх "залатых вольнасцей", якая стала дамінуючай у расійскай палітыцы да канца XVIII ст. Расія ўмяшалася ў гэты канфлікт і ўдала скарыстала супярэчнасці паміж каралём і рэспублікай. Пётр І не пагадзіўся з патрабаваннем часткі апазіцыі пазбавіць Аўгуста II Польскай Кароны, але і не падтрымаў абсалютысцкіх планаў саксонскага курфюрста. Расійскі пасол князь Г.Далгарукі прадыктаваў умовы прымірыцельнага трактата паміж каралём і канфедэратамі, які ў лютым 1717 г. быў зацверджаны на так званым "Нямым" сейме (пастановы прымаліся без абмеркавання).

Паводле яго ўмоў саксонскія войскі пакідалі тэрыторыю Рэчы Паспалітай, улада гетманаў абмяжоўвалася, а колькасць войска скарачалася да 24 тыс. (Карона – 18 тыс., ВКЛ – 6 тыс.). Адначасова пакідалася права "liberum veto" (аднагалосся) у сейме, што цалкам перашкаджала прыняццю любога канструктыўнага рашэння[1]. Пачынаючы з гэтага часу сярод пэўных колаў шляхты Расія пачала разглядацца ў якасці гаранта захавання шляхецкіх вольнасцей. Фіксаванае абмежаванне на мінімальным узроўні колькасці войска на доўгі час замарудзіла развіццё ваеннай справы ў Рэчы Паспалітай і ў далейшым значна аблегчыла ўмяшанне ва ўнутраныя справы краіны з боку драпежных суседзяў. У разглядаемы час суседнія дзяржавы мелі рэгулярныя арміі, якія налічвалі не адну сотню тысяч чалавек: Расія – 350 тыс., Аўстрыя – 280 тыс., Прусія – каля 200 тыс.


Расійскі цар Пётр І

Пасля гэтых падзей адносіны паміж былымі саюзнікамі рэзка змяніліся. Ідэальнымі яны ніколі не былі. У пачатку Паўночнай вайны агульныя інтарэсы і небяспека з боку Швецыі прымушалі іх трымацца разам, але калі шведская пагроза мінула, кожны з удзельнікаў вайны жадаў як мага хутчэй скончыць яе, прычым з максімальнаю выгадаю для сябе. Так, у 1718 г., падчас папярэдніх перагавораў са Швецыяй аб міры (Аландскі кангрэс), Пётр І прапанаваў шведам скінуць Аўгуста II з трону і вярнуць Польскую Карону Ст.Ляшчынскаму ў якасці кампенсацыі за захопленыя Расіяй тэрыторыі. Каб процістаяць планам Пятра І і абараніць суверэнітэт, Аўгуст II спрабаваў утва-

[1] Volumina legum. T. 6. S. 113–133.

рыць саюз з Аўстрыяй і Англіяй, якія былі незадаволены ходам Паўночнай вайны. У студзені 1719 г. Аўгуст II падпісаў з Аўстрыяй і Англіяй Венскі трактат, у якім гаварылася пра абарону незалежнасці Рэчы Паспалітай. Паводле яго ўмоў Аўстрыя і Англія абавязваліся гарантаваць тэрытарыяльную цэласнасць і незалежнасць шляхецкай рэспублікі і бараніць яе ад знешніх ворагаў. У традыцыях таго часу пагадненне было змацавана дынастычным шлюбам – сын Аўгуста II Фрыдрых-Аўгуст ажаніўся з пляменніцай аўстрыйскага імператара Карла VI. У хуткім часе са шведскай каралевай Ульрыкай-Элеанорай, якая замяніла на троне забітага ў 1718 г. Карла XII, Аўгуст II дасягнуў патаемнай дамоўленасці, паводле якой каралева пакідала Ст.Ляшчынскага без падтрымкі і абодва бакі абяцалі аб'яднаць свае сілы, каб супрацьстаяць росту расійскай магутнасці. У адказ Расія ў 1720 г. заключыла дагавор з Прусіяй, паводле якога абедзве дзяржавы гарантавалі захаванне існуючага ў Рэчы Паспалітай дзяржаўнага ладу. Адначасова расійская дыпламатыя дамаглася зрыву сейма, на якім Аўгуст II спадзяваўся ратыфікаваць Венскі трактат.

У 1721 г. пры падпісанні Ніштацкага мірнага дагавора, якім скончылася Паўночная вайна, Пётр I, акрамя значных тэрытарыяльных саступак, атрымаў ад Швецыі згоду на расійскае пасрэдніцтва пры заключэнні міру з Рэччу Паспалітай. У выніку гэтага Аўгуст II доўгі час не мог урэгуляваць адносіны са Швецыяй. Толькі ў 1729 г. быў заключаны мірны дагавор паміж Саксоніяй і Швецыяй. Адпаведны дагавор са Швецыяй Рэч Паспалітая падпісала ў 1732 г., але з-за зрыву сеймаў ён так і не быў ратыфікаваны.

Не лепшым чынам на ўзаемаадносіны паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй паўплывала і сітуацыя вакол Курляндыі. З часоў Люблінскай уніі (1569) Курляндскае герцагства з'яўлялася васалам Рэчы Паспалітай. Аднак з 1710 г. пасля шлюбу герцага Фрыдрыха-Вільгельма з пляменніцай Пятра I Ганнай Іаанаўнай Курляндыя фактычна трапіла пад уплыў Расіі. Хуткая смерць маладога герцага паставіла пытанне аб магчымым прэтэндэнце на герцагскую карону. У 1726 г. сейм Курляндыі пад націскам Аўгуста II абраў герцагам яго пазашлюбнага сына графа Морыца Саксонскага (пазней ён стаў вядомым маршалам Францыі). Аднак расійскія войскі на чале з А.Меншыкавым, які таксама марыў стаць герцагам Курляндыі, сілаю прымусілі графа пакінуць межы краіны.

Усталяванне расійскага кантролю над герцагствам выклікала незадаволенасць прускага караля Фрыдрыха-Вільгельма I, які таксама прэтэндаваў на Курляндыю, і часова сапсавала адносіны паміж Расіяй і Прусіяй. Супярэчнасці, што нечакана ўзніклі паміж былымі саюзнікамі, паспрабаваў скарыстаць Аўгуст II, які пайшоў на збліжэнне з Прусіяй. Двойчы, у 1728 і 1730 гг., Аўгуст II сустракаўся з Фрыдрыхам-Вільгельмам I. Мэтаю гэтых сустрэч была падрыхтоўка саюза Саксоніі і Рэчы Паспалітай з Прусіяй. Каб заручыцца падтрымкай прускага манарха ў справе ўмацавання каралеўскай улады ў Рэчы Паспалітай, Аўгуст II быў гатовы нават перадаць яму частку тэрыторыі краіны – Курляндыю і Каронную Прусію. (Упершыню з планамі падзелу Рэчы Паспалітай Прусія выступіла яшчэ ў 1709 г.[1]) Згоду Аўстрыі на ўсталяванне ў Рэчы Паспалітай спадчыннай манархіі планавалася атрымаць шляхам перадачы ёй часткі тэрыторыі на поўдні (Спіжскае староства). Аднак жорсткая пазіцыя Расіі, якая на той час была супраць падзелаў Рэчы Паспалітай і жадала захаваць свой уплыў на ўсёй яе тэрыторыі, перашкодзіла гэтым планам.

---

[1] *Артамонов В.А.* Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709–1714). М., 1990. С. 77.

Залежнасць Рэчы Паспалітай ад Расіі, якая павялічвалася з кожным годам, выклікала ўсё большую незадаволенасць у краіне. Супрацьстаяць гэтаму ўплыву ваеннаю сілаю Рэч Паспалітая ўжо не магла і пратэст набываў іншыя формы. Напрыклад, імператарскі тытул за расійскімі манархамі (імператарам быў абвешчаны ў 1721 г. Пётр I) Рэч Паспалітая, нягледзячы на настойлівыя звароты Расіі, афіцыйна прызнала толькі ў 1764 г., значна пазней, чым гэта зрабілі іншыя еўрапейскія краіны – Прусія (1721), Галандыя (1722), Швецыя (1723), Аўстрыя (1747), Францыя (1757)[1].

Каб прадухіліць вяртанне Ст.Ляшчынскага на трон Рэчы Паспалітай, Аўгуст II неаднаразова спрабаваў знішчыць яго рукамі наёмных забойцаў. Аднак замахі (1707, 1714, 1717, 1725 гг.) не далі вынікаў. У апошнія гады свайго жыцця Аўгуст II, баючыся за лёс кароны Рэчы Паспалітай, настойліва рыхтаваў глебу для абрання пасля сябе каралём свайго адзінага законнага сына – Фрыдрыха-Аўгуста. Але супраць выступілі ўплывовыя магнацкія роды Патоцкіх, Любамірскіх, Вішнявецкіх. Для подкупу зацікаўленых асоб расійскі ўрад выдаткаваў значную суму грошай. У выніку гэтага надзвычайныя сеймы, скліканыя каралём у Гародні (1730) і Варшаве (1732), апазіцыя сарвала, нават не дапусціўшы выбрання маршалка[2]. Пэўныя спадзяванні ў караля і яго прыхільнікаў звязваліся з надзвычайным сеймам, які быў прызначаны на пачатак 1733 г. Але хвароба і раптоўная смерць Аўгуста II у лютым 1733 г. перашкодзіла гэтым планам.

**Грамадска-палітычны крызіс і спробы яго пераадольвання**. Палітычная анархія і безуладдзе ахапілі Рэч Паспалітую ў разглядаемы час. Дзейнасць цэнтральных органаў улады была амаль цалкам паралізавана. Рашэнні сеймаў не выконваліся, а самі сеймы звычайна зрываліся. У дзяржавы не хапала сродкаў на ўтрыманне прыстойнага войска, а тыя нешматлікія вайсковыя аддзелы, што існавалі , своечасова не атрымлівалі грошай і ў пошуках сродкаў часам займаліся звычайным рабаўніцтвам. Сапраўдным бедствам для краіны стала свавольства магнатаў і шляхты. Сканцэнтраваўшы ў сваіх руках буйныя зямельныя ўладанні, магнаты ператварыліся ў поўнаўладных гаспадароў у краіне. Звычайным для Рэчы Паспалітай сталі шляхецкія наезды, падчас якіх узброеныя атрады шляхты рабавалі маёнткі адзін аднаго. Спыніць ці абмежаваць разгул анархіі ўлады краіны былі не ў стане. Найбольш дакладную характарыстыку тагачаснаму становішчу Рэчы Паспалітай дала сама шляхта ў прыказцы “Polska nierz•dem stoi”, г. зн. “Польшча трымаецца на безуладдзі”.

На ўсталяванне палітычнай анархіі ў значнай ступені паўплывала адсутнасць у краіне моцнай цэнтральный улады. Па сутнасці Рэч Паспалітая з’яўлялася шляхецкай рэспублікай з выбарным манархам на чале. Уся ўлада, якая была практычна неабмежаваная, належала толькі шляхецкаму саслоў’ю, што складала невялікую частку насельніцтва, хаця і адносна большую, чым у іншых еўрапейскіх краінах. Аднак шляхта больш клапацілася аб уласных інтарэсах і ахове свайго прывілеяванага становішча, чым аб інтарэсах дзяржавы. Эфектыўнасць яе прадстаўнічага органа – сейма – была вельмі нізкай. Сеймавыя паслы ў сваёй дзейнасці павінны былі кіравацца інструкцыямі, якія прымаліся на павятовых сейміках і ўтрымлівалі наказы шляхты сваім паслам пры вырашэнні таго ці іншага пытання. Гэта значна аб-

[1] *Молчанов Н.Н.* Дипломатия Петра Великого. М., 1990. С. 405.

[2] *Konopczyński W.* Chronologia sejmów polskich 1493–1793. Kraków, 1948. S. 36.

мяжоўвала іх дзейнасць на сеймах і часам не дазваляла прымаць неабходныя пастановы, нават падчас войнаў.

Абавязковым патрабаваннем шляхты, якое заўсёды знаходзіла адлюстраванне ў інструкцыях, была забарона ўвядзення новых падаткаў[1]. Такім чынам шляхта імкнулася перакласці ўвесь цяжар выдаткаў краіны на дзяржаўныя ўладанні. Гэта не дазваляла на працягу многіх дзесяцігоддзяў павялічваць дзяржаўны бюджэт і ў сваю чаргу мець у краіне моцнае войска. У той жа час магнаты Радзівілы, Сапегі, Пацы, Агінскія і іншыя, дзякуючы велізарным зямельным уладанням, мелі магчымасць утрымліваць сваё ўласнае войска. Агульная колькасць прыватных войскаў перавышала ўсё войска краіны. З магутнасцю магнатаў вымушаны быў лічыцца нават сам кароль.

Прыняцце сеймам рашэнняў, якія хоць у малой ступені былі непажаданымі для шляхты, лёгка адхіляліся ёю дзякуючы існаванню права "liberum veto" (свабода забароны). Паводле яго, нават адзін дэпутат, які прагаласаваў супраць, мог адхіліць любую пастанову і тым самым сарваць сейм. Гэта садзейнічала паглыбленню палітычнага бяссілля Рэчы Паспалітай. Краіна на працягу дзесяцігоддзяў заставалася без вышэйшага заканадаўчага органа. Пачынаючы з першага прымянення права "liberum veto" ў 1652 г., калі пасол Упіцкага павета Ул. Сіцынскі не згадзіўся з пастановаю сейма, і да ўвядзення абмежавання на ўжытак гэтага права на канвакацыйным сейме 1764 г., з 80 сеймаў Рэчы Паспалітай 42 скончыліся безвынікова, прычым амаль палова з іх была сарвана адным голасам. І гэта нягледзячы на тое, што пасол, які зрываў сейм, не карыстаўся ў грамадстве павагай і выклікаў агульную агіду і пагарду[2]. Толькі ў час праўлення Аўгуста II (1697–1733) з 21 сейма 11 былі сарваны або распушчаны, не ўхваліўшы ніводнага рашэння. З 1703 па 1710 г., падчас Паўночнай вайны, сеймы наогул не скліваліся. Свайго росквіту палітычная анархія дасягнула пры Аўгусце III (1733–1763), калі на працягу 30 гадоў, нягледзячы на тое што кожныя два гады збіраўся сейм, усе сеймы, акрамя аднаго (сейма 1736 г.), скончыліся безвынікова[3]. Для дасягнення сваіх інтарэсаў правам "liberum veto" шырока карысталіся як магнацкія групоўкі, так і асобныя прадстаўнікі пануючага класа і нават кароль. Так, са згоды Аўгуста II быў сарваны сейм 1712 г., каб прадухіліць прыняцце непажаданых для караля рашэнняў. Але дзейнічалі яны звычайна не самастойна, а праз сваіх прыхільнікаў у сейме.

У той час калі агульнадзяржаўны сейм страчваў сваю ролю, у палітычным жыцці краіны ўзрастала вага мясцовых сеймікаў. Да іх кампетэнцыі пераходзіць рашэнне шэрагу пытанняў, якія раней разглядаліся на сеймах. У прыватнасці, шляхецкія сеймікі здабылі сабе права самастойнага рашэння пытання аб падатках, што прапаноўваліся сеймам, і вынікам гэтага з'явілася ўзрастанне аўтаноміі ваяводстваў на працягу XVII – пачатку XVIII ст. Толькі пасля таго як сейм 1717 г. ухваліў строга фіксаваны падатак з кожнага ваяводства на ўтрыманне войска, самастойнасць мясцовых сеймікаў была часткова абмежавана.

Разам з паўнатой палітычных правоў шляхта дамаглася незалежнасці ад караля і ў галіне судаводства. Гэта адбылося шляхам утварэння вышэйшых судоў – трыбуналаў, асобна для Кароны (1578) і ВКЛ (1581). Трыбунал

---

[1] АВАК. Вильна, 1874. Т. 7. С. 280.

[2] *Кареев Н.* Исторический очерк польского сейма. М., 1888. С. 78.

[3] *Konopczyński W.* Chronologia sejmów polskich 1493–1793. S. 33–40.

складаўся з выбраных шляхтай дэпутатаў, да якіх перайшлі функцыі вышэйшага апеляцыйнага суда, што раней належалі самому манарху.

У Рэчы Паспалітай адсутнічала спадчынная каралеўская ўлада. Пасля смерці ў 1572 г. апошняга Ягайлавіча Жыгімонта III Аўгуста, які не пакінуў нашчадкаў, усталявалася традыцыя абрання кожнага наступнага манарха на агульнадзяржаўных сеймах прадстаўнікамі шляхты. Гэта вяло да пастаяннай барацьбы сярод магнацкіх груповак за ўладу падчас міжкаралеўя. Для ўзмацнення сваіх пазіцый яны звярталіся па дапамогу (ваенную і фінансавую) да суседніх краін. У выніку гэтага да сярэдзіны XVIII ст. уплыў суседніх дзяржаў на абранне караля стаў ужо вызначальным.

Улада новаабранага караля была абмежавана шэрагам абавязкаў, акрэсленых у так званых "генрыхавых артыкулах". Акрамя таго, будучы кароль на элекцыйным сейме падпісваў персанальны дагавор (pacta conventa) і пацвярджаў яго ўласнаю прысягаю. У тым выпадку, калі кароль парушаў прынятыя абавязкі, шляхта мела права аказваць супраціўленне, нават узброенае, шляхам стварэння канфедэрацый. Пры гэтым кароль Рэчы Паспалітай не меў права самастойна прымаць пастановы (канстытуцыі), уводзіць новыя падаткі. Вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў краіне (маршалкаў, канцлераў, падскарбіяў, гетманаў, ваяводаў) займаліся пажыццёва. Без згоды сейма кароль не мог адхіліць каго-небудзь ад займаемай пасады. У рэшце рэшт усё гэта прывяло да таго, што дзейнасць цэнтральных органаў улады ў Рэчы Паспалітай была амаль цалкам паралізавана.

Адмоўна паўплывала на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў краіне нявырашанасць рэлігійнага пытання. Афіцыйна ні адно з веравызнанняў, якія тут існавалі, не было забаронена. Аднак толькі прадстаўнікі каталіцкай шляхты і святарства мелі магчымасць займаць дзяржаўныя пасады. Толькі католік мог быць абраны каралём Рэчы Паспалітай. Аўгуст II, як і ўсе прадстаўнікі саксонскай дынастыі, па веравызнанню быў лютэранін, але, дамагаючыся польскай кароны, ён перш за ўсё перайшоў у каталіцызм. Гэтаксама зрабіў і яго сын Фрыдрых-Аўгуст, будучы кароль Аўгуст III. Пратэстанты, праваслаўныя і уніяты былі фактычна адхілены ад удзелу ў грамадска-палітычным жыцці краіны. У 1717 г. з Варшаўскага сейма быў сілаю выдалены апошні пасол-некатолік, пратэстант Пятроўскі. Праваслаўнае духавенства за падтрымкай звярталася да расійскага цара. У час Паўночнай вайны Пётр I аднавіў у Рэчы Паспалітай праваслаўную іерархію, залежную ад рускай праваслаўнай царквы. Уніяцкая царква з-за пераходу большасці шляхты ў каталіцызм значнай ролі ў палітычным жыцці не адыгрывала.

Анархія і безуладдзе, ахапіўшыя Рэч Паспалітую ў канцы XVII – першай палове XVIII ст., пагражалі самому існаванню краіны і таму неабходнасць яе рэфармавання стала патрабаваннем часу. Пачынаючы з 30-х гг. XVIII ст. пытанне аб рэформах у краіне неаднаразова ўздымалася ў публіцыстычных творах. Аўтарам найбольш вядомых з іх быў Станіслаў Канарскі. Асаблівую папулярнасць выклікала праграма рэформаў у галіне ваеннай справы. Ва ўмовах хуткага ўзмацнення магутнасці суседніх дзяржаў такая рэформа была вельмі неабходна. Праекты павелічэння колькасці войска разглядаліся на сеймах 1746, 1748, 1750, 1752 і 1754 гг.[1] Аднак з-за зрыву гэтых сеймаў пытанне аб ваеннай рэформе не было вырашана.

Паступова сярод пануючага класа, асабліва магнацтва, па пытанні аб далейшым лёсе краіны сфарміраваліся дзве плыні. Першая, якую прадстаўляла так званая "гетманская", або "рэспубліканская", партыя, выступа-

---

[1] *Кареев Н.* Польские реформы XVIII в. СПб., 1890. С. 32.

ла за захаванне існуючага становішча ў краіне і гуртавалася вакол найбуйнейшых магнацкіх родаў (Вішнявецкія, Патоцкія, Радзівілы, Любамірскія). Прадстаўнікі другой плыні, якая аб'ядноўвала тых магнатаў, што параўнальна нядаўна вылучыліся на вяршыню палітычнага жыцця краіны, схіляліся да неабходнасці правядзення рэформаў і ўмацавання цэнтральнай улады. Кіраўнікамі гэтай партыі, якая атрымала назву "фамілія", былі князі Чартарыскія – Фрыдэрык Міхал, падканцлер літоўскі, Аўгуст Аляксандр, ваявода рускі, і Тодар, біскуп пазнанскі. Паступова "фамілія" выпрацавала праграму рэформаў, якая прадугледжвала перш за ўсё скасаванне права "liberum veto" і вольную элекцыю каралёў. Рэалізацыя гэтай праграмы садзейнічала б умацаванню ў краіне цэнтральнай улады і аб'ектыўна супадала з інтарэсамі караля. У час праўлення Аўгуста III, асабліва ў першыя дзесяцігоддзі, паміж каралеўскім дваром і групоўкай Чартарыскіх усталявалася цеснае супрацоўніцтва. Аднак "гетманская" партыя, знаходзячыся ў апазіцыі і баючыся любых памкненняў да змен у Рэчы Паспалітай, сістэматычна зрывала сеймы, што зрабіла немагчымым прыняцце якіх-небудзь канструктыўных рашэнняў. Толькі пасля смерці Аўгуста III на канвакацыйным сейме 1764 г. Чартарыскія змаглі правесці памяркоўныя рэформы дзяржаўнага ладу з мэтай умацавання цэнтральнай улады. На сейме было абмежавана ўжыванне права "liberum veto", дэпутаты не абавязаны былі прытрымлівацца інструкцый сеймікаў, калі яны разыходзіліся з думкаю большасці сейма, а таксама былі прыняты рашэнні па ўпарадкаванні фінансавай сістэмы краіны і павелічэнні колькасці войска.

**Спроба вяртання да ўлады Ст.Ляшчынскага і яе вынікі (1733 – 1734).** Пасля смерці Аўгуста II (1733) у краіне разгарнулася жорсткая барацьба за ўладу паміж магнацкімі групоўкамі, кожная з якіх жадала бачыць на каралеўскім троне менавіта свайго кандыдата. На гэта раз перадвыбарная барацьба праходзіла пры непасрэдным умяшанні з боку замежных краін. У хуткім часе яна перарасла ва ўзброеную барацьбу, выйшла за межы краіны і вылілася ў так званую вайну за "польскую спадчыну" 1733 – 1735 гг. паміж Расіяй, Аўстрыяй, Саксоніяй з аднаго боку і Францыяй – з другога.

Сярод мноства прэтэндэнтаў на карону Рэчы Паспалітай рэальныя шансы мелі толькі двое – былы кароль Ст.Ляшчынскі, кандыдатуру якога адстойвала Францыя, і сын Аўгуста II саксонскі курфюрст Фрыдрых-Аўгуст, якога падтрымалі Расія і Аўстрыя. Яшчэ ў 1732 г. у Берліне быў падпісаны паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй так званы трактат "трох чорных арлоў", паводле якога яны абавязваліся захоўваць існуючы лад Рэчы Паспалітай і садзейнічаць абранню на трон кандыдата, які б задаволіў іх усіх.

Напярэдадні элекцыйнага сейма, летам 1733 г., адбылося падпісанне аўстра-саксонскага (17 ліпеня) і расійска-саксонскага (25 жніўня) трактатаў. У адпаведнасці з імі саксонскі курфюрст адмаўляўся ад габсбургскай спадчыны і, парушаючы палітыку свайго бацькі, гарантаваў Прагматычную санкцыю 1713 г., прызнаваў за расійскімі манархамі імператарскі тытул і абяцаў садзейнічаць вырашэнню пытання аб Курляндскім герцагстве на карысць Расіі. За гэта Аўстрыя і Расія згаджаліся падтрымаць кандыдатуру Фрыдрыха-Аўгуста і гарантавалі яму дыпламатычную, фінансавую і, пры неабходнасці, ваенную дапамогу[1]. Што тычыцца Прусіі, дык прускі кароль Фрыдрых-Вільгельм I як раз у гэты час пасварыўся са сваімі саюзнікамі – Расіяй і Аўстрыяй і застаўся абыякавым да падзей, якія адбываліся ў Рэчы Паспалітай.

---

[1] *Герье В.* Борьба за польский престол в 1733 г. М., 1862. С. 291, 302.

У сярэдзіне 1733 г. у ВКЛ прыбылі эмісары расійскага ўрада падпалкоўнікі Ю.Лівен і Дарэўскі. Ім даручалася выказаць мясцовай магнатэрыі жаданне імператрыцы Ганны Іаанаўны адхіліць Ст.Ляшчынскага ад удзелу ў выбарах і адначасова высветліць найбольш зручныя шляхі для прасоўвання расійскіх войскаў, увод якіх на тэрыторыю Рэчы Паспалітай планавалася ажыццявіць напярэдадні выбараў. У той жа час у Пецярбург быў накіраваны спіс асоб, што асабліва прыхільна ставіліся да Ст.Ляшчынскага, і якім, паводле слоў расійскага пасла ў Варшаве Левенвольда, "трэба было даць гэта адчуць пры ўваходзе расійскіх войскаў рабаваннем іх маёнткаў"[1].

12 верасня 1733 г. на элекцыйным сейме ў Варшаве шляхта абрала каралём Ст.Ляшчынскага. Зразумела, што кандыдатура цесця французскага караля (у 1725 г. Ст.Ляшчынскі выдаў замуж сваю дачку Марыю за Людовіка XV) на троне Рэчы Паспалітай не задаволіла Расію і Аўстрыю і выклікала рэзкае супрацьдзеянне з іх боку. Пад выглядам "абаронцаў польскіх свабод" у межы Рэчы Паспалітай увайшлі расійскія (45 тыс.) і саксонскія (каля 10 тыс.) войскі[2]. Ст.Ляшчынскі разам са сваімі паплечнікамі пакінуў сталіцу і, знаходзячыся ў Гданьску, разлічваў на дапамогу Францыі. Пад абаронай штыкоў інтэрвентаў нешматлікая апазіцыя, якая ў асноўным складалася з прадстаўнікоў ВКЛ, 5 кастрычніка 1733 г. абрала каралём сына Аўгуста II – Фрыдрыха-Аўгуста. 17 студзеня 1734 г. ён каранаваўся і стаў каралём Рэчы Паспалітай пад імем Аўгуст III.

У студзені 1734 г. расійскія войскі фельдмаршала Мініха занялі Торунь, а ў лютым пачалі аблогу Гданьска. Францыя спрабавала дапамагчы Ст.Ляшчынскаму. У красавіку 1734 г. у Балтыйскае мора ўвайшла французская эскадра ў складзе 11 караблёў на чале з маркізам Плело. Недалёка ад Гданьска быў высаджаны дэсант, але прабіцца да гарнізона ён не змог. У маі новы французскі дэсант (каля 2 тыс.) атакаваў расійскія пазіцыі. Адначасова зрабіў вылазку і гданьскі гарнізон. Аднак расійскія войскі і на гэты раз адбілі атакі. У гэты час да Гданьска з Кранштата падышла расійская эскадра, якая значна пераўзыходзіла французскае злучэнне. Гэта прымусіла французскія караблі пакінуць Балтыку, а французскі дэсант быў захоплены ў палон і адпраўлены ў Пецярбург.

7 ліпеня 1734 г. Гданьск капітуляваў. Ст.Ляшчынскі, пераапрануўшыся простым селянінам, збег у Прусію. Фрыдрых-Вільгельм I аказаў яму гасцінны прыём. Асцярожны і скапны прускі манарх нават з гэтага становішча жадаў атрымаць прыбытак, разлічваючы вытаргаваць у Ст.Ляшчынскага частку польскіх зямель.

Больш паспяхова французская армія дзейнічала ў Латарынгіі і Італіі супраць Аўстрыі. Тут аўстрыйцы пацярпелі шэраг паражэнняў, што прымусіла імператара Карла VI звярнуцца па дапамогу да Расіі. Летам 1735 г. на Рэйн быў накіраваны 20-тысячны расійскі корпус фельдмаршала П.Ласі. Упершыню расійскія войскі прасоўваліся так далёка на захад Еўропы. Умяшанне Расіі паскорыла заключэнне перамір'я паміж Францыяй і Аўстрыяй (кастрычнік 1735 г.).

Выбары 1733 г. выклікалі значнае абвастрэнне ўнутрыпалітычнага становішча ў Рэчы Паспалітай і паклалі пачатак грамадзянскай вайны. Апошняя выразна паказала заганы палітычнага ладу краіны. Вясной 1734 г. шляхта ВКЛ абвясціла стварэнне канфедэрацыі з мэтай абароны караля Ст.Ляшчынскага. Маршалкам канфедэрацыі быў абраны віцебскі ваявода Марцін

---

[1] *Герье В.* Борьба за польский престол в 1733 г. С. 322.

[2] Там жа. С. 398.



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аўгуст III

Агінскі, рэгіментарам – стражнік літоўскі Аляксандр Пацей. Восенню 1734 г. была абвешчана падобная канфедэрацыя і ў Кароне, яе ўзначаліў Адам Тарла.

Радзівілаўскае мястэчка Карэлічы стала месцам збору канфедэратаў у ВКЛ. Адтуль меркавалася пачаць паход на дапамогу абложанаму ў Гданьску каралю. Капітуляцыя Гданьска ў ліпені 1734 г. не спыніла іх. Поўныя рашучасці працягваць барацьбу, яны ў лістападзе занялі Берасце, дзе да іх далучыліся харугвы валынскага ваяводы Міхала Патоцкага. Аднак асабістыя амбіцыі магнатаў, іх прага да ўлады перакрэслілі ўсе намаганні канфедэратаў. У пачатку 1735 г. узніклі супярэчнасці паміж М.Агінскім і кіраўніком каронных канфедэратаў А.Тарлам з-за лідэрства ў кіраўніцтве канфедэрацыяй Рэчы Паспалітай. М. Агінскі пакінуў канфедэратаў і прысягнуў Аўгусту III. У хуткім часе харугвы каронных канфедэратаў, якіх не падтрымалі канфедэраты з ВКЛ, былі разбіты расійскімі і саксонскімі войскамі.

У ліпені 1736 г. адбыўся надзвычайны пацыфікацыйны сейм. На ім была зацверджана ўлада Аўгуста III і абвешчана амністыя ўдзельнікам канфедэрацый. За дапамогу, аказаную з боку Расіі, Аўгуст III правёў на сейме рашэнне аб Курляндскім лене Рэчы Паспалітай, паводле якога пасля згасання роду Кетлераў Курляндыі даваўся свабодны выбар. У выніку гэтага рашэння, пасля смерці ў 1737 г. апошняга з роду Кетлераў герцага Фердынанда, курляндскім герцагам стаў стаўленік расійскай імператрыцы Ганны Іаанаўны Э.Бірон.

Вайна за “польскую спадчыну” скончылася падпісаннем у лістападзе 1738 г. Венскага міру паміж Аўстрыяй і Францыяй, да якога ў 1739 г. далучыліся Расія і Рэч Паспалітая. Францыя прызнала Аўгуста III каралём Рэчы Паспалітай. Ст.Ляшчынскі адмовіўся ад Польскай Кароны, але атрымаў ад Габсбургаў у пажыццёвае валоданне Латарынгію, якая пасля яго смерці павінна была перайсці да Францыі.

У выніку вайна за “польскую спадчыну” 1733–1735 гг. пры непасрэднай ваеннай і дыпламатычнай падтрымцы Расіі і Аўстрыі на троне Рэчы Паспалітай замацаваўся саксонскі курфюрст Аўгуст III. Уплыў на Рэч Паспалітую суседніх дзяржаў, асабліва Расіі, значна павялічыўся. Расія фактычна ўзяла пад свой пратэктарат як знешнюю, так і ўнутраную палітыку шляхецкай рэспублікі.

Час панавання ў Рэчы Паспалітай саксонскай дынастыі ў асобе Аўгуста II і Аўгуста III (1697–1763) стаў перыядам глыбокага ўнутрыпалітычнага крызісу краіны. Гэты час характарызаваўся бясконцай барацьбой магнацкіх груповак за ўладу, ваеннымі спусташэннямі, шматлікімі шляхецкімі наездамі і рабункамі, бяздзейнасцю дзяржаўных органаў і пастаянным умяшан-

нем замежных дзяржаў ва ўнутраныя справы краіны.Спробы Аўгуста II умацаваць каралеўскую ўладу сустрэлі рашучае процідзеянне як унутры краіны, так і за яе межамі. Шляхта, з'яўляючыся галоўнай палітычнай сілай краіны і баючыся страціць свае выключныя правы і свабоды, актыўна выступіла супраць умацавання цэнтральнай улады. Суседнія дзяржавы былі зацікаўлены ў аслабленні Рэчы Паспалітай, каб мець магчымасць паўплываць на яе ўнутраную і знешнюю палітыку. Падчас Паўночнай вайны дамінуючую ролю тут пачала адыгрываць Расія. У час безуладдзя 1733–1734 гг. рашэнне пытання аб троне Рэчы Паспалітай ужо цалкам залежала ад суседніх дзяржаў. У гады Паўночнай вайны ўзніклі і першыя планы падзелу Рэчы Паспалітай. Палітычная анархія і безуладдзе канца XVII – першай паловы XVIII ст. паставілі краіну на мяжу катастрофы, што ў рэшце рэшт прывяло да падзелаў Рэчы Паспалітай і гібелі дзяржавы ў канцы XVIII ст.

# ГЛАВА 2

# САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## 1. Дэмаграфічны і эканамічны крызіс (другая палова XVII – пачатак XVIII ст.)

**Зруйнаванне вёскі.** Другая палова XVII – XVIII ст. – адзін з найбольш драматычных перыядаў у гісторыі Беларусі, які характарызуецца эканамічным і палітычным заняпадам у выніку спусташальных войнаў і звязаных з імі бедстваў.

Гэты трагічны перыяд пачаўся з казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг. і вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг., якія закранулі большую частку тэрыторыі Беларусі і выклікалі катастрафічныя разбурэнні і эпідэміі. Частка насельніцтва была прымусова вывезена маскоўскімі вайскоўцамі ў Расію. Колькасць насельніцтва Беларусі з 1650 па 1667 г. скарацілася больш чым у два разы: з 2,9 млн да 1,4 млн чалавек[1]. Стан асобных зямель Вялікага княства Літоўскага сейм 1661 г. характарызаваў наступным чынам: Гродзенскі павет "ператвораны ў руіны і пераважная частка яго спалена", Ашмянскі і Браслаўскі "ўшчэнт разбураны ворагам", Слонімскі "амаль датла спалены і разграблены непрыяцелем", Ваўкавыскі "ў многіх месцах пагарэўшы", Аршанскі "ўшчэнт разбураны і спалены", ваяводствы Менскае, Полацкае, Мсціслаўскае "цалкам спустошаны маскоўскім непрыяцелем", Берасцейскае ў "большай сваёй частцы ператворана ў папялішча і поўнасцю разбурана"[2].

Значныя маштабы разарэння фіксуюць і інвентарныя вопісы асобных уладанняў. Больш чым напалову (на 56 %) скарацілася колькасць сялянскіх гаспадарак у буйным маёнтку князёў Радзівілаў Смаргоні Ашмянскага павета, былі разбураны ўсе гаспадарчыя пабудовы, а панская ворная зямля

[1] *Карпачев А.М., Козловский П.Г.* Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в./Тез. докл. и сообщ. 10-й сессии симпоз. по аграрн. истории Восточн. Европы. Мн., 1968. С. 92.

[2] Volumina legum. Petersburg, 1859. T. 4. S. 386–389.




Восеньскія работы. А Тарасевіч. 1672 г.

амаль цалкам закінута[1]. У тым жа павеце загінулі амаль усе сяляне маёнтка Паставы. Паводле інвентару 1672 г., у гэтым мястэчку і трох навакольных вёсках засталося толькі пяць сем'яў. Усе гаспадарчыя пабудовы былі знішчаны ў Мядзельскім старостве Віленскага ваяводства. Паводле інвентару 1663 г., у сямі вёсках маёнтка Манькавічы Пінскага павета пуставалі 129 дымоў з 297 (43 %).

Карціна поўнага запусцення Клецкага ўладання Радзівілаў адлюстравана ў інвентарах другой паловы XVII ст. Згодна з апісаннем 1655 г., сяляне некаторых вёсак знаходзіліся ў такім жабрацкім стане, што не маглі плаціць падаткі, таму што іх палі "пазарасталі лесам". Згодна даных за 1679 г., у Клецкім княстве не хапала амаль паловы (46 %) сялянскіх гаспадарак у параўнанні з даваенным узроўнем. На 81 %, з 1087 да 216, скарацілася колькасць сялянскіх гаспадарак у маёнтку Смалявічы Менскага ваяводства. Сяляне страцілі 88 % коней і 97 % валоў. Колькасць закінутых валок павялічылася з 9 да 362.

Значна спустошаны былі дзяржаўныя ўладанні. Паводле даных на 1667 г., Гародзенская эканомія налічвала 3590 пустых дымоў, альбо 35 % іх агульнай колькасці, аб'яднаныя разам Берасцейская і Кобрынская эканоміі – 5899 (52 %), Віцебская – 807 (74 %). На ўсходзе Беларусі ў Крычаўскім старостве ў 1671 г. пуставала больш за 60 % сялянскіх двароў, у Прапойскім старостве ў 1667 г. – амаль 31 %. На 18 %, з 5118 да 4197, зменшылася колькасць сялянскіх гаспадарак у Магілёўскай эканоміі[2].

Падчас войнаў сярэдзіны XVII ст. адбылося значнае скарачэнне колькасці ворыўнай зямлі. У 1669 г. у маёнтку Палона Полацкага ваяводства з 456 валок пуставала 250, ці 55 %, у Прапойскім старостве ў 1681 г. – 72 %, у Дубровенскім графстве ў 1672 г. – 73 %, у маёнтку Цепра Наваградскага ваяводства ў 1664 г. – 65 %, у маёнтку Давыд-Гарадок Пінскага павета ў

---

[1] *Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. Мн, 1969. С. 183.

[2] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII–XVIII в.). С. 18.

1691 г. – 46 %[1]. У Шклоўскім графстве, паводле інвентару 1661 г., не апрацоўвалася 75 % ворыўнай зямлі, больш за палову (54 %) яе пуставала ў Копыскім графстве. Паводле даных інвентару 1679 г., шмат ворыўнай зямлі пуставала ў Гаінскім старостве Менскага ваяводства, з трох фальваркаў два пуставалі.

Разбурэнням, збядненню насельніцтва спадарожнічалі голад, эпідэміі, вялікая смяротнасць. У пачатку другой паловы XVII ст. маравая пошасць ахапіла значную частку тэрыторыі Беларусі. У Шклоўскім графстве, напрыклад, ад голаду і эпідэміі памерла толькі мужчынскага полу 10 804 чалавекі. З 160 вёсак графства пуставала 31, а ў асобных вёсках засталося па адной ці некалькі сялянскіх гаспадарак. З прычыны маравой пошасці ў 1653 г. Берасцейскае ваяводства не змагло выплаціць дзяржаўныя падаткі. Спрыяльнай глебай для распаўсюджвання эпідэміі была галеча, якая стала ў тыя часы звычайнай для Беларусі з'явай. Гэта прымусіла караля Яна Казіміра ў сакавіку 1653 г. выдаць універсал, у якім у прыватнасці адзначалася, што "ў гарадах і мястэчках ВКЛ значна пашырылася ўбоства, усе вуліцы запоўнены жабракамі, адкуль падставы да розных хвароб і зараз"[2].

Падчас ваеннай навалы сярэдзіны XVII ст. былі разбураны і спустошаны ў той ці іншай ступені ўсе рэгіёны Беларусі. Найбольш пацярпелі Полацкае ваяводства (колькасць дымоў скарацілася на 70 %), Мсціслаўскае (69 %) і Аршанскі павет Віцебскага ваяводства (67 %). Больш за палову гаспадарак было вынішчана ў Менскім (60 %), Віцебскім (59 %), Рэчыцкім (58 %), Мазырскім (56 %), Браслаўскім (53 %), Ашмянскім (больш за 50 %) паветах. Крыху менш пацярпелі Берасцейскі павет (44 %), Пінскі (39 %), Навагрудскі (каля 38 %), Гародзенскі (29 %). Адносна меншыя разбурэнні панеслі паветы на захадзе Беларусі – Ваўкавыскі (24 %), Лідскі (19 %) і Слонімскі (13 %)[3].




Свежаванне парсюкоў. А.Тарасевіч. 1672 г.

[1] *Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. С. 184.

[2] Историко-юридические материалы (далей – ИЮМ). Вып. 10. Витебск, 1879. С. 251.

[3] *Morzy J.* Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965. (tabl. 22, 24.).

У гістарычнай літаратуры трывала замацавалася думка аб тым, што ў час войнаў сярэдзіны XVII ст. найбольш пацярпелі духоўныя (маюцца на ўвазе ўладанні каталіцкага духавенства) і дзяржаўныя ўладанні, менш – шляхецкія. Апошнія, як лічаць даследчыкі, валодалі значна большай прававой абаронай, мелі льготы ў адносінах да ваенных падаткаў, а галоўнае, шляхта ўжывала ўсе сродкі (пратэст, водкуп, зброя), каб абараніць ад разарэння свае маёнткі і сваіх прыгонных. У цэлым гэта так. Аднак ступень разбурэння ўсіх тыпаў уладанняў у розных рэгіёнах Беларусі была рознай. На захадзе і ў цэнтры Беларусі шляхецкія маёнткі пацярпелі менш за іншыя. Напрыклад, у Наваградскім ваяводстве ў шляхецкіх маёнтках было знішчана 28 % дымоў, у дзяржаўных – 51, ва ўладаннях духавенства – 54, у Берасцейскім ваяводстве ў шляхецкіх – 29, у дзяржаўных – 56, у духоўных – 38, у Менскім – адпаведна 58 %, 60 %, 71 %. На ўсходзе Беларусі значнае разбурэнне пацярпелі ўсе тыпы ўладанняў, у тым ліку і шляхецкія. Так, у Полацкім ваяводстве спустошаныя дымы ў шляхецкіх маёнтках складалі 62 %, у дзяржаўных – 70, у духоўных – 92, у Віцебскім – адпаведна 61 %, 71 % і 80 %, у Мсціслаўскім – працэнт знішчаных дымоў у шляхецкіх і дзяржаўных маёнтках аднолькавы – 69, уладанні каталіцкай царквы былі знішчаны цалкам. У сярэднім па тэрыторыі Беларусі страты дымоў у шляхецкіх маёнтках складалі амаль 39 %, у дзяржаўных – 55, ва ўладаннях каталіцкай царквы дасягалі 60 %.

**Заняпад гарадоў**. У часы ваеннага ліхалецця сярэдзіны XVII ст. большасць гарадоў і мястэчак Беларусі была спустошана, некаторыя цалкам спалены. Падчас казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг. асабліва пацярпелі гарады на поўдні і паўднёвым усходзе Беларусі – Берасце, Пінск, Тураў, Мазыр, Рэчыца, Бабруйск, Чэрыкаў, Лоеў, Брагін, Гомель. Вялікая колькасць беларускіх гарадоў і мястэчак пацярпела ў час вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. Амаль цалкам былі знішчаны Мсціслаў. Віцебск, Дуброўна, Орша, Ляхавічы. З буйных беларускіх гарадоў толькі Слуцк не быў захоплены варожымі войскамі, нягледзячы на аблогу і неаднаразовыя прыступы.

Асабліва пацярпелі гарады Усходняй Беларусі. Магілёў страціў 1790 (каля 76 %) дымоў, Полацк – 1398 (93 %), Быхаў – 1296 (65 %), Віцебск – 925 (94 %), Копысь – 183 (амаль 41 %). Была знішчана большая частка Шклова. Паводле даных за 1661 г., у горадзе засталося ўсяго 490 дымоў, ці 40 % ад даваеннай колькасці. Цалкам былі спалены прадмесці горада, дзе да вайны налічвалася больш за 600 дымоў. Высокі працэнт разбурэнняў назіраўся і ў гарадах на поўдні Беларусі. Пасля захопу маскоўскім войскам Берасця ў студзені 1660 г., паводле звестак сучаснікаў тых падзей, "горад быў ушчэнт разбураны і спалены, жыхароў амаль не засталося"[1]. Колькасць дымоў у Берасці зменшылася на 42 %, у Пінску – на 70, у Тураве – на 72, у Кобрыне – на 69, у Пружанах – на 80 %. Пацярпелі гарады і ў іншых рэгіёнах Беларусі. У выніку ваенных дзеянняў быў моцна разбураны Менск. Частка жыхароў пакінула горад. Паводле гістарычных крыніц, у 1667 г. у Менску налічвалася толькі каля 300 дымоў[2]. У параўнанні з даваенным узроўнем колькасць дымоў у Слуцку паменшылася на 667 (45 %), у Клецку – на 252 (51 %).

---

[1] АВАК. Вильна, 1870. Т. 3. С. 362–363.

[2] Гісторыя Мінска. Мн., 1967. С. 52.

Улічваючы цяжкі стан litaрадоў краіны, сейм Рэчы Паспалітай вымушаны быў на працягу 60-х гг. XVII ст. прыняць пастановы аб вызваленні іх ад падаткаў. Паводле гэтых пастаноў, 22 беларускія гарады, у тым ліку самыя буйныя (Магілёў, Берасце, Менск, Слуцк, Пінск, Віцебск, Полацк) вызваляліся на чатыры гады (Ляхавічы былі вызвалены на 9 гадоў, а Быхаў – нават на 20 гадоў) ад усіх падаткаў на карысць дзяржавы, акрамя чопавага і пошлінных збораў.

У гарадах Беларусі адбылося значнае скарачэнне рамеснай вытворчасці. Аб гэтым яскрава сведчыць змяншэнне колькасці рамеснікаў і адпаведна рамесных прафесій у параўнанні з даваенным часам. Напрыклад, у Шклове ў сярэдзіне XVII ст. налічвалася 288 рамеснікаў 47 прафесій, а паводле даных на 1661 г. засталося не больш 120 рамеснікаў 18 прафесій. У Копысі за гэты ж час колькасць рамесных прафесій скарацілася з 37 да 10, у Клецку – з 41 да 25[1].

**Разбурэнні падчас Паўночнай вайны**. Пасля трох дзесяцігоддзяў адносна мірнага развіцця ў канцы XVII ст., калі працэс аднаўлення гаспадаркі пачаў паступова набіраць устойлівасць, на Беларусь насунулася новая навала – Паўночная вайна. Беларускія землі на доўгі час пераўтварыліся ў асноўны тэатр баявых дзеянняў паміж шведскімі і расійкімі войскамі. Зноў руйнаваліся гарады і вёскі, вынішчалася насельніцтва. Утрыманне шматтысячных армій Расіі і Швецыі забяспечвалася за кошт прымусовых пабораў з мясцовых жыхароў. Паводле аднаго з універсалаў расійскага камандавання з кожнай сялянскай гаспадаркі штомесяц трэба было паставіць адну салянку (амаль 68 л) аўса, воз сена і воз дроў. Згодна з ардынансам Карла XII (пачатак 1708 г.) для шведскай арміі з кожнага дыма спаганялася 10 талераў бітых (60 злотых) і адзін конь[2]. Свавольствы і рэпрэсіі замежных вайскоўцаў сталі звычайнай з'явай. У адносінах да прыхільнікаў шведскага караля расійцы прымалі самыя жорсткія меры. "У Радзівілавых маёнтках дзе што будзе знойдзена немалочанага і малочанага хлеба, таксама і іншых, якія шведскага боку, браць увесь"[3], – падкрэслівалася ў царскім загадзе.

Двойчы праз Беларусь праходзілі войскі Карла XII, пакідаючы пасля сябе разбураныя і спустошаныя гарады, спаленыя вёскі. "Калі прыйшлі шведы, – скардзілася лідская шляхта ў 1706 г., – дамы, двары шляхецкія і панскія агню былі аддадзены з прычыны нявыдачы правіянту"[4]. Як паведам-



Берасце. Гравюра 1657 г.

---

[1] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. С. 64, 75.
[2] НГАБ, ф. 694, воп.4, спр. 1691, арк. 36, 70 ад.
[3] Письма и бумаги императора Петра Великого. СПб., 1907. Т. 5. С. 28.
[4] НГАБ, ф. 1722, воп. 1, спр. 69, арк. 774.

лялі сучаснікі, шведы, каб даведацца, дзе схавана збожжа, жорстка катавалі сялян: "Мучаюць, вешаюць, паляць мужыкоў, каб ямы хлебныя паказвалі"[1]. Гарады і маёнткі прыхільнікаў Аўгуста II мэтанакіравана разбураліся і спустошаліся. Шведы спалілі Мір, Клецк, Карэлічы, Ляхавічы, Нясвіж, разрабавалі Гародню, Пінск, Навагрудак, Ліду, Менск, Магілёў.

У вопісах страт, якія панесла насельніцтва, адзначаюцца збожжа, жывёла, прадукты харчавання, адзенне, грошы. Так, у сакавіку 1703 г. атрад шведаў пад камандаваннем Г.Горна абрабаваў у Берасці свіран і лодкі са збожжам[2]. У 1706 г. значна пацярпеў ад шведаў буйны маёнтак Сенчыцы Пінскага павета, пры гэтым загінула ўсё збожжа, як азімае, так і яравое[3]. У фальварку Касынь Менскага ваяводства (уласнасць Валадковіча) шведы знішчылі ўсе пабудовы, а калі адыходзілі – забралі ўсю маёмасць, нават "млынок"[4]. Амаль месяц "гаспадарылі" войскі Карла XII у Магілёве. Жыхароў горада катавалі, саджалі "ў скляпы, мучылі голадам, у халодную ваду голых саджалі, на бэльках пад столлю завешвалі"[5]. Каб ўратавацца ад рабаванняў і гвалту, большасць жыхароў пакінула горад. Разрабаваўшы цэрквы, касцёлы і манастыры, шведы вывезлі з Магілёва шмат розных каштоўнасцей, толькі аднаго срэбра больш за 9 пудоў.

У першай палове 1708 г. расійская армія пад націскам шведаў пачала пакідаць тэрыторыю Беларусі і адыходзіць на ўсход, да сваёй дзяржаўнай мяжы. У сувязі з гэтым быў выдадзены загад, паводле якога пры адступленні павінны былі "правіянт, фураж, таксама жывёлу, коней, валоў і авечак забіраць з сабою, колькі магчыма, а калі немагчыма, дык правіянт і фураж паліць"[6]. Для гэтай мэты ствараліся спецыяльныя атрады, якія ўсё знішчалі за адыходзячай расійскай арміяй. Сведкі тых падзей адзначалі, што "цар маскоўскі абцяжарваў Рэч Паспалітую нязноснымі паборамі і рознымі правіянтамі, а потым, адыходзячы ад шведскага войска, дашчэнту разбураў, як Карону, так і цэлае Княства Літоўскае, спальваючы дамы, гумны, у палях копы знішчаючы і коней табунамі ўганяючы"[7].

У гэты час асабліва пацярпела тэрыторыя Усходняй Беларусі. У верасні 1708 г. па загаду Пятра I расійскія войскі спалілі Мсціслаў, Оршу, Дуброўну, Віцебск, Магілёў. Значна былі разбураны і іншыя гарады. Так, Крычаў перад Паўночнай вайной налічваў амаль 500 дымоў, а пасля вайны не больш за 20 (4 %)[8]. На трэць, з 1030 да 728, зменшылася колькасць дымоў у Шклове. Крайняя ступень спустошэння ўсходніх ваяводстваў краіны – Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага – адзначалася і дэпутатамі Варшаўскага Вальнага сейма 1710 г. Толькі ў адным Мсціслаўскім ваяводстве ў жніўні–кастрычніку 1708 г. расійскія войскі разрабавалі вёскі Лужкі, Пасахава, Калтужын, Глебкавічы, Бабры, Панахатавічы, Ціханова, Конаны,

---

[1] Труды Императорского русского военно-исторического общества. СПб., 1909. Т. 1. С. 122.

[2] АВАК. Т. 6. 1872. С. 478–479.

[3] НГАБ., ф. 1733, воп. 1, спр. 20, арк. 1195.

[4] НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 4069, арк. 266 ад.

[5] АСД. Т. 2. Вильна, 1867. С. 59.

[6] АР РДБ, ф. 743, кард. 1, спр. 6, арк. 97.

[7] НГАБ, ф. 1729, воп. 1, спр. 11, арк. 40.

[8] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1159, арк. 146.

Зялiўкi, Кандратовiчы, Валоўнiкi, Хялькевiчы[1]. Такiя вёскi гэтага ваяводства, як Мiрахоўшчына, Свяцiлава, Малашкевiчы, Добрае, былi разрабаваны як расiйскiмi, так i шведскiмi вайскоўцамi[2].

**Стан эканомiкi Беларусi ў пачатку XVIII ст.** Працяглыя баявыя дзеяннi памiж расiйскiмi i шведскiмi войскамi, масавыя рэквiзiцыi правiянту, коней, транспартных сродкаў, а таксама голад i эпiдэмii, якiя заўсёды спадарожнiчалi войнам, прывялi да значных страт сярод мiрнага насельнiцтва i запусцення цэлых рэгiёнаў Беларусi. Каля 86 % насельнiцтва страцiла Шклоўскае графства, на 43 % зменшылася колькасць сялянскiх гаспадарак у Копыскiм графстве. Пуставалi дзесяткi вёсак у Крычаўскiм старостве. Iнвентар 1712 г. Берасцейскай i Кобрынскай каралеўскiх эканомiй адзначаў iх страшэннае запусценне: "гарады Берасце, Кобрын, Гарадзец цалкам разбураны, дамы спалены, людзi вымерлi, другiя разышлiся"[3]. Люстрацыя 1712 г. маёнткаў вiцебскага ваяводы Казiмiра Пацея зафiксавала карцiну спустошэння ў Вiцебскiм ваяводстве. Так, у некалi моцным маёнтку Лужэсна, дзе "раней акрамя жыхароў, колькасцю да 100, пражывала адных толькi плытагонаў 20 i цесляроў 15, зараз знойдзен усяго адзiн селянiн i нiводнай пабудовы, а бачны былi толькi рады магiл ды сляды былых сядзiб, якiя параслi пустазеллем". У вёсках Астроўскiя i Стайкi засталося толькi па два жыхары, у в.Мяккiя – нiводнага[4]. У крынiцах пасляваеннага часу, якiя тычылiся Магiлёўскай эканомii, адзначалася, што "шмат сялян павымiрала, палова вёсак абязлюдзела, а ў iншых па тры, чатыры селянiны"[5]. Эпiдэмiя, лютаваўшая ў пачатку XVIII ст., стала прычынай значнага змяншэння насельнiцтва на Гародзеншчыне. Эпiдэмiя ў Гароднi ў жнiўнi-верасні 1710 г. прывяла да таго, што "ўвесь горад апусцеў". У Навагрудку пасля эпiдэмii 1708 г. засталася толькi палова жыхароў[6]. Агульныя страты насельнiцтва Беларусi за гады Паўночнай вайны склалi 31 % (амаль 700 тыс. чалавек).



Танец смерцi. Выява з бернардынскага касцёла ў Кракаве. Другая палова XVII ст.

Аб памерах заняпаду сельскай гаспадаркi Беларусi ў пачатку XVIII ст., як i паўсотню гадоў таму назад, можна меркаваць i па колькасцi закiнутых валок. Падобнае становiшча назiралася i на захадзе Беларусi. У Берасцей-

[1] НГАБ, ф. 1729, воп. 1, спр. 10, арк. 163, 165, 170, 175, 280, 291, 313, 369, 382, 395; спр. 11, арк. 285.

[2] Там жа, спр. 10, арк. 367; спр. 11, арк. 6, 17, 20.

[3] НГАБ у Гродне, ф. 1143, воп. 1, спр. 434, акр. 28.

[4] ИЮМ. Вып. 20. Витебск, 1890.С. 258–259.

[5] ИЮМ. Вып. 11. Витебск, 1880. С. 497.

[6] *Грицкевич В.П.* С факелом Гиппократа. Мн., 1987. С. 46.

скай эканоміі пуставала больш за 40 % валок, у Гародзенскай эканоміі не апрацоўвалася амаль 70 % ворыўных зямель.

Паўночная вайна прывяла да рэзкага скарачэння пагалоўя рабочай жывёлы ў сялянскіх гаспадарках. Калі ў канцы XVII ст. у Копыскім графстве толькі на вёсцы налічвалася 1399 коней, дык у 1710 г. ва ўсім уладанні, уключаючы і горад, іх засталося ўсяго 279, г. зн. зменшылася больш чым на 80 %. У Кобрынскай эканоміі ў 1724 г. не было рабочай жывёлы ў 30 % сялянскіх гаспадарак, у асобных вёсках Берасцейскай эканоміі амаль палова сялянскіх гаспадарак засталася без коней.

Змены адбыліся і ў забяспечанасці зямлёю сялянскіх гаспадарак. Паводле падлікаў беларускіх даследчыкаў, для разглядаемага перыяду было характэрным змяншэнне памераў сялянскіх надзелаў. На працягу другой паловы XVII – пачатку XVIII ст. сярэдні зямельны надзел прыватнаўласніцкіх сялян Беларусі скараціўся з 0,72 да 0,54 валокі, дзяржаўных – з 0,57 да 0,42 валокі, царкоўных – з 0,47 да 0,39 валокі[1].

Такім чынам, на працягу другой паловы XVII–пачатку XVIII ст. шматгадовыя войны, голад і эпідэміі прывялі да велізарных людскіх страт, гаспадарчага разбурэння і эканамічнага заняпаду беларускіх зямель.

## 2. Шляхі пераадолення крызісу. Становішча сялянства

**Спробы аднаўлення сялянскіх гаспадарак**. Як ужо адзначалася, эканоміка Беларусі ў другой палове XVII – першай палове XVIII ст. двойчы цярпела разбурэнне ў выніку ваенных падзей 1648–1667 гг. і 1704–1717 гг. Двойчы пачынаўся і працэс узнаўлення. Аднаўленчыя працэсы абодвух перыядаў мелі падабенства. Больш таго, калі ў другой палове XVII ст. ішлі не заўсёды лёгкія пошукі магчымых шляхоў гаспадарчага адраджэння на розных тэрыторыях і ў розных відах уладанняў, то пасля Паўночнай вайны ў многім выкарыстоўваўся папярэдні вопыт.

Ужо стала зразумела, што толькі сялянства – асноўная вытворчая сіла тагачаснага грамадства – зможа аднавіць эканоміку краіны, дзяржаўныя і прыватныя маёнткі. Таму і ў першым, і ў другім выпадку стаўка была зроблена менавіта на яго. Акрамя таго, гаспадарчае адраджэнне праводзілася шляхам стварэння больш спрыяльных умоў працы і жыцця сялянства, выдання цэлай сістэмы (хоць і часовай) пэўных эканамічных ільгот па карыстанню сялянамі зямлёй. Да гэтага падштурхоўвала тое, што ў краіне з'явілася шмат ворыўнай зямлі, якая не выкарыстоўвалася, а людзей, у першую чаргу мужчын, якія маглі б яе апрацоўваць, не хапала.

Наогул аднаўленчы перыяд у беларускай вёсцы можна вызначыць як час асваення новых зямель, якія ажыццяўляліся за кошт пустэч і распрацоўкі лясных нерушаў. У неваенныя гады першай паловы XVIII ст. з'яўляецца дастаткова вялікая колькасць новых населеных пунктаў. Так, у Сыр'янскай воласці Друйскага ўладання ў гэты час, галоўным чынам за кошт асваення новых зямель, насельніцтва павялічылася ледзь не ў паўтара раза. З'явіўся шэраг новых вёсак у іншых уладаннях: Навасёлкі ў Цімкавіцкім графстве, Шахаўшчына, Будзішча, Сапракі і іншыя ў Чачэрскім старостве. З 1714 па

---

[1]*Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. (табл. 3, 6, 9).



Восеньскія сельскагаспадарчыя работы. А.Тарасевіч. 1672 г.

1727 г. у Крычаўскім старостве на былых лясных абшарах узнікла 40 новых вёсак, дзе налічвалася 933 дымы[1].

Імкненне сялян да асваення новых зямельных угоддзяў тлумачылася шэрагам прычын. Па-першае, свежараспрацаваныя лясныя глебы ў першыя гады эксплуатацыі давалі куды лепшы ўраджай, чым ужо знясіленыя на працягу дзесяцігоддзяў старыя надзелы. Не патрабавалі новыя землі і ўгнаенняў, якіх не хапала ў сялянскай гаспадарцы з-за адсутнасці ў дастатковай колькасці жывёлы. Па-другое, селянін, што браўся за распрацоўку лясных нерушаў, атрымліваў добры будаўнічы матэрыял і дровы, якіх было дастаткова не толькі для самазабеспячэння, але і для прамысловай дзейнасці. Самай жа асноўнай прычынай, што падштурхоўвала сялянскія сем'і да працаёмкай справы – распрацоўкі пустэч, былі льготы ў павіннасцях, так званыя "слабоды", якія атрымлівалі новапасяленцы.

Так, у Магілёўскай эканоміі, паводле каралеўскай "уставы", усе сяляне-"новікі" (новыя пасяленцы) маглі ўзяць зямлі столькі, колькі здольныя былі апрацаваць. Яны вызваляліся на некалькі гадоў ад выплаты падаткаў і выканання шэрагу адпрацовачных павіннасцей. У выніку такой палітыкі з 1712 па 1742 г. колькасць пустых валок ва ўладанні скарацілася з 1537 да 419. У Сапегаўскім маёнтку Беліца Аршанскага павета ў 1690 г. цяглыя старажылы выконвалі чатыры дні паншчыны з валокі на тыдзень, а з новапасяленцаў патрабаваліся толькі два дні з надзелу такой жа зямельнай плошчы. У радзівілаўскай Смаргоні ў 1672 г. "новікам" дазвалялася тры гады не выконваць ніякіх павіннасцей[2].

Як ужо адзначалася, за гады войнаў рэзка зменшылася і колькасць цяглавай сілы, галоўным чынам коней, якія звычайна рэквізоўваліся ў войска. Напрыклад, сярэдняя забяспечанасць цяглавай жывёлай дзяржаўных сялян Беларусі ў разглядаемы час склала ўсяго 0,8 запрэжкі на гаспадарку,

[1]*Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. С. 52, 53; *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 35.

[2]*Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 30–31; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII–XVIII вв. Владение Сморгонь. Мн., 1977. С. 78; НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 12, арк. 9–10.

што не дазваляла весці пашыраную вытворчасць[1]. У гэтых умовах землеўласнікі прымалі розныя меры для ўмацавання гаспадарчай базы сялянства. Разумеючы, што без дастатковай колькасці цяглавай сілы сяляне не змогуць апрацаваць свой надзел, а значыць, і выплаціць чынш ці адпрацаваць паншчыну, феадалы ў шэрагу выпадкаў ішлі на часовае забеспячэнне сялянскіх гаспадарак рабочай жывёлай з панскага двара. Так, інвентар маёнтка Гарадзішча Навагрудскага ваяводства за 1719 г. паведамляе, што з 20 сялянскіх гаспадарак в.Вялікія гэтага ўладання 9 мелі ў сваім карыстанні 13 дворных валоў[2]. Прыклад гэты не адзінкавы. У інвентары нават уключаліся пастановы аб забароне сялянам прадаваць уласных коней і валоў без панскага дазволу. Продаж дазваляўся толькі тады, калі падданы меў магчымасць чым апрацаваць сваю зямлю і адпрацаваць паншчыну[3]. Вядомы выпадкі, калі землеўласнікі бясплатна выдавалі сялянам лес на адбудову гаспадарчых і жылых пабудоў, зніжалі павіннасці маламоцным. Так было, калі прасіла падтрымкі ўдава з маёнтка Любавічы а матывацыяй, што "маю сына і дачку ..., як дзеці вырастуць, то падданыя будуць", ці калі ў 1686 г. у в. Міхейкі маёнтка Абуховічы пісар адзначыў у інвентары, што Ілья Юшкевіч не ходзіць на паншчыну, а толькі плаціць чынш "да ўзросту" сына Івана[4].

Паказальна, што ў тых умовах, калі дзяржаве катастрафічна не хапала сродкаў, яна не пайшла на рабаўнічае павышэнне падаткаў, а землеўласнікі не сталі рэзка ўзмацняць павіннасны гнёт, бо ведалі, што толькі пры ўмацаванні асабістай гаспадаркі сялян можна было ўзняць гаспадарку панскую. Здаецца, што ўлада разумела першачарговую неабходнасць стварэння эканамічнай асновы далейшага аднаўлення гаспадаркі.

Як адзначалася вышэй, ад войскаў найбольш пацярпела "простае" насельніцтва. Бачылі гэта і прадстаўнікі пануючага класа. Тым больш што на адрас караля, сейма, мясцовай адміністрацыі ішла інфармацыя аб немагчымасці выплаты прызначаных на сеймах падаткаў. Напрыклад, аб гэтым заяўлялі ў 1653 г. бурмістры і войты мястэчак і валасцей Пінскага павета[5]. Спасылаючыся на рашэнне Варшаўскага 1661 г. сейма[6], ураднікі маёнткаў Глуск і Парэчча Навагрудскага ваяводства, а таксама маёнтка Рудабелка Мазырскага павета Менскага ваяводства дакладвалі аб спусташэнні гэтых уладанняў і немагчымасці выплаты падаткаў. У маёнтку Рудабелка, "у якім перад тым падаткі да Мазыра аддавалі з аселых васьмі дымоў, астатнія ўсе дамы пустымі засталіся"[7]. Падобныя скаргі ішлі з Давыд-Гарадка і воласці, многіх іншых мясцін Беларусі[8]. У некаторых выпадках адкрыта заяўлялася, як гэта было ў 1662 г. у Давыд-Гарадоцкай воласці, што "зараз, па канстытуцыі мінулага года і дэкрэту трыбунала скарбовага ВКЛ, павінна быць дадзена вольнасць тыя налічэнні выконваць"[9]. Як сведчаць крыніцы, сапраўды ў

---

[1]*Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. С. 92, 152 (табл. 1).

[2]РА БАН Літвы, ф. 86, спр. 13.

[3]НГАБ, ф. 1921, воп. 1, спр. 217, арк. 36–86; ф. КМФ–5, воп. 1, спр. 1625, арк. 24 адв.

[4]ДГА Літвы, ф. 1177, воп. 1, спр. 3772, арк. 17; РА БАН Літвы, ф. 40, спр. 85, арк. 179.

[5]Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 179.

[6]Там жа. С. 181–185.

[7]НГАБ, ф. 1730, воп. 1, спр. 2, арк. 1757–1758 адв.

[8]Там жа, ф. 694, воп. 4, спр. 906, арк. 56–57, 61, 73.

[9]Там жа, арк. 64.

першыя гады пасля ваеннага "патопу" ўлада даволі часта давала палёгку найбольш пацярпелым.

Такім чынам, спробы падтрымкі як вытворцаў, так і самой вытворчасці пачыналіся адразу пасля заканчэння ваенных дзеянняў ці ў час іх перапынкаў. Але яны былі не заўсёды падобнымі ў розных відах феадальнага землеўладання: дзяржаўнага, прыватнаўласніцкага, царкоўнага.

**Эканамічнае аднаўленне ў дзяржаўных уладаннях.** Як ужо адзначалася, вялікая колькасць зямлі ў краіне запусцела, зарастала лесам і не прыносіла ніякага даходу. Уведзеныя льготы пацярпелым валасцям і мястэчкам па выплаце дзяржаўных падаткаў яшчэ больш пагоршылі фінансавае становішча дзяржавы. Пачаліся пошукі магчымых шляхоў паляпшэння эканамічнай сітуацыі. У дзяржаўных уладаннях сталі выкарыстоўвацца самыя розныя формы гаспадарання. Для сялян, якія бралі для апрацоўкі дадатковыя землі, уводзіліся новыя льготы. Пустуючыя валокі здаваліся на ўмовах аблегчанага чыншу – галоўным для землеўласніка было тое, каб зямля не пуставала, не зарастала лесам. Усё шырэй распаўсюджвалася сістэма апрацоўкі зямлі па-за межамі асноўнага надзелу – так званае пазанадзельнае землекарыстанне. У крыніцах паведамляецца аб з'яўленні ў гэты час вялікай колькасці новых найменняў сялянскіх надзелаў, якія адлюстроўвалі спецыфіку іх выкарыстання: прыёмныя, лазовыя, бакавыя, абапольныя, мала і вялікачыншавыя, наезныя, снаповыя, слабодскія і інш. Феадальны ўласнік імкнуўся праз ільготы стымуляваць падданых браць дадатковую да асноўнага надзелу зямлю, а ў некаторых выпадках нават абавязваў іх гэта рабіць.

Увядзенне сістэмы нізкага чыншу з дадатковых зямель у параўнанні з рэнтай з асноўнага цяглага ці чыншавага надзелу сапраўды заахвочвала сялян на іх апрацоўку. У некаторых дзяржаўных маёнтках ствралася сістэма "слабод", калі селянін ці цэлая вёска, асеўшы на запусцелай дзялянцы, атрымлівалі пэўныя льготы ў адбыванні павіннасцей, а то і поўнасцю вызваляліся ад іх на некалькі гадоў. Напрыклад, складальнік інвентару Гомельскага староства за 1681 г., апісваючы слабаду Крупецкую, дзе налічвалася 15 дымоў, адзначыў: "... той вёскі яшчэ слабада не вышла, адпаведна выдадзенага ліста, бо аж да 1682 года яшчэ трымацца будзе". На вёску не накладваліся ніякія павіннасці, зямля не была вымерана[1].



Узворванне і баранаванне. З плана в.Жабін 1682 г.

[1] НГАБ, ф. 694, воп. 7, спр. 259, арк. 20.



5 Зак. 2567

У большасці буйных дзяржаўных уладанняў Беларусі – эканоміях і некаторых староствах у другой палове XVII – першай палове XVIII ст. галоўным прынцыпам узнаўлення гаспадаркі пасля разбуральных войнаў стала адмова ад фальварка і паншчыны і перавод сялян на чынш. Шляхам пераводу сялян з адработачнай рэнты на грашовую ўлады дамагаліся павелічэння фінансавых паступленняў, якія былі крайне неабходны дзяржаве ў час вядзення войнаў. Чынш, што спаганяўся з сялян, быў найбольш прымальным варыянтам для патрэб дзяржавы падчас пагаршэння ўмоў экспарту сельскагаспадарчай прадукцыі. Да таго ж ліквідацыя фальварка вызваляла сродкі, неабходныя на яго ўтрыманне. Ды і для выканання паншчыны ў моцна разбураных каралеўскіх эканоміях проста не хапала рабочых рук. Так, у Магілёўскай эканоміі на працягу другой паловы XVII – першай паловы XVIII ст. з сялян патрабавалі выключна грашовую рэнту, як і раней. У Гародзенскай эканоміі фальваркі, а разам з імі і адработачныя павіннасці былі ліквідаваны ў 1680 г. У крыніцах адзначаецца, што "ўсе ключы Гародзенскай эканоміі ад усялякіх работ, паншчыны і падводаў вызвалены і на голых чыншах пастаўлены". Толькі некалькі фальваркаў захаваліся ў Берасцейскай эканоміі. У 1668 г. з 1712 сялянскіх валок у 57 вёсках толькі 155 (9 %) былі цяглыя, з якіх патрабавалі паншчыну[1]. Нямногія ўцалелыя пасля войнаў фальваркі працягвалі дзейнічаць паблізу сплаўных рэк і асноўных грунтавых шляхоў і былі арыентаваны галоўным чынам на вываз зерня за мяжу.

Гаспадарчая палітыка скарбу ў аднаўленчы перыяд у невялікіх староствах некалькі адрознівалася ад яе правядзення ў буйных дзяржаўных уладаннях. Гаспадарка ў староствах і дробных дзяржавах вялася звычайна пад кіраўніцтвам іх трымальніка. Ён вызначаў, па якім шляху пойдзе аднаўленне: праз фальварак ці ачыншаванне і звычайна выбіраў найбольш лёгкі і прыбытковы шлях. Складаней было, калі маёнтак трапляў у часовае трыманне, арэнду ці заставу. Часовы трымальнік імкнуўся ўзяць як мага больш і адразу; яго не цікавіў лёс чужых падданых. Але ў некаторых выпадках вярхоўны ўласнік спецыяльна ставіў перад арандатарам умову, якая не дапускала злоўжыванняў трымальніка. Так, Уладзіслаў IV, пацвярджаючы ў 1642 г. М.Кішку права на трыманне фальварка Палуйкавічы, патрабаваў "... як перад тым было, захаваць голы чынш пенежны, каторы б за ўсе іншыя павіннасці з кожнае валокі штогод да скарбу (павінны) быць унесены"[2].

У многіх дзяржаўных вёсках распаўсюджвалася практыка апрацоўкі дадатковых "ворных і сенажатных моргаў". Пры некаторым падабенстве іх з прыёмнымі валокамі (за тыя і другія сяляне плацілі толькі чынш і ніколі не абавязаны былі выконваць паншчыну) моргі ў адрозненне ад прыёмных валок звычайна не ўключаліся ў склад сялянскага надзелу. Ад іх у любы час можна было адмовіцца, папярэдзіўшы адміністрацыю.

**Аднаўленчыя працэсы ў прыватных уладаннях**. Гаспадарчае ўзнаўленне ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты і ў буйных магнацкіх вотчынах ішло неаднолькава.

Буйныя землеўладальнікі ажыццяўлялі яго як праз далейшае развіццё фальварка, так і праз ачыншаванне сялянства. Часцей за ўсё на чынш пераводзіліся сяляне ў найбольш разбураных уладаннях, дзе фальваркі цяжка

---

[1] НГАБ, ф. КМФ–5, воп. 1, спр. 467а, арк. 19–304; ф. 1928, воп. 1, спр. 36, арк. 8–81; ДГА Літвы, ф. 110, воп. 1, спр. 3, арк. 188.

[2] Расійская нацыянальная бібліятэка (далей – РНБ), АР і РК, збор Дуброўскага, аўт. 64, арк. 117.

было аднавіць, як гэта было і ў дзяржаўных уладаннях. Фальварковыя землі раздаваліся падданым на ўмовах выплаты чыншу. Так было ў маёнтку Дранеўшчызна ўладання Койданава ў 1668 г., Высокі Двор Наваградскага ваяводства ў 1737 г. і інш. У многіх маёнтках ішоў працэс пераводу цяглых сялян у чыншавыя. Але поўнае ачыншаванне, у адрозненне ад дзяржаўных уладанняў, сустракалася тут рэдка[1].

Буйныя прыватныя ўласнікі, трымаючы ў цэнтральных паселішчах сваіх уладанняў палацы, рэзідэнцыі, дзе размяшчалася шматлікая адміністрацыя, бывалі частыя госці, імкнуліся не дапусціць поўнай ліквідацыі панскага заворвання. У іх, як правіла, меліся грашовыя сродкі, цяглавая жывёла (не ўсе маёнткі на тэрыторыі дзяржавы былі разбураны) для ўзнаўлення фальваркаў. Важнае значэнне для аднаўлення гаспадаркі ў такіх уладаннях мела сістэма спалучэння паншчыны і ачыншавання ў межах асобных вёсак і маёнткаў. Сяляне, у якіх надзел складаўся з цяглай і чыншавай ці прыёмнай частак, сустракаліся ў многіх буйных прыватных уладаннях: у радзівілаўскіх маёнтках Ішкальдзь і Лысіца (1664), Іўе (1685), Беразавец (1681), маёнтку А.Сапегі Дзярэчын (1723) і інш.[2] У менш разбураных магнацкіх маёнтках захаду і цэнтра Беларусі працягвалася інтэнсіўнае вядзенне фальварковай гаспадаркі з цяглым сялянскім надзелам. Паказальна, што ў такіх уладаннях значная колькасць сялян мела ў складзе надзелу і прыёмную долю[3].

Паншчынная гаспадарка пераважала і ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты, хаця тут таксама, як у дзяржаўных і царкоўных уладаннях, мела месца сістэма раздачы зямлі сялянам на ўмовах аблегчанага чыншу. Дробныя і сярэднія феадалы, маючы востры недахоп рабочых рук, для прыцягнення сваіх збеглых ці чужых падданых часта ішлі на памяншэнне падатковага ціску. Таму яны згаджаліся на значнае зніжэнне памераў паншчыны. Аб эфектыўнасці такой палітыкі сведчаць шматлікія факты пераходу гаспадарскіх падданых у шляхецкія маёнткі.

**Эканамічнае аднаўленне ў царкоўных уладаннях**. Буйныя царкоўныя ўладанні, большасць якіх размяшчалася ва Усходняй і Цэнтральнай Беларусі, бадай найбольш пацярпелі падчас ваенных дзеянняў другой паловы XVII–першай паловы XVIII ст. Узнаўленчы працэс у духоўных маёнтках ішоў у асноўным тымі ж шляхамі, што і ў дзяржаўных і прыватных уладаннях, і адрозніваўся толькі рэгіянальнай спецыфікай. Па-рознаму праходзіла аднаўленне гаспадаркі ў вялікіх уладаннях епіскапстваў, калегій, манастыроў, з аднаго боку, і ў дробных царкоўна-прыходскіх



Касьба. З плана в.Жабін 1682 г.

[1] *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. С. 104.

[2] НАРБ, ф. КМФ. 5, воп. 1, спр. 82, 1381; ДГА Літвы, ф. 1292, воп. 1, спр. 212; РА БВДУ, ф. 4, спр. 34289.

[3] *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. С. 105.

уладаннях – з другога. Разам з тым духоўныя землеўласнікі знаходзілі арыгінальныя формы аднаўлення і развіцця гаспадаркі, часта характэрныя для пэўных уладанняў.

З сярэдзіны XVII ст. у царкоўных уладаннях пачынае больш шырока практыкавацца здача зямлі сялянам на ўмовах аплаты аблегчанага чыншу як адна з мер хутчэйшага ўзнаўлення разбуранай гаспадаркі. Адбывалася гэта не толькі за кошт росту чыста чыншавых і прыёмных надзелаў, як у прыватных і дзяржаўных уладаннях, а ў асноўным у выніку распаўсюджвання змешаных надзелаў.

Асновай эканамічнага развіцця царкоўнага землеўладання на захадзе і ў цэнтры Беларусі заставалася фальваркова-паншчынная сістэма. Іншае становішча існавала ў царкоўных уладаннях усходу Беларусі, дзе традыцыйна ў структуры сялянскага землеўладання пераважалі чыншавыя надзелы. У буйных уладаннях Віленскага каталіцкага епіскапства, якія былі размешчаны на ўсходзе, адбывалася пашырэнне колькасці чыншавых надзелаў сялян на невялікай рэнце. Гэта дазваляла феадалам, улічваючы падабенства статуса чыншавага і прыёмнага надзелаў, вар'іраваць велічыню накладаемага на іх чыншу і гэтым уплываць на структуру і памеры сялянскага землеўладання.

Трэба адзначыць, што царкоўныя феадалы, усяляк імкнучыся прывабіць сялян у свае маёнткі, часта давалі ім перавагі і льготы. Так, інвентар маёнткаў Стрэшын і Горваль за 1714 г. адзначаў: "... хто б калі прыйшоў і асеў, такому двор на столькі гадоў павінен даць слабоды і вольнасці, на колькі слабоднік будзе патрабаваць..."[1] Гэтыя людзі вызваляліся ад усялякіх цяжараў і складак, а калі б хто з падданых запратэставаў супраць гэтага – ён жорстка караўся і аб'яўляўся "здраднам, значна змяншаючым скарб капітула"[2]. Там жа адзначалася, што свае людзі, якія б захацелі пайсці на слабоды, не змаглі б гэта зрабіць, калі б новыя ўставы супярэчылі "даўнейшым звычаям і інвентарам". Разам з тым, каб вярнуць збеглых сялян і зацікавіць тых, хто застаўся, камісары поўнасцю забаранілі ўвядзенне паншчыны: "... рабацізны паншчыны як перад тым не было, так і цяпер быць не павінна, бо тая воласць Горвальская ад вякоў на чыншу як сядзела, так і мае сядзець"[3]. Калі б двор каго паспрабаваў выгнаць на паншчыну –" падданыя не павінны слухаць... а павінны суплікаваць (скардзіцца) да капітула". У інвентары маёнтка за 1727 г. змешчана распараджэнне, каб адміністрацыя па вёсках і мястэчках паставіла "слупы слабодныя" з паведамленнем аб тым, што сяляне запрашаюцца на "слабоды".

Гаспадарчы працэс ва ўладаннях невялікіх цэркваў і касцёлаў, у прыходах меў прыблізна тую ж аснову, што і ва ўладаннях дробнай і сярэдняй шляхты, невялікіх дзяржавах і староствах. Іх развіццё ішло ў адпаведнасці з надзённымі патрэбамі ўладальніка зямлі. І так як асноўныя патрэбнасці святароў і царкоўных служыцеляў, у першую чаргу ў прадуктах харчавання, у сельскіх прыходах забяспечваліся пераважна з царкоўнай зямлі, тут захоўваліся паншчына і цяглы сялянскі надзел.

Для ўсіх катэгорый гаспадарак было характэрна, што ў цяжкую гадзіну сяляне і самі стараліся знайсці найбольш эфектыўныя шляхі хутчэйшага аднаўлення гаспадаркі. Менавіта ў гэты час назіраецца значнае ўзмацненне ролі сялянскай абшчыны (грамады) у адбудове эканомікі. Убачыўшы вы-

---

[1] РА БАН Літвы, ф. 43, спр. 17486, арк. 14.

[2] Там жа.

[3] Там жа.

гаднасць абшчыннай адказнасці ў апрацоўцы зямлі, выплаце падаткаў і выкананні павіннасцей, яе падтрымалі і многія феадальныя ўласнікі. Так, у 1742 г. у большасці вёсак Берасцейскай і Кобрынскай эканомій абшчыны забралі ў сваё распараджэнне ўсе неапрацаваныя землі і павіннасці накладаліся на грамаду. Уводзілася калектыўная адказнасць за выплату падаткаў. У царкоўных уладаннях сельская грамада, асабліва на ўсходзе, мела і больш шырокія функцыі: займалася зборам падаткаў, размяркоўвала чынш на асобных гаспадарках і інш. Заўважана, што разам з эканамічным узмацненнем сваіх уладанняў феадалы пачыналі ўціск на грамаду як адносна незалежны орган сялянскай самаарганізацыі.

**Сялянскія павіннасці і землеўладанне.** Згаданыя захады з боку зямельных уладальнікаў спрыялі ўзнаўленню сялянскай гаспадаркі, якая да 30–40-х гг. XVIII ст. набывала былыя рысы, а часам і пераўзыходзіла даваенны ўзровень. Працэс узнаўлення характарызаваўся павелічэннем колькасці сялянскіх гаспадарак, абзавядзеннем іх неабходнымі прыладамі сельскагаспадарчай працы, цяглавай і прадукцыйнай жывёлай. Напрыклад, у Берасцейскім ключы Берасцейскай эканоміі колькасць сялянскіх двароў з 1724 па 1742 г. павялічылася з 346 да 520. Ва ўладанні Цімкавічы з 1713 па 1761 г. колькасць сялянскіх дымоў узрасла на 66 адзінак, прыкладна ў гэты ж час у Дзярэчынскім уладанні іх стала больш на 38 адзінак, у Клецкім – на 101, у Смаргонскім – на 59. У Копыскім графстве з 1710 г. да сярэдзіны XVIII ст. лічба павелічэння гаспадарак сялян склала 897. У маёнтку віленскага епіскапства Сожыцы Віцебскага ваяводства колькасць дымоў прыгонных вырасла з 442 у 1734 г. да 651 у 1751 г.[1]

Разам з колькасным узрастаннем сялянскіх гаспадарак адбывалася паўсюднае павелічэнне статка працоўнай жывёлы. Да сярэдзіны XVIII ст. ён павялічыўся прыкладна ў два разы, чым забяспечвалася паўнацэннае функцыяніраванне сялянскай гаспадаркі[2].



Сейбіт. З плана в.Бранчыцы 1682 г.

Па меры ўзнаўлення і ўмацавання сялянскай гаспадаркі раслі феадальныя павіннасці, якія спаганяліся з сялян за карыстанне зямельным надзелам. Асабліва яскрава працэс павелічэння павіннасцей назіраецца пры супастаўленні розных па часе даных, якія адносяцца да аднаго і таго ж уладання. Так, у радзівілаўскім маёнтку Карэлічы Наваградскага ваяводства цяглыя сяляне ў 1672 г. адбывалі паншчыну 5 дзён з валокі і пяты дзень з дыму на тыдзень. Да 1746 г. паншчына тутэйшых падданых павялічылася да 12 дзён на тыдзень з валокі. У другім радзівілаўскім уладанні – Блювенічы Лідскага павета – і без таго высокая паншчына, якая складала 16 дзён на тыдзень з валокі ў

[1] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы. С. 139, 142; *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 31; *Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. С. 182–183.

[2] *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. С. 152.

1688 г., дасягнула да сярэдзіны XVIII ст. велізарных памераў – 24 дні на тыдзень з валокі.

Падобны працэс назіраўся і ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты. Ва ўладанні пана Лапы Андрэева Гародзенскага павета цяглыя сяляне ў 1685 г. адпрацоўвалі паншчыну, роўную 6 дням на тыдзень з валокі. Да 1752 г. тая ж паншчына ў гэтым маёнтку ўжо вылічалася 18 днямі. Ва ўладанні Дунайчыцы Навагрудскага ваяводства, якое належала Адаму Зелінскаму, сяляне ў 1648 г. адбывалі штотыднёвую паншчыну ў 8 дзён з валокі. У 1751 г., калі гэтым маёнткам валодалі Казімір і Соф'я Загорскія, інвентар прадугледжваў выкананне 12 дзён паншчыны[1].

Трэба адзначыць, што такое павелічэнне паншчыны назіралася і ў прыватнаўласніцкіх сялян Усходняй Беларусі. Прычым шляхта не толькі не ліквідавала тут фальваркі, але падтрымлівала, а то і пашырала іх функцыяніраванне[2]. Так, ва ўладанні Марцыянава Віцебскага ваяводства, што было ва ўласнасці Агінскіх, цяглыя сяляне ў 1737 г. былі вызвалены ад чыншу. У той жа час кожны тыдзень з валокі "хлоп 3 дні і кабета 2 дні на паншчыну павінны выходзіць. А як жніво настане, і жанчыны па 3 дні працуюць, пакуль ураджай не здымуць". У маёнтку Пашкаўшчызна Аршанскага павета ў 1748 г. падданыя адпрацоўвалі 12 дзён паншчыны на тыдзень з валокі і больш ніякіх павіннасцей не мелі[3].

Найбольш рэзкі рост паншчыны як за кошт замены ёю ўсіх павіннасцей, так і шляхам прамога павелічэння колькасці дзён, што патрабаваліся ад сялян для работы ў фальварку, адзначаўся ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты[4]. Гаспадары невялікіх уладанняў (часта сустракаліся маёнткі, што складаліся з 2–6 заселеных сялянскіх двароў) не валодалі такімі сродкамі, як магнаты і дзяржава, а таму і не мелі асаблівых магчымасцей для розных манеўраў, каб выйсці з гаспадарчага крызісу і пазбегнуць канчатковага разарэння. Чынш, які мог сабраць "шарачковы" шляхціц са сваіх нешматлікіх падданых, не гарантаваў яму цвёрдага прыбытку з прычыны зніжэння вартасці гроша (на працягу канца XVII – пачатку XVIII ст. яна ўпала ў 1,5 раза).

Вышэй ужо адзначалася, што з сярэдзіны XVII ст. і ў царкоўных уладаннях, таксама як у дзяржаўных і прыватнаўласніцкіх, пачынае больш шырока практыкавацца здача сялянам "прыёмных" зямель па льготнаму чыншу. Аднак надзелаў, якія складаліся толькі з чыншавай ці прыёмнай зямлі, было параўнаўча няшмат. Тут у другой палове XVII – першай палове XVIII ст. удзельная вага надзела, які меў цяглую долю, раўнялася прыблізна 90 %. Да сярэдзіны XVIII ст. у пераважнай большасці маёнткаў Заходняй Беларусі, што належалі царкве, адзначаецца высокая норма паншчыны (ад 3 да 46 дзён на тыдзень з валокі), дапоўненая параўнаўча невялікім чыншам і натуральным аброкам. Так, у Роскай плябаніі Ваўкавыскага павета (1744 г.), Ражанскай Слонімскага (1745 г.) або Дакудаўскай плябаніі Лідскага павета

---

[1] ЦГАБ, ф. КМФ–5, воп. 1, спр. 1797, арк. 19; спр. 1806, арк. 18; спр. 254, арк. 6; спр. 257, арк. 9; ф. 1755, воп. 1, спр. 56, арк. 249; спр. 60, арк. 385–387; РАБАН Літвы, ф. 17, спр. 141, арк. 3, адв. –4, арк. 35/2.

[2] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 94.

[3] ЦДГА Літвы, ф. 1177, воп. 1, пр. 3379, арк. 5 ф. ДА, спр. 114, арк. 57 адв. – 58.

[4] *Лойка П.А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі. Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII ст. С. 56.

(1749 г.) усе сялянскія павіннасці абмяжоўваліся паншчынай у 12 дзён на тыдзень з валокі[1].

У царкоўных уладаннях усходу Беларусі пераважаў чыншавы надзел (70 %). Пры гэтым цяглая доля ў параўнанні з папярэднім часам узрастала. На працягу другой паловы XVII – XVIII ст. поўнасцю чыншавымі былі уладанні віленскага епіскапства Стрэшын і Горваль Рэчыцкага павета. На "голым" чыншы – 24 злотых з валокі – "сядзелі" ў 1739 г. падданыя маёнтка Сожыцы Віцебскага ваяводства, якія належалі таму ж віленскаму епіскапству[2].

Такім чынам, найвышэйшая норма паншчыны, ды і наогул адработачных павіннасцей, назіралася ў прыватнаўласніцкіх і царкоўных маёнтках у заходніх раёнах Беларусі. На ўсходзе ў гэтых уладаннях памеры адработкаў былі меншымі – тут больш распаўсюджанай была рэнта грашыма. Перавага чыншу адзначалася ў дзяржаўных эканоміях як на ўсходзе, так і на захадзе Беларусі.

Якія б павіннасці – адработачная ці грашовая рэнта – ні стаялі на першым месцы ў агульным павіннасным абцяжарванні прыгоннага беларускага селяніна, яны часцей за ўсё дапаўняліся натуральным аброкам. Гэты від рэнты істотных змяненняў на працягу другой паловы XVII – першай паловы XVIII ст. не зведаў. Інвентары за азначаны прамежак часу прыводзяць аднастайны набор натуральнай даніны, што былі павінны падданыя свайму пану. Гэта жыта, авёс, ячмень, гусі, куры, яйкі, каплуны, мёд, сена, дровы, пянька, пража, сеці і інш.

У павіннасцях як цяглых, так і чыншавых сялян значнае месца займалі грашовыя плацяжы. Найбольшая ўдзельная вага ў грашовым аброку адводзілася чыншу, які сплачваўся сялянамі за права карыстання зямлёй. Асноўнымі яго плацельшчыкамі былі чыншавыя (кунічныя) сяляне. Спаганяўся чынш і з цяглых сялян, аднак у меншым памеры, бо галоўнай іх павіннасцю з'яўлялася паншчына.

З сярэдзіны XVII ст. па сярэдзіну XVIII ст. грашовая рэнта цяглых прыватнаўласніцкіх сялян намінальна павялічылася прыкладна ў два разы, але, калі ўлічваць падзенне ў 1,5 раза вартасці гроша, ён практычна не змяніўся. Чынш у кунічнікаў захаду і цэнтра Беларусі на працягу дадзенага часу паступова (таксама як і паншчына ў цяглых) павялічваўся. За стагоддзе ён намінальна падняўся на 80 %, а рэальна – на 20 %. Эвалюцыя чыншу ва Усходняй Беларусі ішла тым жа шляхам, як і ў заходніх раёнах,

Збіранне мёду.
З плана в.Капацэвічы 1682 г.

---

[1] ДАСА у Варшаве, AR, ф. 8, спр. 344, арк. 26–27; НГАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 213, арк. 32 адв. – 14 адв., 54–55; ф. 1733, воп. 1, спр. 36, арк. 74–75; ф. 1781, воп. 27, спр. 213, арк. 71, 174 адв. – 175; РАБАН Літвы, ф. 40, спр. 88, арк. 68–73; *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. С. 160.

[2] РАБАН Літвы, ф. 43, спр. 17082, 17486, 17490, 8783, 8793, 17157.

толькі памеры грашовай рэнты на ўсходзе былі значна вышэйшымі. Сярэдняя велічыня чыншу цяглых прыватнаўласніцкіх сялян складала з валокі прыкладна 150 грошаў для захаду і 480 грошаў для ўсходу Беларусі. Для сялян-кунічнікаў сярэднія паказчыкі былі наступнымі: у заходніх раёнах Беларусі чыншавікі з валокі плацілі за ўсе павіннасці 860 грошаў, ва ўсходніх – 1500 грошаў[1].

Нязначна адрозніваліся ад згаданых паказчыкаў памеры грашовага аброку, які патрабавалі ад сваіх падданых феадалы ў царкоўных і дзяржаўных уладаннях. Эвалюцыя гэтай павіннасці адбывалася ў іх падобна, як і ў прыватнаўласніцкіх маёнтках.

Сярэдні зямельны надзел у дзяржаўных уладаннях складаў у другой палове XVII ст. 0,42 валокі на захадзе і 0,45 – на ўсходзе Беларусі. Нязначна большым, чым у дзяржаўных, быў сярэдні надзел у прыватнаўласніцкіх сялян: 0,52 валокі ў заходніх раёнах, 0,46 валокі – ва ўсходніх. Тлумачэнне некаторай перавагі ў забяспечанасці зямлёй прыватных сялян можна знайсці ў недастаткова гібкай палітыцы трымальнікаў дзяржаўных уладанняў і феадальнай адміністрацыі па арганізацыі пазанадзельнага землекарыстання. Тым не менш дзяржава і прыватнаўласнікі, каб як мага хутчэй увесці пустыя землі ў гаспадарчы абарот, выкарыстоўвалі разам з сістэмай "слабод", пра якія вялася гаворка, і так званае "дольніцтва", калі сяляне за карыстанне зямлёй былі абавязаны аддаць трэці ці чацвёрты, пяты сноп з ураджаю. Па многіх вёсках шырока распаўсюдзілася сістэма апрацоўкі дадатковых "ворных" ці "сенажатных" моргаў, за карыстанне якімі плата была параўнаўча невялікай – 8–15 грошаў за морг.

Гэтыя эканамічныя рычагі дазволілі пануючаму класу ўмацаваць гаспадарку і паступова прывялі да павелічэння сярэдняга сялянскага зямельнага надзелу, асабліва там, дзе ён у часы ваеннага ліхалецця значна скараціўся. К сярэдзіне XVIII ст. сярэдні надзел селяніна ў дзяржаўных маёнтках Беларусі падняўся да 0,58 валокі, у прыватнаўласніцкіх – да 0,63[2].

Забяспечанасць сялян зямлёй у розных уладаннях была неаднолькавай. Гэта залежала ад ступені развіцця панскай гаспадаркі, якасці глебы і іншых прычын. Памеры сялянскіх надзелаў ваганіся ад 1 да 1/10 валокі.

**Прававая безабароннасць сялянства**. Селянін, паводле заканадаўства Вялікага княства Літоўскага, цалкам залежаў ад уласніка зямлі, на якой ён пражываў. Статутныя нормы гарантавалі землеўладальнікам поўнае права распараджэння прыгоннымі падданымі. Апошнім забаранялася набываць ва ўласнасць зямлю (на практыцы, аднак, гэта норма часам парушалася), любыя намкненні прыгоннага пакінуць уладанне заканадаўча забараняліся. У любы час землеўласнік мог адабраць у свайго падданага зямельны надзел, перасяліць яго ў іншае месца, прадаць прыгоннага з усёй яго маёмасцю, зямлёй і без яе іншаму феадалу, закласці пад пэўную грашовую суму. Пры гэтым пакупніку ці крэдытору давалася поўнае права распараджацца лёсам селяніна – судзіць, караць, нават адбіраць жыццё[3]. Напрыклад, пан Іеранім Аўсяны ў 1688 г. прадаў за 250 злотых свайго прыгоннага з маёнтка Сячэўкі Наваградскага ваяводства Лявона Ляшаніна з жонкай і двума сынамі Емяльянам і Мікітаю пану Іосіфу Чудоўскаму. У прадажным запісе, які быў унесены ў кнізе Наваградскага гродскага суда, пазначыў, што збыў паддана-

---

[1]*Лойка П.А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі. Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII ст. С. 69–70, 102.

[2]*Голубей В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI–XVIII стст. С. 154.

[3] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 112, 317.

га без зямлі на "вечныя" часы, а пакупнік атрымаў права распараджацца сям'ёй Ляшаніна як сваёй уласнасцю: дараваць, закладваць, прадаваць, абменьваць.

У 1729 г. берасцейскі ваявода Караль Сапега абмяняўся сялянскімі сем'ямі – дзве на дзве – з берасцейскімі дамініканамі.

Ніякіх праблем не было ва ўласнікаў з тым, каб у выпадку адсутнасці грошай закласці на год, два ці тры сваіх падданых пад некалькі соцень ці тысяч злотых. Аперацыя гэта была дасканала распрацавана: здаеш прыгонных – атрымліваеш грошы. Не выплаціў у час крэдыт – тэрмін арэнды сялян доўжыцца да канчатковага разліку. Так, мсціслаўскі стольнік Уладзіслаў Анферовіч у 1689 г. за 1200 злотых заклаў пану Яну Сулкоўскаму на адзін год трох сваіх падданых з маёнтка Касцяневічы Ашмянскага павета: Максіма Ісаевіча, Ваську Яскевіча і Кандрата з іх "хатамі, жонкамі, дзецьмі, коньмі і іншай жывёлай, павіннасцямі, валокамі, сенажацямі". Прычым у закладным дагаворы падкрэслівалася, што ў выпадку невяртання ў вызначаны тэрмін пазыкі арэнда названых сялянскіх сем'яў будзе працягвацца кожныя наступныя тры гады, пакуль доўг не будзе вернуты.

У другім закладным запісе ідзе гаворка аб здачы ў арэнду Самуілам Быхаўцом у 1706 г. на адзін год шасці сялянскіх сем'яў з в. Магілёўцы Ваўкавыскага павета пану Іосіфу Харашэўскаму за пазыку ў 1000 злотых. Крэдытору давалася права распараджацца закладзенымі прыгоннымі як асабістай уласнасцю. У трэцім падобным дагаворы чытаем аб закладзе ў 1717 г. зноў жа шасці сем'яў падданых пана Людовіка Быхаўца з в. Асочнікі Ваўкавыскага павета пану Станіславу Ганусевічу за 1450 злотых.

Аднак пры такіх продажах, абменах, закладах здараліся і драматычныя выпадкі, калі разбіваліся сем'і. Асобна мужа ці жонку прадавалі ці здавалі пад заклад. Такое здарылася з селянінам па прозвішчу Вярэніч з в.Сякевічы. Некалькі разоў звяртаўся ён да пана Раецкага, каб той выдаў яму жонку з в.Кашалёва, але беспаспяхова.

Сацыяльная безабароннасць і ўзрастаючы павіннасны цяжар прымушалі сялян адстойваць сваю годнасць, маёмасць, дабрабыт шляхам афіцыйна дазволенага супрацьдзеяння самавольствам і жорсткаму прыгнёту арандатараў, адміністратараў і землеўладальнікаў праз скаргі каралю і ўладальнікам маёнткаў, а таксама заканадаўча забароненымі метадамі – уцёкамі, адмовай ад выканання павіннасцей і адкрытымі ўзброенымі выступленнямі.

## 3. Сялянскія выступленні

**Формы антыфеадальнай барацьбы**. Трагічныя для Рэчы Паспалітай, у тым ліку Вялікага княства Літоўскага, беларускіх зямель, другая палова XVII – пачатак XVIII ст. былі часамі, якія не толькі разбуралі эканоміку краіны, вынішчалі насельніцтва, але і да самай высокай кропкі ўзнялі міжсаслоўныя супярэчнасці. Менавіта гэты час адметны шырокім распаўсюджаннем на беларускіх землях узброеных выступленняў сялянства супраць уладальнікаў, арандатараў, адміністрацыі маёнткаў, а таксама ваенных фарміраванняў. З'ява гэта вытлумачальная. У часы пасляваеннага аднаўлення сілы сялянскіх гаспадарак былі напружаны да апошняй мяжы. Любы звышуціск гаспадароў маёнткаў ці вайсковых харугваў, якія часта ў ваенныя ліхалецці кватаравалі па вёсках, мястэчках Беларусі, разбалан-

соўваў гаспадарку селяніна, даводзіў да галечы, што, у сваю чаргу, прымушала яго абараняць свой дабрабыт і жыццё. Праяўлялася ўсё гэта ў розных формах: скаргах, уцёках, адмовах ад выканання павіннасцей, нарэшце, у адкрытых выступленнях. Размах сялянскага руху залежаў ад узроўню эксплуатацыі ці, дакладней, ад узроўню перавышэння той гранічнай планкі, за якой сялянская гаспадарка не магла самаўзнаўляцца. Фактычны матэрыял сведчыць аб паўсюдным пашырэнні на беларускіх землях менавіта ў гэты час сацыяльных канфліктаў, якія месцамі выліваліся ў буйныя сялянскія выступленні.

Сяляне нападалі на панскія маёнткі, падпальвалі фальварковыя забудовы, самавольна высякалі панскі лес, хадзілі туды на паляванне, хоць гэта было строга забаронена. Такія стыхійныя выступленні нярэдка заканчваліся збіццём, а часам і забойствамі ненавіснага шляхціца, панскага памагатага ці ненажэрнага адміністратара. 1661 год стаў годам бунту падданых ва ўладаннях езуіцкай калегіі, якія размяшчаліся ў Берасцейскім ваяводстве. У лютым прыгонныя сяляне ўчынілі напад на маёнтак Шчытнікі, спалілі ўсе фальварковыя забудовы, высеклі ў панскім заказніку лес і звезлі яго да сваіх хат. Пры гэтым быў забіты шчытнікаўскі войт, які, напэўна, спрабаваў спыніць сялянскае выступленне. У ліпені таго ж года езуіцкія падданыя аблажылі маёнтак Блоты, збілі войта і забралі з двара коней і авечак. Прыгонныя в.Лісоўчыцы спалілі двор свайго пана, ксяндза Звежа, і рэквізавалі маёнткавае збожжа і жывёлу[1].

На Гародзеншчыне, як вынікае з дакументаў каралеўскай канцылярыі, падобныя дзеянні дзяржаўных сялян набылі такі шырокі размах, што надзвычайны Варшаўскі сейм 1662 г. прыняў спецыяльную пастанову, дзе адзначалася: "Паколькі розныя паны–шляхта не толькі Гародзенскага, але і іншых паветаў спасылаюцца на вялікія страты, што прынесены ім падчас маскоўскага нашэсця, а таксама нашымі падданымі з Гародзенскай эканоміі, якія ўчынялі злачынствы, забівалі шляхту... нападалі на касцёлы, цэрквы, шляхецкія двары і рабавалі, мы ставім у абавязак тым жа камісарам, каб яны, дамовіўшыся паміж сабою наконт месца і часу..., сцвердзілі правасуддзе і злачынцаў, пры наяўнасці пераканаўчых доказаў, прыгаворвалі да смяротнай кары на падставе законаў, спасылаючыся на пастановы аб рабаўніках 1652 і 1659 гадоў"[2].

Але гэта не дапамагала. Усе 60–70-я гг. XVII ст. напоўнены фактамі барацьбы беларускага сялянства супраць феадальнага ўціску. Вось толькі некаторыя з іх. У 1667 г. шляхціц Полацкага ваяводства Гаўрыіл Прускі скардзіўся, што з яго маёнтка Гарадчавічы сяляне ўсіх вёсак, "узбунтаваўшыся супраць яго, разрабаваўшы маёнтак да апошняга, разбегліся ва ўсе бакі".

У 70–я гг. XVII ст. з Полаччыны сялянскія хваляванні перакінуліся на суседнія Віцебшчыну і Аршаншчыну. Так, у адным з допісаў 1679 г. князя Друцкага-Сакалінскага адзначалася, што падняліся сяляне яго ўласнай вёскі Крывы Канец і іншых суседніх. Яны забілі адміністратара Яна Жылінскага, разрабавалі панскі двор, спалілі свае сялібы і накіраваліся ў суседні Смаленскі павет[3].

---

[1] *Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. С. 43–44.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 374.

[3] *Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. С. 145–146.

Не сцішвалася, а хутчэй нарастала хваля сялянскіх выступленняў і ў наступным XVIII ст. Пік барацьбы прыгонных за свае правы прыпадае на 10–40-я гг. гэтага стагоддзя – зноў жа час аднаўлення пасля спусташэнняў Паўночнай вайны.

У кастрычніку 1716 г. у вёсках Саволікі, Завадзічы і Зыдымль Гародзенскай эканоміі мела месца адкрытае выступленне сялян. З косамі, сякерамі і іншай агнястрэльнай зброяй яны ўзняліся супраць чыноўнікаў і манахаў ордэна камедулаў, якія прыехалі кіраваць імі.

У 1732 г. супраць сваіх прыгнятальнікаў выступілі жыхары Казадаўскай воласці Полацкага ваяводства[1].

Значныя сялянскія хваляванні ў першай палове XVIII ст. адбыліся ў Глускім графстве, якое належала Радзівілам. Ад кіраўніка мясцовай адміністрацыі да князя пайшоў допіс, што сяляне Пагосцкага войтаўства яго глускага маёнтка "выйшлі з пакорнасці, учыняюць разбойныя дзеянні, на бунт і паўстанне падымаюцца". У адказ ад імя магната адміністратару была дадзена прапанова "ўціхамірыць бунты, прывесці падданых да пакорнасці, строга караць свавольнікаў"[2].

У 40-я гг. XVIII ст. з найбольш рашучых дзеянняў сялян супраць сваіх прыгнятальнікаў неабходна адзначыць выступленне сялян в.Дамашаны Менскага ваяводства ў 1748 г.[3]

Найбольш жа неспакойным у 40-х гг. XVIII ст. быў усход і паўднёвы ўсход Беларусі. У 1745 г. сялянскія хваляванні пачаліся ва ўладанні віленскага капітула[4] Горваль. Для ўціхамірвання сялян туды былі накіраваны дзве вайсковыя харугвы. Даныя аб тым, як развіваліся горвальскія падзеі, у дакументах адсутнічаюць. Можна толькі канстатаваць, што за кароткі




Сяляне-беларусы. З віньеткі плана в.Жабін 1682 г.

[1] *Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. С. 149; *Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. Мн., 1969. С. 174.

[2] *Козловский П.Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. С. 174–175.

[3] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 394–396.

[4] У каталіцкай царкве калегія канонікаў кафедральнага сабора, якая стварае пры біскупе раду па кіраванні дыяцэзіяй (епархіяй).

тэрмін спыніць хваляванні не ўдалося, бо яшчэ ў красавіку 1746 г. адна харугва знаходзілася ў згаданым уладанні.

У снежні 1747 г. са зброяй у руках супраць сваіх прыгнятальнікаў выступілі сяляне Гомельскага староства. Радзівіл у спешным парадку накіраваў туды харугву "пярэдняй стражы" і адначасова аддаў загад пры неабходнасці дасланць у староства дадатковую колькасць войска. Каб задушыць сялянскія хваляванні ў Чачэрскім старостве ў жніўні 1748 г., таксама былі кінуты войскі[1].

Гаворачы пра выступленні сялян супраць сваіх уладальнікаў, арандатараў, адміністрацыі, нельга забываць і пра тое, што нярэдка прыгонныя падымаліся на барацьбу для абароны сваёй сям'і, хаты, гаспадаркі ад шляхецкага войска.

Асабліва жорсткія сутычкі адбываліся ў канцы XVII ст. на Крычаўшчыне. У 1690 г. узброенае выступленне мела месца ў дзвюх вёсках Крычаўскага староства – Дубейцы і Крывой Ніве. Сяляне выступілі на барацьбу супраць жаўнераў харугвы гетмана Вялікага княства Літоўскага. Гетманская харугва была добра вядома на Крычаўшчыне сваім ліхадзействам. Таму, як толькі жаўнеры з'явіліся ў Дубейцах, сяляне адразу адмовіліся прыняць іх на пастой. Аднак самаўпэўненыя ўзброеныя вайскоўцы не звярнулі ніякай увагі на настроі падданых і сілай уварваліся ў вёску. Узброеныя стрэльбамі і рагацінамі сяляне ноччу напалі на салдат, якія спалі ў пуні. Кіраваў атрадам дубейцаўскіх прыгонных жыхар гэтай вёскі Макар Арцюхоў. Як адзначаецца ў архіўных крыніцах, падданыя лупілі жаўнераў дубовымі каламі, ручніцамі, прыгаворваючы пры гэтым: "Навошта да нас прыехалі, хопіць кроў нашу піць". Справа скончылася тым, што прыгонныя звязалі салдат-рабаўнікоў і зачынілі на ноч у лазні. Раніцай яны вызвалілі жаўнераў і з ганьбаю гналі з Дубейцаў, папярэдзіўшы пры гэтым: "Ведайце, што здарылася з вамі, тое ж будзе і з вашым панам. А зараз ідзіце адсюль прэч і больш тут не з'яўляйцеся. І пану свайму тое ж самае скажыце".

Праз два дні зняслаўленыя жаўнеры пешшу дабраліся да Крычава. Там яны далажылі аб усім свайму старэйшаму – пану Канажэўскаму. Той зараз жа накіраваў у Дубейцы конны атрад для ўціхамірвання бунтаўшчыкоў. Але дубейцаўскія сяляне, якія ўжо займелі вопыт барацьбы з жаўнерамі, аб'ядналіся з прыгоннымі суседняй вёскі Крывая Ніва і належна сустрэлі няпрошаных гасцей. Яны разбілі асноўную частку атрада Канажэўскага і наладзілі пагоню за адступаючымі жаўнерамі. Сялянская пагоня на сваім шляху сустрэла самога Канажэўскага, які, не дачакаўшыся вестак ад накіраванага атрада, сабраў чэлядзь і выправіўся асабіста ўдзельнічаць у расправе над падданымі, якія не хацелі скарыцца. На месцы сустрэчы адбылася сутычка. Пачаўся рукапашны бой, у якім ніхто не перамог. Сяляне, адчуўшы, што сілы іх на зыходзе, адышлі, а збітага пана Канажэўскага чэлядзь даставіла ў Крычаў. Жаўнеры, якія паспрабавалі на сабе моц мазолістай сялянскай рукі, не пасмелі больш наведвацца ў Дубейцы і Крывую Ніву[2].

Больш значнае выступленне ў Крычаўскім старостве адбылося ў лістападзе 1696 г. Яно таксама было выклікана вымаганнямі і свавольствам з боку жаўнераў.

Харугва Рыгора Агінскага рабавала Крычаўскае староства каля двух месяцаў. Нарэшце, даведзеныя да адчаю мяшчане і сяляне 8 лістапада 1696 г. са

---

[1] *Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. С. 162–163.

[2] *Мялешка В.І., Лойка П.А.* І ўзняўся люд просты. Мн., 1992. С. 43–44.

зброяй у руках выйшлі на барацьбу супраць салдат-ліхадзеяў. Выступленне, у якім удзельнічала некалькі тысяч чалавек, адбылося ў самім Крычаве, куды на той час было сцягнута феадальнае войска, што кватаравала ў старостве. Штуршком да масавага выступлення жыхароў была адмова камандавання харугвы спыніць свавольства ва ўладанні і пакінуць яго межы. На гэту прапанову афіцэры адказалі, што ў выпадку, калі "хлопы" будуць ім ставіць умовы, яны агнём і мячом спустошаць Крычаўшчыну. У адказ на нахабную заяву ўзброеныя мяшчане і сяляне, якія спецыяльна прыбылі ў Крычаў, выйшлі на вуліцы горада, каб выгнаць са староства ненавіснае войска. Салдаты харугвы, як адзначаецца ў дакументах, "паселі на коней, узброеныя як да бітвы з непрыяцелем стрэльбамі, дзідамі, шаблямі, сагайдакамі. Па вуліцах людзей стралялі, секлі, забівалі. Іншых з дамоў выцягвалі і на смерць збівалі. Жанчын-мяшчанак і дзяцей больш дзесяці чалавек коньмі пакалечылі, ледзь не пазадушвалі".

Па ўсім горадзе пачалася перастрэлка. На цэнтральнай плошчы і каля замка, дзе размяшчаліся асноўныя сілы харугвы, разгарнулася сапраўдная бітва. Пасля яе засталіся дзесяткі забітых і параненых з абодвух бакоў. Вялікія страты панесла харугва. У скарзе паручніка Яна Паломскага адзначалася: "Некалькі тысяч людзей, узброеных мушкетамі, атакавалі харугву, з замкавых гарматаў і гакаўніц адкрылі агонь. У выніку нямала рыцарскіх людзей было забіта, у рэчцы Сож патоплена і пакалечана. Іншыя ж паўцякалі з горада"[1].

Усё гэта сведчанні вострай і ўпартай барацьбы беларускага сялянства супраць узмацнення эксплуатацыі, свавольстваў і здзекаў з боку пануючага класа, апагеем якой стала паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы ў Крычаўскім старостве ў 1740–1744 гг.

**Крычаўскае паўстанне.** У другой палове XVII ст. Крычаўскае староства было падаравана князю Каралю Станіславу Радзівілу. Пасля яго смерці ў 1692 г. яно было перададзена ў спадчыннае карыстанне жонцы магната – Ганне Радзівіл. Пасля староства доўгі час знаходзілася ў руках яе сына Геранімa Фларыяна і іншых прадстаўнікоў буйнейшага ў Рэчы Паспалітай роду князёў Радзівілаў. Тыя ў сваю чаргу здавалі Крычаўшчыну на пэўны тэрмін у арэнду іншым трымальнікам. Арандатараў – гэтых часовых гаспадароў – асабліва не цікавіла, як і ці ўвогуле развіваецца сялянская гаспадарка. Перш за ўсё яны клапаціліся аб атрыманні максімальных прыбыткаў для сябе. За кароткатэрміновую арэнду трымальнікі староства імкнуліся выбіць з сялян як мага больш грошай. Для гэтага яны спаганялі большы чынш, чым прадугледжвалася інвентарамі, абкладвалі сялян рознымі грашовымі паборамі ("метамі"), прымушалі працаваць без аплаты на будах[2] ці ў прыватнай гаспадарцы, патрабавалі натуральнае дзякла[3] звыш інвентару, чынілі перашкоды сялянскаму гандлю, рабавалі і знявечвалі сялян. Так, толькі за адзін год свайго "гаспадарання" ў Крычаўскім старостве (з 24 чэрвеня 1719 г. да 24 чэрвеня 1720 г.) арандатар Уладзімір Пятровіч выбраў чыншу ў сялян звыш інвентарных нормаў на 3500 талераў. Акрамя таго, ён забіваў прыгонных да смерці, накладваў на іх розныя штрафы.

[1] *Мялешка В.І., Лойка П.А.* І ўзняўся люд просты. С. 44–45.

[2] Прадпрыемства са спецыяльна абсталяванай печчу для смалакурэння, гонкі дзёгцю, выпальвання драўлянага вугалю, вытворчасці паташу.

[3] Прадуктовая рэнта (натуральны аброк) за зямельны надзел, якая збіралася на карысць землеўладальніка з сялян ВКЛ.

Асабліва цяжкае, невыноснае для сялян становішча склалася ў 30-х гг. XVIII ст., калі староства арандавалі браты Гдаль і Шмуйла Іцкавічы. Жорсткасцю ў адносінах да прыгонных гэтыя арандатары намнога пераўзышлі сваіх папярэднікаў. Наколькі вялікімі былі іх вымаганні, можна ўявіць па наступных лічбах: толькі за чатыры гады (з 1736 па 1740) Іцкавічы выбралі ў насельніцтва Крычаўскага староства звыш устаноўленых нормаў каля 700 тыс. злотых, а за ўвесь час іх дзевяцігадовай арэнды (1731–1740) з сялян і гараджан было спагнана звыш належнага 1 298 909 злотых, 120 270 пудоў пянькі, 39 вазоў мёду[1].

Свавольства арандатараў прывяло да таго, што ўвосень 1739 г. у сувязі з нястачай насення, якое са свірнаў выбралі слугі часовага гаспадара, большасць сялянскіх гаспадарак азімыя не засеяла. У той жа час трымальнік працягваў спусташаць двары прыгонных. З гэтай мэтай вясной 1740 г. у Крычаўскае староства ім было сцягнута некалькі соцень конных наймітаў, якія пагражалі падданым шыбеніцамі, спаленнем, поўным вынішчэннем. Страшэнная жорсткасць арандатараў і іх прыслужнікаў у адносінах да насельніцтва Крычаўшчыны прывяла ў самы разгар палявых работ да масавых уцёкаў сялян у лясы. У старостве склалася катастрафічнае для яго жыхароў становішча. У супліках (скаргах), якія бясконца ішлі да Радзівілаў, земляробы і рамеснікі пісалі, што ім нічога не застаецца рабіць, "як ўзяцца за рукі і выступіць, каб абараніць сябе ад пагібелі"[2].

У пачатку мая 1740 г. у Крычаўскім старостве з'явіўся першы ўзброены атрад, які налічваў некалькі соцень чалавек. На чале яго стаяў Васіль Вашчыла, войт в.Селішчы. У самога Вашчылы зямельны надзел быў невялікі – недзе 0,1 валокі (прыблізна 2 гектары). Наяўнасць двух коней у яго гаспадарцы пры невялікім зямельным надзеле наводзіць на думку, што ён, апрача земляробства, займаўся таксама звозніцтвам. Але, напэўна ж, не за гаспадарчую прадпрымальнасць, хоць і гэта немалаважна, ён быў абраны сеціцкім войтам. Яго папулярнасць сярод аднавяскоўцаў засноўвалася ў першую чаргу на рашучасці і смеласці ў выступленнях супраць злоўжыванняў з боку арандатараў і адміністрацыі Крычаўскага староства. Вядома, што Вашчыла складаў і дастаўляў сялянскія скаргі нават у Варшаву. Відаць, гэтымі якасцямі ён і заваяваў сімпатыі і давер да сябе з боку сялянства. Нездарма ж, калі даведзеныя да голаду і галечы прыгонныя падняліся на барацьбу супраць часовых уладальнікаў староства і іх наймітаў, Васіль Вашчыла апынуўся на чале паўстанцаў.

Спачатку ўзбунтаваныя сяляне вырашылі спыніць працу на будах. У маі 1740 г. атрад Васіля Вашчылы зрабіў напад на буду каля в.Самацеевічы, разагнаў усіх буднікаў[3] і службовых асоб. У адказ на гэта пан Пжылэнцкі – старшыня адміністрацыі ўладання – сабраў і ўзброіў буднікаў і з іх дапамогай паспрабаваў прывесці падданых да пакорнасці. Так, у раёне Хоцімска атрад буднікаў на чале з адміністратарам узяў у палон частку паўстанцаў. Даведаўшыся пра тое, Васіль Вашчыла са сваімі людзьмі накіраваўся да в.Калодзеск, куды быў пасланы адміністрацыяй староства атрад пушкароў на чале з панам Янкоўскім. Гэта паліцэйскае злучэнне павінна было правесці ў названай вёсцы экзекуцыі за падтрымку яе жыхарамі свавольных учынкаў

---

[1] *Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. С. 176–178.

[2] Там жа С. 178.

[3] Катэгорыя работнікаў у Беларусі ў XV–сярэдзіне XIX ст., якія працавалі галоўным чынам на вольным найме на будах.

бунтаўшчыкоў. Аднак выканаць адміністратарскі загад Янкоўскаму не ўдалося. Непадалёк ад Калодзеска Вашчыла сустрэў злучэнне і разагнаў яго.

Гэты поспех акрыліў паўстанцаў. Сялянскія хваляванні пашыраліся. Радзівілу даносілі, што на Крычаўшчыне "сапраўдная казаччына – немагчыма з'яўляцца ў вёсках, бо сяляне пагражаюць забойствам"[1]. У ліпені 1740 г. сялянскія хваляванні ператварыліся ў сапраўдны масавы народны рух. Прыгонныя не толькі адмаўляліся выконваць павіннасці, але і са зброяй у руках даказвалі свае права на лепшае жыццё. Узброенае выступленне сялян адбылося ў Лучыцкім войтаўстве, але было хутка падаўлена конным атрадам Пжылэнцкага. Уціхамірыўшы бунт лучыцкіх падданых, ён з адміністрацыяй староства, слугамі і атрадам конных копыскіх зямян 17 ліпеня прыехаў у мястэчка Міхалёва, дзе даведаўся, "што сяляне зноў пачалі збірацца ў купы". Да адной з іх быў пасланы старац, г. зн. старшы войт, з прапановай скласці зброю і ва ўсім падпарадкавацца адміністрацыі. У адказ на гэта Васіль Вашчыла цераз таго ж "старца" перадаў: "А ні мы да вас, а ні вы да нас, панове, не асмельвайцеся ехаць".

Аднак гэта быў толькі тактычны крок Вашчылы. На другі дзень ён са сваім атрадам напаў на прысланы атрад, які стаяў у мястэчку. Некалькі соцень узброеных стрэльбамі, дзідамі, косамі сялян смела кінуліся ў атаку і прагналі няпрошаных "гасцей"[2]. Усё гэта так напалохала княжацкіх чыноўнікаў у старостве, што тыя больш нават не спрабавалі самастойна выступаць супраць непакорлівых сялян.

Галоўны арандатар Крычаўскага староства Іцкавіч, калі зразумеў, што сялянскі рух набірае моц, уцёк з Крычава ў Копысь, а затым у Слуцк. Гэта не магло не напалохаць яго прыслужнікаў і дробных арандатараў, якія, у сваю чаргу, трымалі ў арэндзе ад галоўнага арандатара корчмы, млыны, буды. Большасць з іх – хто раней, хто пазней – па прыкладу свайго гаспадара пакінулі межы староства. Уцёкі часовых паноў вызвалілі сялян ды і ўсё насельніцтва Крычаўшчыны ад звыш інвентарных грашовых падаткаў, падводнай павіннасці, прымусовых работ на будах і наогул ад сваавольстваў і экзекуцый. Некаторыя арандатары, якія спрабавалі пакінуць староства падчас хваляванняў, былі затрыманы і пакараны. Іх маёмасць была канфіскавана прыгоннымі. Тыя ж арандатары, што не прычынялі крыўды насельніцтву, працягвалі гаспадарыць на сваіх ранейшых месцах.

Такім чынам, жыхары Крычаўскага староства прагналі найбольш жорсткіх арандатараў-прыгнятальнікаў. Унікальнасць Крычаўскага паўстання менавіта ў тым, што на працягу чатырох гадоў на даволі значнай тэрыторыі трымаў уладу просты люд. Многія пытанні кіравання староствам Васіль Вашчыла вырашаў са сваімі паплечнікамі. Яны здавалі ў арэнду, як і раней, прамысловыя прадпрыемствы і корчмы. Новых арандатараў шукалі сярод гараджан, дробнай шляхты, заможных сялян. Захавалася звыш 20 арэндных дагавораў, падпісаных Вашчылам і яго паплечнікамі. Кіраўнікі паўстання стараліся абмяжоўваць эксплуатацыю сялян арандатарамі. Апошнім прадпісвалася пад пагрозай пакарання (канфіскацыі тавараў, штрафу) не займацца вымаганнем.

Таксама былі прадугледжаны меры і супраць ліхвярства, што раней шырока практыкавалася ва ўладанні. Каб прыгонныя не трапілі ў поўную за-

---

[1] *Мялешка В.І., Лойка П.А.* Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988. С. 43–47.

[2] Там жа. С. 47.

лежнасць ад арандатараў, сялянам забаранялася пазычаць вялікія сумы грошай і многа збожжа. Пры малых пазыках, якія таксама не заўсёды дазваляліся, быў устаноўлены невялікі працэнт. Пад пагрозай штрафу яго забаранялася перавышаць.

Такім чынам, кіраўнікі сялянскага руху спрабавалі паслабіць павіннасны ўціск, аберагчы падданых ад выманганняў з боку сквапных арандатараў, абмежаваць ліхвярства, якое давяло да галечы не адну гаспадарку. Аднак гэтыя захады былі відавочна накіраваны не супраць грамадска-палітычнай сістэмы, што стварала ўмовы для эксплуатацыі, а супраць яе асобных носьбітаў і самых агідных форм рабавання народа. Аб тым, па-першае, сведчыць дзейнасць Вашчылы па адшуканню новых арандатараў на месца старых, па-другое, прыгонныя нават уявіць сабе не маглі, каб выступіць супраць уладальніка Крычаўшчыны. Сяляне акуратна па "старыне" працягвалі выплачваць Радзівілам усе падаткі. Грошы ад арэнды таксама перадаваліся гаспадару. У тэксце аднаго з арэндных дагавораў у сувязі з гэтым адзначалася: "Мы, войты і мужы, непакоімся, каб да канца не была спустошана княжацкая казна"[1].



Селянін у чаўне. З плана в.Капацэвічы 1682 г.

Рамантычна-наіўныя ўяўленні беларускага сялянства аб "добрых" панах і іх прыстойных слугах разбіваліся аб крывадушша рэчаіснасці. Новыя арандатары, на сумленнасць якіх разлічваў Вашчыла, аказваліся таксама жорсткімі прыгнятальнікамі працоўнага люду. Радзівіл жа, які, здавалася, непасрэдна не эксплуатаваў крычаўскіх падданых і таму ў іх вачах паўставаў нейкім панам-дабрадзеем, заставаўся адным з буйнейшых магнатаў Рэчы Паспалітай – спажыўцом дармовай сялянскай працы. Менавіта ён лічыў сябе гаспадаром у дзяржаве і раздзяляць уладу з кімсьці, а тым больш з "халопамі", не збіраўся.

І гэта стала відавочным, калі сялянскі рух пачаў пашырацца, і колькасць паўстанцаў дасягнула 2 тыс. чалавек, Радзівіл адчуў, што губляе кантроль над сітуацыяй і ўладу ў старостве. Каб задушыць паўстанне, ён накіраваў на Крычаўшчыну войска са сваёй слуцкай рэзідэнцыі. 15 студзеня 1744 г. не-

[1] *Мялешка В.І., Лойка П.А.* Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. С. 54.

калькі соцень салдат разам з гарматамі і некалькі соцень казацкай конніцы ўвайшлі ў Крычаў.

Надышоў час рашаючай бітвы. Савет кіраўнікоў сялянскага руху прыняў рашэнне даць бой карнікам, пакуль ім на дапамогу не падаспелі ўзброеныя гарматамі конныя атрады з Себежа і Невеля. Узброеныя сяляне на чале з Вашчылам рушылі ў напрамку Крычава. 18 студзеня горад быў атакаваны паўстанцамі. На баку княжацкіх воінаў-наймітаў, акрамя самай сучаснай на той час агнястрэльнай зброі, былі вопыт вядзення ваенных дзеянняў і гарадскія ўмацаванні. Галоўная ж сялянская зброя – нянавісць да прыгнятальнікаў – была вельмі слаба падмацавана баявой зброяй. І таму няма нічога дзіўнага, што радзівілаўскае войска змагло без відавочных страт адбіць атаку паўстанцаў, а потым і адкінуць іх ад Крычава за р.Сож.

Але Вашчыла не лічыў сябе пераможаным. Прыгонныя не склалі зброі і не скарыліся. Зрабіўшы месцам дыслакацыі в.Царковішча, яны збіралі сілы і рыхтаваліся да новых бітваў. Васіль Вашчыла і яго бліжэйшыя паплечнікі – Іван Карпач, Стэсь Бачко, Васіль Вецер выпрацавалі план будучых баявых аперацый. Паўстанцы, якіх налічвалася некалькі тысяч, вырашылі ў другі раз атакаваць Крычаў, захапіць яго, блакіраваць замак і прымусіць княжацкае войска здацца. Пачаць наступленне планавалася 26 студзеня 1744 г.

Пра такія намеры нейкім чынам дазналіся карнікі. Атрымаўшы да таго часу доўгачаканае падмацаванне ў гарматах і жывой сіле, кіраўніцтва радзівілаўскага войска вырашыла першым нанесці ўдар па паўстанцах. У ноч на 26 студзеня, на той дзень, калі сяляне планавалі зрабіць другую спробу захапіць Крычаў і адпачывалі перад атакай, радзівілаўскія злучэнні рушылі ў напрамку Царковішча.

Асцярожна, пад покрывам цемнаты княжацкі атрад набліжаўся да лагера паўстанцаў. Калі пачало віднець, радзівілаўскае войска навалілася на сялян, якія і не падазравалі аб нападзенні. Яны нават не змаглі арганізаваць хоць якую-небудзь абарону. Адзінкавыя групы паўстанцаў адыходзілі да лесу, каля 200 сялян загінула на полі бою, 176 прыгонных трапілі ў палон.

Камандуючы радзівілаўскім войскам адразу загадаў 30 паўстанцаў павесіць, яшчэ 30 – пасадзіць жывымі на палі і падвесіць за рэбры на круках. Уся маёмасць актыўных удзельнікаў паўстання канфіскоўвалася. Па сутнасці вёскі Крычаўскага староства былі аддадзены ваякам князя на разрабаванне ў якасці "ўзнагароды". Пётр Чалоўскі, які меў прыход у Крычаўскім старостве, сведчыў: "Па мястэчках, вёсках і сяльцах разаслана была каманда жаўнераў і гусараў, якія драўляныя спіцы ў серу абмачвалі і за пазногці забівалі, а потым падпальвалі. Ды іншымі невыноснымі мукамі катавалі, рабуючы грошы і жывёлу, і хлеб, у каго што было"[1].

Пасля прыбыцця ў першай палове лютага 1744 г. у Крычаў гаспадара ўладання Гераніма Фларыяна Радзівіла адбыўся суд над кіраўнікамі паўстання. Іх абвінавачвалі ў тым, што яны арганізоўвалі бунты на працягу чатырох гадоў, падчас якіх не хацелі прызнаваць загадаў Радзівіла, лічылі іх выдуманымі, не прымалі ў староства губернатараў, камісараў і падстаростаў, некаторых з іх збівалі, забіралі ў іх маёмасць, забівалі арандатараў, купцоў і іншых мяшчан, у якіх канфіскоўвалі багацце, нарэшце, са зброяй у руках двойчы выступілі супраць войска Радзівіла. За гэтыя цяжкія, з пункту гледжання землеўладальнікаў, злачынствы бунтаўшчыкі заслугоўвалі самага суровага прысуду. І ён быў вынесены. 16 паўстанцкіх кіраўнікоў прыгаварылі да пакарання смерцю. Але сярод гэтых 16 чалавек прозвішча Вашчылы не значылася.

---

[1] *Мялешка В.І., Лойка* П.А. І ўзняўся люд просты. С. 63–67.

Пасля паражэння пад Царковішчамі, калі Вашчыла зразумеў, што не зможа больш сабраць сялянскія атрады, каб супрацьстаяць радзівілаўскім наймітам, ён вырашыў уцячы ў Расію. Яму ўдалося вырвацца з Крычаўскага староства і дабрацца да Латакоўскага фарпоста на тэрыторыі Расійскай імперыі. Услед доўга гналіся дзве харугвы жаўнераў, якія даскакалі аж да фарпоста, але схапіць Вашчылу не змаглі. На той час кіраўніка паўстання пераправілі з Латакоўскага фарпоста на Цімошынскую пагранічную заставу, а потым і далей – у Старадуб, у Кіеў. Радзівіл накіраваў ліст у Кіеўскую губернскую канцылярыю з патрабаваннем выдаць яму важака прыгонных бунтаўшчыкоў. Але адразу гэта нельга было зрабіць. Спачатку патрабавалася вызначыць паходжанне Васіля Вашчылы. Калі б кіраўніка Крычаўскага паўстання палічылі падданым Расійскай дзяржавы – маларасіянінам, яго б не выдалі Рэчы Паспалітай згодна з Вечным мірам 1686 г. паміж суседнімі дзяржавамі. Калі ж аказалася б, што ён беларус, ураджэнец Крычаўшчыны, падданы Рэчы Паспалітай, то рускія ўлады мусілі б выдаць Вашчылу палякам як уцекача. Паходжанне Васіля Вашчылы царскія чыноўнікі расследавалі вельмі старанна і доўга. Допыты Васіля Вашчылы, яго родных, папяровая цяганіна паміж Старадубам, Кіевам, Пецярбургам працягваліся з лютага аж да верасня 1744 г. Пакуль перасылаліся лісты, указы, загады, Васіль Вашчыла, якога трымалі пад аховай у Старадубскай крэпасці, цяжка захварэў, а 28 жніўня 1744 г. яго не стала[1].

Аднак пагалосак Крычаўскага паўстання доўгім рэхам аддаваўся па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Праз чатыры гады пасля гэтых падзей адзін з радзівілаўскіх слуг пісаў свайму пану: "Гэта ж ва ўсёй Кароне (гэта значыць – Польшчы) і Літве (гэта значыць – Вялікім княстве Літоўскім) вядома Крычаўскае выступленне"[2]. Вынікам мужнай барацьбы прыгонных стала паслабленне феадальнага прыгнёту ў староства. Уладальнік Крычаўшчыны замяніў цяжкія работы на будах грашовым паборам, зняў шэраг абмежаванняў на сялянскі гандаль, адмовіўся ад здачы староства ў арэнду.

**Паўстанне на Каменшчыне**. Буйное ўзброенае выступленне сялян у 50-я гг. XVIII ст. адбылося на паўднёвым усходзе Беларусі, ва ўладанні віленскага капітула Каменшчына (Мазырскі павет). Хваляванні тут пачаліся яшчэ ў 1736 г. і працягваліся з перапынкамі больш за два дзесяцігоддзі. Прычынай іх быў непасільны прыгнёт, які доўгі час цярпелі сяляне ад адміністрацыі капітула.

У 1754 г. сялянскія хваляванні перараслі ва ўзброенае выступленне. Немалую ролю ў гэтым адыграў гайдамацкі рух. У 1754 г. паўстанне гайдамакаў адбылося на Жытоміршчыне, якая непасрэдна мяжуе з Каменшчынай. Трэба думаць, што невыпадкова ў гэты ж час супраць сваіх прыгнятальнікаў са зброяй у руках выступілі сяляне Камянецкай воласці.

Самыя раннія звесткі аб камянецкім выступленні адносяцца да верасня 1754 г. Пад гэтай датай значыцца загад гетмана аб накіраванні ва ўладанне дзвюх харугваў для падаўлення сялянскага выступлення. Напэўна, гэта ім удалося, бо ў снежні салдаты былі адазваны на папярэдняе месца дыслакацыі.

Аднак барацьба ва ўладанні не спынілася. У кастрычніку 1755 г. сяляне зноў узяліся за зброю і тым жа дзвюм харугвам, як і год назад, прыйшлося зноў выпраўляцца ва ўладанне капітула. На гэты раз такой сілы для ўціхамірвання падданых не хапіла, бо Радзівіл праз месяц накіраваў на Ка-

---

[1] *Мялешка В.І., Лойка* П.А. І ўзняўся люд просты. С. 69–78.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 392.

меншчыну яшчэ чатыры харугвы колькасцю 70 коннікаў на чале са шляхціцам Панятоўскім. Аднак і такой сілы для падаўлення выступлення было яўна недастаткова. У лісце Радзівілу 8 студзеня 1756 г. ён паведамляў, што паўстала ўся Камянецкая воласць, у якой налічваецца звыш 700 сялянскіх двароў.

Сяляне пры падыходзе харугваў да ўладання пакідалі свае вёскі і накіроўваліся да мястэчка Славечна, дзе мелі намер згуртавацца і аказаць узброенае супраціўленне войску. Так і адбылося. Сялянскі атрад пераняў карнікаў яшчэ перад Славечнам. Нечакана для шляхецкага атрада прыгонныя пасля абстрэлу коннікаў перайшлі ў атаку. Невялікае злучэнне Панятоўскага не здолела вытрымаць націску і пачало адступаць. Спачатку адступленне мела арганізаваны характар. Адыходзячы, харугвы аказвалі некаторае супраціўленне, але затым кінуліся ва ўцёкі. Ім прыйшлося адысці да Убарці, мястэчка, якое размяшчалася на адлегласці 10 міль ад Каменшчыны. Тут яны вырашылі затрымацца да таго часу, пакуль не падыдзе дапамога ад Радзівіла, бо ўжо не мелі ахвоты з наяўнай сілай ісці супраць паўстаўшых сялян.

Да сустрэчы радзівілаўскага войска рыхтаваліся і паўстанцы. Яны працягвалі падыходзіць да Славечна і стваралі там умацаваны лагер. Іх налічвалася некалькі тысяч. Усёй воласцю яны далі клятву "змагацца да апошняга, хоць і галовы прыйшлося б пакласці".

У лютым 1756 г. да карнага атрада прыбыло 55 коннікаў, а ў сакавіку з Нясвіжа падышла пяхота з гарматамі. Акрамя таго, да Оўруча па загаду Радзівіла была накіравана гетманская міліцыя.

Панятоўскі са сваімі людзьмі выступіў з Убарці, каб злучыцца пад Оўручам з міліцыяй, а потым атакаваць лагер паўстанцаў. Пасля аб'яднання пад яго камандаваннем налічвалася ўжо каля 400 чалавек. Гэта былі і гусары, і лёгкая конніца, і пяхота з артылерыяй. З гэтай сілай ён мог разлічваць на поспех у сутычцы з сялянскім атрадам, таму адразу накіраваўся да Славечна.

Паўстанцам была прапанавана капітуляцыя. Але тыя адзінадушна пацвердзілі сваё рашэнне змагацца да апошняга. Пасля такога адказу камандуючы шляхецкага атрада аддаў загад на прыступ замка. Вайскоўцы падпалілі гумны, у якіх паўстанцы зрабілі засады. Атака была імгненнай і сяляне не вытрымалі націску. Замак быў захоплены, прычым без страт з боку нападаючых. Паўстанцы ж згубілі 60 чалавек. Больш таго, некалькі дзесяткаў сялян патанулі ў балотах, якія суседнічалі з лагерам. Каля 60 раненых былі ўзяты ў палон. Аднаго з палонных карнікі адразу пасадзілі на палю.

Гэта быў пачатак жорсткай расправы, якую ўчынілі пераможцы над паўстанцамі. Потым на месца экзекуцыі яны сагналі ўсё



Вёска Жабін. З плана 1682 г.

дарослае насельніцтва Камянецкай воласці і пачалі выконваць прыгаворы: адных удзельнікаў сялянскага руху каралі смерцю, іншых – білі бізунамі. Перад адыходам з мястэчка Панятоўскі загадаў чатырох кіраўнікоў паўстання пасадзіць на палі, а 10 сялянскіх важакоў прывязаць да гармат і адправіць у Нясвіж на суд да Радзівіла[1].

Такім чынам, паўстанне на Каменшчыне, якое мела лакальны характар, пацярпела паражэнне. У ім, як і ў паўстанні сялян Крычаўскага староства, а таксама ў іншых узброеных выступленнях прыгонных, праявіліся тыповыя для феадальнай эпохі рысы – раз'яднанасць сялянскага руху, яго непаслядоўнасць, якая вынікала з рознасці інтарэсаў асобных катэгорый сялянскага саслоўя.

Але разам з тым безвыніковымі сялянскія выступленні назваць нельга, бо пасля іх становішча сялян на некаторы час паляпшалася і ліквідаваліся найбольш жорсткія праявы феадальнага прыгнёту. Так здарылася і на Каменшчыне, калі капітул быў вымушаны пайсці на паслабленне павіннасцей.

# ГЛАВА 3
# ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

## 1. Росквіт эпохі сарматызму

**Станаўленне "сармацкай" самасвядомасці на землях Рэчы Паспалітай.** Перыяд з апошняй чвэрці XVI ст. да сярэдзіны XVIII ст. характэрны ўсталяваннем і росквітам сарматызму – комплексам з'яў, якія былі ўласцівы амаль усім сферам шляхецкай культуры Рэчы Паспалітай. Так званы сармацкі комплекс знайшоў адлюстраванне ў палітычным і сямейным жыцці, сяброўскіх адносінах, стаўленні да навукі і мастацтва, адносінах шляхты да іншых саслоўяў і супольнасцей, манеры апранацца, этычных поглядах, грамадскіх сімпатыях і антыпатыях, эстэтычных і інтэлектуальных схільнасцях[2].

У аснову паняцця "сарматызм" быў пакладзены гістарычны міф аб паходжанні польскай шляхты ад старажытных ваяўнічых сармацкіх плямён. Назва "Сарматыя" была запазычана ў антычных аўтараў (Герадот, Пталемей, Ювенал). Згодна з "бесперапыннай гістарычнай традыцыяй старажытнасці"[3], яна выкарыстоўвалася сярэднявечнымі заходнееўрапейскімі хроністамі і картографамі для абазначэння тэрыторыі на ўсход ад Германіі. Карпаты называлі Сармацкімі гарамі і Сармацкімі Альпамі, Балтыйскае мора – Сармацкім акіянам, Палессе – Сармацкай багнай.

У сярэднія вякі гэта паняцце яшчэ не мела адназначнага сэнсу. Нярэдка ў французскіх і нямецкіх хроніках сарматамі называлі славян. Тэрыторыя Сарматыі на тагачасных картах таксама не была дакладна акрэслена, яна мяняла межы, часам знікала зусім. Сарматыю падзялялі на Еўрапейскую і Азіяцкую з мяжой па р.Дон. Гэты падзел прысутнічае на адной з захаваных

---

[1] *Мелешко В.И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. С. 170–174; Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч. 1. С. 257–258.

[2] *Pollak R.* Od Renesansu do Baroku. Warszawa, 1969. S. 29.

[3] *Ulewicz T.* Studium z problematyki słowiańskiej XV i XVI w. Kraków, 1950. S. 17.

арабскіх карт, якая датуецца канцом IX – пачаткам X ст. Першым польскім сярэднявечным храністам, які ўвёў ва ўжытак сармацкую тэрміналогію, быў Ян Длугаш.

Эпоха гуманізму ўнесла свае адценні ў паняцце сарматызму. Зварот да антычнасці, зацікаўленасць гістарычнымі праблемамі, як і выкарыстанне старажытнай, нярэдка міфічнай, генеалогіі свайго народа, былі ўвогуле ўласцівы еўрапейскаму гуманізму. Культурная атмасфера эпохі, развіццё навук, рост самасвядомасці народа ва ўмовах ваенных канфліктаў з немцамі спрыялі фарміраванню палітычнага паняцця "Сарматыя" як дзяржавы Ягелонаў. Гэта адносілася і да зямель, якія ўваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае. Паэт Ян Вісліцкі сваю эпічную паэму "Пруская вайна" з апісаннем Грунвальдскай бітвы 1410 г., выдадзеную ў 1516 г., прысвяціў Жыгімонту I, "непераможнаму каралю еўрапейскай Сарматыі". Сябе ж паэт называў "вядомым сарматам з роду паэтаў"[1].

Паняцце і назва "Сарматыя" трывала ўсталяваліся ў літаратуры польскага Рэнесансу, у творах Мацея Мехавіты (яго трактат "Аб двух Сарматыях, Азіяцкай і Еўрапейскай" знаёміў чытача з геаграфічным апісаннем усёй Усходняй Еўропы), Марціна Бельскага, Бернарда Вапоўскага, Марціна Кромера, Станіслава Ажахоўскага і інш. Часам гэты тэрмін ужываўся ў негатыўным сэнсе, каб супрацьпаставіць варварскія рысы "сарматаў" класічнай цывілізацыі Рыма. Напрыклад, падзвіжнік Марціна Лютэра Філіп Меланхтон, які, як і большасць рэфарматараў, выступаў супраць тэорыі вялікага вучонага Мікалая Каперніка, назваў яго "сармацкім астраномам"[2]. У гэты ж перыяд фарміруецца тэзіс аб сармацкім (у сэнсе праславянскім) генезісе славянскіх народаў.

**Сарматызм як палітычная ідэалогія шляхты ВКЛ**. У сваім класічным сэнсе паняцце "сарматызм" выкрышталізавалася ў апошняй чвэрці XVI ст. Яно набыло саслоўную афарбоўку і стала ўжывацца для абазначэння стылю жыцця і спосабу мыслення шляхты Рэчы Паспалітай, увайшло ў свядомасць шляхецкага грамадства як увасабленне пачуцця яго саслоўнай і грамадскай выключнасці. Гэта паняцце, звязанае з уяўленнем аб шляхецкай дэмакратыі як найбольш дасканалым палітычным ладзе, замацавалася ў лексіцы як урачыстай, так і паўсядзённай. У палітычных творах назва "сармат" выкарыстоўвалася нароўні з назвамі "паляк" ці "літвін".

Сармацкім народам лічылася шляхта як польская, так і літоўская і "руская" – гэта значыць адзіны палітычны народ – шляхта Рэчы Паспалітай, але з гэтага народу выключаліся мяшчане і, зразумела, сяляне. Характэрнае для сармацкай ментальнасці разуменне выключнасці шляхты выдатна ілюструе выказванне аднаго з тагачасных аўтараў: "чалавек шляхецкага паходжання з прыроды і крыві сваёй узвышаецца над простымі людзьмі, таму што ён да дабрадзейнасці і розуму найбольш здольны"[3]. Такая гіпертрафаная павага да свайго стану (саслоўя) набывала часам амаль карыкатурныя формы.

Разам з тым трэба адзначыць, што ідэя сармацкасці была прывабнай у асноўным для сярэдняй і часткі дробнай шляхты. Магнатэрыя, найбольш адукаваны слой тагачаснага грамадства, не захаплялася сармацкім міфам, яе густы і звычкі насілі больш касмапалітычны характар, хаця яе прадстаўнікі і ўдастойваліся напышлівых прозвішчаў, накont "сармацкага Геркулеса".

---

[1] *Дорошкевич В.И.* Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979. С. 91.

[2] *Ulewicz T.* Studium z problematyki słowiańskiej XV i XVI w. S. 81.

[3] Сборник казаний. ОРК БАН Беларусі. ОБ 16–18, НР–283. С. 257.

Знаць Вялікага княства Літоўскага мела свар генеалагічную легенду – аб паходжанні ад старажытных знатных рымлян, якія на чале з Палемонам прыбылі ў Літву. Беларуска-ўкраінская знаць атаясамлівала сябе з патомкамі Рурыкавічаў.

Ва ўяўленні грамадскай свядомасці іншыя славяне таксама належалі да сарматаў, але галоўнай сармацкай дзяржавай лічылася Рэч Паспалітая. Маскоўскую дзяржаву залічалі да Сарматыі ў залежнасці ад знешнепалітычнай кан'юнктуры. У час першага бескаралеўя прыхільнікі маскоўскай кандыдатуры на польскі трон падкрэслівалі магчымасць аб'яднання ў адзіную дзяржаву абедзвюх Сарматый (Еўрапейскай і Азіяцкай). У пачатку XVII ст., напрыклад, сармацкі міф быў выкарыстаны ў якасці ідэалагічнага абгрунтавання экспансіі на ўсход – на землі, якія быццам бы належалі ў старажытнасці палякам-сарматам.

Знешне- і ўнутрыпалітычнае становішча Рэчы Паспалітай у пачатку XVII ст. (ваенныя канфлікты з некаталіцкімі краінамі – мусульманскай Турцыяй, пратэстанцкай Швецыяй, праваслаўнай Маскоўскай дзяржавай, барацьба з рэфармацыйным рухам, Берасцейская царкоўная унія 1596 г.) спрыяла наданню сармацкай ідэалогіі элементаў месіянства, уяўленню аб Польшчы як апоры хрысціянства. Пэўную ролю ў фарміраванні месіянскай ідэі аб выключнай гістарычнай ролі Польшчы адыграла каталіцкая царква. У сваю чаргу шматлікая, як ні ў якой іншай краіне, шляхта Рэчы Паспалітай лічыла сябе Богам выбраным народам, які здолеў стварыць дасканалую дзяржаўную сістэму, што гарантавала шляхецкія правы і вольнасці.

Інтэграцыйныя працэсы ў асяроддзі шляхты (асабліва сярэдняй) Рэчы Паспалітай, развіццю якіх спрыялі агульныя прывілеі шляхецкаму стану, удзел у адзіных формах палітычнага жыцця (ад сеймікаў да вайсковых канфедэрацый), уніфікацыя школьнай сярэдняй адукацыі прыводзілі да выпрацоўкі адзінай ментальнасці і ідэалогіі, стылю жыцця[1]. Большая частка шляхты прытрымлівалася адных і тых жа рэлігійных перакананняў, вызнавала тыя ж палітычныя і грамадскія погляды, цытавала тых жа аўтараў, карысталася тымі ж цытатамі[2].

Склаўся ўзорны вобраз шляхціца-сармата – патрыёта сваёй Айчыны і свайго стану, добрага рыцара, які аднаўляў ваяўнічыя традыцыі старажытных сарматаў, красамоўнага аратара на сеймах і сейміках, які выступаў у абарону сваіх шляхецкіх вольнасцей і свайго права на вольную элекцыю караля, а таксама асобы, здольнай дзеля агульнай карысці ўзняцца над уласнымі сімпатыямі і амбіцыямі. Як прыклад любові да Айчыны прыводзіўся факт выступлення віленскага ваяводы Радзівіла падчас элекцыі Стэфана Баторыя. Будучы пратэстантам, Радзівіл заклікаў дзеля дабра для Айчыны выбраць караля-католіка.

У духу свайго часу, нават у паўсядзённым жыцці, сармацкая шляхта Беларусі выказвалася напышліва і патэтычна, перамяжоўваючы польскія словы з лацінскімі. З іроніяй пісаў аб гэтым М.Сарбеўскі: "У іншых красамоўства знаходзіць сабе месца ў кніжках, у нас пануе на сходах, на сеймах... Празмернае, аднак, замілаванне і схільнасць да красамоўства прыводзіць іх ... часта да амаль дзіцячай гаварлівасці. Пры калысцы і пры катафалку, пры стале і пры шлюбе – заўсёды выглашаюць прамовы... Дваране сваіх паноў, якія вяртаюцца з горада, вітаюць прамовамі, быццам тыя з Індыі прыбылі"[3].

---

[1] *Tazbir J.* Rzeczpospolita i świat. Wrocław etc., 1971. S. 9–10.

[2] *Czapliński W.* O Polsce siedemnastowiecznej. Problemy i sprawy, Warszawa, 1966. S. 53.

[3] Цыт. па: *Pollak R.* Od Renesansu do Baroku. S. 26.

Аслабленне каралеўскай улады, працэс развіцця магнацкіх малых "дзяржаў" і як вынік – дэцэнтралізацыя вярхоўнай улады адбіліся на сацыяльна-эканамічным і палітычным становішчы краіны. Неразвіты дзяржаўны апарат, армія, дзяржаўны скарб, недасканалая сістэма сеймавых пасяджэнняў (чаго каштавала славутае "liberum veto") патрабавалі рэформаў. Але магнатэрыя і яе прыхільнікі з сярэдняй і дробнай шляхты ўспрымалі праекты рэформаў як замах на сваю "залатую вольнасць". На іх думку, ідэальны дзяржаўны лад сармацкай рэспублікі патрабаваў не рэформаў, а толькі ўдасканалення. Як адзначаў польскі літаратар пачатку XVII ст. Ян Жабчыц, "няма большага ўпадку для Рэчы Паспалітай, чым вынаходніцтва новых правоў, а старых добрых звычаяў ламанне і асуджэнне"[1].



Ян III Сабескі. Партрэт невядомага мастака другой паловы XVII ст.

Палітычны ідэал сарматызму – дзяржаўны традыцыяналізм, кансерватызм ("нічога новага"), непрыманне абсалютызму. Добры сармацкі манарх – гэта ўраджэнец Рэчы Паспалітай, якога ў першую чаргу цікавяць справы вайсковыя, а ўжо потым мастацтва і рэлігія, які апранаецца ў польскі строй, а не ў іншаземнае адзенне і які павінен дбаць аб захаванні шляхецкіх прывілеяў і вольнасцей. Ідэальныя рысы караля-сармата ўвасобіў Ян III Сабескі (1674– 1696). Усхваленне даўніх правоў і звычаяў, перакананне ў сваёй культурнай, палітычнай і нацыянальнай выключнасці спрыялі фарміраванню ўяўлення аб нацыянальных рысах "сармацкага" характару – гасціннасці, шчырасці, годнасці, а галоўнае – любові да свабоды.

Такое самалюбаванне часам выклікала крытычныя адносіны з боку тагачаснай інтэлігенцыі. Пісьменнік Сымон Старавольскі, ураджэнец Берасцейскага ваяводства, аўтар кнігі "Сармацкія помнікі", выдадзенай у Кракаве ў 1655 г., пісаў аб шляхецкай фанабэрыі наступнае: "... згадваюць старажытныя нашыя роды, быццам перад рымлянамі і нават самімі персамі над светам панавалі... тым больш зараз, калі нас бунт казацкі знішчыў і Масквіцін трымае за фалды"[2].

**Сарматызацыя каталіцызму. Праявы ксенафобіі.** Ускладненне грамадска-палітычнага жыцця, наступленне контррэфармацыі, узмацненне пазіцый каталіцкай царквы праявіліся ў нарастанні тэндэнцый нецярпімасці да іншых рэлігій і канфесій. Ва ўяўленні шляхты, у тым ліку некаторай часткі беларускай, сапраўдны сармат павінен быў быць сумленным католікам. Той жа Старавольскі з пагардай асуджаў практыку, калі на дзяржаўныя пасады "ерэтыкоў і адшчапенцаў саджаем". Заняпад рэфармацыйнага руху і царкоўна-рэлігійнай палемікі, ператварэнне каталіцкіх дактрын у манапольную ідэалогію вярхоўнай улады, абміршчэнне вышэйшага

[1] Цыт. па: *Cynarski St.* Sarmatyzm – ideologia i styl życia // Polska XVII wieku. Państwo–społeczeństwo–kultura. Warszawa, 1977. S. 265.

[2] *Szymon Strowolski.* Reformacja obyczajów polskich. 1655. S. 11–12.

духоўнага кліру і спрашчэнне ніжэйшага адбіліся на інтэлектуальным узроўні каталіцкага касцёла Рэчы Паспалітай, прывялі да яго замкнёнасці на ўнутраных праблемах, абмежавалі яго магчымасці ўдзелу ў сусветных духоўна-рэлігійных працэсах.

У той жа час каталіцызм набываў нацыянальныя рысы з элементамі сармацкага кур'ёзу. Адзін з гісторыкаў XIX ст. так характарызаваў царкоўныя пропаведзі таго часу: "Паўсюль у іх старасты, гетманы, біскупы, Рэч Паспалітая, нават калі гаворка ідзе аб Фінікіі, Турцыі ці Асірыі. Усё там у жупан апранута. Хрыстос, апосталы, святыя – словам, Стары і Новы запаветы размаўляюць стылем і мовай нашай шляхты... усякае каралеўства, як, напрыклад, іудзейскае, называецца "Мілай Рэччу Паспалітай Ізраільскай", усякая вайна – паспалітым рушаннем; там Збавіцель праводзіць элекцыйны сейм для выбрання на прастол нябесны..."[1]

З нецярпімасцю да іншых рэлігійных, палітычных і культурных сістэм і мегаламаніяй былі звязаны праявы ксенафобіі, непрыязных адносін да іншаземцаў. У творах таго часу найбольш даставалася немцам і італьянцам. Французаў назвалі лёгкадумнымі, англічан – ханжамі, галандцаў – прастакамі, іспанцаў – ганарлівымі і хітрымі. Выезды за мяжу, на думку асобных аўтараў, прыносілі толькі звычкі да лёгкага жыцця і хваробы[2].

Праявы такой непрыязні да іншаземцаў, асабліва да немцаў і палякаў, ёсць і ў ананімным беларускім палітычным памфлеце канца XVI–пачатку XVII ст. "Прамова Івана Мялешкі". Едка, з абурэннем апісвае аўтар-беларус паводзіны іншаземцаў у сваёй краіне: "А коли сам Немчина иде, или жонка его поступае, то через скурку скрыпить, шелестить и дорогим пижмом воняеть. Коли ж до тебе паничык прыеде, частуй же его достатком, да и жонку свою подле его посади; а он сыдыть как бес надувшыся. Махаеть шапкою или капелюшем, и з жонкою нашептываеть, да и в ладонь скребеть"[3].

У "Прамове Івана Мялешкі" ўхваляецца кароль Жыгімонт І, які "немцев, як собак не любил, и ляхов з их хитростьми велме не любил, але Литву и нашу Русь любително миловал"[4].

**Сарматызм і культура Беларусі.** Культура сарматызму ўплывала і на мастацкія густы шляхты. Яна праяўлялася, напрыклад, у шырокім выкарыстанні арыентальных матываў. Гэтаму спрыялі кантакты з Турцыяй, Татарскім ханствам, Маскоўскай дзяржавай, а таксама той факт, што цэнтр культурнага развіцця Рэчы Паспалітай з тэрыторый этнічна польскіх перамясціўся на ўсход, на землі літоўскія і "рускія", дзе праходзіў працэс інтэнсіўнай паланізацыі шляхецкага стану. З гэтых рэгіёнаў выйшлі знакамітыя дзеячы культуры Рэчы Паспалітай[5].

Арыентальныя элементы мы бачым у палацавай і сядзібнай архітэктуры, партрэтным жывапісе, аздабленні розных відаў зброі, афармленні музычных і тэатральных пастановак, паратэатральных відовішчаў, што ладзіліся на беларускіх землях.

Захапленне арыентальнымі матывамі праявілася ў распаўсюджанні янычарскіх аркестраў, касцюміраваным дэкоры агульнагарадскіх цырымоній у Віцебску, Слоніме, Шклове, дзе магнатаў віталі апранутыя ў турэц-

---

[1] Цыт. па: *Tazbir J.* Rzeczpospolita i swiat. S. 110.

[2] *Cynarski St.* Sarmatyzm – ideologia i styl życia // Polska XVII wieku. Państwo–społeczeństwo–kultura. S. 254.

[3] Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Мн., 1961. С. 317.

[4] Там жа. С. 316.

[5] *Samsonowicz H., Tazbir J., Lepkowski T., Nalecz T.* Polska. Losy państwa i narodu. Warszawa, 1992. S. 212.

кае ўбранне слугі і музыканты, воіны і жыхары гарадоў[1]. У другой палове XVIII ст. у нясвіжскім прадмесці Альба (уладанне Радзівіла) з найбольш ваяўнічай і разгульнай часткі шляхты сфарміравалі спецыяльную харугву – "Альбанскую банду", апранулі ва ўсходняе адзенне, раздалі стрэльбы – "янычаркі". "Альбанская банда" павінна была ўяўляць турэцкае войска з асобым аркестрам – "янычарняй". Праявы позняга сарматызму набывалі ў XVIII ст. часам гратэскны характар. У прыватнасці Караль Радзівіл загадаў у час набажэнства ў нясвіжскім касцёле іграць яўрэйскаму аркестру, убранаму ў турэцкія касцюмы[2].

Сармацкія ідэі знайшлі адлюстраванне ў творах пісьменнікаў і паэтаў – Яна Белабоцкага, Збігнева Морштына, Мацея Сарбеўскага, Вацлава Патоцкага, мемуарах Самуіла і Багуслава Маскевічаў.

Сарматызацыя каталіцызму спрыяла фундацыі (заснаванню) касцёлаў, пабудаваных у стылі барока, з раскошнымі інтэр'ерамі, аздобленымі скульптурнымі кампазіцыямі, выкананымі на высокім мастацкім узроўні. У жывапісе пануючыя пазіцыі заняў партрэт. Патрэбнасць сармацкай шляхты мець партрэтныя "генеалагічныя" галерэі паўплывала на фарміраванне так званага сармацкага партрэта, для якога характэрны адначасова знешняе падабенства, наяўнасць рэальнай атрыбутыкі і ўмоўнасць жывапісу[3]. Гэтыя рысы ўласцівы партрэтам Грызельды Сапегі (каля 1630 г.), Аляксандры Весялоўскай (1633–1645), "рыцарскім" партрэтам Міхала Казіміра Паца (1667), Андрэя Казіміра Завішы (1676), партрэту Казіміра Лявона Сапегі, скульптурнаму надмагільнаму партрэту Паўла Сапегі і яго трох жонак і інш.

Росквіт сарматызму супаў па часе з пануваннем мастацкага стылю барока; у мастацтве і літаратуры рысы гэтых дзвюх з'яў перасякаліся. Але сарматызм быў успрыняты вузкім сацыяльным пластом – шляхтай, у тым ліку беларускай, стаў яе палітычнай ідэалогіяй, паўплываў на яе ментальнасць, звычаі. Сарматызм стаў сінонімам кансерватызму, напышлівасці, дэкларыванай набожнасці, саслоўнай абмежаванасці. Характарызуючы палітычную сітуацыю на схіле XVII ст., калі эпоха сарматызму дасягнула свайго апагею, польскі гісторык Ул.Канапчынскі так пісаў пра самазамілаванне ў праявах самасвядомасці, панаваўшае ў тыя часы: "І трэба прызнаць, што тая вера ва ўласную зорку была б крыніцай вялікай сілы для народа, калі б шляхта не атаясаміла сама сябе з народам"[4].



Ян Казімір у сармацкім касцюме. Гравюра XVII ст.

[1]*Дадиомова О.В.* Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992. С. 35.
[2]*Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992. С. 87.
[3]*Тананаева Л.И.* Сарматский портрет. М., 1979. С. 142.
[4]*Konopczyński Wl.* Dzieje Polski nowożytnej. Warszawa, 1986. T. 2. S. 86.

## 2. Міжканфесійныя адносіны

**Наступленне каталіцызму і намаганні праваслаўнай царквы па захаванню пазіцый.** У сярэдзіне XVII ст. самай масавай канфесіяй у Беларусі заставалася праваслаўе. Забяспечанае канстытуцыйнай свабодай на дзяржаўным узроўні (грамата 1 лістапада 1632 г., дыплом 14 сакавіка 1633 г. караля Уладзіслава IV, дыплом 12 студзеня 1650 г. Яна Казіміра), яно, аднак, панесла вялікія страты ў выніку наступлення каталіцкага касцёла, пашырэння уніяцтва, свавольства шляхты. Ад праваслаўя адвярнулася арыстакратыя, што моцна аслабіла яго пазіцыі. Да другой паловы XVII ст. спынілі сваё існаванне праваслаўныя брацтвы, школы, друкарні. У сярэдзіне стагоддзя на змену арыстакратыі, шляхецтву, аб'яднаным у брацкія арганізацыі гараджанам у шэрагі абаронцаў праваслаўя ўліваецца новая сіла – казацтва, якое робіць яго сваім баявым сцягам. Такая рэакцыя казацтва яшчэ больш адштурхоўвае шляхту ад гэтай веры.

Буйнейшымі асяродкамі праваслаўнага царкоўнага жыцця ў другой палове XVII—першай палове XVIII ст. былі віленскі манастыр св.Духа, слуцкі Траецкі манастыр і горад Магілёў, які з'яўляўся на той час цэнтрам адзінай у Беларусі праваслаўнай епархіі, прызнанай уладамі Рэчы Паспалітай у 1633 г. Яна фігуруе ў крыніцах пад назвай "Магілёўская, Мсціслаўская, Аршанская" або проста "Магілёўская", пазней – "Беларуская". У пачатку XVIII ст. Магілёўская епархія ўвогуле засталася адзінай праваслаўнай епархіяй ва ўсёй дзяржаве, і сфера яе ўплыву на працягу стагоддзя няўхільна звужалася, нягледзячы на знешнюю падтрымку – з боку Расійскай дзяржавы.

Часта епархія кіравалася епіскапскімі намеснікамі, бо каралі не зацвярджалі абраных архірэяў. У 1644—1654 гг. на чале яе стаяў Іосіф Гарбацкі, прызнаны каралём толькі ў 1650 г. У 1662—1669 гг. кафедру фармальна ўзначальваў Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі, які быў адначасова абраны і кіеўскім мітрапалітам, але, абгавораны перад каралём, правёў больш двух гадоў у заключэнні ў Марыенбургскай крэпасці, а потым дажываў свой век на Украіне. Яго пераемнікам на гэтай пасадзе стаў Феадосій Васілевіч (1669—1678), слуцкі архімандрыт. У 1680—1686 гг. епархіяй кіраваў так і не прызнаны каралём Янам Сабескім Клімент Трызна. Яго змяніў Серапіён Пальхоўскі (1688—1704), зацверджаны ў сане епіскапа Аўгустам II у 1697 г., пасля таго як намаганні Яна Сабескага знішчыць кафедру і епіскапскую пасаду ў Магілёве[1] не далі вынікаў.

Магілёўская епархія з'явілася адной з царкоўна-адміністрацыйных адзінак Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі, якую ў 1647—1657 гг. узначальваў беларус па паходжанню таленавіты педагог, пісьменнік і багаслоў, а да таго епіскап мсціслаўскі, магілёўскі і аршанскі Сільвестр Косаў. Ён уяўляў сабой тып царкоўнага дзеяча і мысліцеля "на мяжы культур" – усходне- і заходнееўрапейскай, грэка-візантыйскай і лацінскай, схільнага да інтэграцыі духоўна-культурных здабыткаў Усходу і Захаду.

У беларуска-украінскім праваслаўі таго часу існавалі дзве плыні. Першую ўтваралі айчынныя ізаляцыяністы-антызаходнікі, варожа настроеныя да заходнееўрапейскай навукі, рэлігійнай і свецкай культуры, ахрышчаных імі адным тэрмінам – «лацінства». Да другой адносіліся царкоўныя і грамадскія дзеячы «на мяжы культур», для якіх было ўласціва стварэнне на-

---

[1] *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С.191—192; *Грыгаровіч І.І.* Беларуская іерархія. Мн., 1992. С.21—23.

цыянальна-рэгіянальнай культуры і адукацыі на аснове сінтэзу абедзвюх галін хрысціянства, узгадненне праваслаўных і каталіцкіх догматаў, засваенне многавяковага плёну заходняй свецкай і тэалагічнай культуры[1].

Аднак гэта балансаванне «на мяжы культур» прыводзіла некаторых лідэраў і ідэолагаў беларуска-ўкраінскага праваслаўя ва уніяцкі лагер. Па шляху сваіх аўтарытэтных папярэднікаў (М.Сматрыцкі, К.Транквілiён-Стаўравецкі, К.Саковіч і інш.) спачатку пайшоў і Сімяон Полацкі, які ўбачыў ва уніяцтве адзіна прымальную форму збліжэння заходне- і ўсходнееўрапейскіх традыцый і культур. Ён прыняў гэту веру і стаў членам базыльянскага ордэна. Аднак пад уплывам шэрагу фактараў (ураджанне ад «перамог расійскай зброі» падчас вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг., уяўленне аб моцы і магчымасцях рускага цара, прарасійскія настроі часткі духавенства і насельніцтва Усходняй Беларусі на першым этапе вайны, далучэнне Левабярэжнай Украіны да Расіі, незадавальненне сацыяльна-рэлігійнай палітыкай кіруючых колаў Рэчы Паспалітай і інш.) ён ператварыўся з уніята ў адданага прыхільніка, а потым і ідэолага праваслаўя і расійскага самадзяржаўя.

Інтэлектуальная і культурная перабудова беларуска-ўкраінскага праваслаўя ў другой і апошняй трэці XVII ст., якая праявілася ў стварэнні новай сістэмы свецкай адукацыі, уласнай багаслоўска-філасофскай культуры, высокаадукаваных кадраў святароў, педагогаў, пісьменнікаў, публіцыстаў, вучоных, садзейнічала захаванню веры ва ўмовах моцнага контррэфармацыйнага руху і каталіцкай экспансіі[2].

Дзяржаўная падтрымка Берасцейскай уніі і ігнараванне праваслаўя прывялі да таго, што значная частка яго прыхільнікаў перайшла ў апазіцыю да ўлад Рэчы Паспалітай. Іх апазіцыйнасць праяўлялася ў розных формах – ад пратэстаў, сеймавых дэбатаў і ультыматумаў, антыуніяцкай палемікі да выступленняў і нават паўстанняў. Рэлігійна-прававая дыскрымінацыя ва ўласнай краіне і няздольнасць сябе абараніць скіравалі позіркі праваслаўных на ўсход – надзею на аднаўленне сваіх правоў яны сталі звязваць з царскім урадам і маскоўскай царквой. Пазіцыя беларуска-ўкраінскай праваслаўнай інтэлігенцыі, духоўнай і свецкай, была неадназначнай. Адна яе частка прыняла уніяцтва. Другія бачылі выратаванне ў тым, каб аддацца пад «высокую царскую руку». Трэція балансавалі паміж Рэччу Паспалітай, каралеўскай уладай, пераконваючы апошнюю адрадзіць усе рэлігійныя і маёмасныя правы праваслаўнага насельніцтва, і царскім самадзяржаўем, Маскоўскім патрыярхатам, з якімі падтрымлівалі добрыя адносіны і да якіх звярталіся за матэрыяльнай, маральнай і дыпламатычнай падтрымкай[3].

На працягу другой паловы XVII—першай паловы XVIII ст. пры актыўнай падтрымцы дзяржаўных улад, свецкіх і духоўных феадалаў Рэчы Паспалітай свае пазіцыі ў Беларусі ўмацоўвала каталіцтва. Большая частка беларускіх зямель у гэты час уваходзіла ў склад Віленскага біскупства, заснаванага яшчэ ў 1387 г., а Берасцейскае ваяводства – у склад Луцкага. Галавой каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай быў прымас, які склікаў сіноды (з'езды) духавенства, узводзіў у сан біскупаў і здзяйсняў нагляд за іх дзейнасцю. Апошнія кіравалі сваімі дыяцэзамі з дапамогай капітулаў. Біскупствы (епархіі) падзяляліся на дэканаты на чале з ксяндзамі-дэканамі. У Бела-

---

[1] *Падокшын С.А.* Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998. С. 12, 89, 90.

[2] Там жа. С. 90.

[3] Там жа. С. 92.

русі ў гэты час было 16 дэканатаў (Ашмянскі, Лідскі, Браслаўскі, Полацкі, Гарадзенскі, Наваградскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Пінскі, Берасцейскі, Мсціслаўскі, Віцебскі, Аршанскі, Менскі, Рэчыцкі, Мазырскі), у якіх у 1653 г. было 153, а ў 1744 г. – ужо 270 (121 на ўсходзе Беларусі і 149 – на захадзе) прыходскіх касцёлаў[1].

Колькасць храмаў і кляштараў (манастыроў) розных каталіцкіх ордэнаў за стагоддзе істотна павялічылася. Самую густую сетку сваіх устаноў стварылі езуіты. У другой палове XVII—пачатку XVIII ст. яны адкрылі Менскую (1657), Гарадзенскую (1664), Слуцкую і Наваградскую (1714) калегіі. Толькі полацкія езуіты да 1726 г. заснавалі ў сваіх уладаннях 15 касцёлаў. На працягу XVII ст. на тэрыторыі Беларусі з'явілася 13 францысканскіх, 35 дамініканскіх (у тым ліку 25 у другой палове XVII ст.), 16 кармеліцкіх кляштараў, у XVIII ст. – адпаведна 9, 6 і 7. Найбольш каталіцкіх кляштараў было ў Менску, Гародні, Берасці, Слоніме, Наваградку, Оршы. У Гародні, дзе ў пачатку XVIII ст. налічвалася не больш 3 тыс. жыхароў, было 8 каталіцкіх і уніяцкі кляштар і 9 касцёлаў. У Оршы было 9 кляштараў. Кожны такі кляштар займаў вялікі квартал, як правіла, у цэнтры горада, быў агароджаны сцяной, меў касцёл і на працягу стагоддзяў вызначаў архітэктурнае аблічча горада. Манастыры, як каталіцкія, так уніяцкія і праваслаўныя, валодалі зямельнай уласнасцю і прыгоннымі сялянамі. У сярэдзіне XVIII ст. Віленскаму біскупству належала 600 вёсак, раскіданых па ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

У гэты час касцёл атрымаў моцную матэрыяльную базу для сваёй дзейнасці, умацаваў пазіцыі ў гарадах, займеў манаполію ў інтэлектуальным жыцці Беларусі. Ён вылучыў са свайго асяроддзя выдатных вучоных, пісьменнікаў, педагогаў – Альберта Каяловіча (1609—1677), Войцеха Кая-



Заснаванне касцёла.
Фрагмент роспісу касцёла Станіслава ў Магілёве

---

[1] *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 102; *Ён жа.* Атеистическое воспитание учащихся при изучении истории БССР. Мн., 1982. С. 41.

ловіча (1609—1677), Яна Кулешу (1660—1706), Анастаза Керсніцкага (1678—1733) і іншых, якія працавалі на ніве культуры і асветы Беларусі.

У імкненні ўмацаваць свае становішча касцёл выкарыстоўваў розныя формы і метады ўздзеяння на пануючы клас і народныя масы. Пры культавых установах ствараліся брацтвы – арганізацыі прыхаджан. Яны займаліся філантропіяй – аказвалі дапамогу хворым, збіралі ахвяраванні для жабракоў, часам утрымлівалі шпіталі. Асабліва актыўную работу па стварэнні брацтваў разгарнулі езуіты, дамініканцы, кармеліты. На працягу XVII—XVIII стст. езуіты стварылі ў буйнейшых гарадах Беларусі брацтвы св. Алойза, св. Варвары, св. Лазара, св. Яна Непамуцэна, Маці Божай, Божага цела і інш.

Шырокае распаўсюджанне ў Беларусі атрымаў культ дзевы Марыі. З 16 плебаній (прыходаў) Ашмянскага дэканата ў 80-я гг. XVIII ст. у 14 былі брацтвы, заснаваныя ў гэтым стагоддзі. Каталіцкія брацтвы мелі свае статуты, касцёльныя харугвы (сцягі), набажэнскія кнігі, скарбонкі, персанал. Кіраўнікоў брацтваў абіралі кожныя два-тры гады, пераважна са шляхты ці заможных мяшчан. Пры каталіцкіх культавых установах ствараліся таксама кангрэгацыі: па прафесійнаму прынцыпу, са студэнцкай моладзі і г.д. Акрамя штодзённых пропаведзяў касцёлы праводзілі мноства агульных і мясцовых святаў – адпустаў і фэстаў, царкоўных гадавін з пышнымі цырымоніямі, тэатралізаванымі прадстаўленнямі, рэлігійнымі шэсцямі і працэсіямі, раздачай індульгенцый. Масавыя мерапрыемствы спалучаліся з індывідуальнай працай з хворымі, вязнямі і да т.п.[1]

Пасля войнаў сярэдзіны XVII ст. у рашаючы этап уваходзіць рэлігійная кансалідацыя шляхецкага саслоўя і ў другой палове XVII – пачатку XVIII ст. рэшткі праваслаўнай шляхты пераходзяць у каталіцтва.

Узмоцнены каталіцызм канчаткова заціскае рэфармацыйны рух, які пад яго ўдарамі ў другой палове XVII ст. зусім згасае. Пастановай сейма Рэчы Паспалітай 1658 г. арыяне пазбаўляюцца апекі сеймавых канстытуцый і падлягаюць выгнанню з радзімы. На ўпарадкаванне маёмасных спраў ім даецца тры гады, але ў наступным годзе гэты тэрмін скарачаецца. У эміграцыю падаліся нямногія – большасць засталася ў сваёй краіне, аднак яны вымушаны былі перайсці ў каталіцтва.

Атрымаўшы перамогу над пратэстантызмам, касцёл імкнецца пакончыць з праваслаўем, а разамі з уніяцкай царквой, якую ён разглядаў як сродак распаўсюджвання каталіцтва, на мяжы XVII—XVIII стст. дамагаецца ў гэтым значных поспехаў.

**Распаўсюджванне уніяцтва.** Уніяцкая царква ў межах тагачаснай Рэчы Паспалітай утварала Кіеўскую мітраполію (з цэнтрам у Вільні) і складалася з 9 епархій. Тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад пяці з іх. Мітрапаліцкая епархія размяшчалася на тэрыторыі Віленскага, Менскага, Наваградскага і часткова Троцкага і Кіеўскага ваяводстваў. У сярэдзіне XVIII ст. у ёй было больш за 1000 цэркваў, з якіх не менш 536 знаходзіліся непасрэдна на землях Беларусі. На тэрыторыі Полацкага і Віцебскага ваяводстваў размяшчалася Полацкая епархія, якая займала асобнае месца ў структуры уніяцкай царквы – ёй кіраваў архіепіскап. У канцы XVIII ст. яна налічвала да 1000 цэркваў. На ўсходзе Беларусі знаходзіліся прыходы Смаленскай епархіі. Паводле Андрусаўскага перамір'я амаль усе яе землі, акрамя 20 прыходаў Мсціслаўскага ваяводства, былі далучаны да Расіі. На тэрыторыі Пінскага

[1] *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974. С. 135–232.

павета знаходзілася самая малая Турава-Пінская епархія. У 1664 г. яна мела каля 10 уніяцкіх цэркваў, астатнія былі праваслаўнымі. Рэштка тэрыторыі Берасцейскага ваяводства ўваходзіла ў склад Берасцейска-Уладзімірскай епархіі[1].

На чале уніяцкай царквы стаяў мітрапаліт. На гэту пасаду выбіраўся, як правіла, полацкі архіепіскап або ўладзімірска-берасцейскі епіскап. Мітрапаліт прызначаў і пасвячаў епіскапаў (у каталіцкай царкве гэта рабіў выключна папа рымскі), а сам зацвярджаўся папам, якому і падпарадкоўваўся. Уніяцкую мітраполію ў другой палове XVII – першай палове XVIII ст. узначальвалі Антон Сялява (1642—1656), Гаўрыіл Календа (1656—1674), Кіпрыян Жахоўскі (1674—1693), Леў Шлюбіч-Заленскі (1693—1708), Георгій Вінніцкі (1708—1713), Леў Кішка (1713—1728), Афанасій Шаптыцкі (1729—1746), Фларыян Грабніцкі (1746—1762).

Выключнае месца ў структуры уніяцкай царквы займаў манаскі ордэн базыльян (св. Васіля Вялікага), рэфармаваны ў 1617 г. мітрапалітам І.Руцкім. На чале ордэна стаяў архімандрыт, які спачатку падпарадкоўваўся мітрапаліту, а потым – непасрэдна папе рымскаму (у гэтым базыльяне былі падобныя на каталіцкія ордэны, бо праваслаўныя манастыры падпарадкоўваліся епіскапскай уладзе). Рэзідэнцыяй протаархімандрыта быў прызначаны кляштар у Тараканах (Кобрынскі павет). Ордэн меў у Рыме пастаяннага прадстаўніка – пракуратара. У 1743 г. базыльянскі ордэн быў падзелены на дзве правінцыі – Літоўскую (уваходзілі землі Беларусі) і Рускую (землі Польскай Кароны). Рэзідэнцыя літоўскага правінцыяла (кіраўніка правінцыі) размяшчалася ў Віленскім кляштары св. Тройцы. Моц і ўплыў ордэна хутка раслі. У 1655 г. ён меў на тэрыторыі Беларусі і Украіны 31 кляштар (180 манахаў), у 1726 г. – 73 кляштары (300 манахаў), у 1772 г. абедзве правінцыі мелі па 72 кляштары кожная, з 612 манахамі ў Літоўскай і 613 – у Рускай правінцыі. На тэрыторыі Беларусі існавалі 55 базыльянскіх кляштараў. Буйнейшымі былі Полацкі, Жыровіцкі, Менскі, Віцебскі, Беразвецкі, Барунскі, Быценскі, Антопальскі. Дазвол уступаць у ордэн католікам, якія, як правіла, былі шляхецкага паходжання, прыносіў яму багатыя фундушы (ахвяраванні). Базыльянскі ордэн стварыў сваю сетку навучальных устаноў, займаўся выдавецкай дзейнасцю, меў друкарні ў Вільні, Супраслі, Менску[2]. Базыльяне ўяўлялі сабой асобную "касту" ва уніяцкай царкве і былі яе інтэлектуальнай элітай.

Лацінізатарская і паланізатарская дзейнасць касцёла, даючы пэўныя вынікі (большыя на захадзе Беларусі, чым на ўсходзе, у горадзе, чым у вёсцы), садзейнічала абуджэнню сярод уніятаў этнічнай і рэлігійнай самасвядомасці. Яго лінія на згладжванне спецыфічных рыс уніяцтва не дасягнула канчатковай мэты ў сувязі з пазіцыяй беларускага духавенства і вернікаў, якія адстойвалі царкоўна-культурную індывідуальнасць свайго народа. Больш таго, у перыяд культурнага заняпаду, які пачаўся з канца XVII ст., беларускасць трымалася пераважна пры уніяцкай царкве[3]. Апошняя стварыла беларусізаваны варыянт царкоўна-славянскай мовы і на ім у канцы XVII – першай палове XVIII ст. выдавала набажэнскую літаратуру.

---

[1] *Пашкевіч У.* Уніяцкая царква ў Беларусі ў пачатку XVIII ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996. С. 77—78; *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. С. 216.

[2] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т.1. С. 280.

[3] Belaruski chryscianski ruch (Histaryčny narys). Vilnia, 1939. S.2 і інш.

Уніяцкае царкоўнае кіраўніцтва аберагала сваю паству і клір ад паглынання касцёлам. У 1721 г. па скарзе мітрапаліта Заленскага была заведзена судовая справа на ваўкавыскага лоўчага Калусоўскага, які пераверў сялян-уніятаў прыналежных яму вёсак на рымскі абрад[1]. У 1744 г. базыльянскі архімандрыт Менскага кляштара судзіўся са сваімі намеснікамі, якія пачалі практыкаваць у царкоўным жыцці новаўвядзенні ў рымска-каталіцкім духу і ўводзіць польскамоўны спеў у час набажэнства[2]. У 1748 г. пракуратар базыльянскага ордэна абвінаваціў вікарыя Я.Асухоўскага з Малой Бераставіцы ў сумесным служэнні з "рымскімі" ксяндзамі і адступленні ад "рускага" абраду[3].

У выніку ні ў XVII ст., ні нават у XVIII ст. уніяцкая царква не стала месцам масавай паланізацыі беларусаў, а наадварот, этнічна дыферэнцыравала іх ад палякаў. Пры пераходзе ва уніяцтва этнічная прыналежнасць і тоеснасць не мяняліся. Вера, абрад, храмы, духавенства, прыходы, паства ў крыніцах XVII–XVIII стст. называюцца "рускімі". "Рускімі" называлі уніятаў афіцыйныя колы Рэчы Паспалітай, папства. Са стабілізацыяй у гэты час на ўсходзе назвы "Белая Русь" у дачыненні да уніяцтва паступова ўваходзіць ва ўжытак тэрмін "беларуская вера"[4].

Уніяцтва прыйшло на землі Беларусі, ужо падзеленыя на сферы ўплыву паміж праваслаўем і каталіцтвам, каб прымірыць гэтыя канфесіі, нейтралізаваць уплыў каталіцкага касцёла, асабліва моцны ў адукаваных колах грамадства, спыніць дэнацыяналізацыю арыстакратыі і інтэлектуальнай эліты. Але выканаць гэту гістарычную задачу уніяцтва не змагло, у чым заключаецца яго вялікая няўдача. Стварыўшы сваю сістэму адукацыі, сфарміраваўшы ўласную кніжную культуру, унёсшы асабліва пачынаючы з другой паловы XVII ст. значны ўклад у развіццё беларускай архітэктуры, жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога, музычнага і тэатральнага мастацтваў, выхаваўшы шэраг выдатных царкоўных і грамадскіх дзеячаў, працаўнікоў на ніве культуры, вучоных (А.Сялява, Л.Кішка, І.Кульчынскі і інш.), яно тым не менш не змагло ўзняцца да таго культурна-інтэлектуальнага ўзроўню, якога дасягнуў касцёл. Гэта ў многім тлумачыць той факт, што беларуская шляхта ў большасці сваёй пераходзіла не ва уніяцкую, а ў рымска-каталіцкую веру. Уніяцтва ж з канца XVII ст. ператвараецца ў вызнанне ніжэйшых слаёў грамадства: сялян, рамеснікаў, дробных гандляроў.

Як і любая іншая канфесія, што пашырылася ў Беларусі (праваслаўе ў X ст., каталіцтва ў XIV ст., пратэстантызм у XVI ст.), уніяцтва распаўсюджвала свой уплыў культурна-стваральнымі метадамі. У апошняй трэці XVII ст. уніяцкая царква распачынае ўласнае храмабудаўніцтва і стварэнне новых мастацкіх форм у архітэктуры. Паўстаюць храмы ў Ружанах (закладзены ў 1675 г.), Быцені (1708–1710), Віцебску (першая чвэрць XVIII ст.), адбудоўваецца Успенскі сабор у Жыровічах (1667), Сафійскі сабор у Полацку (1738–1750), закладваюцца царква і базыльянскі кляштар у Барунах (1747–1757).

Інтэр'еры уніяцкіх храмаў былі багата ўпрыгожаны творамі жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і скульптуры. З'яўляючыся веравызнаннем сацыяльных нізоў, уніяцтва парадзіла надзвычай дэмакратычнае

[1] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы ў Вільнюсе, ф.634, воп.3, спр.390.

[2] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове, ф..408, воп.1, спр. 846.

[3] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. СПб., 1897. Т.1. С.122.

[4] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С.66.

мастацтва жывапісу. Гэтаму садзейнічала і тое, што царква не надта клапацілася аб захаванні іканаграфічных канонаў – узаконеных строгіх правіл, якіх павінны былі прытрымлівацца жывапісцы. Адсюль і вольная інтэрпрэтацыя мастакамі – выхадцамі пераважна з простага народа традыцыйных біблейскіх сюжэтаў. Зразумелая простаму гледачу мова уніяцкіх абразоў забяспечвала іх уплыў на вернікаў. Уніяцкія абразы першай паловы XVII ст. нельга адрозніць ад праваслаўных. Але праходзіць усяго некалькі гадоў і візантыйская традыцыя парушаецца, хаця зусім не вымірае. У далейшым уніяцкі іканапіс праявіў вялікую здольнасць да перапрацоўкі як вялізнай спадчыны Візантыі, так і магутных уплываў заходнееўрапейскага жывапісу[1]. На працягу XVII–XVIII стст. на тэрыторыі Беларусі існавала 20–30 іканапісных майстэрань, у якіх працавала каля 500 мастакоў; было напісана каля 20 тыс. абразоў, 80 % з якіх былі уніяцкімі[2].

У другой палове XVII ст. ва уніяцкай царкве з'яўляюцца аб'ёмныя вывы Хрыста і святых, чаго не прызнае ўсходняя царква. Найбольш плённым для развіцця уніяцкай скульптуры было XVIII ст. Яна развівалася ў той час па двух напрамках. Першы арыентаваўся на заходнееўрапейскае барока; другі быў прадстаўлены драўлянай скульптурай так званага "нізавога барока", выкананай народнымі разбярамі і прызначанай шырокім колам грамадства.

Важным элементам культавага абраду уніяцтва была музыка – моцны сродак эмацыянальнага ўздзеяння на вернікаў. Праваслаўная царква развівала галоўным чынам мастацтва спеваў, уніяцкая – захавала гэту традыцыю, але ўзбагаціла яе, увёўшы ў свой рытуал інструментальную музыку. Уніяцкі храм быў своеасаблівай канцэртнай залай, дзе людзі далучаліся да прафесійнай музычнай культуры. У другой палове XVII–XVIII ст. у шэрагу культавых устаноў з'явіліся арганы і іх разнавіднасці (пазітыў, рэгал), іншыя струнныя, духавыя, ударныя музычныя інструменты. Так, ужо ў канцы XVII ст. вялікія якасныя арганы (на 80 рэгістраў) былі ў Жыровіцкім кляштары базыльянаў. Уніяцкая царква спрыяла развіццю арганнай культуры ў Беларусі[3].

Такім чынам, уніяцтва здолела прадэманстраваць вялікую творчую сілу. Заснаванне манастыроў, школ, друкарняў, выкарыстанне мастацкіх сродкаў, ужыванне нацыянальнай мовы ў казаннях, рэформы мітрапалітаў І.Руцкага, А.Сялявы, Л.Кішкі – усё гэта спрыяла росту ўплыву уніяцкай царквы сярод насельніцтва. Сваю справу зрабілі аслабленне і закрыццё праваслаўных брацтваў, прынядце запарожскім казацтвам расійскага пратэктарату, пераход значнай часткі беларускай шляхты ў каталіцкі лагер, падтрымка уніі ўрадам Рэчы Паспалітай, дзяржаўным апаратам і пануючым класам і, урэшце, палітыка папства. У апошняй трэці XVII – пачатку XVIII ст. унія значна ўзмацніла ў Беларусі свае пазіцыі.

Стаўленне ўрада Рэчы Паспалітай да уніі было неадназначным. Ужо сам факт прыналежнасці уніяцкай царквы да каталіцтва вымагаў яе падтрымкі. Але, з іншага боку, "руская" царква з асобнай іерархічнай структурай і адметным абрадам стала перашкодай на шляху асіміляцыі беларускага і

---

[1] *Пуцко В.Г.* Іканапіс Беларусі ў кантэксце ўсходнееўрапейскага мастацтва візантыйскай традыцыі // Наш радавод. Кн.4(2). Гродна, 1992. С. 66, 68; *Хадыка Ю.В.* Традыцыйнае мастацтва і беларускае адраджэнне // Наш радавод. Кн. 3(2). Гродна, 1991. С. 364.

[2] *Chadyka I.* Kulturotwórcza rola Unii Brzeskiej na Białorusi // Unia Brzeska z perspektywy czterech stuleci. Lublin, 1998. S. 168.

[3] *Назіна І.Д.* Арганы на Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1986. С. 155.

украінскага насельніцтва. Непажаданай унію рабіла і тое, што яна стварала бар'еры для паразумення з казакамі, уцягвала Рэч Паспалітую ў марнатраўныя войны. У кіруючых колах дзяржавы панавала перакананне, што унія ў лепшым выпадку – гэта толькі кампраміс у перватварэнні "русінаў" у "лацінскіх" палякаў. Некаторыя дзяржаўныя дзеячы бачылі ў ёй зло, ад якога пакутуе каралеўства. Недапушчэнне уніяцкай іерархіі ў сенат Рэчы Паспалітай шмат у чым сведчыла пра прыніжаны статус царквы, стаўленне дзяржавы да "рускай" веры як да другараднай. Эйфарыя канца XVI – пачатку XVII ст. ужо ў 1620-я гг. змяняецца расчараваннем – афіцыйным колам стала відавочнай нетрываласць уніяцкага саюза Беларусі з Польшчай.

Эвалюцыяніравалі і адносіны да уніі касцёла Рэчы Паспалітай – ад паблажлівасці, спалучанай з пагардай, да праследавання. Уніяцкі "гібрыд" сам па сабе яму быў не патрэбен, а цікавіў толькі як мост для "пераходу праваслаўных у лацінскае" каталіцтва. Уніяцтва разглядалася ім як вера недасканалая, нават зло, якое толькі можна цярпець, пазбягаючы большага зла – праваслаўнай "схізмы". Падтрымліваючы гэты царкоўны наватвор, ксяндзы імкнуліся не да роўнасці вызнанняў, а да прывілеяванага становішча касцёла. Яны даводзілі, што лацінская вера лепшая і больш прыстойная, чым унія, бо з'яўляецца панскім, высакародным, пануючым вучэннем, а уніяцтва – мужыцкім, невуцкім, уласцівым невысакароднай "рускай" пародзе людзей; даказвалі другаснае, падпарадкаванае становішча уніяцкай царквы ў дачыненні касцёла. Яна стала аб'ектам кпінаў і пагарды з боку паноў, якія называлі уніяцтва "хлопскай" верай. Навязваючы беларускаму народу ідэю польскай нацыянальнай і рэлігійнай выключнасці, размываючы яго нацыянальны патэнцыял, касцёл і апалячанае панства імкнулася да разбурэння этнічнай і рэлігійнай свядомасці уніятаў, прывіваючы ім комплекс правінцыяльнасці, ніжэйшасці, непаўнавартасці.

З каталіцкага асяроддзя ў 1717 г. выходзіць "Праект знішчэння Русі" (аднак існуе версія, што гэта фальсіфікат другой паловы XVIII ст., напісаны прыхільнікамі Расіі для абгрунтавання падзелаў Рэчы Паспалітай). Ён прадугледжваў сістэму заканадаўчых, сацыяльных, эканамічных, этнакультурных, ідэалагічных, маральных і іншых мер, якія б прывялі да знішчэння абедзвюх "рускіх" вер – праваслаўнай і уніяцкай і замены апошняй "чыстым" лацінствам. Рэалізацыя гэтага праекта мела на мэце ўсталяванне рэлігійнага адзінства і ўмацаванне Рэчы Паспалітай, а таксама ліквідацыю ідэалагічных падстаў для авалодання яе беларуска-ўкраінскімі землямі з боку Расійскай дзяржавы. "...Русь, пакінутая пры сваіх абрадах..., пагражала б падзеннем Польшчы, – гаворыцца ў "Праекце", – і наадварот, калі павернем яе да Рымлян, то ... пазбавім масквіцян надзеі вярнуць яе"[1]. Інтарэсы беларуска-ўкраінскай царквы падпарадкоўваліся ў згаданым дакуменце геапалітычным інтарэсам Польшчы. Але ціск папства і Польшчы на уніятаў прыносіў часам нечаканыя і нават супрацьлеглыя вынікі – ужо ў першай палове XVIII ст. ва уніяцкім асяроддзі з'яўляюцца людзі, якія бачылі выратаванне ад наступлення ваяўнічага каталіцызму ў дапамозе з боку Масквы.

**Абвастрэнне рэлігійных супярэчнасцей у сярэдзіне–другой палове XVII ст**. Другая палова XVII ст. у Беларусі праходзіла пад знакам канфесійнай напружанасці, нестабільнасці ў грамадстве і звязаных з імі сацыяльных катаклізмаў, зігзагаў у рэлігійнай палітыцы ўрада Рэчы Паспалітай,

[1] Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф.12, спр.55, арк.9 адз.-10; Правда про унію. Львів, 1969. С. 86.

змены суадносін розных хрысціянскіх плыней і выхаду дысідэнцкага пытання ў разрад міжнародных.

Небывалую вастрыню рэлігійнае пытанне набыло ў час падзей 1648–1667 гг. Падтрыманыя мясцовым насельніцтвам казацка-сялянскія загоны (атрады) Багдана Хмяльніцкага распраўляліся з каталіцкім і уніяцкім духавенствам, спусташалі касцёлы і кляштары. Казацтва выкарыстоўвала праваслаўе як баявы сцяг паўстання. Хмяльніцкі патрабаваў ад караля Яна Казіміра і сената выкараніць унію ў Кароне Польскай і Вялікім княстве Літоўскім. Поспехі запарожскага войска, а потым і расійскай зброі вымусілі польскі ўрад двойчы – паводле Збораўскага 1649 г. і Гадзяцкага 1658 г. дагавароў – адмовіцца ад уніі. Дыплом караля ад 12 студзеня 1650 г. пазбаўляў яе дзяржаўнай падтрымкі, а праваслаўнай царкве вярталася ўся адабраная маёмасць[1]. Гадзяцкае пагадненне замацавала такую рэлігійна-палітычную сітуацыю. І хоць гэтыя дагаворы не сталі рэаліямі, яны выразна прадэманстравалі гатоўнасць урада ў інтарэсах дзяржавы ахвяраваць уніяй.

У сярэдзіне XVII ст., калі Рэч Паспалітая апынулася на мяжы гібелі, паміж дзвюма мацнейшымі дзяржавамі – Расіяй і Швецыяй, сярод яе афіцыйных колаў запанавала думка, што да такога гаротнага стану яе давялі дзве новыя веры – пратэстантызм і уніяцтва. Выратаванне бачылася ў іх знішчэнні і вяртанні да старых вызнанняў – каталіцкага і праваслаўнага. Практычна здзейсніць гэта аказалася немагчымым – новыя веры паспелі набыць шмат паслядоўнікаў. Пры гэтым да канца 50-х гг. запанавала перакананне, што не унія, а праваслаўе ў асобе казакаў і ўзбунтаванага народа – прычына бед Рэчы Паспалітай. Менавіта праваслаўе развівала праруськія настроі і памкненні, ад якіх уніяцтва было лепшым проціяддзем[2].

Тым не менш унія аказалася вельмі небяспечнай справай для Рэчы Паспалітай. Існуе трывалае меркаванне, што казацка-сялянская вайна, адлучэнне ад Рэчы Паспалітай і ўключэнне ў склад Расіі часткі Украіны, а затым і падзелы дзяржавы з'явіліся вынікам настойлівага распаўсюджвання уніяцтва.

Маскоўская прысутнасць у Беларусі ў якасці абаронцы праваслаўя стала трывалым фактарам яе рэлігійнага жыцця з другой паловы XVII ст. Рэлігійную карту як казырную пускалі ў ход усё часцей расійскія манархі ў сваёй палітычнай гульні з Рэччу Паспалітай. Распаўсюджванне уніі за кошт праваслаўных стала зручнай зачэпкай для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы заходняй суседкі. Праваслаўнай апазіцыі ў Рэчы Паспалітай, якая ўбачыла безвыніковасць сваіх уласных захадаў па знішчэнню уніяцтва, гэта было на руку. "Унутраныя" ворагі уніі знайшлі разуменне і падтрымку знешніх ворагаў.

Аднак адносіны беларуска-ўкраінскага праваслаўя з Масквой былі больш складанымі, чым гэта можа падацца на першы погляд, што асабліва праявілася і з другой паловы XVII ст. З аднаго боку, Масква падтрымлівала сваіх адзінаверцаў у барацьбе за выжыванне, давала ім грошы, прытулак і г.д. Але праваслаўныя іерархі Рэчы Паспалітай былі амаль адзіныя ў жаданні заставацца пад вяршынствам Канстанцінопальскага патрыярхату, які не абмяжоўваў іх царкоўнай аўтаноміі, і не спакушаліся юрысдыкцыяй Масквы. Маскоўскі цэнтралізм і залежнасць расійскай праваслаўнай царквы ад самадзяржаўнай улады былі ім не даспадобы. Пазбаўляцца ад пэўных канстытуцыйных і рэлігійна-багаслоўскіх свабод, адноснай інтэлектуаль-

[1] Уния в документах: Сб. / Сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. Мн., 1997. С. 242–244.
[2] *Коялович М.О.* Литовская церковная уния. СПб., 1861. Т.2. С. 218–220.

на-культурнай талерантнасці, якія існавалі ў Рэчы Паспалітай, яны не жадалі[1].

Адмоўна ставіўся да прамаскоўскай арыентацыі Б.Хмяльніцкага, якая пагражала цэласнасці Рэчы Паспалітай і незалежнасці беларуска-украінскага праваслаўя, мітрапаліт Сільвестр Косаў. Толькі пад прымусам ён прызнаў Пераяслаўскі дагавор 1654 г., але і пасля працягваў адстойваць самастойнасць Кіеўскай мітраполіі, супрацьстаяць памкненням падпарадкаваць яе Маскоўскаму патрыярхату. Мітрапаліт баяўся, што гэта прывядзе да зніжэння высокага ўзроўню беларуска-ўкраінскага царкоўнага жыцця, багаслоўскай навукі. Апасенні Косава хутка спраўдзіліся. З боку цара Аляксея і патрыярха Нікана паследавала патрабаванне падначалення Маскоўскаму патрыярхату, што мяняла становішча 600-гадовай даўнасці. Косаў накіраваў пасольства ў Маскву, каб адгаварыць расійскі бок ад гэтага кроку. Але епархіі на акупіраванай у 1654–1655 гг. расійскім войскам тэрыторыі былі падпарадкаваны ўладзе Нікана, які пачаў называць сябе патрыярхам “усяе Вялікія і Малыя і Белыя Русі”. Тады ж, у 1655 г., уладзе Маскоўскага патрыярхату была падначалена і Магілёўская праваслаўная епархія. Праўда, ужо ў 1657 г. Нікан паслаў сваім новым падданым – жыхарам Магілёва – праклён за тое, што яны не падтрымалі расійскі гарнізон, а перайшлі на бок Рэчы Паспалітай.

У 1685 г. пад націскам расійскіх свецкіх і духоўных улад Кіеўская мітраполія падпала пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату і стала адной з яго царкоўна-адміністрацыйных адзінак. У наступным годзе гэты парадак вымушаны быў санкцыяніраваць сам Канстанцінопаль. З таго часу падае значэнне Кіеўскай мітраполіі ў праваслаўным свеце, звужаецца сфера яе ўплыву, а Масква праводзіць нівеліроўку спецыфікі беларуска-ўкраінскага праваслаўя. Частка духавенства стала ў апазіцыю да кананічнага перападпарадкавання Кіеўскай мітраполіі і ў XVII—XX стст. вяла барацьбу за аўтакефалію (незалежнасць) праваслаўнай царквы Украіны ад Маскоўскага патрыярхату.

Вайна 1654—1667 гг. паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай істотна развеяла ілюзіі аб вызвалітавальнай місіі расійскага самадзяржаўя, разбурыла імідж цара-вызваліцеля, хаця русафільскія настроі сярод праваслаўнага насельніцтва былі даволі моцнымі аж да часу падзелаў Рэчы Паспалітай. Нашчадкі Б.Хмяльніцкага імкнуліся вярнуць сваю радзіму пад уладу Рэчы Паспалітай. Факт падпарадкавання праваслаўнай царквы Маскве змяніў адносіны беларуска-ўкраінскага грамадства да уніі, у якой яно пачало бачыць аснову незалежнасці ад Расіі.

Над уніяцтвам у час вайны згусціліся хмары. На захопленай тэрыторыі акупацыйныя ўлады забаранілі унію. Яе прыхільнікаў выганялі з гарадоў або прымушалі прыняць грэка-расійскую веру, уніяцкае духавенства было загадана караць смерцю. Паводле указа Аляксея Міхайлавіча ўсе уніяты падлягалі гвалтоўнаму высяленню з Вільні і бліжэйшых гарадоў і мястэчак. На просьбу жыхароў Віцебскага ваяводства захаваць у краі уніяцтва з'явіўся катэгарычны адказ: “Униятом не быть”[2]. Каталіцкі касцёл мог функцыяніраваць на захад ад р. Бярэзіны, уніяцтва ж было забаронена паўсюдна. На перагаворах у 50–60-я гг. XVII ст. расійская дыпламатыя выстаўляла Рэчы Паспалітай у якасці адной з умоў захавання добрых адносін паміж дзяржавамі знішчэнне уніі. Пазіцыя Масквы стымулявала распаль-

[1] *Падокшын С.А.* Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). С. 90.

[2] Русско-белорусские связи (1570—1667 гг.): Сб. документов. Мн., 1963. С.314.

ванне антыуніяцкіх настрояў у Беларусі. Пры гэтым праследаванне уніяцкай царквы выклікала незадаволенасць той часткі беларусаў, якія прымалі уніяцтва свядома і лічылі яго сваёй верай.

У такіх абставінах урад Рэчы Паспалітай вымушаны быў пайсці на значныя ўступкі. Паводле Андрусаўскага перамір'я, замацаванага "вечным" мірам 1686 г. (артыкул 9), ён абавязваўся забяспечыць праваслаўнаму насельніцтву сваёй дзяржавы свабоду веравызнання. У чатырох епархіях (Луцкая, Перамышльская, Львоўская на Украіне і Магілёўская ў Беларусі) забаранялася пашыраць унію. Расія брала на сябе ролю гаранта ў выкананні гэтага артыкула пагаднення. Масква надавала яму вялікае значэнне і на яго аснове будавала свае далейшыя адносіны з Рэччу Паспалітай. Але гэта не была бескарыслівая дапамога сваім аднаверцам. Царызм, якога найменш турбавалі правы прадстаўнікоў рэлігійных меншасцей – дысідэнтаў, ініцыіраваў беларуска-украінскае праваслаўнае насельніцтва на пошукі пратэкцыі ў Расіі, выкарыстоўваючы гэта для аслаблення Рэчы Паспалітай, а пазней і ў падрыхтоўцы яе падзелаў.

У час вайны уніяты засведчылі сваю адданасць Рэчы Паспалітай, а праваслаўныя выступілі прыхільнікамі Масквы і неаднаразова ўздымалі пытанне аб разрыве палітычнага саюза Беларусі і Украіны з Польшчай. Таму пасля Андрусаўскага перамір'я ўрад робіць больш рашучыя крокі ў бок спрыяння уніі, якая яшчэ зусім нядаўна, здавалася, была асуджана на поўнае вынішчэнне. Прамаскоўская арыентацыя праваслаўных ставіла іх у становішча здраднікаў Рэчы Паспалітай. Гэта вымагала ад ўрада падтрымкі уніятаў, якія праявілі сябе патрыётамі дзяржавы, і суровых мер пакарання для адступнікаў ад уніі.

Сеймавай пастановай 1667 г. уніяцкае духавенства вызвалялася ад усіх вайсковых павіннасцей, што ўраўноўвала яго з каталіцкім духавенствам. У тым жа годзе Ян Казімір выдаў полацкаму магістрату і мяшчанам грамату, каб ніводная асоба, акрамя тых, якія вызнавалі рымска-каталіцкую і злучаную з ёй грэчаскую (уніяцкую) веру, не дапускалася да заняцця месцаў бурмістра, радцы, лаўніка, а таксама ніжэйшых пасад. У супрацьлеглым выпадку абранне павінна было лічыцца не маючым ніякай сілы[1].

Калі каралі Уладзіслаў (1632–1648) і Ян Казімір (1648–1668) больш схіляліся-да саступак праваслаўным за кошт уніятаў, то Міхал Вішнявецкі (1669–1673) і асабліва Ян Сабескі (1674–1696) адкрыта праяўлялі сваю прыхільнасць да уніі, хоць і не скасоўвалі непасрэдна прывілеі праваслаўных. Законамі 1668, 1674 і 1768 гг. адступніцтва ад каталіцтва і уніі было абвешчана крымінальным злачынствам і падлягала пакаранню выгнаннем з дзяржавы. Закон 1676 г. ускладняў сувязі праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай з Канстанцінопалем. Гэта тлумачылася тым, што туркі маглі выкарыстоўваць праваслаўных духоўных асоб з Асманскай імперыі як сваіх агентаў і шпіёнаў у Рэчы Паспалітай. Закон разрываў сувязі стаўрапігіяльных брацтваў* з патрыярхатам, падначальваючы іх мясцовым епіскапам. Праваслаўнаму духавенству было забаронена выязжаць за мяжу без папярэдняга ўрадавага дазволу. Закон гэты хоць і не выконваўся паслядоўна, як і іншыя, аднак правы праваслаўных абмяжоўваў. Сейм 1699 г. пацвердзіў прывілеі, дараваныя раней уніятам, пры гэтым агаворвалася, што толькі асобы каталіцкага і уніяцкага веравызнання маюць права займаць гарадскія пасады.

---

[1] Уния в документах: Сб. / Сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. С.248—249.

* Падначаленых непасрэдна патрыярхам.

Пастановай сейма 1712 г. было забаронена замацоўваць дзяржаўнай пячаткай дакументы, што прадугледжвалі якія-небудзь выгады для некатолікаў. У 1732 г. канфедэрацыя ўхваліла на сваім сейме свята і непарушна захоўваць правы каталіцкай і уніяцкай цэркваў. Іншаверцам (праваслаўным і пратэстантам) гарантавалася ўся іх маёмасць, але яны пазбаўляліся права абрання ў дэпутаты сеймаў і трыбунальскі суд; ім забаранялася збірацца на з'езды, займаць пасады ў ваяводствах, гарадах і землях Рэчы Паспалітай, уваходзіць у зносіны з прадстаўнікамі іншых дзяржаў або шукаць іх апекі. Праваслаўнаму духавенству забаранялася публічна адпраўляць некаторыя абрады. Дзеці, народжаныя ад змешаных шлюбаў, павінны былі належаць да касцёла.

Такая змена ў характары сеймавых пастаноў пасля Андрусаўскага перамір'я ў многім была звязана са зменай настрояў шляхецкага стану. Шляхта, у большасці сваёй каталіцкая, імкнулася замацаваць пазіцыі каталіцкай і уніяцкай цэркваў, абмежаваць правы іншых хрысціянскіх канфесій, але не да такой ступені, каб даць падставу дысідэнтам абвастрыць сітуацыю ў краіне. Яе адносіны да паслядоўнікаў іншых канфесій былі даволі талерантнымі, што праявілася, у прыватнасці, у прыхільным стаўленні да канстытуцый 1717 і 1733 гг., якія далі правы дысідэнтам[1].

У мэтах спынення бясконцага разладу паміж праваслаўнымі і уніятамі ў 1680 г. мітрапалітам Жахоўскім быў падрыхтаваны з'езд іерархаў гэтых канфесій у Любліне. Ян Сабескі, які падтрымліваў уніятаў за іх лаяльнасць да Рэчы Паспалітай і падазрона ставіўся да праваслаўных як патэнцыяльных супрацоўнікаў з ворагамі дзяржавы – ці то з Асманскай імперыяй, ці то з маскоўскім царом, ускладаў на гэты з'езд вялікія надзеі. Але дыялога канфесій у Любліне не адбылося. Пад націскам папскага нунцыя і маскоўскага прадстаўніка, не зацікаўленых у сумеснай уніяцка-праваслаўнай дыскусіі, кароль закрыў толькі што распачаты з'езд. Але на працягу 20 гадоў пасля няўдалага люблінскага калёквіума уніяцтва пашырылася ў Рэчы Паспалітай больш, чым за папярэдняе стагоддзе.

Трыумфальны поступ уніяцтва, што суправаджаўся моцным парадзеннем праваслаўных шэрагаў, усхваляваў свецкія і духоўныя колы Расійскай дзяржавы, якая свае захады ў абарону аднаверцаў грунтавала ўжо на законнай аснове – IX артыкуле "вечнага" міру. Яны зводзіліся тады да дыпламатычнай перапіскі, збору рускімі пасламі інфармацыі пра парушэнні мірнага дагавора і падачы польскаму боку на іх аснове заяў і прадстаўленняў, да правядзення ў 1692 г. у Маскве двухбаковай канферэнцыі па ўрэгуляванню рэлігійнага пытання[2]. Але ніякіх станоўчых вынікаў гэта не дало. Унія ў Беларусі працягвала шырыцца. На мяжы XVII–XVIII стст. перайшлі ва уніяцтва тры з чатырох праваслаўных епархій Рэчы Паспалітай (у 1691 г. Перамышльская, у 1700 г. Львоўская, у 1702 г. Луцкая). Засталася адна – Беларуская, але і ў той захавалася ў праваслаўі толькі 130 цэркваў, а 164 царквы і 5 манастыроў на працягу 1686—1754 гг. былі пераведзены ва уніяцтва[3].

---

[1] *Савосцін К.В.* Канфесійнае пытанне ў працы сойміка Берасцейскага ваяводства ў XVIII ст. // Брэсцкай царкоўнай уніі – 400 (Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі). Брэст, 1997. С. 91.

[2] Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў у Маскве, ф. 79, спр. 241, 255; ф. 152, воп.1, спр. 3.

[3] Белоруссия и Литва. Очеркн историн Северо-Западного края. СПб., 1890. С. 302.

**Паўночная вайна і перарастанне дысідэнцкага пытання ў ранг міжнародных.** Асабліва актыўна расійскі бок пачаў пускаць у ход рэлігійную карту з пачатку XVIII ст., калі, з аднаго боку, слабела і раздзіралася супярэчнасцямі Рэч Паспалітая, а з другога – у такой жа меры ўзрастала магутнасць Расіі і яе ўплыў на еўрапейскія справы. Прысутнасць на тэрыторыі Беларусі падчас Паўночнай вайны войскаў краіны, дзе панавала праваслаўе і кіраўнікі якой разглядалі уніятаў як здраднікаў веры, аказвала значны ўплыў на яе рэлігійнае жыццё.

Пётр I распачаў жорсткія ганенні на уніяцкі клір, хаця напярэдадні ўступлення ў Беларусь гарантаваў яму бяспеку і недатыкальнасць. У прыватнай размове з віленскім каталіцкім біскупам 18 ліпеня 1705 г. ён заявіў аб сваім жаданні, каб "у Літве акрамя маёй і тваёй не было ніякай іншай царквы"[1]. Крывавая расправа з полацкімі базыльянамі ў чэрвені 1705 г., калі было забіта 5 манахаў, разбурэнне Сафійскага сабора ў 1710 г., напады расійскіх войскаў і спусташэнні базыльянскіх кляштараў, арышты і вываз у Расію уніяцкай іерархіі і манаства, расправа з луцкім епіскапам Д.Жабакрыцкім, які ў 1702 г. прыняў унію, разгон свецкага духавенства і прызначэнне на яго месца праваслаўных святароў былі адлюстраваннем пятроўскай палітыкі ліквідацыі уніяцтва.

Гэтыя падзеі выклікалі моцнае хваляванне ва уніяцкім асяроддзі. Іерархія шукала шляхі выратавання сваёй царквы: праводзіла нарады, звярталася па дапамогу да буйных магнатаў, нунцыя і нават да самога караля і папы рымскага. "Сябар твой, вялікі цар маскоўскі, – пісаў у 1710 г. Аўгусту II настаяцель Полацкага кляштара, – амаль кожны дзень (як мы мяркуем, ты выпадкова гэтага не ведаеш) робіць у межах твайго царства ганенні на рускую царкву, уз'яднаную са св. Маці рымскай царквой... Мы абавязваем тваю вялікасць утрымаць сваімі сіламі і сваім садзеяннем твайго сябра цара ад наскокаў на рускую уніяцкую царкву і яе манахаў"[2]. Аўгуст II запатрабаваў ад Пятра I пакінуць уніяцкае духавенства Рэчы Паспалітай і, у прыватнасці, Полацкага ваяводства ў спакоі. Калі ў 1710 г. цар накіраваў у Магілёў свайго камісара Б.Шыпнеўскага для аховы праваслаўных ад крыўд і ўціскаў, папа рымскі Клімент XI прапанаваў польскаму каралю стварыць двухбаковую змешаную камісію для высвятлення, хто каго больш пакрыўдзіў: расійскае войска уніятаў ці апошнія – праваслаўных.

Такім чынам, пачатак XVIII ст. аказаўся супярэчлівым у гісторыі уніяцкай царквы. З аднаго боку, мела месца значнае яе ўзмацненне ў выніку далучэння трох буйных праваслаўных епархій. З другога боку, вайна, спусташэнні, рабаванні і рэпрэсіі расійскіх войскаў сур'ёзна аслаблялі царкву. Але ў гэты складаны перыяд яна праявіла жыццёвую сілу і даказала сваё права на існаванне[3]. З вывадам рускіх войскаў у 1711 г. сітуацыя для яе стала мяняцца да лепшага.

Галоўным аплотам праваслаўя і цэнтрам антыуніяцкай барацьбы ў Беларусі і Рэчы Паспалітай на працягу XVIII ст. заставалася Беларуская (Магілёўская) епархія. У 1704–1728 гг. яе ўзначальваў прыхільнік Расіі Сільвестр Святаполк Чацвярцінскі. Хадайніцтва перад польскім і асабліва перад рускім урадам за сваю паству, спакушаемую да пераходу ва уніяцтва,

---

[1] *Пашкевіч У.* Уніяцкая царква ў Беларусі ў пачатку XVIII ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996. С. 80.

[2] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі ў Маскве, ф. 5965, воп.1, спр. 537, арк.

[3] *Пашкевіч А.* Уніяцкая царква ў Беларусі ў пачатку XVIII ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). С. 84.

было адной з важных, але безвыніковых сфер яго дзейнасці. Паводле даных Бантыш-Каменскага, на працягу 1715—1720 гг. у Беларускай епархіі уніятам было перададзена 70 цэркваў[1].

У 1717 г. цар Пётр I прымусіў сейм Рэчы Паспалітай прыняць канстытуцыю ў абарону правоў дысідэнтаў. У 1722 г. ён зрабіў рашучыя і пагрозлівыя жэсты ў бок Рыма і Рэчы Паспалітай. Папская курыя папярэджвалася, што калі ў Беларусі не спыніцца пашырэнне за кошт праваслаўнай царквы уніяцтва, то будзе забаронена дзейнасць каталіцкага духавенства ў Расіі. У лісце да Аўгуста II утрымлівалася яшчэ больш яўная пагроза: калі, маўляў, захады расійскай дыпламатыі ў абарону праваслаўнага насельніцтва Беларусі не атрымаюць сатысфакцыі, "то вымушаны мы будзем...самі задавальнення шукаць"[2]. Хадайніцтвы Пятра вымусілі папскага нунцыя 24 красавіка 1722 г. звярнуцца да каталіцкага і уніяцкага духавенства з пасланнем, "каб да Уніі з Кафалічнай Рымскай верай не прымусам і сілай прыцягваць, але ласкава, па вобразу і абыходжанню Апостальскаму"[3].

Дзеля большай эфектыўнасці веразаступніцкай палітыкі па абароне праваслаўнага насельніцтва Беларусі Пётр I прызначае ў 1722 г. у Магілёў свайго камісара Ігната Рудакоўскага, надзяліўшы яго вялікімі паўнамоцтвамі. На працягу яго трохгадовай дзейнасці ад уніятаў былі адабраны і перададзены праваслаўным 50 цэркваў і 3 манастыры. "Уніяты...трапечуць цяпер, чуючы аб моцы імперыі Расійскай", – дакладваў Рудакоўскі калегіі замежных спраў"[4].

Умяшанне імператарскага камісара ў рэлігійнае жыццё Беларусі па скаргах вышэйшага праваслаўнага духавенства выклікала незадавальненне і азлабленне уніяцкага насельніцтва і стварыла яшчэ большую канфесійную напружанасць у краі.

Пасля смерці Пятра I і адклікання Рудакоўскага на радзіму праваслаўная апазіцыя на чале з С.Чацвярцінскім папрасіла Кацярыну I прызначыць новага заступніка іх інтарэсаў, "каб гэта беларуская епіскапія, да гэтага часу расійскім зацвярджаемая прастолам, пакінутая не была"[5]. Жаданне мець надзейнага апекуна тлумачылася тым, што ў пачатку XVIII ст. ішло інтэнсіўнае пашырэнне уніяцтва на Беларусі і колькасць яго паслядоўнікаў перавысіла лік праваслаўных. Прычым гэты працэс ішоў не толькі пад прымусам, як тое намагалася паказаць праваслаўная пазіцыя, але ў значнай меры добраахвотна.

Пётр I зрабіў дысідэнцкае пытанне зброяй барацьбы з Рэччу Паспалітай. У 1717 г. ён навязаў сейму гэтай дзяржавы прыняцце канстытуцыі, якая гарантавала правы праваслаўнай канфесійнай меншасці. Сабраныя рускімі рэзідэнтамі звесткі аб прыцясненні праваслаўных паведамляліся рускаму ўраду. Не праходзіла года, каб расійскія прадстаўнікі ў Варшаве не нагадвалі б польскім уладам пра тое, што наступленне на праваслаўе супярэчыць трактату 1686 г. і можа парушыць мірныя адносіны паміж дзяржавамі. Пасля Пятра I уплыў Расіі тут крыху аслабеў. Хаця Кацярына I і Лізавета Пят-

---

[1] *Бантыш-Каменский Н.Н.* Историческое известие о возникшей в Польше унии... М., 1805. С. 183.

[2] Сборник документов, уясняющих отношение латино-польской пропаганды к русской вере и народности. Вып.2. Вильна, 1866. С. 142—144.

[3] Уния в документах: Сб. / Сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. С. 268.

[4] Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII–XVIII вв. Киев, 1905. Т.1. С. 86.

[5] Сборник документов, уясняющих отношение латино-польской пропаганды к русской вере и народности. Вып. 2. С. 174.

роўна па-ранейшаму пасылалі ў Беларусь сваіх камісараў, эфект ад гэтага быў малы – унія працягвала шырыцца. Так, у 1743 г. Лізавета Пятроўна звярнулася да Аўгуста III з патрабаваннем сатысфакцыі праваслаўным і вяртання ім адабраных манастыроў і цэркваў з маёнткамі. У сувязі з гэтым кароль зрабіў запыт кароннаму і літоўскаму канцлерам. Тыя адказалі, што гэтыя скаргі неабгрунтаваныя і што праваслаўныя "жалобщики" – злачынцы, бо, з'яўляючыся грамадзянамі Рэчы Паспалітай, прыходзяць не ў свой суд, а звяртаюцца да Расіі[1].

У 1728 г. "зацвярджаемую расійскім прастолам" магілёўскую кафедру імкнуўся заняць прызначаны сінодам, але не прыняты мясцовымі жыхарамі Каліст Заленскі, які за намер перайсці ва уніяцтва скончыў свой жыццёвы шлях у высылцы ў Сібіры. У 1728–1732 гг. кафедру ўзначальваў украінец Арсеній Бярло, непрыязна прыняты духавенствам як асоба небеларускага паходжання, не прызнаны каралём, але падтрымліваемы расійскім урадам. Мелі месца нават спробы прымусовага выдалення яго з Магілёва. Пры Іосіфе Валчанскім (1732–1742) існавала рэальная пагроза пераходу рэшткаў Беларускай епархіі ў унію. У 1740 г. ён скардзіўся ў сінод, што "ніякімі мерамі самому сабой утрымаць...праваслаўя немагчыма". Але яго скаргі ў Варшаву і Пецярбург вынікаў не мелі. Паводле данясення Іосіфа за 1739 г., за час яго кіраўніцтва ў Беларускай епархіі было перададзена уніятам 110 цэркваў, а ў праваслаўі засталося 162. Паводле звестак расійскага рэзідэнта ў Варшаве Галембоўскага, з 1732 па 1743 г. у Беларускай і Тураўскай епархіях было зроблена уніяцкімі 128 праваслаўных цэркваў і манастыроў. Пасля пераводу Іосіфа на маскоўскую кафедру месца магілёўска-беларускага епіскапа заняў яго родны брат Геранім Валчанскі (1742–1754). За час яго праўлення ва уніяцтва было пераведзена 30 цэркваў. Геранім так і не дачакаўся рэальнай дапамогі ад імператрыцы, на якую вельмі разлічваў[2].

**Замойскі сабор. Стаўленне духавенства да лацінізацыі уніяцкай царквы.** Паўночная вайна была цяжкім выпрабаваннем для уніяцкай царквы, парушыла яе ўнутранае жыццё. Значную ролю ў кансалідацыі уніяцкага руху, пераадоленні абрадавай разнастайнасці адыграў сход царкоўнай іерархіі ў Замосці (Польшча) 26 ліпеня – 17 верасня 1720 г., скліканы па ініцыятыве мітрапаліта Льва Кішкі (1714–1728). Дзейнасць гэтага мітрапаліта істотна ўмацавала пазіцыі уніяцкай царквы. Ён узмацніў базыльянскі ордэн, аднавіў Супрасльскую друкарню (1695–1803), якая стала буйнейшай беларускай друкарняй таго часу, клапаціўся пра адукацыю белага духавенства. Кішка быў прыхільнікам частковага захавання ўсходняй абраднасці ва уніяцкай царкве, хаця не мог супрацьстаяць лацінізацыі (прывядзенню да падабенства з "рымскім" касцёлам). У другой палове XVII–XVIII ст. яна ахапіла ўсе сферы царкоўнага жыцця: літургію, абрады, царкоўныя інстытуты і арганізацыйную структуру, архітэктуру і абсталяванне храмаў, лад і стыль жыцця духавенства, нават тэрміналогію.

У Замойскім саборы ўдзельнічалі ўсе епіскапы, 8 архімандрытаў, 129 прадстаўнікоў сярэдняга і ніжэйшага духавенства. Старшынстваваў папскі нунцый Геранім Грымальдзі. Сабор разглядаў пытанні веры, набажэнства, кіравання і ўнутранага жыцця царквы. Ён увёў у абрадавую практыку каталіцкі сімвал веры (замест ранейшага, агульнага з праваслаўнымі), узгадванне імя папы рымскага ў час набажэнства. Але нягледзячы на нека-

---

[1] *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. С. 203.

[2] Там жа. С. 191–196; Уния в документах: Сб. /Сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. С. 50, 279.

торыя лацінскія новаўвядзенні (абліванне вадой пры хрышчэнні, адмова ад калектыўных споведзей, святога прычасця для малых дзяцей), у цэлым практыка і звычаі ўсходняй царквы захоўваліся. Было прынята лацінскае свята Божага цела, узаконена свята блажэннага пакутніка Іасафата Кунцэвіча (16 верасня), зроблена палёгка ў пастах. Замацоўвалася аўтаномія базыльянскага ордэна. Значная ўвага на саборы надавалася пытанням павышэння ўзроўню адукацыі як найлепшага сродку ўпарадкавання царкоўнага жыцця. Было прызнана неабходным заснаванне багаслоўскіх школ пры манастырах, дзе жыло не менш 12 манахаў. Епіскапаў абавязалі арганізаваць пачатковыя школы ў сёлах і мястэчках. Было прынята рашэнне аб уніфікацыі і выданні богаслужэбных кніг. У 1724 г. саборныя пастановы зацвердзіў папа рымскі Бенядзікт XIII, а ў 1725 г. яны былі абвешчаны ў епархіях[1].

Замойскі сабор стаў пачаткам буйной царкоўнай рэформы, якая спрыяла ўпарадкаванню нормаў царкоўнага жыцця, умацаванню дысцыпліны, уніфікацыі абраднасці, паляпшэнню духоўнай адукацыі, пераадоленню недахопу богаслужэбнай літаратуры. Наступныя 30—40 гадоў прайшлі пад знакам рэалізацыі саборных пастаноў. Але яны неаднолькава былі прыняты базыльянамі – прыхільнікамі збліжэння з Рымам і аматарамі навін заходнееўрапейскага паходжання і белым духавенствам, значная частка якога ахоўвала ва уніяцтве праваслаўныя традыцыі і пачаткі. Першыя ўзяліся за актыўную рэалізацыю рашэнняў сабору і ўвядзенне ў царкву нават тых тыпова каталіцкіх рэчаў, пра якія сабор і не згадваў (адкрытых алтароў, канфесіяналаў, арганаў, бакавых прастолаў і г.д.). Менавіта манаства стала важным фактарам лацінізацыі уніяцкай царквы. Другія аднесліся да новаўвядзенняў больш стрымана, а то і наогул не прынялі замойскіх наватарстваў. Кожная з гэтых сіл вяла царкву сваім шляхам. Адбылося раздваенне уніяцтва, якое тым не менш у першай палове XVIII ст. стала самай масавай канфесіяй у Беларусі.

---

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1996. Т.3. С. 403; *Пашкевіч У.* Уніяцкая царква ў Беларусі ў пачатку XVIII ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). С. 83–84.

РАЗДЗЕЛ 3

# БЕЛАРУСЬ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVIII ст.

## ГЛАВА 1

## ГАСПАДАРЧАЕ АЖЫЎЛЕННЕ

### 1. Феадальная гаспадарка

**Фальварковая вытворчасць і промыслы.** Агульная скіраванасць эканамічнага развіцця беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай другой паловы XVIII ст. у бок пашырэння таварна-грашовых адносін спрыяла ўмацаванню і росту феадальнай гаспадаркі. Асноўнай яе формай з'яўляўся фальварак. У першую чаргу гэта было абумоўлена ростам цэн на зерне на знешнім рынку. У 1750—1795 гг. у Гданьску і Круляўцы (сучасны Калінінград) – галоўных гандлёвых цэнтрах, праз якія ішоў асноўны паток збожжавых культур з Рэчы Паспалітай, цэны на жыта ўзраслі ў 4,5—5 разоў, пшаніцы – у 3—4 разы, на авёс і ячмень – у 2—2,5 раза[1]. Вытворчасць збожжа прыносіла землеўладальнікам значныя прыбыткі. Таму на нерушах, на землях, якія адбіраліся ў сялян, узнікалі новыя фальваркі, пашыралася плошча панскай ворнай зямлі. У канцы XVIII ст. яна была ў 1,2–2 разы большай, чым у пачатку стагоддзя[2]. Фальварак традыцыйна панаваў на прыватнаўласніцкіх землях, у феадальным землеўладанні гэта быў асноўны фонд.



Касец. З інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г.

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т.1. С.354, 355.

[2] *Козловский П.Г.* Динамика урожайности и посевных площадей, изменения структуры посевов в крупных поместьях Белоруссии в XVIII—первой половине XIX в.//Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1964 г. Кишинев, 1966. С. 351.

У апошняй чвэрці XVIII ст. удзельная вага прыватнага землеўладання складала амаль 80 %. Астатнія землі належалі царкве і дзяржаве, на якіх фальварковае гаспадаранне таксама адыгрывала значную ролю. З 60-х гг. XVIII ст. на землях сталовых эканомій намаганнямі надворнага падскарбія ВКЛ Антонія Тызенгаўза аднаўляліся фальваркі, якія прыпынілі сваё функцыяніраванне ў гады ваенных ліхалеццяў[1].

Геаграфічна фальварковая гаспадарка ахоплівала ўсю тэрыторыю Беларусі. Калі на захадзе і ў цэнтры беларускіх зямель фальварак дамінаваў яшчэ ў XVI ст., то на ўсходзе найбольшая распаўсюджанасць гэтай формы феадальнага гаспадарання прыпадала на другую палову XVIII ст. У гэты час удзельная вага ўладанняў, якія не мелі фальварковых засеваў, складала ўсяго каля 20 %[2]. Але фальварковая гаспадарка на ўсходзе Беларусі давала феадалу нязначны прыбытак і ў асноўным абслугоўвала яго ўнутраныя патрэбы ў сельскагаспадарчай прадукцыі. У гэтай зоне Беларусі ў гаспадарцы феадала галоўную ролю адыгрывалі разнастайныя промыслы. Важнейшай галіной сельскагаспадарчай вытворчасці ў феадальных уладаннях на большасці беларускіх зямель было земляробства.

Ва ўсіх рэгіёнах Беларусі пануючай сістэмай земляробства з'яўлялася трохполле. Аднак у асобных маёнтках (Шчорсы І.Храптовіча, Веляшковічы (Варшава Руская) А.Агінскага і некаторых іншых), дзе адбылася значная рэарганізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці, назіралася ўжо развітая сістэма шматпольных севазваротаў. Так, у інструкцыі да кіраўнікоў адміністрацыі сваіх маёнткаў А.Агінскі рэкамендаваў ужыванне чатырохполля.[3]

Фальварковыя палеткі засяваліся зерневымі, бабовымі і тэхнічнымі культурамі. Больш за палову плошчы пасеваў на сярэдзіну XVIII ст. у заходніх і цэнтральных раёнах Беларусі займала азімае жыта. Але ў апошняй чвэрці гэтага ж стагоддзя ўдзельная вага дадзенай культуры ў структуры фальварковых высеваў знізілася. Яе пацяснілі яравыя – у першую чаргу авёс, які заняў чвэрць пасяўных плошчаў. На ўсходзе ж Беларусі авёс дамінаваў і займаў амаль палову фальварковых засеваў ужо ў сярэдзіне XVIII ст. Пэўнае месца ў структуры пасяўных плошчаў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі адводзілася ячменю і грэчцы. У XVIII ст. гэтыя культуры займалі ў розных гаспадарках ад 5 да 20 %. Пасевы яравых жыта і пшаніцы паўсюдна былі нязначныя. Таксама малая ўдзельная вага ў фальварковым пасяўным фондзе належала працаёмкім культурам: ільну і каноплям[4]. Разам з тым жорсткай рэгламентацыі ў структуры пасеваў на фальварковых палетках не існавала. Прынцып мэтазгоднасці і прыбытковасці тут адыгрываў галоўную ролю. Аб гэтым сведчыць ужо згаданая інструкцыя сваім гаспадарнікам буйнога землеўладальніка А.Агінскага, які заўважаў: "Там, дзе родзіць аніс і

---

[1] *Козловский П.Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. С. 78; *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966. С.52–67.

[2] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII–XVIII вв.). С. 104.

[3] *Pawlik St.* Polskie instruktarze ekonomiczne z końca XVII i z XVIII wieku. Krarów. 1915. S. 57.

[4] *Козловский П.Г.* Динамика урожайности и посевных площадей, изменения структуры посевов в крупных поместьях Белоруссии в XVIII—первой половине XIX в. С. 353; *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). С. 100—101.

пшаніца, не трэба высяваць жыта, дзе расце ячмень – не сеяць аўса, там, дзе лён і каноплі з'яўляюцца ходкім таварам, высяваць як мага больш ільну і каноплі"[1].

Ураджайнасць збожжавых культур была неаднолькавай у розных рэгіёнах, дзе яна залежала ад якасці глебы і ў розныя гады ад неаднолькавых кліматычных умоў. У другой палове XVIII ст. яна вар'іравалася ў межах "сам-2—сам-5" і стабільнасцю не вызначалася[2].

Другой важнейшай сельскагаспадарчай галіной фальварковай гаспадаркі з'яўлялася жывёлагадоўля. Узровень яе развіцця ў другой палове XVIII ст. быў дастаткова высокі. У асноўным феадальная гаспадарка была забяспечана як працоўнай, так і прадукцыйнай жывёлай. Жывёлагадоўля мела высокую ўдзельную вагу ў зонах, дзе назіраліся лепшыя прыродна-кліматычныя і эканамічныя ўмовы: паўднёва-заходняя Беларусь (Давыд-Гарадок, Лахва, Манкевічы), сярэдняе Падзвінне (Друя). Больш жывёлы ўтрымлівалі таксама ў маёнтках з развітай зерневай вытворчасцю (маёнткі Клецк і Чарнаўчыцы Радзівілаў, Паставы Тызенгаўза, Высокае Сапегаў)[3].

Найбольш вырошчвалі ў феадальных маёнтках буйную рагатую жывёлу, у першую чаргу кароў. У значнай колькасці ўтрымлівалі свіней, авечак, хатнюю птушку.

Асаблівая ўвага ў феадальных дварах звярталася на развядзенне рабочай жывёлы. Для заходніх і цэнтральных раёнаў Беларусі асноўнай цяглавай сілай з'яўляліся валы, для ўсходніх – коні. Але ў другой палове XVIII ст. рабочыя коні сустракаюцца і ў магнацкіх маёнтках захаду Беларусі – у Нясвіжы, Ружанах, Дзярэчыне. Племянныя конныя заводы існавалі ў Нягневічах, Карэлічах, Ліпічна, Цімкавічах, Смядыні, Высокім, Маладзечне, Залессі і інш.[4]

Неад'емнай часткай феадальнай гаспадаркі з'яўляліся агародніцтва, садаводства, пчалярства, рыбаводства. У другой палове XVIII ст. асабліва інтэнсіўна развіваліся першыя дзве з пералічаных галін фальварковай вытворчасці. У гэты час заметна пашыраўся асартымент агародных культур. Да традыцыйных капусты, морквы, цыбулі, агуркоў, буракоў дабавіліся фасоля, сельдэрэй, пастарнак, мак, трускалкі. З 80-х гг. XVIII ст. у агародах некаторых магнацкіх уладанняў (Быцень, Высокае, Дзярэчын, Паставы і інш.) з'явілася бульба. За яе вырошчванне прызначаліся прэміі. Сялянам, якія на сваіх агародах высаджвалі гэтую экзатычную для таго часу культуру, землеўладальнікі выдавалі заахвочванні ў памеры да 20 злотых. Такім чынам, праз развіццё агародніцтва ў канцы XVIII ст. нацыянальная беларуская сельскагаспадарчая культура XX ст. паступова заваёўвала палеткі[5].

Па меры пашырэння ў Беларусі палаца-паркавага будаўніцтва ў другой палове XVIII ст. усё больш з'яўлялася дастаткова значных па плошчы садоў. Дакументы 1761 г. радзівілаўскага ўладання Глыбокае ў Ашмянскім павеце называюць сад у гэтым маёнтку "вялізным". У садах можна было знайсці яблыні, грушы, вішні, слівы, чарэшні, кусты агрэсту, парэчак, нават персіка-

---

[1] *Pawlik St.* Polskie instruktarze ekonomiczne z końca XVII i z XVIII wieku. Krarów. 1915. S. 251.

[2] Там жа. С. 102, 354.

[3] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С.52.

[4] Там жа. С.61, 62.

[5] Там жа . С. 64–65.



Веянне збожжа. З інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г.

выя і абрыкосавыя дрэўцы. Больш таго, у магнацкіх цяпліцах і аранжарэях вырошчвалі ананасы, дыні, фігі. Кветкі ў іх меліся круглы год[1].

Калі аблічча феадальнай гаспадаркі на захадзе і ў цэнтры Беларусі вызначала таварнае земляробства, то для ўсходу былі больш уласцівыя разнастайныя прамысловыя заняткі. Першае месца сярод іх займалі промыслы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны. Тут, безумоўна, лідзіравала вінакурэнне. Прычым вытворчасць моцных напояў, якая дазвалялася толькі землеўладальнікам, пашыралася на беларускіх землях у другой палове XVIII ст. паўсюдна. Інвентары гэтага часу адзначаюць вінакурні (бровары) у кожным фальварку буйнога ўладання. Існавалі гэтыя прадпрыемствы пры корчмах у кожным горадзе і мястэчку. У Копыскім графстве, напрыклад, колькасць корчмаў павялічылася ў 1724—1773 гг. з 7 да 39, у Крычаўскім старостве ў 1720 – 1747 гг. з 18 да 53, у Шклоўскім графстве ў 1693—1771 гг. з 10 да 25 . У некаторых маёнтках звыш 60 % наяўнага зерня ішло на выраб гарэлкі і піва. Так, на Крычаўскім бровары на працягу сутак выраблялі 110 вёдзер гарэлкі, вінакурня ва Урэччы давала прыкладна 2700 л гарэлкі ў суткі. Натуральна, вінакурэнне з'яўлялася адным з найгалоўнейшых прыбытковых артыкулаў буйных землеўладальнікаў. Толькі арэнда корчмаў складала 37 % прыбытку вялікай Магілёўскай эканоміі, 26 % – Гомельскага староства[2].

Другім відам прадпрыемстваў па перапрацоўцы зерня з'яўляліся млыны. Правы на іх будаўніцтва і прыбытак ад дзейнасці, таксама як ад бровараў і корчмаў, належалі выключна землеўладальнікам. Таму яны імкнуліся максімальна павялічваць іх колькасць. У 1777 г., згодна перапісу скарбовай камісіі ВКЛ, у Берасцейскім павеце налічвалася 178 вадзяных млыноў і 25 ветракоў. У 50—60-х гг. XVIII ст. у Магілёўскай эканоміі дзейнічаў 71 млын, у Гомельскім і Крычаўскім староствах – адпаведна 46, у Быхаўскім графстве – 31[3].

---

[1] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине ХУШ в. С. 66–68.

[2] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С.107–115; *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 76.

[3] Там жа. С. 71–72, 115–128.

Да прамысловых прадпрыемстваў, якія былі дастаткова распаўсюджаны ў феадальных гаспадарках і выкарыстоўвалі сельскагаспадарчую сыравіну, трэба аднесці алейні (маслабойні), фолюшы (сукнавальні).

Агромністыя лясныя масівы на беларускіх землях абумовілі шырокае распаўсюджанне ў буйных гаспадарках, галоўным чынам дзяржаўных і прыватнаўласніцкіх, лясных промыслаў. Вялікі попыт на лесаматэрыялы ў Заходняй Еўропе арыентаваў лясны промысел на знешні рынак. Да такога роду прамысловай дзейнасці адносілася нарыхтоўка таварнага лесу, лесаматэрыялаў і прадуктаў перапрацоўкі дрэва. Сюды ж можна аднесці таксама будны ці паташны промысел. Паташ – гэта рэчыва ў выглядзе белага зярністага парашку са шчолачнымі ўласцівасцямі, якое атрымліваюць з попелу. Ён быў дастаткова дарагім на заходнім рынку. Буды засноўвалі ў буйных феадальных гаспадарках. У XVIII ст. прадпрыемствы па вытворчасці паташу змяшчаліся каля лясных масіваў. Вядомая была Грэская буда, паташні ў Крычаўскім, Чачэрскім, Прапойскім староствах, Быхаўскім, Любавіцкім і Лоеўскім графствах, маёнтках Стрэшын і Горваль. Паташны промысел прыносіў землеўладальніку вялізны прыбытак – да 80–90 % ад укладзенага капіталу, таму ўвага гаспадароў маёнткаў да дзейнасці буд была самай пільнай[1].

Дастаткова значныя запасы балотнай руды па ўсёй тэрыторыі Беларусі дазвалялі засноўваць рудні – прадпрыемствы па здабычы жалеза. Назвы населеных пунктаў з коранем "руд", раскіданых па ўсіх рэгіёнах у дастатковай колькасці (Рудня, Руда, Рудзенка, Рудаўшчына і інш.), сведчаць аб існаванні ў феадальных гаспадарках жалезарудных гут. Толькі ў Рэчыцкім павеце дакументы фіксуюць у другой палове XVIII ст. наяўнасць 24 рудняў[2]. Дзейнічалі ў гаспадарках буйных землеўладальнікаў і на дзяржаўных землях і прадпрыемствы па вытворчасці шкла, а таксама цагельні.

Для забеспячэння функцыяніравання шматгаліновай феадальнай гаспадаркі землеўладальнікі практыкавалі інтэнсіўнае будаўніцтва ў сваіх маёнтках гаспадарчых і вытворчых збудаванняў. Іх маштабы можна праілюстраваць на прыкладзе сапежскага ўладання Дзярэчын. Тут у 1793–1794 гг. будаваліся бровар, цагельня, дамба ля фолюша, дамба ля млына, галоўны склад у цэнтры маёнтка, "страхавы сялянскі магазін", гумно, стайня, карчма і шэраг іншых аб'ектаў[3].



Зграбанне сена. З інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г.

**Арганізацыя і вядзенне гаспадаркі.** Прынцыпы кіравання як дзяржаўнымі, так і прыватнаўласніцкімі ўладаннямі, што не здаваліся ў арэнду, былі аднатыпнымі з невялікімі асаблівасцямі. Сярод важнейшых прынцыпаў можна назваць дастаткова высокую ступень цэнтралізацыі. Буйныя магнацкія ўладанні дзяліліся на графствы ці княствы, дзяржаўныя ж эканоміі (напрыклад, Гарадзенская) –

[1] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С.144–162.
[2] Там жа. С. 163.
[3] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 89.

на губерні. На чале гэтых адзінак стаялі генеральныя аканомы ці губернатары. Пры гэтых начальніках ствараліся і дзейнічалі галоўныя канцыляры, у склад якіх уваходзілі асноўныя спецыялісты розных галін гаспадарання і прадстаўнікі кантрольных органаў.

Вышэйназваныя буйныя адзінкі гаспадарання ў сваю чаргу дзяліліся на драбнейшыя, якія атрымалі назву "ключ". Ключ аб'ядноўваў ад аднаго да некалькіх фальваркаў (на чале яго стаяў аканом). Аканомы ж узначальвалі фальваркі. Фальварковае кіраванне абапіралася на адказных асоб сельскай адміністрацыі: войта, падвойта, лаўнікаў, дзесятнікаў[1].

Гаспадарчую дзейнасць уся кіруючая іерархія здзяйсняла згодна выдадзеных і абавязковых да выканання інструкцый. Па зместу інструкцыі былі падобныя і акрэслівалі агульныя прынцыпы гаспадарання. Аўтары інструкцый у першую чаргу звярталі ўвагу на неабходнасць укаранення і пашырэння найноўшых і прадуктыўных метадаў вядзення гаспадаркі. Далей інструкцыі акрэслівалі кола абавязкаў асобныхураднікаў, прынцыпы ўзаемаадносін розных звенняў кіруючай іерархіі, парадак справаздачнасці, збору падаткаў і г.д. Парушэнне прадпісанняў землеўладальнікаў магло прывесці да спагнання з парушальнікаў штрафаў, а то і да звальнення з займаемых пасад.

Кантралявалі выкананне інструкцый спецыяльныя рэвізоры (люстратары, камісары), якія час ад часу аб'язджалі маёнткі. Пры гэтым яны ацэньвалі ўзровень гаспадарання, фармулявалі прапановы па яго паляпшэнню, занатоўвалі скаргі прыгонных падданых на адміністрацыю. Нярэдка дзейнасць рэвізораў станоўча адбівалася на эканамічным стане тых ці іншых уладанняў. Бывалі выпадкі, калі кантралёрскія функцыі ўскладалі на сябе авантурысты, што вяло да драм у жыцці селяніна. Так, каб падарваць сярод прыгонных давер да камісараў, арандатары ці адміністратары часам ішлі на прамое ашуканства. Напрыклад, у 1740 г. арандатар Крычаўскага староства Гдаль Іцкавіч абвесціў, што ва ўладанне прыбыў камісар Радзівілаў (фактычных гаспадароў) па прозвішчу Шыманскі. Ён, як запэўнівалася, меў на мэце выслухаць сялянскія крыўды і прапаноўваў падданым прад'явіць усе квітанцыі аб уплаце чыншу. Прыгонныя паверылі і аднеслі "княжацкаму рэвізору" звыш 200 тыс. квітанцый на ўжо выплачаны чынш. Калі ўся дакументацыя была сабрана, Шыманскі знік. Потым высветлілася, што на самай справе не камісарам Радзівіла быў так званы Шыманскі, а наймітам мясцовых часовых гаспадароў Крычаўскага староства. У выніку прыгонныя былі вымушаны ў другі раз плаціць грашовы падатак[2].

Амаль усе земляробчыя і часткова прамысловыя работы ў гаспадарцы феадала выконвалі сяляне-паншчыннікі са сваім інвентаром. Наёмная праца была з'явай эпізадычнай, а колькасць працаўнікоў-наёмнікаў мізэрнай. У другой палове XVIII ст. у фальварках у сярэднім звычайна працавала 6–7 работнікаў па найму. Але ўжо сам факт іх выкарыстання быў сімптаматычны, бо азначаная колькасць наймітаў давала фальварку каля 2 тыс. дзён у год адносна высокай па сваёй вытворчасці працы. Гэта практычна прыраўнівалася да адбывання двухдзённай паншчыны на працягу года 20 сялянскімі гаспадаркамі[3]. Так што эфектыўнасць наёмнай працы сведчыла сама за сябе.

---

[1] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С.99—101; *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. С. 167–168.

[2] *Мялешка В.І., Лойка П.А.* Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. С. 24.

[3] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. С. 163–176.


Summaryusz
Wszystkich In generali Titulo Sta:
rostw Woytowstw Krolewszczyzn w Wo:
iewodztwie Minskim sytuowanych z Ich Pro:
wentami y wszelkiey prowenienciey po zaprzy
siężeniu Podstarościch Dyspozytorow
y Innych Substitutow Supra Fidelitate
Intrat przez Nas Lustratorow Konsty
tucyą Seymu Convocationis A° 1764 wyzna
czonych, Jeden Exemplarzem per Oblatam
do Xiąg Grodzkich Wtwa Minskiego, w Roku
teraznieyszym 1765 Mca Octobra Dwudzie
[illegible] Dnia wprowadzony Drugi
ad Archivum Prześwietney Kommissyi Skar
bowey WXL do oddania opporządzony.

Сумарыюш інвентару Менскага староства 1765 г.

Менавіта наёмная праца выступала як вядучы прынцып у арганізацыі прамысловай вытворчасці. Аплата наёмнага работніка ажыццяўлялася ці трашыма, ці прадуктамі харчавання. Пры гэтым улічваліся ступень кваліфікацыі работніка і аб'ём выкананай працы. Паступова да канца XVIII ст. наёмная праца пачынае практыкавацца і ў земляробстве. У тых маёнтках, дзе дакументы рэгіструюць падобныя факты, прыкметна мяняецца і арсенал сельскагаспадарчай тэхнікі. На змену руцінным, часта драўляным баронам, сохам, косам прыходзяць бясколавыя плугі, жалезныя бароны, механічныя веялкі. Усё большая ўвага ў перадавых гаспадарках звяртаецца на прымяненне найноўшых агратэхнічных прыёмаў[1].

**Рынaчныя сувязі**. Дакументальныя крыніцы сведчаць аб даволі цеснай сувязі феадальнай гаспадаркі як з унутраным, так і са знешнім рынкамі. Пры гэтым геаграфічныя рэгіёны мелі свае асаблівасці. Заходнія і цэнтральныя землі былі больш звязаныя непасрэдна са знешнімі рынкамі. На ўсходзе ж ва ўмовах адносна невялікіх плошчаў панскіх ворных зямель феадал не мог абысціся без унутранага рынку, пры гэтым не адмаўляючыся ад знешнерынaчнай дзейнасці.

У канкрэтных лічбах і прыкладах гэта выяўлялася наступным чынам. На долю буйных прыватнаўласніцкіх гаспадарак у 80—90-х гг. XVIII ст. прыходзілася 66,9 % усяго збожжавага экспарту ВКЛ[2]. Пераважная большасць магнацкіх маёнткаў Заходняй Беларусі выкарыстоўвала нёманскі водны шлях для дастаўкі жыта ў Крулявец. Паўднёва-заходняя частка Беларусі (Берасцейшчына) мела адпрацаваны шлях для сплаву збожжа па Бугу і яго прытоку Нараву ў польскія гандлёвыя цэнтры Гданьск і Эльблонг. Заходнедзвінскі гандлёвы шлях цераз Рыгу ў Заходнюю Еўропу больш выкарыстоўваўся не для хлебнага, а дляляснога экспарту. Менавіта па ім з паўночна-заходніх раёнаў Беларусі ішлі на знешні рынак лес, прадукты лесаперапрацоўкі, пянька, ільняное семя[3].

З захаду землеўладальнікі імпартавалі як рэчы асабістага карыстання, так і тавары масавага попыту і вытворчага прызначэння. Прычым апошнія артыкулы імпарту былі куды больш значныя, чым першы. Так, у магнацкія маёнткі дастаўляліся соль, жалеза, свінец, катлы, шкло і іншыя тавары[4].

[1] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 40–41.

[2] Там жа. С. 92.

[3] Там жа. С. 92–93.

[4] Там жа. С. 94.

Безумоўна, феадальныя гаспадаркі заходніх і цэнтральных раёнаў Беларусі не маглі абысціся без унутранага рынку, куды яны пастаўлялі прадукцыю фальваркаў, прамысловых прадпрыемстваў і дзе ў сваю чаргу набывалі неабходныя для гаспадарання тавары (цэгла, вапна, шкло, лесаматэрыялы, жалеза, цукар і г.д.).

Аднак больш інтэнсіўна абмен таварамі на мясцовых рынках, у якія былі ўцягнуты феадальныя гаспадаркі, ажыццяўляўся на ўсходніх беларускіх тэрыторыях. Там, на штотыднёвых таргах і кірмашах у гарадах і мястэчках, непасрэдна ў сваіх дварах феадалы рэалізоўвалі звыш 50 найменняў тавару. У іх лік уваходзілі жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, агуркі,капуста, каноплі, пянька, хмель, алей, жывёла, птушка, яйкі, мяса-малочныя прадукты, мёд, піва, гарэлка, селядцы, соль, жалеза, цэгла і г.д.[1]

Землеўладальнікі трымалі на асаблівым кантролі тыя галіны сваёй гаспадаркі, якія прыносілі значны прыбытак на ўнутраным рынку. Так, зерневая гаспадарка давала 80 % прыбытку ў маёнтках Марцыянава і Падбярэззе Віцебскага ваяводства. Тут адпаведна звярталася пільная ўвага на развіццё фальварка. У маёнтку Агінскіх Веляшковічы спецыялізаваліся на развядзенні і пастаўцы на мясцовы рынак прадукцыі жывёлагадоўлі, садаводства і агародніцтва[2].

Нельга змяншаць значэнне і знешняга гандлю ў функцыянiраванні феадальнай гаспадаркі ўсходу Беларусі. Ён быў дастаткова насычаны і шматвектарны. Аналіз дакументальнага матэрыялу дазваляе канстатаваць факт актыўнасці знешнегандлёвай дзейнасці буйных землеўладальнікаў у розных напрамках. Адным з іх быў гандаль з Расіяй. Тут беларускі феадал ці яго агент выступаў хутчэй за ўсё ў якасці перакупшчыка. На расійскім рынку скупаліся зерне, пянька, лён, каноплі. Большай часткай гэты тавар перапрадаваўся гандлярам у прыбалтыйскіх партах. Набытая на ўсходзе сыравіна ў нейкай ступені абслугоўвала прамысловыя прадпрыемствы Усходняй Беларусі. Некаторыя рэчы на расійскіх рынках беларускія феадалы закуплялі для ўласнага ўжытку. Гэта футры, шаўковыя тканіны, вырабы з золата[3].

Даволі стабільнымі былі гандлёвыя сувязі з паўднёвымі ўкраінскімі землямі. На рынках Нежына, Старадуба, Кіева збывалася галоўным чынам прадукцыя лясных промыслаў і збожжа. З Украіны на беларускія землі даставлялася звычайна соль і пераганялася жывёла[4].

Пэўнае месца ў рыначных сувязях буйнапамеснай гаспадаркі Усходняй Беларусі займаў гандаль з Гданьскам. Высокія цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю ў гэтым буйнейшым балтыйскім гандлёвым цэнтры рабіў выгадным, нягледзячы на значныя транспартныя выдаткі, экспарт туды пянькі, паташу, алею. Асноўнымі пастаўшчыкамі таварных партый у гэтым напрамку выступалі буйныя землеўладальнікі – Сапегі, Радзівілы, Агінскія. Так, фактычныя ўладальнікі Гомельскага староства Радзівілы ў 1771 г. вывезлі ў гданьскі порт 4192 кварты (2934 л) алею. З Гданьска феадалы імпартавалі розныя тканіны, вырабы з фарфору, зброю, прадметы раскошы.

Аднак найбольш развітымі былі гандлёвыя сувязі феадальных гаспадарак Усходняй Беларусі з іншымі балтыйскімі цэнтрамі – Рыгай і Кру-

---

[4] Там жа. С. 94.

[1] *Мелешко В.И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 180.

[2] Там жа. С. 184–187.

[3] Там жа. С. 193–194.

[4] Там жа. С. 195–197.



Малацьба. З інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г.

ляўцом. У гэтыя парты адсюль экспартавалася не зерне, як з бужска-нёманскага басейна, а пянька, каноплі, ільносемя, паташ, алей, лесаматэрыялы. Так, уладальнік Дубровенскага графства Сапега ў 1764 г. прадаў у Круляўцы пянькі на суму 16 413 тынфаў (тынф – 1 злоты 8 грошаў), канапель – на 4465 тынфаў. Гаспадар Шклоўскага графства Г.Сяняўскі за 6 гадоў збыў у Рызе 41 233 пуды пянькі і 9466 бочак канапель на агульную суму 294 900 злотых. Вялікімі партыямі ішлі вышэйзгаданыя тавары на рынкі Круляўца і Рыгі з Магілёўскай эканоміі, Быхаўскага і Копыскага графстваў, Чачэрскага, Прапойскага, Крычаўскага староставаў і іншых буйных уладанняў Падняпроўя[1].

Такім чынам, феадальная гаспадарка другой паловы XVIII ст. на беларускіх землях уяўляла сабой шматгаліновы гаспадарчы комплекс, дзе побач з сельгасвытворчасцю ўкараняліся перапрацоўчыя промыслы, развівалася мясцовая прамысловасць. Феадальная гаспадарка забяспечвала сваю прыбытковасць і мела стымул для далейшага развіцця праз інтэнсіўныя гандлёвыя сувязі з мясцовым, а найбольш са знешнім рынкам.

## 2. Аграрная рэформа Антонія Тызенгаўза

**Прычыны правядзення аграрнай рэформы**. У выпрацоўцы новых стымулаў і падыходаў для эканамічнага развіцця ў першую чаргу была зацікаўлена дзяржаўная ўлада. Скарб, імкнучыся да хутчэйшага атрымання грошай і павелічэння даходаў, увесь час шукаў новыя формы гаспадарання, шляхі павышэння рэнтааддачы феадальна залежнага сялянства. Менавіта з такой мэтай у дзяржаўных уладаннях у сярэдзіне – другой палове XVIII ст. была распачата цэлая сістэма новаўвядзенняў, якая ў гістарычнай літаратуры атрымала назву аграрнай рэформы Антонія Тызенгаўза.

Другая палова XVIII ст. уяўляла сабой якасна новы ў параўнанні з папярэднім перыяд у гаспадарчай гісторыі Беларусі. Аднаўленне панскай і сялянскай гаспадарак да сярэдзіны стагоддзя ў асноўным завяршылася і стала падставай для далейшага развіцця эканомікі. Гэтаму ў многім спрыялі змены ў арганізацыі гаспадарчага жыцця. Значнае скарачэнне колькасці на-

[1] *Мелешко В.И.*Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 195–197.

сельніцтва, знішчэнне цяглавай і прадукцыйнай жывёлы, вывядзенне з гаспадарчага абарачэння вялікіх плошчаў ворыўных зямель прымусіла ўласнікаў шукаць новыя, больш эфектыўныя шляхі аднаўлення і развіцця гаспадаркі.

Неабходнасць рэфармавання каралеўскіх сталовых эканомій[1] (у ВКЛ гэта былі Гародзенская, Берасцейская, Кобрынская, Магілёўская на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Шавельская і Ольцкая эканоміі на тэрыторыі сучаснай Літвы), была прадыктавана гаспадарчым становішчам саміх эканомій. Гэтыя дзяржаўныя ўладанні амаль заўсёды знаходзіліся ў трыманні буйных феадалаў. Каралеўскія сталовыя землі раздаваліся на розных падставах. Адных феадалаў кароль узнагароджваў зямлёю "да жывата"[2] за заслугі перад дзяржавай, другім даваў маёнткі на пэўны тэрмін у якасці платы за пазыку грошай, трэцім – у часовае трыманне на ўмовах выплаты грашовай рэнты ў скарб. Галоўнай прычынай раздачы каралеўскіх зямель быў пастаянны недахоп фінансаў у кіраўніка дзяржавы і адсюль імкненне скарба як мага хутчэй атрымаць з гэтых уладанняў хоць нейкія грашовыя паступленні, якія накіроўваліся ў асноўным на ўтрыманне двара і асабістыя патрэбы караля.

З 1742 г. Берасцейская, Кобрынская, Гародзенская і Ольцкая эканоміі знаходзіліся ў трыманні графа Юрыя Флемінга, які ў 1754 г. зноў заключыў са скарбам кантракт на шасцігадовую арэнду ўсіх сталовых эканомій Вялікага княства Літоўскага, акрамя Шавельскай. У 1765 г. яго даход ад гэтых эканомій склаў 900 тыс. польскіх злотых. Гэта была найбольшая сума даходу, які ўдалося атрымаць з дадзеных уладанняў да моманту прыходу да ўлады Станіслава Аўгуста.

Сталовыя эканоміі звычайна аддаваліся ў трыманне разам з падданымі, якія абавязаны былі выконваць на карысць новага гаспадара ўсе павіннасці і выплачваць усе падаткі, вызначаныя адпаведнымі "ўставамі"[3].

Умовы "дзяржання" не вымагалі ад чарговага трымальніка[4] ніякіх спецыяльных высілкаў, акрамя абавязку ў адпаведнасці з кантрактам заплаціць пэўную суму грошай. Звычайна гэта была выплата ў скарб кварты – чацвёртай часткі ўсіх атрыманых прыбыткаў. У некаторых выпадках кантракт даволі строга агаворваў умовы трымання. Напрыклад, каралеўская грамата 1762 г., выдадзеная Ю.Флемінгу на пажыццёвае валоданне вёскамі Пуцкі і Стараселле ў Магілёўскай эканоміі, дазваляла яму карыстацца ўсімі крыніцамі даходаў (ад корчмаў, млыноў, рэк, лясоў, ворыўнай зямлі, сялянскіх павіннасцей і выплат і т.п.), за выключэннем чыншу і гіберны[5], якія абавязкова ўносіліся ў каралеўскі скарб.

Зразумела, што пры такіх умовах трымання часовы ўласнік мог не клапаціцца аб захаванасці ці перспектывах арандаванай гаспадаркі. Пры гэтым яму не забаранялася перадаваць атрыманыя маёнткі ў субарэнду. Імкнучыся павялічыць свае прыбыткі, трымальнікі часта парушалі "ўставы" эканомій, прымушалі сялян плаціць большыя чыншы ці адпрацоўваць боль-

---

[1] Сталовыя эканоміі – дзяржаўныя ўладанні, даход з якіх ішоў на каралеўскі стол, непасрэдна на забеспячэнне караля і яго двара.

[2] "Да жывата" – пажыццёва.

[3] Устава – дакумент, які вызначаў памеры феадальных павіннасцей сялян пэўнага ўладання.

[4] Дзяржаўца (трымальнік) – службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік, часовы ўладальнік дзяржавы (трымання), г.зн. дзяржаўнага зямельнага ўладання, якое перадавалася яму на вызначаных умовах трымання.

[5] Гіберна – грашовы падатак на ўтрыманне войска.



Алегорыя сельскагаспадарчай працы.
З інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г.

шую колькасць дзён на паншчыне, чынілі іншыя бясправ̌і. Да таго ж у часовых трымальнікаў стала традыцыяй затрымлівацца з выплатай у скарб грошай, прызначаных з арандаваных уладанняў. Зразумела, што такое становішча негатыўна адбівалася як на гаспадарчым развіцці саміх эканомій, так і на даходах каралеўскай казны з іх.

Улічваючы гэта, сейм 1764 г. прыняў рашэнне стварыць спецыяльную Скарбовую камісію, якая павінна была займацца ўсімі фінансавымі справамі дзяржавы. Усе сталовыя каралеўскія ўладанні было вырашана перадаць пад непасрэднае ўпраўленне скарбу. Ужо з 1765 г., калі дзяржаве ўдалося сканцэнтраваць у сваіх руках амаль усе каралеўскія эканоміі, пачаліся спробы рэфармавання ў іх з мэтай павышэння даходнасці. Ініцыятарам гэтага працэсу стаў надворны падскарбій Вялікага княства Літоўскага Антоній Тызенгаўз.

Кароль спецыяльным распараджэннем ад 8 сакавіка 1765 г. даў А.Тызенгаўзу шырокія паўнамоцтвы па кіраўніцтву сталовымі эканоміямі з дазволам рабіць усё для павелічэння прыбыткаў з гэтых уладанняў. У аснове эканамічных мерапрыемстваў А.Тызенгаўза ляжалі пэўныя палітычныя мэты. Ён належаў да тых людзей, якія бачылі асноўную прычыну слабасці Рэчы Паспалітай у кволасці яе цэнтральнай улады. Таму надворны падскарбій лічыў сваімі галоўнымі задачамі ўмацаванне каралеўскай улады, пазбаўленне яе залежнасці ад грашовай і палітычнай падтрымкі магнатаў, арганізацыю апоры на сярэднюю і дробную шляхту. У шэрагу задач стаяла і фінансавая незалежнасць караля ад сейма.

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1764–1795), які амаль увесь час адчуваў супрацьдзеянне з боку магнатэрыі і найбольш знакамітых і заможных княжацкіх родаў, сапраўды меў патрэбу ў фінансавай самастойнасці. Павелічэнне даходаў каралеўскага скарбу для яго сапраўды з'яўлялася пытаннем "быць альбо не быць". Паколькі распараджэнне прыбыткамі ад саляных капальняў, партоў, выкарыстанне гіберны і іншых дзяржаўных падаткаў рэгулявалася законамі, якія дазвалялі ўжываць гэтыя грошы толькі на дзяржаўныя патрэбы, то сталовыя эканоміі заставаліся па сутнасці адзінай крыніцай, якая магла даць грашовыя паступленні ўласна каралю. Таму А.Тызенгаўз, які плённа працаваў над стварэннем палітычнай падтрымкі для Станіслава Аўгуста і нават заснаваў пры двары каралеўскую партыю, калі стаў з 1765 г. адміністратарам усіх каралеўскіх уладанняў і атрымаў магчымасць праводзіць ў жыццё свае ідэі, абавязаўся забяспечыць каралю і фінансавую падтрымку.

**Асноўны змест і ход рэформы.** Эканамічная рэформа А.Тызенгаўза была комплекснай па сваёй задумцы і ахоплівала адначасова сельскую гаспадарку, прамысловасць і гандаль. Вырашана было перабудаваць скарбовую гаспадарку на новых падставах, а менавіта:

а) аднавіць у эканоміях фальваркі, палепшыўшы ў іх апрацоўку зямлі шляхам выкарыстання тагачаснай заходнееўрапейскай агратэхнікі, якая ўжо ведала чатырохполле і травасеянне. Такую арганізацыю працы планавалася ўвесці прымусова. Разлічвалі, што вынікам гэтага стане рост ураджайнасці і ў фальварках, і ў сялянскіх гаспадарках. Такім чынам, апошнія сталі б здольнымі плаціць больш высокія падаткі і чыншы. Праз аднаўленне фальваркаў меркавалася таксама завяршыць працэс уключэння ў гаспадарчае абарачэнне пустак, якія яшчэ заставаліся ў некаторых маёнтках пасля ваенных разбурэнняў;

б) за кошт даходаў, атрыманых ад пашырэння фальварковай гаспадаркі, планавалася стварыць у эканоміях мануфактуры, заснаваныя на бясплатнай прыгоннай працы, што таксама павінна было б стаць крыніцай новых прыбыткаў для скарбу;

в) меркавалася аблегчыць гандаль, уладкаваць шляхі зносін па сухапутных дарогах і сплаў па рэках.

Планавался развіваць рамёствы, што ў сваю чаргу ажывіла б гарады і мястэчкі, таксама спрыяла б павышэнню даходаў.

Акрамя запланаванага павелічэння памераў феадальнай рэнты, якая павінна была збірацца з узмацнелых за гады эканамічнай адбудовы сялянскіх гаспадарак, была прадугледжана неабходнасць новага зямельнага перамеру. Справа ў тым, што пры пасляваеннай сістэме “слабод”, паменшаных чыншаў і іншых ільгот многія сялянскія гаспадаркі значна пашырылі свае зямельные надзелы, але гэта не знайшло адлюстравання ў дакументацыі ўладанняў. Таму падаткі і павіннасці па-старому прызначаліся не з той колькасці зямлі, якая знаходзілася ў фактычным карыстанні селяніна, а з раней зафіксаванай у інвентарах. Зразумела, што выправіць такую сітуацыю можна было толькі праз новы перамер зямлі.

Таксама было прынята рашэнне не аддаваць больш каралеўскія сталовыя эканоміі ў арэнду ці трыманне, а весці там гаспадарку толькі праз уласную адміністрацыю.

Такім чынам, аграрныя пераўтварэнні планаваліся як асноўная частка комплекснай эканамічнай рэформы, менавіта на іх ускладаліся вялікія надзеі па папаўненню каралеўскага скарбу.

Аграрная рэформа пачалася з вялікай рэвізіі (люстрацыі)[1] усіх дзяржаўных уладанняў, якая была праведзена ў 1765 г., і перамеру ворыўнай зямлі ў большасці каралеўскіх сталовых эканомій. Ставілася мэта як удакладнення рэальнага надзелу сялянскіх гаспадарак, так і вызначэння сапраўдных памераў дзяржаўнага землеўладання ў каралеўскіх эканоміях, дзе частка зямель па розных прычынах перайшла да шляхты і іншых уласнікаў і перастала даваць прыбытак дзяржаве. Перамер зямлі на такіх вялікіх абшарах патрабаваў значнай колькасці спецыялістаў у гэтай справе – мернікаў, таму было прынята рашэнне аб стварэнні спецыяльнай “школы мернічай”, у якую адправілі вучыцца некалькі дзесяткаў чалавек.

Менавіта ў гэты час у Еўропе зноў рэзка ўзняўся попыт на збожжа і фальварак у эканоміях аднаўляўся не толькі ў якасці гаспадаркі, заснаванай

[1] Люстрацыі – перыядычныя праверкі і вопісы дзяржаўных уладанняў з мэтай вызначэння іх даходнасці.

на працы прыгоннага сялянства, але як і сельскагаспадарчае прадпрыемства, асноўнай мэтай дзейнасці якога станавіўся таварны характар вытворчасці збожжа. Таму частка зямель, якія здаўна, з часоў аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. належалі да гаспадарскіх двароў і на якіх у свой час вялося панскае заворванне, адбіралася ў сялян для стварэння ці аднаўлення там фальваркаў. Каб забяспечыць новыя фальваркі дармавой рабочай сілай без ужывання найму, для сялян гэтых уладанняў вяртаўся "стан даўні дачыншавы" і аднаўляўся іх абавязак працаваць на фальварковых землях. Неабходна заўважыць, што адміністрацыя эканомій і сяляне зусім па-рознаму ўспрымалі сэнс паняцця "стан даўні": для першых – гэта стан паншчыны, якая замацавалася тут у выніку валочнай памеры сярэдзіны XVI ст.; сяляне ж разумелі пад даўнінай менавіта перавод на грашовую рэнту ў другой палове XVII – пачатку XVIII ст., які вызваляў іх ад паншчыны.

Згодна с планам рэформы, сельскае насельніцтва падзялялася на дзве катэгорыі – цяглых, якія адпрацоўвалі паншчыну, і зямян, асноўнай павіннасцю якіх была выплата грашовай рэнты (аналогія былым чыншавым і асадным сялянам). Сялянскі зямельны фонд таксама падзяляўся на дзве часткі – зямлю сядзібную (аселую) і прынятую. Кожная сялянская гаспадарка абавязана была ўзяць адну чвэрць валокі сядзібнай зямлі пад асноўны надзел, які ў будучым не павінен быў дзяліцца ці памяншацца. Зямля, якая заставалася пасля атрымання асноўных надзелаў, атрымлівала назву прыёмнай і, як было заяўлена, магла разбірацца сялянамі на добраахвотных пачатках у любой колькасці пры ўмове выплаты прызначанага з яе чыншу.

Асноўныя павіннасці з аседлай зямлі вызначаліся ў залежнасці ад яе якасці і маёмаснага стану селяніна. У адпаведнасці з гэтым зямля дзялілася на добрую, сярэднюю, дрэнную і вельмі дрэнную, а сяляне – на багатых, заможных, сярэдніх і ўбогіх.



Снапы і прылады працы. З інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г.

Цяглыя сяляне павінны былі адпрацаваць з чвэрці валокі* сядзібнага грунту два дні паншчыны на тыдзень (104 дні ў год). Яны таксама былі абавязаны ўсёй сям'ёй выйсці на чатыры гвалты ці талокі штогод, пакінуўшы ў доме аднаго дарослага чалавека "для пільнавання агню і старожы". Да таго ж кожны цяглы гаспадар, незалежна ад колькасці зямлі ў яго, адбываў на працягу года па два тыдні варты пры двары альбо фальварку, а таксама падводную павіннасць. На гэты час ён вызваляўся ад паншчыны. Абавязкам цяглых сялян былі яшчэ шарваркі – работы на камунальныя патрэбы воласці. Гэта было звычайна "аднаўленне па сёлах старых дамоў, апрацоўка палёў убогіх людзей, рамонт плацін і мастоў як на трактах, так і ў кожнай вёсцы".

* Валока складала 21,36 га.

Прычым "уставы" эканомій выразна сцвярджалі, што выкарыстоўваць гэтыя дні для работ на карысць скарбу забаранялася. Колькасць дзён для шарваркавых работ была рознай для кожнай эканоміі. Так, у Гародзенскай эканоміі яна складала 20 дзён, у Берасцейскай і Кобрынскай – 24, а ў Шавельскай – 8. Адпрацовачныя павіннасці летам выконваліся ад усходу да заходу сонца, а зімою – ад світання да змроку.

Акрамя адпрацовачных павіннасцей у цяглых сялян дзяржаўных уладанняў былі яшчэ і грашовыя аплаты – так званая падарожчына з сядзібнага грунту, чынш за прынятую зямлю, падымнае, а таксама плата за свабоду бязмытнага гандлю. У дадатак да вышэйпералічаных павіннасцей з сялян каралеўскіх сталовых эканомій спаганялася і натуральная даніна – мядовая, грыбная. Ва ўсіх эканоміях збіралася хлебнае дзякла, а ў Гародзенскай, Берасцейскай і Кобрынскай – кожны цяглы гаспадар яшчэ быў абавязаны "дарэмшчызнай" спрасці "зграбніны фунтаў два".

Што тычыць збору падаткаў, то адміністрацыя эканомій часта разглядала іх не як індывідуальны абавязак кожнага селяніна, а як абавязак агульны, за выкананне якога павінны былі несці адказнасць усе сяляне разам, "агулам". У сувязі з гэтым у жыцці дзяржаўнай вёскі адзначаецца пэўнае павышэнне ролі сялянскай абшчыны – грамады.

Сяляне, якія не хадзілі на паншчыну, а аплачвалі грашыма ўсялякія работы, з часоў рэформы Тызенгаўза пачалі называцца "зямянамі" ці "ачыншаванымі валасцянамі". Яны вызваляліся ад штотыднёвай паншчыны, гвалтаў, старожы, начной варты, дарэмшчызны і г.д. Пры гэтым яны былі абавязаны выходзіць на шарваркі, але маглі замест работы заплаціць па 24 грошы за кожны дзень. Галоўным падаткам зямян з сядзібных грунтоў была "зямяншчына" – грашовая аплата, якая была даволі вялікай і складала, напрыклад, у Шавельскай эканоміі з чвэрці сядзібнай валокі 80 злотых штогод. Іншыя даніны ў зямян былі амаль такімі ж, як і ў цяглых.

Відавочна, што ўлады зусім не імкнуліся пашыраць кола зямян. Пацвярджэннем гэтаму служыць тое, што ў канцы XVIII ст. зямяне складалі ва ўсіх эканоміях катэгорыю, даволі малалікую ў адносінах да астатняга насельніцтва. Так, у 1783 г. з 17 323 сялянскіх гаспадарак Берасцейскай, Кобрынскай і Гародзенскай эканомій толькі 2814 (16,2 %) мелі чыншавыя надзелы. У выніку рэформы 90–95 % сёл каралеўскіх эканомій і большасць двароў у сёлах (75–100 %) сталі цяглымі. Хутчэй за ўсё адміністрацыя эканомій з улікам уласных патрэб сама вызначала колькасць цяглых і зямян у кожным асобным маёнтку, без згоды насельніцтва. Менавіта аб гэтым сведчыць з'яўленне шматлікіх сялянскіх скаргаў у адказ на перавод іх на паншчыну. Напрыклад, сяляне Скідзельскага ключа Гародзенскай эканоміі ў сваёй скарзе на імя караля заяўлялі, што "за ўпраўленнем і адміністрацыяй яго міласці Тызенгаўза, ... (мы) страцілі правы вольных людзей (і) прымацаваны да ярма паншчыны і надзвычай высокай аплаты". Сяляне в. Хвалава гэтай жа эканоміі скардзіліся на тое, што пасля праведзенай у іх вёсцы памеры "мала не палова грунтаў ад нас адабрана", а "паншчыну і павіннасць сваю адбывалі з даўніх часоў ... па два дні, а цяпер і лічбы не знойдзем".

Акрамя двух асноўных разрадаў сялянства – цяглых і зямян – у каралеўскіх эканоміях існавалі і іншыя катэгорыі:

а) афіцыянты, да якіх адносіліся войты, што звычайна мелі валоку зямлі, падвойты – мелі тры чвэрці валокі, лаўнікі – мелі адну чвэрць валокі. Гэта была пераважна сялянская адміністрацыя, якая вызвалялася ад усіх адпрацовачных павіннасцей, акрамя шарваркаў, а яе надзелы, якія называліся "вольнымі", былі ўзнагародай за службу;

б) кантрактныя слугі – людзі, якія былі вольнымі ад цяглых павіннасцей, а зямлю трымалі на ўмовах кантракта, у адпаведнасці з якім выплачвалі пэўную суму грошай;

в) новыя – сяляне, якія сядзелі на нанова распрацаваным грунце, за апрацоўку якога яны на некалькі гадоў вызваляліся ад падаткаў і павіннасцей, своеасаблівыя "слабажане";

г) асочнікі і стральцы, якія за выкананне сваіх абавязкаў атрымлівалі сядзібныя надзелы ў памеры чвэрці валокі, вольныя ад работ і аплат.

Усе пералічаныя катэгорыі сялянства належалі да разраду "вольных", але гэта была не юрыдычная, а хутчэй маральна-грамадская дэфініцыя. Быць "вольным" не азначала быць свабодным ад путаў феадальнай залежнасці, мець магчымасць пакідаць свой надзел і мяняць месца жыхарства. Пакуль валашчанін залічваўся да групы "вольных", ён усяго толькі не прыцягваўся да работ на паншчыне на фальварковых землях. Двор не мог разлічваць на яго бясплатную працу, бо атрымліваў ад такога сяляніна грашовыя выплаты альбо той выконваў пэўныя службы на дваровыя патрэбы.

Незалежна ад свайго становішча ўсе без выключэння валашчане (нават дробная шляхта і яўрэйскае насельніцтва) былі абавязаны ўносіць натуральныя і грашовыя выплаты ў так званыя "камунальныя магазіны" і "камунальныя касы", стварэнне якіх таксама прадугледжвалася рэформай А.Тызенгаўза. У "камунальныя" ці "збожжавыя" магазіны ўзносы рабіліся ўсімі відамі зерня, якое прызначалася на выпадак агульнага неўраджаю, для дапамогі збяднелым ці пазыкі тым, хто пацярпеў ад стыхійных бедстваў і інш. Выплаты ў "камунальныя касы" рабіліся ці з кожнай сялянскай валокі па 6 злотых 15 грыўняў (Шавельская эканомія), ці з улікам маёмаснага стану селяніна – ад 11,5 грыўняў да 1 злотага 15 грыўняў (Гарадзенская эканомія). Гэтыя грошы павінны былі ісці на добраўпарадкаванне вёсак, утрыманне доктара, фельчара, вясковага радзільнага дома і г.д.

Хоць і сцвярджалася, што гэтыя мерапрыемствы ўводзіліся выключна для паляпшэння дабрабыту сялянства, усё ж відавочна, што пры вялікай колькасці адпрацовачных, грашовых і натуральных павіннасцей дадзеныя новаўвядзенні дадатковым цяжарам ускладваліся на плечы вясковага насельніцтва. Да таго ж такім чынам дзяржава перакладвала клопат аб пацярпелых ад неўраджаю ці стыхійнага бедства, увогуле аб бяднейшых сялянах на сялянскую абшчыну (грамаду). Грамада, такім чынам, часта павінна была не толькі агулам выконваць павіннасці, але і дадаткова клапаціцца аб тых, хто не мог гэтага зрабіць.

Неабходна адзначыць, што падчас правядзення аграрнай рэформы з ведама ці па ініцыятыве А.Тызенгаўза ўводзіліся так званыя "павіннасці ўнутранага парадку", у якіх змяшчаліся наступныя абавязкі сялян: не прымаць у сваіх дамах бадзяг, гультаёў, заразных хворых людзей і тых, хто падазраваўся ў злачынствах; засцерагаць сваю жывёлу ад заразы; на таргі і кірмашы ездзіць у каралеўскія мястэчкі і толькі там здзяйсняць усе аперацыі па куплі і продажы; у спякотнае лета не разводзіць агонь у пушчах, а ў выпадку лясного пажару – тушыць яго ўсім сялом. Гэтыя правілы рэгламентавалі нават знешні выгляд сялянскіх сядзіб, якія павінны былі агароджвацца "пад шнур", абсаджвацца дрэвамі, а ў садах штогод неабходна было высаджваць па дзве яблыні і дзве вішні. Сяляне, якія ігнаравалі дадзеныя патрабаванні, выплачвалі ў "камунальныя касы" штрафы.

У эканоміях рабіліся і іншыя спробы новаўвядзенняў. Так, у Гарадзенскай эканоміі пачалі займацца авечкагадоўляй і адкрылі суконную ману-

фактуру. У іншых эканоміях быў арганізаваны шэраг дробных прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі.

Праведзеныя А.Тызенгаўзам у каралеўскіх сталовых эканоміях аграрныя пераўтварэнні ў другой палове XVIII ст. прывялі да пэўных змен, якія характарызаваліся наступным.

У каралеўскіх сталовых эканоміях павялічылася ўдзельная вага сялян з цяглым надзелам. Аднак сярэдні памер зямельнага надзелу ў параўнанні з 40-мі гг. XVIII ст. амаль не змяніўся. У Берасцейскай і Кобрынскай эканоміях у 1786 г. ён склаў 0,56 валокі, а ў Гародзенскай у 1789 г. – 0,69 валокі.

Рэформа, якая прадугледжвала для кожнай сялянскай гаспадаркі абавязковае трыманне адной чвэрці валокі асноўнага надзелу, крыху затрымала працэс дыферэнцыяцыі сялянства. Размеркаванне павіннасцей з улікам не толькі якасці глебы, але і маёмаснага стану сялян рабіла для апошніх нявыгадным выдзяляцца з асноўнай масы і трапляць на вочы скарбу. Пры такім падыходзе фігура "сярэдняга" селяніна станавілася на вёсцы асноўнай.

Каб павысіць зацікаўленасць сялян у вядзенні гаспадаркі на сваім надзеле, было абвешчана іх права на перадачу зямлі ў спадчыну, але абавязкова з ведама і згоды адміністрацыі двара. У выпадку, калі селянін пакідаў зямлю і не вяртаўся ў вёску на працягу года, ён губляў права на надзел.

З пераходам сталовых эканомій непасрэдна пад кантроль каралеўскай адміністрацыі сяляне гэтых эканомій пазбавіліся злоўжыванняў з боку арандатараў і трымальнікаў, якія раней амаль паўсюдна мелі месца. У іх з'явілася магчымасць пашырыць сваё землекарыстанне ў першую чаргу за кошт прыёмнай зямлі. Паколькі ўставы не абмяжоўвалі яе памеры, то ў большасці выпадкаў колькасць прынятай зямлі ў сялянскіх гаспадарках пачала нават перавышаць цяглую. Так, у 1783 г. з 10 286 валок трох беларускіх эканомій 6575 (63,9 %) былі прыёмнымі.



Палац А.Тызенгаўза ў Гародні. Другая палова XVIII ст. Чарцёж пачатку XIX ст.

Такім чынам, змяненне афіцыйнай эканамічнай палітыкі ад практыкі поўнага пераводу сялян з каралеўскіх сталовых эканомій на грашовую рэнту да аднаўлення там фальваркова-паншчыннай сістэмы і адпаведнай рэарганізацыі ў іх сялянскага землекарыстання сапраўды дазволіла скарбу на некаторы час павялічыць даходы ад сваіх уладанняў. За 12 гадоў кіравання Антонія Тызенгаўза сталовымі эканоміямі (1765–1777) скарб атрымліваў у сярэднім 1 533 485 злотых польскіх штогод. Максімальны прыбытак прыходзіўся на 1770–1771 гг. (2 015 651 злоты), мінімальны (1 022 683 злотых) – на 1772 г. Гэта было звязана з першым падзелам Рэчы Паспалітай і стратай Магілёўскай эканоміі.

Зразумела, што павелічэнне грашовых збораў было вынікам не толькі больш дасканалай арганізацыі гаспадаркі каралеўскіх эканомій, але і новага, дадатковага абцяжарвання сельскага насельніцтва. Пра гэта сведчыць тое, што сяляне ў большасці сваёй не прынялі рэформу. Так, калі факты сялянскай нязгоды пры правядзенні вялікай аграрнай рэформы ("валочнай памеры") у XVI ст. амаль невядомыя, то падчас ажыццяўлення пераўтварэнняў А.Тызенгаўза сялянскі пратэст быў вельмі шырокім: ад скаргаў і адмоў хадзіць на паншчыну да адкрытага непадпарадкавання, узброенага супраціўлення, як гэта было ў Шавельскай эканоміі ў 1769 г.

Адзначаючы павелічэнне прыбыткаў каралеўскага скарбу, рост таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі ў месцах, дзе праводзілася аграрная рэформа, нельга забываць пра тое, што ў выніку гэта мерапрыемства скончылася правалам. Ва ўсёй эканамічнай дзейнасці надворнага падскарбія выразна прасочвалася не столькі жаданне палепшыць гаспадарчы стан эканомій, колькі імкненне любым чынам павялічыць грашовыя паступленні ў каралеўскі скарб. Зразумела, што такая палітыка павінна была мець разбуральны эфект. І гэтаму ёсць пацвярджэнні. Так, у Гародзенскай эканоміі з 1765 па 1780 г. адбыліся наступныя змены: агульная колькасць гаспадарак знізілася з 11 251 да 10 181 (на 9 %), колькасць мужчын у гаспадарках зменшылася з 24 406 да 22 921 чалавека, колькасць жанчын – з 22 374 да 20 442 чалавек. Усяго ж колькасць асоб абодвух палоў скарацілася на 7,7 %. Такое значнае змяншэнне колькасці насельніцтва было хутчэй за ўсё вынікам уцёкаў сялян з дзяржаўных уладанняў у маёнткі, дзе памеры феадальнай рэнты былі ніжэйшымі.

Змянілася характарыстыка сялянскіх гаспадарак у каралеўскіх сталовых эканоміях і па іншых паказчыках. Так, у той жа Гародзенскай эканоміі колькасць сялянскіх коней з 1765 па 1780 г. зменшылася з 9379 да 3568, валоў – з 9260 да 9011. Разам колькасць запрэжак знізілася з 18 639 да 12 695 (на 32 %). Паменшылася ў гаспадарках і колькасць іншай жывёлы. Гэта можна расцаніць як прыкметы эканамічнага заняпаду.

Разам з завяршэннем "эканамічнага цуду" А.Тызенгаўза скончылася дзяржаўная і палітычная кар'ера надворнага падскарбія. У 1777 г. ён быў змешчаны з пасады адміністратара каралеўскіх уладанняў, але ў тым жа годзе з'явіўся на чале эканомій у якасці трымальніка. Згодна заключанаму кантракту, А.Тызенгаўз абавязваўся штогадова плаціць у каралеўскі скарб 87 000 чырвоных злотых (1 566 000 злотых польскіх). Аднак у 1780 г. ён быў канчаткова адлучаны ад кіравання эканоміямі, а яго партыя фактычна спыніла сваю дзейнасць. Будучы ўсё жыццё адданым асабіста Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, А.Тызенгаўз у цяжкі для яго час не атрымаў ад караля падтрымкі. Больш таго, адбыўся судовы працэс А.Тызенгаўза са скарбам, у выніку якога былы падскарбій быў абвінавачаны ва ўсіх цяжкасцях і бедах дзяржавы.

Такім чынам, аграрная рэформа А.Тызенгаўза, праведзеная ў другой палове XVIII ст. у каралеўскіх сталовых эканоміях ВКЛ, паказала, што існавалі пэўныя магчымасці павелічэння даходаў з іх, у першую чаргу пры дапамозе розных спосабаў гаспадарчага рэфармавання і нават праз вяртанне да фальваркова-паншчыннай сістэмы. Пры гэтым у дзяржаўных уладаннях, дзе насельніцтва на працягу даволі доўгага часу мела пэўную эканамічную свабоду (за карыстанне зямлёй плаціла толькі чынш), вяртанне да паншчыны ўспрымалася сялянствам, як цяжар, выклікала значны пратэст і не рабілася стымулам для гаспадарчага развіцця. Узмацненне павіннаснага абкладання сялянства, хоць на першым часе і павялічыла грашовыя паступленні ў скарб, у выніку прывяло да пагаршэння эканамічнага становішча феадальна залежнага насельніцтва і страты далейшай перспектывы эканамічнага развіцця. Калі ў сярэдзіне XVII – першай палове XVIII ст. дзяржава пайшла на пэўныя гаспадарчыя льготы для асноўнай вытворчай сілы грамадства і гэтым выратавала эканоміку краіны, то спроба залішняга ўціску ў сярэдзіне – другой палове XVIII ст. прывяла да адваротнага выніку.

## 3. Становішча гарадоў

**Супраціўленне мяшчан узмацненню феадальнага прыгнёту**. Развіццё гарадоў Беларусі ў другой палове XVIII ст. праходзіла пад знакам пераадолення глыбокага крызісу, які быў вынікам ваенных катаклізмаў сярэдзіны XVII—пачатку XVIII ст. Значныя спусташэнні беларускім гарадам прыносіла і барацьба магнацкіх груповак. Так, у 1764 г. створаная прыхільнікамі Чартарыскіх генеральная канфедэрацыя сумесна з расійскімі сіламі захапіла радзівілаўскія ўладанні Нясвіж і Слуцк. Канфедэраты рабавалі гараджан, накладалі паборы і ўводзілі новыя павіннасці, выводзілі ў свае маёнткі найлепшых рамеснікаў. За перыяд з 1764 па 1767 г. у Слуцку і яго прадмесцях у той ці іншай ступені пацярпелі 788 гаспадарак, а агульныя страты горада, панесеныя ад канфедэратаў, склалі 960 120 злотых. З горада было вывезена ці яго пакінула 168 мяшчанскіх сем'яў. У Нясвіжы за гэты ж перыяд пацярпела 616 гаспадарак; пакінула горад па розных прычынах 120 сем'яў[1].

Карыстаючыся аслабленнем гарадоў у цэлым і органаў іх самакіравання ў прыватнасці, якое назіралася ў выніку зацяжных войнаў і ўнутраных канфліктаў, феадалы і прадстаўнікі каралеўскай адміністрацыі ўмешваліся ў справы магістратаў, падрываючы тым самым правы гарадскіх абшчын. Мяшчане гвалтоўна абцяжарваліся незаконнымі паборамі і павіннасцямі. Пры гэтым груба парушаліся здаўна існуючыя нормы і каралеўскія прывілеі. Так, у дакладной запісцы за 1714 г., дзе ілюструецца становішча ў прыватнаўласніцкім Слуцку, адзначалася, што ўсе прывілеі гэтаму гораду "ў сутнасці не выконваюцца", што "ніякага ў Слуцку парадку няма, бо, насуперак справядлівасці", генеральны эканом Назабітоўскі і галоўны арандатар «горадам кіруюць і мяшчан рабуюць, абіраюць». У дакуменце гаварылася пра такія злоўжыванні, як прымусовы продаж некаторых тавараў, што падрывала мяшчанскі гандаль, незаконнае прыцягненне мяшчан на работу, збіванне іх палкамі і г.д.

У 1760 г. мяшчане Капыля скардзіліся на спагнанне падымнага падатку ў павялічаным памеры, прыцягненне іх на талокі і адначасова да аплаты гэ-

---

[1] *Грицкевич А.П.* Социальная борьба горожан Белоруссии XVI–XVIII вв. С. 28–29.





Дуброўна ў XVIII ст. Акварэль М.Іванова

тых талок, на абцяжарванне не існуючай раней павіннасцю па ахове княжацкіх лясоў. У 1778 г. мяшчане Койданава скардзіліся Каралю Радзівілу ("Пане Каханку") на часовую ўладарку горада Анэлю Радзівіл і яе мужа, князя Варанецкага, якія рабілі розныя ўціскі, такія, як адвольнае павелічэнне падаткаў, увядзенне новых павіннасцей і рэквізіцый, прыцягненне намеснікаў да бясплатнай работы, збіванне, гвалты і іншыя злоўжыванні[1].

Адначасова адбывалася наступленне феадалаў на гарадскую маёмасць. Феадалы захоплівалі гарадскія землі і сядзібныя ўчасткі, падпарадкоўвалі мяшчан сваёй юрысдыкцыі, што змяншала суму падаткаў на карысць магістратараў. У той жа час выплаты ў дзяржаўны скарб і выдаткі на добраўпарадкаванне гарадоў клаліся на астатніх членаў гарадской абшчыны непамерным цяжарам. Імкненне да хутчэйшага атрымання грашовых сум абумоўлівала практыку здачы ў арэнду буйным феадалам права збору ў гарадах дзяржаўных падаткаў, што яшчэ больш спрыяла шматлікім злоўжываням, гвалтам і вымагальніцтву. Гэта ў сваю чаргу вымушала мяшчан да добраахвотнага падпарадкавання юрысдыкцыі феадалаў.

У гарадах назіраўся і рост духоўных юрыдык. Уладанні каталіцкага касцёла павялічваліся як за кошт каралеўскіх падараванняў, так і праз ліхвярскія аперацыі, тастаменты (завяшчанні) і ахвяраванні феадалаў і багатых мяшчан. Духоўныя феадалы займаліся гандлем, у тым ліку продажам моцных напояў, ствараючы тым самым значную канкурэнцыю мяшчанскаму гандлю. Усё гэта прыводзіла да зацяжнога крызісу гарадскога жыцця, што было адзначана ў 1764 г. у пастанове Варшаўскага канвакацыйнага сейма, дзе гаварылася пра тое, што "гарады Вялікага княства Літоўскага: Вільна, Гродна, Мінск, Навагрудак, Віцебск, Коўна, Брэст і ўсе іншыя каралеўскія галоўныя гарады ўшчэнт спустошаны і разбураны ў выніку частых пажараў, кватэрнай павіннасці на карысць службовых асоб, гандлю, які вядуць розныя кляштары і іншыя асобы, парушэння юрысдыкцыі гарадскіх судоў, распараджэнняў па тастаментах гарадскіх уладанняў і абцяжарванняў гэтых уладанняў даўгавымі абавязацельствамі, права на атрыманне чыншу ад мураваных і іншых дамоў, нарэшце, у выніку нявыплаты ў тэрмін падаткаў"[2].

Парушэнне правоў мяшчанства выклікала шматлікія скаргі гараджан, хадайніцтвы аб пацвярджэнні ім даўніх прывілеяў і выдачы новых. Аднак у

---

[1] *Грицкевич А.П.* Социальная борьба горожан Белоруссии XVI–XVIII вв. С. 23–28.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С. 314.

шэрагу выпадкаў мяшчане пераходзілі і да больш рашучых дзеянняў. Так, у 1744 г. у Слуцку "нарабіла гісторыі нечуванае свавольства некаторых мяшчан". Уладальнік горада загадаў правесці па гэтым факце судовае разбіральніцтва, а "бунтаўшчыкоў-крымінальнікаў" пасадзіць у турму"[1]. У Менску мяшчане доўгі час скардзіліся на старосту, у прыватнасці на будаўніцтва млына на спрэчных землях. Справа скончылася тым, што 27 красавіка 1751 г. па падбухторванню войта, ленвойта і магістрата Менска «каля 1000 людзей з вялікім шумам, з бубнамі, коп'ямі, стрэльбамі, пікамі і іншай прыстасаванай зброяй» напалі на землі намесніка старосты Вузлоўскага і "пачалі раскідваць мост, разбураць млын, а затым страляць і шумець". Калі ж намеснік і некалькі жаўнераў паспрабавалі аказаць супраціўленне, то мяшчане "падстрэлілі некалькі жаўнераў, іншых паранілі, пабілі камянямі, пасля гэтага нападзення вярнуліся назад, у горад".

Скардзіўся намеснік і на тое, што мяшчане не жадаюць плаціць капшчызны* з замкавых корчмаў, адмаўляюцца рабіць справаздачы аб прыбытках горада і праводзіць у Менску "рамонты", збіраюць трговае мыта са шляхты, не прымаюць прапанаваныя намеснікам эталоны меры і вагі, «заблытваюць размеркаванне памяшканняў для суддзяў Трыбунала і розных грамадскіх з'ездаў і гэтак далей. Апроч таго, шэраг мяшчан 22 красавіка 1750 г. "без усялякай прычыны пабілі жаўнераў замкавага гарнізона..., напаўшы на іх на Старым рынку, бязлітасна збілі кіямі". Тут жа, у Менску ў 1776 г. цэхмістры кавальскага цэха Караль Лазарэвіч і Юзэф Маслоўскі разам з цэхмістрамі цэха гарбароў Янам Сцяпатай і Вікенціем Шчытнікавічам падбухторвалі членаў цэхаў да адмаўлення ад выплаты павіннасцей на карысць брыгады войска Рэчы Паспалітай, якая ў той час знаходзілася ў Менску[2]. Разам з тым у другой палове ХУШ ст. мяшчане выступалі супраць феадалаў адкрыта, са зброяй у руках радзей, чым у папярэднія часы, аддаючы перавагу легальным формам пратэсту.

**Палітыка вярхоўнай улады па падтрымцы гарадоў**. Пераход мяшчан да больш мяккіх формаў супраціўлення ў пэўнай ступені абумоўліваўся тым, што непасрэдная зацікаўленасць саміх улад у нармальным функцыяніра-



Выгляд Магілёва ў XVIII ст.

[1] *Грицкевич А.П.* Социальная борьба горожан Белоруссии XVI—XVIII вв. С.77.

* Падатак за права продажу алкагольных напояў.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С. 319, 398—400.

ванні гарадоў прымушала іх рабіць некаторыя захады па наладжванню гарадскога жыцця. Гэта выявілася найперш у стымуляванні росту гарадскога насельніцтва, умацаванні юрысдыкцыі магістратаў і інтэнсіфікацыі гандлёва-рамесніцкай дзейнасці мяшчанства. Рэальныя крокі ў гэтым напрамку былі рознымі. Практыкавалася вызваленне на нейкі час мяшчан асобных гарадоў ад падаткаў, усіх ці часткі, што нагадвала практыку надання "слабод" новазаснаваным гарадам. Мела месца прадастаўленне «слабод» асобным мяшчанам, што мусіла стымуляваць перасяленне ў той ці іншы горад рамеснікаў з іншых мясцовасцей; значная частка рамеснікаў знаходзілася "на слабадзе", напрыклад у мястэчку Маладзечна ў 1750 г.[1]

Распаўсюджанай з'явай было пацвярджэнне гарадам іх ранейшых прывілеяў, скіраванае супраць злоўжыванняў службовых асоб і феадалаў. Гэта прасочваецца, напрыклад, у рэскрыпце Аўгуста III жыхарам Менска ад 22 кастрычніка 1744 г., у якім пацвярджаліся ўсе выдадзеныя раней гэтаму гораду граматы, а адначасова патрабавалася не дапускаць правядзення пасяджэнняў Галоўнага трыбунала ў ратушы, а толькі ў замку, а таксама ўмяшання ў кампетэнцыю магістрацкага суда і прысвойвання яго функцый, вымагання хабару, абцяжарвання мяшчан пастоямі[2].

Важным крокам па нармалізацыі гарадскога жыцця з'явілася пастанова Варшаўскага канвакацыйнага сейма 1764 г., якая тычылася ўсіх гарадоў Вялікага княства Літоўскага. Паводле яе адмяняліся ўсе кватэрныя павіннасці на карысць службовых асоб (паслоў, дэпутатаў і г.д.), якія з гэтага часу павінны былі наймаць кватэры для сваіх патрэб па дамоўленасці. Забаранялася размяшчаць на пастой замест жаўнераў трыбунальскай харугвы іншых асоб. Манастырам забаранялася мець корчмы, прадаваць моцныя напоі і іншыя тавары, а значыць, падрываць мяшчанскі гандаль. Жыхары юрыдык падпарадкоўваліся магістратам, а яўрэйскае насельніцтва – ваяводам і старостам. Пацвярджаліся пастановы сеймаў 1676 і 1677 гг. аб забароне ў каралеўскіх гарадах перадачы духавенству ў дар ці ў спадчыну гарадской нерухомай маёмасці, а ўся маёмасць, перададзеная такім чынам пасля 1677 г., вярталася на карысць гарадоў. І нарэшце, мяшчане падлягалі толькі магістрацкаму суду[3].

Аднак палітыка вярхоўнай улады па падтрымцы гарадоў была непаслядоўнай. Паводле пастановы сейма 1768 г., магістраты мусілі трымаць перад старостамі справаздачу аб збіраемых падатках, і адначасова мяшчане былі пазбаўлены права апеляцыі на рашэнні магістрацкага суда непасрэдна ў каралеўскі суд, у той час яны маглі звяртацца туды толькі праз старосту[4].

У 1776 г. пастановай Варшаўскага сейма "дробныя" гарады і мястэчкі пазбаўляліся магдэбургскага права, якое пакідалася толькі ў 11 гарадах Беларусі і Літвы – Вільні, Лідзе, Троках, Коўні, Навагрудку, Ваўкавыску, Пінску, Менску, Мазыры, Берасці і Гародні. Падобны крок аргументаваўся тым, што жыхары гарадоў, якія не трапілі ў лік згаданых 11 "мест", "не цікавячыся купецкім заняткам, гандлем і рамяством, няўмела займаюцца земляробствам, судовыя справы няправільна вырашаюцца няспраўнымі радцамі". Спецыяльныя люстратары, накіраваныя скарбовай камісіяй у гарады і мястэчкі, пазбаўленыя самакіравання, павінны былі скласці люстрацыі з

---

[1] ДГА Літвы, ф. 1177, воп.1, № 2854, а.1–3 адв.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С. 309.

[3] Там жа. С. 314–315.

[4] *Карпачоў А.М.* Самакіраванне гарадоў Беларусі па «Магдэбургскаму праву» ў другой палавіне XVII–XVIII ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1969. № 2. С. 63.

ацэнкай нерухомасці мяшчан і крыніц іх даходаў. На падставе гэтых люстрацый вызначаўся памер выплат у каралеўскі скарб і на "грамадскія патрэбы".

Пасля адмены магдэбургскіх судоў спрэчкі паміж мяшчанамі перадаваліся ў кампетэнцыю старост. Адначасова старосты не мелі права прыцягваць мяшчан да выканання павіннасцей на карысць дзяржаўнага скарбу звыш устаноўленай нормы і звыш тых павіннасцей, якія раней выконваліся імі на карысць саміх старост, у "адпаведнасці з іх уставамі". У выпадку "несправядлівасці і патрабавання якіх-небудзь выплат звыш указаных у люстрацыі" мяшчане маглі скардзіцца на старосту: па справах, звязаных з люстрацыяй, – у Скарбовую камісію, а па іншых – у асэсарскі суд. Апроч таго, мяшчанам гарантавалася "недатыкальнасць іх уласнасці як ад пасягальніцтваў старостаў, так і ад каго-небудзь іншага", забяспечвалася "свабода купецтва, гандлю і рамяства, куплі і продажу дамоў, участкаў і ўсялякай маёмасці, права свабоднага пераезду і пакідання свайго месца жыхарства".

Разам з тым гэта пастанова тычылася толькі каралеўскіх гарадоў; у ёй спецыяльна агаворвалася, што "калі ж спадчынныя ўладальнікі пажадаюць захаваць у сваіх мястэчках магдэбургскае права, то гэта ім дазваляецца. Але кампетэнцыя гэтых магдэбургскіх судоў будзе распаўсюджвацца ў адпаведнасці з іх статутам на справы ўнутранага парадку, г.зн. на звычайны суд сваіх мяшчан, але яны не будуць мець права разглядаць пастаронніх справы..."[1].

Карыстаючыся гэтай агаворкай, уладальнікі прыватных гарадскіх пасяленняў не толькі пакідалі самакіраванне ў "магдэбургскіх" гарадах і мястэчках, але і дабіваліся яго ўвядзення там, дзе яго раней не было. Ужо ў 1778 г. кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі выдаў, напрыклад, Іахіму Храптовічу права на ўвядзенне "гарадскіх правоў" і ўтварэнне магістрата ў мястэчку Вішнева[2]. Некаторыя элементы самакіравання заставаліся пасля ліквідацыі магдэбургскага права, як можна меркаваць, і ў каралеўскіх гарадах, але пад кантролем старостаў. Так, у Дзісне ў 1788 г. па распараджэнню старосты для мяшчан утварыўся асобны суд з асэсарамі, некаторыя з якіх назначаліся старостам, некаторых жа выбіралі мяшчане. Тарыфы падымнага аблажэння за 1790 і 1791 гг. налічваюць у Беларусі і Літве 70 гарадоў і мястэчак з магдэбургскім правам. Рашэннем Чатырохгадовага сейма ад 18 сакавіка 1791 г. самакіраванне ў каралеўскіх гарадах было адноўлена з яшчэ больш шырокімі правамі, а ў канцы гэтага года яго атрымалі і некаторыя з тых гарадоў, якія ім раней не карысталіся[3].

**Рост гарадскога насельніцтва.** Падобныя крокі спрыялі аднаўленню гарадскога жыцця. У канцы XVIII ст. у Беларусі налічвалася 39 гарадоў і каля 350 мястэчак, у якіх пражывала прыкладна 250 тыс. чалавек – каля 11 % усяго насельніцтва. Характэрнай асаблівасцю павелічэння жыхароў беларускіх гарадоў у XVIII ст. быў значны прыток сюды яўрэяў, галоўным чынам дзякуючы іх перасяленню з Украіны і Польшчы. Да канца стагоддзя яўрэі складалі 20—30 % гарадскога насельніцтва. У буйных гарадах Усходняй Беларусі ўдзельная вага яўрэяў была меншай, тады як у заходніх і цэнтральных раёнах яны складалі ў канцы 90-х гг. каля 30—40 % жыхароў. Так, у Полацку ў 1786 г. пражывала 5326 чалавек, з якіх 2277 былі яўрэямі. У Віцебску ў тым жа годзе з 10 289 жыхароў налічвалася 2411 яўрэяў, у Магілёве з 9360 жыха-

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С.319—321.

[2] *Jankowski Cz.* Powiat Oszmiański. Cz. 2. Petersburg, 1897. S.266.

[3] *Карпачоў А.М.* Самакіраванне гарадоў Беларусі. С.63—64.

роў – 6747 яўрэяў. У 1797 г. у Гародні пражывала 5398 чалавек, у тым ліку 1576 яўрэяў; у Берасці лічба яўрэяў складала 1351 чалавек, тады як агульная колькасць жыхароў раўнялася 3192. У 1800 г. у Менску з 6852 жыхароў яўрэяў было 3182[1]. Калі ўлічыць, што ў названых гарадах у гэты час пражывалі такія катэгорыі насельніцтва, як духавенства, шляхта, сялянства і асобы, якія жылі тут часова, то працэнтная вага яўрэяў у мяшчанскім асяроддзі павінна выглядаць яшчэ больш значнай.

Асабліва інтэнсіўны прырост яўрэйскага насельніцтва назіраўся ў мястэчках. Так, калі ў 1751 г. у мястэчку Лебедзева яўрэі складалі 18,25 % жыхароў, то ў 1766 г. – ужо 30,5 %[2]. У Радашковічах вага яўрэяў сярод жыхароў вырасла з 48,5 % у 1765 г. да 57 % у 1789 г.[3] У такіх мястэчках, як Пружаны і Сянно, на мяжы XVIII і XIX стст. яўрэі складалі амаль 100 % насельніцтва[4].

У некаторых беларускіх гарадах, такіх, як Наваградак, Менск, Барысаў і Копысь, пражывалі татары, хаця ў цэлым іх вага сярод гараджан была нязначнай і складала 0,5 %. У асобных гарадах (Бабруйск, Слуцк) пражывалі швейцарцы, а таксама немцы і аўстрыйцы. Эпізадычна ў гарадах з'яўляліся цыгане, якія вялі вандроўны лад жыцця і на адным месцы, як правіла, доўга не затрымліваліся. Аснову славянскага насельніцтва гарадоў складалі беларусы і палякі, а таксама ўкраінцы і рускія[5].

У канцы XVIII ст. у жыццё гарадоў усё больш актыўна пачала ўключацца шляхта, чаму паспрыяла пастанова сейма 1775 г., якая адмяніла страчванне шляхціцамі саслоўных правоў у выпадку пераходу іх да мяшчанскіх заняткаў. Адначасова мяшчане атрымалі права набываць землі па-за межамі гарадскіх уладанняў, што спрыяла эканамічнаму збліжэнню шляхты і мяшчанства[6]. Тым не менш, нягледзячы на захады ўлад па ліквідацыі юрыдык, у гарадах па-ранейшаму значная частка жыхароў пражывала на ўчастках духоўных і свецкіх феадалаў. У 1800 г. у Менску з 1009 дамоў больш за палову (647) стаяла на феадальных землях. У Гародні ў канцы XVIII ст. юрыдыкі займалі тры чвэрці гарадской тэрыторыі. У Шклове ў 1764 г. налічвалася ў складзе юрыдык 18 дамоў і 25 хат і яшчэ 19 дамоў у Рышкоўскім прадмесці.




Панарама Шклова. Малюнак канца XVIII ст.

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1961. Т.3. С.57–61, 96–97, 104–105.

[2] НГАБ КМФ-5, воп.1, № 2029, а.11–14; ДГА Літвы, ф.1177, воп.1, № 2885, арк.4–5 адв.

[3] ДГА Літвы, ф.СА, № 3789, а. 10–15; *Довгялло Д.И.* Радошковичи, заштатный город Виленской губернии. Вильна, 1907. С. 32.

[4] *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1987. С.68–69.

[5] Там жа. С. 67–70.

[6] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С. 203–204.

Духоўныя юрыдыкі Слуцка ўключалі ў 1775—1785 гг. 82 дамы, што складала 9,8 % усіх дамоў гэтага горада[1].

**Сацыяльныя супярэчнасці ў мяшчанскім асяроддзі.** Барацьба мяшчанства за ўмацаванне гарадской абшчыны суправаджалася супярэчнасцямі ў самім мяшчанскім асяроддзі. Як і ў папярэднія часы, гарадская вярхушка імкнулася сканцэнтраваць у сваіх руках галоўныя пасады ў магістратах. У Менску, Віцебску, Слуцку, Дзісне і іншых гарадах вышэйшыя "ўрады" знаходзіліся ў распараджэнні абмежаванай колькасці багацейшых сем'яў[2]. Прычым на падобныя пасады часам траплялі далёка не самыя вартыя асобы, якія да таго ж рабілі ўсё магчымае, каб захаваць сваю ўладу як мага даўжэй. Так, у 50-х гг. у Магілёве разгарнулася настолькі ўпартая барацьба за верхавенства ў магістраце, што кароль Аўгуст III мусіў умяшацца і спецыяльным лістом ад 31 снежня 1757 г. забараніць дапушчэнне да выбараў найбольш зацятага прэтэндэнта, "шляхетнага" Стэфана Карабанку, "які немалы час на урадзе вайтоўскім утрымацца стараўся", што бударажыла ўвесь горад[3].

Не вызначаўся маральнасцю і адзін з папярэднікаў Карабанкі на вайтоўскай пасадзе Базыль Батвінка, які 23 кастрычніка 1745 г. быў схоплены і прызнаны ненармальным за тое, што са зброяй у руках "па горадзе, за людзьмі ні ў чым не вінаватымі, без ніякай прычыны, ганяўся, біў, калечыў" і рабіў іншыя гвалты[4]. Самаўпраўствам вызначаліся і члены магістрата Віцебска, дзе ў адзін з тарговых дзён у 1753 г. пасярод вуліцы райца Мікалай Смык разам з двума іншымі мяшчанамі збілі бурмістра Тамаша Лорэнса[5].

Не рэдкасцю былі выпадкі выкарыстання свайго службовага становішча ў мэтах уласнага ўзбагачэння. Сярод злоўжыванняў такога тыпу мела месца нераўнамернае пераразмеркаванне падаткаў, прысвойванне незаконных крыніц даходаў, увядзенне павіннасцей на сваю карысць, хабар і пакрывальніцтва. Пра наяўнасць такіх з'яў у Слуцку сведчыць інструкцыя ўладальніка горада губернатару Слуцкага і Капыльскага княстваў за 9 красавіка 1745 г., дзе патрабавалася, "каб войт для сябе ніякіх падаткаў у горадзе як ад пражываючых, так і ад праязджаючых не прыдумляў і не збіраў, таксама каб ніякага суду па звычайных справах, што належаць да замкавай юрысдыкцыі, не судзіў, акрамя магдэбургскіх".

Аднак парушэнне магдэбургскіх норм у гэтым горадзе працягвалася. Інструкцыя 1777 г. адзначала, што ў Слуцку былі парушэнні пры выбарах у магістрат, суд ажыццяўляўся не войтам і магістратам, а перадаваўся прыватным асобам, прычым мела месца нават ігнараванне неабходнага следства па крымінальных справах, што параджала злоўжыванні. Назіраліся беспарадкі і ў размеркаванні павіннасцей – пры абцяжарванні старажовай павіннасцю не ўлічвалася велічыня пляцаў і ворных участкаў, больш таго, некаторыя багатыя мяшчане, карыстаючыся службовым становішчам і сувязямі, ухіляліся ад гэтай павіннасці. У выніку яна была адменена зусім[6].

Нераўнамернае размеркаванне падаткаў мела месца і ў Менску. У пастанове сесіі Менскага магістрата за 11 мая 1773 г. патрабавалася "вытрымліваць роўнасць усіх без выключэння жыхароў, абцяжараных падат-

---

[1]Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. С.104; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии XVI–XVIII вв. С.55, 57.

[2]*Карпачоў А.М.* Самакіраванне гарадоў Беларусі. С. 63–64.

[3]ИЮМ. Вып. 16. Витебск, 1886. С.199—200.

[4]ИЮМ. Вып 14. Витебск, 1883. С. 430–431.

[5]ИЮМ. Вып. 18. Витебск, 1888. С.412—413.

[6]*Грицкевич А.П.* Социальная борьба горожан Белоруссии XVI—XVIII вв. С. 91—93.

камі" і "спыніць ранейшую практыку, пры якой небагатыя цярпелі і церпяць ад вялікіх уціскаў, а больш заможныя рознымі шляхамі вызваляліся ад абкладання". Для больш справядлівага раскладання падаткавага цяжару было вырашана, што гарадская "складчына" не павінна перавышаць 3000 злотых у год, а падаткі павінны размяркоўвацца прапарцыянальна маёмасці кожнага жыхара[1].

Назіраліся ў Менску і іншыя злоўжыванні службовых асоб. Напрыклад, у 1791 г. майстры рымарскага цэха абвінавачвалі менскага бурмістра, купца Каліноўскага ў тым, што ён, не прайшоўшы ўсіх прыступак цэхавай іерархіі, не з'яўляючыся майстрам згаданага цэха і не выплачваючы яму неабходных падаткаў, займаецца рымарскім рамяством і трымае майстэрню[2].

Злоўжыванні службовым становішчам дапаўняліся раз-пораз маральным і нават фізічным уздзеяннем на сваіх апанентаў. У 1773 г. цэхмістр менскага кравецкага цэха Казлоўскі скардзіўся, што бурмістр Таранковіч пагражаў яму зняццем з пасады і прылюдна заяўляў: "Мала таго, што я ўжо раз цябе збіў і загадаў пасадзіць у турму. Ты зноў будзеш у турме,.. і я загадаю надзець табе на ногі кайданы, і ты ў кайданах будзеш перада мной трымаць адказ"[3].

Варта адзначыць, што самаўпраўства гарадскіх улад не заўсёды заставалася беспакараным. Мяшчане падавалі скаргі, якія часам прыносілі станоўчыя вынікі. Так, у 1750 г. віцебскі бурмістр Габрыэль Аверка па рашэнні суда заплаціў мешчаніну таго ж горада Тодару Аверцы 30 бітых талераў за нанесеныя яму ўдары палкай[4]. Практыкаваліся і іншыя формы пратэсту. У 1744 г. у Менску разбіралася справа аб непадпарадкаванні магістрату слясарнага цэха, якая выявілася ў нявыплаце падаткаў у гарадскі скарб, выбары службовых асоб цэха без ведама магістрата і без прынясення яму прысягі. У гэтым жа горадзе ў 1776 г. праявілі "непаслушэнства" пры збіранні магістратам падаткаў члены кавальскага і гарбарскага цэхаў[5]. У цэлым жа ў другой палове XVIII ст. пазначылася тэндэнцыя да ўзмацнення кантролю мяшчан за дзейнасцю магістратаў, што выявілася ў больш чыстым збіранні магістрацкіх сесій, а таксама ўдзеле ў іх "паспольства"[6].

Супярэчнасці ў асяроддзі гараджан не абмяжоўваліся злоўжываннямі магістрацкіх чыноў. Фактар нестабільнасці ў беларускіх "местах" па-ранейшаму складалі "лёзныя" людзі, якія не папаўнялі гарадскі скарб і з цяжкасцю падлягалі кантролю. Знаходжанне такіх асоб па-за рамкамі мяшчанскіх саслоўных структур супярэчала інтарэсам не толькі вярхушкі, але і гарадскіх абшчын у цэлым, якія імкнуліся хоць неяк рэгламентаваць іх становішча. Так, пасля пажару ў Віцебску ў 1750 г. улады горада прынялі пастанову, паводле якой абмяжоўвалася знаходжанне тут дэстабілізуючага элемента ў выглядзе "людзей неаселых, валацуг", які не прыносіў прыбытку гораду, "зладзействы і іншыя, ім падобныя, памнажае эксцэсы". Па гэтай прычыне такія асобы мусілі зарэгістравацца і плаціць штогод гораду па 2 тынфы кожны, а люстратарам – па 12 грошаў. Для павышэння гарадской бяспекі

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С. 316–317.

[2] Там жа. С.327–328.

[3] Там жа. С.318.

[4] ИЮМ. Вып.18. Витебск, 1888. С. 380.

[5] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С. 379.

[6] *Карпачоў А.М.* Самакіраванне гарадоў Беларусі па "Магдэбургскаму праву" ў другой палавіне XVII–XVIII ст. С.62.

ўсе корчмы пасля 9 гадзін вечара зачыняліся, а асобы, якія ў п'яным выглядзе хадзілі па горадзе пасля азначанай гадзіны, забіраліся ў ратушную турму[1].

Па-ранейшаму актуальнымі заставаліся ў другой палове XVIII ст. напружаныя адносіны ўнутры цэхаў, майстры якіх імкнуліся да павелічэння сваіх прыбыткаў, уступалі часам між сабой у адкрыты канфлікт. У 1776 г., напрыклад, частка майстроў менскага цэха муляроў утварыла асобны цэх і, больш таго, не дапусціла рэшту членаў цэха да цэхавай скрынкі[2]. Ахвярамі строга рэгламентаванай статутамі ўнутрыцэхавай канкурэнцыі, а таксама самаўпраўства майстроў станавіліся нярэдка і прадстаўнікі ніжэйшых прыступак цэхавай іерархіі. Калі ў 1771 г. чаляднік гарбарскага цэха Аляксей Машко перайшоў ад аднаго майстра да другога, што паслужыла прыкладам для іншых, магістрацкі суд выключыў яго з цэха "як мяцежніка, гультая і спакусніка", забараніўшы пры гэтым каму б то ні было браць яго на працу пад пагрозай штрафу ў 10 тынфаў[3]. Зусім іншы вынік мела справа аб збіенні майстрам менскага цэха слесараў і кавалёў Чэмяндроўскім свайго вучня Кажанеўскага, што разглядалася ў 1790 г. на цэхавым сходзе. Дзеянні майстра былі прызнаны неапраўданымі[4].



Ратуша ў Віцебску. XVIII ст.

Не заўсёды бесканфліктнымі былі адносіны членаў цэхаў з цэхавым кіраўніцтвам. У 1785 г. майстры слясарскага і кавальскага цэха Менска Мікалай Парафіяновіч, Юрый Зелядзей і Мікалай Савіцкі "паднялі адкрыты мяцеж і аказалі непавагу" цэхмістру Юзэфу Папацкаму, "пагражалі яму і пастаянна пярэчылі падчас цэхавых сходаў"[5]. Варта адзначыць, што супрацьстаянне цэхавай адміністрацыі з боку радавых членаў не заўсёды было беспадстаўным. Так, у 1750 г. у Магілёўскі магістрат паступіла скарга на цэхмістра рымараў Карпа Сяргеевіча, які падрабіў подпісы майстроў і ўвёў нявыгадную для іх пастанову, забараняўшую майстрам выраблядь хамуты для лавачнікаў і купляць у іх медзь[6].

**Рост рамесніцкай вытворчасці і крызіс цэхавай арганізацыі.** Наяўнасць цэхаў у беларускіх гарадах працягвала вызначаць тут у другой

---

[1] ИЮМ. Вып.18. Витебск, 1888. С. 433–435.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С.318–319.

[3] *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII–XVIII вв. Мн., 1963. С. 53.

[4] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С. 326–327.

[5] Там жа. С. 323–324.

[6] ИЮМ. Вып. 15. Витебск, 1885. С. 296–306.

палове XVIII ст. характар рамесніцкай вытворчасці, хаця пазначыліся тэндэнцыі да разлажэння цэхавай сістэмы. Значна павялічылася колькасць пазацэхавых рамеснікаў. Так, калі ў Полацку ў 1786 г. усе рамеснікі былі аб'яднаны ў цэхі, то ў Менску, паводле тапаграфічнага апісання Менскай губерні за 1800 г., налічвалася 1219 цэхавых і 121 няцэхавы рамеснік[1]. У Магілёве не ўваходзіла ў цэхі каля чвэрці рамеснікаў. Значная колькасць пазацэхавых рамеснікаў мелася ў канцы XVIII ст. у Гародні.

Адной з тэндэнцый у развіцці гарадскога цэхавага рамяства ў гэты час стала змяншэнне колькасці цэхаў. У Менску лічба цэхавых арганізацый скарацілася ў параўнанні з першай паловай XVII ст. з 11 да 9, у Магілёве – з 17 да 9, у Гародні – з 8 да 7. У Слуцку ў другой палове XVII ст. налічваўся 21 цэх і шэсць рамесніцкіх арганізацый, набліжаных да цэхаў; стагоддзем пазней тут узгадваецца ўжо 20 рамесніцкіх і прамысловых цэхаў. У Шклове ў XVII ст. было 11 цэхаў, у той час як у другой палове XVIII ст. іх колькасць скарацілася да чатырох. У Віцебску ў канцы XVIII ст. налічвалася дзевяць цэхаў, у Нясвіжы – восем, у Пінску – пяць, у Клецку – чатыры і г.д.[2]

Скарачэнне колькасці цэхавых арганізацый абумоўлена найперш імкненнем да ўзбуйнення цэхаў шляхам аб'яднання ў іх рамеснікаў розных прафесій, паколькі ад шматлікасці членаў цэха залежаў яго фінансавы стан. Так, кавальскі цэх у Міры, які ў 1753 г. налічваў усяго чатыры майстры, быў настолькі бедны, што не змог нават купіць свечкі на пахаванне ўладальнікаў горада. Нядзіўна, што аб'яднаныя цэхі існавалі ў Слуцку, Нясвіжы, іншых гарадах[3]. У Менску ў 1800 г. у слясарскі і кавальскі цэх уваходзілі рамеснікі 11 спецыяльнасцей, у сталярскі – пяці, у шавецкі – чатырох, у кравецкі – чатырох, у мулярскі – дзвюх, у кажамяцкі – дзвюх, у рымарскі – дзвюх спецыяльнасцей. Толькі асобны татарскі кажамяцкі і ткацкі цэхі ўключалі рамеснікаў адной прафесіі.

Таксама мела месца ліквідацыя цэхаў альбо выдзяленне з іх рамеснікаў асобных спецыяльнасцей. У Менску ў 1800 г. не ўваходзілі ў цэхі суконшчыкі, ювеліры, музыканты, цырульнікі, мастакі, піваварыы, цукерачнікі, хлебнікі, будачнікі, а таксама наборшчыкі, тэрадоршчыкі, пераплётчыкі,



Мінск. Выгляд плошчы з ратушай. Малюнак канца XVIII – пачатку XIX ст.

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. С. 105–106.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т.І. С. 380; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии XVI–XVIII вв. С.89–93; *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии XVII–XVIII вв. С. 32–33.

[3] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии XVI–XVIII вв. С. 93–96.

прычым некаторыя пералічаныя спецыяльнасці былі прадстаўлены значнай колькасцю рамеснікаў і ў XVII—першай палове XVIII ст. уваходзілі ў самастойныя ці аб'яднаныя цэхі.

Нягледзячы на тэндэнцыю па змяншэнні колькасці цэхаў, у другой палове XVIII ст. назіраюцца аднаўленне гарадскога рамяства і павелічэнне лічбы рамеснікаў. У Гародні толькі ў студзені 1788 г. у склад гарадской абшчыны было прынята 13 рамеснікаў розных спецыяльнасцей, некаторыя з якіх прыбылі з Парыжа, Круляўца, Прэсбурга і інш. У Полацку колькасць цэхавых рамеснікаў вырасла ў 1775—1786 гг. з 108 да 189, а ў Пінску ў 1783—1800 гг. – з 82 да 300[1]. Даволі высокай была ў гарадах і лічба рамесніцкіх спецыяльнасцей. У Слуцку ў гэты час налічвалася 98 прафесій, у Берасці і Гародні – 45, Пінску – 44, Менску – каля 50, Капылі –20, Давыд-Гарадку – 32, Клецку – 55. Як правіла, асартымент рамесніцкіх спецыяльнасцей у мястэчках быў меншы, чым у сярэдніх і тым больш буйных гарадах, хаця, прымаючы пад увагу памеры такіх населеных пунктаў, можна гаварыць пра наяўнасць у некаторых з іх даволі развітай рамесніцкай спецыялізацыі. Так, у мястэчку Лебедзева ў 1751 г. мелася 16 спецыяльнасцей. Інвентар мястэчка Маладзечна за 1750 г. пералічвае рамеснікаў 20 прафесій, а ў 1784 г. тут узгадваецца яшчэ шэсць спецыяльнасцей[2].

У цэлым найбольшае распаўсюджанне атрымалі ў гарадах спецыяльнасці, звязаныя з апрацоўкай металаў, скуры, вырабам адзення, прадуктаў харчавання і будаўніцтвам. Гэта было абумоўлена галоўным чынам тым, што менавіта падобныя прафесіі мелі найбольшы попыт у насельніцтва акругі. У прыватнаўласніцкіх гарадах шырокае распаўсюджанне атрымалі таксама спецыяльнасці, звязаныя з абслугоўваннем магнацкіх двароў і войска. У Нясвіжы, напрыклад, які ў XVIII ст. робіцца цэнтрам радзівілаўскіх уладанняў, вялікая колькасць рамесніцкіх спецыяльнасцей (67) тлумачыцца якраз наяўнасцю значнай колькасці замкавых рамеснікаў[3].

Разам з тым не ва ўсіх гарадах тыя ці іншыя спецыяльнасці былі прадстаўлены ў роўнай ступені. У другой палове XVIII ст. выразна выявіліся прыкметы рамесніцкай спецыялізацыі асобных гарадоў. У Капылі да 80 % рамеснікаў займалася прадзеннем, ткацтвам і вырабам адзення. У Слуцку найбольшае распаўсюджанне атрымалі гарбарная вытворчасць і выраб зброі. У Менску вядучае месца займалі апрацоўка металаў, вытворчасць скур і футраў, а таксама вырабаў з іх. У Бабруйску больш за палову рамеснікаў было звязана з вырабам прадуктаў харчавання і апрацоўкай металаў. У Дзісне каля 40 % рамеснікаў складалі гаршочнікі[4].

Значную ролю ў пашырэнні некаторых спецыяльнасцей у тых ці іншых гарадскіх пасяленнях адыгрывала іх геаграфічнае становішча. Так, сярод жыхароў мястэчка Вілейкі ў 1796 г. пераважалі заняткі, звязаныя з абслугоўваннем сплава па рацэ Віліі. Апроч таго, тут "будавалі вадаходныя судны і адпраўлялі на іх звозімыя да берагоў Віліі з розных месцаў тавары і прадукты"[5]. Важнае месца займала абслугоўванне суднаў у гаспадарчай дзейнасці

[1] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии XVI—XVIII вв. С. 14–15.

[2] НГАБ, КМФ-5, воп.1, 2029, а.11—14; ДГА Літвы, ф.1177, воп.1, 2854, а.1–3 адв.; 2928, а.15–24.

[3] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии XVI—XVIII вв. С. 77.

[4] Там жа. С. 75–76; Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С.380.

[5] *Сапунов А., Друцкий-Любецкий В.* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896. С. 182.

Бабруйска, Дзісны, некаторых іншых гарадоў, размешчаных на берагах паўнаводных рэк.

Рост спецыялізацыі ў гарадах быў звязаны з развіццём таварнасці рамесніцкай вытворчасці, што ў сваю чаргу спрыяла маёмаснай дыферэнцыяцыі рамеснікаў і разлажэнню цэхавай сістэмы. У другой палове XVIII ст. узрастае роля скупшчыкаў, якія з'яўляліся пасрэднікамі паміж вытворцамі і спажыўцамі, асабліва падчас ажыццяўлення гандлю на значных адлегласцях, у прыватнасці замежнага. Практыкавалася забеспячэнне скупшчыкамі рамеснікаў сыравінай, а таксама выдача грашовага крэдыту з далейшым пагашэннем яго рамесніцкімі вырабамі. Спалучэнне такой формы развіцця гандлёвага капіталу з ліхвярствам прыводзіла да эканамічнай залежнасці дробнага таваравытворцы ад скупшчыка. У выніку многія рамеснікі мусілі ўвесь час працаваць на скупшчыка, ператвараючыся фактычна ў наёмных рабочых. Найбольш распаўсюджанай такая форма залежнасці рамеснікаў ад скупшчыкаў была ў Магілёве, дзе на скупшчыка працавалі не толькі асобныя рамеснікі, але цэлыя сем'і і нават цэхі. Так, на буйнога магілёўскага купца Карабанку працавалі гарбары, кушняры, маслабойнікі, пекары і інш[1].

Акрамя таго, назіраліся і такія выпадкі, калі збяднелыя рамеснікі траплялі ў залежнасць ад сваіх заможных калег. У жніўні 1757 г. магілёўскія гарбары Касцюк Шабуня, Пятрок Чаіса і Мікалай Хлебнік, разарыўшыся ў выніку невыканання дагавора аб пастаўцы купцу Юдку Давідовічу прадукцыі ўзамен атрыманай сыравіны, мусілі ісці ў кабалу да цэхмістра гарбарскага цэха Случаніцы і працаваць у яго майстэрні на працягу года. Для гарантавання непарушнасці падобных кабальных дамоўленасцей практыкавалася закладанне маёмасці, якая ў выпадку невыканання збяднелым вытворцам узятых на сябе абавязацельстваў пераходзіла да работадаўцы. Падобны момант прысутнічаў у дамоўленасці, заключанай у снежні 1757 г. магілёўскім гарбаром Якубам Булатам з рамеснікам гэтай жа спецыяльнасці Ільёй Міньковічам, у якога ён узяў 150 злотых, абавязаўшыся адпрацаваць у майстэрні крэдытора па 13 злотых у год. У выпадку парушэння дамоўленасці пляц Будата і яго дом з усімі пабудовамі мусілі перайсці да Міньковіча. Наколькі моцнай была маёмасная дыферэнцыяцыя сярод магілёўскіх рамеснікаў, сведчыць той факт, што 78 % таваравытворцаў, заплаціўшых у



Келіхі, выробленыя ў Налібоках. Першая палова XVIII ст.

---

[1] *Мялешка В.І.* Да пытання аб зараджэнні капіталістычных адносін у гарадской дробнай прамысловасці Беларусі першай паловы XVIII ст. (па матэрыялах г. Магілёва) //Весці АН БССР. Сер.грамад.навук. 1959. № 2. С.85.

1765 г. падымны падатак, складалі асобы, гаспадаркі якіх не дасягалі сярэдняга ўзроўню, тады як багацейшыя прамыслоўцы горада складалі ўсяго 3,73 % вытворцаў[1].

**Распаўсюджанне буйных прамысловых прадпрыемстваў.** Найбольш яскрава праявіліся зародкі капіталістычнай вытворчасці ў з'яўленні буйных прадпрыемстваў, заснавальнікамі якіх былі не толькі феадалы і каралеўская ўлада, але і мяшчане. Ім папярэднічалі прадпрыемствы прамысловага характару, такія, як бровары, млыны, рудні, васкабойні, тартакі, цагельні, папернi і іншыя, што існавалі ў гарадах і нават мястэчках яшчэ ў ранейшыя часы[2]. Да канца XVIII—пачатку XIX ст. у Беларусі ўжо налічвалася (без вінакурных і піваварных) звыш 250 прадпрыемстваў, акрэсленых як «фабрыкі» і «заводы», многія з якіх узніклі да падзелаў Рэчы Паспалітай[3].

У Берасці ў канцы XVIII ст. меліся суконная мануфактура, прадпрыемствы па вырабу жалеза і цэглы. У Гародні ў 80—90-х гг. былі заснаваны тытунёвая фабрыка, суконнае і гарбарнае прадпрыемствы, а ў 1799—1800 гг. адкрылася майстэрня па вырабу капелюшоў[4]. Яшчэ раней у Гародзенскай і Берасцейскай эканоміях літоўскім падскарбіем Антоніем Тызенгаўзам былі закладзены буйныя прадпрыемствы, такія, як шаўковае, панчошнае, карэтнае і інш.[5] У Слуцку ў 1758 г. была заснавана славутая "персярня" – фабрыка па вырабу паясоў. У Магілёве ў 1786 г. існавалі 22 гарбарныя "заводы" і два прадпрыемствы па вырабу цэглы; капялюшныя, суконнае, чатыры мыльныя і тры гарбарныя прадпрыемствы працавалі ў 1796 г. у Менску. Апроч таго, каля гэтага горада дзейнічалі і тры цагельныя заводы[6] і г.д.

Далёка не ўсе такія прадпрыемствы моцна адрозніваліся ад звычайных майстэрняў па велічыні, аб'ёму вытворчасці і спосабу арганізацыі працы. З 22 "заводаў" па вырабу скур, існаваўшых у 1786 г. у Магілёве, толькі два "дзейнічалі конмі" і пастаўлялі сваю прадукцыю на экспарт. Прадукцыя астатніх 20 падобных прадпрыемстваў, на якіх выкарыстоўвалася ручная праца, ішла на задавальненне вытворчых патрэб мясцовых шаўцоў. На некаторых з іх працаваў сам гаспадар з сям'ёй ці з трапіўшымі ў залежнасць ад яго рамеснікамі. Нязначныя аб'ёмы вытворчасці былі характэрны і для большасці менскіх прадпрыемстваў. Так, капялюшныя мануфактуры выпускалі каля 200 капелюшоў у год, а вырабам прадукцыі займаўся тут сам уладальнік з адным памочнікам – падмайстрам ці наёмным рабочым[7]. Гарбарныя менскія прадпрыемствы выраблялі да 100 скур у год, мыльныя – да 30 пудоў мыла, а суконнае – 200 і больш аршынаў сукна ў год. Вялікія аб'ёмы прадукцыі былі характэрны толькі для цагельняў, якія выраблялі ў год каля 100 000 штук цэглы.

---

[1] *Мялешка В.І.* Да пытання аб зараджэнні капіталістычных адносін у гарадской дробнай прамысловасці Беларусі першай паловы XVIII ст. (па матэрыялах г. Магілёва) //Весці АН БССР. Сер.грамад.навук. 1959. № 2. С. 88—90.

[2] *Alexandrowicz St.* Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) // Zeszyty Naukowe Uniwersitetu im. Adama Mickiewicza. Historia –Zeszyt 6. Poznań, 1964. S. 45—47.

[3] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С. 357.

[4] *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии XVII—XVIII вв. С.20—21.

[5] Гісторыя Беларускай ССР. Т.1. С. 359.

[6] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. С. 61; Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распада феадалізма. Мн., 1934. Т. 1. С. 1—2.

[7] *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии XVII—XVIII вв. С.21.

У адрозненне ад дробных прадпрыемстваў на буйных мануфактурах існавала значна больш перадумоў для выкарыстання наёмнай працы. Наёмныя рабочыя былі на полацкіх цагляных купецкіх прадпрыемствах, збудаваных пасля 1761 г.[1] Браў падрады на будаўніча-рамонтныя работы "са сваім матэрыялам і рамеснікамі" купец Макарэвіч, верагодна, той самы, які валодаў у 1796 г. адным з менскіх цагельных заводаў[2].

Асабліва вылучаліся аб'ёмам вытворчасці і ўзроўнем арганізацыі працы магнацкія і каралеўскія мануфактуры. Так, толькі на гародзенскіх каралеўскіх прадпрыемствах працавала каля 1500 пастаянных рабочых. Апроч ручной працы тут выкарыстоўваліся і машыны. На шаўковай фабрыцы, напрыклад, меліся 62 станкі, на суконнай – каля 40, на "залатой" – 10. Акрамя мясцовых работнікаў сюды запрашаліся кваліфікаваныя майстры з Ліона, Парыжа, Фларэнцыі, Данцыга, Гамбурга і іншых еўрапейскіх гарадоў. 24 станкі працавалі на слуцкай фабрыцы паясоў, прычым кожны станок абслугоўваўся двума рабочымі[3]. 18 работнікаў працавалі на мяжы XVIII і XIX стст. на шкляной гуце пры мястэчку Ілля; толькі за 1800 г. тут было выраблена прадукцыі на суму 8045 руб.[4] На металургічным прадпрыемстве ў мястэчку Вішнева, якое было закладзена ў 1778 г. Іахімам Храптовічам, толькі за 36 тыдняў 1795—1796 гг. было выплаўлена 4317 цэнтнераў жалеза, якое прадавалася на месцы купцам з Вільні, Менска і наваколіц[5].



Слуцкі пояс. Другая палова XVIII ст.
Заслаўскі гісторыка-археалагічны музей-запаведнік

Для больш паспяховага збыту прадукцыі, выробленай на буйных прадпрыемствах, практыкавалася заснаванне ў розных гарадах спецыяльных крам, што яшчэ цясней звязвала іх з рынкам. З мэтай продажу вырабаў га-

---

[1] *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии XVII—XVIII вв. С.22.

[2] Там жа С. 21–22.

[3] Там жа. С.20, 23–24.

[4] ДГА Літвы, ф.1274, воп.1, № 113, а.7–11; Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі. Т.1. С. 64.

[5] *Jankowski Cz.* Powiat Oszmiański. Cz.1. Petersburg, 1896. S.270.

родзенскіх мануфактур, напрыклад, былі адкрыты крамы не толькі ў Гародні, але Паставах і Быцені. Некаторыя прадпрыемствы мелі таксама даволі шырокія сувязі з пастаўшчыкамі сыравіны. Так, для гародзенскай тытунёвай фабрыкі ў 80-х гг. тытунь купляўся ў Быхаве, Лоеве, Глуску, Клецку, Слоніме[1].

Выкарыстанне значнай колькасці работнікаў на дастаткова буйных для таго часу прадпрыемствах стварала ўмовы для выкарыстання тут падзелу працы. Так, на Гародзенскай суконнай мануфактуры адны рабочыя часалі воўну, другія пралі, трэція ткалі, чацвёртыя стрыглі сукно, пятыя валялі, шостыя фарбавалі. Такі ж самы падзел працы назіраўся на Нясвіжскай суконнай мануфактуры. Сярод работнікаў, якія жылі пры Іллянскай шкляной гуце, было сем "майстроў", два паташнікі, рысоўнік, шліфнер, вучань, два сталяры, слесар, муляр, млынар і рыбак. Выкарыстоўваўся падзел працы і на Слуцкай фабрыцы паясоў[2].

Разам з тым, нягледзячы на капіталістычныя рысы ў развіцці вотчынных мануфактур, заснаваных у магнацкіх і каралеўскіх уладаннях, шмат у чым яны мелі феадальны характар. Апрача наёмнай працы тут шырока выкарыстоўвалася і праца прыгонных сялян. Толькі частка вырабляемай на вотчынных мануфактурах прадукцыі ішла на рынак, тады як рэшта мусіла задавальняць патрэбы вотчынных гаспадарак. Больш таго, неабходныя для функцыяніравання мануфактур матэрыялы вельмі часта не купляліся, а набываліся ў гаспадарцы ўладальніка[3]. Многія вотчынныя прадпрыемствы працавалі з малым прыбыткам ці нават былі стратнымі і не вытрымлівалі канкурэнцыі з замежнымі вытворцамі. У цэлым жа буйная вытворчасць у Беларусі ў параўнанні з краінамі Еўропы была маларазвітай.

## 4. Развіццё гандлю

**Актывізацыя знешняга гандлю.** Ажыўленне гаспадарчай дзейнасці ў Беларусі ў другой палове XVIII ст. спрыяла павелічэнню гандлёвай актыўнасці. Маёмасная дыферэнцыяцыя ў сялянскім асяроддзі, павелічэнне попыту феадалаў на пакупныя тавары і ўсё большае ўцягванне іх гаспадарак у таварна-грашовыя адносіны стымулявалі гандлёвы абмен паміж горадам і вёскай. Акрамя таго, асноўнай павіннасцю вялікай часткі сялян, асабліва на ўсходзе Беларусі, заставалася грашовая рэнта. Таварнасць прадукцыі тут абапіралася на эксплуатацыю чыншавай сялянскай гаспадаркі, тады як у іншых рэгіёнах – на фальварак. Знешні гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі знаходзіўся пераважна ў руках магнатаў, у той час як галоўнымі пастаўшчыкамі іх на ўнутраны рынак былі сяляне, а таксама дробная і сярэдняя шляхта, менш звязаная са знешнім рынкам. Продаж сялянамі сваёй прадукцыі ажыццяўляўся як імі самімі ў гарадах, так і праз закупку на месцы, якая праводзілася купцамі і феадаламі[4].

Менавіта сельскагаспадарчыя артыкулы працягвалі складаць аснову экспарту Вялікага княства Літоўскага. У другой палове XVIII ст. яны раўняліся каля 80 % усіх тавараў, вывозімых за мяжу. Усяго ж табліца экс-

---

[1] *Игнатенко А.П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии XVII–XVIII вв. С. 24–24.

[2] Там жа. С.24; ДГА Літвы, ф.1274, воп.1, № 113, а.7–11; *Карпачев А.М.* О социально-экономической сущности вотчинной мануфактуры (по материалам белорусских мануфактур второй половины ХУIII века)//Вопросы истории. 1957. № 8. С.103.

[3] Там жа. С. 106.

[4] *Mieleszko W.* Handel i stosunki handlowe Białorusi wschodniej z miastami nodbaltyckimi w końcu XVII i w XVIII wieku // Zapiski Historuczne. Toruń, 1968. T. XXXIII. Zeszyt 4. S. 58–59.

парту і імпарту Вялікага Княства за 1786—1791 гг., складзеная Скарбовай камісіяй, узгадвае 51 найменне тавараў, якія вывозіліся з дзяржавы. Аднак, на думку В.Мялешкі, іх асартымент мусіў быць прынамсі ў тры разы больш, бо часта пад адным найменнем аб'ядноўваліся розныя групы тавараў. Пры ажыццяўленні экспартных аперацый выразна праявілася рэгіянальная спецыялізацыя. Калі з цэнтра і захаду Беларусі найбольш актыўна вывозілася збожжа, то з усходнебеларускіх зямель экспартаваліся пераважна такія сельскагаспадарчыя артыкулы, як пянька, паташ, лён, каноплі, ільняное семя, алей.

Сярод завозімых у Беларусь тавараў найбольш шматлікую групу складалі прадукты харчавання, тканіны, валакно, алкагольныя напіткі і металы (80 %), прычым соль, селядцы і віно займалі 56,3 % усяго імпарту. Найбольш актыўна завозіліся спецыі і соль (36,6 %). У даволі вялікіх памерах імпартаваліся тканіны (20 %). Значная частка імпартных тавараў прызначалася для вывазу ў іншыя краіны ці для забеспячэння гарадскога рамяства сыравінай і паўфабрыкатамі (тканіны, футра, металы, валакно). У той жа час гатовыя прамысловыя вырабы масавага ўжытку (сельскагаспадарчыя прылады, прадметы хатняга карыстання, галантарэя) складалі толькі 5—7 % імпарту. З гэтага вынікае, што патрэбы насельніцтва ў падобных таварах мусілі задавальняцца пераважна за кошт мясцовай вытворчасці[1].

Ажыўленню гандлю садзейнічаў шэраг мер, прынятых дзяржавай у гэтым напрамку. У 1766 г. на Варшаўскім сейме была прынята пастанова аб усталяванні ў Вялікім княстве Літоўскім адзіных мер і вагі. Парушальнікам пастановы пагражаў штраф у 100 коп грошаў[2]. Палепшыліся ўмовы гандлю з Расіяй. Пастановы сеймаў 1764 і 1768 гг. забаранялі землеўладальнікам Рэчы Паспалітай браць самавольныя пошліны з расійскіх купцоў, якія на ўнутраных мытных пунктах ураўноўваліся з мясцовымі купцамі. У 1775 г. паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай імперыяй было заключана асобае пагадненне аб заахвочванні гандлю, што стымулявала развіццё таварнага абмену беларускіх зямель з усходнім суседам[3].

У 1763 г. у Віцебску і Шклове былі закладзены расійскія гандлёвыя консульствы. У сярэдзіне 60-х гг. праз галоўныя мытні на мяжы Расіі з Беларуссю – Боеўскую, Шэлягоўскую і Дабранскую з Расіі вывозілася тавараў на суму каля 200 тыс. і прывозілася на суму 300 тыс. руб. У 1765 г. сярод купцоў, якія прыязджалі ў Полацкае ваяводства і Аршанскі павет, узгадваюцца купцы з Вялікіх Лук, Таропца, Ноўгарада, Пскова, Вязьмы, Масальска, Цверы, Разані, Уладзіміра, Масквы. Сярод тавараў, прывозімых сюды, значыліся медзь, латунь, жалеза і жалезныя вырабы, футра дзікіх звяроў і аўчына, скуры, тканіна і вырабы з яе, а таксама вязаныя вырабы, гарбата, мыла, воск, сала, вэнджаная рыба, пянька, мёд, тытунь з Украіны. У той жа час у Расію пастаўляліся тавары "каралявецкія і гданьскія" – каралы, жэмчуг, нюрнбергская галантарэя, разнастайныя заходнія тканіны і вырабы з іх, карункі і г.д.[4] Наведвалі беларускія гарады і купцы заходніх краін.

Найбольш актыўныя гандлёвыя сувязі беларускія землі падтрымлівалі з прыбалтыйскімі гарадамі, куды тавары дастаўляліся пераважна па рэках.

---

[1] *Мелешко В.И.* К вопросу о состоянии экономики Белоруссии и Литвы в конце XVIII в.// Советское славяноведение. 1969. № 2. С.77.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С.354–356.

[3] Там жа С. 356–357.

[4] Там жа. С. 348–350.



Гандлёвыя рады ў Клецку

Сплаў ажыццяўляўся ад прыстаней, да якіх грузы звозіліся сухім шляхам. Сярод насельніцтва Усходняй Беларусі, напрыклад, найбольшай папулярнасцю карысталіся прыстані ў Бешанковічах, Вяжышчы, Віцебску, Полацку, Свержані, Пясочне, Дзяляцічах, Стоўбцах. Сухі шлях актыўна выкарыстоўваўся таксама зімой, калі рэкі замярзалі[1]. Галоўнымі воднымі артэрыямі ў Беларусі былі Нёман, Заходні Буг і Заходняя Дзвіна. Па Нёману вёўся гандаль з Круляўцом, Заходні Буг злучаў беларускія землі з партамі вусця Віслы – Гданьскам і Эльблонгам, тады як па Заходняй Дзвіне тавары сплаўляліся ў Рыгу. Асноўным пунктам, праз які адбываўся дзвінскі гандаль, на тэрыторыі Беларусі з'яўляўся Віцебск. У 1765 г. з Віцебскай сплаўной мытні было атрымана пошлін больш чым на 78 565 злотых. Гэта была найбуйнейшая сума, сабраная з мытняў, размешчаных на беларускіх землях[2].

Гандаль з Рыгай стымуляваўся расійскімі мытнымі статутамі 1755 і 1765 гг., якія прадугледжвалі вызваленне ад пошлін прывозімых сюды беларускіх тавараў, найперш сельскагаспадарчых. Гандлёвыя сувязі з Рыгай далучаных пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай да Расіі беларускіх зямель рэгламентаваліся указам сената ад 14 снежня1773 г., які пацвердзіў статут 1765 г., вызваляючы ад пошлін "усе сырыя тавары і земляныя прадукты, якія родзяцца ў Польшчы, Літве, Курляндыі, так, як і ва ўсёй Беларускай губ." У выніку гэтых мер гандаль з Рыгай павялічваўся: толькі за паўгоддзе 1792 г. з Вялікага княства Літоўскага было вывезена ў Расію, у тым ліку і праз рыжскі порт, тавараў амаль на 2,5 млн злотых, а завезена адтуль – на 2,2 млн злотых[3].

З Рыгі на тэрыторыю Беларусі завозіліся ў асноўным соль, селядцы, віно, металы. З прускіх гарадоў Гданьска і Круляўца везлі, апроч таго, прыправы, паўднёвую садавіну і агародніну, вялікі асартымент тканін, металічныя вырабы, галантарэю. Шырэйшая, чым у Рызе, магчымасць для набыцця тут тавараў заходняга паходжання рабіла прускія гарады больш прывабнымі для гандлю як у заходніх, так і ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі.

---

[1] *Mieleszko W.* Handel i stosunki handlowe Białorusi wschodniej z miastami nodbaltyckimi w końcu XVII i w XVIII wieku // Zapiski Historyczne. S. 84–85.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 353.

[3] Там жа. С. 43.

Галоўным пастаўшчыком на беларускія землі заходніх тавараў, якія карысталіся асаблівым попытам у шырокага кола спажыўцоў, з'яўляліся купцы. Ім жа ў большай ступені, чым феадалам, належаў экспарт у прыбалтыйскія гарады не толькі сельскагаспадарчай прадукцыі, але і футра, скур і іншых рамесніцкіх вырабаў[1].

**Гандлёвыя функцыі гарадоў**. Ажыццяўленне ўнутранага гандлю было неад'ёмнай часткай функцыяніравання гарадоў. Канцэнтрацыя ў іх насельніцтва, асноўным заняткам якога з'яўлялася рамяство ці гандаль, ператварала іх у эканамічныя цэнтры акругі, прычым велічыня гэтай акругі знаходзілася ў непасрэднай сувязі з памерамі гарадоў, іх гаспадарчай і адміністрацыйнай значнасцю. Калі эканамічны ўплыў дробных гарадоў абмяжоўваўся толькі невялікімі сельскагаспадарчымі раёнамі – малымі вотчынамі, валасцямі, старостамі, якія не мелі, як правіла, іншых гарадскіх пасяленняў, то рынак буйнейшых гарадоў складаўся з некалькіх дзесяткаў і больш лакальных рынкаў мястэчак і малых гарадоў[2]. Найбольш цесная сувязь паміж адміністрацыйнай значнасцю таго ці іншага гарадскога паселішча і велічынёй тэрыторыі, уцягнутай у сферу яго эканамічнага ўплыву, назіралася ў прыватных уладаннях. Так, у распараджэнні, выдадзеным у 1755 г. Міхалам Казімірам Радзівілам адміністратару Копыскага графства, пад пагрозай штрафу ў 50 талераў спецыяльна наказвалася, "каб тавараў сваіх, як то пянькі, семя льнянога і канаплянага да чужых гарадоў і таргоў не вывозілі і не прадавалі, як толькі ў горадзе Копысі і Раманаве".

Значэнне гарадоў як эканамічных цэнтраў пэўных тэрыторый заключалася найперш у пастаўцы вырабаў уласнага рамяства ў сельскія рэгіёны ў абмен на сельскагаспадарчую прадукцыю. У сувязі з развіццём мануфактурнай вытворчасці і вытворчай спецыялізацыяй асобных гарадскіх асяродкаў у другой палове XVIII ст. лакальнасць гандлёва-рамесніцкага значэння асобных пасяленняў, у тым ліку і дробных, паступова пераадольвалася. Для функцыяніравання буйных прамысловых прадпрыемстваў патрабавалася значная колькасць сыравіны, адпаведнае абсталяванне, а збыт вялікіх аб'ёмаў прадукцыі не мог ажыццяўляцца толькі на абмежаваных рынках прылеглых акруг. У выніку эканамічнае значэнне шэрагу гарадоў і мястэчак рэзка ўзрасло ў параўнанні з папярэднімі часамі.



Гандлёвыя рады ў Паставах. 60-я гг. XVIII ст. (чарцёж)

---

[1] *Mieleszko W.* Handel i stosunki handlowe Białorusi wschodniej z miastami nodbaltyckimi w końcu XVII i w XVIII wieku // Zapiski Historyczne. S. 73, 77–78.

[2] *Alexandrowicz St.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w pierwszej połowie XVII wieku // Rocznik dziejów spole spolecznych i gospodarczych. Poznań. 1965. T. 27. S. 37.

Гандлёвыя функцыі гарадоў не абмяжоўваліся збытам уласнай рамесніцкай і прамысловай прадукцыі. Важнае месца ў іх дзейнасці займаў пасрэдніцкі гандаль. Праз яго на гарадскіх рынках адбывалася па сутнасці пераразмеркаванне сельскагаспадарчых артыкулаў паміж вясковымі жыхарамі, якое найчасцей мела сезонны характар. Дробныя гарадскія пасяленні, якія не валодалі развітым рамяством і аб'ёмістымі рынкамі, здатнымі засвоіць вялікія партыі вясковых тавараў, былі пасрэднікамі паміж сельскімі рэгіёнамі і буйнейшымі гарадамі і замежжам, а таксама выконвалі важныя функцыі па абслугоўванню камунікацыйнага руху. Вялікую актыўнасць у закупцы на местачковых рынках сельскагаспадарчай прадукцыі і сплаве яе па рэках Нёману і Віліі праяўлялі ў канцы XVIII ст. купцы Менска. Яны набывалі ў мястэчках ільняное і канаплянае семя, масла, сыры, пяньку, лён, воск, мёд, шчаціну, сырыя і выраблены скуры, футры разнастайных звяроў, асабліва заечыя і лісіныя, якія дастаўляліся да прыстаней у Вілейцы і Стоўбцах і сплаўляліся да Вільні, Гародні і прускіх гарадоў, а часам дастаўляліся ў Гданьск і Крулявец сухім шляхам. Узамен прададзеных тавараў прывозіліся галандскае палатно, селядцы, сукно, тканіны, цукар, кава, вінаградныя віны, аракосы, брусковае і палоснае жалеза, з Круляўца таксама соль. Частка тавараў паступала ў Менск, адкуль завозілася на местачковыя рынкі, частка ж прадавалася з саміх прыстаней "гуртам і па дробязі"[1].

Пра значную гандлёвую актыўнасць шэрагу беларускіх гарадоў у другой палове XVIII ст. сведчыць і вялікая колькасць гандляроў, якія пражывалі тут. Паводле тапаграфічнага апісання Менскай губерні за 1800 г., у гэтым горадзе налічвалася 181 асоба мужчынскага і жаночага полу, акрэсленая як "купцы". У Гародні ў 1797 г. налічвалася 129 асоб купецкага саслоўя абодвух палоў, у 1786 г. у Полацку іх было 520, у Віцебску – 852, у Магілёве – 966. У прыватнаўласніцкім Слуцку ў 1750 г. пражывала 246 гандляроў. Надзвычай вялікае значэнне ў гаспадарчым жыцці меў гандаль у Давыд-Гарадку, у дачыненні якога пад 1753 і 1760 гг. маецца наступная анатацыя: "Увесь люд у гэтым горадзе займаецца купецтвам і гандлем і ад паездкі чаўнамі найбольш прыбыткі сабе шукае"[2].

У гарадах Беларусі ў другой палове XVIII ст. працягвалі існаваць гандлёвыя цэхі, якія ўзніклі яшчэ ў папярэднія часы. Разам з тым роля купецкіх цэхаў у гэты час паступова зніжаецца, паколькі назіраўся прырост гандляроў яўрэйскага паходжання, якія не ўваходзілі ў цэхі[3].

Цэнтрам ажыццяўлення гандлёвых аперацый у гарадах з'яўлялася рыначная плошча. У гарадах, якія складаліся з некалькіх частак і прадмесцяў, амаль у кожным быў рынак[4]. Гандаль праводзіўся ў розных формах. У кожным гарадскім пасяленні адбываліся штотыднёвыя таргі, якіх магло быць некалькі. У Віцебску таргі, "на якіх наязджаюць таго ж павета жыхары з рознымі харчовымі прыпасамі", праводзіліся ў нядзелю, сераду і пятніцу. Гэтыя ж дні з'яўляліся тарговымі ў Полацку, Магілёве і Менску. У мястэчку Стары Мядзел такія дні прыпадалі на нядзелю і пятніцу і г.д.[5]

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. С.107.

[2] Там жа. С. 57, 59, 61, 96, 104; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. С.128,131.

[3] Там жа. С.140—145.

[4] Там жа. С.133.

[5] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. С. 57, 60,62,106; *Сапунов А., Друцкий- Любецкий В.* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. С. 56



Ратуша і гандлёвыя рады ў Гародні. Канец XVIII ст.

Ажыццяўленне рэгулярных гандлёвых аперацый адбывалася ў сталых пунктах па продажы тавараў, якія называліся "крамкі", "каморы", "лаўкі", "яткі" і г.д. Складванне тавараў праводзілася ў "свіранках", "шпіхлерах" і інш. У Полацку ў 1786 г. налічвалася "гандлёвых лавак драўляных 56, у якіх гандаль маюць штодзённа купцы каталіцкага закону і яўрэі з рознымі суконнымі і ядвабнымі матэрыяламі". У Віцебску ў тым жа годзе існавала 55 мураваных і 149 драўляных лавак, у Магілёве – 117 драўляных лавак, "у якіх гандлююць як гэтага горада, так і прыезджыя з іншых расійскіх гарадоў...хрысціянскага вызнання купцы"; апроч таго, у Магілёве ўзгадваецца яшчэ 125 драўляных лавак. У Клецку ў 1760 г. функцыяніравалі 44 крамы; праз год іх колькасць скарацілася да 37. У 1766 г. у мястэчку Лебедзева налічвалася 20 "крамак" і "свіранкаў". У Радашковічах у 1765 г. было 19 "крамак" і "свіранкаў" на рынку "Новага Места" і яшчэ новыя "крамкі" будаваліся на рынку "Старога Места". У канцы XVIII ст. колькасць лавак у Кобрыне раўнялася 35, у Барысаве – 34, у Дзісне – 30, у Лепелі – 13, у Сянно – 11 і г.д.[1]

Апроч штодзённага лавачнага гандлю і штотыднёвых таргоў, у некаторых гарадскіх пасяленнях меліся кірмашы, колькасць, час і працягласць правядзення якіх былі розныя. У 1736 г. Стары Мядзел атрымаў права на 10 кірмашоў у год, а ў 1762 г., пры наданні яму магдэбургскага права, яны былі заменены чатырма двухтыднёвымі кірмашамі. Права на правядзенне чатырох кірмашоў надавалася ў 1778 г. мястэчку Вішнева. У 1757 г. каралём Аўгустам III прадастаўлялася права на вераснёўскі чатырохтыднёвы кірмаш Маладзечну. Яшчэ раней, у 1740 г., гэтае ж мястэчка атрымала права на кірмашы ў маі і кастрычніку. У Аршанскім павеце ў 60-х гг. кірмашы праводзіліся ў Дуброўне (на саборным тыдні і на Спаса), Ладзе (на Тройцу і ў дзень Пакроваў) і Шклове (на Дзевятнік і на саборным тыдні). Асаблівае значэнне мелі шклоўскія кірмашы, куды звозіліся тавары з Лейпцыга, Нюрнберга, Сілезіі, Франкфурта і Расіі. З Украінай падтрымлівалі гандлёвыя сувязі жыхары Чэрыкава, у які па р.Сож дастаўляліся соль і вэнджаная рыба[2].

У Менску існавалі два кірмашы, найбольш буйны з якіх пачынаўся 9 сакавіка і цягнуўся 10 і больш дзён. На яго з'язджаліся прадстаўнікі "з усяго мясцовага края Літоўскай губ., Беларусі і Украіны шляхетнага грамадства для заключэння дамоў ад куплі, продажу, арэнды і закладання нерухомай

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. С.57, 60–61; *Лютый А.М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII—первой половине XIX века. С.108; ДГА Литвы, ф.1177, спр. 2885, а.5 адв.; ДГА Литвы, ф.СА, спр – 3789, а.9 адв.. 13; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. С.138.

[2] *Сапунов А., Друцкий-Любецкий В.* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов. Дадатак 32; АВАК. Вильна, 1887. Т.13. С.205,211; Белоруссия в эпоху феодализма. Т.2. С.352.

маёмасці", а таксама купцы з Вільні, Варшавы, Гародні, прускіх і расійскіх марадоў з замежнымі таварамі. Другі кірмаш быў аднадзённы і праводзіўся ў дзесятую пятніцу пасля Вялікадня. Ён меў лакальнае значэнне і збіраў жыхароў бліжэйшых гарадоў і вёсак, пераважна сялян са скацінай, хлебам, вясковым палатном, халстом, гліняным і драўляным посудам; найбольш актыўна гандлявалі на гэтым кірмашы коньмі[1]. Вялікае значэнне мелі і кірмашы ў іншых гарадах і мястэчках, з якіх асабліва вылучаўся кірмаш у Зэльве.

У той жа час некаторыя гарады, нават буйныя, не мелі ўласных кірмашоў. Не адзначаецца іх, паводле апісання 1786 г., у Полацку, Віцебску і Магілёве, шматлікае купецтва якіх тым не менш праяўляла значную гандлёвую актыўнасць. Так, магілёўскія купцы ездзілі сухім шляхам да Вільні, адкуль сплаўлялі свае тавары ў Крулявец, а пасля продажу там прадуктаў ездзілі на закупку тканін у Гданьск і Сілезію. Гандлявалі купцы з Магілёва таксама з Рыгай, украінскімі і расійскімі гарадамі[2].

**Гандаль і феадальная гаспадарка.** Значную канкурэнцыю гарадскому гандлю складалі феадалы, асабліва буйныя. Магнаты адыгрывалі вядучую ролю ў экспарце жыта, хаця і тут яны не былі манапалістамі. На іх долю прыпадала 66,9 % усяго экспарту гэтай сельскагаспадарчай культуры. Апроч жыта з 70-х гг. усё часцей прадметам экспарту магнацкіх гаспадарак служыла пшаніца, а таксама льняное семя і пянька. Важнай часткай замежнага гандлю з'яўляліся лесаматэрыялы і прадукты перапрацоўкі драўніны, на якія на Захадзе існаваў сталы попыт. У магнацкім экспарце, як і ў цэлым па Беларусі, назіралася параённая спецыялізацыя[3].

Магнацкі імпарт падзяляўся на тры групы – прадметы асабістага карыстання, у тым ліку прадметы раскошы, тавары масавага попыту і тавары вытворчага прызначэння. Найбольш актыўна закупляліся магнатамі артыкулы дзвюх апошніх груп.

Пры ажыццяўленні замежнага магнацкага гандлю прыярытэт аддаваўся выкарыстанню водных шляхоў, прычым на суднах магнатаў маглі транспартавацца не толькі іх грузы, але і тавары купцоў і дробнай шляхты. Сухапутныя знешнегандлёвыя сувязі мелі меншае значэнне. Найбольш актыўна ажыццяўляўся прыгон валоў з Украіны, якія закупляліся гандлёвымі агентамі ў Бярдзічаве і прызначаліся для адкорму[4].

Большая сувязь з гарадскім рынкам назіралася пры ўдзеле магнацкіх гаспадарак ва ўнутраным гандлі. На ўнутраны рынак паступалі тавары з усіх галін фальварковай гаспадаркі і вотчынных прадпрыемстваў. Пэўная частка збожжавых культур і прадуктаў іх перапрацоўкі ішла на продаж унутры дзяржавы, хаця аб'ёмы экспартнага збожжа пераважалі. У асноўным на ўнутраны рынак паступалі яравое збожжа, крупа, мука, скаціна, мяса, птушка, шэрсць, скуры, насенне агародных культур, рыба, сена.

Сельскагаспадарчая прадукцыя і прамысловыя вырабы прадаваліся як у саміх феадальных гаспадарках, так і за іх межамі. Гэтаму спрыяла магчымасць выкарыстання транспартных павіннасцей падданых. Тавары завозіліся ў розныя гарады, найперш буйныя гандлёвыя цэнтры, галоўнымі з якіх для заходніх і цэнтральных раёнаў была Вільня, тады як для ўсходу Беларусі – Віцебск і Магілёў. Тавары прадаваліся оптам і ўраздроб. Практыка-

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. С. 106–107.

[2] Там жа. С.57–62.

[3] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 92–93. С. 95.

[4] Там жа. С. 94.

валася і кантрактная сістэма, калі вялікія партыі прадукцыі збываліся на месцы паводле папярэдне заключаных дамоўленасцей ці накіроўваліся ў гарады. Рознічны гандаль вёўся на таргах і кірмашах, а таксама ў гарадскіх крамах, што належалі магнатам[1].

Вялікае значэнне ў гандлёвай дзейнасці феадалаў займаў продаж моцных напіткаў. Яны прадаваліся як оптам адкупшчыкам, так і ў піцейных установах, якія фігуруюць пад назвамі "дом гасцінны", "дом арэндны", "карчма ўездная", "аўстэрыя" і г.д. Продаж алкагольных напіткаў у такіх установах быў выгаднейшым, бо яны служылі важнымі пунктамі па абслугоўванню камунікацыйнага руху і дазвалялі таксама атрымліваць прыбыткі ад забеспячэння начлегаў, харчавання, аказання праезджым неабходных рамесніцкіх паслуг. Разам з тым гандаль алкаголем канцэнтраваўся пераважна ў гарадах і мястэчках, бо, імкнучыся захаваць за імі манапольнае права быць цэнтрамі продажу такога прыбытковага артыкула, улады дазвалялі продаж моцных напіткаў па вёсках вельмі неахвотна. Так, устава воласці Радашковіцкага староства за 1789 г. пад пагрозай канфіскацыі напіткаў і штрафу ў 3 злотыя перасцерагала, каб карчмары па вёсках "з гарачым віном не ездзілі"[2]. Акрамя таго, аб'ём продажу падобнага прадукта ў гарадах быў вышэйшым, асабліва ў торговыя і кірмашовыя дні, што стымулявала заснаванне феадаламі ў гарадах не толькі корчмаў, але і складаў алкагольных напіткаў.



Карчма ў Ашмянах

Феадалы, у тым ліку буйныя, выступалі на ўнутраным рынку не толькі як прадаўцы, але і як пакупнікі. Імі закупляліся розныя рамесніцка-прамысловыя вырабы, нават такія, якія выраблялiся ў саміх феадальных маёнтках (прадукты дрэваапрацоўкі, смала, сажа,калёсная мазь), будаўнічыя матэрыялы (цэгла, кафля, вапна, шкло), жалеза і жалезныя вырабы, металічнае абсталяванне вотчынных прамысловых прадпрыемстваў (бровараў, млыноў, тартакоў) і сыравіну для іх. Набывалі феадалы таксама сельскагаспадарчую прадукцыю – коней, валоў рабочых і для адкорму, свіней. Мёд, лён, ільняное семя куплялiся як для гаспадарчых патрэб, так і на продаж. Набываўся феадаламі ялавічны тлушч, свіное сала, шчаціннe, сена, салома. Закупка сельскагаспадарчай прадукцыі праводзілася пераважна восенню, калі цэны на яе былі ніжэй[3].

[1] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 95.
[2] НГАБ. ф. 1824, воп.1, спр.1, а.64.
[3] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 96– 97.



Карчма ў в. Гнёздава пад Ваўкавыскам

Гандлёва-пасрэдніцкая дзейнасць феадалаў адбывалася ў двух напрамках. Па-першае, імі прадаваліся ў натуральным ці часткова перапрацаваным выглядзе прадукты, атрыманыя ў якасці аброку ад сялян або набытыя ў іх. Па-другое, насельніцтву прадаваліся тавары, прывезеныя з-за мяжы ці з іншых раёнаў дзяржавы, прычым шырока выкарыстоўвалася ўсталяванне прымусовых цэн для ўласных падданых і прыярытэтнае права продажу ім набытых тавараў. Асабліва шырока практыкаваўся феадаламі падобны продаж імпартнай солі. Прадаваліся таксама селядцы, тытунь, жалезныя прылады працы, скаціна і інш.[1]

Аб'ёмы гандлю ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XVIII ст. няўхільна павышаліся. За шэсць гадоў (1786—1792) экспарт збожжа тут вырас больш чым у тры разы, "ляснога тавара" – больш чым у два разы, валакна – амаль у тры разы, скаціны – амаль у два разы. Пазітыўныя зрухі назіраліся і ў суадносінах аб'ёмаў экспарту і імпарту. Калі ў 1786—1788 гг. увоз у землі Беларусі і Літвы яшчэ перавышаў вываз, то ў 1789—1792 гг. назіралася перавага вывазу над увозам. Толькі за сем месяцаў (сакавік–верасень) 1792 г. велічыня актыўнага гандлёвага балансу Вялікага княства Літоўскага раўнялася 3 953 173 злотым. Гэта сведчыць пра стабілізацыю эканомікі Беларусі, якая назіралася ў другой палове XVIII ст.[2] Разам з тым яна па-ранейшаму мела пераважна аграрны характар, што відавочна выявілася ў структуры экспарту, асноўную частку якога складала сельскагаспадарчая прадукцыя.

# ГЛАВА 2
# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

## 1. Дзяржаўныя рэформы другой паловы 60-х гг. XVIII ст.

**Праекты рэфармавання і яго пачатак.** Перыяд панавання ў Рэчы Паспалітай саксонскай дынастыі (Сасаў) у 1697—1763 гг. стаў адным з найбольш складаных у яе гісторыі. Яго асноўнымі праблемамі з'яўляліся гра-

[1] *Козловский П.Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. С. 97–98.
[2] *Мелешко В.И.* К вопросу о состоянии экономики Белоруссии и Литвы. С. 76–78.

мадзянская вайна ў ВКЛ, шматлікія канфедэрацыі, уцягванне ў Паўночную вайну, фактычная страта самастойнасці ў правядзенні знешняй і ўнутранай палітыкі, эканамічная і сацыяльная стагнацыя.

Разам з тым гэта эпоха аказалася важным этапам у развіцці рэфарматарскай і патрыятычнай думкі. Менавіта ў гэты час пачаў закладвацца тэарэтычны падмурак будучых пераўтварэнняў 60—90-х гг. Першыя праекты ўдасканалення дзяржаўнага ладу былі рознымі па сваім характары і зместу. У самым пачатку XVIII ст. з'явіліся «Віленская пастанова» (1700), «Зацямненне Польшчы» падканцлера ВКЛ С.Шчукі (1709). Пераломным момантам у развіцці палітычнай думкі саксонскіх часоў сталі 40-я гг. Тады з'явіліся ў друку «Вольны голас, які волю абяцае» Станіслава Ляшчынскага, «Лісты зямяніна» ваяводы мазавецкага Станіслава Панятоўскага і «Анатомія Рэчы Паспалітай» С.Гарчынскага (1751). Аб рэфарматарскіх памкненнях сведчаць дэбаты на сеймах і сейміках, асабліва тыя, якія тычыліся рэформаў скарбу (фінансаў) і войска.

У выніку ў грамадстве паволі знікла ілюзорнае меркаванне аб дасканаласці ладу Рэчы Паспалітай. Трактат С.Канарскага «Аб паспяховым вядзенні нарад» (1760—1763) як бы замыкаў падрыхтоўчы перыяд саксонскіх часоў. Надыходзіў пачатак новай эпохі, звязаны з далейшым развіццём рэфарматарскай думкі і першымі спробамі яе практычнага ўвасаблення.

У другой палове 60-х гг. XVIII ст. праекты, звязаныя з рэфармаваннем дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай, спрабавала рэалізаваць палітычная групоўка на чале з князямі Чартарыскімі, вядомая таксама як «фамілія». Яе лідэрамі з'яўляліся вялікі канцлер ВКЛ Міхал і ваявода рускі Адам Чартарыскія. Ім дапамагалі Адам Казімір Чартарыскі і зяці лідэраў — маршалак каронны С.Любамірскі, М.Агінскі, а таксама браты Панятоўскія — Станіслаў, Міхал, Андрэй і Казімір. У ажыццяўленні праектаў рэфармавання дзяржавы «фамілія» вялікія спадзяванні звязвала з асобай імператрыцы Кацярыны П, што грунтаваліся і на асабістым знаёмстве стольніка ВКЛ С.Панятоўскага падчас яго знаходжання ў Пецярбургу (1755—1758 ) з тагачаснай вялікай князёўнай і будучай імператрыцай, якая паабяцала дапамагчы яму ўзысці на трон.

Восенню 1763 г. Чартарыскія імкнуліся правесці рэформы шляхам дзяржаўнага перавароту, пазбаўлення ўлады хворага Аўгуста Ш з дапамогаю канфедэрацыі*. Але ідэя развязвання ў Рэчы Паспалітай чарговай грамадзянскай вайны не знайшла падтрымкі ў Пецярбургу.

Праграма рэформаў «фаміліі» прадугледжвала абмежаванне ўлады манарха, ліквідаванне яго права раздаваць пасады. Рэфармаванне сейма павінна было прывесці да так званага «гатовага сейма», які на працягу двух гадоў заўсёды мог быць скліканы ў выпадку неабходнасці, скасавання права «liberum veto». Партыя Чартарыскіх выступала таксама за абмежаванне ўлады падскарбіяў і ліквідацыю гетманства.

Адметны падыход да змен у дзяржаўным ладзе быў у стаўленіка «фаміліі» С.Панятоўскага. Ён адстойваў правы манарха раздаваць пасады, падпарадкаванне яму выканаўчай улады ў выглядзе каралеўскай рады, увядзенне спадчыннага трона.

Да непасрэднага ажыццяўлення праграмы рэформаў з'явілася магчымасць прыступіць пасля смерці Аўгуста III (5 кастрычніка 1763 г.). Важнай

* Канфедэрацыя – часовы саслоўны саюз Рэчы Паспалітай, заключаны для дасягнення пэўных мэт.



Сцэна балю 1742 г.

падзеяй у Рэчы Паспалітай стала падпісанне 31 сакавіка 1764 г. у Пецярбургу расійска-прускага дагавора з сакрэтнай канвенцыяй. Яно прадугледжвала падтрымку Фрыдрыхам II стольніка ВКЛ С.Панятоўскага ў якасці кандыдатуры Кацярыны II на трон Рэчы Паспалітай. І Прусія, і Расія дамовіліся таксама захоўваць у Рэчы Паспалітай права свабоднай элекцыі (выбараў) манарха, не дапускаць зацвярджэння спадчыннага трона, пры неабходнасці дзейнічаць сумесна з прымяненнем узброенай сілы. Расійска-прускі дагавор прадугледжваў таксама ўзгодненыя дзеянні ў вырашэнні пытання ўраўнавання ў правах дысідэнтаў і католікаў. Абодва бакі пры гэтым адзначалі, што яны ў першыя часы задаволіліся б і абяцаннем толькі змяніць становішча[1].

Супраць кандыдатуры «пяста» (ураджэнца Рэчы Паспалітай) былі настроены каронны гетман Браніцкі, які сам марыў стаць каралём, ваявода Віленскі К.Радзівіл і кіеўскі ваявода Патоцкі. У ВКЛ супраць К.Радзівіла выступалі вялікі гетман літоўскі М.Масальскі і віленскі біскуп І.Масальскі. Чартарыскія і Масальскія шукалі абароны ў імператрыцы Кацярыны II і прасілі прыслаць расійскія войскі. У выніку Кацярына II загадала сканцэнтраваць перад пачаткам працы канвакацыйнага* сейма, прызначанага на май 1764 г., на мяжы каля Смаленска 20-тысячны вайсковы корпус на чале з М.Валконскім.

Канвакацыйны сейм павінен быў вызначыць тэрмін, месца і ўмовы элекцыі будучага караля. Пры абранні паслоў на яго ў Беларусі і Літве, у тым ліку і ад беларускіх паветаў, прадстаўнікі «фаміліі» не змаглі дабіцца перавагі. У Вільні, Коўне, Оршы, Рэчыцы, Менску К.Радзівіл, ужо пасля выбараў кандыдатаў "фаміліі", з дапамогаю ўзброеных прыхільнікаў сілай дамогся абрання сваіх стаўленікаў. Гэта стала адной з галоўных прычын утварэння 16 красавіка 1764 г. Віленскай канфедэрацыі на чале з канюшым ВКЛ М.Бжастоўскім. Яна выступіла з абвінавачваннямі радзівілаўскай партыі ў злоўжываннях і паспрабавала аб'яднаць супраць яе прыхільнікаў «фаміліі».

---

[1] Вестник Европы. Кн. 11. 1868 С. 100.

* Канвакацыйныя сеймы склікаліся пасля смерці караля. На іх прымаліся меры бяспекі на час бескаралеўя і вялася падрыхтоўка да выбараў новага караля.

Пад актам канфедэрацыі сярод іншых стаяў подпіс і С.Панятоўскага, будучага караля. Па просьбе канфедэратаў у ВКЛ быў накіраваны шасцітысячны расійскі корпус генерала Рэненкампфа.

У сваім указе ад 19 красавіка 1764 г. Кацярына II дакладна вызначыла задачы Рэненкампфа па супакаенні краю і недапушчэнні ў ім грамадзянскай вайны. У першую чаргу ён павінен быў «абараняць адданых патрыётаў і сяброў ад насілляў і ўціскаў супрацьлеглай партыі, у якой галоўныя кіраўнікі – гетман каронны граф Браніцкі, ваявода кіеўскі граф Патоцкі, а асабліва ў Літве ваявода Віленскі князь Радзівіл».

Спроба апанентаў Чартарыскіх перад адкрыццём канвакацыйнага сейма на падставе прыбыцця ў Варшаву расійскіх войск заявіць свой пратэст ад імя 22 сенатараў і 45 паслоў, сарваўшы тым самым яго адкрыццё, поспеху не мела. Рэферэндар каронны Г.Падоскі матываваў свой адказ малой колькасцю пратэстуючых, гаворачы, што яны яшчэ не ўся Рэч Паспалітая, на што ваявода кіеўскі Патоцкі, паказваючы на сябе, разгневана крыкнуў у адказ: «Я — Рэч Паспалітая!»

Канвакацыйны сейм распачаў сваю працу 7 мая 1764 г. Лідэры апазіцыі гетман К.Браніцкі і К.Радзівіл на другі дзень са сваім прыхільнікам пакінулі сейм. Пасля гэтага ўзнікла спрыяльная сітуацыя для прыхільнікаў рэформаў. За час сваёй працы з 7 мая па 23 чэрвеня сейм ухваліў больш чым 180 пастаноў (пры Аўгусце III за 27 гадоў не было прынята ніводнай, бо ўсе сеймы зрываліся).

Першым канцэпцыю праграмы рэформаў на сейме ў сваёй прамове прадставіў канцлер каронны А.Замойскі, падчас якой яго ўдзельнікі, відаць, у першы раз пачулі пра ідэю Мантэск'ё аб траістым падзеле ўлады. Замойскі выказаўся на карысць рэформы падаткаў і гаспадарчага развіцця дзяржавы, неабходнасці змен у становішчы мяшчан і сялянства, за незалежнасць царкоўных судоў у Рэчы Паспалітай ад Рыма. Канцэпцыя рэформаў А.Замойскага ў многім выходзіла за межы праграмы «фаміліі».



Вялікі гетман Міхал Казімір Агінскі

Знаходзячыся пад ціскам патрабаванняў Прусіі і Расіі аб недапушчэнні ліквідацыі «liberum veto» і ўвядзення спадчыннага трона, партыя Чартарыскіх паспрабавала пачаць рэфармацыйны працэс паступова.

Перш за ўсё былі прыняты рашэнні, якія дазвалялі ўпарадкаваць працу сейма. У пастанове «Аб парадку сеймавання» быў замацаваны рэгламент яго работы. Так, каб падоўжыць час пасяджэнняў, была прынята працэдура працягу пасяджэнняў «пры свечках», што раней забаранялася. Для вырашэння такіх пытанняў, як падаткі, пошліны і іншыя эканамічныя «матэрыялы», было прынята рашэнне аб галасаванні большасцю. Такім чынам, права «liberum veto» было часткова абмежавана. Прынятая паста-

нова аб утварэнні на канвакацыйным сейме генеральнай канфедэрацыі на неабмежаваны час павінна была на некалькі гадоў заблакіраваць яго ўжыванне. Яшчэ адна пастанова вызваляла паслоў ад сляпога падпарадкавання "інструкцыям", перадсеймавым наказам ваяводскай і павятовай шляхты. Тым самым ім надавалася права самастойна прымаць рашэнні пры разглядзе важнейшых пытанняў унутранай і знешняй палітыкі дзяржавы.

У мэтах павышэння эфектыўнасці выканаўчай улады былі створаны дзве скарбовыя (фінансавыя) камісіі для ВКЛ і Польшчы на чале з падскарбіямі. Сейм утварыў таксама вайсковую камісію, але толькі для Польшчы. Чартарыскія не захацелі абмяжоўваць уладу гетмана ВКЛ М.Масальскага, які падтрымліваў на той час «фамілію».

Канвакацыйны сейм ліквідаваў прыватныя пошліны і ўстанавіў «галоўную пошліну», аднастайную і абавязковую для ўсіх жыхароў дзяржавы, не выключаючы шляхту, святарства і самога караля. Аднак ужо ў 1765 г. намаганнямі Прусіі яна была адменена. Адбыліся і пэўныя змены ў адносінах да гарадоў: на іх карысць стала абкладацца падаткамі не толькі мяшчанства, але і шляхта, маючая тут нерухомасць. Сейм ліквідаваў абавязак мяшчан выдзяляць бясплатна кватэры паслам на сейм і ўдзельнікам шляхецкіх з'ездаў. Месцам каранацыі будучага караля была ўпершыню прызначана Варшава.

Пасля заканчэння сейма К.Радзівіл паспрабаваў паставіць пад сумненне яго рашэнні. На чале сваёй надворнай міліцыі ў чэрвені 1764 г. ён рушыў з Бялай на Падляшшы, спусташаючы на беларускіх землях маёнткі сваіх ворагаў і прыхільнікаў «фаміліі». Але пад Слонімам, разбіты расійскім войскам, ён вымушаны быў падацца ў эміграцыю, спачатку ў Турцыю, а потым у Саксонію[1].

**Прыход да ўлады Станіслава Аўгуста Панятоўскага**. Першы этап рэформаў партыя Чартарыскіх ажыццявіла зверху, абапіраючыся на ўзброеную падтрымку Расійскай імперыі, у якой былі ўласныя інтарэсы ў Рэчы Паспалітай. Але залежнасць ад замежнай дапамогі ў далейшым выявіла ўсе свае негатыўныя вынікі.

На нарадзе ў прымаса У.Лубенскага 7 жніўня 1764 г. расійскі пасол Г.Кайзерлінг афіцыйна прапанаваў кандыдатуру стольніка ВКЛ С.Панятоўскага на трон манарха Рэчы Паспалітай. Так знікла надзея лідэраў «фаміліі» правесці на трон Адама Чартарыскага. Ім прыйшлося задаволіцца тым, што і кандыдатура С.Панятоўскага была цесна звязана з рэфарматарскай партыяй. 27 жніўня 1764 г. распачаў сваю працу элекцыйны сейм у атачэнні некалькі тысяч расійскага войска і надворнай міліцыі Чартарыскіх. 6 верасня 5584 паслы-выбаршчыкі і сенатары аднагалосна абвясцілі 32-гадовага С.Панятоўскага каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Пры каранацыі ён узяў імя Аўгуста і ўжо як Станіслаў Аўгуст узначальваў дзяржаву на працягу 35 гадоў. Каранацыя новага манарха адбылася 25 лістапада таго ж года ў дзень св.Кацярыны. «Віншую вас з каралём, якога мы зрабілі», — напісала задаволеная Кацярына II графу М.Паніну.

Палітычная лінія новаабранага караля была накіравана на ўстанаўленне як мага больш раўнапраўных адносін менавіта з Расіяй. Пры гэтым бачылася яе спрыянне ў правядзенні неадкладных дзяржаўных рэформаў, каб надзейна суцішыць апазіцыйнае магнацтва. Арыентацыя на Расійскую імперыю, паводле меркавання Станіслава Аўгуста, павінна была ўраўнаважыць агрэсіўныя памкненні Прусіі. Але на самай справе, як аказалася, ні Расія,

---

[1] *Matuzewicz M.* Pamiętniki. Warszawa, 1876. T. III. S. 237.

спачатку нібыта зацікаўленая ў абмежаваных рэформах у Рэчы Паспалітай, ні Прусія не жадалі падтрымліваць якія-небудзь істотныя змены ў гэтай дзяржаве.

Спроба лідэраў «фаміліі» пасля абрання новага караля праводзіць самастойную палітыку, прадоўжыць рэформы, адмяніць цалкам «liberum veto» і замяніць яго галасаваннем пераважна на сеймах большасцю галасоў асабліва непакоіла Прусію і Расію. Пры гэтым адкрытае імкненне ваяводы рускага і канцлера ВКЛ падпарадкаваць сабе Станіслава Аўгуста, кіраваць дзяржавай праз яго — выклікала пахаладанне ў адносінах паміж імі. На фоне прыціхлай, але не зніклай апазіцыі з боку магнацкай партыі ў дачыненні да караля, яго становішча выглядала не надта трывалым. Гэта вырашыў выкарыстаць расійскі пасол М.Рэпнін. Па заданню з Пецярбурга ён пачаў праводзіць палітыку, накіраваную на поўнае адасабленне Станіслава Аўгуста ад сваіх дзядзькаў і падпарадкаванне сабе выхаванца «фаміліі». М.Рэпніну для рэалізацыі сваіх намераў не хапала існавання ў Рэчы Паспалітай палітычнай групоўкі, абапіраючыся на якую, ён змог бы дабіцца мэт, пастаўленых перад ім канцлерам М.Паніным.

У адным са сваіх лістоў-інструкцый да М.Рэпніна ў Варшаву М.Панін пісаў, што той зробіць бессмяротным сваё імя ў гісторыі Расійскай імперыі, калі даб'ецца ў дачыненні Рэчы Паспалітай выканання трох задач: замацавання існуючага палітычнага ладу, устанаўлення расійскай гарантыі над палітычнай сістэмай і поўнага ўраўнавання ў правах дысідэнтаў з каталікамі.

Найбольш зручным спосабам для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай заставалася ўзняцце дысідэнцкага пытання. Апякунства над вызнаўцамі праваслаўя, якія складалі частку насельніцтва Беларусі і Украіны, было адной з даўніх традыцый расійскай дыпламатыі. Нявырашанасць рэлігійнага пытання, прыніжэнне палітычных і рэлігійных правоў праваслаўных і пратэстантаў не магло быць не выкарыстана як сродак націску на Станіслава Аўгуста.

Дысідэнцкае пытанне было ў Рэчы Паспалітай набалелым і складаным. У перыяд панавання саксонскай дынастыі рэлігійную нецалерантнасць паглыбляла недальнабачная палітыка каталіцкага духавенства. Іншаверцы, у тым ліку нешматлікая пратэстанцкая і праваслаўная шляхта, былі пазбаўлены палітычных правоў. Ім фактычна быў закрыты доступ да дзяржаўнай і вайсковай службы, яны не маглі выбірацца пасламі на сеймы, дэпутатамі ў Галоўны Трыбунал. Дысідэнтам, праваслаўным і каталікам, забаранялася будаваць новыя храмы. Палітычная і рэлігійная няроўнасць была замацавана пастановамі сеймаў 1717, 1733 і 1736 гг.

Пры гэтым трэба ўлічваць, што для Расійскай імперыі рэлігійнае пытанне было толькі зручнай падставай для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай у сваіх інтарэсах, а ніяк не самамэтай. М.Панін так ахарактарызаваў мэты знешняй палітыкі Расіі ў гэтым пытанні: «Справа дысідэнтаў ніяк не можа быць падставай для пашырэння ў Рэчы Паспалітай нашай веры і пратэстанцкіх вераванняў, а толькі выключна рычагом заваявання для сябе, з дапамогаю нашых адзінаверцаў і пратэстантаў, моцнай і прыязнай партыі з правам удзелу ва ўсіх польскіх справах». Паводле яго меркавання, пашырэнне правоў пратэстанцкага насельніцтва не пажаданае, бо можа «вывесці палякаў з цемры». Гэтак жа небяспечна занадта падтрымліваць і праваслаўных у Беларусі і Украіне, што магло б прывесці да ўзрастання колькасці сялян-уцекачоў з Расіі.

Кацярына II выказвала клопат пра дысідэнтаў у Рэчы Паспалітай, аднак пры гэтым строіла вялікія планы. Падтрымка праваслаўнага насельніцтва ў гэтым рэгіёне Еўропы павінна была стварыць лепшыя ўмовы для экспансіі Расійскай імперыі на Балканах, у войнах з Турцыяй. Станіслаў Аўгуст і «фамілія» разумелі ўсю важнасць вырашэння дысідэнцкага пытання для лёсу сваёй дзяржавы. Але адначасова яны апасаліся агульнага адпору з боку як папскай курыі, разам з іерархіяй каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай, так і кансерватыўнага шляхецтва. Іх кансалідацыя магла паставіць пад сумненне вырашэнне ўсяго працэсу рэформаў, які яшчэ толькі распачынаўся.



Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Партрэт Ю.Гескага. 1783 г.

Сам Станіслаў Аўгуст не з'яўляўся рэлігійным фанатыкам, як, напрыклад, Жыгімонт III Ваза. Ён выказваўся за ўраўноўванне ў правах католікаў і некатолікаў-хрысціян. Але практычнае вырашэнне гэтага пытання на сейме яму бачылася толькі з папярэдняй адменай права «liberum veto». Чартарыскія ж, наадварот, шукаючы сабе большай падтрымкі і папулярнасці сярод шляхты, вырашылі не дапускаць рэформаў у дысідэнцкім пытанні. Гэта стала прычынай пагаршэння іх адносін з пецярбургскім дваром і прывяло да фактычнай страты расійскай пратэкцыі. Такім чынам, стаўленне да дысідэнцкага пытання было пробным каменем ва ўзаемаадносінах паміж рэфарматарскай партыяй у Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыяй.

Перад чарговым вальным сеймам 1766 г. М.Панін падрыхтаваў праект, які прадугледжваў пашырэнне расійскіх гарантый і на пратэстантаў. Адначасова чатыры пратэстанцкія краіны (Прусія, Англія, Данія і Швецыя) выступілі ў абарону правоў сваіх адзінаверцаў у Рэчы Паспалітай. Усе разам яны дабіваліся доступу іншаверцаў у сейм і іншыя дзяржаўныя ўстановы. Пры гэтым захаванне пануючага становішча каталіцкай царквы не ставілася пад сумненне.

Вырашэнне дысідэнцкага пытання канцлер М.Панін звязваў адначасова з устанаўленнем з боку Расіі гарантый над дзяржаўным ладам Рэчы Паспалітай. Гэта магло азначаць нішто іншае як захаванне ранейшага становішча ў непарушным стане пад лозунгам абароны правоў і вольнасцей шляхты. Расія, абараняючы «liberum veto», патрабавала таксама ліквідацыі генеральнай канфедэрацыі, створанай на канвакацыйным сейме. Тым самым быў зроблены крок насустрач магнацкай («рэспубліканскай») апазіцыі, якая выступала супраць рэфарматарскіх планаў караля і «фаміліі».

Сейм 1766 г. пачаў сваю работу яшчэ як канфедэрацкі, рашэнні на якім прымаліся большасцю галасоў. Ён пачаў сваю дзейнасць у атмасферы непрыкрытага націску з боку расійскага пасла М.Рэпніна, пагроз з яго боку ўжыць вайсковую сілу ў выпадку ігнаравання пажаданняў Пецярбурга. Сітуацыя для рэфарматараў ускладнялася яшчэ і тым, што выявіліся прынцыповыя разыходжанні паміж каралём і Чартарыскімі. Лідэры «фаміліі»

вымушаны былі саступіць пажаданням Расіі і Прусіі ў захаванні «liberum veto», затое падтрымалі шляхецкую апазіцыю ў недапушчэнні ўраўноўвання ў правах католікаў і дысідэнтаў. Наадварот, Станіслаў Аўгуст імкнуўся да ліквідацыі ці далейшага абмежавання дзеяння прынцыпу «liberum veto». Планавалася не ўжываць яго пры ўстанаўленні новых падаткаў на скарб і войска. У лістах да Кацярыны II Станіслаў Аўгуст паведамляў, што яму ніколі не ўдасца паспяхова закончыць справу з дысідэнтамі, пакуль будзе існаваць «liberum veto». У дысідэнцкай справе кароль і яго прыхільнікі гатовыя былі пайсці насустрач Расіі і супольнаму дэмаршу чатырох дзяржаў, каб не ставіць пад сумненне далейшы працэс рэформаў.

У выніку ў адносінах да «liberum veto» сейм прыняў праект аднаго з самых актыўных дзеячаў апазіцыі М.Вяльгорскага пад назвай «Забеспячэнне свабоднага слова». Гэта пастанова фактычна замацавала існаванне «liberum veto» на далейшыя 20 гадоў на вольных (несканфедэраваных) сеймах. У выпадку непрыняцця рашэння аб вяртанні «liberum veto» Расія і Прусія пагражалі абвяшчэннем вайны. Супраць гэтага рашэння выступілі толькі людзі з бліжэйшага атачэння караля – К.Панятоўскі і падскарбій надворны ВКЛ А.Тызенгаўз.

Яшчэ адным крокам назад у палітыцы рэформаў стала пастанова аб роспуску генеральнай канфедэрацыі, прынятая пад ціскам расійскага і прускага паслоў. Немалую ролю ў прыняцці гэтага рашэння, якое аблягчала ўжыванне «liberum veto», адыгралі супярэчнасці паміж Станіславам Аўгустам і Чартарыскімі.

Нетрывалы саюз на сейме каталіцкіх біскупаў і Чартарыскіх прывёў да таго, што дысідэнты не былі ўраўнаваны ў палітычных і рэлігійных правах з католікамі. На іх карысць былі прыняты толькі другарадныя саступкі ў адпраўленні культу.

Сейму 1766 г. удалося падоўжыць толькі некаторыя нязначныя рэформы выканаўчай улады. У прыватнасці, на павятовых сейміках пры абранні паслоў, дэпутатаў у Галоўны Трыбунал, земскіхураднікаў і маршалка, а таксама пры ўхваленні інструкцый і пастаноў рашэнні павінны былі прымацца большасцю галасоў. Сеймікам было забаронена ўстанаўліваць якія-небудзь асобныя ваяводскія падаткі. Войска было пазбаўлена права самастойнага збору падаткаў на грашовае забеспячэнне.

**Дзейнасць дысідэнцкіх канфедэрацый.** Спроба праігнараваць вырашэнне дысідэнцкага пытання выклікала вострую незадаволенасць у Пецярбургу. Расійскі двор імкнуўся заваяваць прыхільнасць дысідэнтаў – і праваслаўных і пратэстантаў, каб пры іх дапамозе шляхам выкарыстання «liberum veto» мець магчымасць заблакіраваць усялякую спробу рэформаў. У гэты час М.Рэпнін атрымаў указанне арганізаваць у Рэчы Паспалітай «сваю» канфедэрацыю, каб, абапіраючыся на заяўлены пратэст дысідэнтаў, прымусіць Станіслава Аўгуста і «фамілію» да пакорнасці. Інструкцыі з Пецярбурга былі падмацаваны ўвядзеннем у Рэч Паспалітую новых расійскіх войскаў. Афіцыйна гэта было растлумачана неабходнасцю абароны інтарэсаў дысідэнтаў.

Імкнучыся стварыць «сваю канфедэрацыю», М.Рэпнін сутыкнуўся з непрадбачанымі цяжкасцямі. Ён паведамляў у сталіцу імперыі, што не можа знайсці сярод нешматлікай праваслаўнай шляхты Беларусі і Украіны ніводнай больш-менш значнай і ўплывовай асобы, каб гэту канфедэрацыю ўзначаліць.

Тым не менш пры вайсковым і фінансавым забеспячэнні Расіі 20 сакавіка 1769 г. утварыліся дзве дысідэнцкія канфедэрацыі — у беларускім горадзе Слуцку з праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты (на чале яе стаяў пратэстант Ян Грабоўскі) і ў Торуні — з пратэстантаў на чале з В.Гольтцам. Акты канфедэрацыі былі распрацаваны ў Пецярбургу. Кіраўнікі канфедэрацыі атрымалі па 335 тыс. злотых на іх падрыхтоўку. Пад актам Слуцкай канфедэрацыі падпісалася ўсяго каля 200 асоб. Праціўнікі потым папракалі іх тым, што ў акт былі ўпісаны нават малалетнія дзеці, і называлі гэту канфедэрацыю «цыганскай».



План Слуцка паводле матэрыялаў XVIII ст.

Слуцкая канфедэрацыя фактычна была канфедэрацыяй кальвінісцкай, лютэранскай і праваслаўнай шляхты. Прычым праваслаўныя ў ёй, акрамя магілёўскага архіепіскапа Г.Каніскага, не адыгрывалі вядучай ролі. У акце Слуцкай канфедэрацыі (афіцыйная назва "Канфедэрацыя дысідэнтаў ВКЛ") між тым звярталася ўвага ўлады і грамадства на бяспраўнае становішча ў Рэчы Паспалітай праваслаўных вернікаў. Пералічваліся крыўды і здзекі на працягу апошніх гадоў, калі іх беспадстаўна, па рэлігійнай прыкмеце, аўтаматычна залічвалі ў ворагі дзяржавы. Адначасова акт Слуцкай канфедэрацыі падкрэсліваў, што яна ні ў якім разе не накіравана супраць каталіцкай царквы, а толькі на ўраўноўванне ў палітычных і рэлігійных правах з католікамі. І слуцкія, і торуньскія канфедэраты не прасілі для сваіх адзінаверцаў увядзення нейкіх новых прывілеяў, а толькі вяртання ім ранейшых правоў, засведчаных яшчэ знакамітым варшаўскім пагадненнем «Аб іншаверцах у рэлігіі» 1573 г.[1]

Адначасова пачалі стварацца і рэканфедэрацыі каталіцкай шляхты Беларусі і Літвы з мэтаю абароны «веры і вольнасці». Такія канфедэрацыі, створаныя ў красавіку 1767 г. у Наваградскім і ў маі Менскім ваяводствах, як і іх апаненты ў Слуцку, таксама прасілі пратэкцыі ў Кацярыны II[2]. Інспіравалі стварэнне такіх канфедэрацый праціўнікі Станіслава Аўгуста і Чартарыскіх, наіўна мяркуючы, што імператрыца дазволіць расправіцца з імі.

Аднак вельмі хутка стала зразумела, што ніякай рэальнай сілы ні Слуцкая, ні Торуньская канфедэрацыя не маюць. На іх нельга было абаперціся, каб дыктаваць свае ўмовы каралю ці яго праціўнікам. М.Рэпнін, нягледзячы на вострыя пратэсты каталіцкіх біскупаў, змог толькі дабіцца аўдыенцыі прадстаўнікоў Слуцка і Торуня ў Станіслава Аўгуста. Але і іх кароль пры-

[1] НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 14, а. 1256–1257; *Грыцкевіч А.П.* Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. 1973. № 6. С. 70.

[2] НГАБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 3, а. 304.



Расійская імператрыца Кацярына II

няў толькі ў якасці прадстаўнікоў праваслаўнага і пратэстанцкага насельніцтва, а не канфедэратаў нягледзячы на афіцыйны прыём іх лідэраў у Пецярбургу. Слуцкая і Торуньская канфедэрацыі яўна не апраўдвалі надзей і сродкаў, патрачаных на іх утварэнне.

У такіх абставінах пецярбургскі двор пайшоў на нечаканы крок і пачаў наладжваць кантакты з рэакцыйным магнацкім лагерам, заахвочваючы яго абяцаннямі дэтранізацыі (пазбаўлення трона) Станіслава Аўгуста. Верагодна, што ў дадзеным выпадку размова ішла аб магчымасці аказання большага ціску на караля, які мог не браць пад увагу адносна нешматлікія канфедэрацыі дысідэнтаў. Адбывалася ўтварэнне новых канфедэрацый – спачатку Віленскай (3 чэрвеня 1767 г.), на чале з М.Бжастоўскім, а потым і Радамскай (23 чэрвеня) на чале з К.Радзівілам. Галоўным рэжысёрам гэтага палітычнага спектакля быў расійскі пасол М.Рэпнін. Акты абедзвюх канфедэрацый былі складзены літаральна пад яго дыктоўку. К.Радзівіла, экс-ваяводу віленскага, удалося даволі лёгка ўгаварыць узначаліць каронных канфедэратаў за абяцанне вярнуцца на радзіму з трохгадовай эміграцыі, атрымаць канфіскаваныя маёнткі, а таксама пасаду ваяводы. К.Радзівіл пакорліва падпісаў абавязацельства быць заўжды лаяльным да Расійскай імперыі. У пачатку ліпеня 1767 г. дзве канфедэрацыі – літвінская і польская – аб'ядналіся ў адну – генеральную пад кіраўніцтвам таго ж «пане Каханку»*.

Станіслаў Аўгуст быў вымушаны падтрымаць дысідэнцкія патрабаванні. Радамскія канфедэраты без задавальнення, але прынялі прадстаўнікоў Слуцкай і Торуньскай канфедэрацый. Перагаворы паміж імі не далі якіх-небудзь канкрэтных вынікаў. Вырашэнне дысідэнцкай справы было аднесена на будучы надзвычайны сейм. Па распараджэнні М.Рэпніна віленска-радамскія канфедэраты накіравалі спецыяльную дэлегацыю да Кацярыны II з просьбаю аб вяртанні «даўнейшага кіравання» пад расійскай гарантыяй.

Лідэры віленска-радамскай апазіцыі разлічвалі выкарыстаць уяўную гатоўнасць Расіі да дэтранізацыі Станіслава Аўгуста і захапіць уладу ў свае рукі, а потым пазбавіцца ад апякунства расійскай імператрыцы. Рэпнін падманваў іх надзеяй адхілення ад улады караля — «усё, чаго народ сканфедэраваны захоча ад імператрыцы, атрымае поўнасцю». На самай справе расійскі бок імкнуўся ўзяць на будучым сейме рэванш за правал у дысідэнцкай справе на сейме 1766 г., а таксама дабіцца прыняцця новых выгадных для імперыі рашэнняў.

Выбары паслоў на надзвычайны сейм 1767 г. адбываліся ў атмасферы непрыкрытага ціску з боку расійскага войска, подкупу і шантажу з боку

* Мянушку "пане Каханку" К.Радзівіл атрымаў за тое, што гэтыя словы з'яўляліся яго любімым зваротам і прыслоўем.

ўтворанай віленска-радамскай канфедэрацыі. Але ўжо ў час выбараў паслоў на сейміках М.Рэпнін аддаліўся ад «рэспубліканскай» антырэфарматарскай партыі і тым самым забяспечыў немалую частку мандатаў для «фаміліі» і Станіслава Аўгуста.

Ашуканыя лідэры канфедэрацыі і ў першую чаргу кракаўскі біскуп К.Солтык, палявы гетман каронны В.Жэвускі і іншыя апынуліся ў нязручнай сітуацыі. Яны ўзначальвалі цалкам пракаталіцкі рух, а павінны былі садзейнічаць зацвярджэнню палітычных правоў дысідэнтаў.

**Надзвычайны сейм 1767—1768 гг.** Ён пачаў працу 5 кастрычніка 1767 г. Расійскі пасол, каб зменшыць цяжкасці пры вырашэнні дысідэнцкага пытання, вырашыў дабіцца падрыхтоўкі новых пастаноў спецыяльнымі дэлегацыямі, падкантрольнымі яму. Гэта давала магчымасць выключыць з пасяджэнняў апазіцыйных паслоў. Паслы павінны былі потым прызнаць рашэнні дэлегацыі.

«Дэлегацыйны» праект сейма выклікаў адпор з боку часткі паслоў і сенатараў на чале з біскупам К.Солтыкам. Гэта пагражала зрывам працы сейма. У ноч з 13 на 14 кастрычніка па загаду Рэпніна былі арыштаваны і вывезены з Варшавы ў Калугу біскупы К.Солтык і А. Залускі, палявы гетман каронны В.Жэвускі з сынам Севярынам. У знак пратэсту супраць нябачанага яшчэ ў гісторыі Рэчы Паспалітай гвалту падаў у адстаўку каронны канцлер А.Замойскі.

19 кастрычніка сейм амаль без супраціўлення пагадзіўся выдзеліць са свайго складу «дэлегацыю» ў колькасці 70 чалавек. У яе ўвайшлі прадстаўнікі апазіцыі, Станіслава Аўгуста і «фаміліі» (хаця фармальна сенатараў у «дэлегацыю» прызначаў кароль, а паслоў — маршалак сейма К.Радзівіл). Узначальваў працу «дэлегацыі» яўны стаўленік пецярбургскага двара Габрыэль Падоскі. Пасля гэтага сейм спыніў сваю работу да 1 лютага 1768 г.

«Дэлегацыя» працавала пад неафіцыйным кіраўніцтвам расійскага пасла. Самым важкім яго аргументам (пасля подкупу) было размешчанае ў Рэчы Паспалітай 40-тысячнае войска.

5 сакавіка 1768 г. праекты пастаноў, распрацаваныя «дэлегацыяй», былі ўхвалены сеймам. Дысідэнты атрымалі права доступу да ўсіх дзяржаўных пасад, у тым ліку вышэйшых, сенатарскіх. Ім была гарантавана свабода культу, права будовы і рамонту храмаў, адкрыцця пры іх школ. Дысідэнты былі вызвалены ад каталіцкай царкоўнай юрысдыкцыі. Для вырашэння рэлігійных канфліктаў павінен быў утварыцца «змешаны суд». Аднак за каталіцкай верай было пакінута яе пануючае становішча ў дзяржаве. Пераход з каталіцызму ў іншыя веравызнанні («апастазія») забараняўся і караўся выгнаннем з краіны.

Дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай быў акрэслены так званымі «кардынальнымі правамі». Яны абвяшчаліся «вечнымі» і «нязменнымі». У іх уваходзілі: «liberum veto», свабодны выбар манарха («элекцыя»), права на ўтварэнне шляхецкіх канфедэрацый, прывілеі шляхецкага стану займаць дзяржаўныя пасады, валодаць і распараджацца зямлёй і сялянамі.

Пастанова аб дысідэнтах і «кардынальныя правы» спецыяльным рашэннем сейма павінны былі гарантавацца з боку Расійскай імперыі. Такім чынам, ужо не толькі фактычна, але і фармальна Расія атрымала права быць гарантам дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Кожная яго змена патрабавала згоды суседняй краіны.

Астатнія правы, так званыя «дзяржаўныя справы» (“materia status”) падлягалі кампетэнцыі «вальных” сеймаў і маглі быць на іх зменены шляхам

адзінагалоснасці. На »канфедэрацкіх сеймах" пакідалася магчымасць прымаць пастановы ў гэтых пытаннях большасцю галасоў. Да такіх пытанняў адносіліся ўстанаўленне падаткаў і колькасці войска, абвяшчэнне вайны і падпісанне міру, скліканне паспалітага рушання, гандлёвыя пагадненні і саюзы, парадак сеймаў і сеймікаў, курс манеты, наданне індыгенатаў (прызнанне іншаземнага шляхецтва ў Рэчы Паспалітай) і набілітацыя (увядзенне ў шляхецтва) і інш.

З магчымасцю такім чынам «абысці» права «liberum veto» лічыліся і ў Пецярбургу. Там разумелі, што распаўсюджанне гэтага права на ўсе пытанні работы сейма нявыгаднае і Расійскай імперыі. Гэта пакінула б Рэч Паспалітую назаўсёды ў стане анархіі, дзяржава пераўтварылася б літаральна ў «нуль» і не змагла б нічым дапамагчы ў ваенных канфліктах з суседзямі.

Трэцяя катэгорыя законаў, якія прымаліся сеймам, так званыя «справы эканамічныя», павінны былі зацвярджацца большасцю галасоў. Гэта павінна было гарантаваць нармальную дзейнасць фінансаў дзяржавы, але і адначасова азначала тое, што адносна свабодная заканадаўчая дзейнасць «вальных» сеймаў абмяжоўвалася толькі эканамічнымі пытаннямі.

Дэлегацыйны сейм 1767—1768 гг. можна разглядаць як частковую перамогу Станіслава Аўгуста. Яму і яго прыхільнікам праз кампраміс з расійскімі ўладамі ўдалося зберагчы пэўныя рэформы, захаваць магчымасць іх развіцця ў будучым. Віленска-радамскія канфедэрацыі пацярпелі на гэтым сейме паражэнне. Амаль ні адна з мэт, якія яны ставілі перад сабой, не была дасягнута: рэформы не былі заблакіраваны поўнасцю, Станіслаў Аўгуст застаўся пры ўладзе, не было ў поўным аб'еме вернута «liberum veto». Але самым адчувальным для праціўнікаў палітыкі рэформаў стала іх капітуляцыя ў дысідэнцкім пытанні. Аднак і трыумф М.Рэпніна быў нядоўгім. Праваслаўная і пратэстанцкая шляхта Беларусі, як і Рэчы Паспалітай у цэлым, часова здолела ўмацаваць свае палітычныя пазіцыі, якія перад тым былі істотна аслаблены.

## 2. Уключэнне зямель Усходняй Беларусі ў склад Расійскай імперыі

**Стварэнне Барскай канфедэрацыі.** Заканчэнне працы сейма 1767—1768 гг. азнаменавала, здавалася б, канчатковую перамогу Расійскай імперыі па ўсталяванню яе панавання ў Рэчы Паспалітай. Але вырашэнне «дысідэнцкага пытання» праз амаль поўнае ўраўноўванне ў палітычных і канфесійных правах католікаў і некатолікаў несла ў сабе непрыкрыты канфлікт. Яшчэ не паспеў скончыць сваю працу сейм, як справа дайшла да адкрытага супраціўлення яго рашэнням.

29 лютага 1768 г. ва ўкраінскім мястэчку Бар спачатку невялікай групай людзей была абвешчана канфедэрацыя ў абарону каталіцкай веры і незалежнасці дзяржавы. На чале руху сталі Ю.Пуласкі і М.Красінскі. Барская канфедэрацыя пачалася з выступлення толькі польскай шляхты, нават адной яе правінцыі – Малапольшчы.

У акце канфедэрацыі гаварылася аб «бяспраўным і беззаконным» абранні на трон Станіслава Аўгуста з дапамогай расійскага войска. Звярталася ўвага на яго гвалты падчас павятовых сеймікаў і сейма 1767—1768 гг. Канфедэраты рашуча асуджалі арышт і высылку ў Расію сенатараў Рэчы Паспалітай у пачатку працы таго ж сейма. Асаблівая ўвага звярталася на падпісанне «найгоршых і найшкадлівейшых трактатаў з дысідэнтамі»[1].

[1] Konfederacja Barska. Wybór tekstów. Kraków, 1928. S. 4.

Прынцыповай мэтай Барскай канфедэрацыі была абарона незалежнасці, правядзенне Рэччу Паспалітай самастойнай знешняй і ўнутранай палітыкі, выгнанне чужаземных войскаў. У гэтым бачыўся, несумненна, яе пазітыўны і патрыятычны бок. Адначасова барычане рашуча выступілі ў абарону вяршынства каталіцкай царквы, шляхецкіх правоў пры ігнараванні спачатку якіх-небудзь істотных дзяржаўных рэформаў. Пры гэтым трэба ўлічваць, што ідэалогія канфедэрацкага руху на даволі працяглым адрэзку часу яе існавання мянялася. Яна карэкціравалася ў залежнасці ад абставін часу, міжнароднай сітуацыі, змен у кіраўніцтве, але па сутнасці заставалася той жа.

Адзін з буйнейшых даследчыкаў гісторыі Барскай канфедэрацыі польскі гісторык У.Канапчыньскі сцвярджаў, што яна «была і засталася да канца» рухам шляхецкім у арганізацыі і практыцы. Канфедэрацыя была шляхецкай па духу, але далёка не шляхецкай паводле саслоўнай прыналежнасці яе ўдзельнікаў. Даволі шырокі ўдзел у ёй узялі прадстаўнікі сялянства і мяшчанства. З таго факта, што шляхта змагла ўцягнуць у канфедэрацкі рух людзей ніжэйшых станаў, яшчэ не вынікала, што гэты рух меў цалкам дэмакратычны напрамак ці агульнастанавы грамадскі характар. І сялянства, і мяшчанства, далучыўшыся да гэтага руху, пакуль што служыла інтарэсам шляхецкай Рэчы Паспалітай. Пашырэнне сацыяльнай базы канфедэрацыі пагражала змене яе сутнасці. Калі б было больш увагі да «паспольства», канфедэрацыя магла б узняцца да паўстання і хаця б часткова стаць народным рухам.

**Канфедэрацкі рух на беларускіх землях.** Канфедэрацкі рух у ВКЛ, на беларуска-літоўскіх землях, таксама знайшоў сабе падтрымку, хаця развіваўся нераўнамерна і часам супярэчліва. У яго дзейнасці ў Беларусі можна вылучыць тры асноўныя этапы: 1) 1768 г.; 2) 1769—1770 гг.; 3) 1771 г.

Першыя канфедэрацкія аддзелы ў ВКЛ пачалі ствараццa ў Жамойці, Браслаўскім, Ашмянскім, Наваградскім, Берасцейскім, Рэчыцкім паветах, Мсціслаўскім ваяводстве. Але падобна на тое, што прыклад Бару ў ВКЛ набіраў сілу перш за ўсё там, дзе дзейнічалі прыхільнікі вяртання саксонскай дынастыі і дэтранізацыі (пазбаўлення трона) Станіслава Аўгуста.

У канцы верасня 1768 г. на сейміку ў Мядзелі да канфедэрацыі далучаецца ашмянская шляхта. Адначасова ўздымаецца частка шляхты Берасцейскага ваяводства. Тут вылучыўся сваёй актыўнасцю А.Бянклеўскі, староста ляхавіцкі. 24 верасня ў лесе пад Пружанамі ён, сабраўшы да пяці соцень канфедэраванай шляхты, быў абраны яе маршалкам. Пружанскія канфедэраты былі дастаткова добра ўзброены, мелі спецыяльную вопратку: чорныя кунтушы (від верхняй вопраткі) з выявай чэрапа на левым баку і надпісам «Езус Марыя» – на правым. Аднак яны былі разбіты расійскімі войскамі ў пачатку кастрычніка пад Дзярэчынам.

У Браславе 7 верасня 1768 г. маршалкам павятовай канфедэрацыі стаў Аляксандр Тадэвуш Ваўжэцкі. 16 кастрычніка канфедэруецца і мсціслаўская шляхта на чале з харужымі М.Цеханавецкім і І.Кіркорам, падкаморым мсціслаўскім. У першыя дні кастрычніка М.Пац, стараста Зёлаўскі, арганізаваў у Наваградку ваяводскую канфедэрацыю. Першыя канфедэрацкія аб'яднанні былі няўстойлівымі і пры неспрыяльных умовах мелі тэндэнцыю да самаліквідацыі.

Але галоўныя населеныя пункты беларускага краю – Менск, Пінск, Берасце, Слонім – фактычна амаль усе гарады заставаліся пад кантролем расійскіх войскаў. Усяго на тэрыторыі ВКЛ у 1768 г. знаходзілася да 6 тыс. расійскага войска. Сілы ж канфедэратаў былі спачатку надта малымі для ад-

крытага выступлення. Сказвалася і адсутнасць агульнага кіраўніцтва рухам.

Многія ў ВКЛ у пачатку канфедэрацкага руху глядзелі ў бок Нясвіжа. Ад пазіцыі самага магутнага магната, ваяводы віленскага К.Радзівіла залежала шмат. Гэта выдатна разумеў і расійскі пасол М.Рэпнін, па хадайніцтву якога ў Беларусі з'явіліся дадатковыя войскі. Іх мэтай было адсячы канфедэраваныя ўскраіны ад Нясвіжа і выцесніць канфедэратаў за мяжу ва Усходнюю Прусію ці Курляндыю.

У пачатку абвяшчэння Барскай канфедэрацыі К.Радзівіл не хаваў сваіх сімпатый да яе. Тым больш што першапачаткова барычане хацелі менавіта яго запрасіць на пасаду свайго маршалка. К.Радзівіл абяцаў нават выставіць на службу канфедэрацыі 6 тыс. сваёй «надворнай міліцыі». Расійскім прадстаўнікам трэба было нейтралізаваць «пане Каханку». Тым больш што ў пачатку жніўня да Варшавы дайшлі чуткі аб сабраным пад Нясвіжам нібыта чатырохтысячным радзівілаўскім войску, якое было гатова далучыцца да канфедэратаў.

Таму да Нясвіжа пачалі сцягвацца дадатковыя расійскія войскі, каб рассеяць «радзівілаўшчыкаў». У гэты ж час у Нясвіж да Радзівіла прыехалі канфедэрацкія маршалкі з паветаў (Пац, Жэвускі, Бянклеўскі, Лапацінскі, Козел) з мэтаю заахвоціць яго далучыцца ці нават узначаліць канфедэрацыю ў ВКЛ.

10 кастрычніка 1768 г. расійскі аддзел быў атакаваны каля в.Лань пад Нясвіжам ашмянскімі канфедэратамі пад камандаваннем Козела і радзівілаўскай міліцыяй. У выніку расійскі атрад вымушаны быў адступіць да Міра. Але гэты поспех не натхніў, а напалохаў уладара Нясвіжа. 13 кастрычніка, калі прыйшоў загад аб сцягванні расійскіх войскаў пад Нясвіж, К.Радзівіл у пісьмовай форме папрасіў у расійскага камандавання прабачэння за сутычку пад Ланню і заявіў аб сваёй поўнай пакорлівасці.

Паводзіны Радзівіла можна было растлумачыць асаблівасцямі яго характару, але яшчэ больш матэрыяльнымі інтарэсамі. Якраз у гэты час спецыяльная камісія вырашала пытанне аб вяртанні яму канфіскаваных у 1764 г. уладанняў, выплаце мільённых пазык. М.Рэпнін быў упэўнены, што К.Радзівіл «па п'янаму гаварыць будзе што захоча, але сваім мільёнам шкоды не зробіць».

Капітуляцыя К.Радзівіла вылілася ў тое, што ў нясвіжскі і слуцкі замкі былі ўведзены расійскія гарнізоны. Некалькі тысяч радзівілаўскай «міліцыі» ў складзе апошніх ардынацкіх харугваў (нясвіжскай і слуцкай), нягневіцкіх, слуцкіх і капыльскіх казакаў былі распушчаны – «пайшлі сеяць грэчку па засценках». Радзівілу ўдалося захаваць «для аховы ўладанняў» 560 чалавек дворскай міліцыі. Пры гэтым да гонару «пане Каханку» трэба дадаць, што ён катэгарычна адмовіўся выдаць на высылку ў Смаленск М.Паца і іншых канфедэрацкіх маршалкаў. К.Радзівіл даў прысягу аб безумоўным недалучэнні да канфедэрацкага руху ўзамен на захаванне фартэцый з артылерыяй і зброяй у Слуцку і Нясвіжы.

Наступным этапам у фарміраванні канфедэрацкага руху ў Беларусі і Літве стала ўтварэнне Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ. Лічыцца, што гэты цэнтральны орган па кіраўніцтву канфедэрацкім рухам на беларуска-літоўскіх землях быў створаны 5 жніўня 1769 г. у Словіках (Жамойць). Генеральным маршалкам быў абраны М.Пац. Акт і маніфест словікаўскай канфедэрацыі ствараўся пры ўдзеле французскага публіцыста М.Бадо. У адрозненне ад барскага акта ў дакументах літвінскіх канфедэратаў не было вострых нападак на караля, рэформы і дысідэнтаў.

Прыкметнай з'явай 1769 г. стаў дыверсійны рэйд летам—у пачатку восені па Беларусі канфедэратаў на чале з братамі Казімірам і Францішкам Пуласкімі. Першы раз канфедэраты пасля выхаду ў чэрвені з Люблінскага ваяводства прайшлі па маршруту Берасце–Ваўкавыск–Слонім–Дзятлава. Падчас рэйду колькасць аддзелу Пуласкіх павялічылася з 1 да 4 тыс. чалавек, была аднаўлена дзейнасць пяці павятовых канфедэрацый. Найбольш значнай падзеяй гэтага рэйду стаў бой пад Слонімам 12 ліпеня 1769 г. з расійскім атрадам. Канфедэраты здолелі ўтрымацца і прадоўжыць свой рэйд. Але з-пад Дзятлава, з-за таго, што ім пагражала акружэнне пераважаючымі сіламі, яны павярнулі назад і праз Дзярэчын, Волпу і Лунна выйшлі на Падляшша.

Другі рэйд пад камандаваннем братоў Пуласкіх на Беларусь адбыўся ў верасні таго ж года. Канфедэраты мелі намер дайсці да Кобрына, ажывіць канфедэрацкі рух на Піншчыне з дапамогай пінскага маршалка Арэшкі. Аднак намеры іх былі пастаўлены пад сумненне з'яўленнем на тэатры баявых дзеянняў расійскага атрада пад камандаваннем А.Суворава. 13 верасня пад в.Арэхава каля аднайменнага возера адбыўся бой. З абодвух бакоў у ім удзельнічала да 1200 чалавек. Змаганне было зацятым. Калі стала цямнець, а лёс бою так і не быў вырашаны, Сувораў аддаў загад запаліць з гармат в.Арэхава, каб пайсці ў апошнюю атаку на пазіцыі канфедэратаў, пакуль не сцямнела. У выніку аддзел Пуласкіх не вытрымаў больш рашучых дзеянняў расійцаў і вымушаны быў адступіць у кірунку Уладавы.

Некаторыя літвінскія канфедэраты, у тым ліку і М.Пац, паставіліся да рэйдаў Пуласкіх нават з некаторым падазрэннем, бо бачылі ў іх спробу ўзначаліць рух у ВКЛ. Дарэчы, першы рэйд Пуласкіх стымуляваў у пэўным сэнсе ўтварэнне Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ, у склад якой «каранякаў» (палякаў) спецыяльна не дапусцілі.

31 кастрычніка 1769 г. у Цешыне адбылося аб'яднанне кароннай і літвінскай канфедэрацый у Генеральную канфедэрацыю «двух народаў». Спачатку яе ўзначальваў М.Красінскі, маршалак кароннай канфедэрацыі, але ў час яго адсутнасці абавязкі выконваў М.Пац. Апошні адначасова з'яўляўся старшынёй Найвышэйшай Рады, у склад якой уваходзілі ўсе мясцовыя маршалкі. Гэта выклікала незадаволенасць вялікай часткі каронных маршалкаў, якія ўбачылі ў гэтым верхавенства ВКЛ над Польшчай.

Разам з М.Пацам адным з фактычных кіраўнікоў аб'яднанай канфедэрацыі, штаб-кватэра якой размяшчалася на аўстрыйскай тэрыторыі, быў другі літвін І.Богуш. Ён належаў да той нешматлікай часткі кіраўнікоў Барскай канфедэрацыі, якія не толькі прызнавалі неабходнасць рэформаў, але імкнуліся да іх ажыццяўлення. У сувязі з гэтым у Францыю да абата Маблі і Ж.-Ж. Русо быў накіраваны іх прадстаўнік кухмістр ВКЛ М.Вяльгорскі, каб у прыватнасці высветліць меркаванні знакамітых французаў наконт сітуацыі ў Рэчы Паспалітай. Кіраўніцтва Францыі, занепакоенае ўзрастаннем уплыву Расіі ў Рэчы Паспалітай, з 1770 г. пачало аказваць барскім канфедэратам фінансавую дапамогу, прысылаць дзесяткі афіцэраў-інструктараў, сярод якіх галоўную ролю адыгрываў палкоўнік Ш.Дзюмур'е.

Кіраўніцтва Барскай канфедэрацыяй імкнулася ўвогуле заручыцца міжнародным прызнаннем, дабіцца дыпламатычнай і фінансавай падтрымкі ў Вене, Стамбуле, Дрэздэне, Рыме. Найбольш вядомая з такіх спроб – «місія» М.Вяльгорскага ў Парыж у пачатку 1769 г. Дабіваючыся ад Францыі дапамогі канфедэрацкаму руху, ён адначасова выклаў і адно з галоўных пажаданняў барычан: дэтранізацыя Станіслава Аўгуста.



Захоп канфедэратамі Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Паводле тагачаснай гравюры

12 кастрычніка 1770 г. М.Пац абвясціў «акт бескаралеўя» і маніфест, накіраваны супраць Чартарыскіх. «Генеральнасць» (кіраўніцтва Барскай канфедэрацыі) прадставіла ў іх Станіслава Аўгуста Панятоўскага як «няпрошанага госця, узурпатара і тырана» і фактычна заклікала кожнага патрыёта да пазбаўлення яго жыцця. У ноч з 3 на 4 лістапада 1771 г. у Варшаве канфедэратамі была ажыццёўлена няўдалая спроба выкрадання манарха, падчас якой яго ледзь не забілі. Каралеўскі двор і сам Станіслаў Аўгуст змаглі выкарыстаць гэты факт перад еўрапейскімі дварамі для дыскрэдытацыі палітыкі барскіх канфедэратаў.

Новы і апошні этап канфедэрацкага руху наступіў для Беларусі і Літвы ў 1771 г. Нарэшце вырашыў далучыцца да канфедэрацыі вялікі гетман ВКЛ Міхал Казімір Агінскі разам з больш за 2 тыс. рэгулярнага войска.

Расійскі пасол К. фон Сальдэрн, даведаўшыся аб намерах гетмана, аддаў загад атраду пад камандаваннем палкоўніка Албычава заблакіраваць яго з войскам у Целяханах. Потым меркавалася прапанаваць капітуляцыю, а самога гетмана пад арыштам накіраваць у Варшаву. Але М.Агінскі змог апярэдзіць падзеі. Ён першым 6 верасня 1771 г. атакаваў расійскія войскі пад в.Бездзеж, у выніку чаго Албычаў загінуў, а яго атрад цалкам трапіў у палон. 7 верасня гетман выдаў у мястэчку Хомск маніфест аб далучэнні рэгулярнага войска ВКЛ да канфедэрацыі.

Перамога пад Бездзежам атрымала шырокі розгалас, асабліва на фоне амаль поўнай адсутнасці якіх-небудзь значных поспехаў у канфедэратаў. Далучэнне да яе вялікага гетмана ВКЛ будзіла надзею, магчыма, апошнюю, на пашырэнне канфедэрацкага руху за кошт беларускіх зямель. У Дрэздэне нават хадзілі чуткі, што і атрады Суворава нібыта разграміў Агінскі, а сам Сувораў забіты.

Пасля перамогі пад Бездзежам невялікае войска М.Агінскага накіравалася на Клецк. З-пад Клецка была арганізавана спроба ўзяць Нясвіж, але пасля некалькіх гадзін штурму канфедэраты вымушаны былі адысці. Гэтак

жа беспаспяхова закончылася іх спроба вызваліць Слуцк. Пасля гэтага войска гетмана, якое павялічылася да 3 тыс. чалавек, накіравалася на захад. У ноч з 22 на 23 верасня канфедэраты спыніліся ў мястэчку Сталовічы.

Незадоўга перад гэтым на сустрэчу з Агінскім з-пад Любліна імклівым маршам праз Коцк, Міжрэчча, Белую, Берасце, Косава, Слонім, Палонку рушыў А.Сувораў. Ноччу 23 верасня ён атакаваў Агінскага нечакана, адразу з маршу. Канфедэраты, захопленыя знянацку, не змаглі аказаць арганізаванага супраціўлення і былі разгромлены. Сам гетман і частка яго войска змаглі вырвацца з мястэчка. У Сталовічах жа засталося да тысячы забітых, параненых і палонных канфедэратаў.

Апошні год дзеяння Барскай канфедэрацыі ў Беларусі адзначаны дыверсійным рэйдам на чале з С.Касакоўскім. Ён стаў адной з самых значных і гучных падзей часоў канфедэрацыі.

Рэйд пачаўся з Жамойці ў пачатку чэрвеня 1771 г. Адметнай рысай гэтай акцыі на ўсім яе працягу стала тое, што яго кіраўнікі імкнуліся абаперціся на больш шырокія колы насельніцтва ВКЛ. Сам С.Касакоўскі апранаўся ў сялянскі ўбор, на простай брычцы перабіраўся ад мястэчка да мястэчка, абмінаючы заможную службовую шляхту, збіраючы ў свае аддзелы дробных шляхціцаў, нават цыган і яўрэяў[1]. Канфедэраты рабавалі ўладанні сваіх праціўнікаў, не грэбуючы часам і касцёльнай маёмасцю. Пры гэтым праводзіўся пастаянны набор у аддзелы новых людзей – чаляднікаў, парабкаў. Найбольш радыкальна настроеныя паплечнікі С.Касакоўскага, такія, як Навамейскі, крытыкуючы шляхецкіх добраахвотнікаў, гаварылі, што «шляхта каналья, пры сутычках здраджвае і ўцякае. Мужык вось жаўнер, вось брат мой...»[2]

Адначасова ішоў працэс аднаўлення старых ці ўтварэння новых канфедэрацый. 17 ліпеня 1771 г. аднавілася Браслаўская канфедэрацыя на чале з войскім А.Ваўжэцкім і падкаморычам Я.Мірскім. 17 жніўня 1771 г. Касакоўскі абвясціў маніфест супраць расійскага пасла Сальдэрна і яго памагатых, да якіх ён залічваў усіх гродскіх і земскіх суддзяў, іншых ураднікаў з маршалкам Галоўнага трыбунала ВКЛ. Галоўнай мэтай сваіх дзеянняў ён вызначыў выгнанне за межы ВКЛ акупантаў. Аднак Касакоўскі дзейнічаў самастойна і нават не спрабаваў устанавіць кантакты, напрыклад з гетманам М.Агінскім.

У сярэдзіне жніўня аддзелы С.Касакоўскага з'явіліся пад Лынтупамі і Кабыльнікам. Яны ішлі праз Мядзел і Даўгінава, потым выйшлі на Радашковічы, Заслаўе і 30 жніўня канфедэраты з'явіліся ў Менску. Перад гэтым пад Заслаўем адбыўся бой з атрадам палкоўніка Табулава. У Менску была арганізавана павятовая канфедэрацыя. Па дарозе канфедэраты канфіскоўвалі маёмасць, выбіралі падаткі на патрэбы свайго войска. С.Касакоўскі, падпісваючыся «грамадзянін ВКЛ», 28 жніўня даў распіску Радашковіцкаму кагалу аб забранні дзвюх выплат («рат») яўрэйскага пагалоўнага ў суме 4405 злотых, 11 верасня – менскаму кагалу аб забранні 3164 злотых[3].

Полымя канфедэрацкага руху ахапіла значную частку Беларусі. На Меншчыне, у Рэчыцкім павеце рух узначальвалі галоўным чынам падстароста рэчыцкі Я.Юдыцкі і павятовы маршалак Халецкі. Яшчэ да з'яўлення С.Касакоўскага ў пачатку верасня там сабралася 1200 чалавек сканфедара-

[1] *Konopczyński W.* Konfederacja Barska. Warszawa, 1938. T. 2. S. 111.

[2] Там жа. S. 124.

[3] НГАБ, ф.1727, в. 1, спр. 16, с. 276, 278, 858, 860.

ванага войска і добраахвотнікаў, у тым ліку 300 гусараў, якія ішлі на злучэнне з гетманам Агінскім.

Падчас рэйду С.Касакоўскага здараліся і спробы арганізацыі антыканфедэрацкіх акцый. Напрыклад, у Полацкім ваяводстве пад старшынствам уніяцкага полацкага арцыбіскупа Я.Смагаржэўскага частка шляхты ўзброілася і рыхтавалася да самаабароны. Напалоханыя радыкалізмам С.Касакоўскага, яны казалі, што «разбуральнікаў чужых сюды не пусцім, а сваіх дашчэнту знішчым, бо інакш гультайства, рамеснікі, асуджаныя, парабкі скуру з нас здзіраць будуць».

Войска канфедэратаў у пачатку верасня папоўнілася добраахвотнікамі з розных месцаў Беларусі і павялічылася больш чым у тры разы і налічвала да 4 тыс. чалавек[1]. Расійскія вайсковыя ўлады ў ВКЛ пастаянна падкрэслівалі, што яно па-ранейшаму складалася з «найгоршай галоты: конюхаў, фурманаў, слуг, парабкаў...» Паўсюдна на сваім шляху «касакоўшчыкі» ўціскалі сваіх ворагаў, найбольш актыўным палілі маёнткі ці наводзілі на іх сялянства. На аддзелы С.Касакоўскага з розных бакоў пастаянна насядалі расійскія атрады. Адыходзячы ад непрыяцеля, канфедэраты бурылі масты, пераразалі шляхі камунікацый, абцяжарвалі фуражыраванне і харчовае забеспячэнне, перахоплівалі кур'ераў, вялі разведку.

Канфедэрацкае войска С.Касакоўскага, рухаючыся ўздоўж усходняга берага Бярэзіны, дайшло да Стрэшына над Дняпром. Адсюль частка канфедэратаў пад камандаваннем ротмістра Пашкевіча накіравалася за Днепр пад Гомель, другая – пад камандаваннем капітана Рацэна – у Мсціслаўскае ваяводства, дзе і было разбіта. Аддзел на чале з Ю.Юдыцкім рушыў на Мазыр. Канфедэраты тым самым імкнуліся адцягнуць у розныя бакі расійскае войска.

Сам С.Касакоўскі дзейнічаў са сваімі асноўнымі сіламі паміж Чачэрскам, Магілёвам і Шкловам. Аддзелы канфедэратаў нават перайшлі расійска-літвінскую мяжу і рухаліся ў кірунку да Смаленска, але вымушаны былі вярнуцца назад. 14 верасня пад Старым Быхавам С.Касакоўскі даў бой, пасля чаго змог вырвацца з атачэння і накіраваўся ў Віцебскае ваяводства, адкуль, пераправіўшыся праз Дзісну, увайшоў у Курляндыю. 12 кастрычніка 1771 г. у Купішках С.Касакоўскі выдаў свой апошні зварот да «абываталяў» ВКЛ. Пасля гэтага канфедэрацкія аддзелы, ратуючыся ад пагоні расійскага войска, перайшлі ў Мазовію, маючы яшчэ ў сваім складзе да дзвюх з паловай тысяч чалавек.

Рэйд С.Касакоўскага па сваіх маштабах і глыбіні стаў выключнай з'явай у гісторыі Барскай канфедэрацыі ў Беларусі. Ён адцягнуў на сябе значную частку расійскага войска, прывёў да часовага ажыўлення асяродкаў канфедэрацыі, але не быў узгоднены і звязаны з дзеяннямі гетмана М.Агінскага, у выніку чаго страціў сваю эфектыўнасць. Рэйд С.Касакоўскага, выступленне М.Агінскага былі апошнімі ўсплёскамі заціхаючай хвалі канфедэрацкага руху ў Беларусі.

Канфедэрацкая вайна разам з інтэрвенцыяй Расійскай імперыі 1768–1772 гг. прынесла цяжкія спусташэнні Рэчы Паспалітай, якая перад гэтым імкнулася выйсці з крызісу. Яна каштавала больш чым 60 тыс. жыццяў яе ўдзельнікаў[2]. Каля 5 тыс. палонных трапіла на выгнанне ў Сібір. Барская канфедэрацыя аслабіла дзяржаву і тым самым дала зачэпку будучым краінам-падзельшчыцам Рэчы Паспалітай для пашырэння ў Еўропе перака-

[1] Konfederacja Barska w dokumentach.... S. 142.

[2] Dyaryusz Seymu ordynaryjnego... [1776], Warszawa, 1776. S. 31.

нання, што "польская анархія" цалкам невылечная. Барская канфедэрацыя стала прадвесцем першага падзелу дзяржавы.

**Першы падзел Рэчы Паспалітай**. Скарыстаць слабасць Рэчы Паспалітай першай вырашыла Аўстрыя, захапіўшы яшчэ ў 1769 і 1770 гг. частку Паўднёвай Польшчы. Прусія таксама пад умовай "санітарнага кардону" ў 1770 г. акупавала частку Паўночнай Польшчы так званых "Прусаў Каралеўскіх" і актыўна штурхала Расійскую імперыю да падзелу Рэчы Паспалітай. Кацярына II спачатку, не жадаючы дзяліцца з кім-небудзь яшчэ фактычным панаваннем ва ўсёй дзяржаве, вымушана была саступіць.

Перагаворы паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй, якія ішлі на працягу 1771 г., завяршыліся ў Пецярбургу падпісаннем 5 жніўня 1772 г. трохбаковага пагаднення. У ім былі вызначаны памеры тэрытарыяльных набыткаў. Расія заняла паўночна-ўсходнюю Беларусь з Полацкам, Віцебскам, Мсціславам і частку Інфлянтаў плошчаю ў 92 тыс. км² з 1 млн 300 тыс. насельніцтва. Прусія атрымала тэрыторыю з гарадамі Холмам, Мальбаркам, Вармію, частку Куяў і Вялікапольшчы – разам 36 тыс. км² з 580 тыс. насельніцтва. Аўстрыя набыла польска-ўкраінскія землі на поўдзень ад верхняй Віслы, Падолію, частку Валыні з гарадамі Тарнопаль, Пярэмышль і Львоў – усяго 83 тыс. км² з 2 млн 650 тыс. насельніцтва.

Агульным матывам падзелу ў трактатах з'явіліся анархія ў Рэчы Паспалітай, што пагражала спакою суседзяў, і неабходнасць захавання такой формы дзяржаўнасці і кіравання, якая б задавальняла падзельшчыкаў. Пасля ратыфікацыі трактатаў у Вене, Берліне і Пецярбургу былі выпушчаны спецыяльныя памфлеты. Яны павінны былі гістарычна "абгрунтаваць" правамоцнасць захопу ў Рэчы Паспалітай яе зямель.

Для надання "законнасці" сваім дзеянням і пад пагрозай ужыць сілу і выставіць яшчэ больш жорсткія прэтэнзіі тры дзяржавы запатрабавалі склікання надзвычайнага сейма, які павінен быў ухваліць падзел. Станіслаў Аўгуст у пачатку 1773 г. звярнуўся да некаторых еўрапейскіх манархаў і папы рымскага з просьбай выступіць у абарону Рэчы Паспалітай. Але дарэмна. Ніхто не хацеў звязвацца з аб'яднанай сілай Расіі, Прусіі і Аўстрыі.

Надзвычайны сейм павінен быў пачаць работу 19 красавіка 1773 г. у Варшаве. Паслы на яго ад беларуска-літоўскіх зямель абіраліся на павятовых сейміках 22 сакавіка. У большасці пасольскіх інструкцый утрымлівалася пажаданне не пагаджацца на адлучэнне ад Рэчы Паспалітай яе тэрыторый. Але многія паслы на гэты сейм былі абраны ў сітуацыі непрыкрытага ціску з боку акупацыйнага расійскага войска, подкупу і шантажу з боку пасланнікаў Расіі, Прусіі і Аўстрыі.

Па запланаванаму ў Пецярбургу сцэнарыю перад пачаткам работы сейма павінна была ўтварыцца канфедэрацыя з ліку лаяльных да падзелу паслоў і сенатараў на чале з кухмістрам каронным А.Панінскім. Гэта давала магчымасць прымаць рашэнні на сейме ў выпадку далучэння яго да канфедэрацыі большасцю галасоў. Так, магчыма, першы раз у гісторыі свайго існавання права "liberum veto" магло адыграць станоўчую ролю ў жыцці дзяржавы. Але праз сеймавую канфедэрацыю, якая і ўтварылася 16 красавіка, яго дзеянне было заблакіравана.

Расійскі пасол Штакельберг, прускі пасол Бенуа і аўстрыйскі пасол Рэвіцкі былі ўпэўнены ў поспеху. Але ў дзень адкрыцця з рашучым пратэстам супраць абрання маршалкам сейма А.Панінскага як непрыкрытага расійскага агента выступіла невялікая група паслоў. На чале яе былі паслы ад Наваградскага ваяводства Тадэвуш Рэйтан і Самуэль Корсак, ад Менска-



Тадэвуш Рэйтан

га – Станіслаў Багушэвіч. Знешне іх пратэст насіў фармальны характар. Яны пратэставалі супраць спробы пераўтварыць сейм у канфедэрацкі, хаця пра гэта нічога не гаварылася ў перадсеймавых каралеўскіх універсалах, накіраваных на павятовыя пасольскія сеймікі. Па закону гэты сейм павінен быў праводзіцца ў Беларусі, у Гародні (з 1673 г. кожны трэці сейм Рэчы Паспалітай павінен быў праводзіцца там), а не ў Варшаве. На самай жа справе кожны з прысутных, а асабліва паслы трох дзяржаў разумелі: справа ідзе аб зрыве сейма і недапушчэнні зацвярджэння падзелу.

Т.Рэйтан і яго двое сяброў 38 гадзін не пакідалі залу пасяджэнняў, каб не дапусціць абрання А.Панінскага, не паддаючыся ні на пагрозы, ні на подкуп. Але пасля таго, як 21 красавіка кароль Станіслаў Аўгуст, а разам з ім і астатнія паслы далучыліся да канфедэрацыі, яны вымушаны былі спыніць супраціўленне, аднак удзелу ў працы сейма не бралі.

Пасля гэтага работа сейма пайшла амаль без перашкод. Каб пазбегнуць небяспекі ўзбуджэння дэбатаў на сейме, Штакельберг і Панінскі, абраны ўсё ж маршалкам, звярнуліся да ўжо апрабаванага метаду – прызначэння "дэлегацыі" для выпрацоўкі дагавораў з Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. У яе склад увайшлі ў асноўным прыхільнікі Расіі. 29 верасня 1773 г. "дэлегацыя" падпісала трактаты, тым самым адмовіўшыся ад насільна адабраных зямель, пасля чаго на наступны дзень, 30 верасня, іх зацвердзіў кароль і прыняў сейм.

Такім чынам, была выканана галоўная задача, дзеля якой і склікаўся сейм у 1773 г. Але другая задача – выпрацоўка мерапрыемстваў, якія б маглі "супакоіць" Рэч Паспалітую, засталася нявыкананай. У сувязі з неабходнасцю падрыхтоўкі і прыняцця некаторых праектаў рэформаў дзяржаўнага ладу і іншых рашэнняў сейм некалькі разоў працягваў сваю работу.

Сеймавая "дэлегацыя" працавала далей пад наглядам Штакельберга. Яна павінна была ў першую чаргу распрацаваць такую форму кіравання дзяржавай, якая б адпавядала інтарэсам Расійскай імперыі і гарантавала б падпарадкаванасць Рэчы Паспалітай.

"Дэлегацыя" пацвердзіла і дапоўніла "кардынальныя правы"1768 г. Аднак тыя іх артыкулы, якія тычыліся дысідэнтаў, былі зменены ў бок абмежавання. У прыватнасці, дысідэнты зноў былі пазбаўлены права атрымліваць сенатарскія і міністэрскія пасады. На сеймах у якасці паслоў дазвалялася быць толькі тром дысідэнтам: двум ад Польшчы і аднаму з ВКЛ.

Расійскай імперыі і польска-літвінскаму магнацтву было выгадным устанаўленне ў Рэчы Паспалітай такога ладу, які б да пэўнай ступені звязваў караля і рабіў залежным яго як ад Кацярыны II, так і ад феадальнай алігархіі. Антыкаралеўская апазіцыя і расійскі пасол патрабавалі ўтварэння пры каралю Пастаяннай Рады, якая б выконвала функцыі цэнтральнай выканаўчай улады. У сакавіку 1775 г. у выніку працяглага абмеркавання было прынята рашэнне аб утварэнні Пастаяннай Рады. Яна павінна была скла-



"Каралеўскі калач". Алегорыя першага падзелу Рэчы Паспалітай

дацца з 18 сенатараў і 18 паслоў, якіх выбіралі на два гады, з падзелам на пяць дэпартаментаў: замежных спраў, паліцыі, вайсковага, справядлівасці і скарбу. На чале дэпартаментаў павінны былі стаяць адпаведныя міністры. Старшынёй Рады прызнаваўся кароль. Пры гэтым яго паўнамоцтвы, напрыклад, у прызначэнні на вызначаныя пасады абмяжоўваліся: кароль мог выбіраць аднаго з трох прапанаваных кандыдатаў.

Рада была адказнаю перад сеймам і трымала справаздачу перад ім праз кожныя два гады. Нягледзячы на першапачатковыя планы яе праекціроўшчыкаў і дзякуючы старанням Станіслава Аўгуста, Пастаянная Рада паступова станавілася дзейсным органам выканаўчай улады. Тым не менш яе востра крытыкавалі праціўнікі караля за праявы "манаршага абсалютызму", а для патрыётаў Рада была сімвалам расійскага ўціску – "пастаяннай здрадай".

Адной з самых важных спраў падзельнага сейма, як паказаў час, стала заснаванне ў межах дзяржаўных рэформаў Рэчы Паспалітай Адукацыйнай камісіі. Яна была ўтворана па прапанове падканцлера ВКЛ І.Храптовіча і са згоды паслоў 14 кастрычніка 1773 г.

У адрозненне ад іншых камісій, напрыклад вайсковай ці скарбовай, Адукацыйная камісія ў далейшым дзейнічала аўтаномна і не падпарадкоўвалася Пастаяннай Радзе, а толькі каралю. Яна павінна была складацца з васьмі асоб, абіраемых на шэсць гадоў. Адукацыйная камісія стала ў будучым, па-сутнасці, першым міністэрствам асветы ў Еўропе. Пад яе кіраўніцтвам у далейшым адбылася рэформа сярэдняй і вышэйшай адукацыі ў духу ідэй асветніцтва.

## 3. Чатырохгадовы (1788—1792) сейм і значэнне яго рашэнняў для Беларусі

**Уплыў міжнародных абставін на рэфарматарскую дзейнасць у Рэчы Паспалітай.** Вяршыняй рэфарматарскіх працэсаў, якія разгарнуліся ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст., сталі дзейнасць Чатырохгадовага сейма. У гісторыю дзяржавы ён увайшоў яшчэ і пад назвай "Вялікі" : як з нагоды працяглага тэрміну сваёй працы, так, што больш верагодна, і з нагоды важнасці прынятых на ім рашэнняў. Яны акумулявалі ў сабе папярэднія здабыткі рэфарматарскай думкі і адначасова выйшлі на новыя рубяжы сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў.

На падзеі ў Рэчы Паспалітай у канцы 80-х гг. XVIII ст. непасрэдны ўплыў аказала міжнародная сітуацыя ў Еўропе. Прыхільнікі змен у палітычным ладзе краіны, якія выступалі за ліквідацыю яе залежнасці ад Расійскай імперыі, абапіраліся на прагрэсіўныя з'явы ў жыцці іншых дзяржаў (абвяшчэнне залежнасці паўночна-амерыканскіх калоній і абсалютысцкая французская манархія вымушана была ў 1787 г. дазволіць скліканне "генеральных штатаў"). У Швейцарыі была ліквідавана ўлада алігархіі. Такім чынам, паступова, не без цяжкасцей, прабіваў сабе шлях рух свабоды і дэмакратыі як на Амерыканскім, так і на Еўрапейскім кантыненце.

У самой Рэчы Паспалітай усё больш упэўнена гучалі галасы публіцыстаў і палітыкаў, якія адстойвалі ідэі рэформаў і незалежнасці. Сярод іх у першую чаргу трэба назваць працу мешчаніна па паходжанню С.Сташыца "Увагі над жыццём Яна Замойскага" (1785). У 1788 г. з'яўляецца твор вядомага прыхільніка рэформаў Г.Калантая "Некалькі лістоў ананіма да Ст.Малахоўскага", а таксама працы Ю.Паўлікоўскага "Аб падданых польскіх" і "Палітычныя думкі для Польшчы". У першую чаргу ўвага гэтых публіцыстаў была накіравана на неабходнасць рэфармавання сейма, дапушчэння да ўдзелу ў ім багацейшых прадстаўнікоў мяшчанскага стану. З мэтай абмежавання свавольства магнатаў планавалася адхіліць ад удзелу ў рабоце сеймікаў залежную ад іх непасесійную шляхту. Адстойвалася ідэя надання сялянству асабістай свабоды, замена паншчыны чыншам. Прадстаўнікі рэфарматарскіх колаў выступалі таксама за павелічэнне колькасці рэгулярнага войска.

Аднак было зразумела, што для правядзення рэформаў унутры дзяржавы патрэбна спрыяльная міжнародная сітуацыя. Яна якраз і ўзнікала ў канцы 80-х гг. У 1787 г. Расія, а потым і Аўстрыя ўступілі ў вайну супраць Турцыі. Акрамя гэтага, у 1788 г. пачалася расійска-шведская вайна. Швецыю падтрымалі Прусія, Англія і Галандыя. У такой сітуацыі ўраду Расійскай імперыі прыходзілася думаць у першую чаргу не аб працягу экспансіяніcцкіх планаў, але аб захаванні ранейшага становішча. Істотным фактарам стала значнае пагаршэнне адносін паміж Расіяй і Прусіяй, удзельнікамі першага падзелу. Для Рэчы Паспалітай настаў спрыяльны момант, каб вызваліцца ад расійскага апякунства, фактычнай дзяржаўна-палітычнай залежнасці, распрацаваць і ажыццявіць рэформы. У атмасферы пагаршэнняў адносін паміж краінамі-падзельшчыцамі пачала крыху ўзрастаць роля Рэчы Паспалітай як самастойнага фактара ў еўрапейскай палітыцы. Падчас спаткання Кацярыны II і Станіслава Аўгуста ў Канёве на Украіне (1787) расійская імператрыца выказалася супраць змен у палітычным ладзе суседняй дзяржавы. Аднак яна пагадзілася на заключэнне абарончага саюза ў плануемай вайне супраць Турцыі і скліканне ў 1788 г. сейма пад шырмай канфедэрацыі з мэтаю павелічэння колькасці войска.

**Пачатак дзейнасці сейма**. Сейм распачаў сваю работу 7 кастрычніка 1788 г. Паколькі большасць паслоў і ад Польшчы, і ад Вялікага княства Літоўскага жадалі, каб сейм прыняў рашэнне аб павелічэнні колькасці войска, то перад яго адкрыццём была ўтворана канфедэрацыя, што дазваляла прымаць рашэнні большасцю галасоў. Было абвешчана, як звычайна, пра неабходнасць утрымаць панаванне каталіцкай веры, а таксама цэласнасць дзяржавы, шляхецкага "рэспубліканскага" ладу пры захаванні існуючых улад, павелічэнні войска, падаткаў і ўвядзенні змен, якія б палепшылі ўнутранае становішча дзяржавы. У "пасольскай ізбе" сейма ўтварылася шматлікая групоўка так званых "патрыётаў", якія перш за ўсё хацелі разарваць путы залежнасці ад Расіі і разам з тым ажыццявіць рэформы. Сярод яе кіраўнікоў былі Г.Калантай, І.Патоцкі, С.Малахоўскі і інш. У першую чаргу планавалася ліквідаваць "liberum veto", увесці спадчынны трон, адмяніць элекцыю (выбары) манарха. Важным патрабаваннем было ўстанаўленне так званага "гатовага сейма". Ён павінен быў выбірацца не на адну сесію, а на пэўны тэрмін (2 гады) і мог бы склікацца пры неабходнасці без адкладу і новых выбараў.

Перавага на сейме "патрыятычнай" ці "прагрэсіўнай" партыі ўзмацнілася пасля з'яўлення "прускай ноты". У ёй прускі пасланнік ад імя берлінскага двара заявіў пратэст супраць праекта саюза Рэчы Паспалітай з Расіяй і прапанаваў узамен заключэнне саюза з Прусіяй. Уражанне ад гэтай "ноты" было велізарным. Першы раз афіцыйна адна з суседак Рэчы Паспалітай, удзельніца першага падзелу, так рашуча выказалася супраць Расійскай імперыі. Аднак сапраўдныя намеры Прусіі былі накіраваны на забеспячэнне ўласных інтарэсаў коштам тэрытарыяльных саступак на сваю карысць з боку Рэчы Паспалітай.

У першай пастанове сейма было прызнана неабходным павялічыць колькасць рэгулярнага войска да 100 тыс. чалавек. У сувязі з гэтым па прапанове "патрыётаў" было прынята рашэнне і аб скасаванні "вайсковага дэпартамента" Пастаяннай Рады. "Патрыёты" запэўнівалі, што нельга перадаваць уладу над такім вялікім войскам дэпартаменту ўстановы, якая калісьці была навязана сілай звонку і дагэтуль заставалася пад знешнім уплывам. Замест "вайсковага дэпартамента" ўтваралася "вайсковая камісія", агульная для ВКЛ і Польшчы. За гэту прапанову прагаласавала 180 з 263 удзельнікаў сейма, якія бралі ўдзел у галасаванні. Гэта быў прамы выклік Расіі, яе гарантыйнаму апякунству. Каб замацаваць антырасійскую накіраванасць у рабоце сейма, прускі кароль Фрыдрых Вільгельм накіраваў на імя сеймавых маршалкаў К.Н. Сапегі ( ад ВКЛ) і К.Малахоўскага (ад Польшчы) спецыяльную дэкларацыю. У ёй было заяўлена, што Прусія лічыць сябе абавязанай гарантаваць незалежнасць Рэчы Паспалітай і не прызнае за сабою права ўмяшальніцтва ў яе ўнутраныя справы. Наадварот, Прусія лічыць сябе абавязанай абараняць поўную свабоду Рэчы Паспалітай у самастойным вырашэнні сваіх унутраных праблем. Такім чынам, Прусія замацоўвала ініцыятыву краіны – гаранткі будучых рэформаў у суседняй дзяржаве. Пераарыентацыя на супрацоўніцтва з Прусіяй завяршылася тым, што 29 сакавіка 1790 г. сейм ухваліў падпісанне абарончага саюза з ёю. Прычым у адрозненне ад Расіі сама Прусія нібыта была зацікаўлена не ў захаванні старога, аджылага, а ў развіцці новага і перадавога ў жыцці Рэчы Паспалітай.

Гэта "пруская" дэкларацыя яшчэ больш упэўніла прыхільнікаў рэформаў у магчымасці іх ажыццяўлення і пазбаўлення ад усеахопнага расійскага апякунства. 19 студзеня 1789 г. сейм прыняў рашэнне аб скасаванні Пастаяннай Рады. Спачатку пецярбургскі двор досыць спакойна прарэагаваў на

гэта рашэнне, якое мела характар прамога выкліку інтарэсам Расіі. Аднак пазней расійскі віцэ-канцлер папярэдзіў пасла Рэчы Паспалітай у Пецярбургу Дэболі : "Калі вы адвернецеся ад нас, можаце быць упэўненымі, што з'явіцца другі том падзелу..."

Пасля прыняцця рашэння аб значным павелічэнні колькасці войска перад сеймам паўстала пытанне: дзе ўзяць сродкі на яго ўтрыманне? Было прынята рашэнне аб павышэнні некаторых існуючых падаткаў і ўвядзенні новых. Так, павялічылася ў два разы арэндная плата ("кварта") з трымальнікаў старостваў, а з былых езуіцкіх уладанняў ("эмфітэз") – у 3,5 раза. Уводзіўся падатак у памеры 10 %, так званая "вечная ахвяра", з прыватных шляхецкіх уладанняў, а з духоўных – у памеры 20 % ад гадавога прыбытку. З запланаванай сумы ў 40 млн злотых, неабходных на ўтрыманне войска, у рэальнасці ўдалося сабраць толькі каля паловы. У сувязі з гэтым было вырашана знізіць колькасць войска да 65 тыс. чалавек.

Адной з самых галоўных задач сейма стала рэформа дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. З гэтаю мэтаю на фоне пагаднення караля Станіслава Аўгуста з "патрыётамі" ў верасні 1789 г. на сейме вылучылі з ліку паслоў і сенатараў спецыяльную "дэпутацыю для рэформаў кіравання" пад старшынствам біскупа Красінскага. Адначасова ішоў распад кансерватыўнай магнацкай групоўкі на сейме. Некаторыя пакідалі Варшаву, а С.Жэвускі і Ш.Патоцкі ўвогуле выехалі за мяжу.

У хуткім часе была створана і "дэпутацыя" па абмеркаванні мяшчанскага пытання. Штуршком для абмеркавання становішча мяшчан у дзяржаве з'явіўся з'езд упаўнаважаных ад мяшчанскага стану, арганізаваны прэзідэнтам Варшавы Дэкертам. Працэсія прадстаўнікоў 141 горада ВКЛ і Польшчы, апранутых ў чорнае адзенне, накіравала ў каралеўскі замак, уручыла сейму спецыяльную петыцыю. У ёй прадстаўнікі заможнага мяшчанства дамагаліся права набыцця зямельных уладанняў, доступу да свецкіх і духоўных пасад, права накіравання сваіх прадстаўнікоў на сейм. "Чорная працэсія" выклікала вялікае ўражанне паслоў. Яна сведчыла аб пранікненні ў Рэч Паспалітую ідэй французскай рэвалюцыі і пачатку кансалідацыі тут "трэцяга саслоўя".



Сімвал найшчаслівейшага дзяржаўнага ладу. Медзярыт 1794 г.

Паколькі выпрацоўка некаторых рэформаў кіравання, асабліва мясцовага, была вельмі неабходнай, а ўвядзенне іх у дзеянне патрабавала часу, сейм, не дачакаўшыся рашэнняў "дэпутацыі", сам стварыў органы мясцовай адміністрацыі. Такімі органамі павінны былі стаць "парадкавыя цывільна-вайсковыя камісіі". Інстытут "цывільна-вайсковых камісій" як орган мясцовай адміністрацыі павінен быў замяніць анархічнае шляхецкае самакіраванне, якое на гаспадарчых павятовых сейміках дзейнічала па сутнасці ў інтарэсах магнацтва. Рэформа мясцовай адміністрацыі была вельмі неабходнай справай і ў сувязі з рашэннем аб павелічэнні войска, набраннем "рэкрутаў", збо-

рам падаткаў. У лістападзе 1789 г. праект аб стварэнні "цывільна-вайсковых камісій", спачатку толькі для ВКЛ, быў ухвалены сеймам. Аўтарамі яго былі літвінскія паслы Т.Ваўжэцкі і М.Бутрымовіч.

Згодна з пастановай сейма, кожнае ваяводства і павет павінны былі абраць на гаспадарскіх сейміках такія камісіі ў складзе не менш чым 15 асоб на два гады. З 1791 г. у склад камісій акрамя прадстаўнікоў мясцовай шляхты ўваходзілі тры прадстаўнікі ад мяшчанства. "Цывільна-вайсковыя камісіі" павінны былі займацца справамі набору, кватаравання і харчовага забеспячэння войска. Адміністрацыйна-эканамічная функцыя гэтых устаноў заключалася ў зборы статыстычных даных аб мясцовым насельніцтве, збіранні і захаванні падаткаў, кантролі над будаўніцтвам дарог і мастоў, наглядзе за асветай, дабрачыннымі ўстановамі і інш.

**Абвастрэнне рэлігійнай сітуацыі ў Беларусі і Украіне. Скліканне ў Пінску "генеральнай кангрэгацыі".** Падчас працы сейма набыла актуальнасць рэлігійная праблема, звязаная з ураўнаваннем у правах католікаў і дысідэнтаў. З усходніх тэрыторый Беларусі і асабліва з Украіны пачалі распаўсюджвацца чуткі аб падрыхтоўцы там нейкага бунту сярод праваслаўнага насельніцтва, накіраванага супраць каталіцкай шляхты і святарства. У сувязі з гэтым сейм у 1789 г. стварыў "дэпутацыю ў справе абвінавачваемых у бунтах". Яна не знайшла канкрэтных пацвярджэнняў інспірацыі антыдзяржаўных ці антыкаталіцкіх настрояў сярод праваслаўнага насельніцтва з боку Расіі праз праваслаўнае святарства. Тым не менш па загаду "дэпутацыі" быў арыштаваны і вывезены на тры гады ў Варшаву архімандрыт слуцкі В.Садкоўскі і некалькі іншых праваслаўных святароў. Справаздача "дэпутацыі" адбылася на таемным пасяджэнні сейма 26 і 27 сакавіка 1790 г. Галоўныя рэкамендацыі "дэпутацыі ў справе абвінавачваемых у бунтах" зводзіліся да ўстанаўлення ў Рэчы Паспалітай незалежнай ад пецярбургскага сінода праваслаўнай царкоўнай арганізацыі. Адначасова звярталася ўвага і на становішча уніяцкай царквы. "Дэпутацыя" прапаноўвала як мага хутчэй увесці ў склад сената яе мітрапаліта і епіскапаў. У сувязі з гэтым пятнаццаты уніяцкі мітрапаліт Т.Растоцкі 9 верасня 1790 г. увайшоў у склад сената.

Для вырашэння пытанняў праваслаўнай царквы сейм пастанавіў склікаць у Пінску "генеральную кангрэгацыю" праваслаўных. 15 чэрвеня 1791 г. у Пінск з'ехалася каля сотні дэлегатаў. "Генеральная кангрэгацыя" ў Пінску вырашыла пытанне аб часовым праваслаўным царкоўным кіраванні ў Рэчы Паспалітай да зацвярджэння сеймам праекта аб царкоўнай аўтакефаліі. На з'ездзе ў Пінску была абрана часовая "вышэйшая кансісторыя" ў складзе 12 чалавек на чале з ігуменам Бельскага манастыра С.Пальмоўскім. У абмеркаваным і прынятым праекце ўтварэння самастойнай праваслаўнай царквы планавалася мець на чале яе мітрапаліта з кафедрай у Бельску і трох епіскапстваў – Менскага, Наваградскага і Жытомірскага. У пытаннях веры праваслаўная царква ў Рэчы Паспалітай павінна была залежаць толькі ад Канстанцінопальскага патрыярха[1]. Аб прахалодным стаўленні да гэтага праекта большасці сеймавых паслоў сведчыць той факт, што ён быў зацверджаны пад самы канец работы сейма, калі ў маі 1792 г. распачалася вайна – інтэрвенцыя Расіі ў Рэч Паспалітую.

Атрымаўшы гарантыі падтрымкі ў справе рэформаў ад Прусіі, сейм пайшоў на далейшае абвастрэнне адносін з Расіяй. 5 жніўня 1790 г. "дэпутацыя"

---

[1] *Рункевич С.* История Минской архиепископии (1793–1832 гг.). СПб., 1893. С. 133, 135; *Kalinka W.* Sprawa ruska na sejmie czteroletnim. Lwów, 1884.

ў справе рэформаў кіравання вынесла на сеймавае абмеркаванне выпрацаваны ёю новы праект "кардынальных правоў". Перш за ўсё сейм пастанавіў, што ў будучым ад дзяржавы не магла быць аддзелена ні адна частка. Гэта адразу ж прывяло да пагаршэння адносін з Прусіяй, якая спадзявалася ў прыватнасці атрымаць у якасці падзякі за сваю "гарантыю" Гданьск і Торунь. Услед за гэтым сейм абвясціў скасаванымі дамоўленасці аб расійскай "гарантыі" за 1768 і 1773–1775 гг. Адпаведная пастанова аб гэтым была занесена ў "кардынальныя правы". Але па пытанню абрання манарха сейм аказаўся не такім адзінадушным. Прапанова "дэлегацыі" аб увядзенні спадчыннага трона ў "кардынальныя правы" не ўвайшла.

**Падаўжэнне паўнамоцтваў сейма.** Паміж тым восенню 1790 г. заканчваўся тэрмін пасяджэнняў надзвычайнага сейма. У сувязі з гэтым "патрыёты" ўнеслі прапанову не распускаць канфедэрацыю і сейм, па закону абраць на сейміках новы склад паслоў і далучыць яго да старога. Гэта прапанова была прынята і сейм быў прадоўжаны яшчэ на два гады, але ўжо з падвойным складам паслоў. 16 снежня 1790 г. "новыя" паслы злучыліся са "старымі" і па прапанове Станіслава Аўгуста падпісалі акт канфедэрацыі. Такім чынам удалося захаваць пераемнасць у працы сейма, ліквідаваць пагрозу спынення працэсу рэформаў.

Адным з галоўных рашэнняў падвойнага сейма ў пачатку яго працы стала прыняцце пастановы аб павятовых сейміках ад 24 сакавіка і аб каралеўскіх гарадах ад 18 красавіка 1790 г.

Пастанова аб павятовых сейміках унесла пэўныя абмежаванні для ўдзелу ў шляхецкіх павятовых сейміках. Як вядома, сейм 1767—1768 гг., які праходзіў пад націскам расійскага пасла М.Рэпніна, унёс у "кардынальныя правы" пункт, згодна з якім уся шляхта, пасесійная і непасесійная, мела безумоўнае права доступу на сеймікі. У выніку апошнія напоўніліся "ўбогай" і цёмнай шляхецкай масай, якой маглі маніпуліраваць магнаты.

Улічваючы гэта, сейм пакінуў выбарчае права на сейміках толькі за аселай, маючай уласныя зямельныя ўладанні шляхтай.

Пастанова сейма "Гарады нашы каралеўскія вольныя ў дзяржавах Рэчы Паспалітай" распаўсюдзіла на мяшчанства права асабістай недатыкальнасці без пастановы суда. Заможныя жыхары гарадоў атрымалі таксама права набываць зямельную ўласнасць. Для іх адкрываўся доступ да грамадзянскіх і свецкіх пасад, іх заняткі былі прызнаны такімі ж ганаровымі, як і шляхецкія. Цяпер шляхціц, які, напрыклад, па нейкіх прычынах вырашыў заняцца гандлем ці рамяством, фактычна ўжо не мог быць пазбаўлены шляхецтва. Пасля прыняцця гэтай пастановы некаторыя прадстаўнікі шляхецкага стану, нават магнаты, пачалі дэманстратыўна запісвацца ў лік мяшчан-жыхароў.

Мяшчане перад кожным сеймам атрымалі права накіроўваць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў асэсарскім судзе, скарбовай і паліцэйскай камісіях. Там, пры вырашэнні пытанняў, якія тычыліся гарадоў і гандлю, ім надаваўся рашаючы голас, па іншых пытаннях – толькі дарадчы.

Прадстаўнікі мяшчанскага стану маглі прэтэндаваць і на атрыманне шляхецтва – набілітацыю. Для гэтага мяшчане павінны былі выплачваць як уладальнікі маёнткаў у дзяржаўны скарб не менш 200 злотых падатку. Шляхецтва маглі набыць таксама вайскоўцы, якія даслужыліся да капітана ці ротмістра. Акрамя таго, было вырашана на кожным сейме набілітаваць па 30 мяшчан, якія займелі заслугі перад дзяржавай. Дадзены пункт пастановы крытыкаваўся з розных бакоў. Кансерватыўная частка шляхецкага стану апасалася пераўтварэння сейма ў "аптэкарскі". Свядомая частка мяшчанст-

ва бачыла ў набілітацыйных захадах спробу "выбіць" са сваіх шэрагаў гарадскую эліту.

Такім чынам, падыход да вырашэння праблем, якія тычыліся "трэцяга саслоўя" ў Рэчы Паспалітай, значна адрозніваўся ад працэсаў, якія адбываліся, напрыклад, у Францыі падчас рэвалюцыі. У цэлым пастанову сейма аб мяшчанах можна ацаніць як безумоўны крок наперад. У той жа час яна з'яўлялася выразным кампрамісам паміж сярэдняй шляхтай і заможным мяшчанствам.

**Прынящце Канстытуцыі 3 мая**. Між тым заканатворчая праца сейма ўсё больш і больш зацягвалася. І калі спачатку міжнародная сітуацыя для рэфарматараў складвалася добра, то з 1791 г. яна значна пагоршылася. Набліжалася развязка ва ўзаемаадносінах з Расійскай імперыяй, якая, па чарзе скончыўшы з войнамі са Швецыяй і Турцыяй, магла заняцца справамі ў Рэчы Паспалітай. Прусія ўсё больш адыходзіла ад сваіх "гарантый" і задавальненне сваіх тэрытарыяльных прэтэнзій бачыла ў збліжэнні з Расіяй.

Трэба было спяшацца з заканчэннем асноўных рэформаў і прынящцем новай канстытуцыі, якая б надала ім сілу асноўнага закона. Лідэры прагрэсіўнай плыні сейма І.Патоцкі і Г.Калантай склалі праект новай канстытуцыі і вырашылі прадставіць яго сейму і правесці цалкам без абмеркавання. У гэтым яны заручыліся падтрымкай Станіслава Аўгуста. Паколькі многія пункты Канстытуцыі выклікалі на сейме адмоўнае стаўленне, для яе прынящця быў спецыяльна падабраны час – адразу пасля велікодных канікул. Разлік быў на тое, што кансерватары не паспеюць яшчэ з'ехацца ў Варшаву на сейм. Тым часам канстытуцыйны праект адносна лёгка змог бы прайсці па большасці галасоў прыхільных да яе паслоў і сенатараў, якіх спецыяльна папярэдзілі. План гэты цалкам удаўся і 3 мая 1791 г. адбылося прынящце Канстытуцыі. Пры гэтым прысутнічалі 182 сенатары і паслы. Супраць прагаласавалі 72 асобы, аднак у варшаўскім гродскім судзе было зафіксавана толькі 28 пісьмовых пратэстаў.



Абвяшчэнне Канстытуцыі 3 мая.
Паводле медзярыту з карціны К.Вайнякоўскага

Канстытуцыя 3 Мая, ці, як яна напачатку афіцыйна называлася, "Ustawa rządowa", распрацоўвалася і прымалася пад выразным уплывам перадавой асветніцкай думкі. Так, ідэя аб тым, што "ўсялякая ўлада бярэ пачатак ад народа", вынікала з разважанняў Ж.-Ж. Русо. Замацаванне ж пастулата аб падзеле ўлады на тры часткі – заканадаўчую (сейм), выканаўчую (кароль і Стража Правоў) і судовую, з выразнай перавагай першай, сведчыць аб выкарыстанні ідэй Мантэск'ё.

Канстытуцыя складалася з уводзін і 11 раздзелаў. Ва ўводзінах гаварылася, што дадзеная Канстытуцыя, беручы ў разлік даўнія недахопы дзяржаўнага кіравання ў Рэчы Паспалітай, імкнучыся дасягнуць знешняй незалежнасці і ўнутранай свабоды, прымаецца для захавання дзяржавы і яе межаў.

У першым раздзеле пануючай рэлігіяй у дзяржаве звыкла абвяшчалася каталіцтва. Аднак адначасова гарантавалася "ўсім людзям, якога – кольвечы вызнання, спакой у веры і апякунства ўрада" свабода веравызнанняў. Другі раздзел пацвярджаў усе правы і свабоды шляхецкага стану, трэці – уводзіў у якасці складанай часткі Канстытуцыі пастанову аб гарадах.

Чацвёрты раздзел утрымліваў новыя нормы аб сялянах. Праца селяніна прызнавалася галоўнай крыніцай багацця дзяржавы, а само сялянства – самай вялікай часткай насельніцтва. Абвяшчалася, што ва ўзаемаадносінах з землеўласнікамі сялянства бярэцца "пад ахову права і нашага ўрада". Таксама гарантавалася поўная свабода выбару заняткаў для тых, хто пажадаў перасяліцца ў Рэч Паспалітую з іншых краін. Залежнасць прыгоннага селяніна ад феадалаў у гэтым раздзеле не скасоўвалася, але хоць на словах была зроблена спроба крыху абмежаваць іх свавольства.

У іншых раздзелах Канстытуцыі 3 мая вызначаліся структура і паўнамоцтвы двухпалатнага сейма, устанаўліваўся новы вышэйшы орган выканаўчай улады для ўсёй Рэчы Паспалітай – Стража Правоў. У склад урада ўваходзілі ў якасці старшыні кароль, кіраўнік каталіцкай царквы – прымас як старшыня камісіі народнай асветы і пяць міністраў: паліцыі, унутраных і замежных спраў, вайсковы і фінансаў.

Да найбольш важных змен у дзяржаўным ладзе можна аднесці адмену права "liberum veto" і выбарнасці (элекцыі) караля і вялікага князя. Пры гэтым манарх па Канстытуцыі захоўваў за сабою дастаткова вялікія паўнамоцтвы: ён з'яўляўся галоўнакамандуючым, прызначаў вышэйшых свецкіх урадоўцаў, генералаў і афіцэраў, епіскапаў.

Апошні, адзінаццаты раздзел Канстытуцыі быў прысвечаны войску. Яно павінна было складацца са шляхецкага паспалітага рушання і рэкрутаў, якіх трэба было набіраць з сялян. Войска падпарадкоўвалася выканаўчай уладзе і прысягала на вернасць манарху і Канстытуцыі.

Канстытуцыя 3 мая 1791 г. – першы ў Еўропе і другі ў свеце, пасля Канстытуцыі ЗША, асноўны дзяржаўны закон. Яна прымалася ў абставінах вострай палітычнай барацьбы і з'явілася вынікам пэўнага кампрамісу паміж аджываючымі феадальна-прыгонніцкімі і новымі буржуазнымі адносінамі. Некаторыя пытанні з-за неспрыяльнага міжнароднага становішча на сейме не былі разгледжаны да канца: не была ўхвалена пастанова аб Адукацыйнай камісіі, у стане дыскусіі засталася рэформа становішча яўрэяў у Рэчы Паспалітай.

Канстытуцыя 3 мая ў цэлым была вельмі прыхільна сустрэта насельніцтвам дзяржавы, у тым ліку і на беларускіх землях. Каля 90 % павятовых сеймікаў у лютым 1792 г. прызнала яе. Астатнія проста ніяк не выказаліся[1].

[1] *Szczygielski W.* Referendum trzeciemajve. Lódz, 1994. S. 397.

**Статус беларуска-літоўскіх зямель ў Рэчы Паспалітай паводле Канстытуцыі 3 мая**. Падчас працы Чатырохгадовага сейма сутыкнуліся дзве тэндэнцыі ў дачыненні да ВКЛ. Першая зыходзіла ад Станіслава Аўгуста і рэфарматараў і насіла цэнтралізатарскі характар. Яна вяла да максімальнай уніфікацыі ва ўсіх галінах грамадска-палітычнага жыцця. Другую тэндэнцыю – незалежніцкую – падтрымлівалі паслы ад беларускіх і літоўскіх паветаў. Яны адстойвалі захаванне асаблівасцей і "вячыстых" правоў сваёй дзяржавы ў складзе Рэчы Паспалітай "двух народаў". Тое, што назва ВКЛ нават не ўпаміналася ў тэксце Канстытуцыі (толькі ўскосным чынам у тытуле Станіслава Аўгуста), не магло выклікаць у іх захаплення. Таму са спазненнем, але з'явіўся 20 кастрычніка 1792 г. своеасаблівы дакумент пад назвай "Узаемная гарантыя двух народаў", які павінен быў урэгуляваць гэту недарэчнасць. Маршалак сейма ад ВКЛ Казімір Нестар Сапега абвясціў праект "Узаемнай гарантыі", які прадугледжваў аб'яднанне войска і скарбу, а таксама агульных для ВКЛ і Польшчы магістратур. Пры гэтым у іх павінна была засядаць аднолькавая колькасць літвінаў і палякаў. Старшынства ў галоўных дзяржаўных камісіях, вайсковай і скарбовай, павінна было чаргавацца. Вялікае княства Літоўскае забяспечвала па гэтай "Гарантыі" свой скарб і суд, а таксама права "мець такую ж самую лічбу міністраў і дзяржаўных устаноў і з тымі ж тытуламі і абавязкамі, якія Карона калі-небудзь мець будзе". Гародня і надалей заставалася адной з дзвюх сеймавых сталіц Рэчы Паспалітай. Станіслаў Аўгуст ухваліў гэта пагадненне і прызнаў яго ў якасці аднаго з артыкулаў "pacta conventa"[1].



Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі

Такім чынам, быў дасягнуты няпросты кампраміс, які акрэсліваў характар узаемаадносін паміж ВКЛ і Польшчай пасля прыняцця Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Аўтаномія беларуска-літоўскіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай была значна зменшана, але да канца так і не скасавана. "Узаемная гарантыя" сведчыла аб неабходнасці ўліку інтарэсаў ВКЛ.

Калі казаць аб міжнароднай рэакцыі на прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г., то трэба адзначыць, што ў цэлым яна была прыхільнай. Папа рымскі прыслаў Станіславу Аўгусту сваё віншаванне і асобным breve (указам) перанёс на дзень 3 мая каталіцкае свята – дзень св. Станіслава. Станоўча выказаліся аб Канстытуцыі Аўстрыя, Прусія, Данія, прызнаючы, аднак, яе рэвалюцыйны характар. І толькі адна Расія пакуль што пагрозліва маўчала. Змены, якія адбыліся ў Рэчы Паспалітай, Кацярына II невыпадкова ахарактарызавала як выразную спробу дабіцца незалежнасці ад Расіі, а Канстытуцыю назвала "ўвасабленнем якабінскіх правіл", яе ж стваральнікаў – "апантанымі д'яблам". Яна адразу мела на мэце не толькі ліквідацыю гэтай шкоднай Канстытуцыі, але і чарговы падзел Рэчы Паспалітай.

---

[1] *Rostworowski E.* Legendy i fakty XVIII w. Warszawa, 1963. S. 452; Zbior konstytucyi i uchwał Sejmu ... od dnia 7 pazdziernika w roku 1788 do dnia 16 grudnia roku 1790. Warszawa, 1791 (б/с).

## 4. Таргавіцкая канфедэрацыя і адыход да Расіі цэнтральных і паўднёвых зямель Беларусі

**Арганізацыя антырэфарматарскай канфедэрацыі.** Пасля заключэння міру з Турцыяй у пачатку 1792 г. Расія была гатова да актыўных дзеянняў у Рэчы Паспалітай. З самага пачатку Кацярына II разлічвала на дапамогу з боку часткі магнацтва, варожа настроеных да Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Яшчэ ў маі таго ж 1791 г. Ш.Патоцкі, генерал кароннай артылерыі, звяртаўся з Вены праз М.Пацёмкіна да расійскай імператрыцы з прапановай аб падтрымцы з боку Расіі антырэфарматарскай рэканфедэрацыі.

У сакавіку 1792 г. у Пецярбургу апынуліся Ш.Патоцкі, С.Жэвускі і К.Браніцкі — лідэры антырэфарматарскага руху. У хуткім часе да іх далучыўся і былы барскі канфедэрат, генерал-лейтэнант расійскай службы С.Касакоўскі. Падчас сустрэч і перагавораў паміж Кацярынай II і міністрамі яе двара з кіраўнікамі апазіцыі выпрацоўваўся праект «новага» дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Адным з яго пунктаў стала патрабаванне адмены ўсяго таго, што было ўхвалена на Чатырохгадовым (Вялікім) сейме і супярэчыла ранейшай уніі ВКЛ і Польшчы, г. зн. таго, што было накіравана на цэнтралізацыю ўлады, уніфікацыю дзяржаўна-палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай праз ліквідацыю, у прыватнасці, асобных «літоўскіх» магістратур і пасад. Так, прадугледжвалася вяртанне інстытута гетманства як процівагі ўзмацненню каралеўскай улады ў далейшым.

27 красавіка 1792 г. лідэры апазіцыі і невялікая група іх прыхільнікаў (усяго 14 чалавек) падпісалі ў Пецярбургу «Акт канфедэрацыі генеральнай вольнай кароннай». Менавіта ён потым быў абвешчаны пад іншай датай — 14 мая 1792 г. ва ўкраінскім мястэчку Таргавіца, а ўтвораная на яго аснове канфедэрацыя атрымала назву Таргавіцкай.

Акт Таргавіцкай канфедэрацыі звычайна азначаў прыярытэт каталіцкай веры. У ім падкрэслівалася вяртанне «роўнасці і вольнасці» для ўсёй, а не толькі для аседлай шляхты. Рабіўся выразны акцэнт на захаванне цэласнасці дзяржавы: «на адарванне найменшай часткі краю або яго прыналежнасцей дазваляць не будзем». Галоўны ж націск быў накіраваны на ліквідацыю Канстытуцыі 3 мая, вяртанне «залатых шляхецкіх вольнасцей». Пры гэтым Станіслаў Аўгуст нідзе ў акце не ўпамінаўся, што можна было разглядаць як маўклівую спробу яго дэтранізацыі.

У якасці кіраўнікоў канфедэрацкага руху ў Польшчы бачыўся Ш.Патоцкі, у ВКЛ — канцлер Аляксандр Сапега. С.Касакоўскаму планавалася перадаць рэгіментарства (намесніцтва) пры вялікім гетмане войска ВКЛ, якім на той час быў Міхал Агінскі. Яму ж даручалася кіраўніцтва працай па далучэнні да канфедэрацыі беларускіх і літоўскіх ваяводстваў і паветаў. Літвінская канфедэрацыя, складзеная стараннямі Касакоўскага, павінна была злучыцца з кароннай.

Яшчэ 30 красавіка 1792 г. у Варшаву быў накіраваны з Санкт-Пецярбурга ад расійскай імператрыцы тэкст дэкларацыі паслу Я.Булгакаву. Дакладная дата яе абвяшчэння не называлася. Паслу толькі паведамлялася, што ўваходжанне войскаў Расіі ў землі Рэчы Паспалітай плануецца не пазней 21 мая. Інструкцыя дазваляла яму самастойна выбраць дзень для падачы яе вышэйшым асобам дзяржавы. Я.Булгакаў вырашыў зрабіць гэта 18 мая 1792 г. Ён уручыў тэкст дэкларацыі падканцлеру ВКЛ І.Храптовічу, які кіраваў замежнымі справамі ў Стражы Правоў.

«Дэкларацыя» матывавала прычыны ўвядзення расійскіх войскаў на тэрыторыю Рэчы Паспалітай і абвяшчала падтрымку Таргавіцкай канфедэра-

цыі. У ёй, у прыватнасці, гаварылася, што «расійская гарантыя» не павінна лічыцца ярмом, бо, напрыклад, ужо існуе такая сістэма сярод германскіх дзяржаў, што цяперашні сейм быў скліканы як звычайны, але бясправўна пераўтварыўся ў канфедэрацкі, што Рэч Паспалітая падчас вайны Расіі з Турцыяй накіравала сваіх паслоў у Стамбул для перагавораў, што склады маскоўскія было загадана вывезці з Рэчы Паспалітай, а падчас вывазу яшчэ было загадана і падатак мытны выплачваць, што быў беспадстаўна арыштаваны архімандрыт слуцкі В.Садкоўскі і ўвогуле прыгняталіся праваслаўныя вернікі. Не былі забыты ў дэкларацыі і абразлівыя, па меркаванні расійскага боку, у дачыненні да Кацярыны II выступленні паслоў на бягучым сейме. Звярталася ўвага на беспадстаўнае ўвядзенне спадчыннага трона. Пры гэтым гаварылася, што войскі ўводзяцца на тэрыторыю Рэчы Паспалітай па просьбе праціўнікаў рашэнняў сейма для «вяртання даўняй волі і незалежнасці». Таму іх трэба разглядаць як войскі «дружалюбныя», неабходныя для адраджэння былых правоў, адабраных Канстытуцыяй 3 мая[1].

21 мая поўны тэкст «дэкларацыі» быў зачытаны на пасяджэнні сейма, пасля чаго слова ўзяў Станіслаў Аўгуст. Абвінавачванні ў адрас Канстытуцыі 3 мая, Рэчы Паспалітай у цэлым былі названы зняважлівымі і беспадстаўнымі. З аднаго боку, Станіслаў Аўгуст заклікаў да абароны дзяржавы, а з другога — выказаў неапраўданую надзею, што калі Кацярына II «даведаецца праўду», яна возьме свае пагрозы назад. Ён заявіў, што было б найлепш дабіцца паразумення шляхам перагавораў, «лепей пяром, чым зброяй». Парадокс сітуацыі заключаўся ў тым, што з-за няроўнасці сіл сапраўды адзіным выйсцем з сітуацыі было спыненне ваенных дзеянняў і пачатак перагавораў. Але каб прымусіць пайсці на іх Кацярыну II, трэба было змагацца. Менавіта ў гэтай прамове кароль выказаў пажаданне аб неадкладным разглядзе і прыняцці прапаноў «пінскай кангрэгацыі», што і было зроблена ў гэты ж дзень[2].

22 мая Станіслаў Аўгуст быў прызначаны сеймам галоўнакамандуючым над усімі ўзброенымі сіламі Рэчы Паспалітай. Праз тры дні манарх звярнуўся з патрыятычнай адозвай да войска «двух народаў». Пазіцыя Кацярыны II была ім ахарактарызавана як «спроба з чужою дапамогаю вярнуць даўнейшае бязладдзе, даўнейшую залежнасць, бяссілле і ганьбу». 29 мая 1792 г. адбылося апошняе пасяджэнне Чатырохгадовага сейма. Ён зацвердзіў афіцыйны адказ Рэчы Паспалітай на расійскую «дэкларацыю», адмаўляў кожны з яе пунктаў і заклікаў да абароны дзяржавы.

Пэўны час сярод атачэння Станіслава Аўгуста існавала хісткая надзея, што згодна са сваімі дагаворнымі абавязацельствамі ў канфлікт на баку Рэчы Паспалітай умяшаецца Прусія. Але візіт у Берлін І.Патоцкага ў пачатку чэрвеня паказаў, што Фрыдрых Вільгельм II рабіць гэтага не збіраецца. Фармальнай прычынай адмовы для прускага боку стала прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г. ужо пасля падпісання абарончага саюза. Значыць, бараніць яе Прусія не абавязвалася.

Інтэрвенцыя Расійскай імперыі ў Рэч Паспалітую пачалася з уваходжання на яе тэрыторыю амаль 100-тысячнага войска. У пачатку ваенных дзеянняў яно было падзелена на дзве арміі — украінскую (64 тыс. чалавек) пад камандаваннем М.Кахоўскага і беларускую (32 тыс. чалавек) на чале з Г.Крачэтнікавым.

---

[1] Korespondent warszawski. 1792. № 9. 22 maja. S. 73.

[2] Там жа. № 10. S. 74.

Армія Крачэтнікава складалася з чатырох частак. Корпус пад камандаваннем С.Касакоўскага з-пад Полацка павінен быў рухацца праз Пастава на Ліду, корпус Меліна з-пад Талочына — на Менск і Наваградак. Войскі князя Далгарукага з-пад Дынабурга (Даўгаўпілс) павінны былі накіравацца на Вільню. На поўдні корпус Ферзена пад Рагачовам прызначаўся для падтрымкі і ўзаемадзеяння з украінскай арміяй. У сваіх рэскрыптах камандуючым Кацярына II асаблівую ўвагу звяртала на тое, што «першы стрэл» павінен быць з боку непрыяцеля.

Войска Рэчы Паспалітай знаходзілася ў стадыі рэфармавання і не было падрыхтавана да шырокамаштабных дзеянняў. Толькі ў красавіку 1792 г. сейм пачаў рабіць захады па ўзмацненні абароны дзяржавы. 21 красавіка было прынята рашэнне павялічыць войска да 100 тыс. чалавек, штат якога быў зацверджаны толькі 22 мая. Не хапала афіцэрскіх кадраў, узбраення, амуніцыі, а таксама патрэбных фінансавых сродкаў. У выніку Рэч Паспалітая змагла выставіць супраць інтэрвентаў не больш 45—47 тыс. чалавек, пры гэтым да 20 тыс. было пакінута ў рэзерве.

Колькасць войска ВКЛ не перавышала 14,5 тыс. чалавек. Галоўныя яго сілы (9 тыс.) знаходзіліся пад Менскам. Астатнія былі рассяроджаны па краі. Фактычна аголенай была мяжа з Расійскай імперыяй на ўсходзе. За ёю «наглядаў» полк татарскай кавалерыі ў паўтары тысячы чалавек пад камандаваннем генерала Ю.Беляка.

Асноўныя сілы Рэчы Паспалітай (каля 30 тыс. чалавек) пад камандаваннем пляменніка караля Ю.Панятоўскага былі сканцэнтраваны на Украіне. Адной з дывізій там камандаваў генерал-маёр Т.Касцюшка.

**Ваенныя дзеянні на беларускіх землях.** 22 мая войскі М.Крачэтнікава ўвайшлі на тэрыторыю Беларусі. Расійскія атрады не сустрэлі якога-небудзь сур'ёзнага адпору. Разрозненыя і нешматлікія часткі войска ВКЛ адступалі, пазбягаючы бою, пад Барысаў, Слуцк і Менск. Сітуацыя ў Вялікім Княстве з самага пачатку ўскладнілася з прычыны здрады камандуючага войскам ВКЛ Л.Віртэмбергскага. Быў выпадкова перахоплены яго ліст да прускага караля ў Берлін, у якім ён паведамляў, што кіруе сваім войскам згодна з распараджэннем Фрыдрыха Вільгельма II. Князь Л.Віртэмбергскі паведамляў таксама, што спецыяльна не збірае разам войска ВКЛ, каб стварыць як мага лепшыя ўмовы для перамогі над ім. Калі здрада была выкрыта, 7 чэрвеня 1792 г. галоўнакамандуючым літвінскім войскам быў прызначаны генерал-лейтэнант Ю.Юдыцкі.


Афіцэр гвардыі рэгіменту пяхоты ВКЛ

Яшчэ перад гэтым у атмасферы ўсеагульнага бязладдзя 31 мая атрады Ю.Юдыцкага пакінулі Менск. Яму пагражаў надыходзячы з Барысава корпус генерала Меліна (9600 чалавек) і корпус генерала Ферзена (5500 чалавек), які ішоў з-пад Бабруйска на Слуцк. 4 чэрвеня ў Менск увайшлі расійскія войскі. Ю.Юдыцкі адступіў спачатку праз Стоўбцы на Свержань і Мір. Пад Мірам нарэшце вырашана было даць бой.

Генерал Мелін здолеў 10 чэрвеня бесперашкодна пераправіцца пад Стоўбцамі праз Нёман і на наступны дзень атакаваць Юдыцкага. Першай не вытрымала агню расійскай артылерыі кавалерыя, якая пачала адступленне, больш падобнае на ўцёкі. Дарэмна Ю.Юдыцкі імкнуўся сабраць рэшткі пяхоты, каб арганізаваць які-небудзь адпор. Яго войску прыйшлося адступіць у кірунку да Гародні. Будучы кіраўнік паўстання 1794 г. у ВКЛ Я.Ясінскі пасля гэтай бітвы прасіў аб пераводзе на іншую службу, матывуючы гэта тым, што тут яго чакаюць або страта жыцця ў замяшанні і бязладдзі, або вяртанне дамоў з рэпутацыяй дэзерціра ці здрадніка[1].

16 чэрвеня без бою здалася генералу Ферзену нясвіжская фартэцыя. У гэты ж дзень расійскія войскі ўвайшлі ў Наваградак, але не засталі там «ні магістратуры, ні шляхты». Ваколічная шляхта ў большасці сваёй, як і ў іншых месцах, таксама адступала разам з войскам. У выніку ў таргавічан часам былі праблемы са зборам людзей для ўтварэння мясцовых канфедэрацый. Так, яшчэ 25 мая, калі войскі генерала Далгарукага занялі Браслаў, там была абвешчана «вольная канфедэрацыя Браслаўскага павета», якая далучылася да Таргавіцкай. Але на яе абвяшчэнне з'явілася мала шляхты, некалькі дзесяткаў прывялі ў Браслаў казакі. Падобная сітуацыя склалася і ва Ушачах, Барысаве, Менску на першапачатковым этапе вайны, калі яе вынікі былі яшчэ не вядомы.

Атмасфера ўсеагульнага разладу яскрава адбілася на лёсе Вільні. Не было зроблена нават спробы арганізаваць яе абарону. У канцы мая генерал-маёр М.Забела, маючы ўсяго 600 чалавек пяхоты і 700 чалавек кавалерыі, пакінуў сталіцу. Папярэдне былі вывезены арсенал, эвакуіраваны ў Гародню і Варшаву, канцылярыя, архівы. 14 чэрвеня войскі Далгарукага і С.Касакоўскага ўвайшлі ў пакінуты горад. 16 чэрвеня члены віленскага магістрата былі запрошаны да С.Касакоўскага. Ён прапанаваў усім ім неадкладна далучыцца да Таргавіцкай канфедэрацыі пад пагрозай аддаць горад «на пагулянне» казакам.

25 чэрвеня ў Вільні было абвешчана ўтварэнне Генеральнай канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага. Па сутнасці тэкст яе акта супадаў з таргавіцкім варыянтам. На пасаду маршалка ў канфедэрацыі запрашаўся канцлер А.Сапега, на намесніцтва – сваяк С.Касакоўскага, лоўчы літоўскі Ю.Забела, які знаходзіўся ў Варшаве. Сам Касакоўскі «з волі народу» быў абраны палявым гетманам ВКЛ. Бадай, гэта быў першы ў гісторыі Княства гетман, які дэманстратыўна хадзіў у мундзіры расійскага генерал-лейтэнанта.

Пасля паражэння пад Мірам галоўнакамандуючым войскамі ВКЛ 23 чэрвеня быў прызначаны генерал-маёр М.Забела. Ён перагрупіраваў свае невялікія сілы і 29 чэрвеня рушыў з-пад Гародні ў напрамку Слоніма. Пад Зэльваю 4 ліпеня адбылася сутычка паміж авангардам войска ВКЛ, якім камандаваў маёр Ведэльшдэт, і часткай падыходзячага корпуса Ферзена, без бачнай перавагі таго ці іншага боку. Паколькі на дапамогу Ферзену падыходзіў корпус Меліна, М.Забела вырашыў адступіць, бо не спадзяваўся, відаць, на перамогу свайго дэмаралізаванага войска.

План ваенных аперацый з боку войска ВКЛ, як бачна, не прадугледжваў актыўных дзеянняў. Для гэтага па прычыне значнай колькаснай перавагі расійскага войска і ўласнай непадрыхтаванасці не было ніякіх падстаў. Заставаліся толькі абарончыя дзеянні, што і прывяло да адступлення войскаў як з Беларусі, так і з Украіны з мэтаю абароны Варшавы.

Справа хутка набліжалася да развязкі. 7 ліпеня расійскія войскі занялі Гародню. Галоўнакамандуючы М.Забела з часткай атрадаў адышоў на Пад-

---

[1] Przegląd Historyczny. T. XLV, Z/ 1. 1954. S. 33.

ляшша. Другую частку войска ён накіраваў пад Берасце, каб абараніць апошні важны стратэгічны пункт на тэрыторыі ВКЛ. 23 ліпеня пачаўся штурм фартыфікацыйных умацаванняў войскамі генерала Ферзена. Пасля жорсткага пяцігадзіннага бою абарона была прарвана, пачалося адступленне літвінскага воінства. Берасце апынулася ў руках наступаючага расійскага войска. Тут, як і ў іншых месцах, немалую ролю адыграла перавага ў сіле: васьмітысячнаму корпусу генерала Ферзена супрацьстаялі тры тысячы абаронцаў.

Няздольнасць рэгулярнага войска ВКЛ абараніць край прымушала шукаць і выкарыстоўваць новыя формы змагання. Падчас вайны была зроблена спроба арганізаваць у Беларусі атрады добраахвотнікаў з мясцовага насельніцтва для больш шырокага адпору ворагу. Ініцыятарам стварэння такіх атрадаў стаў Я.Ціхоцкі. Ён планаваў сабраць з «лясной службы» ў Берасцейскай і Гародзенскай эканоміях ажно 4000 стральцоў. Т.Ваўжэцкі больш рэалістычна ставіўся да гэтай праблемы і лічыў, што ў лепшым выпадку з Берасцейскай эканоміі ўдасца сабраць з ліку падляснічых і стражнікаў не больш 400 чалавек, якія б умелі карыстацца зброяй.

Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст прыхільна аднёсся да гэтай ідэі Я.Ціхоцкага і Т.Ваўжэцкага. Але замест накіравання стральцоў пад Варшаву ён прапанаваў выкарыстаць іх для мясцовай абароны. Ім жа яшчэ 6 чэрвеня 1792 г. «для рэкрутавання стральцоў» былі накіраваны ў Беларускае Палессе афіцэры пяхотнага палка войска ВКЛ капітан Ф.Канопка і паручнік С.Казлоўскі, харужы Кужанецкі. Але іх місія, у прыватнасці на Піншчыне, не сустрэла падтрымкі. Сюды якраз дайшлі весткі аб паражэнні пад Мірам. Сам Кужанецкі меў слабую надзею на арганізацыю адпору за кошт мясцовага насельніцтва ў Пінскім павеце, які «складзены найбольш з праваслаўнай шляхты без капіталу». Спробы арганізаваць атрады добраахвотнікаў рабіліся ў Наваградку і Берасці. Але недахоп зброі, амуніцыі, грошай, хуткае наступленне расійскага войска не дазволілі шырока развіць гэту справу.



Шэраговы гвардыі рэгіменту пяхоты ВКЛ

Адначасова з перамяшчэннем расійскага войска на захад і выцясненнем атрадаў ВКЛ вырашалася яшчэ адна важная задача — утварэнне павятовых і ваяводскіх канфедэрацый. С.Касакоўскі разам са сваім братам інфлянцкім біскупам Ю.Касакоўскім фактычна ўзялі гэтую справу ў свае рукі. Так, пасля ўзяцця Вільні корпус С.Касакоўскага 4 ліпеня знаходзіўся ў Шчучыне. Там было прынята рашэнне аб утварэнні канфедэрацыі Лідскага павета. 9 ліпеня ў дзень каранацыі Кацярыны II С.Касакоўскі сабраў у Гародні каля 500 чалавек ваколічнай шляхты і абвясціў аб утварэнні Гародзенскай канфедэрацыі. Гэтым жа днём у рапарце М.Крачэтнікаву ён паведаміў аб арганізацыі яшчэ чатырох канфедэрацый, у тым ліку Менскай. «Сканфедэраванне» шляхты ў прысутнасці расійскага войска адбылося ў Наваградскім, Ашмянскім,

Ваўкавыскім і іншых паветах. Нельга, аднак, не ўлічваць таго, што вяртанне таргавічанамі палітычных правоў неаседлай шляхце магло добраахвотна прыцягваць яе да канфедэрацкага руху.

Імператрыца Кацярына II у адказе на ліст Станіслава Аўгуста, у якім ён імкнуўся дабіцца больш-менш пачэсных умоў перамір'я, заявіла, што адзінай умовай будзе з'яўляцца далучэнне караля да Таргавіцкай канфедэрацыі. 23 ліпеня Станіслаў Аўгуст афіцыйна абвясціў аб спыненні ваенных дзеянняў і далучэнні да Таргавіцы.

Перад гэтым войскі Рэчы Паспалітай, кароннае і літвінскае, якія налічвалі адпаведна 19 тыс. і 11 тыс. чалавек і знаходзіліся пад камандаваннем генералаў Ю.Панятоўскага і М.Забелы, былі выцеснены за Буг і Нараў, але яшчэ былі гатовы да супраціўлення. У рэзерве знаходзілася да 20 тыс. чалавек гвардыі, так і не выкарыстанай Станіславам Аўгустам. Пад уражаннем капітулянцкага рашэння караля дзесяткі афіцэраў, у тым ліку Ю.Панятоўскі і Т.Касцюшка, дэманстратыўна падалі ў адстаўку і выехалі ў эміграцыю.

**Другі падзел Рэчы Паспалітай.** Тым не менш вынікі гэтай вайны і дзейнасці Таргавіцкай канфедэрацыі сталі адным з самых трагічных у лёсе Рэчы Паспалітай. У хуткім часе «заснавальнікі» Таргавіцкай канфедэрацыі ўбачылі, чаго варта для Кацярыны II іх папярэдняя заява аб непарушнасці межаў дзяржавы. 23 студзеня 1793 г. прадстаўнікі Расіі і Прусіі падпісалі пагадненне аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. Галоўным апраўданнем дзвюх дзяржаў стала неабходнасць барацьбы з «якабінскай заразай», якая паўплывала на рэфарматарскія рашэнні Чатырохгадовага сейма. Рэвалюцыйная Францыя бачылася ў першую чаргу Кацярыне II галоўнай натхніцелькай Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

Паводле ўмоў другога падзелу Прусія атрымлівала даўно жаданыя Гданьск і Торунь разам з часткай Вялікапольшчы, Куяваў, Мазовіі і іншых зямель, плошча якіх разам складала 58 тыс. км$^2$. Да Расійскай імперыі адыходзілі ў асноўным беларускія і ўкраінскія землі. У складзе Расіі апынуліся цэнтральна-паўночныя і паўднёвыя землі Беларусі з гарадамі Менскам, Нясвіжам, Слуцкам, Пінскам, Мазыром. Новая мяжа прайшла прыблізна па лініі Друя—Пінск—Збруч (на Украіне). Тэрыторыя, якую захапіла Расія, складала 250 тыс. км$^2$.

Прусія, якая не стала чакаць афіцыйнага абвяшчэння падзельнай канвенцыі, увяла свае войскі на польскія землі. Гэта азначала нішто іншае як палітычны крах для лідэраў Таргавіцы. К.Браніцкі і Ш.Патоцкі яшчэ спрабавалі ў Пецярбургу знайсці там «праўду». С.Жэвускі нават заклікаў да паспалітага рушання супраць Прусіі. Гэта азначала, што з захопамі Расійскай імперыі яны фактычна згаджаліся. Пасля афіцыйнага абвяшчэння аб другім падзеле Рэчы Паспалітай гэтыя лідэры Таргавіцкай канфедэрацыі склалі паўнамоцтвы і выехалі ў свае маёнткі, а некаторыя, як, напрыклад, А.Сапега, за мяжу.

Такім чынам, уся ўлада ў канфедэрацыі з вясны 1793 г. апынулася фактычна ў руках братоў Касакоўскіх.

Цалкам скампраметаваны ў вачах грамадскасці быў і Станіслаў Аўгуст. У адчаі ён нават некаторы час прасіў у Кацярыны II дазволу на адмову ад трона. Але гэта было немагчыма. Без удзелу Станіслава Аўгуста не мог адбыцца сейм, які павінен быў зацвердзіць другі падзел яго дзяржавы.

Апошні сейм Рэчы Паспалітай адбыўся ў Гародні з 17 чэрвеня па 23 лістапада 1793 г. Галоўнай мэтай яго склікання, па меркаванні Кацярыны II, павінна было стаць зацвярджэнне падзельных трактатаў з Расіяй і

Прусіяй. Адмена рашэнняў Чатырохгадовага сейма і прыняцце адпаведных пастаноў лічыліся задачай другараднай. Кацярына II нават рэкамендавала свайму паслу Я.Сіверсу пасля зацвярджэння трактатаў аб падзелах дабівацца часовага спынення яго работы, каб «головы несколько успокоились от хлопот и огорчений».

Выбары ў сейм адбыліся 27 мая 1793 г. паводле пастановы Пастаяннай рады, дзейнасць якой была адноўлена рашэннем Таргавіцкай канфедэрацыі 21 красавіка. Аднак гэта пастанова Рады была прынята 3 мая. Усяго было абрана каля 140 паслоў. Перад іх абраннем расійскі пасол дабіўся прыняцця спецыяльнай пастановы Пастаннай радай аб недапушчэнні ў сейм прыхільнікаў і абаронцаў Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Таргавічане ў сейме складалі безумоўную большасць і падзяляліся на дзве прарасійскія групоўкі. Першая групавалася вакол караля і імкнулася да стварэння максімальна цэнтралізаванай дзяржавы. Другая, літвінская групоўка аб'ядналася вакол біскупа інфлянцкага Ю.Касакоўскага і гетмана ВКЛ С.Касакоўскага. Касакоўскія лічылі магчымым нават уваходжанне ВКЛ у склад Расійскай імперыі з абавязковым захаваннем беларускай і літоўскай шляхце іх старых прывілегій. Аднак Кацярына II не жадала абвастрэння адносін з Прусіяй і Аўстрыяй і не падтрымала такіх прапаноў.

Падзельны трактат з Расіяй быў прыняты на сейме 17 верасня. Падпісанне трактата, у тэкст якога паслы не маглі ўносіць змены, адбывалася ў абставінах прымусу, пагроз і дэманстрацыі ваеннай сілы. Перад гэтым па загаду Сіверса пяць найбольш апазіцыйна настроеных паслоў былі арыштаваны і вывезены з Гародні. Некаторых трымалі пад хатнім арыштам, іншым пагражалі секвестрам маёнткаў.

Яшчэ большае непрыманне з боку паслоў сейма сустрэў праект падзельнага трактата з Прусіяй, з якой зусім нядаўна быў падпісаны абарончы саюз і на дапамогу якой разлічвалі ў ажыццяўленні рэформаў. 23 верасня Сіверс загадаў двум батальёнам грэнадзёраў акружыць каралеўскі замак і не выпускаць з сеймавай залы караля і паслоў, пакуль не будзе прыняты «прускі трактат». Яшчэ раней расійскія вайскоўцы атрымалі права прысутнічаць у зале пасяджэнняў. Адзін з афіцэраў сядзеў у крэсле побач з каралём. Усё гэта матывавалася неабходнасцю абароны Станіслава Аўгуста, на жыццё якога нібыта рыхтаваўся замах.





Новы замак у Гародні. Другая палова XVIII ст. Акварэль І.Пешкі

Каля ўваходу ў каралеўскі палац напярэдадні былі пастаўлены гарматы. У знак пратэсту супраць гвалту паслы вырашылі не ўдзельнічаць у абмеркаванні праекта дагавора з Прусіяй. Такім чынам, адбылося "нямое пасяджэнне" сейма, на якім ніхто з паслоў не ўзяў слова. Урэшце ноччу 24 верасня маршалак сейма С.Бялінскі здагадаўся вытлумачыць гэта маўчанне як адзінагалосную згоду паслоў з умовамі падзельнага трактата з Прусіяй.

16 красавіка быў прыняты "саюзны" дагавор Рэчы Паспалітай з Расійскай імперыяй, паводле якога ўрад апошняй меў права ўводзіць і трымаць "пасля сяброўскага папярэджання" свае войскі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У адным з пунктаў гэтага дагавору прадугледжвалася, паміж іншым, што ў тых краінах, дзе Рэч Паспалітая не мае сваіх паслоў, яе інтарэсы будзе прадстаўляць расійская дыпламатыя.

Сейм зацвердзіў новае дзяржаўнае ўпарадкаванне Рэчы Паспалітай. Цяпер сейм павінен быў збірацца раз у чатыры гады. Мяшчане страцілі частку сваіх правоў, прызнаных за імі ў 1791 г., за выключэннем права асабістай недатыкальнасці і права набываць зямельныя ўладанні. Былі пацверджаны ўсе ранейшыя прывілеі шляхецкага саслоўя праз вяртанне кардынальных правоў 1775 г. Пацвярджалася таксама унія ВКЛ і Польскага каралеўства без змен, уведзеных на Чатырохгадовым сейме. Сейм прыняў рашэнне аб роспуску Таргавіцкай канфедэрацыі.

## 5. Паўстанне 1794 г. у Беларусі. Трэці падзел Рэчы Паспалітай

**Падрыхтоўка паўстання**. У сакавіку-лістападзе 1794 г. на ўцалелай ад двух падзелаў тэрыторыі Рэчы Паспалітай разгарнулася вызваленчае паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. З красавіка па верасень яно ахоплівала тэрыторыю часткі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі.

Папярэднія спробы выхаду дзяржавы з глыбокага грамадска-палітычнага крызісу шляхам рэформаў былі перапынены. Першы і асабліва другі падзелы прывялі Рэч Паспалітую да становішча дзяржавы, цалкам падуладнай інтарэсам суседніх краін. Канчаткова абанкруцілася ў часы Таргавіцкай канфедэрацыі і згодніцка-кансерватыўная палітыка часткі шляхты і магнацтва, мэтай якой было захаваць дзяржаву пад лозунгам абароны "залатых шляхецкіх вольнасцей" у непарушана-дрымотным стане анархіі і бязладдзя. Прагрэсіўная ж частка грамадства, скансалідаваная вакол ідэі развіцця і паглыблення рэформаў, распачатых Чатырохгадовым сеймам, схілялася да ідэі падрыхтоўкі ўзброенага паўстання. Ва ўмовах фактычнай акупацыі краю і рэальнай пагрозы ліквідацыі дзяржавы паўстанне выступала адзіным сродкам выратавання.

Паступова сфарміраваліся тры цэнтры падрыхтоўкі будучага паўстання. Эміграцыйны цэнтр у Лейпцыгу на чале з Г.Калантаем і І.Патоцкім аб'ядноўваў эмігрантаў–удзельнікаў Чатырохгадовага сейма, сяброў "патрыятычнага аб'яднання" і прыхільнікаў Канстытуцыі 3 мая. У Варшаве з мая 1793 г. дзейнічаў "таемны камітэт" на чале з І.Дзялынскім, Ф.Алоэ, А.Капостасам і інш. Віленскі цэнтр з вясны 1793 г. узначаліў палкоўнік корпуса інжынераў ВКЛ, прыхільнік ідэй французскай рэвалюцыі Я.Ясінскі. Разам з ім над падрыхтоўкай паўстання працавалі К.Ельскі (як прадстаўнік ВКЛ у Варшаве), К.Прозар і інш. Апошнія адносіліся да памяркоўнай плыні, якая выступала толькі за вяртанне Канстытуцыі 3 мая.

Актыўны удзел у падрыхтоўцы паўстання браў Тадэвуш Касцюшка, кандыдатура якога вылучалася на пасаду кіраўніка. Т.Касцюшку і яго пап-

лечнікам было зразумела, што без знешняй падтрымкі дасягненне перамогі ва ўзброеным выступленні супраць кансалідаваных сіл Расіі, Аўстрыі і Прусіі будзе немагчымым. Сапраўдным саюзнікам у справе змагання з манархічнымі рэжымамі на ўсходзе Еўропы выглядала рэвалюцыйная Францыя. Тым больш што яшчэ 19 лістапада 1792 г. яна абвясціла дэкларацыю, у якой выказвалася рашучая гатоўнасць аказаць дапамогу ўсім народам, што змагаліся за сваю свабоду супраць тыраніі.

У студзені–маі 1793 г. Т.Касцюшка быў накіраваны ў Парыж у якасці прадстаўніка лейпцыгскага эміграцыйнага камітэта, каб весці перагаворы аб дапамозе будучаму паўстанню. У "мемарыяле" эміграцыйнага камітэта, які прывёз у Францыю Т.Касцюшка, французскі ўрад заахвочваўся да падтрымкі "поўнай рэвалюцыі" ў Рэчы Паспалітай. У ім, у прыватнасці, гаварылася, што рэвалюцыйнае паўстанне ў Польскім каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім магло б спрыяць "хуткаму распаўсюджванню рэспубліканізму і ў Расіі". За ваенную і фінансавую падтрымку з боку Францыі паўстанцы абавязваліся адразу ж пасля перамогі ў двухтыднёвы тэрмін ліквідаваць каралеўскую ўладу, сенат, прывілеі святарства, прыгонную залежнасць сялян, устанавіць роўныя правы для ўсіх. "Мемарыял" фактычна абвяшчаў блізкія да буржуазнай рэвалюцыі мэты. Але канкрэтных вынікаў місія Т.Касцюшкі не прынесла. Францыя на той час была больш заклапочана ўласнымі праблемамі і не магла аказаць якой-небудзь рэальнай дапамогі.

Т.Касцюшка падтрымліваў сувязь з рознымі патрыятычнымі дзеячамі як у эміграцыі, так і ў самім краі. Сярод прыхільнікаў ідэі паўстання выразна вызначаліся дзве плыні. Памяркоўныя, якія жадалі захаваць становішча, што існавала да ўварвання замежных войскаў, і радыкалы, якія імкнуліся, з улікам вопыту рэвалюцыйнай Францыі, далучыць да паўстання гараджан і сялян. Да гэтага напрамку належаў і Касцюшка, які заяўляў: "Толькі за шляхту біцца не буду. Жадаю свабоды для ўсяго народа і толькі для яго гатовы ахвяраваць жыццём"[1]. Пры гэтым Касцюшка выдатна разумеў, што пры слабасці гарадской буржуазіі ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, забітасці падняволеных сялян без удзелу ў барацьбе прагрэсіўна настроенай шляхты разлічваць на перамогу немагчыма.



Тадэвуш Касцюшка

**Пачатак узброенай барацьбы.** 24 красавіка 1794 г. з абвяшчэння на рынку ў Кракаве "Акта паўстання жыхароў Кракаўскага ваяводства" пачалося паўстанне ў Польшчы. Галоўнай яго мэтай дэкларавалася "вызваленне Польшчы ад чужаземнага жаўнера, вяртанне і забеспячэнне цэласці яе межаў, ліквідацыя ўсялякага насілля і узурпацыі як замежнай, так і ўнутранай, забеспячэнне народнай свабоды і незалежнасці Рэчы Паспалітай". Акт паўстання прызначыў Касцюшку "найвышэйшым

[1] *Koczewski J.S.* Tadeusz Kościuszko. Warszawa, 1971. S. 61.

і адзіным павадыром і кіраўніком усяго паўстання ... проста з волі народа пакліканага і абранага"[1].

У якасці мясцовых органаў па кіраўніцтву паўстаннем прадугледжвалася стварэнне "парадкавых камісій" па ваяводствах і паветах. Яны ў сваю чаргу павінны былі стварыць "дазорныя ўправы". Кожная "дазорная ўправа" павінна была ахапіць 1000–1200 сялянскіх гаспадарак. Прадугледжвалася стварэнне новых рэвалюцыйных судоў, якія павінны былі разглядаць крымінальныя справы аб злачынствах, накіраваных супраць паўстання. Аднак новыя органы ўлады – камісіі, управы і суды – не скасоўвалі стары дзяржаўны апарат. Кракаўскі акт паўстання не прадугледжваў і ліквідацыі манархіі.

Першая спроба арганізаванага выступлення ў ВКЛ адбылася на тэрыторыі Жамойці, у Шаўлях. Там 16 красавіка 1794 г. быў абвешчаны "Шавельскі акт" паўстання, падпісаны ў асноўным вайскоўцамі. Заклікаючы да паўстання, яго ўдзельнікі на чале з А.Хлявінскім вызначылі мэтай "вяртанне свабоды Айчыне", перамогу над тыраніяй і пакаранне здраднікаў. Але лёс паўстання ў ВКЛ у многім залежаў ад таго, у чыіх руках застанецца ВКЛ.

Ужо з другой паловы 1793 г. Вільня стала адным з цэнтраў падрыхтоўкі паўстання ў Рэчы Паспалітай. Рэвалюцыйная ідэалогія будучага выступлення засноўвалася на бачанні яго, па прыкладу Т.Касцюшкі, не толькі вайсковым, але і ўсесаслоўным рухам з выразным антыманархічным і антыфеадальным адценнем. Засваенне французскага вопыту "віленскімі якабінцамі" на чале з Я.Ясінскім непасрэдным чынам адбілася на іх дзейнасці як на арганізацыі паўстання, так і на вызначэнні ў ім ролі ВКЛ на правах самастойнай арганізацыйна-дзяржаўнай часткі. Менавіта французская рэвалюцыя заклікала не толькі да сацыяльнага, але і нацыянальнага вызвалення, абяцала ўсім паднявольным народам падтрымку ў іх змаганні.

Вільня паўстала ўначы з 22 на 23 красавіка 1794 г. Каля 700 чалавек рэгулярнага войска ВКЛ, размешчанага ў сталіцы, пры дапамозе некалькі сотні мясцовых жыхароў у выніку нечаканага нападу і двухгадзіннага бою захапілі ў палон больш за 1000 чалавек з расійскага акупацыйнага гарнізона разам з генералам Арсеньевым.

24 красавіка ў Вільні быў урачыста прыняты і абвешчаны "Акт паўстання народа Вялікага княства Літоўскага". Згодна з ім утвараўся свой незалежны орган па кіраўніцтву паўстаннем – Найвышэйшая Рада ВКЛ. Менавіта ёй аддавалася ўся паўната ўлады ў Княстве. У гэты ж дзень 2328 чалавек падпісалі віленскі акт аб пачатку паўстання і далі прысягу на вернасць яму.

Справе больш канкрэтнай арганізацыі паўстанцкага руху прысвячаўся "Універсал да ваяводстваў і паветаў правінцый Вялікага княства Літоўскага і гарадоў вольных". Ён быў абвешчаны ўжо ад імя Найвышэйшай Рады 24 і 25 (паўторна) красавіка 1794 г. Пачынаўся "Універсал..." словамі: "... Слухай, Народзе Літоўскі, што табе гаворыць не кароль слабы са слабейшага яшчэ трона, не свавольны збор людзей, што нічога акрамя марнага тытулу не маюць, але спакойнае згуртаванне спагадлівых тваіх сыноў, якія доўга для вызвалення твайго працавалі тады, калі ты ўжо ў ім зняверыўся". Ва "Універсале..." былі акрэслены галоўныя прыярытэты паўстання – "здабыццё свабоды і роўнасці грамадзянскай", выгнанне расійскіх акупацыйных войскаў, вяртанне ўсіх анексіраваных зямель Вялікага княства Літоўскага.

Для абароны паўстання ад ворагаў і пакарання здраднікаў быў утвораны найвышэйшы Крымінальны суд. З сяброў Найвышэйшай Рады ўтварыліся

---

[1] Historia Polski 1764–1795/ Wybór tekstów. Warszawa, 1954. S. 170, 173.

яе “дэпутацыі” – забеспячэння, публічнай бяспекі, скарбу і таемная (для кіраўніцтва ваеннымі аперацыямі). Старшыня Рады павінен быў мяняцца кожны дзень паводле алфавіта. Прадугледжвалася дапаўненне першапачатковага (з 29 асоб) складу Рады дэлегатамі ад ваяводстваў і паветаў. У такім разе яна мела ўсе падставы ператварыцца ў самастойны паўстанцкі ўрад. Сярод першага складу Рады былі Антоній Тызенгаўз, прэзідэнт г.Вільні, Юзаф Несялоўскі, ваявода наваградскі, Самуэль Корсак, удзельнік слыннага пратэсту на чале з Т.Рэйтанам супраць першага падзелу Рэчы Паспалітай на сейме 1773 г., Марцін Пачобут-Адляніцкі, рэктар Віленскай акадэміі, Якуб Ясінскі, палкоўнік і камендант сталічнага гарнізона. 3 мая Найвышэйшая Рада ВКЛ прызначыла Я.Ясінскага галоўнакамандуючым над усімі паўстанцкімі сіламі ў краі.

25 красавіка пасля першага свайго пасяджэння найвышэйшы Крымінальны суд вынес смяротны прыгавор апошняму гетману Княства Шыману Касакоўскаму як здрадніку і галоўнаму памагатаму расійскіх акупацыйных войскаў. Гетмана павесілі прылюдна на “французскі манер”, на вулічным ліхтары, на пляцы перад віленскай ратушай. 14 мая тут жа быў павешаны экс-маршалак Таргавіцкай віленскай канфедэрацыі І.Швыкоўскі. Праявы “якабінскага тэрору” ў Вільні знайшлі свой працяг у Варшаве 9 мая і 28 чэрвеня, дзе былі праведзены аналагічныя акцыі. Так, сярод павешаных апынуліся нават два каталіцкія біскупы, віленскі – І.Масальскі і інфлянцкі – Ю.Касакоўскі[1].

**Асаблівасці паўстання ў Беларусі і Літве**. З самага пачатку паўстанне ў Беларусі і Літве набыло свае адметныя рысы, якія не прадугледжваліся ва ўзорным Кракаўскім акце. На першым этапе разгортвання паўстання ў ВКЛ можна казаць аб яго большым радыкалізме. Так, ва “Універсале да ваяводстваў і паветаў ВКЛ і гарадоў вольных” Найвышэйшая Рада хаця і ў досыць лагоднай форме, але крытыкавала манархію. У гэтым дакуменце літвінскія паўстанцы выразна засведчылі і свае адносіны да рэвалюцыйнай Францыі: “... мужны народ французскі, разам з іншымі, падае нам сяброўскую руку, патрабуе паўстання нашага, дае нам для таго дапамогу ў розным выглядзе...” Заява гэта была дэкларатыўнай, але знамянальнай у тагачасных міжнародных абставінах.

Характэрна, што тэкст віленскага “Універсала...” ад 24 красавіка варшаўскія газеты публікавалі са скарачэннямі. Былі прамінуты словы пра “слабога караля” і аб чакаемай дапамозе з боку Францыі. У сувязі з гэтым аўстрыйскі дыпламат у Варшаве Бенядзікт дэ Кашэ паведамляў у Вену: “Віленская рэвалюцыя не ўзяла за ўзор кракаўскі ці варшаўскі паўстанцкі маніфест, замест гэтага абвясціла свой уласны акт ... якога галоўнай мэтай мае быць ліквідацыя трона і апора на французскія ўзоры пры дапушчэнні, што французскі народ не пакіне паўстанцаў без падтрымкі”[2]. У такім жа напрамку інфармаваў свой урад і шведскі пасол у Рэчы Паспалітай Ёган Хрыстофер Таль.

Я.Ясінскі і яго паплечнікі ў ВКЛ больш выразна змаглі засведчыць і сацыяльны імператыў у паўстанні. Лозунгам паўстання ў Княстве сталі словы “свабода, роўнасць, незалежнасць”. У Польскім каралеўстве замест слова “роўнасць” прысутнічала “цэласць”. Пры гэтым можна дапусціць, што ў тэрміне “роўнасць” акрамя выразнага сацыяльнага акцэнту літвінам бачы-

[1] *Kieniewicz S., Zahorski A., Zajewski W.* Trzy powstania narodowe. Warszawa, 1997. S. 87, 90.
[2] Там жа. S. 76.

ласся патрэба засведчыць і правы ВКЛ на самастойны ўдзел у паўстанні. У гэтым сэнсе істотным быў факт утварэння самастойнага ў асноўных пытаннях (арганізацыя войска, скарбу і нават вядзенне магчымых міжнародных сувязей) органа –Найвышэйшай Рады ВКЛ, што кракаўскім актам не прадугледжвалася. Найвышэйшая Рада Вялікага Княства праіснавала толькі да 10 чэрвеня 1794 г. Потым ёй на змену прыйшла Цэнтральная Дэпутацыя ВКЛ, ужо поўнасцю падпарадкаваная Т.Касцюшку і Найвышэйшай Нацыяльнай Радзе ў Варшаве.



Якуб Ясінскі

Першыя дакументы, абвешчаныя ў Вільні, былі з насцярожанасцю ўспрыняты ў Польшчы. Аднавіліся спрадвечныя абвінавачванні літвінаў у сепаратызме. Тым не менш Віленскім актам ад 24 красавіка фактычна было адноўлена ранейшае становішча ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай "двух народаў", значна абмежаванае Канстытуцыяй 3 мая 1791 г. Аднак неабходнасць змагання з агульным ворагам, наяўнасць супольных мэт у паўстанні – здабыццё свабоды, роўнасці і незалежнасці – больш аб'ядноўвала, чым раз'ядноўвала дзве часткі дзяржавы.

Аб агульнасці падыходаў да арганізацыі паўстання ў ваяводствах і паветах сведчыла арганізацыя "парадкавых камісій" згодна з Кракаўскім актам. "Парадкавыя камісіі" павінны былі стаць арганізацыйнымі цэнтрамі паўстання на месцах. Як форма мясцовай адміністрацыі яны ўзніклі яшчэ падчас працы Чатырохгадовага сейма. Аднак у перыяд паўстання 1794 г. іх прэрагатывы былі пашыраны і прыстасаваны амаль выключна для яго патрэб. Толькі 30 мая Найвышэйшая Нацыянальная Рада ў Варшаве прыняла палажэнне аб умовах стварэння і парадку працы "парадкавых камісій". Згодна з ім у склад "камісій" павінен быў увайсці 21 "камісар", якіх "самі выберуць абывацелі з найбольш дастойных"[1]. Пры іх фарміраванні захоўваўся саслоўны прынцып: 8 чалавек ад землеўладальнікаў (шляхты), 8 – ад мяшчанства і 5 чалавек – ад святарства. Сяляне былі пазбаўлены прадстаўніцтва ў "парадкавых камісіях". У склад "камісій" уваходзілі сем аддзелаў: парадку, бяспекі, справядлівасці, скарбу, харчавання, войска і інструкцый. Ваяводскія і павятовыя "парадкавыя камісіі" адначасова выконвалі функцыі органаў мясцовага самакіравання і з'яўляліся прадстаўнікамі цэнтральнай улады. У Беларусі і Літве яны, як правіла, падпарадкоўваліся Цэнтральнай Дэпутацыі. У палажэнні аб "парадкавых камісіях" асаблівая ўвага была звернута на тое, каб у тых месцах, дзе меліся жыхары уніяцкага ці праваслаўнага веравызнанняў, у склад "камісій" абавязкова ўводзіліся іх прадстаўнікі.

[1] Akty powstania Kościuszki. Kraków, 1918. T. 1. S. 216.

У перыяд паўстання ў ВКЛ функцыяніравала да 23 "парадкавых камісій": дзве ваяводскія – берасцейская і віленская і 21 павятовая[1]. Большая частка з іх цалкам ці часткова дзейнічала на тэрыторыі Беларусі, ахопленай паўстаннем. Але колькасць камісій не была пастаяннай. Яна змянялася ў залежнасці ад ходу ваенных дзеянняў. Паколькі ваенныя дзеянні ішлі не на карысць паўстанцаў і тэрыторыя паўстання паступова звужалася, скарачалася і колькасць "парадкавых камісій". З-за кароткага тэрміну паўстання многія з іх у Беларусі не змаглі адпаведным чынам разгарнуць сваю работу. У кожным павеце акрамя "парадкавых камісій" абіраўся і дзейнічаў так званы "генерал зямянскі" ці "генерал міліцыі". Ён дапамагаў "парадкавым камісіям" у арганізацыі паспалітага рушання і ўзначальваў добраахвотныя паўстанцкія фарміраванні. На сваёй пасадзе "генерал зямянскі" пасля адпаведнага прадстаўлення Цэнтральнай Дэпутацыі ВКЛ ці ваяводскай "парадкавай камісіі" зацвярджаўся Т.Касцюшкам, які падпісваў адпаведны "патэнт". У Беларусі найбольш вядомымі "зямянскімі генераламі " падчас паўстання былі ў Віленскім ваяводстве Т.Корсак і Ю.Стакоўскі, у Берасцейскім – М.Пашкоўскі; у паветах: Браслаўскім – К.Беліковіч, Ашмянскім – К.Коцел, Лідскім – К.(Юзаф) Нарбут, Ваўкавыскім – Сегень, Гарадзенскім – К.Ельскі, Кобрынскім – К.Рушчыц[2].

Адным з галоўных пытанняў, ад вырашэння якога залежаў поспех паўстання, было стаўленне да яго сялянства. Ужо 30 красавіка Найвышэйшая Рада Народа Літоўскага абвясціла зварот пад назвай "Да земляробаў і люду вясковага". У ім ад імя шляхецтва і святарства выразна, у выглядзе закліку, прагучала прызнанне неабходнасці ўстанаўлення сацыяльнай роўнасці: "пакінем жа адрозніваць рознасць нашых станаў, усе мы людзі і грамадзяне адной Айчыны". Гэты "зварот" не толькі абвяшчаў пра аднаўленне Канстытуцыі 3 мая, якая "шчаслівы пачатак вызвалення сялянства паклала". У ім гаварылася таксама, што "воля перад законам і свабода для вас ад народа ўжо прыгатаваная"[3]. Можна толькі здагадвацца, што канкрэтна стаяла за гэтым абяцаннем Рады аб "прыгатаванай свабодзе". Да выдання Т.Касцюшкам "Паланецкага універсала" (7 мая 1794 г.) заставаўся тыдзень і наўрад ці Найвышэйшай Радзе ў Вільні было нешта пра гэта вядома. Магчыма, новы дакумент, які рыхтаваўся, перастаў быць актуальным у сувязі з тым жа "Паланецкім універсалам", згодна з якім сяляне атрымлівалі асабістую свабоду, але без зямлі, а тыя, што далучаліся да паўстання, вызваляліся ад прыгону. "Зварот" тым не менш рассылаўся з Вільні па паветах. Напрыклад, у Лідскім павеце ён быў занесены ў кнігу земскага суда ўжо 3 мая 1794 г.[4]

Спроба вырашыць "сялянскае пытанне", звароты да сялянства не прайшлі незаўважанымі ў Беларусі. Падчас паўстання наяўнасць сялян у паўстанцкіх аддзелах дасягала часам трэцяй іх часткі. Агульная ж колькасць удзельнікаў паўстання на ўсім яго працягу складала да 30 тыс. чалавек. Адсюль і пільная ўвага расійскага вайсковага камандавання да гэтага пытання. Галоўнакамандуючы расійскімі войскамі ў Рэчы Паспалітай падчас паўстання М.Рэпнін загадваў сваім афіцэрам, каб перш за ўсё стараліся берагаць сялян і "прывабліваць" іх да сябе. Рэквізіцыі харчавання і фуражу па

---

[1] Akty powstania Kościuszki. Kraków, 1918. T. 1. Wstęp. S. LXX.

[2] *Bartoszewicz K.* Dzieje insurgencji kościuszkowskiej. Wiedeń, 1906. S. 222; НАРБ, ф. 1767, в. 1, с. 101, а. 5а.

[3] *Энгель А.* Архив Виленского генерал-губернатора. Вильно, 1870. Т. 2. Ч. 1. С. 120, 121, 127.

[4] НАРБ, ф. 1767, в. 1, с. 101, а. 5.

меры магчымасці трэба было рабіць у шляхты. Сялян, якія добраахвотна пакінулі б паўстанцкія атрады, ён абавязваў узнагароджваць грашыма і адпускаць "на волю", г. зн. да "свайго" старого ці новага расійскага пана. Услед за М.Рэпніным у "прываблiваннi" сялянства вызначыўся адзін з камандзіраў буйнога расійскага атрада ў Беларусі Л.Бенігсен. У в. Беніца пад Смаргонню ён спрабаваў схіліць сялян да непаслушэнства сваім уладальнікам, пры гэтым абнадзейваў іх нібыта магчымасцю атрымання волі.



Паўстанцы Касцюшкі

Т.Касцюшка неаднаразова засцерагаў ад падвойнай небяспекі, якая зыходзіла ад ворага – сілы зброі і "інтрыгі хітрасці". Ён пісаў: "Маскалі шукаюць спосабу падбухторвання вясковага люду супраць нас... заахвочваюць да лепшай будучыні з дапамогай маскоўскай.., да рабунку двароў, сілай апранаюць у свае мундзіры".

"Літоўская Рада" таксама не пакінула без увагі ў сваіх адозвах і праклamацыях расійскіх салдат, людзей "у мундзірах". 8 мая ёю быў абвешчаны спецыяльны зварот да іх. "Салдаты-расіяне, – заклікала Рада, – вы з аблічча чалавечага за людзей ад нас знаныя, строгай уладзе камандзіраў падлеглыя, мы вас лічым за братоў бліжніх і спачуваем вашай долі, бо вы, жадаючы волі, мець і карыстацца ёю не можаце пад тыранскім кіраваннем". Праклaмацыя-зварот, выдадзеная па-польску і па-руску, заклікала простых расійскіх салдат павярнуць зброю супраць "уласных тыранаў"[1]. 27 мая "Літоўская Рада" звярнулася да жыхароў ВКЛ з напамінаннем аб неабходнасці гуманнага стаўлення да расійскіх дэзерціраў, якія будуць прасіць прытулку.

Нельга не адзначыць яшчэ адну істотную асаблівасць хода паўстання 1794 г. у Беларусі, звязаную з шматканфесійнасцю рэлігійнага жыцця ў краі. Заява Т.Касцюшкі – "за адну шляхту біцца не буду" – была арганічна спалучана з яго дэмакратычным стаўленнем да рэлігійнага пытання на сваёй радзіме. Не выпадкова ён вельмі прыхільна сустрэў абранне сваімі суайчыннікамі ў склад берасцейска-кобрынскай парадкавай камісіі васьмі прадстаўнікоў праваслаўнага насельніцтва. Ён рэкамендаваў рабіць такім жа чынам паўсюдна, дзе маюцца праваслаўныя вернікі. У сваім звароце да праваслаўных святароў 7 мая 1794 г. Т.Касцюшка выказаў упэўненасць у аднаўленні незалежнага ад пецярбургскага сінода самастойнага кіраўніцтва праваслаўнай царквой у Беларусі і Польшчы паводле рашэнняў Чатырохгадовага сейма ў маі 1792 г.

[1] *Mościcki H.* Jeneral Jasiński i powstanie kościuszkowskie. Warszawa, 1917. S. 152.

Гэту асаблівасць рэлігійнага жыцця ў ВКЛ не магла не ўлічваць і Найвышэйшая Літоўская Рада. У пачатку паўстання яна звярнулася да святарства і жыхароў краю уніяцкага і праваслаўнага абрадаў з заклікам да падтрымкі паўстання на падставе ўсталявання поўнай роўнасці і справядлівасці ў рэлігійным жыцці, што звязвалася з яго перамогай. Кароткі тэрмін паўстання, яго паражэнне не далі магчымасці здзейсніць сапраўды "палітычна мудрыя", паводле выразу Т.Касцюшкі, намеры.

Нягледзячы на ўсю важнасць прапагандысцкіх акцый, кіраўніцтву паўстаннем у Вялікім княстве Літоўскім было зразумела, што яго лёс будзе вырашацца на полі бітвы. Адна з першых буйнейшых сутычак адбылася 7 мая 1794 г. каля в.Паляны ў Ашмянскім павеце. Я.Ясінскі меў намер выкарыстаць ініцыятыву, якая на той час амаль поўнасцю была ў руках паўстанцаў, і разбіць трохтысячны аддзел палкоўніка М.Дзеева, які пагражаў Вільні. У паўстанцаў налічвалася каля дзвюх тысяч рэгулярнага войска. Акрамя таго, іх сілы папоўніла амаль тысяча мясцовых сялян-касінераў. Зацятая бітва з удзелам артылерыі пачалася раніцай і працягвалася да самага вечара. Расійскі бок не чакаў такога моцнага адпору і пасля шасцігадзіннага бою вымушаны быў адступіць да Смаргоні, пры гэтым страціў 17 чалавек забітымі і 327 параненымі. Паўстанцы страцілі некалькі дзесяткаў забітымі, а 34 чалавекі трапілі ў палон разам з трыма гарматамі, астатнія сілы паўстанцаў адышлі пад Вільню[1].

У рапарце пра бой пад Палянамі палкоўнік М.Дзееў напісаў, што "воины (расійскія. – *У.Е.*) были так раздражены, что не давали пардону (г. зн. дабівалі параненых), но они (паўстанцы) так были отчаянны, что и раненые оборонялись". Акрамя таго, каб апраўдаць свой "канфуз" пад Палянамі, Дзееў вымушаны быў павялічыць сілы Ясінскага ажно да 11 тыс. чалавек. Сярод іх вылучылася ўпартасцю ў змаганні асобная група "канфедэратаў-шляхціцаў, віленскіх стральцоў і мужыкоў, узброеных стрэльбамі, сякерамі, пікамі і косамі". Поспех Я.Ясінскага пад Палянамі прымусіў генерала П.Цыцыянава паспешліва адвесці з-пад Гародні на прыкрыццё Нясвіжа і трохтысячны корпус, якім ён камандаваў.


Касінер

Другая буйная бітва беларускіх паўстанцаў пад камандаваннем Я.Ясінскага з расійскім войскам адбылася 25 чэрвеня пад в.Солы, каля Смаргоні. Але гэта быў ужо іншы час, менш спрыяльны для паўстанцаў. Ініцыятыва па розных прычынах пачала пераходзіць да праціўніка. Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла і адстаўка Я.Ясінскага з пасады галоўнакамандуючага паўстанцкага войска ВКЛ. З сярэдзіны мая 1794 г. Т.Касцюшка падзяліў паўстанцкае войска на тры корпусы на чале з Я.Ясінскім, Я.Хлявінскім і П.Грабоўскім. 4 чэрвеня зноў адзіным

[1]Расійскі цэнтральны ваенна-гістарычны архіў (далей – РЦВГА), ф. ВИА, воп. 1, спр. 282, арк. 362; Powstanie kościuszkowskie 1794. Dzieje militarne. Warszawa, 1994. T. 1. S. 372.

камандуючым паўстанцкімі сіламі ў ВКЛ быў прызначаны генерал-лейтэнант М.Вяльгорскі, які сваёй бяздзейнасцю пацвердзіў поўную няздатнасць да гэтай пасады.

Пад Соламі сышліся буйны пяцітысячны расійскі корпус Зубава з 16 гарматамі і аддзелы Ясінскага, якія ўключалі да 4 тыс. чалавек. Як і пад Палянамі, у Ясінскага налічвалася каля адной тысячы сялян-касінераў. Бітва пачалася зранку і цягнулася больш за пяць гадзін. Усё вырашыла перавага расійцаў у артылерыі. Паўстанцы, якія мужна стрымлівалі атакі непрыяцеля, пад канец бою трапілі пад шчыльны гарматны агонь і пачалі адступаць. У гэтай бітве загінула каля 300 паўстанцаў, большасць з іх – неспрактыкаваныя сяляне-касінеры[1].

**Выкарыстанне партызанскай тактыкі.** Адметнай рысай паўстанцкіх дзеянняў у Беларусі было выкарыстанне партызанскіх, дыверсійных метадаў змагання. Да таго ж паўстанцы імкнуліся перанесці барацьбу ў так званы "расійскі кардон", на анексіраваную раней тэрыторыю ВКЛ. 1 чэрвеня 1794 г. Я.Ясінскі выдаў універсал да павятовых конных дыверсійных 300-асабовых аддзелаў. Яны павінны былі ўвайсці ў "расійскі кардон", адцягнуць на сябе сілы акупантаў і, сеючы паніку ў тыле непрыяцеля, адначасова ўздымаць на паўстанне мясцовую шляхту, мяшчанства і сялян. Гэту ініцыятыву ўхваліў Т.Касцюшка. Ён адзначыў, што "ў Літве генерал Ясінскі (загадам Касцюшкі ад 11 мая Ясінскаму было прысвоена званне генерал-лейтэнанта) апярэдзіў маю думку, калі выдаў да сваіх суайчыннікаў праўдзівыя звароты ... якія на ўвесь край павінны быць распаўсюджаны"[2]. Акрамя гэтага універсала Ясінскім была складзена асобная "Інструкцыя для тых, хто ўваходзіў у расійскі кардон". Яна рэгламентавала жорсткі парадак дзеянняў і паводзін паўстанцаў на акупаванай тэрыторыі. Паводле яе дыверсійныя акцыі павінны былі прывесці да аслаблення сіл праціўніка, што дазволіла б больш упэўнена дзейнічаць асноўным сілам паўстанцаў.

Адным з першых здолеў ажыццявіць такі намер сябар Найвышэйшай Рады Вялікага княства Літоўскага Міхал Клеафас Агінскі. Ён атрымаў дазвол ад Я.Ясінскага на правядзенне разведвальна-дыверсійнага рэйду ў напрамку Менска. 12 чэрвеня ён выйшаў з-пад Вільні на чале асабовага аддзела колькасцю 500 чалавек (200 чалавек кавалерыі пад камандаваннем маёра Т.Корсака і 300 стральцоў, узброеных і забяспечаных уласным коштам самога Агінскага) і накіраваўся пад Валожын. Там Агінскі разбіў невялікі расійскі гарнізон, захапіўшы пры гэтым значныя запасы вайсковай амуніцыі, харчавання, і рушыў на Івянец. У Івянцы быў абвешчаны зварот да жыхароў Менскага ваяводства. У ім са спасылкай на тое, што ён пасланы ад "мужнага генерал-лейтэнанта Ясінскага", Агінскі заклікаў далучацца да паўстання, каб "вярнуць Айчыне волю".

З Менска насустрач Агінскаму па загаду губернатара Няплюева былі высланы значныя сілы. 16 чэрвеня пад Вішневам паўстанцаў сустрэлі і разбілі расійскія войскі. Толькі рэшткі аддзела (150 чалавек кавалерыі і частка стральцоў) змаглі разам з Агінскім прабрацца пад Крэва да Ясінскага. Т.Касцюшка, якому М.Агінскі прадставіў рапарт аб сваёй выправе пад Менск, нягледзячы на няўдачу, адзначыў яе вартасць і карысць: вораг занепакоены, трэба імкнуцца, каб і надалей ён адцягваў значныя сілы для прыкрыцця сваіх тылоў.

---

[1] РЦВГА, ф. 43, воп. 1, спр. 95, арк. 179–180; Powstanie kościuszkowskie 1794. Dzieje militarne, Warszawa, 1994. T. 1. S. 414.

[2] Akty powstania Kościuszki. Warszawa, 1995. T. 3. S. 31–32.

Прыкладна ў той жа час з падобнай місіяй у Паставы быў накіраваны з Вільні на чале асабовага коннага аддзела (60 чалавек) падпалкоўнік Т.Гарадзенскі. Там ён згодна з "Інструкцыяй" Ясінскага абвясціў Віленскі акт паўстання, рэквізаваў мясцовую канцылярыю і канфіскаваў грашовую касу. У адпаведнасці з радыкальнымі патрабаваннямі Ясінскага сурова расправуляцца не толькі са здраднікамі, але і з тымі, хто спрабаваў ухіляцца ад барацьбы з непрыяцелем, Т.Гарадзенскі загадаў паставіць на пастаўскім рынку дзве шыбеніцы для здраднікаў. Ніхто павешаны не быў, але з Паставаў аддзел Гарадзенскага выйшаў папоўнены (у яго ўвайшлі 200 чалавек са "шляхты і ўзброеных сялян")[1].

З пачатку ліпеня 1794 г. усё большы непакой Цэнтральнай Дэпутацыі ВКЛ выклікала становішча Вільні. Расійскія войскі ўсялякім чынам імкнуліся захапіць сталіцу Княства. 17–18 ліпеня першая спроба ўзяць яе штурмам не ўдалася. Але з гэтага часу расійскія войскі далёка ад горада ўжо не адыходзілі. Каб адцягнуць адсюль іх сілы, а таксама дапамагчы сваім паплечнікам у Польшчы, у жніўні былі арганізаваны два найбуйнейшыя дыверсійныя рэйды беларускіх паўстанцаў на Віцебшчыну, Меншчыну і Магілёўшчыну. Іх узначальвалі М.Агінскі і С.Грабоўскі.

1 жніўня спачатку невялікі асабовы конны аддзел (50 чалавек) М.Агінскага пакінуў Вільню і праз Немянчын і Свянцяны выйшаў на Браслаўшчыну. Па дарозе ён папоўніўся ўзброенымі фарміраваннямі шляхты і сялян. Колькасць паўстанцаў павялічылася да дзвюх з паловай тысяч чалавек. Сам М.Агінскі называў сваё войска самаахвярным і самаадданым, але кепска дысцыплінаваным і мала спрактыкаваным. На Браслаўшчыне ён пакінуў большую частку паўстанцаў, у тым ліку 1200 касінераў, а сам з трыма эскадронамі конніцы рушыў на Дынабург. Але вызваліць горад такімі малымі сіламі не ўдалося. Вестка аб захопе расійскім войскам Вільні 12 жніўня прымусіла паўстанцаў павярнуць назад.

Бадай самую маштабную спробу палепшыць справы паўстанцаў у Беларусі зрабіў у канцы жніўня – пачатку верасня падпалкоўнік Стэфан Грабоўскі. 17 жніўня яго амаль двухтысячны аддзел з дазволу М.Вяльгорскага каля Івянца ўвайшоў у "закардонную" Меншчыну. Пры гэтым меркаваўся захоп Менска. Але і гэтым разам не пашанцавала паўстанцам, бо непрыяцельскі гарнізон у Менску атрымаў значнае падмацаванне. Тады аддзел Грабоўскага, сышоўшы з ракаўскага гасцінца, і ў абыход горада праз Койданава накіраваўся да Пухавічаў. Па дарозе паўстанцы грамілі расійскія каманды, разбуралі масты, рабілі засекі на дарогах. Паводле сведчання самога М.Рэпніна, у паўстанцаў не было праблем з забеспячэннем харчаваннем і фуражом. Кольскасць "грабоўшчыкаў" па дарозе папоўнілася амаль на паўтары тысячы чалавек. 30 жніўня авангард паўстанцаў дайшоў да Бабруйска. Начным нападам горад быў заняты, а невялікі мясцовы гарнізон знішчаны. Ад Бабруйска С.Грабоўскі павярнуў назад, маючы намер захапіць Слуцк. Але пад Любанню шлях яму перагарадзіў генерал П.Цыцыянаў з чатырохтысячным войскам. 4 верасня раніцай пачалася бітва, якая цягнулася цэлы дзень. Пры гэтым С.Грабоўскі апынуўся пад Любанню амаль без пяхоты і значнай часткі конніцы, якія не паспелі напярэдадні пераправіцца цераз раку Арэсу. Паўстанцы біліся мужна, але сілы былі няроўныя. З часткай свайго аддзела колькасцю 250 чалавек С.Грабоўскі вымушаны быў капітуляваць. Т.Касцюшка рэйд Грабоўскага на той час не лічыў неабходным. Даведаўшыся пра яго, ён запатрабаваў, каб паўстанцы выйшлі з "расійскага

[1] Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 7, вып. 2, ад. зах. 2869, арк. 201а.

кардона", адцягнулі свае сілы пад Берасце і Гародню. Тым не менш той факт, што на нейкі час аддзелу С.Грабоўскага ўдалося адцягнуць на сябе да 4 тыс. расійскага войска ў Беларусі, ужо сведчыў сам за сябе.

Немалыя надзеі ў пашырэнні паўстання ў Беларусі Т.Касцюшка ўскладаў на дзеянні корпуса генерала К.Серакоўскага. У канцы ліпеня ён накіраваўся з-пад Высокага праз Шарашова на Слонім. Яго задачай было прыкрыццё Вільні і адначасова недапушчэнне захопу Берасця. З першапачатковых паўтары тысячы чалавек корпус К.Серакоўскага павялічыўся больш чым удвая за кошт добраахвотнікаў з мясцовай шляхты і сялянства. Асабліва дапамаглі яму ў гэтым берасцейская і кобрынская парадкавыя камісіі. З Кобрынскага павета ў корпус улілося 713 чалавек "павятовай міліцыі" і касінераў пад камандаваннем Казіміра Рушчыца. Каля 500 чалавек добраахвотнікаў прыйшло з Берасцейскага павета пад камандаваннем павятовага генерал-маёра Мацея Франкоўскага.

2 жніўня пад Слонімам авангард паўстанцаў К.Серакоўскага, якіх на той час было ўжо чатыры з паловай тысячы, сутыкнуўся з перадавой часткай корпуса генерала Дэрфельдэна. Расійскі бок, у адрозненне ад паўстанцаў, панёс даволі значныя страты – параненымі і забітымі да 300 чалавек[1]. Нягледзячы на спрыяльныя ўмовы для далейшага наступлення, К.Серакоўскі вырашыў адысці да Ружанаў, а потым пад Бярозы. Ён не рызыкнуў пайсці на Вільню, якая тады фактычна знаходзілася ў аблозе, а накіраваў туды яшчэ з-пад Слоніма толькі аддзел берасцейскіх добраахвотнікаў–касінераў М.Франкоўскага. Яны ўзялі ўдзел у абароне горада 11 жніўня, многія загінулі ў акопах і на віленскіх мурах. Урэшце адыход К.Серакоўскага пад Бярозу, а потым пад Берасце нельга лічыць беспадстаўным. Даходзілі звесткі, што з Украіны ідзе на Беларусь шматтысячны расійскі корпус пад камандаваннем А.Суворава. Менавіта паўстанцам Серакоўскага наканавана было сустрэцца з яго войскамі.

17 верасня непадалёку ад Кобрына, каля в.Крупчыцы, з раніцы і да трэцяй гадзіны дня працягвалася найбуйнейшая бітва часоў паўстання 1794 г. у Беларусі. З абодвух бакоў у ёй узялі ўдзел каля 15 тыс. чалавек. Сярод іх былі і амаль дзве тысячы беларускіх сялян–касінераў, набраных К.Серакоўскім пад Берасцем, Кобрынам, Пружанамі, Слонімам, Бярозай. З інфармацыі "шматлікіх шпегаў" Сувораву былі добра вядомыя абходныя шляхі і падыходы да асноўнай пазіцыі паўстанцаў перад крупчыцкім кляштарам кармелітаў. Перайшоўшы рэчку Трасцяніцу, флангавым манеўрам аддзелы А.Суворава змаглі выйсці амаль у тыл паўстанцам, захапіць узвышша над іх пазіцыяй. Гэта і вызначыла зыход бітвы. Каб не падставіць свае асноўныя



Касінер

[1] РВЦГА, ф. 43, воп. 1, спр. 95, а. 15–16; *Mościcki H.* Jenerał Jasiński. S. 276.

сілы пад знішчальны агонь расійскай артылерыі, Серакоўскі аддаў загад адысці. Нават Сувораў вымушаны быў адзначыць мужнасць паўстанцаў: "... атакаваны непрыяцель змагаўся моцна больш за пяць гадзін". Параненымі, забітымі, прапаўшымі без звестак паўстанцы страцілі каля 2 тыс. чалавек. Большасць палеглых складалі малапрактыкаваныя ў вайсковых справах касінеры. Частка з іх ужо пасля бітвы была пасечана казакамі ў сценах крупчыцкага кляштара, дзе яны шукалі сабе паратунку.

Пасля крупчыцкай бітвы Серакоўскі адвёў асноўную частку сваіх сіл пад Берасце, разлічваючы перагрупаваць іх і дачакацца абяцаных падмацаванняў з Польшчы, каб потым зноў прыняць бой, перакрыць Сувораву шлях на Варшаву. Ён разлічваў, што пасля цяжкай бітвы пад Крупчыцамі будзе мець хаця б пару дзён у запасе. Але ўжо праз дзень, 19 верасня, зноў нечаканым абыходным манеўрам праз Мухавец А.Сувораў на світанні ўдарыў па пазіцыях К.Серакоўскага пад Берасцем, каля Тэрэспаля. Гэты нечаканы напад прывёў да поўнага разгрому корпуса К.Серакоўскага, ад якога ўцалела толькі 700 чалавек. 2645 паўстанцаў былі забіты і паранены або трапілі ў палон. Як адзначаў той жа А.Сувораў, "разбежавшися при сражении в леса, кои не сдаются и сами не являются, перестреливают поныне егеря и иная пехота, как то и в болотах, кои в них не потонули"[1]. Тым не менш Сувораў усё ж амаль на месяц вымушаны быў затрымацца пад Берасцем, перш чым рушыць на сталіцу Польшчы.

**Паражэнне паўстання. Трэці падзел Рэчы Паспалітай**. Пасля гэтых падзей у Беларусі пад кантролем паўстанцаў фактычна заставалася толькі Гародня з часткай Гародзенскага павета. Сюды ненадоўга пераехала Цэнтральная Дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага. Пад Гародню сцягваліся ўцалелыя паўстанцкія аддзелы Т.Ваўжэцкага з Жамойці, А.Хлявінскага і П.Грабоўскага з-пад Вільні. Тут знаходзіўся і Я.Ясінскі, які так і не паспеў цалкам сфарміраваць па загаду Т.Касцюшкі "надпушчанскую" паўстанцкую



Сутычка паўстанцаў Касцюшкі з расійскім атрадам

[1] Польская война 1794 года в реляциях и рапортах А.В.Суворова. Красный архив. 1940. Т. 4. С. 160, 162.

дывізію. 29 верасня 1794 г. у Гародню ўсяго на адзін дзень прыехаў Т.Касцюшка разам са сваім сакратаром Ю.Нямцэвічам для азнакамлення з сітуацыяй. Касцюшка пераканаўся, што горад утрымаць не ўдасца. Ён аддаў загад пакінуць Гародню і ўсе сілы накіраваць на абарону Варшавы. 30 верасня апошнія паўстанцкія аддзелы пакінулі Гародню.

Ваенная і палітычная сітуацыя складвалася не на карысць паўстанцаў і ў Польшчы. Яшчэ ў пачатку чэрвеня аб'яднаныя расійска-прускія войскі ў бітве каля мястэчка Шчаканіцы прымусілі армію Касцюшкі адступіць. 15 чэрвеня прускія войскі занялі Кракаў, а Касцюшка вымушаны быў адступіць да Варшавы. Там ён арганізаваў абарону горада і прымусіў ў жніўні-верасні 1794 г. адысці ад яго прускія войскі і расійскі корпус пад камандаваннем генерала Ферзена. 10 кастрычніка пад Мацяёвіцамі каля 15 тыс. паўстанцаў на чале з Т.Касцюшкам далі бой колькасна большаму корпусу генерала Ферзена. Скончыўся ён на карысць расійскага боку. Тысячы паўстанцаў загінулі або трапілі ў палон. Трапіў у палон і сам цяжка паранены Т.Касцюшка. Начальнікам узброеных сіл паўстання 12 кастрычніка 1794 г. Найвышэйшая Нацыянальная Рада прызначыла замест Касцюшкі яго земляка Тамаша Ваўжэцкага.

4 лістапада войскі пад камандаваннем Суворава авалодалі ўмацаваным прадмесцем Варшавы – Прагай. Толькі пасля гэтага было прынята рашэнне аб капітуляцыі Варшавы. Штурм Прагі Суворавым увайшоў у гісторыю як "пражская разня". Падчас яго загінулі тысячы мірных жыхароў, каля 10 тыс. паўстанцаў. Сярод абаронцаў Прагі было да 5 тыс. прадстаўнікоў ВКЛ. На барыкадах Прагі загінуў і легендарны Я.Ясінскі.

Менавіта за жорсткае задушэнне паўстання А.Сувораў атрымаў ад Кацярыны II званне фельдмаршала, а таксама больш за 13 000 прыгонных сялян Кобрынскага павета. Усяго ж расійскім вайскоўцам і грамадзянскім чыноўнікам было раздадзена больш за 80 тыс. прыгонных сялян Беларусі.

Шансаў на перамогу ў паўстанні 1794 г. было няшмат. Яго не падтрымалі асноўныя масы сялянства, гараджане, а кансерватыўныя колы шляхты ў кіраўніцтве паўстаннем імкнуліся да таго, каб не дапусціць шырокага выступлення гарадскіх нізоў і сялянства. Акрамя таго, сабатаж і невыкананне распараджэнняў Т.Касцюшкі, а часта і адкрытая здрада падрывалі сілы паўстанцаў.

У пачатку паўстання Т.Касцюшка і іншыя яго кіраўнікі спадзяваліся, што Аўстрыя, Прусія і Расія не змогуць накіраваць значныя сілы супраць паўстанцаў па прычыне ўцягнення іх у барацьбу з Турцыяй і Францыяй. Аднак Прусія і Аўстрыя аслабілі націск на рэвалюцыйную Францыю і сканцэнтравалі значныя сілы супраць Рэчы Паспалітай «двух народаў» і тым самым не далі магчымасць тут вызваленчаму руху спалучыцца з сацыяльнымі пераменамі, здольнымі памяняць састарэлыя парадкі. Больш за ўсё суседнія манархіі палохала магчымасць узнікнення новай, рэфармаванай, не выключна шляхецкай, а ўсесаслоўнай Рэчы Паспалітай, у якой сапраўды маглі б запанаваць воля, роўнасць і незалежнасць.

Нягледзячы на тое што паўстанне пацярпела паражэнне, яго значэнне ў гісторыі Еўропы велізарнае. Ідэі вызваленчага дэмакратычнага руху не загінулі, а шырока распаўсюдзіліся ў Аўстрыі, Прусіі, Расіі. Для Беларусі паўстанне 1794 г. стала першым этапам паступовага фарміравання ўласнага нацыяльна-вызваленчага руху, які развіваўся ў наступныя часы.

Падаўленне паўстання 1794 г. дазволіла Расіі, Аўстрыі і Прусіі перайсці да канчатковай ліквідацыі Рэчы Паспалітай. Перагаворы аб апошнім падзеле дзяржавы пачаліся яшчэ падчас змагання з паўстаннем і доўжыліся амаль год.

Напачатку Расія спрабавала максімальна абмежаваць памеры тэрытарыяльных захопаў Прусіі і Аўстрыі. Але яны сталі відавочнымі ўжо ў 1794 г. Прусія 3 красавіка 1794 г. захапіла паўстанцкі Кракаў, а Аўстрыя, інтарэсы якой гэтым былі істотна закранутыя, у адказ у другой палове ліпеня таго ж года акупіравала Сандамірскае ваяводства і большую частку Холмшчыны.

У сваю чаргу расійскія войскі фактычна акупіравалі і не збіраліся пакідаць захопленую імі велізарную тэрыторыю. Яна распасціралася ад Жамойці да Валыні, з паўднёва-заходнімі беларускімі землямі, з гарадамі Вільня, Гародня, Наваградак, Берасце. У руках расійскага войска знаходзілася і Варшава.

Шляхам узаемных кампрамісаў Расія і Аўстрыя імкнуліся абмежаваць занадта, на іх погляд, вялікія патрабаванні Прусіі. Ім удалося першымі дамовіцца паміж сабою і ўрэгуляваць мяжу на Валыні і па рацэ Буг, падпісаўшы 3 студзеня 1795 г. адпаведнае пагадненне. Прусія была вымушана абмежаваць свае намеры і далучылася да падзельнай канвенцыі толькі 24 кастрычніка 1795 г.

Вывезены спачатку ў Гародню, а потым у Санкт-Пецярбург Станіслаў Аўгуст Панятоўскі 25 лістапада 1795 г. вымушаны быў адмовіцца ад трона ў страчанай дзяржаве. Канчатковае вызначэнне межаў апошняга падзелу Рэчы Паспалітай паміж краінамі-падзельніцамі адбылося ў ліпені 1796 г. Апошнія дамовы паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, звязаныя з ліквідацыяй дзяржавы, былі падпісаны ў 1797 г. Пры гэтым было ўстаноўлена, што ніхто з трох манархаў не будзе мець права выкарыстоўваць тытул польскага караля і вялікага князя літоўскага.

У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі адышла апошняя ацалелая частка Вялікага княства Літоўскага з Вільняй, герцагства Курляндскае, Заходняя Валынь і частка Холмскай зямлі агульнай плошчай 120 тыс. км$^2$ з насельніцтвам каля 1 млн 200 тыс. чалавек. Насельніцтва ўласна беларускіх зямель у складзе Віленскага, Наваградскага, Гародзенскага і часткі Берасцейскага ваяводстваў складала да 840 тыс. чалавек. Аўстрыя атрымала Кракаўскае, Сандамірскае, Люблінскае, часткі Мазавецкага, Берасцейскага і Падляшскага ваяводстваў памерам 47 тыс. км$^2$ з насельніцтвам 1 млн 500 тыс. жыхароў. Прусія займела большую частку Мазавецкага ваяводства разам з Варшавай, часткі Падляшскага, Гародзенскага, Троцкага ваяводстваў і Жамойці памерам у 48 тыс. км$^2$ з насельніцтвам каля 1 млн чалавек. Пры гэтым частка этнічна беларускіх зямель (Беластоцкая акруга) да 1807 г. таксама апынулася ў Прускім каралеўстве.

Нягледзячы на тое што гвалтоўная ліквідацыя Рэчы Паспалітай была безумоўным парушэннем усіх міжнародных праваў, еўрапейскія краіны, занятыя вайной з рэвалюцыйнай Францыяй, абыякава паставіліся да гэтага факта.

Ліквідацыя Рэчы Паспалітай адбылася ў перыяд спробы яе рэфармавання. Падзел дзяржавы супаў з намаганнямі магутных феадальных манархій Еўропы не дапусціць распаўсюджання ў Рэчы Паспалітай рэвалюцыйных французскіх уплываў.




Далучэнне Беларусі да Расіі

Для насельніцтва беларускіх зямель сітуацыя, звязаная з трохступенным пераходам у склад Расійскай імперыі, апірышча феадальных парадкаў, была далёка не адназначнай. Шляхта, ураўнаваная ў правах з расійскім дваранствам, за выключэннем удзельнікаў паўстання, нічога не страціла са сваіх правоў і прывілегій. Асцярожным і абачлівым спачатку было стаўленне царызму да каталіцкага і уніяцкага святарства. Беларускі ж прыгонны селянін апынуўся пад новым бізуном расійскага самадзяржаўя. Эканамічнае і палітычнае развіццё Беларусі трапіла пад уціск захавальнай палітыкі царызму, накіраванай на кансервацыю рэгрэсіўных феадальных адносін. З пункту гледжання інтарэсаў існавання беларускай культуры і мовы беларусы ў выніку далучэння сваіх зямель да Расійскай імперыі трапілі з "гаршка" паланізацыі на "патэльню" русіфікацыі.

У нябыт адышла старая феадальная Рэч Паспалітая, а новая, рэфармаваная не паспела ўсталявацца. У гэтым была віна не толькі знешніх захопнікаў, але недальнабачнасць і абмежаванасць палітыкі кансерватыўных колаў самой Рэчы Паспалітай.

ГЛАВА 3

# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ І ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА ЭПОХІ АСВЕТНІЦТВА

## 1. Адукацыя і навука

**Сутнасць эпохі Асветніцтва ў Еўропе.** Эпоха Асветніцтва, перыяд росквіту якой прыпадае на другую палову XVIII ст., – вельмі важны і значны этап у гісторыі еўрапейскай цывілізацыі. Гэта быў час сапраўды рэвалюцыйных змен у жыцці і свядомасці еўрапейцаў. Пераасэнсоўваліся погляды на рэлігію, прыроду, грамадства, мастацтва. Назіраўся своеасаблівы "пераварот у розумах", які суправаджаўся рашучым разрывам з тым, што здавалася застарэлым і аджылым як у жыцці, так і ў стэрэатыпах мыслення. Старое асацыіравалася з неабмежаванаю ўладай рэлігіі і царквы над грамадскім і духоўным жыццём чалавека, з засіллем тэалогіі і метафізікі, стрымлівала развіццё навуковай і філасофскай думкі, як ганебны перажытак ўсё больш відавочна ўспрымалася феадальная іерархія грамадства, дзе вартасць асобы вызначалася прыналежнасцю да пэўнага саслоўя, а не яе магчымасцямі і здольнасцямі.

Галоўным напрамкам культурнага развіцця краін Еўропы ў той час стала імклівая секулярызацыя (набыццё свецкіх рыс) усіх сфер духоўнага жыцця. Гэта спрыяла развіццю навук, мастацтва, грамадскай і філасофскай думкі. Ідэалогія Асветніцтва ўсталёўвала культ розуму і здаровага сэнсу ў адносінах чалавека да Бога і рэчаіснасці. Узніклі і пачалі пранікаць у свядомасць еўрапейцаў ідэі і ідэалы натуральнага права, натуральнай рэлігіі, правоў чалавека і грамадзяніна. У цэнтр увагі грамадства былі пастаўлены праблемы асветы, а народная адукацыя набыла выразныя тэндэнцыі да пашырэння і дэмакратызацыі.

Асветніцкі дух, што зарадзіўся ў Заходняй Еўропе – Англіі і Францыі, якая была на той час цэнтрам выпрацоўкі асветніцкай ідэалогіі, ахапіў літаральна ўсю еўрапейскую культурную прастору. Не былі выключэннем і культурныя абшары Рэчы Паспалітай, якая на той час стаяла на краю гібелі і шукала выратавання ў правядзенні кардынальных рэформаў, у тым ліку ў галіне асветы.

**Школьная рэформа 1740–1760 гг.** У сярэдзіне XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі працавала каля 25 сярэдніх навучальных устаноў, дзе шляхецкая моладзь набывала веды пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў каталіцкіх (езуіты, піяры, дамініканцы, францысканцы, канонікі-латэране) і уніяцкага базыльянскага ордэнаў[1]. Вядучая роля ў галіне шляхецкай адукацыі да 1773 г. належала езуітам, якія здаўна мелі рэпутацыю вопытных настаўнікаў і вы-

[1]*Lukaszewich J.* Historya szkoł w Koronię i w Wielkim księstwie Litewskim. T. 1, Poznań, 1849. S. 249; T. 4. 1852, S. 49, 55, 68, 79, 88, 98, 112, 116, 121, 119, 127, 133, 151, 194, 197,204, 206, 217, 222, 238, 241, 260; Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из архива Министерства народного просвещения. Спб., 1893. Т. 1. С. 63, 70, 71, 74, 87; Спб., 1897. Т. 2. С. 169; *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Мн., 1971. С. 103; Raporty jeneralnych wizitatorów szkol Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1974. S. 11–29; *Pidlubczak–Majerowich M.* Bazyliane w Koronie i na Litwie. Szkoły i książki w dzialnosci zakonu. Warszawa; Wrocław, 1986. S. 28–49; *Kosman M.* Orzel i Pogoń: Z dziejów polsko–litewskich XVI–XX w. W-wa, 1990. S. 214; *Блинова Т.Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; *Krahel T.* Szkolnictwa kosciola rzymsko–katolickiego w Wielkiem księstwie Litewskim // Наш радавод. Кн. 4. Гродно, 1992. С. 462–469; Рукапісны аддзел Вільнюскага універсітэта (РА ВУ), F.–2, Кс 554.

хаваселяў. У той час на беларускіх землях езуіты ўтрымлівалі 17 калегіумаў: у Бабруйску, Берасці, Віцебску, Гародні, Драгічыне, Дынабургу, Жодзішках, Магілёве, Менску, Мсціслаўі, Наваградку, Нясвіжы, Оршы, Пінску, Полацку, Слоніму і Слуцку. Сюды імкнулася за ведамі моладзь, тут меліся бібліятэкі, працавалі школьныя тэатры. Дзякуючы існаванню езуіцкіх калегіумаў гэтыя населеныя пункты з'яўляліся важнымі асяродкамі культурнага жыцця Беларускага краю.

Езуіцкія калегіумы былі на той час узорнымі навучальнымі ўстановамі, на якія арыентаваліся школы іншых ордэнаў, у тым ліку і базыльянскія. Праграмы іх навучання ўключалі вывучэнне лацінскай мовы, схаластыкі, рыторыкі, метафізікі. У калегіумах Берасця, Полацка, Пінска, Наваградка, Драгічына, Нясвіжа, Менска, Віцебска, Слоніма меліся курсы філасофіі і тэалогіі[1]. Езуіцкія калегіумы давалі беларускім шляхціцам адукацыю заходнееўрапейскага тыпу. Аднак строгае прытрымліванне канонаў традыцыйнай адукацыі, характэрнае для езуітаў, кансервавала тое, што да сярэдзіны XVIII ст. уяўлялася застарэлым, – схаластычную вучонасць, адарваную ад патрэб рэальнага жыцця[2].

Больш гібкую сістэму школьнай шляхецкай адукацыі прапаноўвалі піяры – ордэн, галоўнай мэтай якога было менавіта выхаванне моладзі. Улады Рэчы Паспалітай зрабілі стаўку ў справах асветы на гэты ордэн. Рэформу піярскіх школ у "дзяржаве двух народаў" узначаліў правінцыял ордэна піяраў у краіне Станіслаў Канарскі (1700–1773). Пад яго кіраўніцтвам выпрацоўваліся школьныя праграмы, ствараліся падручнікі, уводзіліся ў практыку новыя метады навучання, для засваення якіх маладыя піярскія святары пасылаліся ў краіны Заходняй Еўропы. У выніку ў курсы навучання піярскіх школ было ўведзена вывучэнне дзяржаўнай (польскай) мовы, прыродазнаўчых і гуманітарных навук: гісторыі, геаграфіі, замежных моў, а таксама фізічнае выхаванне. Выключна каталіцкаму напрамку выхавання шляхецкай моладзі ў езуіцкіх калегіумах піяры супрацьпаставілі адносна свецкае і грамадзянскае выхаванне. Акрамя таго, піярскія школы давалі бясплатную адукацыю і адкрывалі школы для самых бедных.

У ВКЛ піяры з'явіліся ў пачатку 1720-х гг. і заснаваліся найперш у Вільні, дзе сустрэлі моцную апазіцыю з боку мясцовых езуітаў, якія літаральна праследавалі іх на працягу амаль 30 гадоў[3]. У Беларусі піяры адкрылі школы ў Лідзе, Шчучыне, пазней – у Віцебску, Лужках. У 1750–1760-я гг. яны актыўна ўдзельнічалі ў працэсе рэфармавання школьнай адукацыі.

Рэформа выклікала вельмі моцнае супрацьдзеянне езуітаў. Аднак з цягам часу яны вымушаны былі скарыцца і перагледзець свае праграмы навучання, увесці ў іх выкладанне польскай мовы, грамадскіх і прыродазнаўчых навук, замежных моў. У Вільні езуіты, каб не саступаць піярам, заснавалі прэстыжную сярэднюю навучальную ўстанову для дзяцей заможнай шляхты – Collegium Nobilium, дзе агульнаадукацыйныя прадметы выкладаліся ў пашыраным аб'ёме, практыкавалася навучанне танцам і фехтаванню[4]. Па прыкладу езуітаў адпаведныя карэктывы ўнеслі ў свае школьныя праграмы

[1] *Lukaszewich J.* Historya szkoł w Koronie i w Wielkim księstwie Litewskim. Poznań, 1849. T. 1. S. 249.

[2] *Митрошенко И.Л.* Иезуиты в восточной части Белоруссии // Полоцко–Витебская старина. Вып. 2. Витебск, 1912. С. 63.

[3] *Baliński M.* Dawna Akademia Wileńska: Proba jej historyi od zalizenia w roku 1579 do ostatecznego jej przekształczenia w roku 1803. Petersburg, 1862. S. 185–196; *Lukaszewich J.* Historya szkoł Koronie i w Wielkim księstwie Litewskim. Poznań, 1849. T. 1. S. 185–192.

[4] *Baliński M.* Dawna Akademia Wileńska... Petersburg, 1862. S. 200–202.

прадстаўнікі іншых каталіцкіх ордэнаў і базыльяне. Адно з красамоўных сведчанняў тагачасных змен у галіне адукацыі ў Беларусі – змяненне рэпертуару школьных тэатраў: лацінскія драмы выцясняліся польскамоўнымі трагедыямі і камедыямі, у якіх пачалі прапагандавацца новыя, асветніцкія ідэі[1].

У пачатку 1770-х гг. ужо было відавочна, што ў выніку барацьбы прыхільнікаў і праціўнікаў школьнай рэформы С.Канарскага перамаглі першыя. Іх падтрымала дзяржава, да патрэб якой была набліжана адукацыя. На той час Рэч Паспалітая, дзякуючы новаўвядзенням у галіне асветы, мела ўжо пакаленне грамадзян, падрыхтаваных да ўспрымання радыкальных ідэй Асветніцтва і ўвасаблення іх у жыцці. Грамадства стаяла на парозе прыняцця будучых сапраўды рэвалюцыйных змен у сферы народнай адукацыі.

**Стварэнне і дзейнасць Адукацыйнай камісіі.** Школьная рэформа Канарскага палепшыла і ўдасканаліла звыклую сістэму шляхецкай адукацыі, аднак не пахіснула манаполію манаства ў справах асветы. Між тым з прыходам да ўлады ў 1764 г. караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і блізкага да яго кола рэфарматараў, якія ўсведамлялі неабходнасць правядзення карэннай рэарганізацыі ўсіх бакоў жыцця краіны, менавіта гэта манаполія ўсё больш успрымалася як фактар, які стрымлівае рэформы. Дзяржава імкнулася стаць моцнай і унітарнай, і ёй патрабаваліся па-новаму адукаваныя і выхаваныя грамадзяне.

Першая ў Рэчы Паспалітай свецкая навучальная ўстанова з'явілася ў Варшаве, дзе, дзякуючы намаганням караля, з 1766 г. пачала працаваць Рыцарская школа, якая рыхтавала кадры для нацыянальнай арміі. У 1773 г., калі, паводле распараджэння папы рымскага, быў скасаваны ордэн езуітаў, найбольш уплывовых у "дзяржаве двух народаў" выхавальнікаў не аднаго пакалення шляхты, краіна атрымала шанс распачаць кардынальнае рэфармаванне сістэмы народнай адукацыі. У тым жа 1773 г. было створана першае ў Еўропе дзяржаўнае міністэрства народнай асветы – Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай, якой перадаваліся ўсе школы і багатая маёмасць скасаванага ордэна.

Галоўнай мэтай дзейнасці Адукацыйнай камісіі, якую вызначыў ёй сейм 1773–1775 гг., з'ўлялася не проста рэфармаванне традыцыйнай шляхецкай адукацыі, а стварэнне зусім новай сістэмы народнай асветы – дзяржаўнай і свецкай. Неабходнасць секулярызацыі асветы фармулявалася наступным чынам: "Моладзь не для касцёла, а для народа"[2]. У адпаведнасці з гэтымі задачамі Адукацыйная камісія распачала распрацоўку новых праграм для сярэдніх школ. У іх замацоўвалася ўсё лепшае, што было назапашана да таго часу традыцыйнай школай, – пашыралася выкладанне дакладных, прыродазнаўчых, грамадскіх навук, якім адводзілася галоўнае месца ў вучэбным працэсе, прадугледжвалася абавязковае вывучэнне замежных моў і заняткі па фізічнаму выхаванню. У той жа час з праграм выключаліся тэалагічныя прадметы, а вывучэнне Закона Божага выносілася па-за межы класных заняткаў. Працу па складанню новых падручнікаў каардынавала створанае Камісіяй Таварыства элементарных кніг, якое ў сваёй дзейнасці арыентавалася на заходнееўрапейскія, у прыватнасці французскія, узоры.

Усе езуіцкія калегіумы, а таксама прыкляштарныя[3] школы каталіцкіх і базыльянскага ордэнаў Рэчы Паспалітай Адукацыйная камісія падзяліла на

---

[1] *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 264–277.

[2] *Brukner A.* Dzeje kultury polskiej. T. 3. Czasy nowsze do roku 1831. Kraków, 1931. S. 294.

[3] Тыя, якія дзейнічалі пры кляштарах.

правінцыі: Каронную (Польскую) і Літоўскую, галоўнымі адукацыйнымі цэнтрамі якіх сталі вышэйшыя навучальныя ўстановы – Кракаўская і Віленская акадэміі. Правінцыі ў сваю чаргу падзяляліся на акругі, дзе існавалі 6-класныя акруговыя і 3–4-класныя падакруговыя школы. Нагляд за іх дзейнасцю даручаўся акадэміям. Уся праца ў правінцыях і акругах кантралявалася Адукацыйнай камісіяй. У 1783 г. быў зацверджаны "Статут, прадпісаны камісіяй народнай асветы для акадэмій і школ Рэчы Паспалітай", прытрымліванне якога было абавязковым для навучальных установ усіх ступеняў.

У стварэнні і дзейнасці Адукацыйнай камісіі самы актыўны ўдзел прынялі такія дзеячы асветніцка-рэфарматарскага руху ў краіне "двух народаў", як знакаміты філосаф-асветнік, ідэолаг радыкальных рэформ Гуга Калантай, вучань С.Канарскага плоцкі біскуп Міхал Панятоўскі, літаратар Ігнацій Патоцкі, падканцлер (на той час) ВКЛ Іахім Храптовіч. Дзякуючы стараннямі энергіі апошняга камісія атрымала езуіцкія школы і фундушы (ахвяраванні). Першым старшынёй Адукацыйнай камісіі быў прызначаны віленскі біскуп Ігнацій Масальскі, прыхільнік папулярнай у асветніцкія часы тэорыі фізіякратызму.

Масальскі і Храптовіч прынялі самы актыўны ўдзел у рэарганізацыі спраў адукацыі на землях ВКЛ. Першы, аднак, у хуткім часе быў адхілены ад працы ў камісіі за карупцыю. Ролю ж Храптовіча ў працэсе перабудовы на асветніцкіх пачатках адукацыі ў Беларусі і Літве пераацаніць цяжка. Ён шмат зрабіў для рэарганізацыі езуіцкай Віленскай акадэміі, спрыяў абнаўленню яе прафесарскага корпуса, аказваў значную дапамогу рэктару акадэміі М.Пачобуту-Адляніцкаму, з якім падтрымліваў цесныя дзелавыя і сяброўскія сувязі[1]. Шмат увагі ўдзяляў Храптовіч сярэднім навучальным установам рэгіёна. На сустрэчах у пачатку правядзення рэформаў з рэктарамі школ Літоўскай правінцыі ён наступным чынам абгрунтоўваў неабходнасць змен у галіне шляхецкай адукацыі: "Народная адукацыя – гэта фарміраванне сэрцаў і розумаў... Не трэба тлумачыць панству становішча нашай айчыны. Якія грамадзяне, такая і айчына, якое выхаванне моладзі – такія і грамадзяне"[2].

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, у выніку якога ўсходнія беларускія землі адышлі да Расійскай імперыі, і скасавання езуіцкага ордэна на тэрыторыі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі засталіся 11 езуіцкіх школ, якія перайшлі ў падпарадкаванне Адукацыйнай камісіі: у Гародні, Наваградку, Менску, Нясвіжы, Слуцку, Бабруйску, Берасці, Пінску, Драгічыне, Слоніме і Паставах, куды была перанесена пасля 1773 г. жодзішская школа. У Вішневе, Ваўкавыску, Халопенічах і Мазыры камісія заснавала новыя школы. Яна кантралявала таксама піярскія школы ў Лідзе, Лужках і Шчучыне, базыльянскія – у Жыровічах, Барунах, Беразвечы, Свержані, місіянерскую – у Лыскаве і дамініканскую – у Чашніках. Акруговымі школамі былі прызначаны паезуіцкія калегіумы Берасця, Гародні, Наваградка. Пазней акруговай школай стала і школа ў Менску. Некаторыя падакруговыя школы, прынамсі ў Жыровічах і Пінску, таксама як і акруговыя, мелі 6-класную структуру.

**Рэформа сярэдняй адукацыі ў Беларусі**. Візітацыя (праверка) школ 1782 г., якую здзяйсняла Адукацыйная камісія, засведчыла, што на той час

---

[1]*Baliński M.* Dawna Akademia Wileńska... Petersburg, 1862. S. 232–257.

[2]Цыт. па: *Szybiak I.* Nauczyciele szkoł srednich Komisji Edukacji Narodowej. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1980. S. 71.

ужо пераважная большасць сярэдніх навучальных устаноў Беларускага краю працавала паводле прадпісанняў камісіі. У большасці школ выкарыстоўваліся новыя падручнікі. Сярод настаўніцкага корпуса было нямала здольных і кваліфікаваных выкладчыкаў, такіх, як В.Гасовіч (Берасце), Ю.Ключынскі (Слуцк), М.Бавер (Наваградак), Ю.Рамаоўскі (Паставы), Серафіновіч, Гаўжэўскі (Жыровічы)[1]. У шэрагу школ меліся даволі багатыя бібліятэчныя зборы, аптэкі, здзяйсняўся належны нагляд за вучобай, побытам, харчаваннем і здароўем навучэнцаў.

Візітацыя зафіксавала не толькі поспехі ў правядзенні рэформаў у Беларусі, але і цяжкасці, з якімі яна сустракалася. Тыповыя для ўсёй краіны цяжкасці тут, у правінцыі, дзе наваўвядзенні разбуралі звыклае сармацкае культурнае асяроддзе, успрымаліся нялёгка і з боку духавенства, і з боку кансерватыўна настроенай шляхты, праяўляліся вельмі выразна. У 1782 г. некаторыя прыкляштарныя школы беларускага рэгіёна, якія ўвайшлі ў падпарадкаванне Адукацыйнай камісіі, яшчэ працягвалі вучыць шкаляроў па-старому. Не прытрымліваліся інструкцый камісіі такія падакруговыя школы, як піярскія ў Лужках, місіянерскія ў Лыскаве, дамініканская ў Чашніках, базыльянскія ў Беразвеччы і Свержані[2]. Зусім не выпадкова кіраўніцтва гэтых школ належала манахам. Менавіта ў гэтым асяроддзі новыя павевы ўспрымаліся з падазрэннем, не ўхвалялася тут і скасаванне езуіцкага ордэна.

Недахоп настаўніцкіх кадраў, якія маглі б за кароткі час спрыяць ажыццяўленню кардынальнай рэформы асветы, вызначаў бадай што самую балючую на той час праблему, з якой сутыкнулася Адукацыйная камісія. У правядзенні рэформы яна вымушана была абапірацца на тыя кадры, якія на той час меліся, г. зн. на былых езуітаў, членаў іншых каталіцкіх ордэнаў і базыльянаў. Апошнія ў пачатку дзейнасці Адукацыйнай камісіі прапаноўвалі свае паслугі ў якасці галоўных праваднікоў новай палітыкі ў сферы адукацыі, але дзяржава палічыла ўзровень іх падрыхтаванасці да такой важнай працы недастатковым[3]. Аснову настаўніцкага кантынгенту складалі выкладчыкі даўнейшых езуіцкіх устаноў. Зразумела, што многія з іх з непрыхільнасцю ставіліся да “бязбожных” крокаў Адукацыйнай камісіі.

Насцярожана ўспрымаліся новыя павевы і ў асяроддзі правінцыйнай кансерватыўнай шляхты, якая адмоўна ставілася да замахаў дзяржавы на звыклыя і сталыя культурныя традыцыі. У 1782 г. піяры, якія трымалі падакруговую школу ў Лужках, недалёка ад новай дзяржаўнай граніцы з Расіяй, тлумачылі прадстаўніку Адукацыйнай камісіі, што бацькі іх вучняў не дазвалялі дзецям вучыцца па новых падручніках, і таму настаўнікі вымушаны былі дыктаваць урокі па гэтых кнігах “з вялікай стратай часу”. Многіх вучняў бацькі забіралі са школы і пасылалі за кардон, у Расію, дзе езуіты па волі Кацярыны II знайшлі прытулак і працягвалі вучыць шляхецкую моладзь Усходняй Беларусі. У Слуцку, напрыклад, дзе побач з акадэмічнай школай існавала на аўтаномных пачатках кальвінісцкая школа, шляхціцы-католікі, здаралася, аддавалі дзяцей нават да кальвіністаў, бо тыя бралі за навучанне меншую плату і, што было ў той сітуацыі немалаважна, вучылі па-старому[4].

---

[1] Raporty generalnych wizitatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 13, 18, 20, 23, 25.

[2] Там жа. S. 11–29.

[3] *Pidlubczak-Majerowicz M.* Bazyliane w Koronie i na Litwe... Warszawa; Wrocław, 1986.

[4] Raporty generalnych wizytatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 2, 27.

Для таго каб з'явілася новае пакаленне больш схільных да рэформаў шляхціцаў і школьных настаўнікаў, зразумела, патрабаваўся час. З гэтай мэтай Адукацыйная камісія зрабіла шэраг крокаў у напрамку стварэння так званага акадэмічнага (настаўніцкага) саслоўя. Яму, паводле пастановы Камісіі 1790 г., даваўся дазвол на адміністрацыйную і судовую аўтаномію, самакіраванне ў справах унутранага жыцця, свабоду ад дробязнай апекі касцёла[1]. Настаўнікаў рыхтавала семінарыя пры Віленскай акадэміі. Пазней кадры для акадэмічнага саслоўя набіраліся з выпускнікоў акруговых школ. Паступова павялічвалася колькасць свецкіх настаўнікаў. У сярэдніх школах ВКЛ у 1783–1784 гг. такіх працавала толькі тры з агульнай колькасці 93, а ў 1791–1792 гг. – ужо 32 з 98. І хоць ВКЛ саступала ў гэтых адносінах Кароне, дзе на той час сярод 92 настаўнікаў налічвалася 60 свецкіх[2], прагрэс быў відавочны.

Сведчаннем таго, што шляхта паступова прызвычайвалася да змен у галіне адукацыі, было павелічэнне колькасці вучняў акадэмічных школ у канцы 1780 – пачатку 1990-х гг. Так, у Наваградскай школе ў 1782 г. навучалася 142 вучні, а ў 1792 г. – 156, у Нясвіжскай – адпаведна 106 і 125, у Менскай – 209 і 277, у Пастаўскай – 46 і 107[3]. У цэлым за перыяд 1781–1792 гг. колькасць навучэнцаў ва ўсёй Літоўскай правінцыі ўзрасла больш чым у два разы[4].

**Прафесійная і пачатковая адукацыя**. Сталая прыхільнасць беларускай шляхты да школьнай адукацыі, якая перадавалася з пакалення ў пакаленне, безумоўна, аблягчала дзейнасць Адукацыйнай камісіі. Мода на замежных гувернёраў, што ахапіла ў часы Асветніцтва Польшчу і Расію, у Беларусі амаль не прыжылася. Замежныя настаўнікі тут працавалі, як правіла, у школах, дзе яны выкладалі замежныя мовы[5], а таксама ў спецыяльных навучальных установах, мэтай якіх была прафесійная адукацыя навучэнцаў: тэатральная, музычная, балетная, медыцынская, ваенная.

Абуджэнне ўвагі да прафесійнага навучання – характэрная рыса развіцця асветы ў Рэчы Паспалітай і Беларусі ў прыватнасці ў другой палове XVIII ст. Тады ў магнацкіх рэзідэнцыях краю – Нясвіжы, Слуцку, Слоніме – пачалі працаваць тэатральныя, музычныя, балетныя школы, якія рыхтавалі кадры для тэатраў і ўтрымліваліся магнатамі. У гэтых школах навучэнцам, набраным з мясцовых мяшчан і прыгонных сялян, асновы майстэрства выкладалі заходнееўрапейскія прафесіяналы – музыканты, кампазітары, балетмайстры, танцоўшчыкі, спевакі. Сярод іх былі і такія знакамітыя, як Луі Максіміліян Дзюпрэ (Слуцк, Нясвіж), Антонія Пуцціні (Слуцк), Феліче Марыні (Слонім)[6]. У Нясвіжы і Альбе за кошт князя Караля Станіслава Радзівіла ўтрымліваліся кадэцкія карпусы.

У Гародні намаганнямі кіраўніка гародзенскіх каралеўскіх эканомій графа Антонія Тызенгаўза на каралеўскія сродкі ў сярэдзіне 1770-х гг. былі за-

[1] *Lewicki J.* Geneza Komisiji Edukacji Narodowej. Warszawa, 1923. S. 209–214.

[2] *Szybiak I.* Nauczyciele szkoł srednich Komisji Edukacji Narodowej. Wrocław; Warszawa, 1980. S. 165, 184.

[3] Raporty generalnych wizitatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 15.

[4] История Вильнюсского университета. Вильнюс, 1979. С. 47; *Голубев В.Ф.* Школы Белоруссии в последней четверти XVIII в. по материалам Эдукационной Комиссии Речи Посполитой // Из истории науки и техники Белоруссии. Мн., 1988. С. 17–18.

[5] Raporty generalnych wizitatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 15.

[6] *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 103–218.

снаваны кадэцкая, землямерная, бухгалтарская школы, а таксама медыцынская школа (акадэмія). У гэтых навучальных установах актыўна працавалі запрошаныя Тызенгаўзам замежныя настаўнікі і навукоўцы. Сярод іх быў і выдатны французскі натураліст Жан Эмануэль Жылібер (1741–1814). Ён узначаліў у 1775 г. гародзенскую медыцынскую школу, якая рыхтавала дактароў, лекараў, павітух для каралеўскіх эканомій. Жылібер спрыяў стварэнню багатай школьнай бібліятэкі, натуральнага кабінета і анатамічнага тэатра. Ён заклаў у Гародні батанічны сад, першы ў Рэчы Паспалітай, дзе высадзіў каля 2 тыс. раслін, у тым ліку шмат рэдкіх і экзатычных. Вучоны вёў вялікую даследчыцкую працу і заахвочваў сваіх вучняў вывучаць флору і фауну краю, збіраць расліны і мінералы. За перыяд з 1775 г. да ліквідацыі гародзенскай медыцынскай школы пасля банкруцтва Тызенгаўза і адхілення яго ад пасады кіраўніка каралеўскіх эканомій у 1781 г. гэта навучальная ўстанова падрыхтавала тры выпускі спецыялістаў. Сярод іх былі і тыя, хто атрымаў ступень доктара медыцыны: С.Ленцлер, Ю.Ясінскі, А.Лаўрыновіч, А.Арлоўскі і А.Матусевіч – сын прыгоннага селяніна Гародзенскай каралеўскай эканоміі, будучы прафесар Віленскага універсітэта[1].

У гародзенскіх каралеўскіх навучальных установах, дзе ў 1777 г. навучалася 40 чалавек[2], у музычных, балетных і тэатральных школах краю адукацыю не толькі прафесійную, але і агульную, атрымлівалі прадстаўнікі як шляхецкага, так і мяшчанскага і сялянскага саслоўяў. Адным з важнейшых дасягненняў культурнага развіцця эпохі Асветніцтва было менавіта тое, што ў гэты час пачалі выраўноўвацца саслоўныя межы ў народнай адукацыі.







Фасады медыцынскай ("акадэмія") і музычнай ("крывая афіцына") школ у Гародні. Другая палова XVIII ст.

[1] *Biliński J.* Uniwersitet Wileński. 1579–1831. T. 3, Kraków; Warszawa, 1900. S. 255.
[2] *Грицкевич В.П.* С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. С. 98.

Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай з пачатку сваёй дзейнасці ўдзяляла значную ўвагу стварэнню сеткі пачатковых парафіяльных школ для дзяцей простых саслоўяў. Актыўна дзейнічаў у гэтым напрамку першы старшыня камісіі І.Масальскі. У канцы 1770 – пачатку 1780-х гг. на абшарах ВКЛ працавала 455 парафіяльных школ, з якіх 265 знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі[1]. Аднак многія з іх існавалі нядоўга ці, здаралася, лічыліся толькі на паперы. Большая частка манаства і памешчыкаў, ад волі якіх залежала стварэнне і функцыяніраванне парафіяльных школ, адносілася да неаднаразовых заклікаў Адукацыйнай камісіі засноўваць школы для простанароддзя абыякава.

Многія ўладальнікі прыгонных сялян не ўхвалялі саму ідэю распаўсюджвання асветы сярод сялянства, а сяляне ў сваю чаргу не спяшаліся аддаваць дзяцей у новастворанныя школы, бо не бачылі сэнсу ў адукацыі. Сваю неахвоту вучыць дзяцей яны тлумачылі, і не беспадстаўна, неабходнасцю трымаць іх дома для дапамогі ў гаспадарцы і недахопам харчавання, неабходнага для ўтрымання сыноў у парафіяльных школах[2].

Хаця Адукацыйная камісія цярпліва тлумачыла памешчыкам, што яна не мае на мэце выхаванне з "хлопаў" шляхціцаў, а навучанне ў парафіяльных школах павінна абмяжоўвацца знаёмствам з катэхізісам, пачаткамі арыфметыкі, чытання і пісьма, прыхільнікаў ідэі адукацыі простага люду сярод заможнай шляхты знаходзілася няшмат. Халопенічскую парафіяльную школу, якую трымалі дамініканцы, субсідзіраваў І.Храптовіч. Намаганнямі А.Чартарыскага была заснавана школка ў Берасці, дзе выкладалі настаўнікі-базыльяне. Жонка берасцейскага кашталяна М.Быстржына ўтрымлівала школу для 20 прыгонных хлопчыкаў і дзяўчынак у Косаве, дзе пачаткі навук яна выкладала сама.

Манаства таксама не выказвала энтузіазму ў справе стварэння школ для ніжэйшых саслоўяў[3]. У Адукацыйнай жа камісіі, якая цалкам была занята рэфармаваннем шляхецкай адукацыі, на стварэнне сеткі парафіяльных школ яўна не хапала сродкаў, сіл і часу. Таму многія з заснаваных у пачатку 1770-х гг. падобных устаноў, дзе, дарэчы, навучалася па некалькі сялянскіх, мяшчанскіх і шляхецкіх хлопчыкаў, праіснавалі нядоўга. Візітатары 1880-х гг. ужо не знаходзілі слядоў існавання многіх з іх[4]. І ўсё ж ідэя бессаслоўнай адукацыі вельмі марудна, але пранікала ў грамадства. У 1789 г., напрыклад, сярод 218 вучняў акруговай акадэмічнай школы ў Гародні было 28 прадстаўнікоў мяшчанскага саслоўя[5].

Адукацыйная камісія паспрабавала ўзяць пад кантроль і адукацыю шляхцянак, якія, як і раней, атрымлівалі пачатковыя веды ў жаночых кляш-

---

[1] *Wierzbowski T.* Szkoły parafialne w Koronie i na Litwie za czasów Komisji Edukacji narodowej. 1773–1794. Kraków, 1921. S. 200–244; *Шидлаускас А.* Школьная реформа в Литве и Белоруссии в последней четверти XVIII в. // Материалы конференции молодых ученых Белоруссии и Прибалтики. Вып. «История, языкознание, литературоведение». Мн., 1963. С. 61–62.

[2] Raporty generalnych wizitatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 15.

[3] *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. С. 211–219.

[4] Raporty generalnych wizitatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 15.

[5] История Вильнюсского университета. Вильнюс, 1979. С. 47.

тарах бенедыктынак, базыльянак, марыявітак[1]. Аднак для гэтай справы, безумоўна, вельмі важнай з пункту гледжання інтарэсаў дзяржавы, першаму ў Еўропе міністэрству народнай асветы не хапіла часу.

**Вышэйшая адукацыя і навука**. Галоўная ўвага Адукацыйнай камісіі, як ужо адзначалася, была скіравана на рэфармаванне шляхецкай сярэдняй і вышэйшай адукацыі. Распачатая ў 1773 г. карэнная рэарганізацыя Віленскай акадэміі, якая пасля скасавання ордэна езуітаў знаходзілася сапраўды ў дрэнным стане, завяршылася ў 1781 г. стварэннем на яе базе Галоўнай школы ВКЛ (Schola Pricipes Magni Ducatus Lithuania) – вышэйшай навучальнай установы новага тыпу. Замест існуючых раней у акадэміі трох факультэтаў (тэалагічнага, філасофскага і факультэта кананічнага права) у Галоўнай школе пачалі працаваць два новыя (і па назве, і па сутнасці) факультэты – фізічная калегія і калегія маральных навук. У фізічнай калегіі вывучаліся вышэйшая матэматыка, астраномія, фізіка, хімія, механіка, прыродазнаўчыя навукі, медыцына, у калегіі маральных навук – філасофія, гісторыя, літаратура, рыторыка, тэалогія і юрыспрудэнцыя (рымскае і мясцовае права)[2].

Структура Галоўнай школы ВКЛ яскрава сведчыла, што галоўным напрамкам рэарганізацыі гэтай навучальнай установы стала рашучая секулярызацыя навучальнага працэсу. Гэта вышэйшая школа павінна была рыхтаваць ужо не тэолагаў, а высокапрафесійных спецыялістаў розных адгалінаванняў навук. Тэалагічныя навукі, якія раней панавалі ў Віленская акадэміі, занялі сціплае месца ў праграме навучання Галоўнай школы, дзе асноўная ўвага ўдзялялася дакладным, прыродазнаўчым і гуманітарным дысцыплінам. Упершыню ў якасці паўнапраўных прадметаў сталі выкладацца вышэйшая і прыкладная матэматыка, фізіка, хімія, натуральныя навукі, медыцына, палітычная эканомія, архітэктура. У цалкам абноўленым выглядзе ў Галоўнай школе былі прадстаўлены гуманітарныя навукі, прынамсі гісторыя і літаратура.

Рэктарам Галоўнай Літоўскай школы стаў вядомы вучоны-астраном М.Пачобут-Адляніцкі (1728–1810), прызначаны годам раней рэктарам Віленскай акадэміі, ураджэнец Гародзеншчыны. Ён пасля заканчэння вучобы ў Гародзенскім езуіцкім калегіуме ўступіў у ордэн езуітаў. Настаўнічаў у Полацку, потым удасканальваў веды ў галіне філасофіі ў Віленскай акадэміі, адкуль быў накіраваны за мяжу. У Італіі, Германіі, Францыі, Чэхіі М.Пачобут-Адляніцкі вывучаў астраномію. У 1764 г. ён стаў прафесарам Віленскай акадэміі і распачаў актыўную навуковую дзейнасць. Даследаванні вучонага ў галіне астраноміі прынеслі яму еўрапейскую вядомасць.

Падчас свайго 19-гадовага рэктарства М.Пачобут-Адляніцкі шмат зрабіў для таго, каб у Галоўнай школе сфарміраваўся моцны прафесарскі корпус. Ён абнаўляўся за кошт прадстаўнікоў новага пакалення мясцовых вучоных, многія з якіх мелі магчымасць удасканальваць веды ва універсітэтах і навуковых цэнтрах Еўропы, папаўняўся запрошанымі з-за мяжы навукоўцамі, сярод якіх былі і еўрапейскія славутасці. Па запрашэнню М.Пачобута-Адляніцкага ў Галоўнай школе працавалі Ж.Жылібер і знакаміты аўстрыйскі натураліст Г.Форстар. Кафедру хіміі ў 1785–1793 гг. узначаль-

---

[1] *Lukaszewich J.* Historya szkoł w Koronie i w Wielkim księstwie Litewskim. T. 2, Poznań, 1850. S. 435–439; *Булгарин Ф.В.* Воспоминания: Отрывки из виденного, слышанного и испытанного в жизни. Ч. 1. СПб., 1846. С. 55–56.

[2] *Biliński J.* Uniwersitet Wileński. 1579–1831. Kraków; Warszawa, 1900. T. 2. S. 5–6.

ваў італьянец Дж.Сарторыус, медыцыну выкладаў яго зямляк С.Бізіо, абраны ў 1782 г. прэзідэнтам фізічнай калегіі.

Пранікненне ў вышэйшую адукацыю новых асветніцкіх павеваў выклікала даволі значнае незадавальненне і супрацьдзеянне з боку многіх былых езуітаў. Гэта не магло не паўплываць на працы Галоўнай Літоўскай школы. Вучань і паплечнік М.Пачобута-Адляніцкага А.Стрэцкі толькі ў 1788 г. рашыўся адкрыта сказаць студэнтам аб правамернасці існавання геліацэнтрычнай сістэмы М.Каперніка і яе навуковай даставернасці. З-за нядобразычлівасці апанентаў вымушаны быў пакінуць Вільню і межы Рэчы Паспалітай Ж.Жылібер. Па той жа прычыне выехаў на радзіму знакаміты медык С.Бізіо. Вымушаны быў адмовіцца ад далейшай працы ў Галоўнай школе і сусветна вядомы натураліст Г.Форстар, якога мясцовыя змагары за "ідэалагічную чысціню" навук называлі "магільшчыкам каталіцкай веры"[1]. Развітваючыся з Вільняй, знакамітыя вучоныя пакідалі там не толькі сваіх праціўнікаў, але і ўдзячных вучняў, у тым ліку тых, якія потым сталі самі выкладаць у Галоўнай школе, а пазней і ў Віленскім універсітэце.

Карэннае рэфармаванне вышэйшай адукацыі, у аснову якога быў пакладзены прынцып секулярызацыі навук, значна спрыяла развіццю навуковай думкі ў краі. У той час пачалося вывучэнне прыроды Беларусі і Літвы. Актыўныя даследаванні праводзіліся ў галіне астранамічнай навукі. Віленская абсерваторыя, якая працавала пад кіраўніцтвам М.Пачобута-Адляніцкага, лічылася адной з першых у Еўропе. Плённа развівалася ў апошняй чвэрці XVIII ст. у ВКЛ і медыцынская навука[2].

Значныя змены закранулі ў той час філасофскую думку, у межах якой адбывалася асэнсаванне глабальных зрухаў у эпоху Асветніцтва ў стаўленні чалавека да рэчаіснасці. Філасофія паступова вызвалялася ад дыктату тэалогіі і засілля схаластыкі. У сярэдзіне XVIII ст. тагачасны рэктар Віленскай акадэміі езуіт А.Скарульскі (1715–1780), які пачынаў сваю педагагічную дзейнасць як выкладчык Навагрудскай езуіцкай калегіі, каб суаднесці дасягненні еўрапейскай навукі Новага часу з пастулатамі філасофіі, заснаванай на тэалогіі, яшчэ не вельмі смела, але ўжо выказваў сумненні адносна звыклых філасофскіх уяўленняў. Больш паслядоўна ў гэтым напрамку, хаця і ў межах эклектычнай філасофіі, выказваўся прафесар Віленскай акадэміі Бенядзікт Дабшэвіч (1722–1773), які ў свой час настаўнічаў у Полацкім калегіуме. Адным з першых філосафаў, якія ўжо яўна прытрымліваліся асветніцкіх арыенціраў, быў ураджэнец Навагрудчыны, прафесар Галоўнай Літоўскай школы Казімір Нарбут (1783–1807), аўтар першага ў Рэчы Паспалітай айчыннага падручніка па логіцы. На падставе асветніцкіх філасофскіх уяўленняў выкладаліся ў галоўнай школе ВКЛ прыродазнаўчыя навукі.

У 1775–1780 гг. статус важнага культурнага і навуковага цэнтра ВКЛ набыла Гародня. Тут працавалі спецыяльныя навучальныя ўстановы, распачынаў сваю руплівую даследчыцкую дзейнасць Ж.Жылібер. Ён вывучаў флору і фауну краю, збіраў каштоўнейшыя калекцыі мясцовых раслін і мінералаў, назапашваў матэрыялы для стварэння фундаментальнай навуковай працы – натуральнай гісторыі ВКЛ[3]. У Гародні выйшлі ў свет першыя два тамы даследавання Жылібера "Флора Літвы" (1781). Разам з Тызен-

---

[1] *Грицкевич В.П.* С факелом Гиппократа. С. 143.

[2] Там жа. С. 129–144; История Вильнюсского университета. С. 60–63.

[3] *(Кокс В.)* По России и Польше в исходе XVIII века: Путевые впечатления англичанина // Русская стариеа. 1907.

гаўзам вучоны збіраўся заснаваць у Гародні яшчэ і сельскагаспадарчую, ветэрынарную школы, абсерваторыю. Планавалася і стварэнне ў горадзе Акадэміі навук. Аднак банкруцтва Тызенгаўза не дазволіла здзейсніцца гэтым намерам. У 1781 г. па запрашэнню М.Пачобута-Адляніцкага Ж.Жылібер пераехаў у Вільню, куды быў перанесены і унікальны гародзенскі батанічны сад. У Галоўнай школе ВКЛ Ж.Жылібер выкладаў прыродазнаўчыя навукі і медыцыну, вёў актыўную даследчыцкую працу, выдаў наступныя тамы "Флора Літвы" і шэраг новых прац, прысвечаных прыродазнаўчай гісторыі Беларусі і Літвы[1].

Новыя павевы ў галіне навук закранулі не толькі віленскае і гародзенскае колы вучоных-асветнікаў. Вялікую цікавасць да вывучэння і асэнсавання дасягненняў еўрапейскай навукі выказвалі выкладчыкі сярэдніх навучальных устаноў Беларускага краю. Сведчанне таму – рукапісныя філасофскія трактаты гародзенскіх настаўнікаў апошняй чвэрці XVIII ст.[2], а таксама стварэнне ў шэрагу школ фізічных кабінетаў[3]. Адным з тых, хто актыўна супрацьстаяў антывальтэраўскай кампаніі, якая разгарнулася ў 1770–1790-я гг. у Беларусі і Літве, быў таленавіты і самабытны філосаф з Менска І.Быкоўскі[4].

Такім чынам, другая палова XVIII ст. была для Беларусі часам істотных змен, у тым ліку ў галіне культуры, калі разбуралася звыклая сармацкая культурная прастора. У свядомасць адукаванага грамадства пачалі пранікаць і ўкараняцца асветніцкія ўяўленні і ідэалы, у тым ліку ідэя ўсемагутнасці асветы і навукі. Значна павысіўся прэстыж адукаванасці і вучонасці, якія перасталі атаясамлівацца з царквой і манаствам. Гэтаму, несумненна, спрыяла рэфарматарская дзейнасць Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай.

У пачатку 1790-х гг. навучальныя ўстановы Адукацыйнай камісіі Беларускага краю працавалі ў складаных умовах. Другі падзел Рэчы Паспалітай 1793 г. і рашэнні Таргавіцкай канфедэрацыі 1794 г. паскорылі скасаванне і роспуск міністэрства народнай асветы краіны. Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай адыходзіла ў гісторыю, пры гэтым пакідала пасля сябе не толькі добрую славу, але і пакаленне шляхецкай моладзі, якая вучылася па праграмах і падручніках камісіі. Гэта пакаленне вітала прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г., удзельнічала ў паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, а потым перадало ў спадчыну нашчадкам тое, што трактавалася ўладамі Расійскай імперыі як заўзятая шляхецкая апазіцыйнасць.

Неабходна адзначыць яшчэ адзін вынік культурнага развіцця Беларусі ў час Асветніцтва. Адной з асноўных тэндэнцый асветніцкага руху ў Рэчы Паспалітай было імкненне абгрунтаваць і ўкараніць ў свядомасці грамадства ідэю нацыянальна-культурнага адзінства "дзяржавы абодвух народаў". Гэта ідэя вызначалася адназначна як ідэя польская. Мовай навучання ў школах усіх узроўняў, мовай новых падручнікаў была выключна польская мова. З пункту гледжання рэфарматараў шматнацыянальнай Рэчы Паспалітай, новым ідэалам грамадзяніна павінен быў стаць адукаваны, у меру еўрапеізаваны шляхціц, мовай якога з'яўлялася польская, а веравызнанне – каталіцкае.

---

[1] *Gilibert J.* Flora Lithuanica inchiata enumeratio plantarum circa Grodnam. Col. 1–2. Grodnae, 1781. Col. 3, 4–5. Vilnae, 1781, 1782; Supplementum primae et secundaecollectionis Lithuaniae... Vilnae, 1782; Supplementum plantarum... Vilnae, 1785.

[2] *Дорошевич Э.К.* Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. С. 40–46.

[3] Raporty generalnych wizitatorów szkoł Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim księstwie Litewskim. 1782–1793. Wrocław, 1974. S. 15.

[4] *Дорошевич Э.К.* Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. С. 179–196.

Нягледзячы на тое што галоўным напрамкам рэфармавання асветы Адукацыйная камісія абвясціла секулярызацыю, яна не ўхваляла адкілення шляхецкай моладзі ад каталіцызму і нядобразычліва ставілася да поспехаў, напрыклад, базыльянскіх школ, якія прыцягвалі ў Беларусі да сябе пэўную частку шляхецкіх дзяцей-католікаў[1], і дзе поруч з польскай выкладалася таксама і мова "руская" (старабеларуская). У часы Асветніцтва, у тым ліку дзякуючы намаганням Адукацыйнай камісіі, у свядомасці беларускай шляхты паняцці адукаванасці і шляхецтва яшчэ мацней асацыіраваліся з каталіцкім веравызнаннем і польскамоўнай культурай. На ўсходніх беларускіх землях, якія трапілі пад уладу Расійскай імперыі, ужо ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай пачалі набіраць моц русіфікацыйныя працэсы ў галіне культуры і адукацыі. Усё гэта, несумненна, замаруджвала фарміраванне беларускай нацыянальнай свядомасці і нацыянальнай культуры.

Між тым менавіта ў часы Асветніцтва на еўрапейскіх абшарах пачалося зараджэнне інтарэсу да нацыянальных пачаткаў[2]. Зярняты гэтага інтарэсу, выспяваючыя ўнутры ідэалогіі Асветніцтва, пранікл і ў беларускую глебу, дзе асядалі, каб даць плён у наступным, XIX ст.

## 2. Літаратура

У другой палове XVIII ст. у Беларусі актыўна распаўсюджваліся рацыяналістычныя ідэі Асветніцтва, якія ахаплівалі розныя сферы – грамадска-палітычную і філасофскую думкі, мастацтва, літаратуру. Вялікую цікавасць выклікала тут творчасць заходнееўрапейскіх, польскіх, рускіх асветнікаў. Так, творы французскіх аўтараў, надрукаваныя ў польскіх часопісах "Monitor" і "Zabawy pzyjemne i pożyteczne", чыталі ў Менску і Навагрудку[3]. У Клімавіцкім павятовым вучылішчы меўся поўны камплект энцыклапедыі Д.Дзідро, розныя выданні Ф.М.Вальтэра, Ж.-Ж.Русо[4]. Яны знаёмілі чытачоў з вольнадумствам, атэізмам і матэрыялізмам, насуперак сярэднявечнай схаластыцы неслі рацыяналізм і прыродазнаўчыя веды.

Сугучнымі з гістарычнымі рэаліямі (эканамічнае ажыўленне, настойлівыя пошукі выйсця з зацяжнога крызісу, рэформы ў грамадскай думцы) былі ідэі польскіх мысліцеляў С.Канарскага, Г.Калантая і інш.

У апошняй чвэрці XVIII ст. усё больш пашыраліся прынцыпы, на якіх будавалася руская асвета. Творамі А.Радзішчава, М.Ламаносава, Я.Казельскага ўкамплектоўваліся мясцовыя бібліятэкі народных вучылішчаў[5]. Яны знаходзілі сваіх прыхільнікаў і паслядоўнікаў на беларусіх землях: К.Нарбут, М.Пачобут-Адляніцкі, М.Карповіч, С.Маймон і іншыя ў сваіх творах, многія з якіх межавалі з публіцыстыкай, мастацкай прозай[6], сцвярджалі "прыродную" роўнасць усіх людзей, выступалі за рэформы, асуджалі бесчалавечнасць. Нягледзячы на пэўную абмежаванасць поглядаў, кожны з іх па-свойму садзейнічаў пашырэнню асветніцкіх ідэй, увасабленню новага чалавека – грамадзяніна і патрыёта.

---

[1] *Kurdybach L.* Kurja rzymska wobec Komisji Edukacji Narodowej w Latach 1777–1789. Kraków, 1949. S. 31–32; *Pidłubczak–Majerowich M.* Bazyliane w Koronie i na Litwie... Warszawa..., 1986. S. 11–29.

[2] *Лотман Ю.М.* Слово и язык в культуре Просвещения // Век Просвещения: Россия и Франция. М., 1989. С. 6–18.

[3] *Szarma Maria.* Wolter w czasopiśmach stanisławowskich. Kraków, 1963. S. 26.

[4] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 231.

[5] *Дорошевич Э.К.* Философия эпохи Просвещения. Мн., 1971. С. 151.

[6] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый. С. 235.

У XVIII ст. складаны і ў той жа час з надзеяй на будучыню перыяд перажывала беларуская літаратура. Каталіцкая экспансія і паланізацыя мясцовых культурных слаёў насельніцтва стала прычынай таго, што беларуская мова з другой паловы XVII ст. пачала выцясняцца з літаратурнага ўжытку. Выведзеная з афіцыйнага ўжывання, пазбаўленая сваёй нацыянальнай моўнай асновы, яна ў XVIII ст. пачала фальклярызавацца. Тым не менш новыя мастацкія формы і ідэі неслі творы тагачасных пісьменнікаў, ураджэнцаў Беларусі, якія пісалі і друкаваліся на іншых мовах, пераважна польскай: Ю.Нямцэвіча і А.Нарушэвіча (пачынальніка польскага класіцызму), Ф.Князьніна, які стаяў каля вытокаў польскага сентыменталізму, драматурга і публіцыста Ф.Багамольца, пісьменніка і вучонага-славіста С.Богуша-Сестранцэвіча, вядучага прадстаўніка польскага сентыменталізму Ф.Карпінскага і інш.

Польская, лацінская, старaславянская, французская, а з 70-х гг. руская і іншыя мовы адлюстроўвалі літаратурнае шматгалоссе Беларускага краю. І толькі ўласна беларуская літаратура знаходзілася на ўзроўні "плебейскай" – рукапіснай і ананімнай[1]. Беларускія творы займалі ў XVIII ст. яшчэ меншае месца, чым у папярэднія часы.

Асноўнай літаратурнай мовай тагачаснай Беларусі была польская – дзяржаўная мова Рэчы Паспалітай. Часта ў адпаведнасці з "моўным раздваеннем" у польскамоўныя творы ўкраплялася беларуская гаворка. На ёй, як правіла, размаўлялі персанажы, якія прадстаўлялі "просты люд". Творы, народжаныя на беларускіх землях, былі насычаны адценнямі мясцовай рэчаіснасці, зразумелымі і распаўсюджваліся не толькі сярод шляхты, але і сярод сялянства. Менавіта яно заставалася прадаўжальнікам лепшых народных традыцый і несла іх у творах вуснай паэтычнай творчасці, іншых формах, якія сталі жыватворнай глебай для нараджэння новай беларускай літаратуры.

**Асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў другой палове XVIII ст.** Глыбінныя працэсы, звязаныя з абміршчэннем і дэмакратызацыяй беларускай літаратуры, выклікалі яе жанрава-відавое абнаўленне. У прозе, як і ў папярэдні час, пераважалі парадыйна-сатырычныя творы, дзе разам з рэлігійным вальнадумствам і антыклерыкалізмам спалучылася крытыка тых ці іншых рыс тагачаснага грамадства ("Прамова русіна", "Другая прамова русіна" і інш.). У 50–60-я гг. XVIII ст. у Жыровіцкай калегіі ўзніклі польска-беларускія арацыі, вытрыманыя ў духу новых асветніцкіх прынцыпаў.

Дамінуючымі жанрамі ў другой палове XVIII ст. сталі паэзія і драматургія. Народна-паэтычная творчасць, дзе здаўна бытавалі жартоўныя творы, сатырычныя песні, казкі, анекдоты і інш., уздзейнічала на развіццё ў гэты час бурлескнай і парадыйнай вершаванай паэзіі. Строга вытрыманыя ў рэлігійным тоне калядныя і велікодныя песні дапаўняліся жартоўнымі вершамі. Праз увядзенне свецкіх элементаў у творы рэлігійнага зместу аўтары ажыўлялі тэматыку, прызвычайвалі яе да рэчаіснасці, звязвалі з народным жыццём і побытам. Прыкладам таму з'яўляецца калядны верш "У Віфлееме, доме ўбогім". У выніку пераасэнсавання вядомых сюжэтаў з'яўляліся творы, у якіх захаваліся толькі традыцыйныя біблейскія імёны, але якія былі цалкам пазбаўлены рэлігійнага зместу. У такія творы ўводзілася шмат элементаў гутарковай мовы. Так, у травесційным "Уваскрэсенні Хрыстовым" біблейскія персанажы нагадвалі простых людзей з чалавечымі недахопамі, слабасцямі. Элементы камізму дасягаюцца шляхам спалучэння высокіх слоў малітвы з будзённым зместам у калядцы "Таго дня вельмі слаўнога". Бурлескная паэзія адыграла станоўчую ролю ў станаўленні беларускай на-

[1] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. С. 185.

цыянальнай літаратуры, бо менавіта яна ўвяла ў яе вобразы і сцэны з жыцця народа і тым самым злучыла барочныя і класіцысцкія традыцыі з фальклорнымі.

Пра даволі высокі ўзровень тагачаснай грамадскай і эстэтычнай думкі сведчаць творы сатырычна-палітычнай накіраванасці. Аб'ектамі сатыры станавіліся падзеі вялікай еўрапейскай палітыкі ("Указ гарачы", "Праект", "Як расплакаўся что пруськой король", "Разгавор імператрыцы з Інгельштромам"). Аўтарства іх невядома, але па моўных асаблівасцях можна меркаваць, што аўтар твора – ураджэнец беларускіх зямель.

Найбольшым дасягненням палітычнай паэзіі другой паловы XVIII ст. можна назваць "Песню беларускіх жаўнераў 1794 г.", якая па сваёй эстэтычнай сістэме і мове належыць да новай літаратуры. Твор з'явіўся першым у беларускай паэзіі непасрэдным зваротам да народных мас "узяць у рукі косы ды янчаркі", выступіць супраць прыгнятальнікаў.

Рысы старой і новай беларускай літаратуры своеасабліва спалучыліся ў "Камедыі" (1787) прафесара рыторыкі і паэтыкі Забельскай калегіі К.Марашэўскага. Рэалістычнае адлюстраванне ўмоў жыцця, сацыяльнага становішча сялянства і ў рэшце рэшт каларытная, па-народнаму вобразная мова яе галоўнага персанажа Дзёмкі ставяць твор К.Марашэўскага ў шэраг найлепшых здабыткаў беларускай драматургіі.

Пачэснае месца ў літаратурным жыцці Беларусі другой паловы XVIII ст. заняла польска-беларуская пераробка камедыі Ж.Б.Мальера, камедыя выкладчыка той жа Забельскай калегіі М.Цяцэрскага "Доктар па прымусу"[1]. Нягледзячы на тое што камедыя напісана ў асноўным па-польску, беларуская яе частка з'явілася таленавіта напісаным у цэлым самастойным і арыгінальным творам. Мальераўскі сюжэт быў напоўнены беларускім каларытам, а герой-француз ва ўсім нагадваў мясцовых збяднелых шляхціцаў.

Лепшыя паэтычныя і драматычныя творы другой паловы XVIII ст. сведчаць, што, нягледзячы на неспрыяльныя гістарычныя ўмовы, зацяжны крызіс беларускай літаратуры ва ўмовах знаходжання Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай пастунова, пад плённым уплывам ідэй Асветніцтва, пераадольваўся. Новыя эстэтычныя вартасці, творчае выкарыстанне беларускага фальклору, станаўленне новых свецкіх дэмакратычных пачаткаў, звяртанне да жывой народнай мовы закладалі асновы для яе ажыўлення ў наступным, XIX ст.

**Кнігадрукаванне**. Пад уздзеяннем асветніцкіх ідэй развівалася друкарска-выдавецкая справа. У другой палове XVIII ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі існавала 12 друкарняў – па тры ў Гародні і Магілёве, адной – у Менску, Нясвіжы, Пінску, Полацку, Слоніме і Шклове[2].

Беларуская мова пад націскам каталіцкага ўплыву і палітыкі паланізацыі ў канцы XVII–XVIII ст. пачала страчваць свае пазіцыі ў дзяржаўнай сферы, што вяло да заняпаду беларускай пісьмовай літаратуры і кнігадрукавання. Кнігі ў другой палове XVIII ст. выдаваліся на стараславянскай, польскай, лацінскай, французскай, нямецкай, яўрэйскай і ў канцы стагоддзя – на рускай мовах.

У прадукцыі друкарняў усё большую ўдзельную вагу ў параўнанні з часамі контррэфармацыі займала свецкая літаратура (у той час яна складала

[1] *Усікаў Я.Л.* Беларуская камедыя. Мн., 1964. С. 15–20.

[2] *Мальдзіс А.І.* Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн.. 1974. С. 131.




Старонка "Буквара".
Супрасль. 1761 г.

50 % усіх выданняў). Найбольш высокімі тыражамі – 7000 экземпляраў – выдавалася вучэбная літаратура (буквары, граматыкі, слоўнікі)[1].

Лідэрам па колькасці выданняў з'яўлялася Гародзенская каралеўская друкарня, якая працавала ў 1775–1796 гг. Асновай яе паслужыла друкарня Віленскай езуіцкай акадэміі, перавезеная ў Гародню падскарбіем Літоўскім А.Тызенгаўзам пасля скасавання ордэна езуітаў. У друкарні працавала каля 30 чалавек, мелася ўласная майстэрня для адліўкі літар, выданні вызначаліся высокай якасцю друку, паперы (яна завозілася ў асноўным з Прусіі), мастацкага афармлення.

Навуковыя адкрыцці ў прыродазнаўстве, дасягненні ў галіне гуманітарных ведаў непасрэдным чынам паўплывалі і на тэматыку выданняў. У Гародзенскай друкарні былі выдадзены "Флора Літвы" французскага натураліста, вучонага з еўрапейскім імем Ж.Э.Жылібера (1781), "Кароткі збор карфагенскай і егіпецкай гісторыі" Г.Барэцкага (1776), творы вядучых пісьменнікаў XVIII ст.: "Апісанне падарожжа з Варшавы да Білгарая" І.Красіцкага (1783), "Вяртанне з Варшавы ў вёску" Ф.Карпінскага (1784), "Авантура кавалера па імені Фартунат, асобы нешчаслівай" І.Міцкевіча (1782) і інш. Сярод перакладаў на польскую мову выйшлі вальтэраўскі "Задзіг" (1776), мальераўскі "Доктар па прымусу" (1783). Акрамя мноства афіцыйных дакументаў, у Гародзенскай друкарні пабачылі свет каля 100 кніг.

Цікавай з'явай у тагачасным культурным жыцці Беларусі былі польска-"русінскія "Гродзенскія гаспадарчыя календары", якія друкарня выдавала штогод. Гэты від выданняў падрыхтаваў не толькі глебу для перыядычнага друку, але і чытачоў будучых газет. Гродзенскія календары выходзілі да канца XVIII ст. часам тыражом да 8 тыс. экземпляраў[2]. Яны ўтрымлівалі палітычныя звесткі, карысныя гаспадарчыя, медыцынскія, кулінарныя і касметычныя парады, факты з мясцовага жыцця, артыкулы аб адкрыццях у механіцы, астраноміі, геаграфіі, фізіцы, высмейвалі шарлатанства. Іх складальнікі выступалі супраць сярэдневечнага цемрашальства і розных забабонаў. Акрамя Гародні "кніжныя календары" ў 80–90-я гг. XVIII ст. выдаваліся на польскай мове ў Магілёве і Полацку.

На Гародзеншчыне ў маі 1776 г. пабачыла свет першае перыядычнае выданне на тэрыторыі сучаснай Беларусі – "Газета Гродзенска"[3]. На дзвюх яе

---

[1] *Голенченко Г.Я.* Техника белорусского книгопечания XVI–XVIII вв. // Материалы научной конференции. Мн., 1965. С. 156.

[2] *Мальдзіс А.І.* Календары, выдадзеныя ў Беларусі ў XVIII ст. // Книговедение в Белоруссии. Мн., 1977. С. 65–68.

[3] *Zofeh Iezzy.* Gazeta Grodzieńska. 1776–1783. Rochnik historii czasopiśmeinnictwa polskiego. 1966. Z. 2. S. 5.

старонках фарматам 20 x 15 см на польскай мове змяшчаліся артыкулы пра найбольш значныя падзеі ў Рэчы Паспалітай, Расіі, Заходняй Еўропе, асвятлялася мясцовае жыццё, друкаваліся аб'явы і паведамленні. Газета спраўна выконвала сваю асноўную функцыю – прадстаўленне аператыўнай інфармацыі і, галоўнае, ішла разам з часам. Упершыню на яе старонках чытач мог пазнаёміцца з крытычнымі матэрыяламі па надзённых грамадска-палітычных праблемах (напрыклад, даведацца аб прыгнёце на захопленых Прусіяй польскіх землях)[1].

Пра дэмакратычны настрой выдання сведчыў той факт, што неаднойчы ў адрас газеты гучалі папрокі з боку караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Хутка па яго загаду была ўведзена пасада цэнзара, які пэўныя "ненадзейныя" артыкулы замяняў паведамленнямі з іншых выданняў. Апошні нумар газеты выйшаў 28 снежня 1780 г.

У канцы XVIII ст. у Гародні выходзілі яшчэ дзве газеты: у 1792 г. – "Ведамасці Гродзенскія" – орган Таргавіцкай канфедэрацыі і "Кур'ер Літоўскі" (1796–1797). На старонках гэтых выданняў змяшчалася інфармацыя аб падзеях у дзяржаве і горадзе, утрымліваліся матэрыялы аб знешніх зносінах краіны, палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Рэчы Паспалітай.

Асноўную ж інфармацыйную нагрузку неслі польскія газеты "Monitora", "Gazete Narodowa i Obca", "Gazeta warszawska" і інш. Рэдактарамі гэтых выданняў з'яўляліся ўраджэнцы беларускіх зямель – Ф.Багамолец, А.Нарушэвіч і С.Лускін. Акрамя іншых матэрыялаў гэтыя выданні ўтрымлівалі і паведамленні з Беларусі.

Перыядычныя выданні другой паловы XVIII ст. адыгралі выключна важную ролю ў павышэнні культурнага ўзроўню грамадства. Дзякуючы ім чытач атрымліваў аператыўную і даступную інфармацыю, пашыраўся яго кругагляд, больш актыўнымі станавіліся зносіны з іншымі прадстаўнікамі беларускай культуры.

Асобае месца ў беларускім кнігадрукаванні належыць прыватным друкарням. Дзейнасць некаторых з іх была кароткачасовай з-за слабага развіцця выдавецкай справы, адсутнасці дзяржаўнага кніжнага гандлю, нарэшце, перашкод з боку ўлад. Так, у 1796 г. выйшаў указ Кацярыны II аб закрыцці вольных, г.зн. прыватных, друкарняў. Тым не менш дзякуючы прыватнаму кнігавыданню ў Беларусі з'явіліся кнігі па айчыннай гісторыі, медыцыне. Часта ў ролі выдаўцоў выступалі аўтары ўласных твораў, якія мелі на мэце хутчэй асветніцкія, чым камерцыйныя, інтарэсы. Так, прыватнай Гародзенскай друкарняй М.Тамашэўскага была выдадзена ў 1798 г. на польскай мове "міфалагічна-гістарычная" трагедыя "Ахвяра Мінервы", напісаная самім уладальнікам друкарні.

З 1774 г. да канца XVIII ст. дзейнічала Магілёўская прыдворная друкарня, якая належала каталіцкаму арцыбіскупу, пісьменніку і вучонаму-славісту Станіславу Сестранцэвічу. У 1786 г. тут выдадзены трактат вядомага палітычнага і грамадскага дзеяча Ф.Пракаповіча "Аб паэтычным мастацтве"[2]. Кніга ўключала лекцыі, прачытаныя ім у 1705 г. у Кіева-Магілянскай акадэміі. Усяго ў друкарні было выдадзена 50 кніг. Акрамя таго, тут выходзілі на польскай мове "Беларускія календары" і "Календары для беларускага намесніцтва".

---

[1] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый. С. 243.

[2] Кніга Беларусі 1517–1917. Зводны каталог. Мн., 1986.

У Нясвіжскай друкарні Радзівілаў у 1750–1791 гг. выйшлі з друку каля 64 кніг. Пераважала рэлігійная літаратура, сярод іншых выданняў вядомы панегірычныя вершы і прамовы, творы антычных аўтараў, падручнікі.

Працы па трыганаметрыі і гігіене выходзілі ў канцы XVIII ст. у Шклоўскай прыватнай друкарні асветніка і мецэната І.Цэйтліна[1].

Універсальны характар кніжнай прадукцыі прыватных друкарняў садзейнічаў пашырэнню сферы распаўсюджання кнігі, стымуляваў дзейнасць творчай інтэлігенцыі.

Не абмяжоўваліся выключна рэлігійнай літаратурай у другой палове XVIII ст. царкоўныя друкарні. Пераважна свецкую накіраванасць мела Магілёўская друкарня Рымска-каталіцкай кансісторыі. Патрэбам каталіцкай царквы былі падпарадкаваны толькі асобныя выданні – штогадовыя календары, або дырэкторыумы, каталогі асоб каталіцкай іерархіі. На рускай мове тут выйшла першая на тэрыторыі Беларусі кніга грамадзянскага друку “Кацярыны II пастановы для кіравання губерняй” (1777)[2].

Далучэнне ў другой палове XVIII ст. беларускіх зямель да Расійскай імперыі прывяло да значных пераўтварэнняў у кнігадрукаванні: зацвярджаецца грамадзянскі шрыфт, кірылічныя выданні грамадзянскага друку выдаваліся ў мясцовых друкарнях на аснове расійскіх законаў і адпаведных прывілеяў аб кнігадрукаванні. На рускай мове было выдадзена 11 кніг, у тым ліку “Словарь юридический” Ф.Ланганса (Полацкая езуіцкая друкарня, 1791), “Похвальная песнь при возшествии на престол Павла I” (Віцебск, 1799) і інш.

У 1799 г. у Менскай губернскай друкарні[3] выйшаў навучальны дапаможнік “Лёгкі спосаб навучыцца чытаць па-руску і па-польску”. Гэта было першае беларускае выданне падручніка грамадзянскага друку, які змяшчаў тэксты на рускай мове.

Пра тое, што разам з легальнымі выданнямі з’яўляліся і патаемныя, сведчыла асобая пільнасць з боку ўлад. “Універсал паліцэйскай камісіі ВКЛ” ад 13 сакавіка 1794 г. прадугледжваў утварэнне асобай цэнзурнай камісіі для разгляду ўсіх кніг, якія выходзілі ў гарадах Заходне-Рускага краю. Універсал прадпісваў лічыць забароненымі “все вообще книги, не согласные с учетом католической церкви и местными народными обычаями”. Асобы, якія займаліся распаўсюджваннем забароненых кніг, плацілі штраф у памеры 100 злотых на першы раз і пазбаўляліся волі – у другі[4].

З развіццём кнігадрукавання самым непасрэдным чынам звязана і мастацтва кніжнай графікі. Скураныя цісненыя пераплеты, асобныя лісты з багата гравіраваным арнаментам, застаўкі, канцоўкі, загалоўныя буквіцы, шрыфты – усё гэта з’яўлялася выразным паказчыкам развіцця культуры кнігі і выдавецкай справы ўвогуле.

У 1747 і 1751 гг. у Нясвіжы быў выдадзены Марцінам-Францішкам Вабе радаслоўны альбом княжацкага роду Радзівілаў за 400 гадоў. На прыкладзе гэтага выдання, мастаком-афарміцелем якога з’яўляўся Гірш Лейбовіч, ураджэнец Нясвіжа, можна сцвярджаць, што тэхніка гравіравальнага мастацтва ў Беларусі дасягнула ў сярэдзіне і другой палове XVIII ст. высокага ўзроўню.

---

[1] *Цинберг С.* Шклов и его «просветители» конца XVIII в. // Еврейская старина. 1928. Т. 12. С. 17–44.

[2] Кніга Беларусі 1517–1917. Зводны каталог.

[3] Заснавана ў 1797 г. Мела статус казённа-камерцыйнага прадпрыемства, належала губернскаму праўленню.

[4] АВАК. Вильня, 1879. Т. 10. С. 553–556.

Асветніцтва з яго гістарычным аптымізмам, павагай да чалавека, яго творчасці, думак аказала дабратворны ўплыў і з'явілася стымулюючым фактарам для развіцця кнігадрукавання ў Беларусі. Кніга ўваходзіла ў жыццё людзей, у іх свядомасць як факт выключнай важнасці. Гэтым было абумоўлена далейшае інтэлектуальнае развіццё грамадства і рост яго цікаўнасці да іншых галін культуры.



Народны лубок. XVIII ст.

## 3. Магнацкія культурныя цэнтры

**Магнаты і Асветніцтва**. Асноўны напрамак культурнага развіцця еўрапейскіх народаў у эпоху Асветніцтва выяўляўся ў імклівай секулярызацыі (абміршчэнні) розных сфер духоўнага жыцця. Гэта тэндэнцыя закранула і Беларусь, для якой другая палова XVIII ст. была часам плённага развіцця свецкай культуры, росквіту музычнага і прыкладнога мастацтваў, часам станаўлення свецкага прафесійнага тэатра.

Мастацкае жыццё Беларускага краю таго часу канцэнтравалася, як правіла, у невялікіх гарадах – цэнтрах магнацкіх латыфундый, дзе існавалі багатыя арыстакратычныя двары. Тут захоўваліся каштоўныя мастацкія калекцыі і кнігазборы, працавалі друкарні, тэатры, музычныя капэлы, тэатральная і музычная школы, развівалася сядзібная і паркавая архітэктура. Дзякуючы працы таленавітых замежных і мясцовых дойлідаў, мастакоў, кампазітараў, музыкантаў, балетмайстраў, майстроў прыкладнога мастацтва магнацкія сядзібы пераўтвараліся ў "малыя Версалі" і "паўночныя Афіны".

Буйныя землеўласнікі, уладальнікі многіх тысяч прыгонных душ, магнаты, чые даходы часам перавышалі прыбыткі дзяржаўнага скарбу, заўжды мелі дастаткова сродкаў для задавальнення сваіх культурных патрэб. Яны традыцыйна з'яўляліся на сваёй радзіме заканадаўцамі моды і густаў у галіне культуры, вылучаліся адкрытасцю да ўспрыняцця новых культурных павеваў. Не з'явілася выключэннем у гэтым сэнсе і эпоха Асветніцтва – час, калі ў Рэчы Паспалітай пачала разбурацца звыклая і, як здавалася да таго, непарушная шляхецкая сармацкая культурная прастора і складвалася новая сістэма агульнапрызнаных этычных і эстэтычных каштоўнасцей.

Актыўнае разбурэнне сармацкай культуры распачалося ў першыя гады праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага, падчас так званай "станіслаўскай вясны", з імклівай еўрапеізацыі ўсіх галін культурнага жыцця. Прадстаўнікі магнацкага асяроддзя прынялі ў гэтым працэсе самы актыўны ўдзел, нягледзячы на тое што значная частка магнатаў не падтрымлівала рэфарматарскія памкненні "караля-літвіна" і яго паплечнікаў і знаходзілася ў апазіцыі да новай улады. Магнацкі ўдзел у еўрапеізацыі культуры тлумачыўся перш за ўсё сталымі культурнымі традыцыямі і запатрабаваннямі

магнатэрыі, якія ў дадзеным выпадку перамагалі палітычныя амбіцыі і ідэалагічную несумяшчальнасць.

Магнаты былі тым слоем грамадства, які традыцыйна падтрымліваў вельмі цесныя культурныя сувязі з Заходняй Еўропай. Яны мелі магчымасці знаёміцца з еўрапейскай культурай і плённа гэтыя магчымасці выкарыстоўвалі. У другой палове XVIII ст. маладыя літвінскія магнаты пасля атрымання даволі вузкай, як правіла, хатняй адукацыі накіроўваліся за мяжу, дзе наведвалі еўрапейскія сталіцы, манаршыя двары і арыстакратычныя салоны. Гэтыя падарожжы ў значнай ступені спрыялі фарміраванню іх эстэтычных густаў і арыентіраў. З Еўропы магнаты прывозілі моду на нашэнне еўрапейскага адзення[1] і звычкі культурнага правядзення вольнага часу, якое пачало асацыіравацца з наладжваннем баляў-маскарадаў, тэатральных прадстаўленняў, з практыкаваннямі ў прыгожым пісьменстве і вельмі папулярным сярод тагачаснай літвінскай знаці аматарскім музыцыраваннем[2].

Згодна з тагачаснай еўрапейскай модай у рэзідэнцыях магнатаў засноўваліся пышныя "парнасы". Становучую ролю пры гэтым адыгрывалі знакамітыя магнацкія амбіцыі: жаданне не адставаць ад Еўропы, ад роўных сабе суайчыннікаў і ў рэшце рэшт ад караля, варшаўскі двор якога быў у той час суцэльна еўрапеізаваны. Магнаты не скупіліся на выдаткі дзеля надання сваім дварам еўрапейскага бляску. Яны ахвотна запрашалі на працу замежных майстроў, музыкантаў, артыстаў, мастакоў, архітэктараў, сярод якіх было нямала знакамітых дзеячаў культуры. Сапраўды, "мода і снабізм павінны былі адыграць сваю культурна-творчую ролю, і яны яе адыгралі"[3]. Нясвіж і Слуцк Радзівілаў, Слонім М.К.Агінскага, гарадзенскія культурныя ўстановы А.Тызенгаўза, Ружаны і Дзярэчын А.М.Сапегі сталі значнымі, сапраўды еўрапейскага тыпу культурнымі асяродкамі, дзе канцэнтравалася і квітнела мастацкае жыццё Беларускага краю.

У магнацкім асяроддзі знаходзіліся прыхільнікі новых асветніцкіх ідэй і асобы, якія спачувальна да гэтых ідэй ставіліся. Трэба перш за ўсё згадаць прадстаўнікоў рэфарматарскай каманды караля Станіслава Аўгуста – І.Храптовіча і А.Тызенгаўза. Граф Іахім Літавор Храптовіч, актыўны ўдзельнік асветніцкага руху, грамадскі і палітычны дзеяч агульнадзяржаўнага маштабу, адзін са стваральнікаў Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай, ажыццяўляў асветніцкія наваўвядзенні ў сваіх уладаннях. У маёнтках Шчорсы і Вішнева ён замяніў паншчыну на чынш і ўсталяваў адносіны з прыгоннымі на падставе дагавору "як бы з вольнымі людзьмі"[4], утрымліваў за свой кошт парафіяльную школу для простага люду ў Халопенічах. Рэфарматарская дзейнасць кіраўніка каралеўскіх эканомій графа Антонія Тызенгаўза, прыхільніка новай філасофіі, які запрашаў знакамітага Ж.-Ж.Русо пасяліцца ў Беларусі, спрыяла пераўтварэнню Гародні ў значны прамысловы і навукова-культурны цэнтр ВКЛ.

Безумоўна, асветніцкімі ідэаламі кіраваўся падчас працы над здзяйсненнем сваіх грандыёзных праектаў па пракладцы дарог праз палескія балоты і збудаванню канала, які звязаў басейны Балтыйскага і Чорнага мораў, гет-

---

[1] *Szlemuller W.* Diariusz podroży na sejm Grodziecski 1752 // Cudzoziemcy o Polsce. Relacje i opinie. T. 2. Wiek XVIII–XIX. Kraków, 1971. S. 26–27; *Bernouli J.* Podroż po Polsce. S. 59.

[2] *Niemcewicz U.J.* Pamiętniki czasów moich. Parys, 1848. S. 106; *Bartoszewicz K.* Radziwiłłowe. Warszawa; Kraków, 1907. S. 88, 126; *Zorawska-Witkowska A.* Kapela Antoniego Tyzenhauza w Grodnie // Muzyka. 1977. № 2. S. 25; *Дадиомова О.В.* Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992. С. 42.

[3] *Цеханавецкі А.* Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. Мн., 1993. С. 35.

[4] НГАБ, ф. 142, воп. 1, спр. 1220, арк. 98.

ман вялікі літоўскі граф Міхал Казімір Агінскі. Ён сябраваў з Д.Дзідро, а смерць Русо перажываў як згубу блізкага сябра[1]. Сярод прыхільнікаў новай французскай філасофіі былі і Марцін Радзівіл, і перакладчык Вальтэра Міхал Сапега.

Між тым у межах новай культурнай эпохі, новай ідэалогіі, заснаванай на прынцыпах натуральнага права, дэмакратыі, усталявання павагі да правоў чалавека, магнатам як саслоўю феадальнай арыстакратыі было па сутнасці наканавана сысці з гістарычнай арэны, бо само іх існаванне супярэчыла ідэалам Асветніцтва і перспектывам гістарычнага развіцця[2]. Менавіта гэтымі абставінамі тлумачылася супярэчлівасць культурнай дзейнасці магнатаў у другой палове XVIII ст. і дзіўнае спалучэнне новага і старога ў іх побыце і ладзе жыцця. Чытанне Вальтэра і Русо ўжывалася з саслоўнай фанабэрыяй, пагардай да ўсіх, хто знаходзіўся на больш нізкіх прыступках саслоўнай лесвіцы; прагляды тэатральных пастановак – з дзікімі паляўнічымі забавамі і сармацкімі застоллямі.

Бадай што самай яскравай постаццю сярод захавальнікаў старых звычаяў быў знакаміты нясвіжскі ардынат князь Караль Станіслаў II Радзівіл ("Пане Каханку"), эксцэнтрычны і не вельмі цывілізаваны стыль паводзін якога вельмі часта шакіраваў сучаснікаў. Падчас распачатай у перыяд "станіславаўскай вясны" зацятай барацьбы паміж прыхільнікамі еўрапейскай і сармацкай культур – "вайны фрака і жупана" – князь "Пане Каханку" дэманстратыўна стаў на бок "жупана". Ён пачаў апранацца ў сармацкую вопратку, а ў палітычных гульнях таленавіта іграў ролю "сармацкага караля" – захавальніка і абаронцы традыцый "залатых шляхецкіх вольнасцей". Між тым ён жа ўтрымліваў у Нясвіжы бліскучы, еўрапейскага ўзроўню двор.

Літвінская арыстакратыя ў большасці сваёй схілялася да таго, каб са шматаблічнай культурнай асветніцкай палітры выбіраць тыя яе галіны, якія спрыялі не столькі ажыццяўленню "перавароту ў розумах", колькі ўпрыгожванню жыцця – пераважна прыгожыя мастацтвы. Гэта з'яўлялася ў пэўным сэнсе лагічным вынікам даволі няпростых узаемаадносін магнатэрыі і прадстаўнікоў асветніцкай культуры. Разам з тым засяроджванне ўвагі магнатаў на мастацкіх аспектах Асветніцтва прыводзіла да таго, што тагачасныя магнацкія сядзібы былі сапраўднымі "сядзібамі муз".

**Магнацкія сядзібы як асяродкі культуры**. У шэрагу магнацкіх культурных цэнтраў другой паловы XVIII ст. асабліваe месца займаў Нясвіж – цэнтр уладанняў адной з багацейшых ліній самага магутнага ў Рэчы Паспалітай магнацкага роду Радзівілаў. Веліч і багацці ўладальнікаў Нясвіжа ўражвалі сучаснікаў, якія складвалі пра іх легенды, бо "багацці тут былі незлічоныя: без перабольшванняў можна сказаць, што большая палова Літвы, значная частка Украіны, Русі і амаль уся Польшча зносілі сюды даніны за сваё збожжа, за свае лясы, за рыбу, што ў вадзе, за птушак і пчол, што ў паветры і, хто ведае, можа за само паветра"; "пот мільёнаў ратаяў, зме-

---

[1] *Цеханавецкі А.* Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. С. 37–38.

[2] Магнаты не беспадстаўна сталі асноўнай мішэнню рэзкай крытыкі з боку рэфарматараў Рэчы Паспалітай, якія абвінавачвалі іх у недастатковым для новых часоў узроўні адукаванасці, адсутнасці прафесіяналізму пры выкананні дзяржаўных абавязкаў, у саслоўным эгаізме, амбіцыйнасці, неразумнай сквапнасці, прадажнасці і бачылі менавіта ў магнатах галоўных віноўнікаў разбурэння краіны. Сапраўды, у другой палове XVIII ст. вельмі відавочна выявіліся хібы магнацкага выхавання і ладу жыцця. Вынікі блізкародных шлюбаў не аднаго пакалення магнатаў сказваліся да таго ж на беспатомнасці і стане здароўя, у тым ліку і псіхічнага, прадстаўнікоў знакамітых магнацкіх родаў, сярод якіх у той час было нямала "слабых галоў" і асоб з яўным адхіленнем ад нормаў паводзін ( *Kuszowicz Z.* Człowiek polskiego Baroku. Łódź, 1992. S. 121–125).

нены на золата, напаўняў тутэйшыя скарбніцы каштоўнасцямі, тутэйшыя лёхі вытанчанымі напоямі, свет – здзіўленнем, Сенатарскую і Пасольскую залы – гонарам і страхам"[1].

У Нясвіжы ў другой палове XVIII ст. пачала працаваць суконная мануфактура, а ў прыгарадзе Нясвіжа Альбе – шаўкаткацкая, якая выпускала так званыя нясвіжскія паясы. У горадзе быў заснаваны кадэцкі корпус, дзе рыхтавалі кадры для радзівілаўскага войска, а ў Альбе – школа флоцкіх афіцэраў. У 1750 г. нясвіжскі ардынат гетман вялікі літоўскі ваявода віленскі князь Міхал Казімір Радзівіл заклаў тут друкарню, якую потым перадаў у валоданне мясцовым езуітам.

Таксама аднаўляўся і пашыраўся велічны нясвіжскі палацава-замкавы комплекс. Перабудова і аздабленне інтэр'ераў вялася пад кіраўніцтвам таленавітых архітэктараў К.Ждановіча, М.Фларыяновіча і італьянскіх дойлідаў М.Педэцы і К.Спампані. У нясвіжскім замку захоўваліся багацейшыя калекцыі каштоўнасцей, жывапісу і графікі, вырабаў прыкладнога мастацтва. Там жа знаходзіліся унікальны архіў ВКЛ (з 1551 г.) і самая багатая ў Рэчы Паспалітай бібліятэка, якая значна папоўнілася менавіта ў другой палове XVIII ст.

Урачыстыя магнацкія ўезды ў горад і выезды з яго, балі, святы, ваенныя парады суправаджаліся выступленнямі заснаванай пры князю М.К.Радзівілу прыдворнай музычнай капэлы. З 1746 г. у нясвіжскім замку пачаў працаваць прыдворны тэатр, для якога ў хуткім часе ў горадзе быў пабудаваны па праекту К.Ждановіча спецыяльны будынак – "камедыенхаўз" – першы ў Беларусі спецыяльны тэатральны стацыянарны будынак[2]. З 1751 г. у Нясвіжы распачала дзейнасць музычная школа, а з 1758 г. – балетная школа.



Міхал V Казімір Радзівіл Рыбанька. Партрэт 1640-х гг.

У Альбе па загаду Караля Радзівіла была пабудавана цэлая ідылічная вёска з некалькімі дзесяткамі псеўдасялянскіх хатак, размешчаных па берагах пракапаных суднаходных каналаў. Там жылі "пейзане", "пейзанкі", "янычары" і іншыя не менш дзіўныя асобы, апранутыя адпаведна прызначаным "амплуа", – удзельнікі сапраўды экзатычнага тэатралізаванага відовішча[3].

Прыдворны тэатр, музычная капэла, музычная і балетная школы існавалі і ў Слуцку – рэзідэнцыі малодшага брата нясвіжскага ардыната М.К.Радзівіла князя Гераніма Фларыяна Радзівіла. Пры ім у горадзе працаваў княжацкі кадэцкі корпус, дзейнічала знакамітая майстэрня па вырабу шаўковых слуцкіх паясоў, так званая персіярня, працай якой кіраваў запрошаны Г.Ф.Радзівілам майстар Я.Мад-

---

[1] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах // *Сыракомля У.* Добрыя весці. Мн., 1993. С. 219.

[2] *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 225.

[3] *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. Мн., 1982. С. 121, 210, 223.

жарскі[1]. Пазней, у 1760 г., пасля смерці ўладальніка Слуцка, яна была перанесена ў Нясвіж.

Рэзідэнцыю гетмана М.К.Агінскага – Слонім, слава якога была не меншая,чым слава Нясвіжа, сучаснікі называлі "паўночнымі Афінамі", а таксама "калыскай і цэнтрам навукі і прыгожых мастацтваў, духоўным прытулкам прыгнечанага чалавецтва"[2]. Агінскі пасяліўся ў Слоніме ў 1765 г., і з таго часу распачаўся росквіт гэтага горада. Тут пачалі працаваць ткацкія мануфактуры, дзе выраблялiся высокамастацкія шпалеры і ворсавыя дываны. Пачаў перабудоўвацца слонімскі (раней сапегаўскі) палац, пашыраўся і ўпрыгожваўся парк. У замку была заснавана друкарня, сярод прадукцыі якой былі і сачыненні самога ўладальніка Слоніма – тэксты лібрэта яго опер[3].

Згодна з праектам італьянскага архітэктара І.Мараіна ў 1770-я гг. паблізу замка быў узведзены "Новы дом оперы" – будынак для гетманскага прыдворнага тэатра. Там штодзённа наладжваліся прадстаўленні і канцэрты пры ўдзеле выкокапрафесійнай музычнай капэлы. Партыю першай скрыпкі ў ёй выконваў сам Агінскі, таленавіты музыкант-віртуоз, вучань знакамітага скрыпача Дж.Віоці. У слонімскай сядзібе мелася багацейшая калекцыя музычных інструментаў і нотны збор, у якім налічвалася каля 800 партытур опер, балетаў, араторый і дывертысментаў[4].

У Слоніме былі заснаваны музычная і балетная школы. Для артыстаў шыкоўнага прыдворнага тэатра былі пабудаваны "кафенхаўсы" – кавярні. У гэтых кавярнях наладжваліся знакамітыя слонімскія балі-маскарады ці, як іх тады называлі ў Рэчы Паспалітай, рэдуты, для гасцей якіх меўся цэлы склад карнавальных касцюмаў. Маскарады, дзействы, у аснове сваёй дэмакратычныя, арганізоўваліся таксама і ў Слуцку, і ў Гародні. Пры гэтым калі на маскарадныя балі пры слуцкім двары Г.Ф.Радзівіла збіралася толькі запрошаная князем публіка, то на рэдуты ў Гародні і Слоніме мог прыйсці кожны жадаючы, акрамя прыгонных[5].

На другую палову XVIII ст. прыпадае росквіт Ружанаў і Дзярэчына – галоўных рэзідэнцый канцлера ВКЛ Аляксандра Міхала Сапегі. У новым, класічным стылі абсталёўваўся шыкоўны сапегаўскі палац у Ружанах. Там захоўваліся археалагічныя калекцыі (археалагічны кабінет), багаты архіў сямейства Сапегаў і самая багатая ў краіне (пасля радзівілаўскай) бібліятэка, якую пачаў збіраць яшчэ канцлер ВКЛ Леў Сапега. У флігелі палаца было абсталявана памяшканне для прыдворнага тэатра. На яго сцэне ставіліся камедыі і драмы, оперы і балеты, у тым ліку опера Ж.-Ж.Русо "Вясковы чараўнік". З 1781 г. трупа ружанскага тэатра пачала працаваць у новай рэзідэнцыі Сапегі – Дзярэчыне. Тут, у збудаваным па праекту архітэктараў І.Бекера і Л.Гуцэвіча палацы, знаходзілася і тэатральная зала, сцэну якой

[1] *Карпачоў Я.М.* Узнікненне і развіццё слуцкай вотчыннай мануфактуры шаўковых паясоў // Весці АН БССР. Серыя грам. навук. 1982. № 3. С. 48.

[2] *Andrzejkowski A.* Ramoty Starego o Wołynie. Wilno, 1941. S. 176.

[3] *Мальдзіс А.І.* Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974. С. 130–150; Белоруссия в печати XVIII столетия. Мн., 1985. С. 267; *Цеханавецкі А.* Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. С. 66–73.

[4] *Цеханавецкі А.* Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. С. 121–124; *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 156.

[5] *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 94.






Тэатр на "Гарадніцы" ў Гародні. Другая палова XVIII ст.

упрыгожваў занавес "Купанне Дзіяны", створаны знакамітым мастаком К.Атасельскім[1].

Уласныя прыдворны тэатр, музычную капэлу, а таксама тэатральна-музычную школу, арганізаваную ў 1774 г. з мэтай падрыхтоўкі музыкантаў, спевакоў і танцоўшчыкаў, утрымліваў і А.Тызенгаўз у Гародні. Сам гародзенскі староста, здольны і энергічны адміністратар, які спрыяў узвядзенню ў горадзе архітэктурнага комплексу Гарадніца, усталяванню каралеўскіх гародзенскіх мануфактур, прафесійных навучальных і навуковых устаноў, быў арганізатарам выпуску першай у Беларусі газеты – "Gazety Grodzieńskiej" (1776–1783), не цураўся прыгожых мастацтваў. Ён добра іграў на скрыпцы і клавікордзе, ствараў музыку і імкнуўся так планаваць рабочыя дні, каб мець час на заняткі мастацтвамі[2]. Свой прыдворны тэатр Тызенгаўз арганізаваў, арыентуючыся на лепшы мясцовы і еўрапейскі вопыт. Трэба зазначыць, што гародзенскі тэатр быў адным з лепшых у той час не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай.

**Магнацкі тэатр**. Адметнай з'явай у культурнай дзейнасці магнатаў Беларусі ў другой палове XVIII ст. было стварэнне ў адносна кароткі гістарычны прамежак часу прыватнаўласніцкага маёнткавага тэатра, суцэльна свецкага і ў аснове сваёй прафесійнага.

Гісторыя магнацкага тэатра распачыналася ў Нясвіжы, дзе ў 1746 г. быў заснаваны першы прыдворны маёнткавы тэатр. Яго стваральніцай была жонка князя Міхала Казіміра Радзівіла княгіня Францішка Урсула з роду Вішнявецкіх. Гэта была жанчына высокаадукаваная і, несумненна, таленавітая. Яна прывяла да парадку багацейшую, але да таго часу даволі занядбаную замкавую бібліятэку, прывучала прыдворных чытаць кнігі, займалася літаратурнай дзейнасцю – пісала вершы, а таксама п'есы для свайго прыдворнага княжацкага тэатра[3].

Францішцы Урсуле Радзівіл належаць 16 драм і камедый. Сярод іх ёсць і перарobкі п'ес Ж.Б.Мальера, з творчасцю якога менавіта нясвіжская ўла-

---

[1] *Филатова Е.Н.* Магнатские культурные центры в Белоруссии во 2-й половине XVIII века (по владениям Сапег в Новогрудском воеводстве) // Наш радавод. Кн. 3. 4. 2. Гродна, 1991. С. 319–324; *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 240–243.

[2] *Bernoulli J.* Podróż po Polsce // Cudzoziemcy o Polsce. Relacje i opinie. T. 2. Wiek XVIII–XIX. Krakó *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 94.w, 1971. S. 59.

[3] *Sajkowski A.* Od Sierotki do Rybeńki: W kręgu radziwiłłjwskiego mecenatu. Poznań, 1965.

дальніца ўпершыню пазнаёміла мясцовую публіку. Драматургія княгіні Радзівіл – выразнае люстэрка творчай самабытнасці пісьменніцы і цікавейшы помнік культуры Беларусі сярэдзіны XVIII ст. Францішка Урсула ніколі не пакідала Нясвіж, але, начытаная і надзеленая ад прыроды палкай і жывой фантазіяй, яна смела "падарожнічала" ў сваіх п'есах ў прасторы і часе. Кіпр, Егіпет, Рымская імперыя, старажытная Грэцыя – далёка не поўная "геаграфія" яе драматургіі. Сюжэты для сваіх трагедый і камедый княгіня брала з гісторыі, міфалогіі, сярэднявечных містэрый, заходнееўрапейскай навелістыкі эпохі Адраджэння. Яна выкарыстоўвала і багаты вопыт мясцовага школьнага тэатра. Цікава, што героям сваіх п'ес (сярод іх былі персанажы італьянскай камедыі dell arte, антычныя багі і героі, каралі экзатычных краін і хрысціянскія пакутнікі) пісьменніца надзяляла рысамі добра ёй знаёмай беларускай шляхты, што надавала яе творам выразны мясцовы каларыт[1].

Спектаклі ў тэатры Францішкі Урсулы Радзівіл ставіліся амаль штомесячна і прымяркоўваліся да свят і ўрачыстых падзей у жыцці княжацкага двара. У іх стварэнні актыўны ўдзел прымалі члены княжацкай сям'і, прыдворныя і чэлядзь, вучні нясвіжскага кадэцкага корпуса. Па-бачнаму квяцісты тэатр княгіні Радзівіл быў аматарскім, меў абмежаванае кола гледачоў з ліку блізкіх да радзівілаўскага двара асоб. Аднак яго значэнне перарасло рамкі прыгожай княжацкай забавы. Пасля смерці ў 1753 г. княгіні Францішкі Урсулы яе п'есы яшчэ нейкі час ставіліся на сцэне створанага ёю нясвіжскага тэатра. Але наступалі новыя часы. Сын Францішкі Урсулы князь Караль Радзівіл паспрыяў пераўтварэнню аматарскага нясвіжскага тэатра ў тэатр прафесійны. Тут сталі працаваць еўрапейскія і мясцовыя кампазітары, дырыжоры, балетмайстры, спевакі, танцоўшчыкі і мастакі, а аснову рэпертуара тэатра пачалі складаць оперы і балеты.

На прафесійнай аснове працавалі і ўсе іншыя магнацкія тэатры Беларусі другой паловы XVIII ст.: слуцкі, слонімскі, гародзенскі, ружанскі і дзярэчынскі. Яны былі таксама оперна-балетнымі тэатрамі. Аднак вядома, што музычны тэатр патрабуе значных капіталаўкладанняў. Зразумела, што з'яўленне яго ў Беларусі ў другой палове XVIII ст. стала магчымым толькі дзякуючы апецы з боку магнацкай алігархіі[2].

Спецыяльная тэатральныя будынкі абсталёўваліся па апошняму на той час слову тэхнікі. У слонімскім тэатры М.К.Агінскага, напрыклад, маглі ставіцца спектаклі з вялікімі батальнымі сцэнамі, воднымі феерыямі і імгненнай зменай дэкарацый[3]. Па тэхнічных магчымасцях гэты тэатр не меў сабе роўных сярод маёнткавых тэатраў краіны і пераўзыходзіў варшаўскі Тэатр Нарадовы, а таксама знакаміты мангеймскі тэатр у Германіі.

Магнаты запрашалі ў свае тэатры вопытных прафесіяналаў, у тым ліку музыкантаў з Чэхіі, Германіі, Італіі, танцоўшчыкаў з Італіі і Францыі. У пошуках кваліфікаваных музыкантаў і артыстаў для гародзенскага тэатра па даручэнню А.Тызенгаўза вандраваў па Еўропе кіраўнік гародзенскай капэлы Л.Сітанскі. Вынікам гэтых вандровак было запрашэнне на працу ў Гародню групы спевакоў з Фларэнцыі і Рыма і неапалітанскага харэографа Г.Петынеці. У магнацкіх тэатрах Беларусі працавалі знакамітыя дырыжоры і кампазітары Дж.Альберціні, Я.Голанд, К.Чыпрыяна, вакаліст Дж.Кампа-

---

1 *Radziwiłłwa U.F.*/ Komedye i tragedye... U.F.Radziwiłłowa... Zołkwa, 1754; *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 103–140.

2 *Дадиомова О.В.* Музыкальнай культура городов Белоруссии в XVIII веке. С. 22.

3 *Skibiński K.* Pamętnik aktora. Warszawa, 1921. S. 13.


Музычныя інструменты.
З роспісу сінагогі г. Слоніма

нучы, балетмайстры Л.М.Дзюпрэ, Ф.Г.Ле Ду, А.Пуціні, мастак К.Атасельскі і інш.

Прафесіяналы ўзначальвалі магнацкія музычныя і балетныя школы, дзе з мяшчанскіх і прыгонных хлопчыкаў і дзяўчынак рыхтаваліся высокакваліфікаваныя кадры для прыдворных тэатраў. Аб узроўні прафесійнай адукацыі вучняў гэтых школ, прынамсі гародзенскай, сведчыць той факт, што прыгонныя артысты Тызенгаўза пасля смерці уладальніка былі прыняты ў склад трупы варшаўскага Тэатра Нарадовага. Выхаванцы слонімскай музычнай школы папаўнялі склад музычнай капэлы Агінскага, якая ўяўляла сабой аркестр высокага класа з адметным уласным выканальніцкім стылем.

На сцэнах магнацкіх тэатраў Беларусі ставіліся ў асноўным французскія і італьянскія оперы і балеты – творы Б.Блёза, А.Э.Грэтры, Э.Р.Руні, Дж.Паізэла, Дж.Сарці, Д.Чымароза, а таксама оперы прыдворных кампазітараў і мясцовых кампазітараў-аматараў – М.К.Агінскага, Я.Голанда, М.Радзівіла. Здзяйсняліся і драматычныя пастаноўкі, якія наладжвалі, як правіла, прафесійныя вандроўныя трупы. У ліку драматычных прадстаўленняў варта згадаць пастаноўку ў гародзенскім тэатры ўжо тады знакамітай камедыі П.Бамаршэ "Севільскі цырульнік"[1].

Аснову рэпертуару маёнткавых тэатраў складалі пераважна камічныя балеты і оперы – опера-буфа і зінгшпіль – пераважна дэмакратычныя і антыфеадальныя, якія выводзілі на сцэну герояў з простанароддзя. Менавіта яны спрыялі змякчэнню суровых сармацкіх нораваў гледачоў, прывучалі іх да ўспрыняцця новых асветніцкіх ідэй. Да гэтага жанру ахвотна звярталіся мясцовыя аўтары, у тым ліку і стваральнікі пастаўленай у 1784 г. у Нясвіжы оперы "Агатка" кампазітар Я.Голанд і аўтар лібрэта М.Радзівіл. У іх творчасці відавочна выявілася новае стаўленне да тэатра як да сродку ўплыву на публіку і яе выхавання.

Важна зазначыць, што маёнткавыя тэатры не былі абсалютна самаізаляванымі адзінкамі. Творчыя кантакты і сувязі існавалі паміж нясвіжскім і слуцкім, нясвіжскім і слонімскім тэатрамі. Слонімскі аркестр Агінскага нярэдка выязджаў на гастролі, а ў 1780 г. наведаў ужо закардонны на той час Шклоў, дзе ў вялікай раскошы жыў царскі фаварыт у адстаўцы С. Зорыч. Ён утрымліваў роўны магнацкаму двор з тэатрам, музычнай і балетнай школамі, кадэцкім корпусам[2].

Да таго ж свецкі тэатр як культурнае новаўвядзенне магнатаў спрыяў распаўсюджванню цікавасці да прыгожых мастацтваў у асяроддзі шляхты, якая заўжды ахвотна пераймала магнацкія культурныя звычкі. Безумоўна, у вялікай ступені менавіта магнацкім уплывам тлумачылася мода на аматар-

---

[1] *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 244.

[2] Записки Льва Николаевича Энгельгардта (1766–1836). М., 1876

скае хатняе музіцыраванне, якая вельмі хутка пашыралася ў тыя часы сярод шляхціцаў і асабліва шляхцянак[1].

Між тым маёнткавы тэатр не быў агульнадаступным, што яўна супярэчыла ідэалам асветніцкай культуры. Але гэтым не абмяжоўвалася кола супярэчнасцей, уласцівых магнацкім тэатрам, як і магнацкім культурным цэнтрам Беларусі другой паловы XVIII ст. наогул. Само існаванне прыдворных тэатраў, дзе ставіліся не толькі простанародныя аперэткі, але і п'есы Вальтэра, Мальера, Бамаршэ, забяспечвалася выкарыстаннем працы прыгонных артыстаў. Улада магнатаў над тымі, хто працаваў у іх тэатрах, была па сутнасці ўсемагутнай і нярэдка выкарыстоўвалася неадпаведным чынам. Слуцкі ўладальнік Г.Ф.Радзівіл меў звычку жорстка здзекавацца з акцёраў свайго тэатра, а нясвіжскі ардынат К.С.Радзівіл – не плаціць запрошаным на працу прафесіяналам[2].

Бліскучы і супярэчлівы магнацкі тэатр скончыў сваё існаванне ў канцы XVIII ст. разам з магнацкімі культурнымі асяродкамі, якія пасля смерці, разарэння ці вымушанай у той складаны час эміграцыі іх уладальнікаў прыходзілі ў заняпад. Яны адыходзілі ў гісторыю, пакідаючы падмурак для стварэння новага свецкага агульнадаступнага тэатра, а таксама памяць пра апошнія водблескі магнацкай велічы, "якія тым ярчэй палалі, чым хутчэй ім трэба было назаўсёды пагаснуць"[3].

## 4. Мяшчанская і сялянская культура

**Рост у грамадстве цікавасці да народнай культуры.** Важнейшай часткай беларускай культуры з'яўлялася народная культура, багатая і самабытная па зместу, разнастайная і выразная па форме. Яна адлюстроўвала светапогляд мяшчанскага саслоўя і сялянства, іх сацыяльную і жыццёвую псіхалогію, мастацкія густы і інтарэсы. Развіваючыся пад уплывам змен сацыяльна-эканамічнага і палітычнага характару, што адбыліся ў Беларусі, народная культура ў другой палове XVIII ст. уздзейнічала на духоўнае жыццё ўсяго грамадства, зацвярджала ў ім прагрэсіўныя дэмакратычныя тэндэнцыі. Яна хавала ў сабе вялікія патэнцыяльныя сілы і здольнасці, раскрыцца якім у поўнай меры ва ўмовах феадальна-прыгонніцкага ладу не было магчымасці. Абмежаваная ў мажлівасці карыстацца набыткамі прафесійнай культуры, мяшчанская і сялянская культура шчодра жывіла яе сама. Гэты працэс – уплыў народнай культуры на элітарную – узмацняўся на працягу другой паловы XVIII ст.

У канцы гэтага ж стагоддзя ў нетрах культуры Беларусі зарадзілася цікавасць да народнага жыцця, фальклору, з'явіўся новы дэмакратычны струмень, які сцвярджаў чалавечую годнасць простага люду. Мода на сентыменталізм вывела прадстаўнікоў ніжэйшых саслоўяў на падмосткі магнацкіх тэатраў, зрабіла іх героямі прафесійнай літаратуры. Дэмакратызацыя – характэрная з'ява новага этапа ў развіцці культуры Беларусі, што пачалася з канца XVIII ст., – праяўлялася таксама ва ўзнікненні новых форм арганізацыі

---

[1] Па сведчанню Ф.В.Булгарына,у канцы XVIII ст. у Беларусі амаль кожная, нават бедная шляхцянка ўмела іграць на гітары, "і ва ўсіх памешчыцкіх дамах ўсе дамы ігралі на фартэп'яна, і на арфе, і на гуслях, якія былі тады ў вялікім ужыванні" (*Булгарин Ф.В.* Воспоминания: Отрывки из виденного, слышанного и испытанного в жизни. Ч. 1. СПб., 1846. С. 58).

[2] *Барышев Г.И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 146–149.

[3] *Niemcewicz U.I.* Pamiętniki czasów moich. Parys, 1848. S. 44.



Музычная капэла.
Абраз "Маці Боская з хорам анёлаў"
з царквы в. Гарадзішча Камянецкага раёна

культуры, якія рабілі духоўныя каштоўнасці больш даступнымі (напрыклад, перыядычны друк).

У неспрыяльных умовах другой паловы XVIII ст., калі паланізацыя адцягвала ад беларускай культуры значныя разумовыя сілы, беларускамоўнай засталася пераважна народная культура. Сацыяльны статус беларускай мовы знізіўся. Яны адышла ў сферу бытавых зносін, захоўвалася і развівалася ў народных казках, паданнях, абрадавых песнях. Вёска менш за ўсё паддалася культурна-моўнай асіміляцыі. Менавіта сацыяльныя нізы, і перш за ўсё запрыгоненае і бяспраўнае сялянства, выконвалі ў тыя часы вялікую культурна-гістарычную місію, зберагаючы родную мову. "Калі ў 1795 г. гістарычны лёс зліў гэты край з Расіяй, – выкладаў у 1866 г. свае назіранні III аддзяленню імператарскай канцылярыі адзін чыноўнік з Беларусі, – у ім усё, што насіла адбітак цывілізацыі, было ўжо чыста польскае. Урадавай, малітоўнай, літаратурнай мовай была польская. Народ захаваў сваю беларускую гаворку з дамешкамі многіх польскіх слоў. У гарадах жа, у мястэчках і панскіх дварах усе ніжэйшыя станы ўжывалі ўжо польскую мову"[1]. Але моўны ўплыў быў узаемным: беларуская мова аказала такі ўплыў на мясцовую пальшчызну, што выкладчык паэтыкі менскай школы М.Дудзінскі вымушаны быў у свой падручнік польскай мовы, выдадзены ў Вільні ў 1776 г., уключыць спецыяльны раздзел аб "варварызмах" (так названы шматлікія беларусізмы тыпу: хітры, гібкі, грубы, парогі, сысун, бервяно, дзяркач, ляда, ручай, шыпшына і інш.)[2].

У той час як каталіцкая і праваслаўная царква рашуча адмовілася ад беларушчыны, яе носьбітам у сакральнай сферы засталося уніяцкае духавенства. У патрыятычных базыльянска-уніяцкіх колах ішло супраціўленне польскамоўнаму засіллю. Уніяты распаўсюджвалі беларускія кантычкі і катэхізісы. Ва уніяцкім асяроддзі нараджаліся беларускія інтэрмедыі і арацыі, рэлігійныя і свецкія песні і вершы. У 1771–1792 гг. яны выдалі на асобных аркушах беларускамоўныя гімны "Радуйся, божы народзе, радасць з неба нам прыходзе", "Нова радасць стала, яка не бывала", "Цару Хрысце мілы, баранку доўгацярплівы", "Кажуць людзі, што я ўмру, а я хочу жыці"[3].

На хвалі Асветніцтва адбываўся заняпад аўтарытэту царквы, секулярызацыя грамадскай свядомасці, развіццё свецкага светапогляду і далейшае абміршчэнне грамадства, у якім пашырыліся рэлігійны скептыцызм і ан-

---

[1] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі ў Маскве, ф. 109, воп. 2, спр. 713, арк. 4, 8 адв.

[2] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.). Мн., 1980. С. 224.

[3] Там жа. С. 224–225.

тыклерыкалізм. Рэаліі, народжаныя контррэфармацыяй, паступова змяняліся культам розуму, рацыяналізмам, грамадзянскасцю, актыўнасцю, патрыятызмам, крытыцызмам. Пад уплывам агульнапалітычнага ўздыму, які ахапіў Беларусь у апошняй трэці XVIII ст., сярод мясцовай шляхты і гараджан распаўсюджваліся перадавыя для свайго часу дэмакратычныя ідэалы.

Аднак паводле ўяўленняў большасці, селянін быў патрэбны толькі для сахі і касы і ўспрымаўся як ніжэйшая істота. Са шляхецкіх мемуараў XVIII ст. паўстае наступны вобраз мужыка: дурны, лянівы, схільны да гарэлкі, амаральны[1]. Зразумела, гэты вобраз далёка не адпавядаў рэчаіснасці. Сацыяльны і нацыянальны прыгнёт не змог ператварыць мужыка ў дзікуна. Наадварот, менавіта народ быў пазбаўлены маральных заган, уласцівых шляхце, – беспрабуднага п'янства, марнатраўства, ляноты, пакланення перад чужаземшчынай. Народ захоўваў спрадвечныя пачаткі дабра і справядлівасці. Вучоны-аграном А.Меер канстатаваў, што беларускія сяляне "адораны шматлікімі добрымі якасцямі", ціхія, цярплівыя, гасцінныя, сарамлівыя, але вельмі бедныя і неадукаваныя[2].

Якімі б дрэннымі ні былі ў той час умовы жыцця народа, скрозь шматлікія перашкоды прабіваліся здольныя, таленавітыя, кемлівыя самародкі, якія пры больш спрыяльных акалічнасцях, безумоўна, праславілі б сваю айчыну.

**Побыт сялян і мяшчанства**. Змены другой паловы XVIII ст. закранулі галоўным чынам культуру і быт пануючых саслоўяў: вышэйшыя і сярэднія пласты шляхты, багатых гараджан. Вёска ж захавала традыцыйныя тыпы планіроўкі, дваровай забудовы, будаўнічую тэхніку і канструкцыйныя асаблівасці пабудоў, інтэр'ер жылля, адзенне, стравы і інш.

Знешні выгляд вёскі і сялянскае жыллё былі вельмі "кансерватыўнымі", непадуладнымі розным павевам моды. У другой палове XVIII ст. выглядала беларуская вёска убога. Звычайна яна складалася з двух радоў драўляных, крытых саломай хат, роўна адна пры адной пабудаваных паабапал шырокай вуліцы. Дзеля "эканоміі" месца яны стаялі да вуліцы бокам. Чыншавыя вёскі, пастаўленыя на рыначную аснову, былі больш заможнымі, чым паншчынныя, і адрозніваліся ад апошніх большымі памерамі і грунтоўнасцю сялянскіх пабудоў.

Сялянская сядзіба складалася з хаты, хлява (аборы) і гумна (стадолы). Бяднейшыя вяскоўцы злучалі жылую пабудову з гаспадарчай пад адным дахам, заможнейшыя гаспадары ставілі іх асобна, а таксама будавалі свіран на збожжа, павець для сельскагаспадарчага інвентару і дроў. Як правіла, гэтыя пабудовы ставіліся ў адзін рад, радзей квадратам, у цэнтры якога тады ўтвараўся падворак.

Хата складалася з жылой "ізбы", сенцаў і каморы. У бяднейшых сялян магло не быць каморы, сенцаў, ганку – яго замяняў пляскаты камень ля дзвярэй. Жылое памяшканне было дастаткова цёмным – маленькія акенцы ў сцяне, што выходзілі на вясковую вуліцу, давалі мала святла. Вокны не зашкляліся – у холад бяднейшыя сяляне затыкалі іх анучамі, саломай або драўлянай засаўкай. З сярэдзіны XVIII ст. у вокнах сялянскіх хат усё часцей з'яўляецца шкло – тоўстае і цьмянае. Асвятлялася хата лучынай, засунутай

---

[1] *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. Нарысы быту і звычаяў. С. 156.

[2] *Мейер А.* Описание Кричевского графства или бывшего староства // Могилевская старина. Вып. 2. Могилев, 1901. С. 92.

у сцяну ў жалезны лучнік. У студзёны зімовы час у адным памяшканні з людзьмі знаходзіліся маладняк хатняй жывёлы і птушка. Коміна звычайна не было – дым выходзіў праз адтуліну ў столі. Два разы ў год (да Каляд і Вялікадня) сцены ў хаце бялілі вапнай, але яны хутка зноў чарнелі ад дыму. Падлога была земляная або гліняная.

У сялянскай хаце мелася нешматлікая і прымітыўная самаробная мэбля: драўляныя лавы ўздоўж сцяны, стол, скрыня (куфар) для адзення і ўпрыгожанняў, паліца для кухоннага начыння. Гэтыя рэчы часам аздаблялі адмысловай разьбой або арнаментальным роспісам. Ля ўваходу стаяла печ. На покуці віселі абразы. Ложкаў сяляне тады яшчэ не ведалі – спалі на кулі саломы на падлозе, на печы, летам – на сене ў гумне. Ад сялянскага жылля мала чым адрозніваліся сядзібы дробнай шляхты.

Не зведала павеваў моды і сялянскае адзенне. Жыхары вёскі пераважна апраналіся ў вопратку дамашняга вырабу. Здаўна сыравінай для вырабу адзення служылі скура, футра і воўна хатніх і дзікіх жывёл, льняное, канаплянае валакно. Кожная вясковая жанчына ўмела прасці і ткаць. Ткалі палатно, паясы, ручнікі, абрусы, гунькі, коўдры, дываны, сукно, корт і інш. Тканіны аздабляліся арнаментам, які перадаваўся ад бабуль і маці дочкам. Ткацтва поўнасцю задавольвала патрэбы вёскі. Штодзённы мужчынскі ўбор складаўся з палатняных портак (штаноў), выпушчанай наверх кашулі, перавязанай рэмнем ці поясам, і світы. На галаве насілі магерку ці капялюш. Абуваліся ў скураныя пасталы або лапці з лыка, падвязаныя аборамі да ног. Жаночы строй складаўся з кашулі, спадніцы, фартуха, світы паверх, хусткі на галаве. У штодзённым адзенні пераважалі шэры, чорны і белы колеры. У царкву і на свята апраналі больш дарагое і яркае адзенне, вышытае народным арнаментам, дапоўненае купленымі ўпрыгожаннямі – поясам, караламі, меднымі кольцамі. У святы мужчыны з больш заможных сем'яў насілі боты, а жанчыны – чаравікі.

Асабістая гігіена вясковага насельніцтва складалася з мыцця рук і твару вадой, пераважна без выкарыстання мыла, якое ў сялянскай хаце было рэдкасцю. Штодзённае адзенне насілася без змены і хутка пакрывалася брудам. У выніку нізкага стану гігіены, дрэннага харчавання, шматлікіх хвароб і эпідэмій сярэдняя працягласць жыцця была кароткая і не перавышала 30 гадоў.

Сярэдні тагачасны селянін жыў сціпла, нярэдка на мяжы галечы. Прыгонная вёска хранічна недаядала, а ў неўрадлівыя гады – галадала. Асноўнымі ў харчовым рацыёне былі прадукты расліннага паходжання: хлеб, капуста, гарох, бабы, рэпа, буракі, з сярэдзіны XVIII ст. – бульба. Варылі кашы, боршч, зацірку, крупнік, жур. Стравы прыпраўлялі алеем, саладзілі мёдам, які, аднак, не быў агульнадаступным прадуктам.

Найпершай сялянскай ежай быў у асноўным хлеб. У бяднейшых сем'ях яго выпякалі, дадаючы да мукі мякіну, рабілі аўсяныя праснакі са шчаўем. Даставаўся хлеб цяжка, часта яго не хапала, таму ён вельмі шанаваўся. Малака сяляне спажывалі мала, мяса елі рэдка – толькі ў святочныя дні. Пілі ваду, хлебны квас, бярозавы сок. Прадуктаў куплялі няшмат: галоўным чынам соль, селядцы, піва, гарэлку.

Ежа была аднастайнай, маласпажыўнай, нясмачнай. Найперш дбалі пра яе колькасць, а не пра якасць. Харчаваліся тры разы на дзень. Вясной, калі канчалася збожжа, сяляне елі шчаўе, крапіву, лебяду, асот. Ад такой стравы, як пісаў у 1800 г. Г.Р.Дзяржавін пра земляробаў Віцебскай губерні, усе яны

былі "вялыя, худыя і бледныя, нібы мерцвякі"[1]. Пра нядужасць крычаўскіх жыхароў і бледнасць іх твараў сведчыў і А.Меер[2]. Летам сяляне збіралі ў лясах ягады і грыбы. Больш багатым і разнастайным харчаваннем было ў час свят: на Каляды, Вялікдзень, вяселлі, на якія пакідалі апошнія запасы. Посуд сяляне выраблялі з дрэва і гліны. Калі ў хаце з'яўляўся госць, стол засцілалі ручніком. Запасы прадуктаў захоўвалі ў драўляных бочках і саламяных лубках.

Сялянскія дзеці раслі ў голадзе, холадзе і брудзе. Дзяцінства ў прыгоннай вёсцы было бязрадаснае і кароткае. У пяць гадоў дзеці пасвілі хатнюю птушку, даглядалі малодшых, у сем – працавалі пастухамі, падпаскамі, у дзесяць – баранавалі, ішлі "на згон". Хадзілі дзеці ў адной палатнянай кашулі, босыя. Цацак не ведалі. Раслі непісьменнымі, у лепшым выпадку ўмелі крыху чытаць і лічыць[3].

У сямейным жыцці жонка цалкам залежала ад мужа, прыніжалася ім, не дапускалася ў мужчынскую кампанію. Яе абавязкам было даглядаць дзяцей і весці хатнюю гаспадарку. Развесціся ў сялянскім і мяшчанскім асяроддзі было немагчыма. За здраду мужу цяжка каралі, сялянак нават прыгаворвалі да смерці. Але прыгонная беларуская вёска не апусцілася да падзення нораваў, разбэшчанасці і "масавага псіхозу эратызму", якія ахапілі вышэйшыя пласты ў другой палове XVIII ст., – яна працавала[4].

Селянін быў вольны ад працы толькі ў нядзелю і святочныя дні. Асабістае жыццё прыгонных праходзіла ў такія дні ў дзвюх установах: царкве ці касцёле і карчме. Да паўдня селянін знаходзіўся ў царкве (у гэты час забаранялася гандляваць спіртнымі напіткамі), пасля набажэнства накіроўваўся ў карчму.

Для вёскі, замкнутай, адарванай ад кантактаў з усім светам, пазбаўленай магчымасці карыстацца дабротамі ўсеагульнай асветы, прыток культурнага зместу быў надзвычай ускладнены і абмежаваны. Ролю пункта перадачы ўсялякіх навін адыгрывала карчма.

У сярэдзіне XVIII ст. корчмы меліся амаль у кожнай беларускай вёсцы. Карчмар быў патрэбным чалавекам для шляхты і сялян. Ён пастаўляў інфармацыю, выконваў канфідэнцыяльныя даручэнні, пасрэднічаў у куплі-продажы, ведаў амаль усё і пра ўсіх. На начлег і харчаванне спыняліся ў карчме праезджыя купцы, падарожнікі, салдаты, бадзягі, уцекачы, вандроўныя музыкі. Яны прыносілі сюды весткі з розных мясцін, расказвалі пра далёкія гарады і дзяржавы, існуючыя там звычаі і культуру, важныя здарэнні. Зразумела, было ў іх апавяданнях нямала фантастыкі і перабольшванняў. Але ўсё гэта ўважліва слухалі карчмар з сям'ёй і вяскоўцы, якія наведваліся сюды ў святочныя і звязаныя з сямейнымі ўрачыстасцямі (хрэсьбіны, вяселле) дні. Да таго ж сяляне нярэдка шукалі ў гарэлцы забыцця ад гора і крыўды. Яны танцавалі тут пад гукі скрыпкі, цымбал ці дуды. У корчмах не раз выспяваў сацыяльны элемент, абмяркоўваліся антыпрыгонныя выступленні і бунты. Стагоддзямі карчма ў нейкім плане замяняла прыгонным вясковую школу. З цягам часу яна аказвала ўсё большы ўплыў на вёску, пашырала духоўныя гарызонты сялян і задавальняла ўласцівую ім цікаўнасць да ўсяго таго, што адбывалася ў свеце.

---

[1] *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. С. 154–240.

[2] *Мейер А.* Описание Кричевского графства или бывшего староства // Могилевская старина. Вып. 2. С. 92.

[3] *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. С. 180–182.

[4] Там жа С. 194–195.



Карчма ў в.Міншчызна пад Смаргонню

У той жа час карчма была вялікім злом для вёскі, бо дэмаралізавала сялян, прывучала іх да п'янства і знявагі добрых і здаровых звычаяў. Праз арандатара пан збываў тут сялянам прадукцыю свайго гарэлачнага бровара. Прыгонны абавязаны быў выпіць за год у сваёй карчме пэўную колькасць "сівухі". Даходы ад арэнды корчмаў дасягалі часам паловы ўсіх панскіх прыбыткаў[1].

Цэнтрам культурнага жыцця заўсёды быў горад. З сярэдзіны XVIII ст. беларускія гарады ахапіла агульнае ажыўленне. На карце Беларусі з'явіліся новыя культурныя цэнтры (Шклоў, Слуцк і інш.), павысілася роля традыцыйных (Нясвіжа, Міра, Навагрудка і інш.).. Грамадска-палітычнае і культурнае жыццё гарадоў асабліва актывізавалася ў апошняй трэці XVIII ст. Сярод мяшчан часткова парушаўся патрыярхальны ўклад жыцця. Сярод прагрэсіўнай шляхты і гараджан раслі, з аднаго боку, сепаратысцкія тэндэнцыі ў адносінах да Польшчы, а з другога – патрыятычныя настроі, абуджаныя падзеламі Рэчы Паспалітай. "Краёвы" літвінскі патрыятызм перастаў быць набыткам абмежаванага кола асоб. У той жа час у культурным жыцці пачаў адчувацца ўсё больш моцны рускі ўплыў.

Як і ва ўсе часы, гарады з'яўляліся культурнымі цэнтрамі, але ў другой палове XVIII ст. адбывалася некаторае пераразмеркаванне паміж імі гэтай ролі. Страціў сваё былое значэнне Полацк. У 1780 г. тут заставалася каля тысячы жыхароў[2]. Затое ў астравок еўрапейскай цывілізацыі ў 70–80-я гг. пераўтварылася Гародня, якая з пункту гледжання прамысловасці і культуры стала адным з першых гарадоў Беларусі. У канцы стагоддзя сюды былі пераведзены Галоўны Трыбунал і Грашовая камісія Вялікага княства Літоўскага.

У цэлым тагачасныя беларускія гарады, асабліва невялікія, мелі даволі непрывабны выгляд. Жылыя дамы былі тут пераважна драўляныя. Двух-трохпавярховыя будынкі былі вялікай рэдкасцю. Магнацкія палацы і асабнякі багатых купцоў пераменжоўваліся з убогімі хацінамі гарадской беднаты. Крытае саломай жыллё рамеснікаў і чэлядзі мала чым адрознівалася ад сялянскіх хат. Побач з жылымі дамамі стаялі хлявы і гумны – многія гараджане займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй.

У другой палове XVIII ст. пачалася рэгулярная забудова гарадоў. Тады ж па загаду Тызенгаўза ў Гародні і Паставах былі ўзведзены для рамеснага люду першыя тыповыя камянічкі, спраектаваны архітэктарамі-прафесіяна-

---

[1] *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. С. 149.

[2] *Смоліч А.* Геаграфія Беларусі. Мн., 1993. С. 210.








Фасады і планы корчмаў "Раскоша" і "Нёнза" ў Гародні. Другая палова XVIII ст.

ламі. У канцы гэтага ж стагоддзя для многіх беларускіх гарадоў былі распрацаваны новыя планы ў адпаведнасці з прынцыпамі рускага горадабудаўніцтва.

Гарадскія вуліцы брукаваліся толькі ў цэнтры – каля ратушы і гандлёвых радоў і афіцыйных назваў не мелі. На сваіх майстэрнях рамеснікі вывешвалі замест шыльдаў розныя знакі: каваль – падкову, шавец – бот, кравец – нажніцы, цырульнік – таз. Ноччу горад не асвятляўся, таму прахожыя ўзбройваліся ліхтарамі і паходнямі. Затое ўсюды адкрываліся корчмы і шынкі.

**Светапогляд і абраднасць жыхароў вёскі і горада**. Духоўная культура простага чалавека, далёкага ад навукі і прафесійнай культуры, трымалася найперш традыцыяй. З пакалення ў пакаленне пераходзілі арыгінальныя, прыгожыя і паэтычныя звычаі і абрады, якімі было абстаўлена ўсё жыццё беларуса. Вясну ён сустракаў песнямі-заклінаннямі, маладую рунь – велікоднымі песнямі, веснавы росквіт прыроды – сёмушнымі звычаямі. Адметнай з'явай народнага жыцця ў рэчышчы ўсёй культуры Беларусі было святкаванне Купалля, якое зарадзілася яшчэ ў язычніцкія часы і праходзіла ў другой палове XVIII ст. па добра адпрацаванаму многімі пакаленнямі сцэнарыю. На пераломе лета на заходзе сонца кожная вёска ў ваколіцы раскладвала вогнішча, вакол якога збіралася моладзь і спявала. Старыя шчыра падтрымлівалі ўрачыстасць. Асаблівай прыкметай гэтага свята з'яўляліся кветкі. Іх збіралі з вечара, затыкалі ва ўсе шчыліны ў доме, каб злы дух не прабраўся, плялі вянкі, а ў купальскую ноч варажылі, пускалі іх па вадзе, наладжвалі скокі праз агонь, шукалі папараць-кветку.

На дажынках радаваліся сабранаму ўраджаю. Зжаты сноп калосся, з якім звязвалі дабрабыт, парадак, згоду, ставілі ў куце хаты, дзе ён стаяў да таго часу, пакуль не было асвечана абмалочанае зерне. На Каляды (свята сялянскай заможнасці) хадзілі з песнямі і з "казой" ад хаты да хаты, наладжвалі цэлыя прадстаўленні.

Уся вёска збіралася разам, калі прыходзілі скамарохі, мядзведнікі, сляпыя лірнікі. У зімовыя вечары вясковыя жанчыны і дзяўчаты збіраліся на попрадкі – гучалі песні і казкі, што дайшлі ад продкаў.

Светлымі днямі ў жыцці прыгоннага селяніна былі сямейныя святы: хрэсьбіны і вяселлі, якія таксама адзначаліся ўсёй вёскай. Абапіраліся яны пераважна на язычніцкія традыцыі.

Новонароджанага адразу ж "далучалі" да зямлі, сям'і, грамадства: клалі на падлогу, падносілі да печкі ці парога, узнімалі на руках, сімвалічна білі розгай. У адведкі прыходзілі суседкі, прыносілі падарункі і ежу. Сялянскія хрэсьбіны праводзілі па-свойму пышна: земляроб стараўся забіць парсючка, купіць бочку піва.

Імя дзіцяці даваў па сваёй волі поп або ксёндз, выбіраючы іх пераважна з календара, радзей называлі імем бацькі ці дзеда. Калі дзіця памірала, асаблівай трагедыі не рабілі. Казалі: "Бог даў – бог узяў". Немаўлятка калыхалі ў калысцы, падвешанай вяроўкамі да столі, спявалі калыханкі. У час працы ў полі маці клала дзіця ў баразну.

Хату, дзе дзяўчына была на выданні, бялілі светлай глінай, вакол яе садзілі кветкі. У чаканні свата дзяўчына старанна шаравала мэблю, кухоннае начынне, па некалькі разоў падмятала хату. Яна апранала лепшае ўбранне, якое разам з тым павінна было быць будзённым, неадметным.

Вестуном вяселля быў сват – звычайна чалавек вопытны, вясёлы, гутарлівы, паважаны ў наваколлі. Ва ўмоўлены час ён прыбываў з бутэлькай гарэлкі і пачынаў з бацькамі дзяўчыны складаную славесную гульню: таргаваў "ялаўку", шукаў "гуску" або "лябёдку", усхваляў вартасці і пералічваў маёмасць хлопца. Рашэнне звычайна прымалі бацькі, згоды дзяўчыны асабліва не пыталіся. Тады ж агаворвалі пасаг, ішла размова пра гаспадарку маладога – абмяркоўваліся матэрыяльныя асновы будучай сям'і.

Першая традыцыйная сустрэча двух бакоў называлася запоінамі. Пасля яе да дзяўчыны запрашалі сяброўак, якія не адыходзілі ад яе ад гэтага часу аж да шлюбу. Яны амаль увесь час спявалі песні, адпаведныя моманту, накшталт:

"Наша Тацянка, наша,
Паймала сабе пташа
Ды ў зялёным жыце,
У чырвоным аксаміце".

Песні сяброўак гаварылі пра стан сэрца закаханай дзяўчыны, пра вартасці яе любага.

Праз тыдзень спраўляліся "вялікія запоіны" – сціплы банкет з удзелам радні маладой і маладога. Потым адбываліся "змовіны", на якія запрашалі таксама і жыхароў вёскі. Пасля застолля пачыналіся танцы – скрыпка і дуда не сціхалі ні на момант. Тут можна было наслухацца шмат шчырых, часам вельмі дасціпных жартаў, вершаваных двух- ці чатырохрадкоўяў.

Вяселле звычайна сяляне святкавалі паміж Пакровам і Калядамі, калі было ўсё сабрана ў полі і можна больш багата і шчодра накрыць стол, спадзеючыся, што такое ж багацце будзе і ў доме маладых. Людзі верылі, што як робіцца на ўрачыстасці, так будзе і далей у жыцці.

Сялянскае вяселле цягнулася два-тры дні. У ім удзельнічала ўся вёска – адны ў ролі акцёраў-спевакоў, другія – у ролі гледачоў. На "дзявочым вечары" нявеста развітвалася з сяброўкамі, а тыя плялі вянкі і спявалі песні пра смутак дзяўчыны, што не той будзе яе мужам, каго кахала, што яна мусіць ужо развітвацца з дзявочымі забавамі і ўцехамі; песні пра бацьку, які так

любіць выпіць, што дачку на гарэлку прамяняў, і да т.п. Назаўтра з'яўляўся з сябрамі жаніх. Атрымаўшы благаславенне бацькоў, маладыя ехалі ў царкву або касцёл браць шлюб. Там яны мяняліся пярсцёнкамі, якія ў тыя часы толькі што ўваходзілі ў моду. Вярнуўшыся ў дом нявесты, госці дзялілі каравай, уручалі падарункі. Моладзь ішла танцаваць у карчму, а старэйшыя працягвалі святочную вячэру. Назаўтра замужнія жанчыны прымалі маладую ў сваё асяроддзе: саджалі на дзяжу, абразалі косы, пакрывалі галаву чапцом або наміткай. Затым наступала развітанне, пасля чаго малады вёз жонку да сваіх бацькоў, якія сустракалі іх на парозе свайго дома[1].

Пэўныя абрады былі звязаны і з пахаваннем селяніна. Нябожчыка клалі на лаву, пыталіся ў яго, навошта ж ён памёр. Цела хавалі на могілках – у лесе ці ў полі. Потым праводзілі сціплыя памінкі. Смуткуючы па нябожчыку, аплаквалі і сваё гаротнае жыццё.

Вялікае значэнне беларусы надавалі ўшанаванню продкаў, у якім праяўлялася павага да даўніны. Дзяды былі восеньскія (больш распаўсюджаныя) і веснавыя, або Радаўніца.

**Адносіны народа да рэлігіі і яе месца ў развіцці культуры**. Важнае месца ў жыцці селяніна і мешчаніна займала рэлігія. Яго жыццё ад нараджэння да смерці было звязана з царквой. Там ён быў хрышчоны, там браў шлюб, там, адыходзячы на вечны спакой, быў адпеты. Аднак у побыце, земляробчых абрадах і сямейных святах народа ў другой палове XVIII ст. захоўвалася нямала элементаў язычніцтва: павер'і, варажба і магічныя рытуалы, з дапамогай якіх імкнуліся папярэдзіць небяспекі і няўдачы, што пагражалі чалавеку, хаджэнне валачобнікаў на Вялікдзень, святкаванне Купалля і інш. У адным з дакументаў за 1756 г., у прыватнасці, паведамлялася, што "хлопы Глускай воласці ... займаліся чарадзействам"[2].

Пад уплывам царквы ўдасканальвалася не толькі рэлігійная практыка народа, але і ўяўленне аб надпрыродным свеце, які ўспрымаўся як нябеснае царства божае, што з'яўлялася марай кожнага веруючага чалавека. Але ў дасягненні гэтага царства перашкаджалі злыя духі – сілы, якія гняздзіліся на зямлі, усяляліся ў чалавека, рабілі шмат шкоды і выклікалі мноства няшчасцяў. У той перыяд існавала вера ў авалоданне д'яблам чараўнікоў і чарадзеяў. Адно неасцярожнае слова, адзін загадкавы ўчынак падазронага чалавека мог быць прычынай для абвінавачвання яго ў вядзьмарстве і прыцягненні да судовай адказнасці. Як вынік гэтага – шматлікія "працэсы аб ведзьмах". Так, у 1758 г. былі закаваны ў кайданы і пасаджаны ў турму жыхары Магілёва: "чарадзей" Кузьма Чарняк і Арына Бацоўка (яна карысталася яго паслугамі). У 1763 г. мяшчанка г.Дзісны Метліна абвінавачвалася "ў злым спосабе калдавання". Копны суд у Боркавічах (ля Дзісны) у 1772 г. разбіраў справу прыгоннага Юрыя Борсука і яго памочніка Ясуты, абвінавачаных у "чарадзействе"[3].

Культавыя ўстановы розных канфесій імкнуліся да ўмацавання веры праз яе ўвязванне са штодзённым жыццём і інтэлектуальным узроўнем насельніцтва. У царкве і касцёле селянін і гараджанін знаёміліся з асновамі вераўчэння, слухалі пропаведзі, у якіх закраналіся не толькі тэалагічныя пы-

---

[1] *Тышкевіч Я.* Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні, Барысаўскім павеце, Гаенскай парафіі, назіраныя ў 1800, 1801 і 1802 гадах, з некаторымі песнямі і нотамі // Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў. Мн., 1997. С. 162–174; *Мальдзіс А.І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. С. 188–191.

[2] *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. С. 188.

[3] Там жа. С. 197–199.

танні, але і пытанні маралі, абавязкаў хрысціяніна перад царквой, сям'ёй, дзяржавай, выхавання дзяцей, падпарадкавання ўладам. Тут народ вучылі доўгацярпенню і пакорлівасці, выхоўвалі набожнасць, паслухмянасць, працавітасць.

Духоўным кіраўніком селяніна найперш быў поп ці ксёндз. Многія святары карысталіся аўтарытэтам на вёсцы. Яны былі дарадцамі ў жыццёвых справах, арганізоўвалі розныя тыпы аб'яднанняў, фарміравалі нацыянальную свядомасць жыхароў вёскі.

Амаль усе цэрквы і касцёлы праводзілі шмат агульных і мясцовых свят (фэстаў, одпустаў, шэсцяў і працэсій з абразамі і харугвамі, тэатралізаваных відовішчаў): "сашэсця св. Духа", у гонар св. Брыгіты, св. Клімента, "узнясення Дзевы Марыі", апосталаў Пятра і Паўла, у сувязі з рознымі гадавінамі і інш. Мясцовыя святы адзначаліся асабліва ўрачыста. Да іх звычайна прыўрочвалі кірмашы і таргі. Так, галоўным святам Варнянскага касцёла (Ашмянскі павет) былі св. Апосталаў Пятра і Паўла, св. Юрыя, "узнясення Дзевы Марыі" і св. Ісідора-пахара. Яны прываблівалі ў касцёл, як адзначаў візітатар у 1784 г., вялікую колькасць людзей не толькі са свайго прыхода, але і з суседніх вёсак[1].

У другой палове XVIII ст. у многіх беларускіх гарадах функцыяніравалі брацтвы – арганізацыі свецкіх людзей, згуртаваных вакол каталіцкай і уніяцкай цэркваў. Яны насілі назвы св. Алойзы, св. Ганны, св. Варвары, св. Лазара, св. Яна Непамуцэна, Маці Божай, Цела Божага, прасвятой Дзевы Марыі і інш. Брацтвы займаліся рэлігійна-дабрачыннай дзейнасцю: дапамагалі хворым, арыштаваным, жабракам, утрымлівалі "шпіталі", праводзілі масавыя ўрачыстыя мерапрыемствы з нагоды рэлігійных свят, арганізоўвалі рэлігійныя працэсіі, пахавальныя шэсці, тэалагічныя дыспуты. Брацтвы мелі свае ўставы, харугвы, набажэнскія кнігі, скарбонку, персанал. Кіраўнікі брацтваў выбіраліся кожныя два-тры гады, пераважна са шляхты ці заможных мяшчан[2].

У той жа час у другой палове XVIII ст. назіраўся заняпад рэлігійнасці ў народзе. Сяляне гародзенскіх ваколіц, па сведчанню І.Ляхніцкага, за вельмі малым выключэннем, не мелі ўяўлення пра рэлігію. Іх рэлігійныя пазнанні і пачуцці абмяжоўваліся выразамі: "Каб цябе Бог забіў", "Хай цябе д'ябал возьме". Некаторыя сучаснікі тлумачылі гэта непадрыхтаванасцю, лянотай і амаральнасцю духоўных кадраў, сярод якіх няшмат было святароў, здольных навучыць народ асновам хрысціянскай рэлігіі на зразумелай яму мове і паказаць людзям прыклад высокай маральнасці[3]. Паводле слоў сучаснікаў, "селянін уцякае ад царквы, бо там усё трэба аплачваць, аж да споведзі" (хаця царкоўныя правілы забаранялі браць грошы за споведзь). Паборы за хрышчэнне, шлюбы і пахаванне, канфлікты паміж сялянамі і духавенствам на глебе платы за рэлігійныя паслугі больш чым што іншае адварочвала люд ад рэлігійных абрадаў і належнай пашаны духавенства[4].

Прэстыж духавенства ў другой палове XVIII ст. панізіўся – у народзе сфарміраваўся адмоўны вобраз папа як вымагацеля, добрага гулякі, аматара

---

[1] *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. С. 166–167.

[2] Там жа. С. 156–158, 161, 164.

[3] *Мейер А.* Описание Кричевского графства... С. 93; *Lachnicki I.* Biografia włościanina nad brzegami Niemna powyżej Łosośny mieszkaięcego. Warszawa, 1815. S. 86–87.

[4] *Lachnicki I.* Biografia włościanina nad brzegami Niemna powyżej Łosośny mieszkaięcego. S. 88, 89.

паесці, не вельмі абцяжаранага сваімі "боскімі абавязкамі". А для падданых царкоўных уладанняў культавыя ўстановы выступалі ў ролі вотчынніка і прыгонніка. Так, манастыр св. Брыгіты ў Гародні, каб папярэдзіць страту рабочых дзён на паншчыне, прадпісваў дваровай адміністрацыі, каб сяляне надта доўга не гулялі на вяселлях, хрэсьбінах і рэлігійных святах. Заможным сялянам на вяселлі і хрэсьбіны давалі два-тры дні, беднякам – толькі адзін.



Хрыстос перад Пілатам. Скульптура XVIII ст.

Дзеячы культу зыходзілі з прыдуманага імі палажэння аб тым, што прыгонныя ў разумовых адносінах з'яўляюцца малалетнімі дзецьмі, таму ва ўласных інтарэсах сялян іх трэба апекаваць. На выхаванне ў той час глядзелі як на барацьбу са злом. Не дзіўна, што за сялянствам здзяйснялася строгае назіранне, якое павінна было служыць "выратаванню" душ, бо лічылася, што без апекі прыгонныя больш схільныя да зла, чым да дабра. Зыходзячы з гэтага пастулата, духоўныя і свецкія ўлады дамагаліся, каб сяляне добрасумленна выконвалі рэлігійныя абрады і царкоўныя абавязкі. Уставы маёнткаў патрабавалі, каб у выхадныя і святочныя дні сяляне наведвалі касцёл ці уніяцкую царкву, слухалі казанні і ўдзельнічалі ў набажэнствах. Жыхары навакольных вёсак павінны былі з'яўляцца ў касцёл усёй сям'ёй, а з аддаленых – па аднаму чалавеку з дыма. Спецыяльна прызначаныя людзі складалі спісы адсутных на набажэнствах і споведзях. Ва ўладаннях Віленскага капітула існавала сістэма штрафаў і пакаранняў за ненаведванне культавай установы (біццё, турэмнае зняволенне, адпрацоўкі)[1].

Меры прымусу, аднак, не былі ў стане да канца пераадолець рэлігійны індыферэнтызм. Так, візітатары Стрэшынскай воласці (Віленскі капітул) у 1788 г. адзначалі, што мясцовы "селянін нібы верыць у Бога, але "Ойча наш" і царкоўных запаведзей не ведае. У царкве ён рэдкі госць, але затое яго пастаянна можна бачыць у карчме". Інвентар маёнтка Брашэвічы за 1755 г. сведчыць: "Маецца мноства людзей, якія не жадаюць спавядацца". Інвентар таго ж прыхода за 1799 г. канстатаваў, што шэраг прыхаджан "неахвотна звяртаюцца ў касцёл" і ксяндзу-плебану "няма каго навучаць асновам рэлігіі", няма перад кім выступаць у нядзельныя і святочныя дні[2].

**Формы традыцыйнай культуры сялян і мяшчан**. У асяроддзі працоўнага люду, для якога шляхі да пісьма і навукі былі закрыты панамі, не маглі з'явіцца пісьменнікі – ён жыў тады толькі вуснай народнай творчасцю. Фальклор адлюстроўваў усе бакі народнага жыцця: працоўную дзейнасць, узаемаадносіны з прыродай, бытавыя традыцыі, любоўную лірыку, падзеі сацыяльнага і палітычнага жыцця таго часу. Развіваліся як асноўныя фаль-

---

[1] *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. С. 182–184, 189.

[2] Там жа. С. 185, 187.

клорныя жанры (эпас, песні, легенды, казкі), так і творы малога бытавога жанру: прымаўкі, прыказкі, прытчы, замовы, галашэнні, павер'і, анекдоты і інш. Многія з іх набывалі сацыяльнае гучанне: народ высмейваў у іх ганарлівых шляхціцаў, хабарнікаў-суддзяў, шарлатанаў-лекараў, крывадушнікаў-манахаў. Акрэсленую антыпрыгонніцкую накіраванасць мела тагачасная народная казка, з якой паўставаў вобраз народнага заступніка.

Значнае месца ў вуснай народнай творчасці займала абрадавае песеннае мастацтва: песні каляндарнага і сямейнага цыклаў (калядныя, валачобныя, веснавыя, купальскія, жніўныя, хрэсьбінныя, вясельныя, калыханкі і інш.). Гэтыя творы з'яўляліся і самавыражэннем душы народа, яго радасцей і спадзяванняў, жыцця і вясковага побыту. Сярод вясельнага цыкла гэта, напрыклад, адвечныя песні-скаргі на няўдалы жаночы лёс, песні з выразнай сацыяльнай скіраванасцю, у якіх проціпастаўляліся бедная і багатая нявесты. Салдацкія і казацкія песні былі прасякнуты болем за служылых людзей.

Распаўсюджаным фальклорным жанрам у другой палове XVIII ст. былі паданні. Народ склаў паданні пра веру ў Бога і бязбожжа, дзяка, папа, ксяндза, высокія ўчынкі і нізменныя чалавечыя рысы. Той час пакінуў шмат прыгодніцкіх апавяданняў, народных паданняў пра розныя саслоўі, прафесіі, народы (найбольш пра палякаў, "маскалёў" і "жыдоў"). Цыклы апавяданняў стварыў народ пра вядомых асоб свайго часу: Караля Радзівіла, Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Тадэвуша Касцюшку (напрыклад, "Станіслаў Аўгуст у Нясвіжы", "Трапіла каса на камень", "Як Радзівіл мужыка розуму навучыў", "Як Радзівіл жыда правучыў")[1]. Народнае паданне аб паўстанні 1794 г., якое абапіралася на гарадскую беднату і сялянства, адлюстравала той факт, што шляхту палохалі якабінскія заклікі левага крыла паўстанцаў: "Касцюшка заваяваў бы свет цэлы, жэб паны его слухаць хацелі, але паны як паны: гулялі, банкетавалі. Касцюшкі не слухалі, затым і Польшча прапала"[2].

У народзе шырока бытавалі прыказкі і прымаўкі: гістарычныя, набожныя, забабонныя, пра стасункі падданых з панамі, хатняе, сямейнае, грамадзянскае жыццё, на тэмы маралі, прыказкі гаротнікаў, земляробчыя прыказкі, здзеклівыя парады, прымаўкі аратых, гандляроў і г.д. Сярод гістарычных прыказак можна адзначыць наступныя:

> "Як быў Сас, было хлеба з нас".
> "За Саса было хлеба і мяса".
> "Настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі".
> "Нашы дзяды не зналі бяды, але ж унукі набраліся мукі".

Сярод узораў тагачаснай народнай мудрасці прыказкі: "Ціхая свіння глыбока рые", "На чыім вазку едзеш, таму песеньку спявай", "Як пасцелеш, так і выспішся", "Жонку бяры далёка, а кароўку купляй блізка", "Пытайся не ў старога, а ў бывалага", "Доля прымацкая – сабацкая".

Своеасаблівы светапогляд простага селяніна, яго прыроднае і матэрыяльнае акружэнне адлюстроўвалі загадкі. У рэчышчы традыцыйнай міфапаэтычнай сімволікі створаны загадкі пра год, напрыклад: "Вылецела 12 галубоў, села на 50 дубоў, знесла па 30 яец, кожнаму адно яйцо". Большасць загадак дэманстравала талент народа ў будзённым жыцці бачыць дзівоснае, у простым – незвычайнае, у нерухомым – жывое: "У лесе сцята, у хлеве ўзята,

[1] *Federowski M.* Jud białoruski na Rusi Litewskiej. T. III. Cz. 2. Kraków, 1903. S. 6–9, 11.

[2] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.). С. 218.

а на руках плача" (скрыпка), "Кручаны, мучаны па зямлі скача" (венік) і інш.[1]

У народным асяроддзі шырока бытавалі розныя павер'і, загаворы, шэпты, чары, варажба. Вядомы, напрыклад, рукапісны зборнік пачатку XIX ст. з Мсціслаўскага павета з трыма дзесяткамі замоў-заклінанняў, якія ўваходзілі ў рытуал пчалавода[2].

У другой палове XVIII ст. часткова распаўсюдзілася ў народзе і там трансфармавалася ў адпаведнасці з фальклорнымі канонамі рэлігійная паэзія, напрыклад верш "Лазар", калядныя і велікодныя песні. Бытуючы ў вуснай перадачы, распаўсюджваючыся ў рукапісах, яны тэкстуальна змяняліся, дапаўняліся новымі радкамі, незалежнымі ад рэлігійнай першаасновы, і захаваліся ў некалькіх варыянтах. Так, у калядцы "Того дня вельмі слаўного", запісанай у другой палове XVIII ст. у Глыбоцкай школе, з этнаграфічнай дакладнасцю расказваецца пра заняткі і клопаты сялян, іх радасці[3].

У другой палове XVIII ст. людзі з нізкіх саслоўяў пападалі на старонкі прафесійнай беларускай літаратуры, для якой жыватворнай крыніцай станавіўся фальклор. Творы пра народ пайшлі ў масы, там трансфармаваліся і набылі выгляд фальклорных.

Пэўнае месца ў жыцці мяшчан і сялян займала музыка, хоць магнаты і шляхта лічылі, што "гэтае мастацтва – не для ўсяго народа, таму што яно наскрозь панскае"[4]. Пастух, ідучы за статкам, іграў на паляўнічым ражку. На самаробных дудках, свірэлях, гуслях, цымбалах, скрыпках, бубнах, бразготках вясковыя музыкі выконвалі песні, прыпеўкі і танцы, удзельнічалі ў тэатралізаваных прадстаўленнях на традыцыйных абрадавых святах каляндарнага цыкла, на вяселлях, радзінах, вячорках, попрадках і інш. Мемуарыст, які суправаджаў караля на Гародзенскі сейм 1794 г., назіраў у Крыстынове за "танцуючым простым людам", якому падыгрывалі сяляне з в.Галева – "адзін на скрыпцы, другі на цымбалах"[5].

Неад'емнай часткай жыцця народа былі царкоўныя і касцёльныя званы. Па іх гуках вызначалі пару дня. Званы даносілі вяскоўцам і гараджанам трывогу, хваляванні, жалобу.

У касцёле і уніяцкай царкве народныя масы далучаліся да прафесійнай музычнай культуры. У час набажэнства там гучалі спевы, арган і інструментальныя капэлы. Ва уніяцкіх храмах арганы сталі ўводзіцца пасля Замойскага сабора 1720 г. Аднак 117 гэтых інструментаў былі прададзены або разабраны пры скасаванні уніяцтва толькі ў Літоўскай епархіі. Арганы і іх разнавіднасці (пазітыў, рэгал) меліся ў Барысаглебскай царкве, барунскім храме і інш. У другой палове XVIII ст. уніяцкі храм, дзе быў устаноўлены арган, стаў своеасаблівай канцэртнай залай, дзе людзі далучаліся да прафесійнай музычнай культуры. Да нашага часу захаваліся друкаваныя і рукапісныя помнікі музычнай культуры уніяцкай царквы, якая ахоплівала сваім уплывам абсалютную большасць беларускага сялянства: ірмалоі, актоіхі, асьмагласнікі, багагласнікі. Апошнія ўяўлялі сабой зборнік папулярных напаў-

[1] Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў. С. 18–19, 242.

[2] Сборник белорусских заговоров начала XIX века // Могилевская старина. Вып. 2. Могилев, 1901. С. 5–12.

[3] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.). С. 291–293.

[4] *Цеханавецкі А.* Міхаіл Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. Мн., 1993. С. 21.

[5] Там жа. С. 33.

фальклорных рэлігійных песень, што гучалі ў час набажэнства ў выкананні вернікаў[1].

Царкоўныя і касцёльныя музыканты паходзілі з мясцовага насельніцтва – мяшчан, шляхты, сялян. Кожная канфесія клапацілася аб падрыхтоўцы кадраў для хароў і аркестраў культавых устаноў. Найбольш распаўсюджанай была прафесія арганіста. Вядомы імёны некаторых з іх, якія ігралі ў храмах Беларусі ў другой палове XVIII ст.: Стэфан Сянкевіч, Томаш Кажульскі, Казімір Грэберт, Юзаф Савіцкі, Сутоцкі з Заслаўскага дамініканскага кляштара, Караткевіч, Васілеўскі, Кляпацкі з Полацкага францысканскага кляштара, арганіст Юзаф Рудзінскі з Гародні, Людвік Лапчанскі з Пінска, Якуб Івановіч з Клецка, Паўтснер і Якуб Урбановіч са Слуцка, Андрэй Жывічкі з Пастаў[2].

Апрача арганаў у храмах Беларусі існавалі невялікія ці буйныя аркестры, якія складаліся з прафесійных ці аматарскіх музычных інструментаў: струнных, духавых і ўдарных, драўляных і медных (скрыпка, басэтля, бас, дудка, жалейка, цымбалы, бубен, габой, труба, арфа, кларнет і інш.). Царкоўныя аркестры суправаджалі не толькі набажэнствы і рэлігійныя цырымоніі, але і свецкія ўрачыстасці: вяселлі і імяніны ў шляхты і мяшчан, паляванні і балі знаці, гарадскія святы. Так, на працягу амаль усяго XVIII ст. дзейнічала капэла ў Жыровіцкім базыльянскім кляштары[3].

Праваслаўная царква развівала галоўным чынам мастацтва спеваў. Амаль у кожнай царкве Беларускай праваслаўнай епархіі набажэнствы суправаджаліся нотнымі спевамі, а некаторыя хары прыхаджан вылучаліся высокім майстэрствам. Найбольшую славу ў канцы XVIII ст. здабыў Магілёўскі архірэйскі хор і аркестр пры ім, якія складаліся з вучняў мясцовай семінарыі і таленавітых гараджан, як правіла, з ніжэйшых слаёў. Некаторыя з іх працавалі толькі за харчаванне і адзенне. Рэгентамі былі таленавітыя самавучкі: дзякан Вус, Васіль Нельгоўскі, якія вучылі спевакоў і музыкантаў і самі стваралі музыку. Развучвалі паланезы, маршы, кадрылі, вальсы і канты[4].

Царкоўная музыка адносілася да дэмакратычнага напрамку музычнай культуры другой паловы XVIII ст. Яна мела больш шырокую грамадскую аснову, чым музыка прыдворная, але ўспрымалася пераважна непадрыхтаваным слухачом.

Наўрад ці музыка была частай з'явай у побыце рамеснікаў. Тым не менш барабан уваходзіў у лік цэхавых рэгалій разам са сцягам і пячаткай. Музыкай суправаджаліся цэхавыя працэсіі рамеснікаў. Свой уклад у развіццё музычнага мастацтва ўнеслі спецыялісты па вырабу музычных інструментаў, у тым ліку канвісары – майстры па адліўцы званоў. Вядома, што ў Нясвіжы існавала інструментальная майстэрня, у якой працавалі мясцовыя і замежныя майстры.

У другой палове XVIII ст. павялічваецца роля музычнага мастацтва ў жыцці розных груп гарадскога насельніцтва. Музыка суправаджала разнастайныя сямейныя святы – у мяшчанскім асяроддзі часцей за ўсё выконваліся розныя танцы, канты і лірычныя песні. Яна была неад'емным элемен-

---

[1] *Ліхач Т.* Музычнае мастацтва уніяцкай царквы // Царква. 1997. № 3. С. 12–13.

[2] *Дадзіёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 60.

[3] Там жа. С. 54.

[4] Материалы для истории могилевского архиерейского хора 1798–1805 гг. // Могилевская старина. Вып. 3. Могилев, 1903. С. 102–107.

там масавых гарадскіх урачыстасцей: з нагоды пасяджэнняў органаў улады, прыезду ўладара горада ці высокасаноўнага чыноўніка, каралеўскіх імянін, сакральных свят і г.д. Вуліцы і плошчы пераўтвараліся тады ў сцэну пад адкрытым небам, на якой па загадзя распрацаванаму сцэнарыю разгортваліся тэатральныя дзеі, што працягваліся некалькі гадзін, а то і цэлы дзень: адбываліся шэсці цэхаў, духавенства, шляхты, воінскіх фарміраванняў, мяшчан і простага люду, выкарыстоўваліся розныя алегорыі, сімвалы, эмблемы, успыхвалі ілюмінацыі і феерверкі, гучалі гарматныя салюты. Гэтыя відовішчы афармляліся вакальнай (сольнай і харавой), інструментальнай (ансамблевай і аркестравай) і вакальна-інструментальнай музыкай. На святах, што праходзілі пад эгідай царквы, найчасцей выконвалі культава-абрадавыя творы, гучала кананічная святочная музыка. Пахавальныя абрады суправаджаліся сумнымі песнапеннямі. Гарадскія святы афармляліся рознымі рэлігійнымі і свецкімі творамі ўрачыстага характару. Найбольш папулярным з царкоўных твораў быў хвалебны гімн падзякі "Хвала табе, Божа", які гучаў не толькі на сакральных, але і на свецкіх урачыстасцях у выкананні прафесійных музыкантаў і гараджан. У другой палове XVIII ст. у сувязі з агульнай секулярызацыяй грамадскай свядомасці ў жыцці народа ўзмацнілася роля свецкай музыкі[1].

Так, трыумфальны ўзыход на Гародзенскае староства князя Юрыя Масальскага ў 1754 г. суправаджаўся святочным шэсцем воінскіх фарміраванняў, шляхты, чыноўнікаў розных ваяводстваў і паветаў; палілі з гармат, ігралі капэлы, размешчаныя на розных вежах, у фарным касцёле адбылося ўрачыстае набажэнства. Велічнае відовішча ўяўляла сабой жалобная працэсія пахавання ў Нясвіжы віленскага ваяводы, вялікага гетмана літоўскага М.К.Радзівіла ў 1763 г.: з запаленымі свечкамі праз горад прайшлі цэхі, брацтвы, прыдворная княжацкая міліцыя, духавенства. Стукі барабанаў, гучанне капэл, гукі званоў суправаджалі каранацыю абраза ў Бялынічах у 1761 г., сакральную цырымонію ў Магілёве і царкоўнае свята ў Полацку ў 1780 г. З нагоды прыняцця канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г. у Беларусі адбыліся ўрачыстасці. У Гародні, Берасці, Пінску загарэліся агні ілюмінацыі, жыхары Гародні праспявалі песню "На дзень 3 мая" (словы Ф.Карпінскага). У Менску адбыўся баль, на якім упершыню мяшчане прысутнічалі побач са шляхтай. Свята, прысвечанае канстытуцыі, пачалося ў Бабруйску на світанні 29 верасня 1792 г. са стоказовых выбухаў гармат. У парафіяльным касцёле "пры цудоўнай музыцы" была адпраўлена імша. Пасля прысягі мясцовых чыноўнікаў на вернасць канстытуцыі прагучалі Te Deum і гарматныя салюты. Вечарам успыхнула святочная ілюмінацыя, іграла музыка[2].

Музычнае жыццё беларускіх гарадоў узбагачала вайсковая музыка – ад сустракальных віватаў да пахавальных маршаў. Ваенныя ансамблі і аркестры звычайна складаліся з мясцовых жыхароў сярэдніх і ніжэйшых сацыяльных слаёў. Вядомы імёны некаторых з іх: Караль Сірніцкі з Пінска, Юзаф Эсманльд з Гародні, Пётр Буклераў, Пётр Фрапячынскі, Бенядзікт Русецкі, Міхал Ляшчынскі і Ян Чарнецкі з Менска, Ігнат Барэвіч з Наваградка, Бенядзікт Казлоўскі і Міхаіл Лягуцкі з Піншчыны, Вінцэнт Пётух са Слонімшчыны, Рыгор Бяляўскі з Магілёўшчыны, Тамаш Баброўскі з На-

[1] *Дадзіёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 24, 30–31, 33, 35.

[2] *Дадзіёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 31–33; *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.). С. 216.

ваградчыны. Музыканты выбранецкіх рот набіраліся звычайна з сялян. Вяртаючыся дадому пасля заканчэння службы, вайсковыя музыканты неслі ў народ традыцыі прафесійнага мастацтва[1].

Пэўную ролю ў музычным жыцці беларускіх гарадоў адыгрывалі школьныя калектывы, што існавалі пры навучальных установах манаскіх ордэнаў. У 30–90-я гг. XVIII ст. капэла з мясцовых вакалістаў і інструменталістаў існавала ў прыватнасці ў бурсе Віцебскага езуіцкага калегіума. Інструментарый капэлы складаўся са скрыпкі, басэтлі, квартвіолы, габоя, валторны, трубы, клавікорда і аргана. У яе рэпертуар уваходзілі канты, сімфоніі, оперы, а таксама танцавальная музыка[2]. У дзейнасці школьных тэатраў прасочваліся элементы беларускага фальклору, у тым ліку музычнага. Вядома, напрыклад, што ў інтэрмедыі "Гульня фартуны" прагучала народная ці стылізаваная пад народную песня "Сідзіць сава на каліне".

Акрамя вайсковых, школьных, касцёльных музычных калектываў існавалі і народныя капэлы. Яны запрашаліся на разнастайныя забавы і сямейныя ўрачыстасці знаці, свята мяшчан і сялян. Так, "музыку менскую з цымбаламі" меў менскі ваявода Крыштаф Завіша, сялянскую капэлу запрашаў на свае забавы Караль Радзівіл. Бяднейшая шляхта слухала пераважна яўрэйскія капэлы з невялікіх гарадоў. Народнае музычнае мастацтва выдзялялася асаблівым нацыянальным каларытам[3].

Паводле даных музыказнаўцы В.Дадзёмавай, у 1781–1790 гг. у Шклове працавала каля 70 музыкантаў, у Гародні ў 1765–1785 гг. – больш за 90, у Слоніме ў 1765–1800–я гг. – больш за 100, у Нясвіжы ў 1724–1808 гг. – больш за 120[4].



Павадыр з вучоным мядзведзем. Народная карціна XVIII ст.

Таксама развівалася і народнае тэатральнае мастацтва. Тэатралізаваныя сцэны і сюжэты былі ўласцівыя масавым народным гульням, карагодам, упляталіся ў каляндарныя абрады калядавання, гукання вясны, Купалля. Тэатралізаваныя дзеі разгортваліся ў час розных свят і ўрачыстасцей на вуліцах і плошчах беларускіх гарадоў. Вельмі папулярнымі ў народзе былі выступленні вандроўных камедыянтаў, якія хадзілі ад мястэчка да мястэчка, зарабляючы сабе на хлеб песнямі і прадстаўленнямі. Акцёрская ігра праходзіла пад акампанемент дудкі, жалейкі, цымбал, ліры, барабана, скрыпкі. Па мястэчках і гарадах, маёнтках і кірмашах вандравалі павадыры ("мядзведнікі") з вучо-

---

[1] *Дадзёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 52–53.

[2] *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. С. 87.

[3] *Дадзёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 51.

[4] Там жа. С. 55.

ными зверамі, якіх у “Смаргонскай акадэміі” навучылі стаяць на задніх лапах, пераміна́цца з нагі на нагу пад удары бубна, барукацца і кланяцца.

Працягваў бытаваць і карыстацца папулярнасцю лялечны тэатр – батлейка, вытокі якога сягаюць у далёкае мінулае. Батлейкавая драма ўяўляла сабой напаўлітаратурную, напаўфальклорную форму драматургіі, якая звычайна складалася з дзвюх частак: рэлігійнай і свецкай. Арганізатарамі батлейкі былі спачатку студэнты і вандроўныя дзякі, пазней – сельская і гарадская моладзь. У сувязі з гэтым батлейкавая драма ўсё больш дэмакратызавалася, рэлігійная частка яе скарачалася, а свецкая пашыралася, набываючы сацыяльную вастрыню.

Важкі ўклад у развіццё народнага тэатральнага мастацтва ў другой палове XVIII ст. унёс школьны тэатр. Такі тэатр існаваў тады ў Бабруйску, Берасці, Віцебску, Гародні, Наваградку, Нясвіжы, Пінску, Полацку і Слоніме пры езуіцкіх калегіях, у Забельскай дамініканскай калегіі, Жыровіцкім базыльянскім манастыры. Драмы-маралітэ, што ў іх ставіліся, не мелі шырокай аўдыторыі: на прадстаўленне запрашаліся толькі бацькі навучэнцаў і гарадское начальства. А вось інтэрмедыйная частка п’ес, што адлюстроўвалі думы і настроі простых людзей, абуджалі ў народзе пачуццё чалавечай годнасці і нацыянальнай свядомасці, знайшла шлях у масы. Блізкія да сялянскага асяроддзя аўтары інтэрмедый – хутчэй за ўсё студэнты-беларусы – добра ведалі народныя звычаі і абрады, дасканала валодалі вобразнай гутарковай мовай і стварылі цікавыя рэалістычныя карціны і сцэны з народнага побыту. Галоўнымі героямі інтэрмедый былі людзі з народа: сяляне, карчмары, царкоўныя служкі, адстаўныя салдаты, цыганы, рамеснікі. У адрозненне ад езуіцкіх інтэрмедый, якія ў выніку дэградацыі жанру ў сярэдзіне XVIII ст. зніклі з тэатральных падмосткаў, у якіх цёмны, нязграбны, прымітыўны мужык, як правіла, станавіўся аб’ектам насмешак і павучанняў, у інтэрмедыях, якія з сярэдзіны стагоддзя з’яўляліся на праваслаўнай і уніяцкай школьнай сцэне, ён надзяляўся станоўчымі якасцямі, паказваўся разумным, знаходлівым, сціплым, больш кемлівым, чым “вучоны пан”, умеў знайсці выйсце з самага незайздроснага становішча, з самых неверагодных сітуацый і амаль заўсёды выклікаў павагу і сімпатыю. Некаторыя творы мелі выразны сацыяльны падтэкст. Вядомы беларускія інтэрмедыі: “Сляпы, кульгавы, потым пан і селянін”, пастаўленая ў 1751 г. у Жыровіцах; “Селянін у касцёле” і “Селянін на споведзі”, паказаныя ў 1752–1755 гг. у смаленскай праваслаўнай семінарыі з нагоды Масленіцы[1]. Вандроўныя студэнты, шкаляры, манахі, дзякі неслі такога роду творы ў народ, прыста-



Батлейка. Ельніцкі вяртэп. XVII – пачатак XVIII ст.

---

[1] *Мальдзіс А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.). С. 313–314, 316.

соўваючы іх да запатрабаванняў і густаў простага гледача – ішла дэмакратызацыя гэтага віду драматургіі. Паступова ў інтэрмедыях паглыбляліся сацыяльныя матывы, выціскаючы чыста бытавы жанр, што надавала ім больш моцнае грамадскае гучанне.

На змену беларускай інтэрмедыі прыйшла камедыя, якая стваралася ўжо спецыяльна з разлікам на сялянскага гледача. Першынцам быў твор драматурга К.Марашэўскага, пастаўлены на сцэне Забельскай дамініканскай калегіі.

Шырока развівалася дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, аснову якога складалі промыслы і рамёствы. Народныя майстры выраблялі мастацкія творы з дрэва, металу, гліны, косці, шкла. Былі распаўсюджаны ўзорнае ткацтва, вышыўка, вязанне, пляценне з лазы і саломкі. Па-мастацку аздабляліся шмат якія прадметы паўсядзённага ўжытку гараджан і сялян: мэбля, прылады працы, посуд, адзенне і інш. Усё больш пашыралася ўпрыгожванне жылых дамоў разьбянымі і размаляванымі ліштвамі, фрызам, франтонамі, канькамі і інш.

Такім чынам, духоўнае жыццё беларускага селяніна і мешчаніна вельмі часта не супадала з матэрыяльным. Нягледзячы на сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, народ у яго ніжэйшых пластах захаваў моцны духоўны патэнцыял, развіў і ўзбагаціў яго ў другой палове XVIII ст. Вёска забяспечыла пераемнасць традыцый, перадаючы наступным пакаленням духоўны скарб продкаў. Народная культура аказала значнае ўздзеянне на элітарную яе частку. Чалавек з сацыяльных нізоў упершыню стаў героем літаратуры. Выведзены на прафесійную сцэну, ён упершыню быў успрыняты перадавымі людзьмі як сіла, на якой трымаецца моц дзяржавы.

## 5. Рэлігійнае становішча

**Раскол беларускага грамадства па канфесійнай прыкмеце**. У другой палове XVIII ст. рэлігійны антаганізм у Рэчы Паспалітай, узмоцнены ўмяшаннем замежных дзяржаў, набыў незвычайныя памеры і вострыя формы. Гэтаму садзейнічала разнастайнасць рэлігійных вераванняў. У 1791 г. канфесійны склад насельніцтва Вялікага княства Літоўскага быў наступным: 39 % ад агульнай яго колькасці складалі уніяты, 38 – каталікі, 6,5 – праваслаўныя, 4 – стараверы, 1,6 % – пратэстанты, іудзеі, мусульмане і інш.[1] Насельніцтва этнічнай Літвы было пераважна каталіцкім. Самымі шматканфесійнымі былі беларусы, якія належалі да розных адгалінаванняў хрысціянства і ў сувязі са змешанымі шлюбамі і ваганнямі курса дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі пераходзілі з адной канфесіі ў другую. У Магілёўскай губерні ў 1777 г. 68,4 % ад агульнага ліку складалі уніяцкія цэрквы і манастыры, 10 – рымска-каталіцкія, 21,6 % – праваслаўныя, прычым тут пражывала каля паловы ўсяго праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай.

У другой палове XVIII ст. самай масавай канфесіяй у Беларусі было уніяцтва. У розных мясцовасцях яго вызнавала ад 2/3 да 3/4 насельніцтва, а сацыяльную базу складала сялянства. Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай на беларускіх землях да 80 % сельскага насельніцтва былі уніятамі[2].

[1] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.) / Пад рэд. У.І.Навіцкага. Мн., 1998. С. 5.

[2] *Грыцкевіч А.* Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. 1973. № 6. С. 62.

Імі з'яўлялася таксама частка гараджан і дробнай шляхты. Гэта была вера сацыяльных нізоў. Небагатая уніяцкая царква, да якой пагардліва ставіліся прадстаўнікі "мацнейшых" рэлігій (каталіцкай і праваслаўнай), была моцная сваёй колькаснай перавагай і з'яўлялася на той час вельмі ўплывовай сілай. Каталіцкае і уніяцкае духавенства, паводле слоў польскага асветніка Г.Калантая, трымала ў сваіх руках кіраўніцтва сумленнем усяго народа. Уніяцтва мела за плячыма амаль 200-гадовую гісторыю; некалькі пакаленняў людзей было выхавана на яго культурна-рэлігійнай традыцыі, якая пранізала многія сферы жыцця грамадства (абрады, святы, шлюб, побыт, мастацтва, адукацыю і інш.) і з'яўлялася традыцыйным царкоўным інстытутам. Напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад мітрапаліцкай Віленскай (1 804 388 прыхаджан і 2 490 парафій у 1772 г.), Полацкай (адпаведна 765 154 і 598), Пінскай (85 103 і 238) епархій[1].

Багатая і сярэдняя частка шляхты вызнавала каталіцызм, які быў пануючай верай у Рэчы Паспалітай, вельмі ўплывовай, якая ўсяляк падтрымлівалася дзяржавай і мела больш моцныя пазіцыі на захадзе Беларусі. Касцёл быў добра забяспечаны матэрыяльна, меў дастаткова адукаваныя кадры, валодаў вялікім сацыяльным вопытам, карыстаўся падтрымкай мясцовай апалячанай шляхты і адыгрываў актыўную ролю ў царкоўным і грамадскім жыцці Беларусі. У народнай свядомасці замацоўвалася ўяўленне аб перавазе ўсяго каталіцкага. Яшчэ з 1387 г. і да падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь мела адну каталіцкую епархію – з цэнтрам у Вільні. У 1772 г. у Віленскім ваяводстве было 100 каталіцкіх кляштараў, у Троцкім – 41, у Берасцейскім – 41, у Наваградскім – 36, у Менскім – 36, у Віцебскім – 27, у Полацкім – 19, у Мсціслаўскім – 18[2].

У канцы XVIII ст. колькасць праваслаўнага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім дасягала 250 тыс. чалавек. Да першага падзелу Рэчы Паспалітай на ўсёй яе тэрыторыі засталося 40 праваслаўных манастыроў і каля 200 прыходаў, у тым ліку 130 – у Беларускай епархіі, і то дзякуючы заступніцтву Расіі; 5 манастыроў і 164 царквы гэтай епархіі былі пераведзены на унію. Праваслаўныя храмы заставаліся толькі ва ўсходняй частцы Беларусі, а таксама на Случчыне і Піншчыне. Адносна мала праваслаўных прыходаў захавалася ў Наваградскім, Ваўкавыскім паветах і зусім не засталося ў Ашмянскім, Лідскім, Слонімскім, Берасцейскім, Браслаўскім паветах[3]. Праваслаўе вызнавала частка гараджан і сялян. Праваслаўнае царкоўнае жыццё было моцна абяскроўлена за апошнія два стагоддзі. Але, нягледзячы на моцна парадзелыя шэрагі і рэлігійна-палітычную дыскрымінацыю, праваслаўе захавалася, пакуль змена палітычнай сітуацыі не забяспечыла яму далейшае існаванне і, нарэшце, рэванш.

Канфесійная дэзынтэграцыя беларускага народа прывяла да таго, што сацыяльна-класавы падзел грамадства паглыбіўся і дапоўніўся дыферэнцыяцыяй па рэлігійнай і этнічнай прыкмеце: пан-католік-паляк супрацьстаяў "хлопу"-"русіну" (беларусу)-праваслаўнаму і уніяту. Значная розніца пралягла за стагоддзі паміж акаталічаным і апалячаным панствам, уніяцкім сялянствам і праваслаўнымі. Міжканфесійная канфрантацыя ўзмацняла ўзровень напружанасці ва ўсім грамадстве. Адбываўся таксама канфесійны

---

[1] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.) / Пад рэд. У.І.Навіцкага. С. 5.

[2] Там жа. С. 21.

[3] Там жа. С. 32; *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. С. 225.

раскол культуры. Католікі ў гарадах карысталіся польскай мовай, а беларуская мова захоўвалася ва уніяцкім вясковым асяроддзі. Аднак мара кіруючых колаў Польшчы аб паглынанні беларускага этнасу праз унію так і не здзейснілася. Да канца XVIII ст. уніяцтва кансалідавала вакол сябе да 80 % беларускіх сялян, частку мяшчан, беднай засцянковай шляхты.

Культавыя ўстановы асноўных адгалінаванняў хрысціянства размяркоўваліся ў беларускіх паветах Вялікага княства Літоўскага ў 1790 г. наступным чынам[1]:

| Паветы | Кляштары | Плебаніі | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | каталіцкія | уніяцкія | праваслаўныя | кальвінскія зборы |
| Ашмянскі | 20 | 62 | 84 | – | 1 |
| Лідскі | 10 | 24 | 19 | – | 2 |
| Браслаўскі | 6 | 12 | 16 | – | – |
| Гародзенскі | 22 | 49 | 72 | 1 | 1 |
| Полацкі | 13 | 12 | 83 | 2 | – |
| Наваградскі | 30 | 29 | 132 | 75 | 5 |
| Слонімскі | 9 | 11 | 46 | – | – |
| Ваўкавыскі | 7 | 11 | 12 | 21 | 1 |
| Аршанскі | 6 | 6 | 82 | 1 | – |
| Берасцейскі | 27 | 40 | 212 | – | 3 |
| Пінскі | 14 | 3 | 170 | 22 | – |
| Менскі | 26 | 20 | 144 | 1 | 1 |
| Мазырскі | 6 | 2 | 69 | 17 | – |
| Рэчыцкі | 3 | 2 | 58 | 3 | 2 |
| Усяго | 199 | 283 | 1199 | 143 | 16 |

**Становішча праваслаўнай царквы ў Беларусі напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай.** У сярэдзіне XVIII ст. уніяцкая і каталіцкая цэрквы, якія падтрымліваў Ватыкан і ўрад Рэчы Паспалітай, імкнуліся даканаць рэшткі праваслаўя, дамагаючыся закрыцця Беларускай епархіі, падпарадкаванай сіноду. Папа Бенядзікт XIV патрабаваў у 1755 г. ад караля і ўрада Рэчы Паспалітай аддаць магілёўскі "схізматыцкі" прастол пад уладу полацкага уніяцкага архіепіскапа[2].

Са свайго боку вялікія намаганні па ўтрыманню гэтага апошняга аплота праваслаўя ў Беларусі прыкладала Расія. У 1753 г. расійскі рэзідэнт у Рэчы Паспалітай зрабіў паданне Аўгусту III аб крыўдах праваслаўнага насельніцтва ад уніятаў. У 1758 г. рускі ўрад запатрабаваў ад польскага пасла ў Пецярбургу Праса спыніць уціск праваслаўных жыхароў, манастыроў і цэркваў адзінай у Рэчы Паспалітай Беларускай епархіі і пераводіх на унію[3].

З 1760-х гг. Расія перайшла да больш рашучага курсу рэлігійнай палітыкі ў Беларусі. Кацярына II атрымала ў спадчыну ад сваіх папярэднікаў традыцыйнае права расійскай улады ўмешвацца ў адносіны ўрада Рэчы Паспалітай з праваслаўным насельніцтвам Беларусі і Украіны, зама-

[1] *Мараш Я.Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. С. 226.

[2] *Мартос А.* Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 196.

[3] Уния в документах: Сб. / Сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. Мн., 1997. С. 407–410.

цаванае ў дагаворы аб "вечным" міры 1686 г. Рыхтуючы анексію Беларусі, яна адмовілася ад дыпламатычных мер вырашэння дысідэнцкага пытання. Генеральная лінія самадзяржаўя знайшла адлюстраванне ў запісцы "Аб карысці ад абароны Расіяй праваслаўных, якія жывуць у Польшчы", складзенай у 1762 г. настаяцелем віленскага манастыра св. Духа Феафанам Леантовічам. Сярод такога роду выгод былі наступныя: "... поляки из-за внутренних несогласий вынуждены будут просить к себе короля из российского дома"; "получение заблаговременно секретных известий о всех злокоseparных замыслах польских магнатов". Але самае важнае – магчымасць рэалізацыі імперскіх задум: "Российскому нашему государству можно будет на шести сот верст самой лучшей и плодородной земли с бесчисленным православновосточным народом пред всем светом праведно и правильно у поляков отобрать". За такую шчырасць і смеласць у выказваннях Ф.Леантовічу прыйшлося вінавяціцца перад сінодам і адбыць заключэнне ў манастыры[1].

Выкарыстанне Расіяй рэлігійных супярэчнасцей для ўмяшання ў справы Рэчы Паспалітай правацыравалася самім праваслаўным беларускім насельніцтвам. Пры гэтым Пецярбург ініцыіраваў яго на пошукі пратэкцыі. Для гэтага царызм абараняў правы меншасці. Каб пазбегнуць рэлігійнай апекі Расіі, Вялікі сейм (1788–1792) выказаўся за арганізацыю ў Рэчы Паспалітай асобай праваслаўнай царквы з падпарадкаваннем яе Канстанцінопальскаму патрыярхату, але рэалізацыі гэтага праекта перашкодзілі другі і трэці падзелы. На думку шэрагу гісторыкаў, галоўным чынам праваслаўнай арыентацыі, менавіта недальнабачная, варожая праваслаўю палітыка загубіла Польскую дзяржаву.

У 1755 г. праваслаўнае насельніцтва атрымала цвёрдага барацьбіта за ўсходнюю арыентацыю і сваю веру ў асобе магілёўскага епіскапа Георгія Каніскага, які 40 гадоў узначальваў гэту кафедру. Яго першай справай было адкрыццё Магілёўскай духоўнай семінарыі ў 1757 г. і друкарні для выдання духоўнай літаратуры.

Адчуваючы падтрымку ў Пецярбургу, Г.Каніскі праводзіў сваю лінію вельмі настойліва. У 1762 г. ён ездзіў у Маскву са скаргай на ганенні ад уніятаў. У сваёй чалабітнай Кацярыне II ён папракаў калегію замежных спраў за марудлівасць, цяганіну ў абароне аднаверцаў у Беларусі, прасіў прызначыць пры каралеўскім двары камісара, які б прымаў скаргі праваслаўных і дамагаўся іх сатысфакцыі, як гэта было ў часы Пятра I. У 1765 г. са згоды Кацярыны II ён выступіў з моцнай прамовай, якая набыла вядомасць у Еўропе, перад каралём Станіславам Аўгустам аб крыўдах праваслаўным ад каталікаў і уніятаў. Пры кожным зручным выпадку Г.Каніскі паказваў тых, хто распаўсюджваў уніяцтва, як марадзёраў і тыранаў, у сувязі з чым у адказ аднойчы прагучала: "Калі б адна сотая частка напісанага ім была праўдай, то нам трэба было б чырванець ад сораму за сваіх продкаў"[2]. Дбаючы пра павелічэнне сваёй паствы, Каніскі дамагаўся, каб у трактат аб падзеле Рэчы Паспалітай быў уключаны артыкул аб праве пакідаць унію тым, хто да яе далучаны прымусова. Сваімі хадайніцтвамі ён заахвочваў імператрыцу да актыўных захадаў, што яшчэ больш нагнятала рэлігійны антаганізм у дзяржаве. Урад Рэчы Паспалітай, беларускія каталікі і уніяты расцэньвалі ўсходнюю арыентацыю Г.Каніскага і падначаленага яму духавенства як службу інтарэсам Пецярбурга. Прымаліся і контрмеры: законам 1768 г.

[1] Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў у Маскве, ф. 12, спр. 111, арк. 3–4, 15.

[2] *Likowski E.* Historia unii kościoła ruskiego z kościołem rzymskim. Poznań, 1875. S. 139.


Георгій Каніскі. Партрэт невядомага мастака XVIII ст.

прыгранічнае неуніяцкае духавенства было абавязана штогод даваць прысягу на вернасць каралю, а тыя, хто адмаўляўся, падлягалі выгнанню з дзяржавы[1].

У асабістых пасланнях і праз сваіх прадстаўнікоў у Варшаве Кацярына II рабіла апошняму польскаму каралю прадстаўленні на прадмет паляпшэння становішча праваслаўных у яго дзяржаве ў самай катэгарычнай форме. Аднак бачачы іх беспаспяховасць, яна перайшла ад пагроз да справы. У 1766 г. яе пасланнік у Варшаве атрымаў інструкцыю – падахвоціць дысідэнтаў скласці канфедэрацыю і "оною формально просить помощи и защищения у нас". У 1767 г. расійская дыпламатыя інспірыравала стварэнне Слуцкай канфедэрацыі праваслаўных, да якой далучыліся кальвіністы і лютэране. Для яе падтрымкі ў Рэч Паспалітую было ўведзена 40-тысячнае войска, пад прымусам якога сейм зацвердзіў акт аб свабодным вызнанні праваслаўнай веры і прызнанні грамадзянскіх правоў за яе прыхільнікамі. Была падпісана таксама Варшаўская дамова аб праве Расіі ўмешвацца ў абарону праваслаўных. Узмацненне рускага ўплыву ўсё больш рабіла Рэч Паспалітую залежнай дзяржавай. Барацьба супраць Барскай канфедэрацыі каталіцкай шляхты–праціўніцы Расіі і ўраўноўвання правоў дысідэнтаў, якія сваімі бесперапыннымі скаргамі і просьбамі ў Пецярбург выклікалі ўмяшанне Кацярыны II і ўніжэнне краіны, прывяло да развязвання ваенных дзеянняў. Імператрыца давяла гульню з рэлігійнай картай да лагічнага канца, які праявіўся ў падзелах Рэчы Паспалітай. Веравызнаўчы фактар меў галоўнае значэнне ў іх апраўданні.

**Рэлігійная палітыка расійскага ўрада на далучаных беларускіх землях.** Пераход Беларусі ад Рэчы Паспалітай, дзе пануючай верай было каталіцтва, да Расіі, у якой вяршэнствавала праваслаўе, абвастрыў міжканфесійныя адносіны. І хаця традыцыйнай для расійскай палітыкі была канверсія праваслаўнай царквы і ўрада ў дачыненні да новых суб'ектаў імперыі[2], канфесійная структура насельніцтва Беларусі спачатку ў цэлым была пакінута ранейшай. На ўсходзе да 1820 г. быў нават захаваны забаронены Ватыканам ордэн езуітаў. Разлік быў на тое, каб дагадзіць мясцоваму панству.

На далучаных у 1772 г. усходнебеларускіх землях пражывала 100 тыс. католікаў, 300 тыс. (паводле іншых даных – 250 тыс.) праваслаўных і 800 тыс. уніятаў[3]. З першым падзелам Рэчы Паспалітай пачынаюць мяняцца суад-

[1] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 823, воп. 3, спр. 736, адв. арк. 4.

[2] Сословия и государственная власть в России XV – середины XIX в.: Международная конференция. Чтения памяти академика Л.В.Черепнина. Тезисы докладов. Ч. 2. М., 1994. С. 346.

[3] *Ільяшэвіч М.* Расейская палітыка на землях былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўла I (1772–1801). Вільна, 1933. С. 11.

носіны паміж рознымі веравызнаннямі і іх месцам у грамадскім жыцці. Канфесійная сітуацыя паварочваецца на карысць праваслаўя, хаця ўрадавая палітыка ў дачыненні іншай веры спачатку была даволі стрыманая. Царскім указам 16 жніўня 1772 г. католікам і уніятам была нададзена "нічым не абмежаваная свабода ў публічным адпраўленні іх веры" пры ўмове, што яны не будуць схіляць у сваю веру праваслаўных. Гэты талерантны жэст быў разлічаны на тое, каб выклікаць лаяльнасць і прыхільнасць новых падданых да Расіі і яе ўлад, а таксама атрымаць давер тых, хто застаўся ў межах Рэчы Паспалітай. Аднак насуперак дэкларацыі аб талерантнасці інструкцыя 6 снежня 1773 г. заклікала уніятаў, як згвалтаваных да прыняцця гэтай веры палякамі-католікамі, вяртацца да рэлігіі продкаў[1]. Духоўнымі справамі уніятаў на далучаных тэрыторыях кіравала Полацкая грэка-уніяцкая епархія на чале з архіепіскапам Я.Смагаржэўскім, які прысягнуў на вернасць Расіі і заклікаў падначаленае духавенства зрабіць тое ж.

Дэклараванне рускім урадам сваёй талерантнасці не пазбавіла ў каталіцкай і уніяцкай іерархіі боязі наконт магчымасці паваротаў у рэлігійнай палітыцы. Яна была занепакоена з прычыны адрыву зямель ад дзяржавы, дзе каталіцкая рэлігія (у абодвух абрадах – рымскім і грэчаскім) была пануючай, і далучэння да краіны, у якой яна стала толькі цярпімай. Яе трывога мела пад сабой падставу. У абнародаваным у верасні 1772 г. ад імя Кацярыны II плакаце графа З.Чарнышова для беларускага насельніцтва гаварылася аб захаванні за каталіцкай і уніяцкай цэрквамі маёмасці, у першую чаргу маёнткаў. Імператрыца лічыла, "што оныя адбіраць яшчэ рана"[2]. Асцярога не была дарэмнай. У рэальным жыцці было інакш, чым на паперы. Ужо к канцу 1774 г. у пяці беларускіх правінцыях Пскоўскай і Магілёўскай губерняў – Полацкай, Віцебскай, Аршанскай, Мсціслаўскай, Рагачоўскай – 429 уніяцкіх цэркваў і 688 прыхаджан былі пераведзены ў праваслаўе і яшчэ 486 перайшлі на лацінскі абрад[3]. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай Кацярына II пацвердзіла сваім новым падданым поўную і неабмежаваную свабоду іх веры, правы на зямлю і прыгонных. Але ў тым жа 1793 г. яна звярнулася ў сінод з запытам, "як лепш і прыстойней польскіх уніятаў злучыць з праваслаўнай грэчаскай царквой", і ў наступным годзе, нягледзячы на абяцанні, пачала новы наступ на уніяцтва.

Шлях да імперскага адзінства бачыўся ў авалоданні духоўным светам новых падданых. Услед за палітычнай адбылася рэлігійная і культурная інтэграцыя Беларусі ў Расію. Кацярына II выказала жаданне знішчыць "грань инородия" паміж Беларуссю і Расіяй і зрабіць новыя абшары "русскими не одним только именем, но душою и сердцем". Найбольш прыдатнымі для рэалізацыі гэтых намераў знайшлі уніятаў. Царызм глядзеў на іх як на рускіх, адарваных у нейкіх пакаленнях ад праваслаўя, якія цярпелі моцны польска-каталіцкі ўплыў і забыліся пра сваю кроўную сувязь з Расіяй. У дакументах канца XVIII – пачатку XIX ст. іх называлі то паўпалякамі, то беларускімі палякамі, то "змененымі з вонкавага выгляду, але рускімі ўнутры", а то і зусім атаясамлівалі з карэнным насельніцтвам імперыі і лічылі "рускімі па паходжанню, мове і набажэнству".

---

[1] *Анішчанка Я.* Перавод беларускіх уніятаў ў праваслаўе ў 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996. С. 85.

[2] Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў у Маскве, ф. 12, спр. 166, арк. 18 адв.

[3] *Грыцкевіч А.* Уніяцкая царква на Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX стагоддзяў // Хрысціянская думка. 1993. № 3. С. 120.

Разумеючы, што гэта не так, царызм пачаў кампенсаваць нацыянальную рознасць рэлігійным адзінствам і прыступіў да русіфікацыі краю. Паводле слоў Кацярыны II, "пераварочванне уніятаў у праваслаўе зблізіць іх з прыроднымі расіянамі, і яны ніколькі не павінны ўжо баяцца, што калі-небудзь будуць адарваны ад нашай дзяржавы"[1]. Даказваючы беларуска-расійскае адзінства, прадстаўнікі кіруючай эліты Расіі закрывалі вочы на тое, што на працягу стагоддзяў Беларусь жыла сваім асобным жыццём і стварыла самастойныя шляхі палітычнага, культурнага і рэлігійнага развіцця. Берасцейскую унію, якая ў канцы XIX ст. аслабіла палітычны і царкоўны ўплыў Маскоўскай дзяржавы на беларускіх землях, абвінавацілі ў тым, што яна больш за два стагоддзі працавала над знішчэннем у Беларусі "праваслаўнай Русі". Таму звужэнне сферы ўплыву гэтай "шкоднай" уніі заняло важнае месца ў сістэме ўрадавых мер па "аднаўленню рускай народнасці" ў Беларусі.

Становішча уніяцкай царквы ўскладнялася тым, што яна сама раздзіралася супярэчнасцямі. Унутры яе ішла барацьба паміж белым духавенствам і базыльянскім манаствам за сферы ўплыву, пасады, даходы, маёнткі, прывілеі. У царкве дзейнічалі дзве плыні: першая – на збліжэнне і перавод уніятаў у рыма-каталіцызм, што знаходзіла падтрымку базыльянскага манаства; другой было ўласціва імкненне застацца "пры даўніне", захаваць асобнасць і самабытнасць царквы. Бачачы заняпад уніі пад націскам каталіцкага Захаду, прыхільнікі другой плыні шчыра жадалі прымірыць каталіцтва з праваслаўем. Але чым менш удаваліся іх спробы, чым больш яны ўпэўніваліся ў намерах Польшчы ліквідаваць унію, чым больш схілялі свае позіркі на Усход у надзеі з яго дапамогай зберагчы чысціню уніяцкай рэлігіі. А.Цвікевіч разглядаў арыентацыю часткі беларускіх уніятаў на Маскву і Пецярбург як "жаданне абаперціся на Расію дзеля ўмацавання веры сваіх дзядоў супроць ваяўнічага каталіцызму"[2].

Гэта жаданне адпавядала курсу Кацярыны II на адрыў уніяцкай царквы ад рымска-каталіцкай і ізаляцыю яе ад знешняга ўплыву. Ніводная папская була не мела ў межах Расіі сілы, калі яна не была ўхвалена імператрыцай. Замежнаму духавенству былі забаронены ўезд у Расію і ўмяшанне ў справы уніяцкай царквы.

Кацярына II падарвала значэнне базыльянскага ордэна – апоры уніі. Яго манахі настроілі супраць сябе ўрад тым, што многія з іх адмовіліся даць прысягу на вернасць. Не дапускаючы самастойнасці манаскіх ордэнаў у Расіі, яна падпарадкавала базыльян кіраўніцтву епіскапа, чым выклікала незадавальненне манаства.

Кацярына II хацела падпарадкаваць каталіцкую і уніяцкую царкву сабе. У 1773 г. без згоды Рыма яна адкрыла Беларускую рыма-каталіцкую епархію з цэнтрам у Магілёве. Яе ўзначаліў біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, уладзе якога былі падначалены ўсе католікі, што пражывалі ў межах Расіі. Рым адразу не прызнаў дадзены акт законным і зацвердзіў Сестранцэвіча на гэтай пасадзе толькі ў 1784 г. У 1795 г. была заснавана інфлянцкая епархія, тады ж і Пінская (у апошнюю ўвайшлі Менская і Віленская губерні). Гэта выклікала пратэсты ў духавенства. Рыхтавалася нават паўстанне, але яно было раскрыта. У 1798 г. межы епархій зноў былі перагледжаны. Тры з іх – Магілёўская, Менская і Віленская – ахоплівалі тэрыторыю Беларусі.

---

1. АВАК. Вильна, 1889. Т. 16. С. 10.

2. *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм". Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн., 1993. С. 8, 14.

Праблемы стварала і знаходжанне ў Расіі езуітаў. Яшчэ ў 1773 г. папа Клімент XIV распусціў ордэн, але яны заставаліся на тэрыторыі Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Гэтым Кацярына II жадала даказаць Ватыкану, што не дазволіць, каб у яе дзяржаве распараджаўся папа. Ухваліла яна і педагагічны вопыт езуітаў. У 1786 г. у Полацкай езуіцкай калегіі налічвалася 79 чалавек, у Магілёўскай – 12, у Мсціслаўскай – 14, у Аршанскай – 20, у Дзінабургскай – 21[1]. Да 30-х гг. XIX ст. каталіцкая царква не ведала асаблівых перашкод у сваёй дзейнасці.

Асноўным напрамкам рэлігійнай палітыкі царызму ў Беларусі было ўмацаванне праваслаўя. З часу першага падзелу яно, якое амаль знікала там, пачало падтрымлівацца, але нягледзячы на павелічэнне колькасці вернікаў, у асноўным за кошт уніятаў, уплывовым у другой палове XVIII ст. ужо не стала. У 1793 г. на далучаных тэрыторыях была створана Менская, Ізяслаўская і Брацлаўская епархія на чале з Віктарам Садкоўскім. Яе межы змяняліся ў сувязі са зменай межаў губерняў, далучаных да імперыі.

Яшчэ ў 1769 г. Г.Каніскі хадайнічаў перад варшаўскім судом, а з першым падзелам – перад сінодам аб цвёрдым жаданні святароў і цэлых прыходаў Беларускай епархіі, гвалтоўна схіленых да уніі, вярнуцца ў праваслаўе. К пачатку 1775 г. у яго набралася 80 калектыўных прашэнняў. Але прапановы Каніскага, якія маглі пагоршыць адносіны Расіі з каталіцкім панствам, урад не зацікавілі.

Сітуацыя змянілася ў 1780 г. Адзіны уніяцкі епіскап на далучанай да Расіі тэрыторыі Беларусі Ясан Смагаржэўскі нядоўга ўзначальваў тут уніяцкую царкву. Калі ён аддаў перавагу пасадзе мітрапаліта ў Рэчы Паспалітай, Кацярына II загадам ад 2 ліпеня 1780 г. звольніла яго з пасады, забараніла ўмешвацца ў духоўныя справы імперыі і толькі ў 1784 г. прызначыла яму пераемніка. Ім стаў Іраклій Лісоўскі. Кіраваць уніяцкай царквой ва Усходняй Беларусі ў гэты час даручылі кансісторыі з чатырох надзейных асоб, дзейнасць якой была ўзята пад пільны нагляд.

Тым жа загадам беларускаму генерал-губернатару было дадзена права назначаць па вакантныя пасады ва уніяцкай царкве свяшчэннікаў такога вызнання, якога жадалі прыхаджане. Гэты дакумент паклаў пачатак пераводу уніятаў у праваслаўе. Наўмысна ствараліся новыя вакансіі. Згодным пакінуць уніяцтва прысылалі праваслаўных папоў. Прызначэнне уніяцкіх парохаў ва "ўпартыя" прыходы зацягвалася. На працягу бліжэйшых трох гадоў унію пакінулі 100–200 тыс. чалавек. Мянялі веру галоўным чынам сяляне тых вёсак, якімі валодалі рускія паны.

Адыход ад уніяцтва дзесяткаў тысяч людзей у пачатку 1780-х гг. у цэлым можна лічыць звычайнай з'явай на тэрыторыі традыцыйнага ўплыву праваслаўя[2]. 17 % усіх уніятаў у беларускіх губернях перайшло ў праваслаўе ў час гэтай урадавай акцыі. Але яна аказалася няўдалай – зрабіць далучаныя землі цалкам праваслаўнымі праз добраахвотнае жаданне уніятаў не ўдалося. Уніяцтва па-ранейшаму засталося дамінуючай канфесіяй на далучаных землях. Духоўным і свецкім уладам прыйшлося шукаць іншых шляхоў і

[1] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.). С. 23.

[2] *Белецкий А.В.* Униатский вопрос в 1772–1827 гг. // Хрестоматия по истории Западной России. Вильно, 1892. С. 733; *Likowski E.* Historia unii kościoła ruskiego z kościołem rzymskim. Poznań, 1875. S. 157; *Сосна У.* Уніяцкае пытанне ў беларускай вёсцы ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996. С. 93.

зручных абставін для канчатковай рэалізацыі сваіх вялікадзяржаўных планаў[1].

Кацярына II праводзілі вельмі асцярожную палітыку ў рэлігійным пытанні яшчэ і з той мэтай, каб не раззлаваць каталіцкі Захад і не стварыць прэцэдэнту, які б даў Ватыкану падставу ўмяшацца ва ўнутраныя справы імперыі. Рым пільна сачыў за ўсімі хістаннямі расійскай палітыкі і прымаў свае контрмеры. Але яго заступніцтва за беларускую уніяцкую царкву было слабым – сфера яе ўплыву няўмольна скарачалася. Найбольш дзейсныя іерархіі арганізавалі дэпутацыю ў Рым, якая паведаміла папе, што уніяты падаюць духам і пераходзяць у праваслаўе, бо бачуць, што святы айцец пра іх не клапоціцца. Папа выступіў тады ў абарону уніяцкай царквы ў Беларусі. Але Кацярына II заявіла, што выратаваць яе ён зможа толькі тады, калі не будзе пярэчыць манаршай волі[2]. Было відавочна, што Ватыкан страціў ініцыятыву ў рэлігійных справах на далучанай да Расіі тэрыторыі.

Палітыка Кацярыны эвалюцыяніравала ад няпэўнасці, чакання ў рэлігійнай праблеме, асцярогі з уніяй да рашучага наступу на яе з мэтай выкаранення, распачатага ў 1794 г. Годам раней на запыт Кацярыны II у сінод аб найлепшых спосабах "сопряжения" "в единое мирное исповедание веры всех тех, коих Всевышний благоволил покорить власти Ея" знакамітым праваслаўным іерархам херсонскім архіепіскапам Я.Булгарысам была падрыхтавана "Запіска аб найлепшым спосабе ўз'яднання уніятаў з праваслаўнай царквой". Булгарыс разглядаў сем магчымых спосабаў. Сярод іх: 1) прымусовы; 2) шляхам склікання сабора; 3) "дэбаты" – дыскусіі; 4) выданне твораў, у якіх абвяргаюцца "нелепости" уніі; 5) выбранне годных пастыраў; 6) настаўленне прыхаджан у веры. Першы спосаб Булгарыс лічыў недарэчным, другі і трэці ўжо шматразова былі ўжытыя раней, але нядзейсныя; два наступныя нязручныя і таму бескарысныя. Тры апошнія ён раіў для выкарыстання. Гэта была своеасаблівая праграма паглынання уніятаў рускай праваслаўнай царквой.

Праграма Булгарыса была доўгатэрміновага дзеяння, а імператрыца Кацярына II спяшалася. Падзеі 1794 г. стварылі прэцэдэнт, і ўрад без усялякай падрыхтоўчай работы пайшоў у наступ на унію. Калі пасля першага падзелу ў Рэчы Паспалітай ён вельмі насцярожана адносіўся да пераводу уніятаў у праваслаўе, то ва ўмовах распачатага паўстання Т.Касцюшкі ў праваслаўным яднанні афіцыйных улад і сялянства бачыўся шлях да палітычнай стабільнасці ў краі, сродак ізаляцыі паўстанцаў-католікаў[3]. У гэтых умовах урад падтрымаў рух да праваслаўя часткі уніяцкага насельніцтва Брацлаўскай, Ізяслаўскай і Менскай губерняў. Гэты рух разгортваўся сярод "нявольных" уніятаў – тых, хто пад прымусам, без уласнага пераканання прыняў гэту веру. Зразумела, такія людзі былі нястойкімі паслядоўнікамі уніяцтва і пры спрыяльных абставінах кідалі яго. На чале гэтага руху стаяў Г.Каніскі.

Імкненне нядаўна павернутых да уніі жыхароў Беларусі і Украіны было абвешчана ўрадам усеагульным і выкарыстана ва ўласных мэтах. Вяртанне уніятаў у праваслаўе, якому спачатку супраціўлялася Кацярына II, з мэтай выклікаць вернападданіцкія настроі сярод жыхарства, пад канец яе

---

[1] *Анішчанка Я.* Перавод беларускіх уніятаў у праваслаўе ў 1781–1783 гг. // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). С. 88–89.

[2] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове, ф. 201, воп. 4, спр. 1146, арк. 1 адв.

[3] *Сосна У.* Як спрабавалі "ўз'яднаць" сялян-уніятаў // Спадчына. 1993. № 2. С. 78.

праўлення набыло шырокія памеры. У 1794 г. яна абвясціла аб намеры выкараніць унію ў "далучаных ад Польшчы губернях". Пад гэты намер быў падведзены навуковы грунт. Ім з'явілася напісаная па яе заказу праца стацкага саветніка Бантыш-Каменскага "Историческое известие о возникшей в Польше унии" – першы ў Расіі навуковы твор, прысвечаны гісторыі уніі. Ён даказваў права Расіі і расійскай праваслаўнай царквы на панаванне ў Беларусі.

Імператарскім указам і рэскрыптам генерал-губернатару Ц.Туталміну здымаліся ўсялякія абмежаванні для вяртання уніятаў у праваслаўе. Памешчыкам, свецкім і духоўным чыноўнікам пад пагрозай прыцягнення да крымінальнай адказнасці і секвестра маёнткаў забаранялася рабіць якія б то ні было перашкоды пераходу ў праваслаўе, які абвяшчаўся надзейнейшым сродкам зацвярджэння народа ў аднадумстве і спакоі. Аналагічны ўказ быў выдадзены 10 студзеня 1795 г. У ім гаварылася аб неабходнасці ахоўваць новаправаслаўных ад усялякіх уціскаў і крыўд з боку паноў і браць іх пад апеку мясцовых улад.

Гэтыя ўказы мелі свае вынікі. На працягу толькі аднаго месяца 1794 г. перайшлі ў праваслаўе 721 парафія, 333 тыс. чалавек і 463 святары[1]. У наступным годзе Кацярына II выслала за мяжу найбольш упартых базыльян, якія не падпарадкоўваліся епіскапу Лісоўскаму, і выдала загад аб закрыцці бескарысных для грамадства кляштараў, якія не займаліся ні адукацыяй моладзі, ні дапамогай бедным. Задума Кацярыны II абяссіліць базыльян выклікала іх супраціўленне. Яны пачалі падбухторваць людзей супраць рускага ўрада, распаўсюджваць чуткі, што народ хутка пагоняць у праваслаўныя храмы. Такая дзейнасць базыльянскага манаства і каталіцкага духавенства, відаць, адыгрывала пэўную ролю ў далучэнні народа да барацьбы.

**Імкненне уніятаў Беларусі да захавання сваёй канфесіі**. Паводле даных гісторыка Г.Кіпрыяновіча, са жніўня 1794 г. па сакавік 1795 г. да праваслаўя далучылася 1 483 111 украінскіх і беларускіх уніятаў, 2603 царквы і 1552 святары[2]. У Беларусі гэты рух не прыняў такога шырокага памеру, як ва Украіне. Беларускія уніяты аказаліся больш паслядоўнымі і адданымі сваёй веры[3]. Але і тут уніяцкая царква страціла больш за 100 тыс. вернікаў[4]. Даволі лёгка кідалі уніяцтва жыхары ўсходніх раёнаў Беларусі, дзе яно запанавала толькі ў апошняе паўстагоддзе і не пусціла глыбокіх каранёў. Цяжкасці ўзмацняліся па меры прасоўвання гэтага працэсу ў мясціны, дзе унія зацвердзілася раней і мацней, так што ўрэшце даходзіла да выкарыстання вайсковых каманд з гарматамі для аднаўлення пазіцый праваслаўя. Для параўнання: толькі ў Брацлаўскай губерні (Украіна) усе цэрквы (1090) з больш чым паўмільёна вернікаў адышлі ад уніі ў 1795 г.[5]

Гэта не была суцэльная добраахвотная перамена веры, як падавала тыя падзеі афіцыйная расійскай гістарыяграфія. Непасрэдны ўдзельнік і выканаўца "ўз'яднання" чыноўнік Г.Дабрынін пісаў у сваіх мемуарах, што уніяты

---

[1] *Зноско К.* Исторический очерк церковной унии: ее происхождение и характер. Варшава, 1933. С. 179.

[2] *Киприянович Г.Я.* Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 г. Вильна, 1893. С. XV.

[3] *Хаўстовіч М.* Скасаванне уніі // З гісторыяй на "Вы". Мн., 1994. С. 109.

[4] *Белецкий А.В.* Униатский вопрос в 1772–1827 гг. // Хрестоматия по истории Западной России. С. 733.

[5] Львовский церковный собор: Документы и материалы. 1946–1981. Издание Московской патриархии, 1982. С. 26.



Палац Г.Каніскага ў Магілёве. 1762–1763

“пажадалі, ці заахвочаны, ці прымушаны павярнуцца да царквы грэка-расійскай”[1]. З месцаў паступалі ад чыноўнікаў данясенні: вярнуў у праваслаўе царкву або дзве-тры. Толькі губернскае праўленне атрымае іх, як з другога боку прыходзяць іншыя данясенні: ад прыхаджан, памешчыкаў, уніяцкага духавенства, што уніяты прымушаны адракацца ад веры біццём, што царква адбіта гвалтам і г.д. У органах мясцовага кіравання і вярхоўнай улады зрабілася тады сапраўднае навадненне уніяцкіх спраў[2]. Тое рэлігійнае далучэнне было негатыўна сустрэта ўсімі пластамі неправаслаўнага насельніцтва.

Здавалася, уніяцтва дажывае свае апошнія дні. Але поспехі масавай рэлігійнай канверсіі сярэдзіны 90-х гг. XVIII ст. былі больш на паперы[3]. Навізна справы, хуткасць, з якой яна праводзілася, непаслядоўнасць урадавай палітыкі, няўмелае вядзенне справы на месцах, з аднаго боку, і супраціўленне часткі уніяцкага насельніцтва, неаслабная польска-каталіцкая прапаганда, з другога – затармазілі канчатковае “ўз’яднанне” уніятаў. Так, непаслядоўнасць урада праявілася ва ўказе 6 верасня 1795 г., які прызначаў пажыццёвую пенсію (ад 50 да 100 руб.) тым уніяцкім святарам, што адмовіліся прыняць праваслаўе і засталіся без прыходаў, але не пажадалі скарыстацца дазволам выехаць за мяжу. Гэты ўказ быў успрыняты ў народзе як узнагарода духавенству, што засталося верным уніі. Некаторыя гісторыкі дакаралі Кацярыну II, што абавязак урада – падтрымку нацыянальных памкненняў праваслаўных – яна выконвала даволі легкадумна, пачала справу без належнай падрыхтоўкі[4].

Пасля падаўлення паўстання Т.Касцюшкі імпэт урада да справы “ўз’яднання” астыў. Ды і самі уніяты казалі: “Пакольկі гасударыня матушка памерла, то і ўсе ўказы яе прапалі”[5]. У гэтых умовах пачаўся масавы адыход ад праваслаўя. Жыхары Полацкай і Магілёўскай губерняў, як даносіў у 1796 г. обер-пракурору сінода полацкі епіскап Афанасій, “в вере развращаются” і гавораць, што, маўляў, яны быць у праваслаўнай веры не жадаюць, але жада-

---

[1] *Сосна У.* Як спрабавалі “ўз’яднаць” сялян-уніятаў / Спадчына. 1993. № 2. С.78.

[2] *Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1795–1805. Киев, 1902. С. 36.

[3] *Никольский Н.М.* История русской церкви. Мн., 1990. С. 289.

[4] *Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1795–1805. С. 61.

[5] Там жа. С. 59.

юць па-ранейшаму вярнуцца ва уніяцкую[1]. Да 90 % "уз'яднаных" вярнулася тады ва уніяцтва[2]. Пераемнік Кацярыны II Павел I праводзіў больш ліберальны курс у рэлігійнай палітыцы. Адміністрацыйны прымус у дачыненні уніятаў пры ім аслабеў. Ён спыніў барацьбу з уніяцтвам, аднавіў для ўцалелых яшчэ уніятаў скасаваныя епіскапскія кафедры, загадаў губернатарам клапаціцца пра патрэбы уніяцкай і каталіцкай цэркваў.

Як сцвярджаў пазней обер-пракурор сінода Д.Талстой, унія ў XIX ст. – "не больш як памылка рускага ўрада". У 1794–1796 гг. амаль усё уніяцкае насельніцтва Падольскай і большай часткі Валынскай губерняў колькасцю 1,5 млн без прымусу далучылася да праваслаўнай царквы. У Літве і Беларусі, наадварот, у выніку памылак урада унія не толькі не аслабела, але яшчэ больш узмацнілася[3].

Такім чынам, уніяцкае насельніцтва было галоўным рэзервам для павелічэння праваслаўнай царквы. Але, нягледзячы на рост колькасці храмаў, прыхаджан, духавенства, праваслаўная царква не стала тады ўплывовай сілай – урад усур'ёз узяўся за яе ўзвышэнне ў 1830-я гг. Яна трымалася на добраахвотныя ахвяраванні і па-ранейшаму заставалася беднай. Вывесці яе з такога стану не дапамог указ сінода 1798 г. аб продажы свечак на ўтрыманне цэркваў – гэта былі мізэрныя грошы.

Уніяты сталі аб'ектам пільнай увагі каталіцкага касцёла, які не жадаў страціць свой уплыў на іх і распачаў узмоцнены наступ з мэтай перацягвання на свой бок, скарыстаўшы нацыянальна-рэлігійны лібералізм Паўла I і Аляксандра I. Уніяты сталі аб'ектам канкурэнцыі праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла. "Праваслаўна-рускія, – пісаў у сувязі з гэтым гісторык П.Гаручка, – спрачаліся з лаціна-палякамі з-за цёмнага прыгоннага люду, каму кіраваць ім. Гістарычныя правы былі на баку рускіх, фактычная сіла належала лацінянам"[4].

У апошняй трэці XVIII ст. уплыў касцёла на уніятаў узмацніўся, масавы характар набыло іх перацягванне на лацінскі абрад. Богуш-Сестранцэвіч імкнуўся падпарадкаваць іх сваёй уладзе. У сувязі з гэтым 16 ліпеня 1774 г. Ватыкан пацвердзіў дэкрэт папы Урбана VIII аб забароне пераходу уніятаў у рымскі каталіцызм. Кацярына II абараняла уніятаў ад наступу касцёла, спадзеючыся, што яны, ізаляваныя ад польска-лацінскага ўплыву, самі вернуцца ў праваслаўе.

У сувязі з другім і трэцім падзеламі Рэчы Паспалітай адбыліся змены ў структуры уніяцкай царквы. Указам 1798 г. уніяты Беларускай губерні засталіся ў Полацкай епархіі на чале з архіепіскапам І.Лісоўскім. Літоўская і Менская губерні ўвайшлі ў склад створанай Берасцейскай епархіі, якую ўзначаліў Арсен Глаўнеўскі. Кіраўніцтва уніяцкімі справамі было даручана рымска-каталіцкай калегіі. Пазбаўленне уніятаў свайго самастойнага кіруючага органа і падпарадкаванне каталіцкай уладзе стала падставай для пераводаў іх на лацінскі абрад. У грамадстве гэтыя змены былі ўспрыняты як паварот курсу дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі ў бок зліцця уніятаў з каталіцтвам. Пад уплывам лаціна-польскай прапаганды і чутак пра тое, што унія будзе знішчана і застануцца толькі праваслаўе і каталіцызм, звыш 200 тыс. беларускіх уніятаў у канцы XVIII – пачатку XIX ст. перайшлі на

---

[1] *Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1795–1805. С. 59, 30.

[2] *Никольский Н.М.* История русской церкви. С. 289.

[3] *Толстой Д.А.* Иосиф, митрополит Литовский и воссоединение униатов с православной церковью в 1839 г. СПб., 1869. С. 9.

[4] *Горючко П.С.* Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1795–1805. С. 61.



11 Зак. 2567

лацінскі абрад. Дарэмна выдаваліся супраць гэтага ўказы. Уніяцкая іерархія прыкладала ўсе намаганні, каб вырataваць сваю царкву, за кошт якой узмацняліся "мацнейшыя" канфесіі, ад знішчэння.

І ўсё ж, нягледзячы на страты уніяцкай царквы пад наступам праваслаўя і каталіцтва і вынікі "ўз'яднанняў" 1780 г. і 1794–1795 гг., яна яшчэ ўяўляла сабой унушальную сілу і не была пасіўным, вымушаным стаць у абарону бокам. У той час калі Кацярына II выкараняла унію, полацкі архіепіскап І.Лісоўскі (1784–1809) выношваў смелую задуму аб распаўсюджванні сваёй веры на ўсю імперыю шляхам далучэння да яе рускай праваслаўнай царквы на ўмовах, у свой час распрацаваных прафесарамі Сарбонскай акадэміі і прапанаваных яшчэ Пятру І[1]. У пачатку XIX ст. уніяцкая царква мела 4 епархіі ў Беларусі і Украіне, 83 манастыры, 11,5 тыс. прыгонных сялян, 2 тыс. чалавек белага духавенства і больш за 1,5 млн паслядоўнікаў[2], якія за расійскай уладай яшчэ больш "умацаваліся" ў сваёй веры.

З часоў Рэфармацыі засталіся ў Беларусі нешматлікія прыхільнікі лютэранства і кальвінізму. Да першага належала ў асноўным латышскае і нямецкае насельніцтва – сяляне і мяшчане, да другога – польскае і беларускае, прадстаўленае ў асноўным шляхтай. Духоўнае кіраўніцтва імі здзяйсняў сінод у Біржах праз кансісторыі з дэпутатаў ад шляхты, духавенства і гарадскіх таварыстваў. Справаводства ў царкве вялося ў асноўным на польскай мове. У другой палове XVIII ст. узнікла ідэя аб'яднання – уніі – гэтых двух напрамкаў пратэстанцтва. Яна абмяркоўвалася на рэфармацкім сінодзе ў Вільні ў 1768 г., але падтрымкі не знайшла: надта шмат канфесійных, сацыяльных і нацыянальных адрозненняў існавала між прадстаўнікамі абодвух евангелічных абрадаў. Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 1768 г., гарантаваная Кацярынай II, дала пратэстанцкім дысідэнтам свабоду веравызнання і права арганізоўваць свае кансісторыі, праводзіць сінадальныя сходы, візітаваць прыходы. На яе падставе літоўска-беларускія пратэстанты склалі асобны царкоўны статут, вядомы як дысідэнцкае права. Але ўрад Рэчы Паспалітай не зацвердзіў яго. З боку царскіх улад пратэстантызм не сустракаў ніякіх рэлігійных забарон як нешматлікая канфесія, якая не ўплывала на грамадскае і палітычнае жыццё[3].

З другой паловы XVII ст. у Вялікім княстве Літоўскім з'явіліся старавеpы, або раскольнікі, – у асноўным рускія сяляне і пасадскія людзі, якія ўцяклі з Расіі ад пераследу. Яны падзяляліся на два варожыя напрамкі, якія ў залежнасці ад адносін да царкоўнай іерархіі – адмаўлялі або прызнавалі інстытут святароў і хрысціянскіх таінстваў (у тым ліку шлюбу) – называліся "папоўшчына" ці "беспапоўшчына". У раёне мястэчка Ветка старавеpы стварылі сваю калонію, якая налічвала ў 1722 г. 23 слабады з насельніцтвам да 40 тыс. чалавек. Стараверства, якое папаўнялася мясцовымі жыхарамі, распаўсюдзілася ў Віленскай, Ковенскай, Менскай, Магілёўскай, Віцебскай губернях. Прапаганда стараверства, што ішла з Веткі, турбавала кіраўніцтва рускай праваслаўнай царквы. У 1735 і 1764 гг. у Ветку былі пасланы карныя экспедыцыі. Адбыліся два "высяленні" старавераў – многія былі высланы ў Расію, а іх малельныя дамы і скіты разбураны[4]. З пераходам

---

[1] АВАК. Вильна, 1889. Т. 16. С. VI, 595–598; Белоруссия и Литва. Очерки истории Северо-Западного края. СПб., 1890. С. 330.

[2] *Киприянович Г.Я.* Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 г. С. V, 37.

[3] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.). С. 43–44, 47–48.

[4] *Гарбацкі А.А.* Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст. Брэст, 1999. С. 78–92.

зямель Вялікага княства Літоўскага да Расіі стараверы былі падпарадкаваны сіноду, далучаны да беларускіх праваслаўных епархій і на іх былі распаўсюджаны ўказы, што тычыліся стараевераў унутраных губерняў імперыі. Яны нярэдка былі супярэчлівымі. Калі ўказ 1778 г. забараняў раскольнікам мець цэрквы і праводзіць у іх службу, то ўказы 1788 і 1798 гг. дазвалялі гэта. У канцы XVIII ст. частка папоўцаў пайшла на пагадненне з праваслаўнай царквой – прызнала яе іерархію і дагматы, захаваўшы, аднак, сваю сімволіку (васьміканцовы крыж, двухперсцевае знаменне). Так узнікла аднаверства, якое аформілася ў 1800 г.[1]

**Нехрысціянскія канфесіі ў Беларусі.** Сярод яўрэйскага насельніцтва Беларусі былі распаўсюджаны як артадаксальны іудаізм, так і хасідызм (ад ст.-яўр. хасід – набожны, вучэнне, набожнасць), які асабліва падтрымлівала бяднейшая частка яўрэйскіх абшчын. Яўрэйскія абшчыны групаваліся вакол сваіх рабінаў, якія выконвалі абрады абразання, шлюбу, пахавання, давалі імя новананароджаным, вялі метрычныя кнігі. За выкананне абрадаў яны атрымлівалі ўзнагароджанне згодна з пагадненнем, заключаным з яўрэйскім малітоўным грамадствам, якое кіравала справамі сваёй сінагогі або малітоўнай школай і духоўнымі патрэбамі гараджан, выбірала духоўнае праўленне.

На чале артадаксальнага іудаізму стаяў знакаміты вучоны-талмудыст І.Віленскі (1720–1797), вядомы ў народзе пад імем Гаон, што ў перакладзе азначае "геній". Ён карыстаўся выключным аўтарытэтам у Беларусі і Літве. Гаон вучыў, што іудзеям патрэбна грунтоўна ведаць Біблію, у якой знаходзяцца іх карані. Неабходна адмовіцца ад традыцыйнай сістэмы школьнай адукацыі і ўвесці вывучэнне Бібліі, талмудысцкай пісьменнасці і яўрэйскай мовы, а таксама асвойваць медыцыну, астраномію, матэматыку, бо без іх немагчыма зразумець некаторыя пытанні ў Бібліі і Талмудзе. Уведзены ім метад аналізу тэкстаў пры вывучэнні Талмуда быў распаўсюджаны ў іешывах Літвы і Беларусі. Пасля смерці Гаона яго вучань Хаім Валожынскі заснаваў у Валожыне "вялікую іешыву", дзе практыкаваўся новы метад.

Сярод артадоксаў было нямала высокаадукаваных людзей. Шклоўскі талмудыст Б.Шкловер (Шык) вывучаў у Лондане і Берліне медыцыну і матэматыку. Вярнуўшыся на радзіму, ён надрукаваў на яўрэйскай мове "Элементы Эўкліда" (1780), падручнік па трыганаметрыі (1793), а таксама стварыў у Шклове хімічную лабараторыю.

Хасідскі прапаведнік (цадзік) быў духоўным кіраўніком абшчыны. Ён даваў веруючым практычныя парады, цікавіўся ўсімі бакамі іх жыцця. Людзі прыходзілі да яго па суботах і святах. У час сумесных трапез цадзік выкладаў сваё вучэнне. Адным з прадстаўнікоў хасідызму ў Беларусі быў рабін Шнеўр-Залман бен Барух (1747–1812). Ён надаў хасідызму больш рацыяналістычны характар, а хасідскаму вучэнню – элементы рабінізму.

Прыхільнікаў артадаксальнага іудаізму непакоіла распаўсюджанне хасідызму, у якім яны бачылі небяспечны для іудаізму раскол на секты. Яны пачалі барацьбу супраць сектанцтва. У 1772 г. віленскі рабінат абвясціў херэм (праклящце) Ільі Гаона хасідам. У Шклове і Магілёве адбыліся антыхасідскія з'езды рабінаў. Шнеўр-Залман быў завочна асуджаны. У некаторых гарадах адбыліся пагромы хасідскіх дамоў. У 1794 г. менскі кагал закрыў малельню хасідаў. Толькі ў прадмесці Пінска – Карліне ў іх існавала моцная групоўка, былі свае цадзікі і дзейнічалі сінагогі. Таму ў Беларусі

---

[1] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.). С. 48–50.



Сінагога ў Пінску. 1640 г.

хасідаў у той час называлі калінамі. У 1796 г. у Вільні адбылося пасяджэнне рабінаў і прадстаўнікоў кагалаў, якое заклікала на барацьбу з хасідамі.

У 1789 г. у Пецярбург прыйшоў данос віленскіх праціўнікаў хасідаў. У даносе рабін Шнеўр-Залман і яго прыхільнікі называліся палітычнымі злачынцамі, шкоднымі для дзяржавы. У выніку Шнеўр-Залман і сем хасідаў былі арыштаваны і адпраўлены ў лістападзе 1798 г. у Пецярбург. Многіх хасідаў заключылі ў мясцовыя турмы. Галава хасідаў прадстаў перад Тайнай экспедыцыяй. Павел I не знайшоў у паводзінах хасідаў нічога шкоднага для дзяржавы і загадаў вызваліць усіх зняволеных, але за імі быў устаноўлены нагляд паліцыі.

У XVIII ст. мелі месца спробы пераводу яўрэяў у каталіцтва, а з канца стагоддзя – у праваслаўе.

Яшчэ з часоў Сярэднявечча з Еўропы пераходзілі ў Рэч Паспалітую, а адтуль у Расійскую імперыю рытуальныя наветы – абвінавачванні яўрэяў у выкарыстанні хрысціянскай крыві. Відаць, менавіта яны выклікалі антысемітызм з боку хрысціянскага насельніцтва і часам былі падставай для яўрэйскіх пагромаў. У канцы XVIII – першай палове XIX ст. па тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў неаднаразова разглядаліся справы па так званых "рытуальных забойствах". Многія з гэтых працэсаў былі інспіраваны[1].

У другой палове XVIII ст. на тэрыторыі Гродзеншчыны, Віленшчыны, Меншчыны пражывала, паводле розных падлікаў, ад 21 да 50 татараў-мусульман. Беларуска-літоўскія татары вызнавалі іслам суніцкага напрамку (з араб. суна – звычай, сінонім тэрміна "хадзіс" – паданне пра Мухамеда). У XVII–XVIII стст. мусульманскія абшчыны Рэчы Паспалітай былі самастойнымі. Пры неабходнасці вырашэння спрэчных пытанняў у рэлігійных справах яны звярталіся да муфтыя Атаманскай імперыі (Турцыя) або Крыма. Некалькі разоў ставілася пытанне аб падпарадкаванні мусульман заходніх губерняў вышэйшаму канфесійнаму органу Расійскай імперыі. У 1794 г. Кацярына II абяцала, калі б гэта было зроблена, "не толькі пакінуць

[1] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.). С. 135–137, 141.

іх у свабодзе выконваць сваё богаслужэнне і пры ўсім тым, што ў Літве яны маюць, але і забяспечыць іх стан".

Функцыі мусульманскіх абшчын былі даволі простыя. Яны выконвалі рэлігійныя і грамадскія адправы. Сход прыхаджан выбіраў патранат мячэці з ліку найбольш паважаных вернікаў. Яны займаліся ўсімі справамі абшчыны, выбіралі мулу і мязіма (муэдзіна). У адрозненне ад хрысціянства ў ісламе няма пасрэднікаў паміж Богам і чалавекам. Адсутнічае і духавенства ў хрысціянскім разуменні, якое магло б адпусціць грахі вернікам ад імя Бога. У выніку мусульманін сам павінен адказваць за свае грахі. Мула выконваў рэлігійныя і судовыя функцыі ў сваім прыходзе.

У канцы XVIII ст. мусульманская канфесія мела ў беларуска-літоўскіх губернях сетку мячэцей. Вакол іх групаваліся татарскія абшчыны і фарміраваліся мусульманскія прыходы. У Лідскім павеце дзейнічала Некрашунская мячэць, у Ашмянскім – Даўбуцішская, у Наваградскім – Лоўчыцкая і Наваградская, у Гародзенскім – Багонінская і Крушнянская, у Берасцейскім – Студзянкоўская і інш. З канца XVI ст. існавала мячэць у Менску. Будаўніцтва і ўтрыманне мячэці было справай сходу прыхаджан. Мячэці будаваліся на землях (вакуфах), падараваных заможнымі гараджанамі, а грошы для будаўніцтва храма збіраліся з мусульманскіх сямей. На заходнія губерні быў распаўсюджаны ўказ ад 26 жніўня 1755 г., згодна з якім мусульманскі прыход павінен мець не менш чым 200 душ мужчынскага полу, толькі тады яму дазвалялася будаваць новую мячэць. Прыхаджане павінны былі мець дастаткова сродкаў на будаўніцтва храма, а таксама на ўтрыманне духавенства.

Татары зберaглі сваю рэлігію, але засвоілі польскую мову. Дзякуючы ісламу татарскі народ пазбег асіміляцыі ў асяроддзі хрысціянскага насельніцтва. Добрыя ўзаемаадносіны татарскага насельніцтва з іншымі народамі ў беларуска-літоўскіх губернях, чаму нямала спрыялі працавітасць і высокая маральнасць мусульман, вялі да добрых адносін і на канфесійным узроўні. У сувязі з тым, што мусульманская канфесія была нешматлікая, царскі ўрад не рабіў рэлігійных абмежаванняў[1].

Такім чынам, уціск на унію з боку каталіцкай і асабліва праваслаўнай канфесіі, які падтрымліваўся расійскім урадам напярэдадні, у ходзе і пасля падзелу Рэчы Паспалітай, не прывёў да поўнай страты яе ўплыву, хаця і паставіў праваслаўе ў разрад "дзяржаўнай" рэлігіі. Тым не менш у Беларусі працягвала існаваць шматканфесійнасць.

У цэлым жа культурнае жыццё Беларусі ў другой палове XVIII ст. характарызавалася ажыўленнем, звязаным з пранікненнем у Рэч Паспалітую ідэй Асветніцтва. Гэта выявілася ў пераглядзе і ўдасканаленні сістэмы адукацыі і новым усплеску рэфарматарскай дзейнасці, у тым ліку і ў галіне культуры, прычым народная культура, якая ў гэты час мела выразна беларускае аблічча, уздзейнічала на фарміраванне "высокай" культуры, што развівалася ў агульным "польскім" рэчышчы пануючага саслоўя Рэчы Паспалітай.

---

[1] Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.). С. 145–147.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Перыяд знаходжання ў Рэчы Паспалітай быў у гісторыі беларускіх зямель няпростым часам. У пачатку XVII ст. для гэтай дзяржавы і яе народа складвалася нядрэнная перспектыва. Эканоміка беларускіх зямель знаходзілася на ўздыме; ішло актыўнае засваенне фальварковай сістэмы, у цэлым было завершана фарміраванне сеткі гарадскіх пасяленняў. Актыўна развіваліся рамяство і гандаль.

К канцу папярэдняга, XVI ст., пануючаму саслоўю Вялікага княства Літоўскага ўдалося не толькі дабіцца аслаблення каралеўскай улады і ўмацавання ўласных палітычных пазіцый, але і захаваць для дзяржавы рэшткі самастойнасці і фактычна нейтралізаваць найбольш непрымальныя палажэнні Люблінскай уніі 1569 г. Гэта выявілася ў стварэнні ў 1581 г. асобнай вышэйшай судовай інстанцыі Вялікага Княства – Галоўнага трыбунала, у прыняцці ў 1588 г. III Статута, які разглядаў ВКЛ фактычна як самастойную дзяржаву са сваёй тэрыторыяй, войскам, фінансамі. Важным для захавання спрыяльных умоў фарміравання беларускага этнасу было тое, што за старабеларускай мовай пакідаўся статус афіцыйнай.

У той жа час аб'яднанне з Каронай Польскай дазволіла Вялікаму княству Літоўскаму істотна ўмацаваць свае пазіцыі на міжнароднай арэне, выйсці пераможцам у Лівонскай вайне і нават перайсці да наступальных дзеянняў. Кіраўніцтва краіны ў асобе караля і вялікага князя Жыгімонта Вазы выношвала грандыёзныя знешнепалітычныя планы, што выявілася ў прэтэнзіях не толькі на страчаны ў пачатку XVI ст. Смаленск, але таксама на маскоўскі прастол і шведскую спадчыну. Аднак пры гэтым эканамічныя і палітычныя інтарэсы дзяржавы, а таксама настроі шляхты Вялікага Княства ўлічваліся не заўсёды.

У сярэдзіне XVII ст. беларускія землі былі ўцягнуты ў сферу казацка-сялянскай вайны, якая перакінулася сюды з украінскіх зямель і з'явілася вынікам узрастання сацыяльных, нацыянальных і рэлігійных супярэчнасцей у Рэчы Паспалітай. Гэта вайна стала паваротным пунктам у гісторыі беларускіх зямель. Унутраны па сутнасці канфлікт выкарысталі суседзі Рэчы Паспалітай – Расійская дзяржава, Швецыя і Турцыя, бесперапынныя войны з якімі звялі каласальны знешнепалітычны патэнцыял краіны амаль да нуля. Знаходжанне на тэрыторыі дзяржавы замежных войскаў імкнуліся выкарыстаць для дасягнення сваіх палітычных мэт розныя магнацкія групоўкі, якія неаднаразова ставілі грамадства на мяжу грамадзянскай вайны. Пры гэтым імі рабіліся спробы аслабіць залежнасць Вялікага Княства ад каралеўскай улады і ўмацаваць яе самастойнасць пад сваім патранажам.

Палітычны сепаратызм асобных магнацкіх груповак суправаджаўся тым не менш усё большым збліжэннем пануючага саслоўя Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай у сацыяльнай і культурнай сферах. Імкненне беларускай і літоўскай шляхты да набыцця правоў, аналагічных тым, што існавалі ў Польшчы, а таксама яе культурная і моўная асіміляцыя прывялі да фарміравання ў межах Рэчы Паспалітай адзінага палітычнага «народа-шляхты». Ён з цягам часу ўсё больш адасабляўся ад народных мас Бела-

русі, якія пасля 1696 г., калі быў скасаваны афіцыйны статус беларускай мовы, зрабіліся галоўным носьбітам і захавальнікам нацыянальных традыцый. Народная культура, якая ўсё больш фалькларызавалася, існавала паралельна з «высокай» шляхецкай культурай. Апошняя вызначалася агульнаеўрапейскай барочнай стылістыкай і мясцовымі «сарматкімі» тэндэнцыямі, якія абумоўлівалі спецыфічныя рысы ментальнасці, культуры і побыту пануючага класа Рэчы Паспалітай.

Для беларускіх зямель найбольш трагічныя вынікі мелі вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1654 – 1667 гг. і Паўночная вайна 1704 – 1717 гг., калі тэрыторыя Беларусі з'яўлялася асноўнай арэнай баявых дзеянняў. У выніку знішчэння насельніцтва, яго захопу ў палон, голаду і эпідэмій колькасць жыхароў беларускіх гарадоў і вёсак катастрафічна скарацілася, а эканоміка была разбурана. Пагаршэнне становішча сялянства параджала сацыяльны пратэст, які выяўляўся ў розных формах, нават да ўзброенай барацьбы. У гэтых складаных умовах дзяржаўная ўлада і феадалы шукалі найбольш спрыяльныя шляхі па пераадоленню глыбокага эканамічнага крызісу, у тым ліку праз павышэнне зацікаўленасці сялянства і мяшчанства ў выніках сваёй працы, паслабленне падатковага ўціску, пошуку найбольш аптымальных спосабаў гаспадарання і інш. Значнай з'явай у гэтым напрамку стала рэформа Антонія Тызенгаўза ў каралеўскіх маёнтках.

Намаганні вярхоўнай улады Рэчы Паспалітай і асобных землеўладальнікаў разам са стваральнай самаадданай працай беларускага сялянства і мяшчанства пачалі ў другой палове XVIII ст. прыносіць адчувальныя вынікі. Эканамічны крызіс быў у асноўным пераадолены. Аднаўлялася гаспадарчая дзейнасць гарадоў. У эканоміцы беларускіх зямель з'явіліся рысы капіталістычнай вытворчасці. Развіваўся ўнутраны і знешні гандаль, прычым упершыню за доўгія дзесяцігоддзі ўдалося дасягнуць станоўчага гандлёвага балансу, г. зн. вываз прадукцыі за мяжу перавысіў увоз. Назіраліся станоўчыя зрухі ў сферы культуры і адукацыі. На беларускіх землях распаўсюджваліся ідэі Асветніцтва, квітнелі магнацкія культурныя цэнтры, распачынала сваю дзейнасць Адукацыйная камісія.

Аднак спроба правядзення дзяржаўных рэформаў сутыкнулася з моцным супраціўленнем прыхільнікаў «залатой шляхецкай вольнасці» і адначасова з нежаданнем суседзяў Рэчы Паспалітай дапусціць яе ўмацаванне. Прыхільнікі рэформаў не здолелі пераадолець вынікі згубнай практыкі выкарыстання шляхецкімі групоўкамі знешніх сіл для дасягнення сваіх карыслівых мэт. У выніку знешнія сілы ўжо самі сталі выкарыстоўваць гэтыя групоўкі ў правядзенні сваёй анексійнай палітыкі. У рэшце рэшт гэта абумовіла знікненне Рэчы Паспалітай з палітычнай карты Еўропы.

Падзелы Рэчы Паспалітай з'явіліся лагічным завяршэннем глыбокага палітычнага крызісу, у якім знаходзілася дзяржава з сярэдзіны XVII ст. Перадумовы гэтага крызісу былі закладзены яшчэ раней і выявіліся ў паступовым аслабленні ўлады манархаў. Апошнія па прычыне выбарнасці сваёй пасады мусілі ісці на наданне шляхце ўсё новых прывілеяў, пакуль яны не накапіліся ў колькасці, якая рабіла немагчымым паступальнае развіццё грамадства і ажыццяўленне любых намаганняў па ўдасканаленню палітычнай сістэмы дзяржавы. Найбольш яскрава гэта праявілася ў існаванні права «liberum veto», якое фактычна паралізоўвала заканадаўчую дзейнасць у дзяржаве.

У многім авантурная знешняя палітыка манархаў – прадстаўнікоў замежных дынастый Вазаў і Вецінаў, якія праз удзел Рэчы Паспалітай у ваенных канфліктах спадзяваліся ўмацаваць сваё становішча ў дзяржаве і за яе

межамі, уцягнула землі Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага ў паласу амаль бесперапынных войнаў, якія спусташалі краіну. Аслабленне Рэчы Паспалітай у выніку войнаў, яе залежнасць ад суседніх дзяржаў і іх апора на пэўныя колы мясцовай шляхты абумовілі тое, што працэс гібелі «дзяржавы двух народаў» стаў у другой палове XVIII ст. незваротным.

Для беларускіх зямель перыяд XVII – XVIII стст. быў звязаны не толькі з буйнымі ваеннымі канфліктамі, але і з імкненнем пануючых станаў да апалячвання насельніцтва. Калі ў XVII ст. гэты працэс не набыў адкрытых форм і быў звязаны галоўным чынам з разгортваннем контррэфармацыі і наступленнем каталіцызму на іншыя канфесіі, то пасля 1696 г., калі пастанова ўсеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай забараніла пісаць у Вялікім княстве Літоўскім дзяржаўныя дакументы на беларускай мове, паланізацыйная палітыка праводзілася кіраўніцтвам дзяржавы асабліва напорыста.

У асноўным з гэтага часу для беларускага этнасу пачаўся асабліва цяжкі шлях змагання за тое, каб захаваць дасягнутыя раней пазіцыі не толькі ў эканамічным развіцці, але і набытую спадчыну ў галіне культуры, ва ўсёй духоўнай сферы. Да таго ж гэтае змаганне працякала ў складаных умовах наступу на самыя этнічныя адметнасці беларусаў. Імкненне іх аслабіць, знівеліраваць і ў рэшце рэшт нават знішчыць характарызуе палітыку паланізацыі пануючых колаў Рэчы Паспалітай як асіміляцыйную.

Аднак пастаўленая мэта не была дасягнута нягледзячы на пэўныя, адмоўныя для беларусаў вынікі гэтай дзейнасці. Асновы беларускага этнасу былі захаваны. Разам з іншымі супольнасцямі, што пражывалі ў Беларусі, ён настойліва працягваў займацца стварэннем матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей. Працягвалі існаваць і ў некаторай ступені развівацца беларуская мова, літаратура, культура ў цэлым. Гэта з'явілася базай для фарміравання праз пэўны час беларускай нацыі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

*Абецедарский Л. С.* Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI – XVII в. Мн., 1978.

*Абецедарский Л. С.* Белорусы в Москве XVII в. Мн., 1957.

*Анішчанка Я. К.* Беларусь у часы Кацярыны II. Мн., 1998.

*Анішчанка Я. К.* Генеральнае межаванне на Беларусі. Мн., 1996.

*Анішчанка Я. К.* Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мн., 2003.

*Артамонов В. А.* Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709—1714). М., 1990.

Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993.

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985.

Барацьба магнацкіх груповак у Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVII ст. (1655–1668 гг.): Аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук. Мн., 2000.

*Бардах Ю.* Штудзіі з гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Мн., 2002.

*Барышев Г. И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992.

*Белы А.* Хроніка Белай Русі. Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. Мн., 2000.

*Блинова Т. Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.

*Габрусь Т. В.* Мураваныя храмы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001.

*Гарбацкі А. А.* Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVII – пачатку XX ст. Брэст, 1999.

Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1987. Т. 2.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т. 1.

Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 1: Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г. Мн., 1997

*Голубеў В. Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI – XVIII стст. Мн., 1992.

*Грицкевич А. П.* Социальная борьба горожан Белоруссии XVI – XVIII вв. Мн., 1979.

*Грицкевич А. П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI – XVIII вв. Мн., 1975.

*Грыгор'еў М.* Войска ВКЛ ад Сасаў да Касцюшкі. Мн., 1994.

*Доўнар-Запольскі М. В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

*Дадиомова О. В.* Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992.

*Думін С. У., Канапацкі І. Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

*Емельянчык У. П.* Паланез для касінераў. З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі. Мн., 1994.

*Жукович П. Н.* Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (до 1609 г.). СПб., 1901.

*Жукович П. Н.* Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (с 1609 г.): В 6 вып. СПб., 1903 – 1912.

*Забела Т.* Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII сталецьця // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы клясы гісторыі. Кн. 3. Т. 2. Мн., 1928. С. 118 – 144.

*Игнатенко А. П.* Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая пол. XVII – XVIII в.). Мн., 1974.

*Игнатенко А. П.* Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII – XVIII вв. Мн., 1963.

Іканапіс Беларусі XV – XVIII стагоддзяў. Мн., 1992.
*Карпачев А. М., Козловский П. Г.* Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII – XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1968. Л., 1972. С. 81 – 94.
*Кацар М. С.* Народна-прыкладное мастацтва Беларусі (Ад першабытнага грамадства да 1917 г.). Мн., 1972.
*Кернажыцкі К. І.* Гаспадарка староствау на Беларусі і эканамічны стан іх насельніцтва ў другой палове XVIII сталецьця // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы клясы гісторыі. Кн. 3. Т. 2. Мн., 1928. С. 1 – 94.
*Киприянович Г.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1899.
*Кітурка І. Ф.* Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця. Гродна, 2003.
Кніга Беларусі 1517 – 1917. Зводны каталог. Мн., 1986.
*Козловский П. Г.* Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в. Мн., 1982.
*Козловский П. Г.* Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII – XVIII в. Мн., 1969.
*Козловский П. Г.* Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974.
*Конан В.* От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978.
*Копысский З. Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1966.
*Копысский З. Ю.* Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978.
*Копысский З. Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975.
*Копысский З. Ю., Чепко В. В.* Историография БССР (эпоха феодализма): Учеб. пособие. Мн., 1986.
*Коялович М. О.* Литовская церковная уния: Исследования. СПб., 1859 – 1861. Т. 1 – 2.
*Лакотка А. І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999.
*Ластоўскі В.* Гісторыя Крыўскай кнігі. Коўна, 1926.
*Лойка П. А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI – XVIII ст. Мн., 1991.
*Лойка П. А.* Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. Мн., 2001.
*Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996.
*Лютый А. М.* Генезис капитализма в промышленности Белоруссии (вторая половина XVIII – первая половина XIX в.). Мн., 1991.
*Лютый А. М.* Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX века. Мн., 1987.
*Лявонава А. К.* Старажытнабеларуская скульптура. Мн., 1991.
*Макарий.* История русской церкви. СПб., 1881.
*Малчанава Л. А.* Матэрыяльная культура беларусаў. Мн., 1968.
*Мальдзіс А. І.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. Мн., 1982.
*Мальдзіс А. І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII – XVIII ст.). Мн., 1980.
*Мальцев А. Н.* Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974.
*Мараш Я. Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569 – 1795). Мн., 1971.
*Мараш Я. Н.* Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. Мн., 1969
*Мараш Я. Н.* Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974

*Марзалюк І.* Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X – XVII стст.). Магілёў, 2003.

*Марозава С. В.* Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596 – 1839). Гродна, 1996.

*Марозава С. В.* Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады). Гродна, 2001.

*Мартос А.* Беларусь в исторической и церковной жизни. Мн., 1990.

*Мелешко В. И.* Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII – XVIII в. Мн., 1982.

*Мелешко В. И.* Могилев в XVI – середине XVII в. Мн., 1988.

*Мелешко В. И.* Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII – XVIII в.). Мн., 1975.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. / М. П. Касцюк, У. Ф. Ісаенка, Г. В. Штыхаў і інш. Мн., 1994. Ч. 1.

Нарысы гісторыі філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі (да 1917). Мн., 1973.

*Нікалаеў М.* Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X – XVIII стагоддзях. Мн., 1993.

*Падокшин С. А.* Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.). Мн., 1970.

*Падокшын С. А.* Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998.

*Падокшын С. А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990.

*Похилевич Д. Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI – XVIII вв. Львов, 1957.

*Похилевич Д. Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

*Романовский Н. Т.* Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII – первая половина XIX в.). Мн., 1966.

*Саверчанка І.* Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998.

*Сагановіч Г. М.* Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI – XVII стст. Мн., 1994.

*Сагановіч Г. М.* Невядомая вайна: 1654 – 1667. Мн., 1995.

*Сокол С. Ф.* Политическая и правовая мысль Белоруссии во второй половине XVI – начале XVII в. Мн., 1984.

Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1990.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Тэкст. Даведнік. Каментарыі / Рэдкал.: І.П.Шамякін (гал. рэд.) і інш. Мн., 1989.

*Стрэнкоўскі С. П.* Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі ВКЛ: Вучэбны дапаможнік. Мн., 1997.

*Ткачев М. А.* Замки Белоруссии. Мн., 1987.

*Ткачоў М. А.* Замкі і людзі. Мн., 1991.

*Улащик Н. Н.* Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

*Флоря Б. Н.* Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI – начале XVII в. М., 1978.

*Цвірка К. А.* Беларуская фалькларыстыка (эпоха феадалізму). Мн., 1989.

*Церашчатава В. В.* Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI – XVIII стст. Мн., 1986.

*Чантурия В. А.* История архитектуры Белоруссии: В 2 т. Мн., 1985. Т.1.

*Чистович И.* Очерк истории западнорусской церкви. СПб., 1882. Ч. 1 – 2.

*Шчакаціхін М.* Нарысы гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1993.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1993 – 2003.

